* * *

Быў. Ёсць. Буду.
Таму, што заўжды, як праклятым,
Жыву бяздоннай трывогай,
Таму, што сэрца маё распята
За ўсе мільярды двухногіх.

За ўсіх, хто ўздымае цяжкія разоры,
Хто ў гарачым пекле мятаўся,
За ўсіх, хто змагаецца з небам і морам,
За жывых, і за тых, што сканалі.

За ўсіх, хто крывёю пішча
Ў нязгодзе
З рабствам подлай дарогай,
Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога.

За ўсіх, хто курчыцца ў полымі вёсак,
Хто ратуе краіну ад краху,

За ўсіх, хто бясстрашна глядзіць у нябёсы
З барыкады,
З турмы
І з плахі.
Хто са смерцю гаворыць з вока на вока,
З яе усмешкаю вятлай,
І ўсё ж узводзіць — няспынна далёкі —
Храм наш агульны і светлы

А калі ён горда заззяе ў зеніце —
Непарушны — ўзнясецца ў неба,
Вы з распятага сэрца кроплю вазьміце.
Апошнюю.
Болей не трэба.

І няхай ляжа збоку, недзе на ганку,
Дагарае й дзяцей не страціць
На граніцы любові,
На граніцы світанку,
На граніцы велічы вашай.

—



# «У векавечнай бацькаўшчыне клёны...»

Анатоль Верабей

## Радавод Уладзіміра Караткевіча

У лісце да свайго сябра, прафесара Ягелонскага універсітэта (Кракаў) Здзіслава Нядзелі, Уладзімір Караткевіч 4 ліпеня 1982 года пісаў: «Ты пытаеш, ці не мой сваяк Бенядзікт Караткевіч, які загінуў у 1878 годзе ў Балгарыі? Не ведаю, дарагі. Продкі, якіх я асабіста не ведаў, мяне ніколі спецыяльна не цікавілі. Магчыма, і сваяк. Справа ў тым, што Караткевічы — вельмі распаўсюджанае на Беларусі сярод шляхты прозвішча (і не сярод шляхты). Род герба «Корвін» вялікі, у 2-й палове мінулага стагоддзя моцна збяднелы (некаторыя галіны пасля паўстання 1863—64 гадоў), разгубіўшы адзін аднаго, вымушаны (дзякуй Богу!) жыць працай рук сваіх. Некаторыя і зямлю аралі. Некаторыя былі арандатарамі, упраўляючымі, ляснічымі, адвакатамі, дактарамі, а часцей за ўсё чыноўнікамі, якія служылі за жалаванне» (Полымя. 1993. № 3).

3 красавіка 1982 года (Полымя. 1989, № 2) У. Караткевіч распытаў матчыну сястру Яўгенію Васільеўну пра іхні род Грынкевічаў і занатаваў яе ўспаміны ў запісную кніжку (захоўваюцца ў 112-й папцы хатняга архіва пісьменніка), дзе адзначыў, што ўспамінала яна на 86-м годзе свайго жыцця.



У складзеным намі радаводзе У. Караткевіча выкарыстаны галоўным чынам матэрыялы гэтай запісной кніжкі; успаміны матчынай сястры Ніны Васільеўны, запісаныя яе дачкой Шарснёвай Ксеніяй Канстанцінаўнай у 1991 годзе; аўтабіяграфія пісьменніка «Дарога, якую прайшоў», напісаная ў 1964 годзе; успаміны старэйшай сястры пісьменніка Наталлі Сямёнаўны Кучкоўскай; звесткі, пададзеныя ў кнізе А. Мальдзіса «Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча»; творчая спадчына пісьменніка.

У аўтабіяграфіі «Дарога, якую прайшоў» У. Караткевіч адзначыў, што ён і ягоныя продкі — ураджэнцы беларускага Прыдняпроўя. А. Мальдзіс у вышэйназванай кнізе згадваў: «Караткевіч не раз падкрэсліваў, што яго бацька, Сымон Цімафеевіч, паходзіў са старадаўняга, але збяднелага шляхецкага роду, якому належаў засценак Караткевічы».

«Пра даўнасць Караткевічаў,— прадаўжае А. Мальдзіс,— сведчыць і выпіска з кнігі В. Манкевіча «Беласток і ваколіцы» (1986), нядаўна прысланая з Кракава сябрам пісьменніка Здзіславам Нядзеляй. «У перыяд шведскага патопу (восенню 1655 года),— гаворыцца там,— у Беластоку знаходзіліся літоўскія харугвы, падпарадкаваныя Радзівілам. Узнялі яны, аднак, бунт супраць шведаў, пасля чаго пад кіраўніцтвам Караткевіча далучыліся да войскаў, якімі камандаваў Павел Сапега». Відаць, таго ж Караткевіча, робіць заключэнне З. Нядзеля, згадваў у сваім дзённіку Багуслаў Радзівіл».

Цікавыя згадкі пра род Караткевічаў прыводзіць у сваёй дакументальнай аповесці «Адпяванне жывых» У. Ліпскі. На падставе знойдзеных архіўных матэрыялаў ён апісвае іх сямейны герб: «Чорны крумкач стаіць на сухім паваленым дрэве, у якога знізу і зверху — па два сукі, і трымае той крумкач у дзюбе залаты пярсцёнак. Поле — чырвонае, па баках — дзве зялёныя галіны, а ўверсе тры страусавыя пёры на шышане»[1].

Сапраўды, у адным з фондаў Нацыянальнага архіва Беларусі, дзе ёсць выява апісанага вышэй герба і матэрыялы пра род Караткевічаў герба «Корвін», паведамляецца, што гэты старадаўні шляхецкі род пачынаўся ў першым пакаленні з Данілы, які ў 1546 годзе стаў уладальнікам зямель у Раманаўшчыне і Лятаўшчыне Рэчыцкага павета, размешчаных пры Чачэрскім тракце[2]. Магчыма, Даніла быў далёкім продкам У. Караткевіча. Відаць, невыпадкова аднаго з галоўных персанажаў рамана «Каласы пад сярпом тваім», старога Загорскага-Вежу, пісьменнік назваў Данілам.

У «Гербоўніку польскім», складзеным і выдадзеным А. Банецкім (У. Караткевіч мог быць знаёмы з гэтым выданнем), пачынальнікамі шляхецкага роду Караткевічаў герба «Корвін» з Каротак у Мінскім ваяводстве названы Гаўрыла і Даніла Караткевічы. Яны «атрымалі за ваенныя заслугі ў 1546 г. ад Зыгмунта Аўгуста Раманаўшчыну і Лятаўшчыну ў Рэчыцкім павеце, і гэтыя маёнткі былі названыя Кароткамі»[3]. Там жа пададзены герб Караткевічаў (крумкач з пярсцёнкам у дзюбе стаіць на бервяне), прыведзены звесткі пра нашчадкаў Гаўрылы і Данілы. Гэта выданне і шматлікія архіўныя матэрыялы сведчаць, што ў розныя часы жылі тыя нашчадкі ў Рэчыцкім, Бабруйскім, Рагачоўскім, Полацкім,

[1] Ліпскі У. Адпяванне жывых. Мн., 1993. С. 94.
[2] НАРБ. Ф. 319, воп. 2, спр. 1468.
[3] Herbarz polski. Ułożył i wydał Adam Boniecki. Warszawa, 1907. T. XI. S. 163.

Браслаўскім паветах і ў іншых мясцінах. Нехта з роду Караткевічаў меў вядомасць, а нехта быў звычайным земляробам.

Па бацькоўскай лініі нам пакуль што вядомы толькі звесткі пра продкаў да дзеда і бабулі пісьменніка. Як успамінае Наталля Сямёнаўна, дзед Цімафей недзе на пачатку XX стагоддзя паехаў у Растоў шукаць лепшага жыцця і не вярнуўся. Больш ніхто пра яго нічога не чуў. У яго з бабуляй Наталляй Якаўлеўнай (1868, Орша — 1924, Орша) было трое дзяцей: бацька пісьменніка Сямён (15.2.1887, Орша — 21.9.1959, Орша), Вольга (1893, Орша — 1971, Масква), Леанід (памёр ва ўзросце 2—3 гадоў у Оршы). Бабуля працавала ў панскіх дамах. Жыла ў сям'і сына Сямёна. Мела цудоўны характар. Для нявесткі была як маці. У гонар яе Караткевічы назвалі сваю дачку Наталляй. Дзед і бабуля былі праваслаўнымі.

Бацька пісьменніка скончыў пачатковую школу, потым, відаць, гарадское вучылішча. Ягонае дзяцінства было цяжкім, даводзілася самому зарабляць грошы. Хлопчык меў добры голас і спяваў у царкоўным хоры. У яго быў прыгожы почырк, таму ў арміі ён служыў пісарам. Просты па паходжанні, Сямён быў унутрана інтэлігентным. Да службы ў войску, прыблізна з 1910 года ці крыху раней, працаваў у Рагачоўскім казначэйстве, дзе і пазнаёміўся са сваёю будучай жонкай.

Пра матчын род Грынкевічаў нам вядома больш. Напрыклад, прапрадзеда пісьменніка звалі Мікалай, прадзеда Юллян (? — 1896 ці 1897). Прабабуляй была Юдзеніч Ганна Мікалаеўна (? — 1908). Прадзед пісьменніка служыў святаром у Краснаполлі, Чачэрску. Ён, паводле ўспамінаў цёткі Жэні, хрысціў яе і неўзабаве памёр. Значыць, гэта здарылася ў 1896-м ці 1897 годзе. Прабабуля была вельмі прыгожая, высокая, ладная, мела доўгія косы. У Юлляна і Ганны нарадзілася адзінаццаць дзяцей. Сярод іх быў і Васіль — дзед пісьменніка.

У сям'і пісьменніка захавалася паданне пра аднаго з продкаў (сваяка з матчынага боку і яе радні), які ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года і які быў расстраляны ў Рагачове. А. Мальдзіс згадвае, што ў ягоным асобніку зборніка «Пра час і пра сябе», там, дзе ў тэксце ішла гаворка пра «сваяка з боку маці і яе радні», У. Караткевіч напісаў: «прадзед». Але зрабіў гэта толькі пасля таго, як у Вільнюсе, у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, Г. Кісялёў знайшоў і паказаў яму дакументы пра Тамаша Грыневіча, расстралянага як удзельніка паўстання ў Рагачове.



А. Мальдзіс піша, што да гэтага знайшоў у рукапісным аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве (рукапіс № 6540) «Нататкі паўстанца 1863 года ў Магілёўскай турме»[1]. У іх сярод іншых упаміналася прозвішча таго ж Тамаша Грыневіча, прыводзіўся яго верш «Песня прыгаво-

[1] Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 167—168.

ранага да смерці...», змяшчаўся верш невядомага аўтара, прысвечаны ўдаве Грыневіча. У. Караткевіч узрадаваўся гэтай знаходцы.

БелСЭ падае наступныя звесткі: «Грыневіч (Грынкевіч) Тамаш Міхайлавіч [1815 – 16(28).7.1863], удзельнік паўстання 1863 на Беларусі. Уладальнік маёнтка Верхняя Тошчыца ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1834—44 на ваен. службе. У крас. 1863 арганізаваў і ўзначаліў паўстанцкі атрад у Рагачоўскім павеце. Схоплены карнікамі і паводле прыгавору ваен. суда расстраляны ў Рагачове». Адзначым, што ў 1-й палове XIX стагоддзя нярэдка сустракалася варыянтнасць прозвішчаў, на што ў той час глядзелі вальней. Таму зусім магчыма, што згаданы Тамаш Грыневіч з'яўляецца родзічам У. Караткевіча.

У «Гербоўніку польскім» ёсць шмат звестак пра шляхецкія роды Грынкевічаў і Грыневічаў, прадстаўнікі якіх жылі ў Кіеўскім, Аршанскім, Ашмянскім, Мінскім, Троцкім паветах, на Браншчыне, у Брэсце і ў іншых мясцінах.

Нямала звестак зберагло ся пра дзеда пісьменніка Васіля Юллянавіча Грынкевіча. Нарадзіўся ён у 1861 годзе, калі адмянілі прыгон, у Краснаполлі. Быў асілкам, чалавекам магутнага целаскладу. Скончыў духоўнае вучылішча ў Гомелі, але ў семінарыю не пайшоў і ўвогуле адмовіўся быць святаром. Уладкаваўся ў Чачэрску лясным аб'ездчыкам у пана Круглікава. Пазнаёміўся з Ганнай Францаўнай Пашкевіч, часта стаў наведваць яе ў вёсцы Нісімкавічы, дзе яна настаўнічала. Бацька яе працаваў загадчыкам гаспадаркі турмы ў Рагачове. Прыгожая дзяўчына паставіла ўмову: калі Васіль пяройдзе на дзяржаўную службу, то яна выйдзе за яго замуж. Неўзабаве яны пераехалі ў Мсціслаў, дзе Грынкевіч працаваў пісарам у казначэйстве. Пазней жылі таксама ў Чэрыкаве, Оршы, Магілёве і Рагачове. Васіль даслужыўся да надворнага саветніка. Відаць, недзе ў 1922 годзе пайшоў на пенсію. Было ў іх з Ганнай чацвёра дзяцей: Сяргей (1891, Мсціслаў – не вярнуўся з Першай сусветнай вайны); Надзея – маці пісьменніка (25.7.1893, Мсціслаў – 16.12.1977, Мінск); Яўгенія (15.8.1896, Чэрыкаў – 28.2.1983, Мінск); Ніна (12.12.1904, Рагачоў – 20.4.1993, Горкі Магілёўскай вобл.). Бабуля Ганна памерла ў жніўні 1906 года, пахавана ў Рагачове на старых могілках. Праз паўгода дзед ажаніўся з Людмілай Антонаўнай Барысевіч (1873—1963 (?), Рагачоў). У аўтабіяграфіі У. Караткевіч заўважыў, што дзед быў атэістам. Калі ён жаніўся другі раз, поп адмовіўся яго вянчаць, бо ён ні разу не прычашчаўся і не спавядаўся ў царкве, што было абавязковым для дзяржаўнага служачага. Тады дзед абвянчаўся за пятнаццаць вёрст ад Рагачова.

Ад другога шлюбу ў дзеда быў сын Ігар (27.4.1908, Рагачоў – 20.12.1985, Рагачоў). У 1914 годзе дзед пабудаваў вялікі драўляны дом у Рагачове. Жыў ён там да вайны. Любіў вандраваць, часта наведваў дачок, якія з сем'ямі жылі ў Оршы і Полацку. Незадоўга да смерці дзед аслеп. У. Караткевіч у аўтабіяграфіі згадваў: «...я быў у яго чымсьці

накшталт сакратара: чытаў яму, а часам і пісаў за яго». У вайну дзед пераехаў у Карму Гомельскай вобласці да дачкі Ніны і там памёр 12 ліпеня 1945 года.

Дзед Васіль моцна ўплываў на будучага пісьменніка. Шмат пачутага ад дзеда ў дзяцінстве У. Караткевіч пазней выкарыстаў у сваёй творчасці. Да дзеда Васіля падобны 80-гадовы селянін Ян Рыгоравіч — галоўны герой ранняга апавядання У. Караткевіча «Дзядуля».

Маці пісьменніка, Надзея Васільеўна, у дзяцінстве засталася сіратой. Калі дзед працаваў у Магілёве, паступіла там у Марыінскую гімназію, якую скончыла ў 1911 годзе. Некаторы час працавала вясковай настаўніцай у вёсцы Збароў, каля Рагачова. Потым пазнаёмілася з Сямёнам Караткевічам. Шлюбнымі пярсцёнкамі абмяняліся ў 1915 годзе. Сямён служыў у войску. У. Караткевіч сцвярджае ў аўтабіяграфіі, што пажаніліся яны ў 1917 годзе і пераехалі ў Оршу. Там нарадзіліся ў іх Валерый (15.11.1918 — загінуў пад Масквой у канцы 1941), Наталля (20.11.1922 – 24.2.2003) і Уладзімір (26.11.1930 — 25.7.1984, Мінск). Усе дзеці нарадзіліся ў лістападзе. І яшчэ заўважым: дзень нараджэння маці і дзень смерці яе сына Уладзіміра супалі. Дзень нараджэння У. Караткевіча супаў і з днём смерці (26.11.1855) Адама Міцкевіча, пісьменніка, якога ён любіў і пра якога стварыў у сярэдзіне 50-х гадоў верш у прозе «Слова Міцкевічу».

Бацька пісьменніка працаваў інспектарам па бюджэце ў Аршанскім раённым фінансавым аддзеле. Маці пасля замужжа стала хатняй гаспадыняй (у Арэнбургу падчас эвакуацыі ў вайну працавала ў дзіцячым садку). Як згадвае Наталля Сямёнаўна, бацька быў стрыманым, памяркоўным, ураўнаважаным. Да дзяцей ставіўся строга: яны мелі ўсё, але нічога лішняга. Калі трэба было, сам шыў дзецям абутак. У хатняй бібліятэцы Караткевічаў пераважала руская класіка, а з беларускай літаратуры траплялiся адзінкавыя асобнікі, напрыклад, аповесць «Салавей» Зм. Бядулі. Шмат куплялі твораў дзіцячай літаратуры, кніг па гісторыі, прыродзе.

Для У. Караткевіча маці з'яўлялася эталонам жанчыны: добрая гаспадыня, цудоўная выхавацелька сваіх дзяцей, нястомная захавальніца сямейнага ачага. Яна ўмела шыць, вышываць, гатаваць смачныя стравы. Адзін са сваіх першых твораў, апавяданне «Багун-трава», У. Караткевіч прысвяціў сваёй маці. Галоўная гераіня апавядання Каваліха ў многім падобная да яе.

Глыбока метафарычнай і сімвалічнай з'яўляецца і назва яго першай кнігі — «Матчына душа», у якой сцвярджаецца любоў да роднай зямлі, выяўляецца сувязь з адраджэнцкімі традыцыямі (напрыклад, сугучнасць з назвай зборніка А. Гаруна «Матчын дар»). Эстэтычнае крэда пісьменніка раскрываецца ў арыгінальнай мастацкай форме: згадцы-звароце да кветкі, назва якой уключае слова, што вызначае блізкае і дарагое імя.

Маці заўсёды была для У. Караткевіча аўтарытэтам. Радавалася ягоным поспехам, мудра падыходзіла да ягоных жыццёвых нягод. Надзея Васільеўна ведала і любіла класічную музыку, літаратуру, а французскія тэксты ў рамане «Вайна і мір» Л. Талстога разумела без перакладу.

Андрэю Грынкевічу, галоўнаму герою рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі» («Нельга забыць»), вобразу аўтабіяграфічнаму, менавіта маці расказала ў дзяцінстве легенду пра подзвіг чэшскага вучонага Вацлава Ганкі, які абудзіў ад сну свой народ. Звяртаючыся да постаці гэтага дзеяча, У. Караткевіч увасабляў у сваёй творчасці адзін са сваіх галоўных ідэйна-эстэтычных прынцыпаў, сцвярджаў думку пра неабходнасць самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне, пра адраджэнне роднага народа.

Сваёй маці прысвяціў пісьменнік раман «Каласы пад сярпом тваім». Глыбока перажываў яе смерць у снежні 1977 года.

Добрыя адносіны былі ў Караткевіча з мужам бацькавай сястры Вольгі — Мікалаем Аляксандравічам Садавым (1893—1965), які нарадзіўся на Смаленшчыне. У 30-я гады працаваў загадчыкам аблана на Камчатцы. У 1938 годзе яго арыштавалі, а ў канцы 1939 года выпусцілі. Ваяваў, перад вайной і пасля яе настаўнічаў у Смаленскай вобласці. Недзе ў 1948 годзе пераехаў з сям'ёй у Оршу, дзе працаваў у метадычным кабінеце рана. У 1956 годзе разам з жонкай (па прафесіі медыцынскай сястрой) пераехаў да сына ў Маскву.

М. А. Садавы шмат чаго расказаў У. Караткевічу. Адмоўнае стаўленне пісьменніка да тыраніі і дэспатызму, што выявілася ў апавяданнях «Маленькая балерына», «Вялікі Шан Ян» і ў іншых творах, відаць, было абумоўлена таксама і ўздзеяннем М. А. Садавога.

Гэты разумны, адукаваны і цікавы чалавек істотна ўплываў на У. Караткевіча. У хатнім архіве пісьменніка захаваліся лісты, дзе ён шчыра і сардэчна расказваў дзядзьку пра ўласнае жыццё, дзяліўся самымі запаветнымі думкамі і марамі. Якраз М. А. Садавому паведаміў ён у лісце ад 8 снежня 1957 года пра свае задумы, пра імкненне напісаць сто тамоў.

М. А. Садавога і У. Караткевіча яднала глыбокая духоўная повязь. Дзядзька моцна любіў прыроду. Ён даваў чытаць У. Караткевічу кнігі пра Далёкі Усход, пад уплывам якіх, напэўна, і ўзнікла ў пісьменніка жаданне наведаць гэты край. У жніўні — верасні 1965 года У. Караткевічу давялося трапіць туды на вайсковыя зборы.

М. А. Садавому пісьменнік прысвяціў сваё апавяданне «Белае полымя».

Часта перакрыжоўваліся жыццёвыя дарогі Уладзіміра Караткевіча і малодшай матчынай сястры Яўгеніі Васільеўны. Яна закончыла прыватную гімназію ў Рагачове, настаўнічала на Магілёўшчыне. Яе муж, Уладзімір Іванавіч Усюкевіч (1896—1974, Мінск), родам з Наваградчыны, вайсковец.

Якраз дзякуючы цётцы Жэні, якая жыла з мужам на Далёкім Усходзе, змаглі сустрэцца падчас вайны Наталля і Уладзімір Караткевічы са сваімі бацькамі ў Арэнбургу.

Мужа цёткі Жэні неўзабаве прызначылі начальнікам штаба чыгуначных войск 2-га Украінскага фронту. У толькі што вызваленым Кіеве яму з жонкай далі двухпакаёвую кватэру, у якой Караткевіч жыў з маці і цёткай летнія месяцы 1944 года. Вось чаму не чужым быў гэты горад для Уладзіміра Караткевіча і тады, калі ён у 1949 годзе паступіў у Кіеўскі універсітэт.

У 1971 годзе Усюкевічы пераехалі жыць у Мінск. Дзяцей у іх не было, таму матэрыяльна дапамагалі сваякам.

Сумленна пражыла жыццё і малодшая матчына сястра — Ніна Васільеўна. Яна закончыла гімназію ў Рагачове (1923), працавала настаўніцай. Яе муж, Канстанцін Міхайлавіч Кадрэвіч (1901—1979), закончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут, потым пайшоў у войска. Ён валодаў апавядальніцкім майстэрствам, шмат чытаў. У 30-я гады быў беспадстаўна арыштаваны і некалькі гадоў сядзеў у турме. Пасля вайны Кадрэвічы жылі ў гарадскім пасёлку Акцябрскі, а потым пераехалі ў Горкі, да адной з да[illegible] Ксеніі.

А. мальдзіс у кнізе «Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» пісаў: «А яшчэ Уладзімір Караткевіч неяк сказаў, што ўсе з яго роду, з яго сям'і годна трымаліся ў 1937 годзе. Даносчыкаў сярод іх, на шчасце, не аказалася».

2 чэрвеня 1982 года У. Караткевіч напісаў ліст «Пану Старшыні ІІ спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па раззбраенні», дзе заклікаў спыніць забойствы, і расказаў пра тыя няшчасці, якія прынесла Другая сусветная вайна яму і ягонаму роду, успомніў старэйшага брата Валерыя.

Старэйшы брат пісьменніка ў 30-я гады закончыў сямігодку, потым курсы шафёраў (бо любіў тэхніку), працаваў на грузавіку. У. Караткевіч пазней згадваў, што ў Оршы, у ліпені 1938 года, брат паказаў яму Янку Купалу, дача якога была недалёка, у Ляўках. На пачатку 1939 года брат жаніўся. Жонку звалі Вольга. У верасні ў іх нарадзілася дачка Раіса. Неўзабаве Валерыя прызвалі ў войска, і ён трапіў на фінскую вайну. Служыў і далей. У верасні 1941 года на некалькі дзён заехаў у Маскву. Сустрэўся з сястрой Наталляй, якая неўзабаве пасля развітання атрымала ад яго ліст. Потым ад Валерыя звестак не было. Ён загінуў недзе ў кастрычніку 1941 года пад Масквой.



У вайну Вольга з дачкой Раісай жылі ў вёсцы Галошава Талачынскага раёна ў Ганны Сцяпанаўны Грынкевіч, стрыечнай сястры маці пісьменніка.

У лісце, адрасаваным у ААН, У. Караткевіч пісаў, што братаву жонку ў час акупацыі «схапілі толькі за тое, што яна несла па дарозе вядро

солі... Сказалі: гэта партызанам. І мучылі многа дзён так, што калі цётцы дазволілі спатканне, выявілася, што ў няшчаснай у ранах на спіне завяліся чэрві і каты «для дэзінфекцыі» пасыпалі ёй раны той самай соллю. Калі цётка на наступны дзень прынесла ёй чыстую кашулю — ёй сказалі, што Вольгу Караткевіч, дваццаці двух гадоў, вывезлі. Зразумела, куды яны яе "вывезлі"» (82-я папка хатняга архіва У. Караткевіча).

Пасля вайны пляменніцу Раісу гадавалі бацькі пісьменніка. Пазней яна атрымала ў спадчыну іхнюю хату, там і жыла з сям'ёй.

У новай бацькоўскай хаце прайшлі пасляваенныя школьныя гады У. Караткевіча. Сюды ён прыязджаў з Украіны, а потым і жыў тут у 1956—1958 гадах, калі працаваў у Оршы настаўнікам. У 1950 годзе тут напісаў першы варыянт аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». У вершы «Орша» казаў пра сваю моцную любоў да роднага горада. Тут вясной 1957 года закончыў п'есу «Млын на Сініх Вірах» і аповесць «У снягах драмае вясна», напісаў многія вершы, рыхтаваў сваю першую кнігу «Матчына душа» (1958). Сюды з Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве восенню 1959 года прыехаў на пахаванне бацькі. Пра гэту бяду Караткевіч напіша ў рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі» («Нельга забыць»).

Пісьменнік любіў роднае Прыдняпроўе. На гэтай зямлі ён напісаў многія свае творы. І некаторыя з іх прысвечаны роднай старонцы і яе людзям.

Заўсёды гасціннай і ўтульнай для У. Караткевіча і яго сяброў была дзедава хата ў Рагачове, дзе з пасляваеннага часу жыў з сям'ёй і настаўнічаў у школе дзядзька Ігар. Цяпер там жывуць яго сын Сяргей (нар. у 1952 годзе, названы ў гонар свайго дзядзькі, які не вярнуўся з Першай сусветнай вайны) з жонкай Тамарай і сынам Васілём (названы ў гонар свайго прадзеда). Сюды пісьменнік часта прыязджаў працаваць і адпачываць. У гэтай прасторнай хаце з высокай столлю яму быў адведзены вялікі пакой.

Многія творы У. Караткевіч стварыў у Рагачове. Так, сваю раннюю паэму «Зямля дзядоў» ён пачаў пісаць тут у 1950 годзе. У ёй паэт згадаў «руіны замка «каралевы Боны» і над Дняпром шырокім курганы», «Збароў, дзе некалі мая матуля вясковаю настаўніцай была», капліцу «над бабчынай магілаю старой», дзядзьку-рыбака, дом «пад разгатаю таполяй», дзе «расце на змену самы меншы брат», казаў пра сваю моцную любоў да роднай зямлі і яе народа.

Пасля заканчэння Кіеўскага універсітэта летам 1954 года У. Караткевіч зноў гасцяваў у дзядзькі. У вершы «Вагеньчык у яблынным садзе» пісаў, што «у старасвецкай хаце, у дзедаўскім родным гняздзе» было «добра так, як нідзе», бо «з гэтай няяркай зямліцы... наш корань у свет пайшоў».

Амаль месяц быў У. Караткевіч у Рагачове і летам 1959 года пасля таго, як адвучыўся першы год на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Рагачоўскі побыт стаў асновай для зместу дзевятага раздзела рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі» («Нельга забыць»).

7 жніўня 1959 года на Рагачоўшчыне ўзнік і пачатак рамана «Каласы пад сярпом тваім». Пісаць раман па-сапраўднаму таксама пачаў у Рагачове 27 красавіка 1962 года.

Падзеі аповесці «Сівая легенда» (1960) адбываюцца пераважна на Рагачоўшчыне. Галоўны герой «Легенды аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны» (1961) названы Андрэем Рогачам.

У ліпені — жніўні 1964 года ў Рагачове была напісана легенда «Ладдзя Роспачы» пра сярэдневяковага жыхара Рагачова Гервасія Выліваху. У. Караткевіч лічыў, што гэты твор — «найбольш удалая спроба даць абагульнены характар беларуса, якому і чорт не брат, якога і смерць не палохае, які больш за ўсё любіць Радзіму, жыццё і весялосць і ні пры якіх абставінах ні ўступіць у барацьбе за іх».

Пісьменнік часта ўцякаў ад гарадской мітусні і жыццёвых нягод у Рагачоў, каб адпачыць душою, добра папрацаваць, знайсці падтрымку і разуменне. Гэтым ён даражыў. У жніўні 1964 года гасцяваў у Рагачове балгарскі літаратуразнаўца Г. Вылчаў, пра што згадаў У. Караткевіч у сваёй жыццярадаснай паэме «Віно дажджоў», закончанай 5 жніўня 1964 года ў Рагачове. Заўважым, што якраз тады, у лісце да Янкі Брыля ад 25 жніўня 1964 года, У. Караткевіч пазначыў «Рагачоў (ад слова «рагатаць»)». У розныя часы У. Караткевіч наведаў Рагачоў таксама з Я. Брылём, Р. Барадуліным, іншымі сваімі сябрамі і знаёмымі.

Добрая атмасфера дзедаўскай хаты ў Рагачове спрыяла і таму, што зімой і вясной 1966 года пісьменнік завяршыў свой раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». 11 лістапада 1966 года тут была закончана і аповесць «Чазенія». Былі напісаны таксама іншыя творы.

Моцныя і цёплыя сувязі яднalі У. Караткевіча са старэйшай сястрой Наталляй. У вершы, напісаным 20 лістапада 1982 года да яе 60-годдзя, ён зычыў сястры і яе сям'і ўсяго самага найлепшага ў жыцці, называў яе сваёй дарагой нянькай, сваёй абаронцай у бядзе, марыў пра той час, калі яны абое некалі сядуць на прызбу і згадаюць пражытыя гады, успомняць Оршу, «тую, зялёную, бег крыніц ля Дняпра-ракі, і уральскія эшалоны, і ў цяплушках салдатаў палкі». У брата і сястры было шчаслівае даваеннае дзяцінства. Потым прыйшлі суровыя выпрабаванні ваеннага часу, а пасля — радасці і турботы мірнага жыцця.

У 1946 годзе сястра выйшла замуж і пераехала з Оршы ў Чэлябінск да мужа, вайскоўца-лётчыка. У Наталлі Сямёнаўны дзве дачкі — Надзея (названа ў гонар бабулі) і Алена. У іх ужо свае сем'і, дзеці. Зараз Алена з'яўляецца захавальніцай кватэры і архіва пісьменніка. Гэта Аленка, пля-

менніца У. Караткевіча, стала прататыпам гераіні апавядання «Як звяргаюцца ідалы», напісанага ў канцы 50-х гадоў. Твор мае аўтабіяграфічны характар. У ім згадваюцца і Аленчына мама, «прыгожая распаўнелая жанчына», якая прыехала на адпачынак да сваіх бацькоў, і бацька Аленкі, які застаўся ў іхнім горадзе, каб лётаць на «малётах» (самалётах.— *А. В.*), і дзед з бабуляй, «якія душы ў ёй не чуюць», і дзядзька-халасцяк, «які зашмат думае над светавымі праблемамі».

У. Караткевіч некалькі разоў наведваў сястру ў Чэлябінску. Напрыклад, у лютым — сакавіку 1963 года напісаў там «Руну пра Кастуся», адзін з ранніх варыянтаў п'есы «Кастусь Каліноўскі», працаваў над раманам «Каласы пад сярпом тваім». Пісаў У. Караткевіч гэты раман у Чэлябінску і падчас наступнага наведвання сваёй сястры — вясной 1964 года. У сакавіку — красавіку 1965 года тут закончыў першы варыянт сцэнарыя мастацкага фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і пачаў пісаць аднайменны раман.

Часцейшымі сталі сустрэчы брата і сястры пасля таго, як у 1971 годзе Наталля Сямёнаўна пераехала з сям'ёй на сталае жыхарства ў Мінск. Шчырай дарадчыцай і памочніцай была яна для пісьменніка ў апошнія гады ягонага жыцця, асабліва калі не стала жонкі У. Караткевіча.

Заўважым, што Алена, дачка Наталлі Сямёнаўны, нарадзілася 16 снежня 1957 года, а яе бабуля, маці пісьменніка, памерла праз дваццаць гадоў — 16 снежня 1977 года. Гэта муж Алены Васіль Сінькевіч у чэрвені 1984 года вазіў на машыне ў Рагачоў У. Караткевіча і Алену. Сінькевічы назвалі свайго малодшага сына ў гонар пісьменніка Валодзем (нар. у 1986 годзе).

Наталля Сямёнаўна шмат зрабіла для ўшанавання памяці У. Караткевіча і прапаганды яго творчасці.

2 лістапада 1967 года ў Брэсцкім педінстытуце адбылося абмеркаванне творчасці У. Караткевіча. Там пісьменнік пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Валянцінай Браніславаўнай Нікіцінай (паводле прозвішча яе першага мужа, дзявочае яе прозвішча Ватковіч). Яна нарадзілася 28 чэрвеня 1934 года ў Кіргізіі, дзе яе бацька, беларус з Ушаччыны, служыў у войску (загінуў на фронце ў 1941 годзе). У 1947 годзе маці з дачкой і сынам пераехала на Беларусь і пасялілася ў Радашковічах. Пасля заканчэння Радашковіцкай школы (беларускую мову там выкладаў Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі) Валянціна ў 1951—1956 гадах вучылася на гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Потым некаторы час працавала ў Ашмянскім краязнаўчым музеі, а ў 1957—1961 гадах — у Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. У 1961—1964 гадах займалася ў аспірантуры сектара археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР (з іх два апошнія гады праходзіла мэтавую аспірантуру ў Інстытуце археалогіі АН СССР). Кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную паморскай

культуры, абараніла ў 1965 годзе. У 1965—1969 гадах працавала на кафедры гісторыі КПСС Брэсцкага педінстытута. Летам 1969 года пераехала ў Мінск, працавала ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, жыла ў сям'і Караткевіча. 19 лютага 1971 года яны зарэгістравалі шлюб. Яна ўзяла ягонае прозвішча. Абмяняла сваю двухпакаёвую кватэру ў Брэсце на пакой у Мінску. Вясной 1973 года двухпакаёвую кватэру Караткевіча на вуліцы Веры Харужай і яе пакой абмянялі на трохпакаёўку на вуліцы Карла Маркса, дзе ў далейшым і жылі ўтраіх (разам з маці пісьменніка).

У. Караткевіч прысвяціў Валянціне Браніславаўне верш «Таўры» і раман «Чорны замак Альшанскі» (1979), які пачынаецца словамі: «В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю».

Валянціна Браніславаўна была высокакваліфікаваным гісторыкам. Слушна пісаў А. Мальдзіс: «Тое, што зрабіла Валянціна Браніславаўна Караткевіч для падрыхтоўкі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», для таго, каб ён ішоў «без купюр», можна смела назваць навуковым подзвігам, грамадзянскай мужнасцю. Яна бясконца ездзіла ў экспедыцыі, абараніла не адзін помнік архітэктуры, пісала сама артыкулы і брашуры і рэдагавала чужыя. Аўтарытэт яе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, дзе яна працавала, і ўвогуле ў навуковых колах быў высокі». У 1990 годзе Валянціна Караткевіч (пасмяротна) і іншыя аўтары за гэта выданне былі ўзнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР.

У складзе акадэмічных экспедыцый разам з жонкай У. Караткевіч даследаваў летам 1970, 1971 і 1972 гадоў некаторыя раёны Беларусі. Напісаў нават прадмову да тома, прысвечанага Брэсцкай вобласці. Аднак, як згадвае А. Ліс, «яе пазней змянілі і замянілі: паэт упарціўся ў пытаннях тэрміналогіі ці азначэння, нешта накшталт таго, у якіх выпадках пісаць «уз'яднанне», а ў якіх «далучэнне». Справа даўняя, аб падзеях-здарэннях XVIII стагоддзя»[1].

Трагічнымі сталі для Уладзіміра Караткевіча апошнія дні лютага 1983 года. 28 лютага памерлі Валянціна Браніславаўна і цётка Яўгенія Васільеўна. У лісце да З. Нядзелі ад 23 красавіка 1983 года пісьменнік згадваў, што ён тады «адчуваў сябе на мяжы нервовага надлому». Яму было невыносна цяжка думаць пра сваю адзіноту, бачыць пустыя сцены.

На пачатку чэрвеня паехаў у Оршу. Жыў у сям'і пляменніцы, у бацькоўскай хаце, залечваў нанесеныя жыццём раны. Вярнуўся ў Мінск на пачатку снежня. У лісце да З. Нядзелі ад 27 снежня 1983 года так згадваў праведзены ў Оршы час: «Прычым свядома адключыўся: забараніў перасылаць лісты, не слухаў радыё, не чытаў газет, а па тэлебачанні глядзеў толькі мультфільмы і дэтэктывы».

[1] Ліс А. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994. С. 406.

# радавод Уладзіміра Караткевіча



Бацькоўскае гняздо крыху суцішыла душэўны боль. На пачатку лютага 1984 года напісаў некалькі вершаў. Але ў канцы лютага моцна захварэў і каля месяца праляжаў у рэанімацыі. Вясной стаў адчуваць сябе лепей.

Уладзімір Караткевіч нібы прадчуваў смерць. У апошнія месяцы жыцця, развітваючыся, наведаў дарагія яму мясціны: Рагачоў, Кіеў, Вязынку, а потым адправіўся з сябрамі ў падарожжа па Прыпяці...

Пахаваны пісьменнік на Усходніх могілках у Мінску.

## Наталля Кучкоўская, Галіна Шаблінская

# Юдоль святла

Час нашага знаёмства з Наталляй Сямёнаўнай Кучкоўскай шчасліва супаў з хваляй нацыянальнага адраджэння. І сёння, праз шмат гадоў, я разумею, што гэта было невыпадкова. Яна — сястра пісьменніка, які ў сваёй спадчыне годна і з адданай любоўю ўславіў родную Беларусь — «Зямлю пад белымі крыламі». Ва ўступе да гэтай вядомай кнігі Караткевіча ёсць радкі: «Мы з вамі дзеці адной гісторыі, аднолькавай сучаснасці і агульнай будучыні. Нас яднае агульны лёс. Нават "у важлівых дробязях"».

Сапраўды, Караткевічава плынь у беларускай літаратуры настолькі адчувальная, а яго прысутнасць у нашым рэальным жыцці такая ж натуральная і духоўна існая, як, мусіць, і ў лёсе нацыі абагаўлёны пісьменнікам Кастусь Каліноўскі...

Помню, канец 80-х — пачатак 90-х гадоў падараваў прыхільнікам беларушчыны шмат новых цікавых выданняў. Прыемнаю неспадзяванкай сталася і першая аповесць Уладзіміра Караткевіча «У снягах драмае вясна», якая пралежала ў рукапісе больш за 30 гадоў. Наталля Сямёнаўна прывезла яе з Оршы разам з іншымі раннімі працамі брата, калі той быў ужо цяжка хворы (паперы заставаліся ў бацькоўскай хаце яшчэ з часоў маладосці аўтара). Аповесць выйшла асобнай кніжкай у 1989 годзе ў выдавецтве «Юнацтва», праз пяць гадоў пасля смерці пісьменніка...



Прачытаўшы твор, я патэлефанавала Наталлі Сямёнаўне, каб запрасіць яе да ўдзелу ў перадачы для старшакласнікаў «Крылы», якую вяла тады на Беларускім радыё. Меркавала сустрэцца з ёю ў студыі, а яна вельмі проста і прыязна, быццам мы даўнія і добрыя знаёмыя, прапанавала мне: «А вы, калі можна, лепш прыходзьце да нас. Тут і па-

гаворым». Вядома, можна. У такіх выпадках мяне і маіх калег заўсёды выручае «рэпарцёр». Бярэш кампактны магнітафон і накіроўваешся да свайго героя.

Той запіс для эфіру быў досыць кароткі, ды і сустрэча таксама не працяглая — роўна столькі, каб зрабіць справу. Мы сядзелі ў рабочым кабінеце Караткевіча, і я чамусьці пазірала на яго электронны гадзіннік, які дасюль стаіць на пісьмовым стале і міргае зялёнымі лічбамі, нібы нагадваючы пра імгненнасць нашага часу на гэтай зямлі. А насупраць — партрэт самога пісьменніка. Гэткі ж некалі ўбачыла на яго пахаванні, у жалобны ліпеньскі дзень ля Дома літаратара. Пры жыцці, на вялікі жаль, мне не выпала з ім сустрэцца... Я слухала расказ Наталлі Сямёнаўны пра тое, як маленькі Валодзя любіў маляваць чалавечкаў: «20—30, ну зусім малюпасенькіх, сантыметр-паўтара вышынёю, прычым ніводзін не падобны на другога»,— і мне цяжка было суаднесці сфарміраваны раней універсітэцкімі лекцыямі вобраз класіка з дасціпна-рухавым хлапчанём, пра якога ласкава і з лёгкім сумам успамінала цяпер яго старэйшая сястра. А перад вачыма — той самы гадзіннік, што няўмольна адмерваў час. З нейкім раздвоеным пачуццём развіталася я з гаспадыняй дома: кранулі яе цеплыня і зычлівасць, але абвострылася шкадаванне незваротнасці зямнога жыцця...

Мінула лета, прыйшоў лістапад. І Наталля Сямёнаўна запрасіла мяне ў Оршу, дзе звычайна штогод праходзіць літаратурнае свята Караткевіча, прымеркаванае да дня яго нараджэння. Так я патрапіла ў горад Караткевічавага дзяцінства:

З паркам сваім змарнелым,
З сваёй Кабыляцкай гарой,
З лянівай сястрой Аршыцай,
Што летам бруіцца памалу
Ў шырокі, як песня наша,
Магутны, сівы Дняпро...

Дняпро на зыходзе восені і на самой справе здаваўся сівым, а гарадскія вуліцы ўжо злёгку прыцерушыў першы снег. Аднак праз відавочныя абрысы сучаснай прамысловай Оршы ўяўленне вяртала мяне ў юначыя гады паэта. Гэтаму хораша спрыяла і вечарына «Быў. Ёсць. Буду», арганізаваная ў 3-й мясцовай школе, якая носіць імя У. Караткевіча і ў якой створаны мемарыяльны музей пісьменніка. Пра Уладзіміра Сямёнавіча з вялікай сімпатыяй успаміналі яго аднакласнікі: настаўніца матэматыкі Ніна Лазараўна Яскевіч і доктар медыцынскіх навук Якаў Міхайлавіч Хмялеўскі. Дырэктар музея Лілія Дзмітрыеўна Радомская прачытала тэлеграму ад Кацярыны Іванаўны Грыневіч. Яна ў першыя пасляваенныя гады выкладала Караткевічу рускую мову і літаратуру. Пра яе і той час колішні вучань згадваў у знакамітай «Дарозе, якую прайшоў

(з жыццяпісу)»: «Напісаў я тады, думаю, не менш за дзвесце вершаў, але нікому іх не паказваў. А потым прыйшла настаўніца, якую заўсёды памятаю дабром,— К. І. Грыневіч. І неяк так атрымалася, што ёй некаторыя вершы паказаў. Яны і прыгодніцкая аповесць «Загадка Неферціці» былі «надрукаваны» ў нашым «Званочку». І гэта была адзіная мая «публікацыя» за дзесяць год...»

А ў экспазіцыі музея (цяпер мае статус народнага) — шмат унікальных матэрыялаў і, вядома, сімвалічны сноп жытнёвых каласоў... А яшчэ — адухоўленыя, мілыя твары юных экскурсаводаў, якія з прытоеным хваляваннем расказваюць гасцям пра свайго славутага земляка-літаратара.

Бацькоўская хата пісьменніка на вуліцы Касманаўтаў, якая, дарэчы, у 1987 годзе атрымала імя У. Караткевіча, расповед Наталлі Сямёнаўны пра час маленства, бацькоў, даваенную Оршу, пляменніцу Раю — дачку іх старэйшага брата Валерыя, які не вярнуўся з вайны... Гэта была іншая стыхія жыцця Уладзіміра Караткевіча, і яна давала магчымасць больш глыбокага асэнсавання яго асобы і творчасці.

Пазней Наталля Сямёнаўна пазнаёміла мяне са студэнцкімі сябрамі пісьменніка: Фларыянам Няўважным — доктарам габілітаваным, прафесарам Варшаўскага універсітэта, Музай Яўгенаўнай Сняжко — галоўным бібліятэкарам Нацыянальнай парламенцкай бібліятэкі Украіны. Абое прыязджалі ў Мінск на 60-я ўгодкі пісьменніка. А я рыхтавала да гэтага юбілею цыкл перадач, у якіх удзельнічалі і яны, зноў адкрываючы для сябе новага Караткевіча — без хрэстаматыйнага глянцу, адданага ў сяброўстве, безабароннага ў сваім праўдалюбстве, адначас узнёслага і зямнога.

Помню, з якой ахвотаю і адразу пагадзіўся сказаць слова пра сябра да яго юбілею народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Запіс радыёпраграмы прайшоў на адным дыханні! Хвілінамі мне нават здавалася, што разам з намі ў студыі прысутнічае і сам Уладзімір Сямёнавіч, настолькі моцным было гэтае адчуванне праз успаміны Рыгора Іванавіча: «Валодзя ўваходзіў у кожную хату — як свята, як багатая Каляда, як Вялікадне. А наогул ён заўсёды ўяўляецца мне навальнічнай хмарай, якая, цяжарная вобразамі і залатымі ліўнямі, ападае на паперу: вершамі, апавяданнямі, аповесцямі. Гэта фігура будучыні. Караткевіч ніяк не ўпісваўся ў тую застольна-застойную атмасферу, у якой жыў. А таму і сум у яго — у алегарычнай форме. Ён не трыбун, але, у начной цішыні пішучы свае творы, заклікаў больш гучна, чым любыя прамоўцы. Ён крычаў душой...»

Быў яшчэ адзін досыць працяглы перыяд, калі мы з рэжысёрам Валянцінай Кернажыцкай абмяркоўвалі магчымасць радыёінсцэніроўкі першай аповесці Караткевіча. Потым запісы ў студыі, вяртанне ў студэнцкія гады пісьменніка: тэма ўзнёслага юнацкага кахання і нізкай чалавечай подласці падчас сталінскай эпохі ў Кіеве 50-х... Прататыпы

галоўных герояў — і сам аўтар, і яго аднакурснікі... Нарэшце — прэм'ера радыёспектакля ў дзвюх частках «У снягах драмае вясна», які, дарэчы, і зараз захоўваецца ў фондах Беларускага радыё.

І праз увесь гэты час — пастаянныя стасункі з сябрамі і прыхільнікамі творчасці Караткевіча, але найперш — з Наталляй Сямёнаўнай Кучкоўскай. Часцей па тэлефоне, а пры нагодзе — прыемныя і светлыя сустрэчы ў яе гасцінным доме, дзе шмат што нагадвае пра пісьменніка... Неяк неўпрыкмет паміж намі ўсталяваліся цёплыя прыязныя адносіны, зусім не падобныя на проста дзелавыя. Мне імпанавалі ў ёй і знешняе падабенства з братам, і глыбокая ўнутраная дабрыня, і сардэчная шчырасць, і неадʼемнае пачуццё гумару. Склалася адчуванне даўняга знаёмства. Аднойчы Наталля Сямёнаўна напаўжартам абвясціла: «Калі я ўрэшце збяруся пісаць успаміны пра Валодзю, дык толькі з табой».

Далей адбылося так, што пры ўсёй сваёй журналісцкай занятасці я незаўважна для сябе самой пачала зноў перачытваць, здавалася б, добра вядомыя творы пісьменніка. А па сутнасці — увесь ягоны Збор твораў. І не было ў тым ніякай зададзенасці. Усё складвалася вельмі арганічна, чыталася якраз тое, што адпавядала асабістаму настрою, агульным працэсам развіцця беларускага грамадства пачатку 90-х гадоў.

Новая незалежная Беларусь, адраджэнне якой ішло на нашых вачах, жыла ў спадчыне Караткевіча. Яго колішняя светлая мроя пра высакароднага, нацыянальна свядомага беларуса атрымала рэальны шанц пераўвасобіцца ў рэчаіснасць: «Іуда ўжо знік. Неапалімыя купіны дрэў стаялі на ўзгорках. Сумавала вакол капліцы шыпшына. А сейбіты падымаліся на вяршыню круглага пагорка, як на вяршыню зямнога шара. І першым ішоў насустрач нізкаму сонцу Хрыстос, мерна размахваючы рукамі. І, гатовае да новага жыцця, падала зерне ў цёплую, мяккую зямлю.

Выйшаў сейбіт на нівы свая».

Так заканчваецца вядомы раман пісьменніка «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Перачытвала яго дажджлівым ліпенем 1993 года, падчас адпачынку ў бацькоў у старажытным мястэчку Парычы на Гомельшчыне. Надараецца такое рэдкае супадзенне настрою і стану душы з радкамі мастацкага твора: калі дыхаеш адным паветрам з героямі і пражываеш дзіўнае жыццё, якое цяжка раздзяліць на рэчаіснасць і літаратуру, а тваё разуменне сённяшняга дня нечакана знаходзіць іншыя вытлумачэнні і асацыяцыі. І пачуваеш сябе далучанай да ўсяго існа-жывога на зямлі продкаў...

Тым ліўневым летам было шмат значных падзей, найвялікшай з якіх стаўся Першы зʼезд беларусаў свету. А ў Траецкім прадмесці, на беразе Свіслачы, амаль насупраць старога суцішанага Замчышча, скуль некалі пачынаўся Менск, з'явіўся помнік мастаку і філосафу Язэпу Драздовічу.

На яго адкрыццё мы хадзілі разам з Наталляй Сямёнаўнай. Малады скульптар Ігар Голубеў, чыя праца паўстала цяпер перад нашымі вачыма, з'яўляецца і аўтарам помніка Уладзіміру Караткевічу, які ў бронзе вярнуўся на радзіму — у Оршу і Прыдняпроўскі парк...

25 ліпеня — сумная дата памяці Караткевіча. Летам 1993-га яна супала са 100-годдзем яго маці — Надзеі Васільеўны. Ёсць жа нейкая наканаванасць лёсу: сын пайшоў з жыцця ў дзень нараджэння мамы, якую, па словах сястры, вельмі моцна любіў і шанаваў. І якой, дарэчы, прысвяціў свой лепшы раман — «Каласы пад сярпом тваім». Усё гэта сталася тэмай яшчэ аднаго выпуску радыёперадачы «Крылы», што прагучала крыху настальгічна... Нарэшце, у той спрыяльны для беларускасці год я запісала некалькі касет з развагамі пра жыццё і творчасць слыннага беларускага пісьменніка, дапоўненыя рэдкімі ўспамінамі ягонай сястры. Але спатрэбіўся час, каб першапачатковы накід фактаў-згадак ператварыўся ў твор, які цяпер прапануецца чытачу.

Аказалася не так і проста — «адолець» цэлае жыццё. Важным было захаваць стыль расповеду Наталлі Сямёнаўны, але праца вымагала ўласнага эмацыянальнага пражывання падзей, вяртання ў эпоху, хай сабе і не такую далёкую ад сённяшняга дня, але для мяне — ужо гісторыю. Часам нават здавалася: у рэальным жыцці я мала прысутнічаю, а больш там — у 30, 40, 50-х... Праўда, зноў жа — дзіўная рэч: усё адбывалася натуральна і нязмушана.

Самым прыемным у нашым супрацоўніцтве з Наталляй Сямёнаўнай было духоўнае ўзаемаразуменне. Сустракаліся мы часцей у выхадныя дні, а бывала, я заходзіла да суразмоўніцы на гадзінку-другую пасля працы. І Наталля Сямёнаўна іншым разам зусім нечакана ўспамінала яшчэ некаторыя цікавыя факты, новыя дэталі. Мы падарожнічалі па яе і братавым лёсах ці проста размаўлялі «пра жыццё». Большасць тых сустрэч былі, безумоўна, дзейсна-пазнавальныя, што неяк адначасова набліжалі і ўзвышалі постаць пісьменніка. Часам, слухаючы Наталлю Сямёнаўну, раптам заўважала, што яна ўсміхаецца гэтак жа міла і непасрэдна, як малады Караткевіч на фотаздымку ў яго кабінеце. Неяк расказвала пра апошнія дні Уладзіміра Сямёнавіча: «Я не думала, што ён не вытрымае. У яго ж былі гены маці, дзеда Васіля. А род Грынкевічаў у нас дужа моцны сваёй прыродаю...» І ў самой на вачах — слёзы, разгубленасць... У іншых сітуацыях адчувалася цвёрдасць характару, магчыма, падобная на братаву...

Атрымалася так, што даволі часта я прыходзіла да Наталлі Сямёнаўны ў маі—чэрвені 1995 года, калі апрацоўваліся самыя цяжкія эпізоды ўспамінаў: смерць маці Надзеі Васільеўны і жонкі Валянціны Браніславаўны, хвароба самога Уладзіміра Сямёнавіча, урэшце, тое незакончанае падарожжа па Прыпяці, што сцвердзіла, якім бязлітасным можа быць лёс... Божа мой, чаму геніі так рана пакідаюць зямлю?

Кожны раз я вярталася дамоў праз Цэнтральны сквер, паўз вядомы ў нашым горадзе фантан «Хлопчык з лебедзем», дзе ў апошні год свайго жыцця любіў пасядзець пісьменнік Караткевіч. Я спускалася ў метро на станцыі «Кастрычніцкая» альбо ішла пешшу па праспекце Скарыны да наступнага прыпынку «Плошча Перамогі». Любы Мінск усміхаўся мне пяшчотнай зелянінай дрэў, ахінаў ценем цёплага вечара, а душа пакутавала ад супярэчлівасцей і бязладдзя, у якім наканавана пражыць яшчэ, відаць, не аднаму пакаленню.

«Я адрабіў спаўна і па сваёй ахвоце сваю катаргу на зямлі. Я зрабіў нават болей таго, што мог. І не для сябе, а дзеля іх, дзеля гэтага акіяна, народа майго...»

Гэта не проста яго герой Антон Космін, гэта сам пісьменнік сказаў пра сябе... А мы дасюль не чуем гэты высокі голас, не можам, не жадаем разглядзець нашу «зямлю пад белымі крыламі». Забываем у рэшце рэшт, што «ўсе шляхі прыводзяць не да Рыма, а да родных вербаў і бяроз...».

Тое, што аднойчы прарасло духоўным зернем, ужо ніколі не сыдзе ў нябыт. Яно для нас сённяшніх — папярэджанне, перасцярога. Унутраны кліч, што нябачна вядзе за сабой...

Перад тым як сесці за канчатковы варыянт рукапісу, я перачытала ўсё, што змагла знайсці з напісанага пра Караткевіча. На маё здзіўленне, аказалася — не так і шмат. Вельмі ўразіла эсэ народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля «Наш Караткевіч». Старэйшы сябра расказаў пра свайго калегу па літаратуры з той пранізлівасцю і любоўю, якая глыбока лучыць натуры роднасныя і цэльныя, з непрыхаваным жалем пра яго цяжкі шлях і нашу агульную раннюю страту: «Беларусь даўно чакала такога пісьменніка. І радасна, што ён прыйшоў. І горка, балюча, што ён не змог, не паспеў разгарнуцца яшчэ больш глыбока і шчодра».

Калі ўсе мы ў гэтым свеце — у агульнай повязі з тым, што было, ёсць і будзе,— то і кожны дзень нашага жыцця нямарны. І кожная сустрэча — невыпадковая. І нават той самы час, калі, здаецца, прыпыняецца ці «прабуксоўвае» наш звыклы рытм задум і спраў,— ён таксама на карысць нам. Асоба Уладзіміра Караткевіча як пісьменніка і чалавека настолькі прыцягальная і высокая, што адкрыццё і спасціжэнне яго загадкі мусіць ісці штодня (я адчула гэта на сабе). Нават успамін пра самыя звычайныя, на першы погляд, жыццёвыя дробязі патрабуе асэнсавання, мае сімвалічнае значэнне. Богам пасланы нашай пакутнай Беларусі не ў лепшую для яе пару, ён узвысіў сваю Радзіму як самы адданы сын. І ўсё, што звязана з яго імем, для нас сёння важна і дарага. Каб не згубіліся ў манкурцтве, каб пачуваліся ў свеце годнай нацыяй...

## I. «У дняпроўскіх хвалях, бы ў калысцы...» (1930–1941)

Тут нарадзіліся думкі,
Воля, імкненні, жаданні,
Тут стаў я сынам краіны,
Абпален яе агнём...
Таму і люблю я Оршу
Першым вялікім каханнем...

Орша... Дваццатыя гады XX стагоддзя... Галоўная вуліца Ленінская цягнецца ўздоўж Дняпра праз увесь горад ад Кабыляцкай гары да пошты. Непадалёк Аршыца ўпадае ў Дняпро. На ўзвышшы — рэшткі брамы (цяпер яна адроджана і на ёй пазначаны год заснавання Оршы — 1067). Вуліца брукаваная каменем, гаманкая і шумная. Па ёй сяляне з навакольных вёсак вязуць на базар малако, смятану, яйкі, розную хатнюю жыўнасць. Гараджане выходзяць з двароў, спыняюць вазы і купляюць патрэбныя ім тавары. Па адзін бок вуліцы выкапана канава для сцёку вады. Летам яна звычайна перасыхае і зарастае шаўкавістай зялёнай травой, на якой любяць гуляць дзеці.

Менавіта тут, на вуліцы Ленінскай, Сямён і Надзея Караткевічы здымалі з 1917-га па 1939 год палову дома № 82, жывучы па суседству з палякамі Галькевічамі (увесь будынак належаў аршанскаму яўрэю Тылевічу). Уласны дом пабудавалі перад вайной на беразе Дняпра. Цяпер побач з тым месцам у гарадскім аршанскім парку стаіць помнік пісьменніку Уладзіміру Караткевічу...

А пазнаёміліся нашы бацькі ў Рагачове, дзе тата працаваў у казначэйстве разам з дзедам Васілём — сваім будучым цесцем. У дзеда і яго жонкі Ганны Францаўны было чацвёра дзяцей: сын Сяргей (1891), які не вярнуўся з імперыялістычнай вайны, і тры дачкі: Надзея — наша з Валодзем маці (25.07.1893 – 16.12.1977), Яўгенія (15.08.1896 – 28.02.1983), Ніна (12.12.1904 – 20.04.1993). Бабуля Ганна памерла ў 1906 годзе маладой, трыццацішасцігадовай, жанчынай. Дзед Васіль ажаніўся другі раз з Людмілай Антонаўнай Барысевіч, якую мы і ведалі як бабулю. У іх у 1908 годзе нарадзіўся сын Ігар (памёр у 1985 годзе). У 1914 годзе дзед Васіль пабудаваў у Рагачове свой дом, куды мы, дзеці, вельмі любілі ездзіць з Оршы. Нам падабаліся вялікая дзедава хата, зваблівы сад, шырокі Дняпро. А яшчэ, тут не было той тлумнай Ленінскай вуліцы, што звычайна шумела пад вокнамі і па якой, дарэчы, разам з сялянскімі вазамі потым пайшлі машыны на Асінторф. Таму перабягаць вуліцу даводзілася з асаблівай асцярогай. Маміны сёстры, Яўгенія і Ніна, былі замужам за вайскоўцамі і пастаяннага месцажыхарства не мелі.

Бабуля па бацькавай лініі Наталля (у памяць пра яе бацькі назвалі і мяне) нарадзіла траіх дзяцей, сярод якіх наш бацька Сямён (1887) —

старэйшы, малодшы Леанід, які памёр зусім маленькім, і дачка Вольга (1893). Дзед Цімафей на пачатку 900-х гадоў паехаў на заробкі, і больш пра яго ніхто нічога не чуў. Цётка Вольга і ўся яе сям'я заўсёды былі жаданымі гасцямі (і ў радасці, і ў горы) у нашай хаце, як і мы ў іхняй. Старэйшы іх сын Уладзімір загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны (у 1944-м), малодшы Аляксандр напрыканцы 40-х завербаваўся ў Маскву на будоўлю, куды. як толькі ўладкаваўся і атрымаў кватэру, забраў бацькоў да сябе.

Бабуля Наталля жыла ўвесь час у Оршы з нашай сям'ёй. Цудоўная, надзвычай пяшчотная і ласкавая жанчына, якая замяніла маёй маці родную. Як сапраўдная верніца, яна заўсёды наведвала храм, хаця бацькі нашы, трэба сказаць, у царкву не хадзілі. Калі падрос старэйшы брат Валерый (1918 год нараджэння), бабуля спрабавала браць яго з сабой. Але Валерый толькі даходзіў разам з ёю да царквы, не пераступаючы парога. Нават на пахаванні бабулі, пасля адпявання, ён, тады шасцігадовы хлопчык, адвярнуўся ад паднесенага для пацалунка крыжа. Бабуля Наталля памерла ў 1924 годзе, у 56-гадовым узросце. Больш падрабязных звестак пра бацькаву радню я не згадаю. Па ўспамінах таты — гэта былі бедныя, вельмі працавітыя і сумленныя людзі.

А я, колькі сябе памятаю, бачу дом Тылевіча на вуліцы Ленінскай, 82. Адна палавіна — наша, другая — суседзяў. У нас тры пакоі: вялікі і два меншыя. Адзін лічыўся спальняй бацькоў, другі належаў нам з братам Валерыем. Там стаялі два ложкі і невялічкі шавецкі столік. За ім бацька час ад часу нам рамантаваў, а маленькаму Валодзю потым і шыў абутак. Уся сям'я любіла збірацца менавіта ў гэтым пакойчыку. Маці часцей штосьці ці шыла, ці вышывала. Мы расказвалі бацькам пра школьныя падзеі ці новыя кнігі, з захапленнем згадвалі фільмы, глядзець якія тады выпадала рэдка.

У адзін з такіх вечароў (калі ў нашай сям'і яшчэ не было Валодзі) маці дрэнна пачувалася, што мяне дужа занепакоіла. Яна сядзіць вышывае, а я разумею, што з ёй штосьці не тое. Пытаюся, а яна: «Усё добра, кладзіся спаць». Я і заснула. Ранкам усхапілася — няма маці ў хаце. Няма бацькі. Так перапалохалася...

А тут прыходзіць бацька і кажа: «У цябе нарадзіўся брацік».

З гэтага ўсё і пачалося...

Валодзя нарадзіўся ў радзільным доме Оршы. Дарэчы, той будынак захаваўся, і ў ім цяпер — музей Уладзіміра Караткевіча.. На той час Валерыю было дванаццаць гадоў, а мне — восем. Напачатку я мала займалася Валодзем, а ўжо калі стаў падрастаць, каб дапамагчы маці, я няньчылася з ім больш. Асабліва летам усюды яго з сабой вадзіла. Мне з ім цікава было, хаця часам і надакучвала (сама ж яшчэ — дзіця).

Помню, хадзілі з ім на Дняпро. Па шчырасці, бацькі мне гэта строга забаранялі. Але як жа вытрываць, калі ўсе дзеці летам прападалі на рэчцы. І хіба не пойдзеш туды, асабліва ў спёку? Так што я на Дняпро ўсё роўна бегала і Валодзю з сабою брала. А ён такі хлопчык спакойны. Пасадзіш яго на беражку, дасі якія цацкі, каменьчыкі — ён і забаўляецца на пясочку. Бацькі нашымі паходамі на рэчку, вядома, былі вельмі незадаволеныя, але мы ўсё роўна ціхенька ўцякалі. Праўда, не кожны дзень мяне з Валодзем пакідалі. Маці дазваляла мне і са сваімі сябрамі пагуляць, і заняцца іншымі справамі.

Потым Валодзя пачаў хварэць. З аднаго, як кажуць, вылезе — у другое ўлезе. Пасля двух гадоў выявіліся праблемы з ныркамі, ледзьве выхадзілі. І пасля — то адзёр, то шкарлятына, то свінка — хвароба за хваробай. А гэта ж 1933 год — з прадуктамі так дрэнна. У магазінах нічога няма. Хлопчыку пасля хваробы нырак прызначалася строгая дыета. А мы жылі пераважна з хатняй гаспадаркі, большасць прадуктаў якой да дыетычных не залічыш. Але выручыла тое, што ў хаце мелася крыху сталовага срэбра і нейкія залатыя ўпрыгожанні маці. Усё гэта можна было прадаваць у магазіне «Торгсин» (торговля с иностранцами), які існаваў на той час у Оршы, дзе гандлявалі таварам за валюту. Менавіта тут мы і куплялі патрэбныя для Валодзі прадукты харчавання.

Хворы хлопчык амаль увесь час праводзіў у крэсле-качалцы. Мы яму зрабілі такое ўтульнае гняздзечка, і ён сядзеў. На падлакотнікі клалася дошка, дзе ляжалі папера, алоўкі (фарбаў тады ў нас не было). І Валодзя маляваў, разглядваў кніжкі, патроху вучыўся чытаць. На абед, вячэру, снеданне Валодзю перасаджвалі да стала на высокае крэсла. І якія б прысмакі ні стаялі на стале — Валодзя ніколі не браў тое, што яму забаранялася па дыеце. Усё разумеў, як дарослы чалавек...

Мы з ім шмат займаліся. Увесь час хтосьці быў побач, каб хлопчык не заставаўся сам-насам са сваёй хваробай. Пасля трох гадоў Валодзя пачаў чытаць. Але ўсё ж перш, чым з кнігай, ён пасябраваў з алоўкам. Расфарбоўваў кніжкі-размалёўкі, потым пачаў маляваць. Цікава, што гэта былі маленечкія чалавечкі, велічынёю паўтара-два сантыметры. Маляваў Валодзя іх вельмі хутка, чалавечкаў дваццаць адразу — і ніводзін з іх не падобны на другога, усе розныя.



Вельмі любіў ілюстраваць казкі, якія мы яму чыталі. Па-першае, ён іх добра запамінаў і да кожнай рабіў свой уласны малюнак. А па-другое, мог яшчэ і новую казку расказаць, прыдуманую ім самім.

А настольнай Валодзевай кнігай у тым малым узросце была «Жизнь животных» А. Брэма. І, на маю думку, яго дарослая цікавасць да жывёльнага свету якраз тады і абудзілася. Бо ён жа цудоўна ведаў «братоў нашых меншых». Хто і як спявае, камар ці камарыха кроў п'е — усё трымалася ў яго галаве. А што катоў і сабак любіў — не пераказаць!

Тут дарэчы будзе згадаць адзін выпадак. Валодзю споўнілася на той час гады тры ці тры з паловай. Дома засеклі пеўня і паклалі на парозе ў кухні. У такіх хатах раней адзін уваход лічыўся парадным, а другі вёў праз кухню ў двор і сад. Валодзя якраз ішоў з саду ў дом. А тут на парозе певень ляжыць. Хлопчык жа зусім маленькі яшчэ, нават «р» не мог вымаўляць. Спыніўся ён перад гэтым пеўнем і кажа: «Питусёк, дайце далёгу». А той «петушок» ляжыць сабе! Валодзя зноў: «Питусёк, дайце далёгу...» Пераступіць птушку ён не здагадаўся, бо і не думаў, што «питусёк» забіты. Разуменне гэтага для хлопчыка ўвогуле было б трагедыяй... Так ён і стаяў, і прасіўся, пакуль нарэшце маці не пачула, падышла да яго і дала яму тую дарогу...

Усе мы любілі святы. Яркім дзіцячым уражаннем застаўся Вялікдзень, які тады забараняўся. Тым не менш кожную вясну ў Чырвоную суботу ўся праваслаўная Орша пякла булкі і фарбавала яйкі. У хаце, насамрэч, лунаў дух чаравання. Валодзя, не адводзячы вачэй ад маці, сачыў, як яна завіхалася ля цеста, як у адвар з фарбамі і лушпіннем цыбулі апускала белыя яйкі, а даставала адтуль каляровы цуд. Гэты творчы перадвелікодны клопат, магчыма, разбудзіў Валодзеву фантазію, і ён потым сам пачаў размалёўваць яйкі: праколваў іголкай дзве дзіркі, выдзімаў бялок і жаўток, а пасля на шкарлупіне маляваў пейзаж. Часам форму яйка ён уяўляў галавой чалавека, вымалёўваючы розныя твары. Вельмі забаўна ў яго гэта атрымлівалася. Праўда, такімі яйкамі нельга было гуляць у біткі, але мы іх нанізвалі на ніткі і развешвалі ў пакоі прыгожымі гірляндамі. Напярэдадні Вялікадня, а таксама Калядаў, калі ў хаце ладзілася вялізнае мыццё бялізны, да нас прыходзіла адна памагатая. Звалі яе Паўлінай. У печы варылася мыла з попелу, бялізну мылі, складвалі ў кошыкі і неслі на Дняпро паласкаць. Бо ці нацягаешся столькі вады з калодзежа? Нават у марознае надвор'е прабівалі палонкі і апускалі ў іх бялізну.

Тая ж самая Паўліна прыходзіла да нас і восенню, калі ставілі на зіму капусту. Для нас, дзяцей, гэта было яшчэ адно свята. Прыціхлыя, мы слухалі задушэўныя размовы, лірычныя спевы дарослых. У Караткевіча ёсць верш пра тыя незабыўныя хвіліны «На пачатку дарог», які ўвайшоў у першы зборнік паэта «Матчына душа».

Надыходзіла лета 1934 года. Валодзя падужэў фізічна, і яго вырашылі адправіць у дзіцячы садок. Бацька быў перакананы, што дзіця павінна выхоўвацца ў калектыве. Тым больш што дагэтуль Валодзя з-за хваробы не меў сяброў-аднагодкаў. З раніцы па дарозе на працу Валодзю ў садок адводзіў бацька. А забіралі ці я, ці маці. Паколькі гэта было далекавата ад нашага дома, мне, дванаццацігадовай дзяўчынцы, даводзілася бегаць па яго часцей. Але ў тым садку на яго таксама ўсё сыпалася. Палезе на дзіцячую горку — ну не спрытны ён быў! — зваліцца. Зваліцца галавой, гузакоў наб'е — ляжыць у беспрытомнасці. Ці я прыйду вечарам, а ў яго

тэмпература пад сорак. Ён і на нагах не стаіць. Бяру яго на плечы, нясу. Хлопцы на вуліцы смяюцца, што такі вялікі, а сам не хоча ісці. Пасаджу Валодзю на траву ля канаўкі, а сама — да іх, высвятляць адносіны. Трэба прызнацца, дзяўчынка я была баявая. Як Валодзя хадзіў цяпер за мной, так і я ў свой час не адставала ад старэйшага брата Валерыя і яго сябра Зямы Аршанскага. Яны на плот — я на плот, яны на дрэва — я на дрэва, яны ў чужы сад — я за імі. Карацей, куды яны — туды і я. Так што пастаяць за сябе і свайго малодшага брата магла. Дарэчы, Валодзя гэта разумеў і памятаў усё жыццё. Пры выпадку абавязкова расказваў, якая ў яго сястра і як яна абараняла яго ў дзяцінстве. Хоць Валодзя і хадзіў у дзіцячы садок, ён больш любіў заставацца адзін. Гадзінамі мог сядзець ля прымуса, глядзець на агонь і ўслухоўвацца ў яго гудзенне. Аднак усё часцей браў у рукі кнігу. Ён не проста чытаў, а нешта абавязкова дадумваў, з нечым параўноўваў, штосьці пераносіў у рэальнае жыццё. Ён імгненна рэагаваў на розныя побытавыя сітуацыі. Скажам, я бягу (мне звычайна не было калі, бо заўсёды спяшалася), штурхнула яго, далей пабегла. Ён спакойна павярнуўся ўслед, выразна паглядзеў і кажа: «Куда ты несешься, тетя Лошадь?» Прычым з такой дабрынёй у голасе і ўсмешкай на вуснах, што міжволі адчуваеш сябе «тетей Лошадью».

Мне здаецца, ужо тады Валодзя пачаў задумвацца, як ствараюцца кніжкі. Гадоў у шэсць ён напісаў ліст Карнею Чукоўскаму, уражаны яго казкамі. Памятаю як цяпер: вялікімі друкаванымі літарамі. І на сваё пісьмо, шчаслівы, атрымаў адказ ад самога дзядулі Карнея. На жаль, у вайну ўсё згарэла. І, на вялікі жаль, я не памятаю, што адказаў тады маленькаму Валодзю знакаміты пісьменнік...

Кожны год у лістападзе ў нашай сям'і адзначалася агульнае свята для ўсіх траіх дзяцей — дзень нараджэння. Таму што і Валерый, і Валодзя, і я нарадзіліся ў апошні месяц восені. Дзень святкавання вызначаўся на сямейным савеце. Ва ўсім адчувалася ўрачыстасць і разам з ёй — кранальная хатняя цеплыня. Мы з братамі рыхтавалі мастацкую праграму, а маці — пачастункі. Гасцей запрашалі па завядзёнцы ў той жа дзень. Разам з нашымі сябрамі прыходзілі і дарослыя. Дзецям накрываўся асобны стол. Мы дэкламавалі вершы, спявалі, прыдумвалі розныя забаўкі, жартавалі. Свята захапляла нас, як чароўная вясёлая гульня, якой можна было бавіцца раз на год...

Бацькі нашы па натуры сваёй былі вельмі добрыя людзі і ставіліся да нас з дарослай павагай і пяшчотнай любоўю. Ніколі не павышалі голасу, заўсёды разумна ўспрымаючы нашы дзіцячыя жаданні. Менавіта разумна — каб мы не раслі разбэшчанымі, але каб і ўражанні пра дзяцінства засталіся прыемнымі. Мне здаецца, асяроддзе ў бацькоўскай хаце, дзе панавалі дабрыня, спакой, павага, станоўча адбілася і на нашым далейшым жыцці. Дарослыя ўмелі цаніць

і наш час. Яны хацелі, каб мы з братамі атрымалі як мага больш ведаў. Таму ў доме мелася хоць невялікая, але свая хатняя бібліятэка, большую частку якой складала руская класіка. З беларускіх кніг стаялі пераважна творы са школьнай праграмы, але ў бацькоў сустракалася і такая літаратура, трымаць якую на той час лічылася небяспечным. Яе хавалі ў скрыні на гарышчы. Гэта былі сентыментальныя раманы Л. Чарскай і К. Лукашэвіч. Толькі чаму іх забаранялі — мне дасюль незразумела. Мы з Валодзем, вядома, усё чыталі самі і неўпрыкмет давалі сваім сябрам. Да вайны ў Оршы працавалі дзве гарадскія бібліятэкі: дзіцячая і дарослая. Валодзя там браў вельмі шмат кніжак. Трэба сказаць, у тыя часы ўвогуле паслугамі бібліятэк карысталіся куды часцей, чым зараз. А ў нашай сям'і заўсёды шанавалі кнігу. Тая атмасфера дзяцінства, безумоўна, і пасля не раз узгадвалася Валодзем.

Калі з'явілася кіно, мы з Валодзем кожны выхадны хадзілі на дзіцячыя сеансы. Хоць каштаваў білет па тым часе не танна — 50 капеек. Часта ў Оршу прыязджалі артысты. У гарадскім садзе стаяў драўляны будынак тэатра, прыемны сваёй утульнасцю. Бацькі нам і на спектаклі грошай не шкадавалі. Бывала, што дзеці стараліся знайсці бясплатны пралаз, але шчасціла рэдка. Бо ля ўвахода заўсёды стаяла дужа каларытная жанчына-білецёрка, сапраўднае прозвішча якой ніхто не ведаў, але чамусьці ўся Орша называла яе Фаня Калчак. І прайсці паўз Фаню непрыкметным мала каму шанцавала...

Зрэдку ў наш горад прыязджаў яўрэйскі тэатр. Паколькі яўрэйская мова гучала на аршанскіх вуліцах штодня, мы без перакладчыка спакойна глядзелі ўвесь рэпертуар, які складаўся паводле вядомых твораў пісьменніка Шолам-Алейхема: «Блукаючыя зоркі», «Тэўе-малочнік», «Хлопчык Мотл» — і атрымоўвалі вялікую асалоду. Пад ураджаннем прафесійных тэатральных пастановак урэшце і самі пачалі ставіць спектаклі дома. Гэта быў наш «хатні тэатр». Прыдумвалі тэкст, майстравалі дэкарацыі, ладзілі сабе касцюмы. З матчынага куфра даставалі сукенкі, капялюшыкі, упрыгожанні. Помню, як усіх уражвалі тры мамiны веeры: адзін — са слановай косці, другі — шыкоўны, з пер'ямі, а трэці — з тонкіх драўляных пласцінак з японскай размалёўкай. Бацькі ўсур'ёз ставіліся да нашых тэатральных прыдумак і разам з суседзямі, якіх мы таксама абавязкова запрашалі «ў тэатр», уважліва глядзелі тыя дзіцячыя спектаклі, шчыра пляскалі ў ладкі. І гэта нас узнімала ва ўласных вачах.

Маці, якая сама скончыла магілёўскую Марыінскую гімназію, лічыла, што дачка павінна ведаць замежную мову і ўмець музіцыраваць. Мне купілі фартэпіяна, запрасілі настаўніка для заняткаў па нямецкай мове. Акрамя таго, я наведвала драматычны гурток, спартыўную школу (сек-

цыю гімнастыкі), выконвала розныя грамадскія даручэнні. І на ўсё не хапала часу. Даводзілася нечым ахвяраваць. Часцей гэта былі музычныя ўрокі. Але дзякуючы настойлівасці бацькоў і некаторым маім намаганням, музычную школу я ўсё ж закончыла, за што пасля, у сталым узросце, не раз добрым словам узгадвала маці.

Валодзя таксама пачынаў займацца музыкай, і хоць фізічна ён быў слабейшы за мяне, аднак характар праявіў мацнейшы. А можа, бацькі пашкадавалі яго, хваравітага, і не сталі змушаць. Адным словам, ён правучыўся які год ці два і кінуў. Затое пазней любіў казаць, што ў яго абсалютны слых спалучаўся з абсалютнай лянотай. Усё яго музіцыраванне зводзілася да таго, што іграла я, а ён спяваў. Праўда, без усялякай ахвоты, хоць у яго і добра атрымлівалася.

Бацька наш, дарэчы, меў прыгожы барытон, спяваў рамансы. У хаце былі розныя ноты, у тым ліку і дзіцячых песень. Я неяк выбрала адну з іх — з лёгкім акампанементам, пра піянерку-ўзбечку Мамлакат Нахангаву. Цікавая гісторыя гэтай песні. Дзяўчынка Мамлакат, можна сказаць, «зрабіла рэвалюцыю» ў зборы бавоўны, бо дадумалася збіраць яе дзвюма рукамі, а не адной. Мамлакат узнагародзілі ордэнам, атрымліваць які яна паехала ў Крэмль, да Сталіна. Пра яе тады і склалі песню:

В тюбетейке веселых цветов
По паркету кремлевских дворцов
Мамлакат-пионерка идет,
А кругом рукоплещет народ.
А кругом рукоплещет народ,
И над нею склоняется тот,
Кто ей снился высокой звездой,
Кто ведет весь народ за собой.

Песня такая бадзёранькая, яна лёгка гралася і спявалася. Але Валодзя яе цярпець не мог. А вось «Юрачку», «Буря мглою небо кроет» спяваў нават з ахвотаю.

Кожнае лета я ездзіла адпачываць у піянерскі лагер, а ў 1938 годзе мяне ўзялі піянерважатай. Выхавацелей тады не было. І атрымалася, што я, пятнаццацігадовая дзяўчынка, адказвала за 25 дванаццацігадовых піянераў. Праблем у мяне з імі не ўзнікала. Яны мяне слухаліся. А яшчэ лепш пайшлі справы, калі я прывезла Валодзю і пасяліла яго разам з хлопчыкамі. Штовечар пасля адбою ўсе клаліся спаць пад Валодзевы казкі. Ён іх ведаў шмат, але кожны раз расказваў роўна паўгадзіны, а далей святое — сон. Казкі, дарэчы, ніколі не паўтараліся. Я сама заходзіла, слухала. Там, канечне, шмат было сваіх прыдумак.

Ішоў час, мы падрасталі. Большы брат Валерый ужо рыхтаваўся да службы ў войску, я вучылася ў старэйшых класах. Валодзя яшчэ лічыўся малым, але голас свой падаваў. Яму, напрыклад, падабалася, калі ў мяне збіраліся сябры, и ён абавязкова ўдзельнічаў у нашых размовах.

Звычайна вясной і летам мы сваёй сяброўскай кампаніяй хадзілі ў лес, на Дняпро. У халодны час пажадана было мець дах над галавой. Такім дахам і служыла наша хата. Да таго ж мы жылі амаль у цэнтры горада, блізка ад школы. Ды і бацькі не пярэчылі, ветліва ўсіх сустракаючы. Валодзя наогул лічыў гэтыя сходкі сваімі і пачуваўся тут цалкам натуральна. Такія кампаніі, дарэчы, збіраліся не толькі ў нас, але і ў Зоі і Раі Рыжанковых, Хоні і Давіда Штэйнбергаў.

Неўпрыкмет прыйшла пара ісці Валодзю ў школу. У Оршы працавалі ў асноўным беларускія школы, адна — яўрэйская, а для дзяцей вайскоўцаў — руская. Мы з Валерыем вучыліся ў школе № 1, беларускай. Бацькі задумаліся, як быць з Валодзем. Першая школа знаходзілася на супрацьлеглым ад дома баку вуліцы Ленінскай, вельмі небяспечнай для пераходу дзіцяці. А Валодзя ж наш чытаў паўсюль, не зважаючы на акалічнасці. Як яго пусціш праз тую вуліцу? Так і атрымалася, што пайшоў Валодзя ў новую, толькі што адчыненую рускую школу.

Натуральна, быў ён падрыхтаваны да вучобы выдатна і па сваім развіцці прыкметна вылучаўся сярод аднакласнікаў: добра чытаў, лічыў, меў багатае асацыятыўнае ўяўленне. І пакуль дзеці на ўроку чыталі «Маша мыла раму», Валодзя мог маляваць ці рабіць штосьці іншае. Аднойчы ён намаляваў «Школу звяроў». А настаўніца ў гэтым малюнку чамусьці ўбачыла карыкатуру... на сябе і свае ўрокі. У вучня, адпаведна, узніклі непрыемнасці, у бацькоў — таксама, а сама настаўніца, на жаль, так нічога і не зразумела. Вонкава ўсё здавалася нармальным, аднак на працягу трох гадоў, пакуль Валодзя ў яе вучыўся, адчувалася нядобразычлівасць.

Выкладчыкі ў школе, дарэчы, былі розныя: адны з іх заканчвалі педагагічныя інстытуты, іншыя — двухгадовыя настаўніцкія курсы. У час майго вучнёўства, напрыклад, працавалі настаўнікі яшчэ з дарэвалюцыйнай адукацыяй, якія аднолькава ўпэўнена адчувалі сябе, выкладаючы і фізіку, і літаратуру, і матэматыку, і замежную мову: Валянціна Аляксандраўна Дашук, Соф'я Валяр'янаўна Феніна, Аляксей Пятровіч Калецкі. Помню, Аляксей Пятровіч нават вучыў нас танцаваць мазурку, рыхтаваў з намі сцэну балю ў Ларыных — у 1937 годзе якраз адзначалася 100-годдзе з дня смерці А. С. Пушкіна. Вельмі цікавы чалавек, выдатны выкладчык, ён імкнуўся даць нам самыя разнастайныя веды.

У 1939 годзе я закончыла школу і паступіла ў Маскоўскі хіміка-тэхналагічны інстытут. Той жа восенню нашы бацькі пераехалі ў свой дом на Набярэжнай ракі Дняпро. Якая прыгожая там мясціна! Высокі бераг, унізе рака, б'е крыніца. Сюды часта любіў прыходзіць Валодзя — і адзін, і з сябрамі. Тут яму добра думалася і марылася...

На зіму бацькі ўзялі да сябе дзеда Васіля, матчынага тату. Валодзя вельмі любіў яго. Дзед — чалавек з багатай светлай душою і моцны фізічна. Пра такіх людзей кажуць — сапраўдны беларускі волат.

Ён шмат расказваў Валодзю паданняў, казак. Пазней Караткевіч пісаў у лісце да Максіма Танка ад 27 мая 1956 года, што мова дзеда — «...каскад досціпаў, прыказак, яскравых, як вясёлка, жартаў... Менавіта ад яго я палюбіў прыроду, гісторыю (калісь ён рабіў раскопкі курганоў і шмат чаго цікавага распавядаў)... А якія ён распавядаў легенды... Пра Вужыную каралеву, пра Лебядзіны скіт, пра Звон, які патануў, пра Горад на дне возера і інш., інш.».

Ад свайго дзеда Валодзя пачуў і легенду «Маці ветру» пра Крычаўскае паўстанне 1743—1744 гадоў. Яна скарыстана ў п'есе «Маці ўрагану». Увогуле, мне здаецца, шмат дзедавых пераказаў увайшло ў Валодзеву творчасць.

Калі дзед жыў у нас, яму было пад восемдзесят і стары амаль страціў зрок. Таму Валодзя чытаў яму кнігі, газеты — стаў, па сутнасці, яго вачыма. На маю думку, менавіта дзед Васіль даў Валодзю першы ўрок натуральнай беларускасці. Бо маці наша па-беларуску не гаварыла, лічыла, што недастаткова ведае мову. Бацька часцей карыстаўся дыялектам. А сустрэчы з дзедам адкрывалі Валодзю глыбіню і мудрасць беларускай народнай душы.

Яшчэ ў тыя гады ён пачаў сур'ёзна цікавіцца гісторыяй. Я цяпер часта думаю, што падштурхнула яго, такога маленькага, зазірнуць у наша мінулае? І чаму я, нашмат за яго старэйшая, не задумвалася над гэтым? На жаль, маё пакаленне, нават тыя з нас, хто вучыўся ў беларускай школе, сапраўднай гісторыі Беларусі не ведалі і не здагадваліся, якія мы багатыя на культурную спадчыну...

Набліжаліся мае першыя студэнцкія канікулы. І вось у лютым 1940 года я зноў у Оршы. Новы бацькоўскі дом па-ранейшаму цёпла прымае ўсіх. На той час у нас жыла бацькава сястра з двума сынамі: Алікам і Валодзем (яе мужа, загадчыка Камчацкага крайана, рэпрэсіравалі ў 1938 годзе). Бацькі радаваліся мне і маім школьным сябрам — цяперашнім студэнтам, якія таксама адпачывалі на канікулах, зноў заходзілі да нас, і ў нашым гурце абавязкова круціўся Валодзя са сваёй непрадказальнасцю.



Аднойчы Яша Элькінд, якога мы між сабою звалі Пінем (адзін з герояў стужкі «Шукальнікі шчасця»), прыйшоў да нас вечарам з доўгім ліхтарыкам. Падобныя рэчы сталі з'яўляцца ў Оршы пасля далучэння да БССР Заходняй Беларусі. Ну а, вядома, усё новае і незнаёмае прывablівае дзіцячыя вочы. Валодзя як убачыў у Яшы той ліхтарык, у яго аж сэрца замлела! Ён так малітоўна склаў рукі на грудзях і ціхенька прашаптаў: «Пінечка, дай пасвяціць...» У пакоі грымнуў выбух дарослага рогату. Сам Валодзя трохі сумеўся, затое ліхтарык атрымаў — на зайздрасць сваім стрыечным братам Аліку і Валодзю.

А браты тыя — ну проста агонь! На месцы не сядзелі ніводнай хвіліны! Калі яны ехалі да нас з Далёкага Усходу, то цётцы Вользе хапіла з імі марцоўкі. Другая наша цётка — Жэня, якая сустракалася з імі па дарозе ля Хабараўска, параўноўвала потым хлопцаў за іх непаседлівасць з гайдараўскімі Чукам і Гекам. На прыдумкі яны, канечне, былі вельмі здатныя, а вось з рускай мовай не ладзілі. Валодзя, малодшы за іх, дапамагаў ім «адольваць» гэту навуку. Тым не менш яны не прапускалі выпадку, каб не пажартаваць з Валодзі.

У той час адбываліся вядомыя падзеі на возеры Хасан. І хлопцы празвалі Валодзю «Самураем». Ён дужа злаваўся і скардзіўся маці. Ну, а цётцы Вользе было непрыемна, што сыны крыўдзяць дзіця брата, у чыёй хаце яны жылі. За гэта хлопцам пападала, ад чаго тыя спачатку трохі прыціхлі, але потым узнік новы варыянт розыгрышу. У народзе хадзіла тады песня са словамі: «Самурай начистил брюки и пошел гулять от скуки». І толькі Валодзя з'яўляўся на вочы братоў, яны рабілі выгляд, што «чистят брюки». Валодзя, вядома, крычыць, маці бяжыць, цётка за ёю — не могуць зразумець, што здарылася... Вось так хлопцы і здзекаваліся з беднага брата. Аднак гэта не перашкаджала гарэзам вельмі любіць Валодзю. А з Аляксандрам (Алікам) яны потым сябравалі ўсё жыццё...

Вясной 1941 года Валодзя скончыў тры класы. А я працягвала вучыцца ў інстытуце. Хлопчык марыў летам патрапіць у Маскву. Праўда, адзін раз ён туды ўжо з'ездзіў гады ў чатыры, з маці, але што ён там помніў? А тут якраз у канцы мая ў Маскву ехала наша знаёмая, з якой бацькі і адправілі Валодзю да мяне. Хлопчык радаваўся пачатку школьных канікул.

Я з захапленнем паказвала Валодзю горад: і Гістарычны музей, і Чырвоную плошчу, і музей Рэвалюцыі, і Маўзалей, і музей Леніна, і помнікі гістарычным асобам, і метро, і шмат чаго іншага, што тады звычайна прапаноўвалі паглядзець усім гасцям сталіцы. Я б не сказала, што для Валодзі ўсё было навіною. Многае ён ужо ведаў з кніг. Але цікавіўся ўсім. У Маскве ў той час жыла наша цётка, матчына стрыечная сястра Марыя Сцяпанаўна Жыцянец, настаўніца. Яе мы таксама наведалі.

Валодзя застаўся вельмі задаволены тым маскоўскім падарожжам. Яго перапаўнялі ўражанні, якімі так хацелася хутчэй падзяліцца з бацькамі, з сябрамі. Мы ўжо збіраліся дамоў і нават мелі на руках білеты і ўяўлялі, як тата сустрэне нас на Аршанскім вакзале... Але ўсяму гэтаму не наканавана было спраўдзіцца.

Пачалася вайна...

## II. Бяда расцягнулася на гады (1941–1945)

На нашай любай і чыстай, на нашай сіняй зямлі
Зяберам і асотам зараслі пустыя палі...
А ноччу па ўсёй краіне пад ветру халоднага спеў
На горам засеяных нівах расце небывалы гнеў...

Той чэрвеньскі ранак 1941 года паставіў кропку на нашым ранейшым жыцці. Пачаўся новы адлік часу, хоць мы не адразу гэта зразумелі. Цяжка было паверыць, нават дапусціць такую думку, што бяда расцягнецца на гады...

Па першым часе мы з Валодзем яшчэ спадзяваліся на хуткае вяртанне ў Оршу і сустрэчу з бацькамі. Але фронт няўмольна набліжаўся да Масквы. Пачалі бамбіць горад, і стала відавочна: ні ў якую Оршу мы цяпер не патрапім. Што рабіць далей? Студэнтаў нашага інстытута адпраўлялі капаць акопы — і мяне ў тым ліку. Я хвалявалася: куды ўладкаваць Валодзю? Цётка Маня (наша маскоўская сваячка) збіралася эвакуіравацца з горада са сваёй школай і прапанавала мне аддаць брата ёй. Іншага выйсця не было, і ў канцы ліпеня Валодзя паехаў з маскоўскімі дзецьмі ў Разанскую вобласць, а адтуль — у Молатаўскую (Пермскую).

Я заставалася пакуль у Маскве. Чым далей — тым больш трывожна станавілася ў горадзе. Бамбёжкі, стрэлы, ноччу — варта на даху, днём — бамбасховішча. Пра бацькоў і братоў нічога не ведаю. Настрой адпаведны... І сярод гэтага ваеннага страху раптам радасная навіна: у Маскву з фронту прыехаў на грузавіку Валерый у камандзіроўку. Усе турботы і хваляванні на нейкі момант адышлі на другі план.

Трэба прызнаць, адносіны ў нас са старэйшым братам у дзяцінстве былі даволі стрыманыя. Крыўдзіць мяне ён, канечне, не дазваляў, але і ўсур'ёз не ўспрымаў. Называў чамусьці «Цыганкай», праўда, я на гэту мянушку спакойна рэагавала. І, дарэчы, ніколі яго не падводзіла, а ён гэта цаніў. З гадамі мы сталі б добрымі сябрамі — я пераканалася ў тым яшчэ больш за дні нашай апошняй (хто тады ведаў?) маскоўскай сустрэчы. Столькі было разумення, пяшчоты, даверлівасці, што запомнілася на ўсё жыццё. Сустрэча праляцела імгненна. Праз два дні мы развіталіся. Як потым аказалася — назаўсёды... Кастрычнік 1941 года лічыцца ў нашай сям'і часам гібелі Валерыя...

У тым жа месяцы, 16-га, я разам са сваім інстытутам эвакуіравалася з Масквы. Дарогу перанеслі цяжкую і доўгую. Толькі 7 лістапада дабраліся да Сяміпалацінска, а больш дакладна — да Жана-Семей (так называўся пасёлак на беразе Іртыша), у якім і размясціліся. Вечарам у будынку мясцовай школы працягваліся інстытуцкія заняткі, а днём працавалі — хто дзе мог уладкавацца. Так наша сям'я аказалася раскіданай па

розных краях. Трэба было неяк шукаць адно аднаго, наладжваць сувязі. На Далёкім Усходзе жыла сястра маці, цётка Жэня, жонка вайскоўца. Дзякуй Богу, да таго месца яшчэ не дапяла вайна, і кожны з нас мог паслаць сваякам ліст, паведаміць пра сябе і пачуць хоць якую вестачку пра іншых. Менавіта праз гэтую перапіску мы і знайшліся.

Я нарэшце даведалася пра лёс бацькоў. Аказваецца, маці эвакуіравалася з Оршы раней за бацьку. Перад вайной у нас жыў мой стрыечны брат Валодзя, сын бацькавай сястры з-пад Вязьмы, навучэнец рамеснага вучылішча. Так што яны разам з маёй маці выехалі эшалонам, які ішоў у Пензу. Па дарозе спыніліся ў Вязьме: маці хацела адвезці хлопца дадому ў сяло Высокае. Сама ж збіралася ехаць далей да Пензы, каб там чакаць бацьку. А бацька тым часам рыхтаваў да эвакуацыі архівы райфінаддзела, у якім працаваў. Выехаў з Оршы праз некалькі дзён пасля ад'езду маці, на машыне дабраўся да Смаленска і сеў на цягнік. Сышоў у Вязьме, каб заехаць да сястры і развітацца. Прыходзіць, адчыняе дзверы, а там — маці. Вось так, нечакана для сябе, і сустрэліся, каб надалей ужо быць разам. Татава сястра, цётка Вольга, працавала старшай медыцынскай сястрой у дзіцячым касцёватуберкулёзным санаторыі. Муж яе быў на фронце, а з ёю дома — двое сыноў. Якраз цётка і прапанавала ўсім разам эвакуіравацца з санаторыем, аднак справа адкладвалася на няпэўны час. Галоўным урачом у санаторыі працаваў тутэйшы немец, які пакуль марудзіў з канкрэтнай датай ад'езду. Улічваючы сітуацыю, бацькі вырашылі ехаць самастойна і праз нейкі час трапілі ў Нікітаўку Варонежскай вобласці. Але фронт падышоў і туды. Давялося зноў выпраўляцца ў дарогу. На валах дабраліся да станцыі Калач, дзе здалі гэты «транспарт», самі цудам уціснуўшыся ў чарговы цягнік. Ехалі, не ведаючы куды. Канчаліся грошы, ды і сіл на такое «падарожжа» заставалася ўсё менш і менш. На чарговым прыпынку ў Чкалаве (цяперашні Арэнбург) ім абвясцілі, што састаў прастаіць доўга. Бацька з тае нагоды вырашыў схадзіць у аблфінаддзел — раптам знойдзецца праца?! Там яго выслухалі, паглядзелі працоўную кніжку і... прапанавалі пасаду інспектара бюджэту ў Кіраўскім райфа горада Чкалава. А таксама — жыллё. Бацька вярнуўся на вакзал, забраў маці, і яны паехалі ўладкоўвацца. Маці прынялі на работу — выхавальніцай у дзіцячы садок. Адпаведна на Далёкі Усход да сваякоў пайшоў ліст з адрасам. Такія ж пісьмы цётка Жэня атрымала ад Валодзі з Кунгура і ад мяне з Сяміпалацінска. Звестак па-ранейшаму не было толькі ад Валерыя...

У нашым эвакуацыйным жыцці хапала цяжкасцей. Але яны не ўспрымаліся так абвострана ў параўнанні з агульнай бядой — вайной — і не засцілі вочы сваімі дробязямі. Матэрыяльна мне крыху дапамагала цётка Жэня. І, атрымаўшы ад яе ў чарговы раз грашовы перавод ды яшчэ прадаўшы сваю падушку (каб мець болей грошай на дарогу), я

вырашыла паехаць да бацькоў. Ліхі час лепш было перажыць разам. Нарэшце я — у Чкалаве, са сваімі роднымі людзьмі. Цяпер ужо ўтраіх думаем, як забраць Валодзю з Кунгура. І ўсё ж вырашэнне гэтага пытання прыйшлося адкласці да цёплых дзён. А пакуль бацька дапамог мне паступіць на курсы інспектараў дзяржаўных падаткаў, скончыўшы якія, пачала працаваць у райфінаддзеле.

Мы атрымоўвалі тры хлебныя карткі, аднак хлеба хранічна не хапала, не кажучы пра якую-небудзь вопратку. Але выручалі сваякі. Муж цёткі Жэні служыў начальнікам штаба чыгуначных войск Далёкага Усходу і таму меў магчымасць з цягніком перасылаць пасылкі, якія ў ваенны час пошта не прымала. Цётка Жэня рыхтавала звычайна вялікую скрыню, пакавала туды адзенне, абутак, кансервы, чай плітачны (аднойчы нават перадала для мяне гуллівы капялюшык). Адным словам, было што і самім апрануць і прадаць, каб выручыць нейкую капейчыну. Плітачны чай, між іншым, вельмі любілі казахі, давалі за пачак 800—1000 рублёў. Рэалізаваць яго лічылася маім клопатам, што я і рабіла досыць паспяхова. На спецыяльныя талоны мы атрымлівалі яшчэ і гарэлку, якую таксама прадавала я. Усе гэтыя дадатковыя даходы крыху мацавалі наш сямейны бюджэт, тым больш што мы рыхтаваліся да паездкі па Валодзю.

І вось нарэшце жнівень 1943 года. Дома вырашылі, што паеду я. Па тым ваенным часе без спецыяльнага пропуска не выпускалі і на 50 кіламетраў ад горада. А тут — такі далёкі шлях! Адпаведна забяспечаная спецыяльнай паперай і задаволеная даверам бацькоў, я адправілася. Дарога на самай справе аказалася няпростай, але вельмі цікавай. Праўда, Валодзя не ішоў з галавы. З перасадкай у Свярдлоўску даехала да Кунгура. Адтуль прыйшлося дабірацца пешшу. Мясцовыя жыхары параілі выйсці на гасцінец і чакаць спадарожную машыну. Але якая там машына? Нават ніводнага чалавека не сустрэла. Добра, што з раніцы прыехала — дык смялей было ісці па незнаёмай мясцовасці. Хаця сумкі цягнулі рукі. Дайшла да першай вёскі, пытаюся ў мясцовых жыхароў: «Ці далёка да Ленска?» Мне кажуць: «Недалёка, кіламетраў дзесяць». Іду далей. А там вёскі — гэта не ў Беларусі, што блізка адна ля адной. Там адлегласць значна большая. Дайшла да наступнай, зноў пытаюся: «Ці далёка да Ленска?» Мне зноў кажуць: «Недалёка, кіламетраў дзесяць». Зноў іду. І не страшна адной, і жаху ніякага. Усё думаю пра сустрэчу з Валодзем. Нарэшце, кіламетраў праз трыццаць, угледзела я той інтэрнат, куды дасталася з такой далечыні. Толькі тады я зразумела, які няблізкі шлях адолела і як прыстала.

Сустрэлі мяне прыязна. Распытвалі пра ўсё і асабліва дзівіліся, як адважылася я адна на такое падарожжа? А мне ж карціць даведацца, дзе брат? Адказваюць, што дзеці на рэчцы, зараз вернуцца. А мяне ніякае цярпенне не бярэ. Хоць і стомленая, але чакаць не магу. Сама пайшла

на тую рэчку. Гляджу: мама родная! Сігаюць хлопцы з моста ў ваду! А я свайго нідзе не бачу. Вядома, мост той не такі, як у нас праз Дняпро ці нават праз Аршыцу, аднак жа — вышыня ўсё роўна! Сэрца маё здрыганулася: «Божа, няўжо Валодзя таксама?» Ага, і Валодзя... Я ўжо ўгледзела яго сярод астатніх. І ён мяне ўбачыў, падбег. Расплакаліся, пацалаваліся. Праз нейкі час я чамусьці прыкмячаю Валодзевы штаны: дзіўнай даўжыні і незразумелага колеру, саматканыя нейкія, ці што? Яны крыху матляліся на ім, а ён, не зважаючы ні на што, адчуваў сябе абсалютна камфортна. Стала раптам ніякавата: згадала, як чысцютка і прыгожа быў апрануты Валодзя падчас прыезду да мяне ў Маскву перад самай вайной...

Але што тут паробіш! Справілася я неяк з гэтай сваёй сястрынскай слабасцю, не падала выгляду. Шчаслівыя, што нарэшце разам, мы вярнуліся з рэчкі ў інтэрнат, павячэралі і сталі думаць пра зваротную дарогу. Пайшлі да дырэктара інтэрната параіцца. І тут высветлілася, што Валодзю таксама патрэбны пропуск, на афармленне якога пойдзе шмат часу. А мне на паездку далі толькі дзесяць дзён. І мы прымаем рашэнне ехаць з адным маім пропускам на дваіх. Праз дзень да Кунгура ішоў абоз са збожжам. Дырэктар інтэрната дамовілася, каб падвезлі нашы рэчы. А самі мы — побач, пешшу, тае бяды! А вось сумкі цяжкія. Акрамя Валодзевага адзення, там ляжала яшчэ чатыры боханы хлеба, кіло па два кожны — імі пачаставалі нас у інтэрнаце. Так і адправіліся, падзякаваўшы і развітаўшыся. Праўда, Валодзю як меншага адразу пасадзілі на воз. Потым на ім знайшлося месца і мне.

Гадзіны ў тры мы прыбылі на чыгуначную станцыю Кунгур. Але аказалася, цягнік наш адправіўся літаральна некалькі хвілін назад! Наступны будзе толькі праз двое сутак. Так пачаліся нашы з Валодзем дарожныя прыгоды...

Пакінула я яго з рэчамі, а сама пайшла ў «разведку». Бачу, стаіць вайсковы састаў.

Пытаюся ў лейтэнанта:

— Вы куды?

— На Свярдлоўск.

— Ці возьмеце мяне з хлопчыкам?

— Возьмем, сядайце.

Селі мы. Эшалон пайшоў. Валодзя хутка заснуў. Сцямнела. Тут мяне пачалі непакоіць думкі, што я нарабіла? Куды я села? А ехаць усю ноч! Вачэй заплюшчыць не магу, думаць не перастаю. Салдаты хто спіць, хто ходзіць, і справы ім да мяне ніякай няма. А ў мяне сэрца замірае. Нарэшце пачало развідняць. Тады хоць трохі ачуняла. У вагоне ўсе прачнуліся, размовы пайшлі. А неўзабаве — Свярдлоўск. Спрабавала вайскоўцам у падзяку хлеба бохан даць альбо грошы, нічога ад нас з Валодзем не ўзялі. Так што мы з братам бясплатна пракаціліся...

Са Свярдлоўска цягнік на Чкалаў ішоў у шаснаццаць гадзін: мелі мы яшчэ чатыры гадзіны часу, каб купіць білеты. Але ў касе іх не было. Наступны цягнік — аж праз дзень. І яшчэ невядома, ці сядзеш на яго. Я зразумела, што трэба дзейнічаць неадкладна, само сабою нічога не зробіцца. Пайшла да дзяжурнага па вакзале. Сядзіць такі сталы дзядзечка. Я ўсё яму растлумачыла. Што і на працу спазняюся, што і меншага брата вязу з інтэрната — з самага пачатку вайны не бачыліся, што і бацькі, эвакуіраваныя з Беларусі, чакаюць нас у Чкалаве. Дзяжурны так чулліва да мяне паставіўся, забраў мой пропуск і напісаў: «Каса маці і дзіцяці — выдаць білет». Толькі два білеты мне не далі — пропуск жа быў на мяне адну. Можа, каб я агледзелася адразу, дык дзяжурны мне б напісаў — выдаць два білеты. Але што пра гэта казаць... Расстроеная, купіла я адзін білет і вырашыла ехаць і везці Валодзю і без пропуска, і без білета.

Ледзьве ўціснуліся мы ў цягнік. Вагон біткам набіты. Аднак месца мы ўсё ж неяк занялі. Дзякуй Богу, едзем. І тут жа, у першы вечар — кантралёр. Валодзя, здарожаны, адразу заснуў у мяне на каленях. А я вочы заплюшчыла і са страхам чакаю — грошай у мяне хапала толькі на білет, штраф плаціць няма чым. Кантралёр тузае мяне. Я раблю выгляд, быццам моцна сплю. Дзядзька, які сядзеў побач з намі, кажа: «Што вы яе чапаеце? Бачыце, сама яшчэ дзіця ды з дзіцём едзе. Стамілася». Кантралёр пашкадаваў мяне і пайшоў далей. Пасядзела я крыху яшчэ з заплюшчанымі вачыма, а потым прызналася дзядзьку і ўсім суседзям, што ў нас з Валодзем адзін білет на дваіх, і растлумачыла чаму. На маю радасць, усе так добразычліва аднесліся да нас. А пасля, колькі кантралёры ні хадзілі (а ехалі мы двое сутак, і правяралі даволі часта), суседзі дапамагалі нам. І на вочы кантралёраў Валодзя больш ні разу не папаўся. Да Чкалава заставалася гадзіны тры. Яшчэ крышачку — і мы будзем з бацькамі! А пакуль цягнік спыніўся на чарговай станцыі, у стэпе. Праз акно вагона бачым: увесь перон завалены дынямі. Імі гандлююць жанчыны і дзеці. А ў нас з Валодзем ёсць «зэканомленыя» за білет грошы! Мы з такім імпэтам выбралі вялікую духмяную дыню ў падарунак бацькам! Ды яшчэ ў нас заставаліся два інтэрнацкія боханы хлеба. Так што па тым часе — цэлае багацце!



Я адчувала, што Валодзя вельмі хвалюецца. Ён не бачыў маму з татам больш за два гады. А што дома робіцца? Усе таксама ў напружаным чаканні... Бацькі прыблізна ведалі, калі мы павінны былі прыехаць. І на час прыбыцця цягніка Свярдлоўск—Чкалаў бацька ўжо некалькі разоў хадзіў на вакзал, каб нас сустрэць. У той дзень таксама пайшоў. Але мы — размінуліся. Рэчы нашы прывёз на ручной калясцы дадому мужчына (тады аказвалі такую паслугу). Заходзім у хату. Маці, як угледзела Валодзю — ледзь прытомнасць не страціла. Ён, канечне, вырас,

вельмі змяніўся і з тым акуратненькім хлопчыкам, якога яна адпраўляла калісьці ў Маскву ў шорціках і аксамітавай куртачцы, не меў нічога агульнага. А тут яшчэ тыя нягеглыя штаны (якія і мяне збянтэжылі) ніжэй калень, вышэй костачак... Але ўсё гэта дробязі. Дзякуй Богу, мы сабраліся разам. І, галоўнае, з намі быў наш маленькі (для нас ён заставаўся ўсё роўна маленькім) любімы Валодзя... Безумоўна, бацькі дужа перажывалі, што па-ранейшаму няма ніякіх вестак ад Валерыя. Аднак выгляду не падавалі.

Жылося нам, што і казаць, цяжка. Але такі быў час, трэба было яго адолець. Нарэшце настаў момант наступлення нашага войска, і мы з бацькам атрымалі выклік у Маскву, дзе тады знаходзіўся беларускі ўрад. Для работы ў вызваленых раёнах ствараліся так званыя аператыўныя групы, што рухаліся ўслед за лініяй фронту. У канцы кастрычніка 1943 года мы з бацькам выехалі ў Маскву, а маці з Валодзем пакуль заставаліся ў Чкалаве. Хутка да іх прыехала цётка Жэня з Далёкага Усходу, бо дзядзьку перавялі на Заходні фронт. Праз нейкі час ён атрымаў у Кіеве кватэру, і як толькі ў Валодзі скончыўся навучальны год, дзядзька прыслаў па іх веставога, які прывёз усім траім пропускі. Так Валодзя з маці ў чэрвені 1944 года апынуліся на Украіне.

А нас з бацькам размеркавалі ў Віцебскую аператыўную групу (у аблфінаддзел), якая на той момант размяшчалася ў сяле Бяляева Смаленскай вобласці — на самай мяжы з Беларуссю, на беразе Заходняй Дзвіны, непадалёку ад Суража, які яшчэ быў заняты немцамі. У Бяляеве мы пражылі да вясны 1944 года. Потым фронт прайшоў далей на захад, і «аператыўнікі» аказаліся ў беларускім Суражы. Вельмі гэта шчымлівае пачуццё — вяртанне ў свой край, узрушлівая сустрэча з роднай зямлёй...

У Суражы мы працавалі да 26 чэрвеня — дня вызвалення Віцебска. А праз два дні наш аблфінаддзел ужо абсталяваўся ў трох прыватных віцебскіх хатах. Яны стаялі на самым ускрайку горада, у аршанскім напрамку, і нам з бацькам здавалася, што мы амаль дома.

Валодзя з маці правялі лета ў Кіеве. Той перыяд застаўся для хлопчыка моцным, незабыўным успамінам. Па-першае, яму пашчасціла на сяброў. Адданыя сяброўскія адносіны з Жэнем Ламакам звязалі іх, напрыклад, на ўсё жыццё. Па-другое, Валодзю ўразіў сам Кіеў. Нават разбураны горад выклікаў захапленне сваёй старажытнасцю і гістарычнымі помнікамі. І, на маю думку, менавіта таму Валодзя і вярнуўся сюды пасля заканчэння дзесяцігодкі. Калі паўстала пытанне, у якой навучальнай установе атрымліваць далейшую адукацыю, ён выбраў Кіеўскі дзяржаўны універсітэт імя Т. Шаўчэнкі. Значна пазней лета 1944 года будзе згадана Караткевічам у яго аповесці «Лісце каштанаў». Твор гэты, безумоўна, аўтабіяграфічны.

Бацька вярнуўся ў Оршу адразу, як толькі горад вызвалілі. Працаваў кантралёрам-рэвізорам у райфінаддзеле, знайшоў жыллё і паслаў маці з Валодзем у Кіеў патрэбныя дакументы для іх прыезду дамоў. Я затрымалася ў Віцебску яшчэ на год. У складзе беларускай спартыўнай каманды прымала ўдзел у першым пасляваенным Усесаюзным парадзе фізкультурнікаў у Маскве летам 1945 года. Пасля мяне перавялі ў Оршу ў гарфінаддзел.

Наша сям'я зноў сабралася разам...

## III. «Бласлаўёна юнацтва маё...» (1945–1954)

Паэзіі горды прыгон,
І радок, што сталлю звініць,—
Усё адкуў я на горне юнацтва майго,
На яго пакутным агні.
І праўды зніч, і подласці дым,
І сілу мужную жыць...

Горад нашага дзяцінства вайна разбурыла да непазнавальнасці. Мы вярнуліся на вялікае папялішча. На ўсю Оршу захавалася некалькі будынкаў, і тыя былі пашкоджаныя: дзяржаўны банк, Васкрасенскі сабор (помнік архітэктуры XVII стагоддзя), турма, касцёл, рэшткі Куцеінскага манастыра. Вельмі здзівіла, што цэлым застаўся чыгуначны вакзал, які так масіравана бамбілі. Па сутнасці, жыццё адраджалася нанова. І не толькі ў матэрыяльных адносінах, але і маральна. Здавалася, вакол — усё роднае, блізкае і разам з тым — чужое, далёкае... Тая, цёплая з маленства, Орша засталася светлым сном. Пасля, амаль на схіле свайго жыцця, у 1982 годзе, Валодзя напіша ў вершы з нагоды майго юбілею:

Оршу ўспомнім, тую, зялёную,
Бег крыніц ля Дняпра-ракі...

Наш даваенны дом на беразе Дняпра (яго так любіў Валодзя!) згарэў. І цяпер мы вымушаны былі здымаць кватэру на два пакоі ў царкоўнага старасты, побач з могілкамі, па вуліцы Пралетарскай. Усіх вельмі непакоіла, што па-ранейшаму не падаваў ніякіх вестак старэйшы брат. А на ўсе нашы запыты аб розыску нам аднолькава адказвалі: «У спісах тых, хто загінуў і памёр ад ран, не значыцца...» Затое прыйшла іншая навіна. Мы даведаліся, што жонка Валерыя Вольга вясной 1944 года загінула ў талачынскай турме. А іх пяцігадовая дачка Рая жыла ў стрыечнай сястры нашай маці ў вёсцы Галошава Талачынскага раёна. Там цётка Ганна працавала дырэктарам школы для глуханямых дзяцей. Здарылася так, што ў чарговы адпачынак летам 1941 года яна прыехала пагасціць да сваякоў

у Оршу, і тут пачалася вайна. Бомбы рвуцца — цётка дранцвее. Ачуняла і кажа Валеравай жонцы: «Вольга, бяры дзяцей і пойдзем да мяне ў Галошава. Там ніхто не бамбіць. І мы спакойна перачакаем». Усе ж думалі, што трэба толькі перачакаць гэту навалу, якая хутка скончыцца. Адным словам, дабраліся яны да цётчынай вёскі і «спакойна дачакаліся», пакуль немцы не праехалі на матацыклах праз тое Галошава. Жанчыны жылі разам, і калі Вольга загінула, Рая засталася з цёткай Ганнай, у якой была і свая шаснаццацігадовая дачка Ада. Як толькі нашы бацькі даведаліся, дзе Рая, адразу забралі ўнучку да сябе. Дзяўчынка, хаця і разумела, што гэта дзед і бабуля, стала зваць іх татам і мамай. Раі паказалі фотакарткі загінуўшых бацькоў. Цяпер у нас з Валодзем замест старэйшага брата з'явілася малодшая сястрычка.

Пасляваеннае жыццё паціху ўсталёўвалася. Да нас заходзілі старыя знаёмыя. І тыя, хто вярнуўся з эвакуацыі, і тыя, хто жыў тут падчас акупацыі. Бацька наш вельмі доўгі час працаваў у Оршы, і многія жыхары горада прасілі, каб ён пацвердзіў іх стаж, бо шмат у каго ніякіх дакументаў не засталося. Валодзя тым часам пайшоў вучыцца ў 1-ю беларускую школу, у якой да вайны вучыліся мы з Валерыем. Рая хадзіла ў дзіцячы садок. Бацькі задумалі зноў будаваць сваю хату, хаця грошай на тую будоўлю, вядома, не было. Усё нажытае раней знішчыла вайна. А новаму адкуль узяцца? Тут хоць бы як канцы з канцамі звесці... І ўсё ж будавацца мы пачалі. Бацьку як фінансаваму работніку далі крэдыт. Аднак па новай планіроўцы Оршы тая тэрыторыя, дзе да вайны на беразе Дняпра стаяў наш дом, цяпер адыходзіла пад гарадскі парк. Замест старога, дарагога сэрцу месца зноў давялося абжываць зусім новы ўчастак, выдзелены пад будаўніцтва.

Бацька ўрэшце купіў у вёсцы хату і летам 1946 года перавёз яе ў Оршу. Да халадоў паспелі адбудаваць першую палову і восенню ўжо перабраліся ў свой дом. Спачатку было не надта цёпла, палілася адна грубка, але ў роднай хаце, як кажуць, і сцены грэюць. Ды і стаміліся мы за вайну ад чужых кватэр...

У Валодзі з'явіліся новыя сябры. Брат вылучаўся асаблівай камунікабельнасцю, хаця ваенны час адбіўся і на ім. Ды што тут казаць, усе яго равеснікі таксама мелі цяжкі вопыт перажытых дзён. І, можа, гэта яшчэ больш мацавала іх пасляваеннае сяброўства.

Якраз тады відавочна акрэсліліся Валодзевы схільнасці да гуманітарных навук. Ён ведаў тое, што выходзіла далёка за рамкі школьнай праграмы. Спрабаваў сябе ў творчасці. У школе працаваў літаратурны гурток, які вяла Кацярына Іванаўна Грыневіч, маладая выкладчыца рускай мовы і літаратуры. Яна і заўважыла Валодзевы здольнасці, імкнучыся ўсяляк яго падтрымаць. Сябры літгуртка выдавалі свой часопіс «Званочак», дзе Валодзя часта друкаваўся і для якога рабіў малюнкі.

Напаўжартам кажучы, гэта было першае выданне, у якім з'явіліся творы юнага Караткевіча. Дарэчы, многія былыя гурткоўцы і сёння добрым словам згадваюць сваю настаўніцу як цікавага педагога і чулага чалавека. Валодзя заўсёды гаварыў пра Кацярыну Іванаўну з цеплынёй і ўдзячнасцю... Але нечакана для ўсіх у 1-й школе ў яго пачаліся праблемы з матэматыкай. Не склаліся адносіны з выкладчыцай. Хоць Валодзя ведаў матэматыку не горш за сваіх аднакласнікаў, але ставіўся да яе без асаблівай ахвоты. І не хаваў гэтага. Такія Валодзевы паводзіны выклікалі незадаволенасць у настаўніцы, раздражнялі яе. Найшла каса на камень... У выніку Валодзю пакінулі ў дзевятым класе на другі год, а на пачатку дзесятага, пасля першай чвэрці, ён вымушаны быў перайсці ў 5-ю школу, якая знаходзілася за Дняпром. І скончыў яе, між іншым, з чацвёркай па матэматыцы: новы выкладчык ні разу на яго не скардзіўся. Па сутнасці, гісторыя з матэматыкай была першым свядомым сутыкненнем Караткевіча з несправядлівасцю... І варта прызнаць, што ён сам гэта памятаў.

Я на той час выйшла замуж, пачалася мая вандроўка за мужам-вайскоўцам. Дадому наязджала ненадоўга, але даволі часта. Мы жылі ў Балбасаве, побач з Оршай, потым пераехалі ў Магілёў. Матэрыяльна стала крыху лягчэй, і я магла час ад часу купіць Валодзю ў падарунак кнігу ці штосьці яшчэ. Але найперш — кнігу, што была для яго лепшым падарункам. Ужо тады брат пачаў збіраць сваю хатнюю бібліятэку. Шмат з тых кніжак, што некалі куплялася (не толькі мной, але і сваякамі, бо ўсе ведалі Валодзеву слабасць), можна знайсці і сёння ў кніжных шафах у яго кабінеце.

Згадваецца з першых пасляваенных часоў яшчэ адзін выпадак. Ацалелы ў Оршы касцёл пераабсталявалі пад Дом культуры, здаецца, будаўнікоў. Цяпер, дарэчы, касцёл зноў вярнулі вернікам. А тады ўсе гарадскія культурныя мерапрыемствы праводзіліся ў тым будынку. Аднойчы з Мінска да нас прыехала група пісьменнікаў. На тую сустрэчу з дарослымі чытачамі запрасілі і вучняў, якія самі спрабавалі пісаць. Валодзя кажа аднаму сябру: «Валька, пойдзем?» А той яму: «Дык я ж не пішу вершаў». А Валодзя: «Я табе зараз напішу». Карацей, Валодзя напісаў яму верш пра Сталіна, і яны пайшлі ў Дом культуры на імпрэзу. Валодзя чытаў там іншыя свае вершы, а яго сябра Валька — гэты, пра Сталіна. На Валодзю ніхто ўвагі не звярнуў, затое ўсе надта ўхвалялі верш пра Сталіна і прарочылі яго аўтару паэтычную будучыню. Так што ў Валодзевай біяграфіі быў і такі выхад у літаратурны свет... Школу ён закончыў з добрымі і выдатнымі адзнакамі. У адрозненне ад мяне (я, помню, вагалася, які мне інстытут выбраць) Валодзя марыў пра вучобу ва універсітэце. Ён мог паехаць у Мінск ці Кіеў. А ішоў 1949 год. Жыццё цяжкае. Бацькі яшчэ будавалі хату. Будоўля супала якраз з грашовай рэформай. А ў нас жа

так: калі дзяржава вінаватая людзям, то плаціла ў дзесяць разоў меней, калі грамадзяне якую пазыку бралі, дык вярталі капеечка ў капеечку. Але дома ўсё ж вырашылі, што крэдыты за хату возьмем мы з мужам на сябе, а бацькі будуць дапамагаць вучыцца Валодзю. І брат паехаў у Кіеў. Здаўшы ўступныя экзамены на «выдатна», быў залічаны на філалагічны факультэт Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта імя Т. Шаўчэнкі. Так Валодзя вярнуўся ў горад ваеннага дзяцінства, горад, які моцна ўразіў яго некалі сваёй старажытнасцю і подыхам гісторыі.

У Кіеве жыла матчына сястра з мужам. Але, каб не злоўжываць іх гасціннасцю, быць бліжэй да свайго студэнцкага асяродку, Валодзя ўладкаваўся ў інтэрнаце. Да сваякоў таксама часта заходзіў, і яму заўсёды радаваліся, як сыну. Любілі пагаварыць, распытаць пра ўсе справы і абавязкова смачна пакарміць. Цётка Жэня старалася і з сабой даць які пакуначак ці трохі грошай. Усё гэта падтрымлівала сціплыя фінансы студэнта.

Літаральна праз паўгода, як Валодзя паехаў вучыцца ва універсітэт, я таксама пакінула Беларусь. Мой муж Іван Мікалаевіч Кучкоўскі, ваенны лётчык, у 1950 годзе атрымаў прызначэнне ў Чэлябінскае ваеннае авіяцыйнае Чырванасцяжнае вучылішча штурманаў (пазней яно стала вышэйшай навучальнай установай). І 30 студзеня я, мой муж і наша дачушка Надзея сустрэліся з сапраўднай уральскай зімой, якую пазней вельмі ўпадабае Валодзя. А пакуль мы наведвалі яго ў Кіеве, прыязджалі да бацькоў у Оршу, калі ён там праводзіў свае канікулы.

Добра памятаю нашы кіеўскія сустрэчы. Звычайна мы спыняліся ў цёткі Жэні, да якой прыходзіў і Валодзя, і размовы ўперамежку з жартамі не заціхалі да глыбокай ночы. Разам хадзілі ў тэатр, на выстаўкі — нам хацелася як мага цікавей скарыстаць адпачынак, бо жылі мы ў ваенным гарадку і не мелі такіх культурных магчымасцей. Валодзя знаёміў нас са славутымі мясцінамі Кіева і расказваў пра іх, як самы заўзяты экскурсавод. Адчувалася, што ён цудоўна ведае горад і сам атрымлівае асалоду ад нашых сумесных прагулянак. Ён любіў вадзіць маю Надзю ў заапарк. Усё для нас стараўся. Мы таксама хацелі яму аддзячыць. Пойдзем у кніжную краму — абавязкова што-небудзь купім. На заканчэнне універсітэта падаравалі яму «Энциклопедический словарь» у трох тамах (ён і цяпер ёсць у бібліятэцы). Мы ўвогуле імкнуліся рабіць Валодзю розныя прыемныя сюрпрызы. А я ўвесь час ставілася да яго як да малодшага і па-сястрынску шкадавала. Нават у студэнцтве, калі ён мог за сябе і сам пастаяць. Але, ведаючы непрымірымы Валодзеў характар, усё роўна неяк боязна было за яго...

Валодзя знаёміў нас з сябрамі, якіх меў шмат, і новых, і старых (яшчэ з ваеннага лета 1944 года). Дзякуючы сваёй таварыскасці, эрудыцыі ён прыкметна выдзяляўся сярод равеснікаў. І да яго, натуральна,

цягнуліся многія. Сустракаліся і нядобразычліўцы, але Валодзя стараўся іх не заўважаць. А наогул лёс падараваў яму з маладосці сапраўдных сяброў, якія прайшлі побач зямны шлях і не здрадзілі, нягледзячы на тое, што абставіны часам складваліся далёка не лепшым чынам...

З самых першых дзён вучобы Валодзя пасябраваў са сваім аднакурснікам палякам Фларыянам Няўважным. Яны прыязджалі нават у Оршу, хаця тады студэнту-іншаземцу без візы і кроку нельга было ступіць. А хлопцы ўмудрыліся з адной рэспублікі ў другую перабрацца. Фларыян і цяпер часта згадвае пра тую дарогу ды яшчэ пра пах грачанай кашы, якая стаяла ў печы якраз тады, калі абодва студэнты ўвайшлі ў хату. Разам з імі на курсе вучылася і Муза Залеўская (Сняжко). Сама кіяўлянка, якая жыла ва ўласным доме, дзе не раз збіраліся аднакурснікі. Валодзя любіў заходзіць таксама. Тая атмасфера нагадвала яму бацькоўскую хату, Оршу. У Кіеве Валодзя зноў сустрэўся з Жэнем Ламакам, з якім яны пасябравалі яшчэ хлопчыкамі летам 1944 года, калі Валодзя з маці жылі ў цёткі. Цяпер гэтыя адносіны ўмацаваліся. Жэня вучыўся на юрыдычным факультэце універсітэта. У тыя ж гады Валодзя пазнаёміўся і з Мішам Гальдштэйнам. Яго прозвішча я даведалася толькі, калі Уладзіміра Сямёнавіча не стала і мне давялося ўсім тэлефанаваць. А я ніяк не магла адшукаць у Валодзевай запісной кніжцы Мішаў адрас. Знайшла толькі пазначанае на літару «Р» — Рыжы Мішка...

Вучыўся Валодзя паспяхова. І што самае цікавае: пасля першага семестра 5-я аршанская школа атрымала падзяку ад Кіеўскага універсітэта за добра падрыхтаванага вучня. У той час для Оршы гэта была падзея. Не так часта з вышэйшых навучальных устаноў дасылалі падобныя лісты ў школу. Значыць, ён сапраўды заслужыў пахвальнае слова.

У той, можна сказаць, кіеўскі перыяд жыцця Валодзі сустрэчы нашы надараліся не так часта, але яны помняцца да драбніц, бо з імі звязана маладосць. І любая падзея, нават і нязначная, пакідала яркае ўражанне. У 1951 годзе мы разам абклейвалі шпалерамі новую хату бацькоў. Валодзя якраз прыехаў на летнія канікулы, а я са сваёй сям'ёй — у чарговы адпачынак. На грошы неяк узбіліся, менш пазыкі засталося — хацелася ўсё давесці да ладу, бо адразу толькі бярвенні праканапацілі, а тынкаваць не было за што. Абабілі такім жоўценькім кардонам — бацька недзе знайшоў вялікія жоўтыя лісты — ды так і жылі. А потым з часам зрабілі кухню, прыбудавалі сенцы. У кухні склалі белую кафляную печ. Гэта была запаветная бацькава мара — печ з кафлі. І мы з мужам зрабілі яму такі падарунак, купілі кафлю, якая каштавала тады 300 рублёў. А ўжо калі хату патынкавалі, то бацька вылічыў і прыслаў нам памеры для шпалераў: на дзве спальні, гасціную, кухню. У Оршы іх нельга было купіць, а мы ехалі з Чэлябінска праз Маскву і ахвотна выканалі бацькаў заказ. У шпалерным магазіне на Таганцы вылічвалі-пералічвалі, вы-

бралі-перабіралі, што найлепей падыдзе. У рэшце рэшт купілі, і даволі ўдала, бо наш выбар спадабаўся ўсім.

Прыехалі дадому, узяліся за справу. Валодзю мы таксама падключылі да гэтага хатняга занятку. Расклалі на падлозе старыя газеты, на іх — шпалеры, якія ён намазваў клейстарам. Я падавала, Іван Мікалаевіч клеіў. Прыклеім адну паласу — другой няма. Што так доўга? Глядзім, а Валодзя чытае на падлозе тыя старыя газеты.

Я гукаю:

— Валодзя!

Ён 2—3 паласы намажа, а тады зноў уткнецца ў які тэкст і забудзецца пра нас.

Тут ужо Іван Мікалаевіч не вытрымлівае:

— Валодзя! Будзеш так працаваць, дык цябе і ў падручныя не возьмуць!

Ён моўчкі працягвае працаваць, але па ўсім відаць, што змест старых газет яго захапляе куды больш, чым абклейка хаты. Нарэшце справа зроблена. У пакоях адразу папрыгажэла, усе задаволеныя, і Валодзя радуецца не менш за астатніх. Добра помню: шпалеры ў кляновае лісце...

Шмат часу Валодзя праводзіў з сябрамі, якія прыязджалі на канікулы і бывалі часта ў нас. Мы любілі разам хадзіць на Дняпро. Асабліва такія паходы падабаліся маёй Надзі, бо дзядзька Валодзя дазваляў ёй значна больш, чым мама з татам. Яна з ім і на другі бераг пераплывала — учэпіцца неяк і трымаецца. А то яны ўдваіх пойдуць у кніжную лаўку, там у Валодзі была знаёмая загадчыца Ганна Фёдараўна Кузняцова, з якой мы некалі працавалі ў гарвыканкаме, адразу пасля вызвалення Оршы. Яна пакідала нам шмат цікавых кніжак. Валодзя і пасля заканчэння універсітэта, прыязджаючы дамоў, заўсёды заходзіў у тую кнігарню, купляў усякія навінкі.

Помню, як вярнуўся ён са студэнцкіх ваенных збораў летам 1953 года. Шмат расказваў, смеючыся, як там яны сябе паводзілі, якія казусы з імі здараліся, як вайсковае начальства ставілася да іх першай роты. Гэта, канечне, лёгка ўявіць: прыехалі студэнты з філфака, адукаваныя, шмат ведаюць. А яшчэ больш думаюць пра сябе, што ўсё ведаюць. І тут — нейкі старшына ці хто! Дзе ж яны будуць яму падпарадкоўвацца?.. Хапала і кепікаў, і падколак, за якія «надта разумным навабранцам» даводзілася расплачвацца. Але нічога, зборы паспяхова прайшлі, хлопцы атрымалі званне малодшых лейтэнантаў запасу, паехалі на чарговыя канікулы.

Валодзя пасля таго вайсковага жыцця ніяк адаспацца не мог. У нас у двары стаяла драўляная пунька з гарышчам, дзе ён летам любіў начаваць. На гэтым гарышчы месцілася Валодзева, як ён смехам казаў, «рэзідэнцыя». Спецыяльна для яго туды правялі электрычнасць, паставілі

вялікую скрыню, якая служыла Валодзю пісьмовым сталом. Там ляжала шмат кніжак. У сваёй «рэзідэнцыі» Валодзя мог гадзінамі чытаць, пісаць — мы яго не турбавалі. Бывала, павячэраем, ён — ката пад паху і пайшоў да сябе. Котка муркоча побач, а ён працуе. Дык вось тым летам Валодзю было не дабудзіцца.

Мама скажа мне:

— Наташа, пакліч Валодзю, снедаць час.

Я ўзлажу на лесвіцу і пачынаю гукаць:

— Валодзя! Валодзя, уставай! Ва-ло-дзя!

А Божа мой, ніякай рэакцыі!

Я тады як закрычу:

— Першая рота! Па-а-д'ём!

Адразу ўскочыць!.. Мы ўвогуле любілі з ім пажартаваць адно з аднаго і пры гэтым не крыўдзіліся. У нашы прыдумкі ўключаліся бацькі, і хата поўнілася здаровым гумарам...

Прыязджаючы на канікулы ў Оршу, Валодзя абавязкова наведваў Рагачоў. Там у нас жыў дзядзька Ігар, сын дзеда Васіля ад другога шлюбу. Хата іх таксама стаяла на беразе Дняпра. Быў свой вялікі сад, вакол — цудоўныя краявіды. Дзядзька выкладаў у школе чарчэнне, урокі працы (у нас гэта называлася політэхадукацыяй), чалавек вельмі начытаны, з добрай памяццю. Ён шмат чаго трымаў у галаве з дзедавых паданняў. Валодзю падабалася весці з ім розныя гутаркі, знаёміцца з наваколлем Рагачова, распытваць пра даўніну. Мне здаецца, дзядзька Ігар нагадваў Валодзю дзеда Васіля. А яго захапляючыя расповеды былі своеасаблівым працягам дзіцячых уражанняў Валодзі ад сустрэч з дзедам. У Рагачове Валодзя мог і працаваць. Там яму ствараліся добрыя ўмовы, спецыяльна для яго — асобны пакой. Ён, дарэчы, любіў ездзіць туды заўсёды. З ім бывалі Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Васіль Сёмуха, іншыя пісьменнікі. На маю думку, Рагачоў для Валодзі — крыніца і гісторыі, і паэзіі, і проста цёплых чалавечых адносін. Яго цягнула ў хату дзеда Васіля.

Валодзя заканчваў універсітэт. Я па-ранейшаму знаходзілася далёка ад дому, у Чэлябінску. Мы трохі абжыліся і вельмі хацелі, каб хто з блізкіх прыехаў да нас у госці. Але такой магчымасці пакуль не надаралася. А тут яшчэ бяда. Бацька ў канцы 1952 года перанёс інсульт, пасля чаго доўга хварэў, і маці не магла пакінуць яго аднаго. Тым больш Рая хадзіла яшчэ ў школу, і ёй таксама патрэбна была матчына дапамога. Цяжкавата прыходзілася матэрыяльна. З-за хваробы бацька пайшоў на пенсію, а атрымліваў 60 рублёў (за тое, што ўвесь век працаваў). Крэдыты за хату плацілі мы з мужам, а бацькі ўжо як маглі дапамагалі Валодзю. Хоць ён вучыўся на стыпендыю, аднак на жыццё гэтага не хапала. У тыя гады мы ўсе збіраліся ў Оршы. Нам было добра разам у бацькоўскай хаце. Тата заўсёды цікавіўся Валодзевымі справамі, мог яму нешта параіць, падказаць.

Гады вучобы ў Кіеве вельмі паўплывалі на Валодзю. Па-першае, яго захапленне самім горадам, помнікамі старажытнасці, украінскай культурай увогуле яшчэ больш разбудзіла ў ім беларуса, дапамагло вастрэй адчуць, што і Беларусь не менш багатая на спадчыну. Па-другое, ён зразумеў, што трэба дасканала ведаць гісторыю сваёй Бацькаўшчыны. Цяпер, калі мы сустракаліся з ім у Оршы, усё часцей гаварылі пра Беларусь. Менавіта Валодзя адкрыў мне вочы на мінуўшчыну нашай роднай Аршаншчыны. Колькі разоў хадзіла паўз Куцеінскі манастыр, Ільінскую царкву, рэшткі Васкрасенскага сабора і базыльянскага манастыра, царкву Пятра і Паўла (якой сёння ўжо няма зусім), а нават не здагадвалася, што мінаю. А якая багатая і цікавая гісторыя ў іншых помнікаў беларускага дойлідства! Якраз у студэнцтве Валодзя пачаў сур'ёзна вывучаць мінулае нашага краю. І ў літаратуру ён прыйшоў з глыбокім веданнем гісторыі і разуменнем яе сэнсу ў жыцці кожнага беларуса.

Студэнцкі час згаданы Караткевічам у першай яго аповесці «У снягах драмае вясна». Рукапіс твора разам з іншымі раннімі творамі Валодзі я прывезла па яго просьбе з Оршы. Там яны ляжалі ў куфры ў бацькоўскай хаце. На жаль, сам Валодзя так і не паспеў разабраць тыя папкі. Гэта давялося рабіць мне, калі яго не стала...

Аповесць упершыню надрукавалі ў часопісе «Полымя» ў 1988 годзе (№ 4—5). Асобнай кніжкай яна выйшла праз год у выдавецтве «Юнацтва». Я лічу, і такая думка існуе сярод літаратуразнаўцаў, што гэты твор Караткевіча аўтабіяграфічны. Многія Валодзевы аднакурснікі і выкладчыкі ў героях аповесці пазнаюць сябе, а студэнт Уладзіслаў Берасневіч сваім характарам і ўчынкамі вельмі нагадвае мне майго брата Валодзю.

**IV. Святло і самота сустрэч**
**(1954—1983)**

Шчаслівы паўнатою сталай сілы.
Спакойнае натхненне гоніць сон.
Далёка ад мяне калыска і магіла.
І слабасць дзён вясны,
і мудрасць зімніх дзён...



У 1954 годзе Валодзя закончыў універсітэт і атрымаў накіраванне выкладчыка рускай мовы і літаратуры ў вёску Лесавічы Таращанскага раёна Кіеўскай вобласці. Адпрацаваў ён там два гады. За гэты час паступіў у завочную аспірантуру, здаў кандыдацкі мінімум і пачаў пісаць дысертацыю пра адлюстраванне паўстання 1863 года ва ўсходнеславян-

скіх і польскай літаратурах. Але праз пэўны час урэшце ў ім перамог пісьменнік, і далей займацца навукай Валодзя не стаў.

У ліпені 1955 года ў Оршы Віцебскі інстытут удасканалення настаўнікаў арганізаваў летнія курсы для мясцовых настаўнікаў-філолагаў. Якраз у гэты час Валодзя быў дома ў сваім першым працоўным адпачынку, і яго запрасілі прачытаць некалькі лекцый па рускай савецкай і беларускай літаратурах. Чытаў ён бліскуча. Настаўнікі ахвотна хадзілі на яго лекцыі і слухалі з захапленнем, а метадычны савет дужа ўхваляў маладога лектара.

Праз два гады Валодзя вярнуўся з Лесавічаў у Оршу. Выкладаў рускую мову і літаратуру ў 8-й сярэдняй школе. Шмат пісаў. Яго пачалі друкаваць. Ён сустракаўся з беларускімі пісьменнікамі, якія прыязджалі ў наш горад на чытацкія канферэнцыі. Яны заходзілі да нас. Помню, аднойчы разам з іншымі прыязджаў Анатоль Вялюгін. Ужо тады ўсе прадказвалі Валодзю вялікую літаратурную будучыню, гаварылі пра незвычайнасць яго таленту. У 1957 годзе Валодзю прынялі ў Саюз пісьменнікаў БССР (а ў нас з Іванам Мікалаевічам у той год нарадзілася другая дачушка — Алена). У 1958 годзе ён звольніўся са школы і паехаў у Мінск, дзе пэўны час жыў у свайго сябра дзяцінства Валянціна Краўца, якому некалі пісаў верш пра Сталіна. Той жа восенню Валодзя быў залічаны на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. У гэты перыяд жыцця сустрэчы нашы надараліся радзей і былі кароткімі. Па дарозе з Чэлябінска ў Оршу, паколькі ехалі звычайна праз Маскву, мы спыняліся на некалькі дзён у сваякоў і сустракаліся там з Валодзем. Разам хадзілі ў тэатры, на выстаўкі ці проста гулялі па горадзе. Ён ужо сур'ёзна працаваў у літаратуры, і нам не хацелася адцягваць яго ад спраў.

21 верасня 1959 года мы страцілі бацьку. Не стала нашай сапраўднай апоры і лепшага дарадцы. Найгорай адчувала сябе маці. Мы з Валодзем усяляк стараліся падтрымаць яе. Яна жыла цяпер з унучкай Раяй, якая праз год выйшла замуж.

Тату пахавалі на могілках па Пралетарскай вуліцы, недалёка ад магілы яго маці, нашай бабулі Наталлі, якая памерла ў 1924 годзе. Пасля вайны мы аднавілі яе магілку, паставілі новы крыж. Зараз абедзве магілы даглядаюць пляменніца з мужам, а мы, калі бываем у Оршы, абавязкова іх наведваем. Апошнім часам ёсць для нас у горадзе майго дзяцінства яшчэ адно святое месца — помнік Валодзю ў Прыдняпроўскім парку. Тут бываюць і нашы дзеці і ўнукі. Такія сустрэчы таксама вельмі патрэбныя ім.

У студзені 1963 года Валодзя канчаткова перабраўся ў Мінск, закончыўшы ў Маскве Вышэйшыя літаратурныя і Вышэйшыя сцэнарныя курсы. Ён атрымаў аднапакаёвую кватэру па вуліцы Чарнышэўскага, 7/57. Перавёз з Оршы маці, якая потым увесь час жыла з ім. Калі Ва-

лодзя забраў маці да сябе, я прыязджала да іх у Мінск. І хоць кватэра была маленькая, месца хапала на ўсіх. Пакой перагарадзілі шафай на дзве паловы. Адна для маці, там стаяў яе ложак, а другая — Валодзева з пісьмовым сталом і крэслам-ложкам. Гэты асобны куточак даваў магчымасць Валодзю працаваць, служыў яму «рабочым кабінетам».

Для сустрэч з сябрамі заставалася кухня. Усім, дарэчы, сімпатызавала гасціннасць маці, якой таксама падабалася Валодзева асяроддзе: заходзілі Мікола Грынчык і Адам Мальдзіс з жонкамі, Мікола Прашковіч, якія жылі недалёка ў акадэмічным інтэрнаце. Часта бывалі Рыгор і Валя Барадуліны. Наведваліся студэнты тэатральна-мастацкага інстытута, Валодзя з імі сябраваў. А Алесь Лабанок наогул лічыўся сваім. Прыйдзе і дапаможа маці па гаспадарцы, каб ёй цяжкае не насіць,— у краму сходзіць, купіць бульбы, іншай гародніны. Хай даруюць мне тыя Валодзевы сябры, каго я тут не ўспомніла. Таму што, сапраўды, да яго прыходзілі многія і ў хаце ўсім былі рады.

Нягледзячы на адзіны перагароджаны пакой, Валодзя з маці лічылі, што іх побыт часова больш-менш наладжаны. І нарэшце яны сабраліся да нас у Чэлябінск. Праўда, маці нас аднойчы наведвала — яшчэ з Оршы прыязджала ў 1960 годзе, пасля смерці бацькі. Мы, натуральна, хваляваліся, як вытрымае яна такую няблізкую дарогу: да Масквы — цягніком, потым — самалётам. Але ж, дзякуй Богу, усё склалася добра. Мы яе, вядома, сустрэлі, і яна так бадзёранька падышла да нас з чамаданчыкам. А да яго рамянямі былі прымацаваны яшчэ і валёнкі, ад чаго мае дзеці прыйшлі проста ў захапленне!

Пазней мы атрымалі трохпакаёвую кватэру ў доме, які пабудавалі асобна для лётнага саставу. І, помню, у лютым 1963 года ўжо з нецярпеннем чакалі да сябе ў госці Валодзю з маці. Чэлябінск — буйны прамысловы горад — дыміў шматлікімі трубамі, ад чаго паўсюль ляжаў шэры налёт. А ў нас, у ваенным гарадку, усё выглядала інакш: бялюткі снег, бліскучы каток, бездакорная лыжня ў бярозавым гаі. Таму і гасцям у нас вельмі спадабалася. Валодзя шмат хадзіў на лыжах: і адзін, і з маёй Надзяю. Мы гулялі ўсе разам у ваколіцах гарадка. Прыгажосць Паўднёвага Урала ўзрушала Валодзю. Калі стаяла сонечнае непахмурнае надвор'е, здалёк праглядалі Уральскія горы. Акром таго, у Доме афіцэраў працавала бібліятэка, дзе можна было ўзяць патрэбныя кнігі, у кіназале ішлі новыя мастацкія стужкі. А галоўнае, што тут не было тых «добразычліўцаў», якія псавалі Валодзю настрой. Дасюль ён не ўяўляў сабе быт вайскоўцаў, а цяпер пераканаўся, што жывём мы добра. І за сястру можна не хвалявацца. Безумоўна, Валодзя не толькі адпачываў у нас. Ён і працаваў, у асноўным над раманам «Каласы пад сярпом тваім». Праз тры дні ён тады вярнуўся ў Мінск, а маці засталася да мая. Прыязджаў Валодзя ў Чэлябінск таксама ў 1964 і 1965 гадах. Тыя паездкі я назвала б

хутчэй рабочымі, таму што ён тады вельмі шмат працаваў. Закончыў раман «Каласы пад сярпом тваім», сцэнарый стужкі «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», пачаў пісаць раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Відаць, чытачы звяртаюць увагу на подпіс у канцы гэтага твора: Чэлябінск (Шагол) — Рагачоў. Шагол — і ёсць тая чыгуначная станцыя, ля якой стаяў наш ваенны гарадок, хоць на адрасе значылася: Чэлябінск, 15.

Звычайна мы выдзялялі Валодзю асобны пакой. І ён з самага ранку садзіўся за пісьмовы стол, калі сям'я разыходзілася па сваіх справах: хто на працу, хто ў школу, малодшая дачка хадзіла яшчэ ў садок. Так што ніхто не перашкаджаў. Валодзя сабе адчыніць фортку і піша, і курыць. Шмат курыў... Вазоны нам адзін год памарозіў, бо мы не здагадаліся зняць іх своечасова з падаконніка. А вечарам збіраліся ўсе разам. Тады ў нас і размовы, і вячэра, і чарка...

Валодзя добра пачуваўся ў нас, пра што сам не раз успамінаў. І заўсёды ладзіў з маім мужам Іванам Мікалаевічам: ім было пра што пагаварыць. Вельмі любіў Валодзя і маю старэйшую дачку Надзю, якая нарадзілася яшчэ ў Оршы, калі ён у школе вучыўся. І яму, і бацьку было надта прыемна, што яе назвалі ў гонар нашай маці Надзеі Васільеўны. Захаплялі Валодзю дзіцячая непасрэднасць малодшай пляменніцы, яе мова і розныя ўчынкі, за якімі з цікавасцю назіраў. А пасля напісаў апавяданне «Пыласос», прысвечанае маёй Алёне. Ёсць да яго і арыгінальны малюнак. Пазней гэтае апавяданне пад назвай «Як звяргаюцца ідалы» ўвайшло ў зборнік «Блакіт і золата дня». Калі Валодзя вучыўся на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве ў 1960—1962 гадах, ён напісаў сцэнарый «Гнеўнае сонца пякучае» з разлікам на тое, што дзіцячую ролю ў фільме будзе выконваць Лена. Задумка так і не ажыццявілася. Даўно вырасла Лена, а сцэнарый усё ляжыць у стале...

А як мае дочкі любілі Валодзю! Яго прыезды да нас былі найлепшым святам. І ўвогуле, яны аднолькава хораша адчувалі сябе разам — і дарослы дзядзька, і малыя пляменніцы.

Мы кожнае лета прыляталі ў адпачынак у Мінск. Валодзя з маці перабраліся ў двухпакаёвую кватэру па вуліцы В. Харужай. І ў кожны наш прыезд Валодзя стараўся абавязкова арганізаваць культурную праграму. Помню, адзін раз узяў білеты ў Рускі тэатр на спектакль па п'есе Бертольда Брэхта «Матухна Кураж і яе дзеці», прычым якраз на дзень нашага прылёту. А я самалёт пераношу дрэнна. З Чэлябінска да Мінска ляцець шэсць гадзін, на цягніку ехаць некалькі сутак. І мы, каб зэканоміць час, карысталіся ўсё-ткі авіяпаслугамі. І вось недзе ў дзве гадзіны дня прыляцелі. У сем вечара, адпаведна,— спектакль. Спёка тады стаяла ў горадзе!.. А мы ноч перад гэтым не спалі, дык мая старэйшая дачка адмовілася, сказала, што не, яна не вытрымае. А мы з маці пайшлі. Вельмі мне хацелася ў тэатр. І нічога, вытрымала. Праўда, маці пасля

ўсё гаварыла: «Валодзечка, ужо на той дзень ты мог бы нам білеты на што-небудзь весялейшае ўзяць...»

Я хачу падкрэсліць, што нашы сустрэчы з Валодзем заўсёды былі цікавыя. Ён любіў рабіць сюрпрызы, нечаканыя запрашэнні. Шчодра дзяліўся з намі сваімі ведамі, і на ўсіх хапала яго душэўнай цеплыні. Усе нашы сустрэчы мною звычайна востра перажываліся і былі непадобныя адна на адну. Кожны раз усе адчувалі радасць і душэўны пад'ём, а развітанне непазбежна аказвалася сумным. Хаця, як я цяпер разумею, той час для Валодзі быў вельмі плённым у творчасці.

Тэрмін службы майго мужа заканчваўся. Мы планавалі вярнуцца ў Беларусь, і ў 1971 годзе пераехалі ў Мінск. Валодзя на гэты час ажаніўся з Валянцінай Нікіцінай.

Для маёй сям'і таксама пачаўся новы этап жыцця, у якім маральна мы адчувалі сябе няпроста. Сябры і знаёмыя засталіся ў Чэлябінску, трэба было шукаць працу, напачатку — складанасці з жыллём. І вось тут Караткевічы нас вельмі падтрымалі. Па першым часе яны прытулілі нас пад сваім дахам, а праз некалькі месяцаў мы атрымалі трохпакаёвую кватэру па вуліцы Адоеўскага. Іван Мікалаевіч уладкаваўся на працу на грамадскіх пачатках, я пакуль яшчэ не працавала.

Валодзя з маці сабраліся на адпачынак у Дом творчасці ў Гагры. Валянціна Браніславаўна ехаць з імі не магла, была занятая на працы. Купілі трэцюю пуцёўку для мяне. І ў канцы верасня мы з мамай цягніком, а Валодзя самалётам адправіліся на Каўказ. Дом творчасці, як вядома, стаіць на беразе Чорнага мора. Валодзя атрымаў пакой з вокнамі на марскія хвалі, а нам з маці выпаў від на чыгунку. Праўда, настрой гэта не сапсавала, і мы вельмі добра адпачылі. Надвор'е стаяла прыемнае, дастаткова цёплае. Мы шмат гулялі. Ездзілі на экскурсіі ў Сухумі, у Піцунду. Але найцікавей за любога гіда пра ўсё расказваў Валодзя. Ён быў тут не першы раз і вадзіў нас па такіх мясцінах, якіх цывілізацыя, можна сказаць, не кранула. У малпіным гадавальніку ў Сухумі ў яго былі знаёмыя малпы. Адну з іх звалі Аміга, яе трымалі ў асобным вальеры, і Валодзя вазіў ёй у падарунак пятрушку, яшчэ нейкія спецыяльныя травы. Ён усё гэта ведаў, усім цікавіўся. Часам хадзіў з рыбакамі ў мора, мы з маці яго чакалі. І, вядома, у Доме творчасці Валодзя таксама працаваў. У Мінск мы вярнуліся на пачатку лістапада.

У лютым 1972 года мая сям'я пераехала ва ўласную кватэру. А Караткевічы недзе праз год абмянялі сваю двухпакаёўку і пакой Валянціны Браніславаўны на трохпакаёвую кватэру па вуліцы К. Маркса, дзе Уладзімір Сямёнавіч і працаваў да апошніх дзён. Мы ўсе сабраліся ў Мінску, толькі Рая па-ранейшаму жыла і жыве ў бацькоўскай хаце ў Оршы. І гэтае месца для мяне найдаражэйшае.

У новай Валодзевай кватэры паціху наладжваўся быт. З'явілася больш камфортных прыгожых рэчаў. Валодзя абсталяваў сабе кабінет. Я сказала б, што ў яго пачаўся новы этап жыцця. Утульнасць і хатні спакой стваралі цяпер дзве жанчыны: жонка і маці. Валя вельмі любіла свой дом, была працавітая і акуратная гаспадыня. Яна заўсёды глядзела, каб Валодзя не забываўся пра модны гальштук, касцюм, насоўку ў кішэні, вычышчаны абутак, бо сам ён звычайна мала звяртаў увагі на вопратку. Валя, дарэчы, цудоўна гатавала, і кухня займала ў яе шмат часу, хаця Валодзя меў дрэнны апетыт. І ўвогуле абыякава ставіўся да ежы, хіба што любіў грыбы. Іх можна было гатаваць тры разы на дзень — піражкі з грыбамі, катлеты з грыбным соусам, грыбны суп і г. д. Дарэчы, Валодзя добра збіраў грыбы і сам любіў іх смажыць.

Валодзю з Валяй аб'ядноўвала не толькі сям'я, але і шмат агульных інтарэсаў. Яны разам ездзілі ў навуковыя экспедыцыі, творчыя камандзіроўкі, наведвалі Оршу і Рагачоў. Валя таксама дбала пра лёс Беларусі, працуючы старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Многа зрабіла для выдання «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», але, на жаль, не дажыла да выхаду яго ў свет. Часта ў летнія навуковыя экспедыцыі Караткевічы бралі з сабой і маю Надзю, якая на той час была студэнткай Чэлябінскага педагагічнага інстытута і на канікулы прыязджала ў Мінск. Менавіта з тых сумесных паездак Надзя шмат даведалася пра гісторыю Беларусі. Беларускай спадчынай цікавіцца цяпер і яе сын. Мая малодшая дачка і яе сям'я таксама горнуцца да беларушчыны. У іх гэта ўсё, я лічу, дзякуючы Караткевічам. Я сама ім гэтага даць не магла. Адпаведна таму, чаму і як нас вучылі, мы — нібы бязродныя былі...

Трэба сказаць, што да Уладзіміра Сямёнавіча вельмі цягнулася моладзь. І хто б да яго ні звярнуўся, Валодзя нікому не адмовіў у падтрымцы. Мне здаецца, ніводны чалавек не выйшаў з яго дома пакрыўджаны ці незадаволены ўвагаю.

Я тут зусім не ідэалізую Валодзю. На самой справе Караткевіч быў вельмі складаны чалавек. Але па сваёй натуры — добры і чулы. Характар яго ўскладнілі жыццёвыя абставіны. На пачатку творчасці Валодзя сутыкнуўся з неразуменнем яго таленту, яго жадання паказаць беларусам і ўсяму свету, што Беларусь — старажытная краіна, у якой ёсць і мова, і гісторыя, і культура. Несправядлівасцей увогуле хапала ў яго пісьменніцкім жыцці, што зрабіла характар больш жорсткім, але душа назаўсёды засталася ранейшай, даверлівай і чулай.

Мне згадваецца такі выпадак: Валодзю не спадабалася адна са стужак, пастаўленых па ягоным творы (я ўжо не памятаю якая), і яму тады прапанавалі, што ён як аўтар твора можа забараніць фільм, не даваць яго ў пракат. Караткевіч адказаў, што рабіць гэтага не стане. У

стужцы занята столькі людзей, усе яны працавалі, і як можна пазбавіць іх вынікаў працы? Вось гэты добры пачатак Караткевічавай натуры, мне здаецца, кампенсаваў і складанасці яго характару. Усе дамашнія Валодзю разумелі. Я з ім ладзіла. Ён для мяне заўсёды заставаўся малодшым братам, і мне вельмі хацелася, каб у яго жыцці ўсё атрымлівалася. Я магла рабіць яму і заўвагі, якія ён па-рознаму ўспрымаў, але ніколі на мяне не крыўдзіўся.

А маці... Маці для Валодзі была неперераўзыдзеным прыкладам і дабрыні, і прыгажосці, і сардэчнасці. Мне здаецца, ён нават усіх жанчын (і сваіх знаёмых, і проста жанчын) міжволі параўноўваў з маці. Яна вельмі любіла Валодзю. І ён адказваў ёй пяшчотай і павагай. Пасля смерці бацькі мама ўвесь час была побач з сынам. Ад яе Валодзя ніколі не чуў слова ў падвышаным тоне. Нягледзячы на свой узрост (яна пражыла 84 гады), маці не страціла цікавасці да жыцця. Валодзевы сябры любілі гаварыць з ёй на розныя тэмы. Яна ўмела даць параду, да якой варта было прыслухацца. Узрост не перашкаджаў ёй заставацца жанчынай, выглядаць годна. І ва ўсім ёй хапала мудрасці, тактоўнасці. Маці па сваім характары была такая, што лішняга нідзе ніколі не прамовіць. Я, напрыклад, не памятаю, каб яна сядзела на лавачцы ў двары з суседкамі. Гэты занятак не для яе. Хіба толькі як вярталася ад цёткі Жэні, сваёй сястры, да якой часта ездзіла на Нававіленскую: бывала, прысядзе крыху перадыхнуць, каб пасля на пяты паверх узняцца. Яна чытала, глядзела тэлевізар, магла сёе-тое зашыць-перашыць. Зрэшты, чытала мама да самай старасці. І, канечне, па магчымасці дапамагала Валі ў хатніх справах. Дзякуючы яе характару і Валінай павазе да маці ў сям'і Караткевічаў захоўваліся добрыя адносіны. У жанчын быў агульны клопат — Валодзя: кожная старалася, каб ён адчуваў сябе ўтульна, спакойна, каб яго не турбавалі непатрэбныя тэлефонныя званкі. Гэтым і ствараліся спрыяльныя ўмовы для працы. Валя была цудоўная гаспадыня, любіла рыхтаваць святочныя сталы. Некалі нам у дзяцінстве, як я ўжо казала, адзначалі агульны дзень нараджэння, ператварыўшы яго ў прыемнае сямейнае свята. Праз шмат гадоў Валя, можна сказаць, падтрымала аганёк гэтай даўняй традыцыі. І вось 26 лістапада 1977 года ў Валодзі, як звычайна, сабраліся госці, каб павіншаваць гаспадара з днём нараджэння. Маці сядзела за сталом у чорнай панаксамітнай сукенцы, прыгожая ў сваім узросце, і ўсе з захапленнем гаварылі: «Надзея Васільеўна як каралева!»

Гэта было ў нядзелю, а ў аўторак з ёю здарыўся ўдар, пасля чаго здароўе маці вельмі пагоршылася. Спачатку яна яшчэ гаварыла і нават трохі рухалася па хаце. Праўда, урачы забаранілі ёй уставаць з ложка. Праз тыдзень удар паўтарыўся. У маці адняло мову і паралізавала правы бок. Я перасялілася да Караткевічаў. Валя хадзіла на працу, а я на

той час выйшла ўжо на пенсію і магла пастаянна знаходзіцца ля маці. Найгорш было тое, што маці нічога не магла нам сказаць. Прыходзіў доктар, вучыў, як лепш яе карміць... А праз тыдзень у мамы — новы ўдар. І на трэці дзень яе не стала. Здарылася тое 16 снежня 1977 года, недзе ў 3—4 гадзіны ночы. Апошнія дні, мусіць, ад моцных боляў, яна ўвесь час крычала. Я знаходзілася з ёю ў адным пакоі і, відаць, трохі задрамала. Яна раптам змоўкла. Ад гэтай нечаканай цішыні я адразу і схамянулася.

У тую ноч у Караткевічаў начаваў і мой муж, якому я пазваніла вечарам на працу: было нейкае прадчуванне, ці што... Я разбудзіла Івана Мікалаевіча, ён падышоў да маці, паглядзеў і кажа мне: «Усё». І вочы ёй закрыў... Паклікалі суседку — Ніну Адамчык (яны ж таксама сябравалі), і мы разам зрабілі ўсё патрэбнае. А пасля разбудзілі Валодзю. Мы з Валяй баяліся, як ён гэта ўспрыме. Нам усім было ў той момант вельмі цяжка, а Валодзю асабліва. Мне падалося, што ён быў моцна напалоханы смерцю маці. Хаця яна зусім дрэнна сябе адчувала, ён усё роўна і думкі не дапускаў, што яе не стане. Амаль усё жыццё мама пражыла з ім побач. падтрымлівала сваёй прысутнасцю, развагай, дабрынёй. І вось яе няма... Валодзя не ведаў, што рабіць. Нават страшыўся падысці да дамавіны. Тады я сказала: «Ты падыдзі, патрымайся за ногі — ёсць такі звычай. Табе палягчэе...» Пасля таго ён і сапраўды крыху апамятаўся. Хавалі маму 17 снежня на Паўночных могілках. Дзень выпаў сонечны, не дужа марозны. Сабраліся родныя, блізкія, знаёмыя. Шмат было кветак і цёплых слоў... Балюча страчваць блізкіх людзей, тым больш — маці. Такая страта не забываецца ніколі. Мне вельмі цяжка было напачатку заходзіць у кватэру, дзе ўсё нагадвала пра маму. Я толькі магу ўявіць, як адчуваў сябе тут Валодзя. Бываць у яго часцей у мяне цяпер не атрымлівалася. Дачка-студэнтка выйшла замуж, нарадзіўся ўнук. Вольнага часу амаль не заставалася. А жыццё ішло сваім ходам. І не надта песціла Валодзю. Нечакана захварэла Валянціна Браніславаўна, ды і здароўе самога Уладзіміра Сямёнавіча жадала лепшага...

У лістападзе 1980 года грамадскасць адзначыла 50-годдзе Караткевіча. Юбілейны вечар праходзіў у Доме літаратара, вёў урачыстасць Васіль Быкаў. Зала цёпла адгукалася на ўсе віншаванні юбіляру. Слова Валодзі «Дзякуй вам, людзі!» было кароткім, але сустрэлі яго авацыямі. У той вечар панавала атмасфера шчырай любові, павагі да пісьменніка і непадробнага захаплення ім.

Вось выступленне У. Караткевіча на юбілейнай вечарыне ў Доме літаратара ў лістападзе 1980 года:

«Прабачце мне. У мяне ад хвалявання сеў голас. І таму я буду гаварыць з вамі крышачку такім хрыплаватым.

Сябры мае і сяброўкі!

От, няўжо вы думаеце, што я быў бы чагосьці варты без вас, якія сышліся сюды з большай ці з меншай там кожны дозай сімпатыі да мяне. Мабыць, нічога не быў бы варты без вас, дарагія. Без зямлі беларускай вялікай, без вялікага беларускага народа, без вялікай беларускай мовы. І таму — дзякуй вам за тое, што вы ёсць.

Дзякуй зямлі беларускай за тое, што я еў яе хлеб чорны, піў смачную ваду, дыхаў яе паветрам. Паціскаў самыя верныя на свеце мужчынскія рукі ў дружбе — рукі нашых мужчын. І зрэдку шанцавала і мне цалаваць рукі самых мілых істот на свеце — нашых жанчын.

Дзякуй вам, людзі! Яшчэ раз — тысячу раз дзякуй вам!

Без вас я — нішто».

Не думалі мы тады, што гэта адна з апошніх светлых падзей у жыцці Караткевіча. Пачаліся трывожныя дні. Хвароба Валянціны Браніславаўны ўскладнялася, тым болей што ёй няправільна паставілі дыягназ. За два месяцы зрабілі дзве аперацыі, апраменьванне. На нейкі час яна адчула сябе лепш і нават выйшла на працу.

20 лістапада 1980 года, калі на маё шасцідзесяцігоддзе сабраліся сваякі, сябры па Чэлябінску і Мінску, суседзі — я ў каторы раз падзівілася вытрымцы брата. У гэты вечар Валодзя прачытаў мне верш-прысвячэнне «Наташы ў яе шэсцьдзесят», які пасля ўвайшоў у першы том васьмітомнага Збору твораў Караткевіча.

Валодзевы радкі жывуць са мною і па сённяшні дзень. Я часта вяртаюся да іх і ў добрым настроі, і на самоце: чую Валодзеў голас, бачу яго вочы. І чым далей жыву без яго, тым больш адчуваю непапраўнасць страты.

Мой юбілей даў нам магчымасць сабрацца ўсім разам, на жаль, апошні раз...

На пачатку снежня Валі зрабілі трэцюю аперацыю, пасля якой надзеі на выздараўленне не засталося. Усё гэта ўплывала на Валодзю, стала пагаршацца і яго здароўе, пісьмовы стол пуставаў... Мы стараліся аберагаць яго ад розных цяжкіх думак, але рэчаіснасць аказвалася больш жорсткай за нашы суцяшэнні... Мне, папраўдзе, не верылася, думалася, што Валянціна Браніславаўна як-небудзь выкараскаецца. Прыйду я да яе ў лечкамісію, гаворым мы з ёю пра ўсё. Планавалі разам наведаць і яе маленькага ўнучатага пляменніка Арцёма, якому ў красавіку спаўняўся гадок. Валодзя наведваў Валю рэдка. У яго быў чамусьці страх перад медыцынскімі ўстановамі. Валя гэта добра разумела. Кожны дзень яны размаўлялі па тэлефоне. Раптам Валю нечакана выпісалі па той прычыне, быццам працэдуры ўсе зроблены і на два тыдні яна можа ісці дадому. А пасля — новы курс лячэння. На самой жа справе яе проста бессаромна выпхнулі з бальніцы, ведаючы пра яе безнадзейны стан. Потым, як у

нас заўсёды «потым», сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін вельмі абураўся і казаў: «Як можна было так абысціся з жонкай Уладзіміра Сямёнавіча?..»

Калі 23 лютага Валю прывезлі дадому і мужчыны ўзяліся за крэсла (ліфта ў нашым доме няма), каб аднесці яе наверх, Валя адмовілася катэгарычна: «Я сама ўзыду. Мне трэба прывыкаць хадзіць». Нават думкі не дапускала, што дажывае апошнія дні. Адпачываючы на пляцоўках, Валя здолела падняцца на пяты паверх, дзе вельмі пяшчотна і ласкава яе сустрэў Валодзя. Была худзенькая, рукі такія тоненькія — а ён іх усё цалаваў... Яе сяброўка і мая старэйшая дачка засталіся тут на ўсю ноч. А назаўтра з раніцы мне пазваніла Надзя, сказаўшы, што Валі зусім блага. Прайшло яшчэ тры дні. Валі пастаянна рабілі ўколы, да яе прыходзілі сябры, блізкія, калегі. Але тыя наведванні ўжо стамлялі. Тады я паспрабавала больш адкрыта пагаварыць з Валодзем. І пачула сумнае: «...я зусім не ведаў, што ўсё так сур'ёзна... Думаў, ну паляжыць Валя трохі ў бальніцы, падлечыцца...»

У ноч на 28 лютага 1983 года Валянціна Браніславаўна ва ўзросце 48 гадоў пайшла з жыцця.

З вечара, помню, у нас якраз засталіся яе сяброўкі: Іза Гатоўчыц, Люся Лапцэвіч, Марына Казлоўская, жонка Валінага брата Роза. Сядзелі на кухні, размаўлялі. Валодзю напаілі снатворным, каб ён хоць крыху заснуў. Ён і сапраўды зачыніў дзверы ў кабінеце, і мы думалі, што ён спіць. Але сон не браў... Я пайшла ў другі пакой, каб на якую хвіліну прылегчы самой. І тут як бы нешта мяне падняло. Адчыняю дзверы да Валі і бачу, што яна ўжо ўсё... Я запаліла свечку... І ў гэты момант з кабінета выйшаў Валодзя...

Лёсу было заўгодна, каб у той жа дзень вечарам не стала нашай цёткі Жэні, матчынай сястры, якая пераехала ў Мінск з Кіева. Ёй пайшоў 87-ы год, і апошнім часам яна жыла ў мяне. 23 лютага, калі Валя вярнулася з бальніцы дадому, у цёткі здарыўся інфаркт... Пра яе смерць Валодзю мы сказалі толькі на Паўночных могілках, пасля пахавання Валянціны Браніславаўны, калі падышлі да магілы маці і я сказала:

— Ну вось, мамачка, пахавалі мы Валю, а праз дзень і сястрычку тваю сюды прывязём.

Валодзя страпянуўся:

— Як?

— Ведаеш, Валодзя, цётка Жэня таксама памерла...

Ён як скамянеў усё адно... Я за яго страшэнна перажывала, столькі гора на яго адразу навалілася... Трэба сказаць, што і Саюз пісьменнікаў, і Акадэмія навук чула адгукнуліся на бяду Караткевіча і як маглі яго падтрымлівалі.

Цётку Жэню мы пахавалі 3 сакавіка побач з Валянцінай Браніславаўнай. Валодзю на пахаванне не бралі, толькі прывезлі яго да нас на вуліцу Адоеўскага развітацца і адвезлі назад дадому... Цяжкі час пачаўся для Валодзі...

## V. Ты ёсць на свеце (1983–1984)

Бог пайшоў. Жыццё ідзе пад кручу.
Але йдзі і не губляй спакой.
Ёсць замест прыватнай неўміручасці —
Бессмяротнасць нацыі тваёй...

Страціўшы Валю, Валодзя аказаўся ў разгубленым стане. Ва ўсім адчувалася абыякавасць да жыцця і дзіцячая бездапаможнасць. У сакавіку ён надумаў з'ездзіць у дом адпачынку «Сосны» на Нарач, але праз тыдзень вярнуўся. Адзінота даганяла паўсюль... Ён прыкметна аслабеў фізічна, і мы ўгаварылі яго легчы ў бальніцу, дзе за месяц Валодзя трохі, дзякуй Богу, падлячыўся і паздаравеў. Аднак надыходзіла лета, і заставацца ў кватэры сам-насам са сваімі думкамі было невыносна. Пажадана хоць на нейкі час змяніць умовы, крыху абстрагавацца ад цяжкіх жыццёвых рэалій. Усе разам мы пагадзіліся на тым, што Валодзю варта паехаць у Оршу. Там усё ж бацькоўская хата, сад, побач Дняпро, які ён вельмі любіў. Можа, гэтае вяртанне ў дзяцінства хоць часткова ўратуе ад душэўнай прыгнечанасці, паспрыяе самаадчуванню. Пляменніца з мужам падрыхтавалі Валодзю пакой з пісьмовым сталом, акно расчынялася прама ў сад, дзе стаялі два зручныя лазовыя крэслы і стол, за якім пры жаданні таксама можна было працаваць. Помню, 1 чэрвеня мы на зяцевай машыне паехалі ў Оршу. Але, вяртаючыся назад, адчувала я сябе сумна, нават заплакала: «Калі табе што спатрэбіцца, звані ў Мінск. Я прыеду і прывязу». Мы наўмысна нічога не бралі Валодзю для творчай працы. Вельмі хацелі, каб ён проста адпачываў у бацькоўскім двары...

А тут усё нагадвала яму школьныя гады і юнацтва: старыя рэчы, зробленыя яшчэ бацькавымі рукамі, сад, у якім і ён разам з бацькам саджаў некалі маленькія дубчыкі, а цяпер іх было не пазнаць — моцныя прыгожыя дрэвы. Ён з прыемнасцю хадзіў па агародзе, і яго захапляла, што гэтыя дванаццаць сотак не размеркаваны шчыльна на адны грады і цяплiцы, а ёсць і вольныя лапікі зямлі, дзе проста расце трава. Душа яго суцяшалася такой прыроднай натуральнасцю і пачувала сябе лягчэй.

Тым летам Валодзя амаль не працаваў і з двара асабліва нікуды не выходзіў, хіба што некалькі разоў на бераг Дняпра. Настолькі стаміўся маральна і фізічна, што яму, мабыць, не дужа хацелася з кім сустракацца. Трэба сказаць, Валодзя ўвогуле чамусьці не прымаў пасляваенную Оршу. І сам у гэтым прызнаваўся. Адбудаваная мураваная Орша здавалася яму чужой. У сэрцы жыла памяць пра ўтульны драўляны зялёны гарадок дзяцінства. І светлая мроя пра тыя шчаслівыя гады вельмі хвалявала. Асабіста я люблю Оршу і цяперашнюю, хаця там шмат перамянілася. Але ў Валодзі была іншая натура, іншае ўспрыманне жыцця.

Бацькоўскі дом саграваў яго ўспамінамі, супакойваючы змучаную душу. Большасць часу Валодзя праводзіў у садзе. Пісаў пісьмы, у асноўным адказваючы на спачувальныя лісты і тэлеграмы, якіх атрымаў вельмі шмат пасля смерці Валянціны Браніславаўны. Многа чытаў — я прывозіла яму «ЛіМ», часопісы, у доме дасюль заставаліся кнігі яшчэ з яго юнацтва, ён і іх праглядаў.

Я амаль штодня званіла ў Оршу. Ездзіла туды таксама кожны тыдзень. Неяк тэлефаную, Рая мне кажа: «Дзядзька сёння лавачку фарбаваў». Узрадавалася. Бо разумела, што ўсе гэтыя дробязі ў яго сітуацыі мелі вялікае значэнне: сведчылі пра вяртанне да рэальнага жыцця. Крыху пазней ён папрасіў мяне прывезці папку з вершамі для зборніка «Быў. Ёсць. Буду.», а таксама грошы (у мяне мелася даверанасць на яго ўклад). Ён вельмі любіў рабіць нам падарункі. У тое лета купіў пляменніцы сервант і сам быў задаволены гэтым, можа, нават больш, чым Рая.

Брат пакрысе выходзіў з крызісу, аднак давалася яму гэта няпроста...

У ліпені ў мяне атрымалася паехаць у Оршу на некалькі тыдняў. Я ўзяла з сабою ўнука Жэню, і мы разам адпачывалі там да канца жніўня. Пляменніца хадзіла на працу, а я старалася ва ўсім дапамагчы Валодзю. Асаблівы клопат — яго харчаванне. Апетыт у яго ўвогуле быў нікуды не варты, а цяпер і зусім сапсаваўся. І кожная гаворка пра ежу выклікала толькі раздражненне. Бывала, прыйду, калі ён сядзіць і чытае.

— Валодзечка, можна задаць пытанне?

— Задавай... *(Зычлівым голасам.)*

— Што мы сёння будзем снедаць?

Тут ужо ён не мог на мяне сердаваць... Вечарамі часта збіраліся ў садзе, пілі чай, успаміналі даваеннае жыццё. У пляменніцы быў сабака, даволі стары, звалі яго Тобс. Дык Уладзімір Сямёнавіч любіў паўтараць: «Сладко спит собака Тобас, снится ей во сне автобус». Ля хаты стаяла лаўка, дзе мы любілі пасядзець. І тут жа пад шалёўкаю завяліся чмялі. Яны ўсё каля нас лёталі, а Валодзя прасіў: «Вы ж хаця іх не спужніце, няхай вядуцца».

Паедзем у лес — ён абавязкова нешта цікавае знойдзе. І пра кожную травіначку раскажа, і пра кожную кветачку. І кожнае дрэўца ён шкадаваў, і кожнае кацянятка. Помню, калі мы адпачывалі ў Гаграх, усе сабакі яго ведалі і чакалі, пакуль ён выйдзе. Валодзя іх пастаянна карміў, прычым ежу несла звычайна маці. Ці яшчэ такі выпадак можна згадаць. Яго суседзі па кватэры завялі сабе сабаку. Здаецца, мармуровы дог, вялізны, прыгожы. І як толькі гэты сабака не хацеў заставацца дома адзін — яго прыводзілі да Караткевіча. Звоніць мне неяк Валянціна Браніславаўна: «Наташа, слухай, я так рада. У Валодзі з'явіўся такі апетыт, ён стаў добра есці». На самой справе аказалася, што ўсё нагатаванае жонкай Уладзімір Сямёнавіч скармліваў суседскаму мармуроваму догу...

У Оршы ў нас заўсёды вяліся каты, сабакі. Перад вайною, у 1941 годзе, дарэчы, жыў чорны кот. Потым прыбіўся яшчэ адзін, таксама чорны. Літаральна за тыдзень да пачатку вайны аднекуль прыйшоў трэці чорны кот. Пасля, у эвакуацыі, маці часта іх згадвала, як усё адно знак нейкі быў... Жывучы ў Мінску, Валодзя колькі разоў парываўся набыць сабаку ці ката. Але ўсё ж гарадскія ўмовы не надта спрыяльныя. Папершае. А па-другое, яны з Валянцінай Браніславаўнай часта ад'язджалі з дому то ў камандзіроўку, то ў экспедыцыю, то ў адпачынак. І шкада было б аддаваць жывёліну камусьці чужому... А аднойчы здарылася такая гісторыя. Валодзя быў яшчэ нежанаты, жыў з маці ў доме па вуліцы Чарнышэўскага. І калі яна ў чарговы раз паехала ў Оршу, дадумаўся з сябрамі прывесці на кватэру мядзведзя Пушчыка, якога здымалі тады на «Беларусьфільме» ў стужцы «Пушчык едзе ў Прагу». Яны яго і ў ванне памылі, і спаць паклалі. Так што... хапала розных прыгод.

Я ўжо згадвала, што, бываючы ў бацькоў на студэнцкіх канікулах, Валодзя любіў працаваць у сваёй «рэзідэнцыі» (гарышча бярвенчатай пунькі, якая стаяла ў двары). І абавязкова браў з сабою ката, каб той, супакойваючы, муркаў пад бокам. Але ў апошні яго прыезд у Оршу каты чамусьці не муркалі. Ён іх лашчыў, гладзіў, а яны — ніякай рэакцыі. Валодзя ўсё дзівіўся, чаму кот не муркае, пра што пісаў і ў лістах да сваёй знаёмай масквічкі-акіянолага М. І. Канстанцінавай: «...Чтоб Вам интересно и весело было жить (когда интересно — тогда и здоровья прибавляется), и чтобы кошка Матрешка распевала Вам по вечерам хорошие песни. Вот Вы не верите, а в Орше действительно завелась такая династия котов, которые не мурлыкают. И ничего нельзя сделать — гены. Я два поколения котят старался воспитать как надо — дудки! Его гладишь, а он в игру с царапаньем, причем всерьез...»

Тут варта расказаць, як нечакана і дзіўна лёс звёў Уладзіміра Сямёнавіча з Марыяй Іванаўнай Канстанцінавай. У сямідзесяцігадовым узросце яна перажыла асабістую драму. Здарылася так, што яе муж, таксама вучоны-акіянолаг, прафесар, з якім яны разам прайшлі ўсё жыццё, знайшоў сабе другую жанчыну. Матэрыяльна ён па-ранейшаму забяспечваў Марыю Іванаўну, і яна ні ў чым не мела нястачы, але здрада мужа сталася для яе такім маральным ударам, што жанчына нават пачала думаць, каб пайсці з жыцця. Дзяцей у яе не было, заставалася толькі кошка Матрошка... Як чалавек адукаваны, Марыя Іванаўна працягвала шмат чытаць, сачыла за літаратурнымі навінкамі. І якраз у той час знаёмая кіяскёрка прапанавала ёй часопіс «Нёман», дзе друкаваўся пачатак аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». «Кароль Стах» зрабіў добрую справу — уразіў Марыю Іванаўну настолькі, што яе думкі пра марнасць жыцця сплылі самі сабою. Да таго ж ёй хацелася дачакацца канца твора. Прачытаўшы аповесць цалкам, Марыя Іванаўна напіса-

ла Караткевічу ліст з падзякай за выратаванне. На адказ і не разлічвала. Але Уладзімір Сямёнавіч не мог не адгукнуцца на такі крык душы. Праз некаторы час Марыя Іванаўна атрымала ад яго пісьмо, з якога паміж імі ўсталявалася цікавая перапіска (лісты У. Караткевіча да М. І. Канстанцінавай надрукаваны ў часопісе «Маладосць», 1990, № 11).

Марыя Іванаўна аказалася глыбокім чалавекам, удумлівым субяседнікам. Потым высветлілася, што яе радзіма — Арэнбург (Чкалаў). У Валодзі з тымі мясцінамі таксама звязаны ўспаміны пра ваеннае дзяцінства. Марыя Іванаўна часам званіла Караткевічам, але, трэба падкрэсліць, не назаляла сваім сяброўствам. Ёй заўжды хацелася зрабіць Уладзіміру Сямёнавічу штосьці прыемнае. Таму і дасылала яму розныя падарункі: марскія ракавінкі, грабеньчыкі, вельмі цікавую рукапісную музычную кнігу. Валодзя, помню, нешта і спяваў з яе. Зараз кніга знаходзіцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Калі Караткевіч захварэў, Марыя Іванаўна купляла для яго на базары на Вераб'ёвых гарах лімоны, курагу, інжыр, чарнасліў. Валодзя адпраўляў ёй свае кніжкі з аўтографамі, беларускія сувеніры. У жыцці яны, праўда, так ні разу і не пабачыліся. Я, калі была ў Маскве, заходзіла да Марыі Іванаўны: яна вельмі даражыла сяброўскімі адносінамі з Караткевічам і моцна перажывала яго раннюю смерць. На пахаванне не прыязджала, лічыла, што ёй і не трэба ехаць. Але на саракавіны, 3 верасня 1984 года (яна мне пасля расказвала), не спала, чакала чатырох гадзін раніцы, каб развітацца з Уладзімірам Сямёнавічам.

Вяртаючыся да іх перапіскі, хачу дадаць, што Марыя Іванаўна звычайна нагадвала Валодзю ў сваіх пісьмах, што ў той час, калі яна піша яму ліст, на каленях муркае кошка Матрошка. А Караткевіч з абурэннем адказваў, што ў Оршы цяперашнія каты не муркаюць...

Тым летам хадзілі мы з Валодзем на могілкі да бацькі. Яму так хацелася. Прыязджаў мой зяць на машыне — разам аб'язджалі ўсё наваколле. Колькі нам Валодзя расказваў пра мінуўшчыну Аршаншчыны! Веды ў яго, што і казаць, фенаменальныя. Канечне, не ўсё выглядала так хораша на самай справе, як магло падацца. Валодзю, акрамя душэўных пакут-перажыванняў, мучыла яшчэ і ранейшая хвароба страўніка. Ён трымаўся як толькі мог, але я разумела, што брату цяжка. Да яго прыязджалі сябры, яму дасылалі лісты. Ён быў у курсе ўсіх спраў... За тое лета Валодзя прывык да Оршы. Тут у яго адбыўся ўнутраны пералом на лепшае, і, як мне здавалася, назад, у сталіцу, ён не дужа рваўся. Але прыйшлі халады, і пятага снежня Валодзя вярнуўся ў Мінск. Мы з Іванам Мікалаевічам вырашылі, што пакуль пажывём разам з ім, каб не пакідаць Валодзю ў адзіноце. І рабілі ўсё дзеля яго добрага самаадчування, але яму горшала. Некалькі гадоў таму Валодзю паставілі дыягназ: цыроз печані. І ўсё ранейшае лячэнне праводзілася менавіта адпаведна

гэтай хваробе. Але, як аказалася, не давалі яму спакою болі ў страўніку. Трэба было неадкладна класціся ў стацыянар на абследаванне, ды Валодзя чамусьці адцягваў, спадзяваўся, што пройдзе...

На дварэ стаяў люты 1984 года. Набліжалася гадавіна смерці Валянціны Браніславаўны і цёткі Жэні. Параіўшыся з хворым Валодзем, што будзем адзначаць па хрысціянскім звычаі, пачалі паціху рыхтавацца. Але лёс распарадзіўся інакш...

25 лютага Валодзю вельмі пагоршала. Якраз прыйшла мая Надзя, сядзела каля яго, размаўляла з ім. Раптам выходзіць да мяне на кухню:

— Мама, дзядзьку зусім дрэнна. Выклікай «хуткую» неадкладна.

Я так і зрабіла, хаця сам Валодзя пярэчыў.

Прыехала «хуткая». Гадзін восем вечара, урач — жанчына. Не ведаю я яе прозвішча і ведаць не хачу. Паглядзела на Валодзю, змерала яму ціск. А ён у яго ўжо недзе 60 на 40. Яна нават сама спужалася: «Ой!» Тым не менш аднеслася да гэтага несур'ёзна.

Я вывела яе ў другі пакой ды кажу:

— Можа, яго трэба ў бальніцу забраць? Вы ж бачыце, становішча крытычнае...

— У бальніцу трэба, але ў нас няма месцаў.

— Што вы ў такім разе прапануеце? Пакінуць яго дома? А чым мы яму тут дапаможам?

— ...

Праўда, для адводу вачэй, яна набрала нейкі нумар, каб прадэманстраваць нам сваю «заклапочанасць», а хутчэй — дзеля ўласнага супакаення: «Месцаў няма!» Яшчэ, дарэчы, сказала, што «больного некому нести, и вообще вы должны обратиться к своему врачу». Калі я нагадала ёй, што ўжо дзевятая гадзіна вечара і ўсе паліклінікі зачынены, яна «міласціва» прапанавала выклікаць другую «хуткую дапамогу» з наступнай змены, бо ў іх зараз перазменка. З тым і паехала...

Што рабіць? Куды кінуцца? У адчаі разгубілася... Тут зайшлі Валодзевы суседзі — Ніна са Славам Адамчыкі. Параілі пазваніць Законнікаву. Я ўхапілася за гэту думку, бо ведала, што Валодзя з ім сябраваў і калі ў Сяргея Іванавіча ёсць хоць маленькая магчымасць — ён абавязкова дапаможа. Тым больш ён жа на той час быў, як кажуць, каля ўлады...

Тэлефаную. Сяргей Іванавіч здымае трубку: «Наталля Сямёнаўна, рады чуць. Што здарылася?» І я пра ўсё яму расказала. Як «хуткая» прыязджала, як не ўзялі Валодзю ў бальніцу, а яму зусім дрэнна. На што Сяргей Іванавіч мне тут жа адказвае: «Наталля Сямёнаўна, чакайце майго званка». І дзесяць хвілін не прайшло — ён перазваніў. Сказаў, што размаўляў з начмедам лечкамісіі, які вельмі абураны гэтай сітуацыяй, бо Уладзіміра Сямёнавіча ў такім стане трэба неадкладна забіраць у рэанімацыю, і зараз прышлюць машыну, чакайце. Толькі мы пагаварылі,

прыязджае «хуткая дапамога», але Валодзя супраціўляецца: «Я не паеду. Можа, заўтра?» Аднак Іван Мікалаевіч, мой муж, хоць таксама расхваляваны, выказаўся цвёрдым тонам: «Валодзя, заўтра можа не быць. Паедзем сёння». Я выйшла ў другі пакой, чуючы Валодзеў крык: «Натулечка, выратуй мяне. Не аддавай у бальніцу». Ад такіх слоў сэрца ў каго хочаш забаліць, але я разумею, што ехаць неабходна...

Так Караткевіч апынуўся ў рэанімацыі. Назаўтра ўсялякімі праўдамі і няпраўдамі мне ўдалося патрапіць да яго. Выглядаў Валодзя дрэнна. Стан па-ранейшаму быў цяжкі. Праз дзень нам выпісалі пропуск, і раз у суткі мы маглі яго наведваць. Хадзілі звычайна вечарам. І пастаянна нас чакалі нейкія сюрпрызы. Напрыклад, сёння адзін урач сказаў прынесці баржомі, прыносім назаўтра, нам кажуць: баржомі ні ў якім разе... Вось і круціліся, знаходзілі ўсё, што толькі раілі. І ўвесь час я верыла, што Валодзя пераможа хваробу, бо вельмі спадзявалася на гены Грынкевічаўдоўгажыхароў. Хаця многія, у тым ліку і ўрачы, лічылі, што ў яго няма шанцаў...

Неяк Валодзя папрасіў мяне прынесці яму гадзіннік і кніжку. Аднак жа — рэанімацыя... Пытаюся ў доктара: «Ці можна?» — «Прынясіце». Але чытаць ён, канечне, не мог. І ляжала тая кніжка без справы. Ці, бывала, адыходзячы, абіраю яму апельсін, даю дольку-дзве і прашу няню, каб яна падала астатнюю частку на ноч і зранку. Прыходжу назаўтра — апельсін мой засох, ніхто яму нічога не даваў... Зноў пачынаю спачатку.

Потым Валодзю зрабілі біяпсію. Я падышла да яго ўрача Івана Ягоравіча. Пагаварылі мы з ім, а напаследак я пытаюся: «Іван Ягоравіч, ці чытаеце вы па-беларуску?» — «Так-так, канечне».— «Вы нічога не маеце супраць, калі я прынясу вам адну з кніжак Уладзіміра Сямёнавіча? Праўда, зараз ён вам падпісаць яе не можа, але пасля абавязкова падпіша».— «Не спадзявайцеся, Наталля Сямёнаўна...» — «Гэтага не можа быць!..»

І я пайшла дадому. А Івану Ягоравічу ўсё-такі прынесла «Чорны замак Альшанскі».

Прайшло два тыдні. Званю Івану Ягоравічу чарговы раз: «Як нашы справы?» — «Уладзімір Сямёнавіч ляжыць і чытае дэтэктыў».— «Што?!» — «Я не ведаю, ці ўсё ён там разумее, але — чытае!» — «А я што казала? Кніжку сваю ён вам падпіша!»

Вечарам прыйшла, а Валодзя мне: «Есці нясі!» Ну, дзякуй Богу. З вялікай радасцю запякала яму ў духоўцы і курыцу, і рыбу ў фользе, пякла піражкі, а што да любімай бульбы — то па самых розных рэцэптах... Гэта, мусіць, быў адзіны выпадак на маёй памяці, калі Валодзя добра еў, усё яму падабалася. І ён нават хваліўся ўрачам, як смачна яго кормяць. Галоўны ўрач пацікавілася ў мяне, што мы яму носім з ежы. Але ўсе стравы былі дыетычныя, так што супраць доктар нічога не мела.

А цяпер маленькае адступленне. Незадоўга да таго, як Валодзю паклалі ў бальніцу, да нас заходзіў Аляксей Марачкін. Ён збіраўся ў Маскву і перапытаў у Валодзі, што яму адтуль прывезці. Караткевіч заказаў сыр ракфор, купіць які ў Мінску было нельга. Прывёз Аляксей сыр, а Валодзю ўжо не да ракфору. Сыр гэты мае спецыфічны пах, і мы з Іванам Мікалаевічам яго не любім. Ляжаў гэты прадукт яшчэ доўга, пакуль я не аддала яго суседцы. Але тут Валодзя раптам успомніў і папрасіў майго мужа прынесці бутэрброд з ракфорам. «Які сыр? Наталка яго даўно аддала». Што было! Іван Мікалаевіч перапалохаўся: «Валодзя, не крычы! Нас жа не пусцяць больш да цябе». Прыходзіць дадому і расказвае мне. Я на яго месцы, вядома, прамаўчала б, а пасля нешта прыдумала. Але ж мужчынская дыпламатыя іншая... Тэрмінова тэлефаную ў Маскву сваякам, прашу неадкладна купіць ракфор і выслаць. Праз два дні мы атрымалі бандэроль. Але яшчэ пад вечар таго ж дня мяне выручыла суседка. Яна, аказваецца, частавала сваю сваццю ракфорам, і ў тае скрылік застаўся. Панесла я Валодзю бутэрброд, на яго запытальны пагляд адказала яму: «Валодзя, ну што ты так расхваляваўся? Ваня не ведаў, што я Ніну толькі пачаставала (а супраць гэтага ён ніколі не быў). Але калі б я нават і аддала ўвесь сыр, хіба можна так не стрымліваць сябе?..» Ранейшы гнеў ужо мінуў, і на мае словы ён пагаджальна паківаў галавою...

На дзевятнаццаты дзень Валодзю з рэанімацыі перавялі ў аддзяленне, і тут ён зноў папрасіў Івана Мікалаевіча прынесці яму... на гэты раз папяросы. Муж абураўся: «Як можна? Амаль тры тыдні не курыў — вытрымаў. А цяпер зноў спачатку!..» Я моўчкі ўзяла два пачкі любімага Валодзевага «Беламору» і пайшла ў палату:

— Валодзечка, ты прасіў — калі ласка, трымай. Толькі я на тваім месцы падумала б, ці так ужо гэта неабходна?..

Ён, канечне, мяне не паслухаўся. Але курыў, можна сказаць, амаль сімвалічна. Запаліць цыгарку і трымае ў руцэ, пакуль тая не патухне. Пакладзе, новую возьме. Такое было гэтае яго курэнне...

Пакуль Валодзя хварэў, з Кіева прыйшло пісьмо ад аднакурсніцы Музы Яўгенаўны Сняжко (Залеўскай) і запрашэнне на сустрэчу іх курса з нагоды 30-годдзя заканчэння універсітэта. Прынесла ліст у бальніцу. Валодзю прапаноўвалася запоўніць анкету і выслаць яе разам з дваццаццю рублямі на адрас Музы Яўгенаўны. Ён вагаўся, ці паправіцца да таго часу? Кажу: «Анкету запаўняй, пашлём. Грошы — таксама. Зможаш паехаць, паедзеш. Не зможаш — адказы твае прачытаюць аднакурснікі, а 20 рублёў пойдуць на карысць усёй грамадзе». Пагадзіўся. Трэба сказаць, ён наогул любіў параіцца з блізкімі: і з маці, і з Валяй. Маме казаў у такіх выпадках: «Маменцыя, што мне рабіць?» Ці яшчэ помню, выйшаў з друку яго раман «Чорны замак Альшанскі». Валі ўжо не было, Валодзя кліча мяне ў кабінет. Перад ім ляжыць спіс, каму трэба падараваць

кнігу. «Як ты думаеш, Наташа, таму і таму падпісаць мне кніжку?» І так амаль па ўсіх пытаннях ён абавязкова запытае парады. А як потым зробіць — гэта ўжо будзе бачна яму самому.

Адправілі мы тады яго анкету і грошы ў Кіеў. Анкету я перапісала, Валодзя не любіў друкаванае, яно здавалася яму казённым (рукапісы — канечне, само сабою, а іншае што — лепш рукою, цяплей неяк). Муза Яўгенаўна потым згадвала, што ўсе аднакурснікі-кіяўляне пыталіся ў яе, ці прыедзе на сустрэчу Валодзя Караткевіч? І ўсе вельмі ўзрадаваліся, што ён адным з першых адгукнуўся на запрашэнне.

Пасля рэанімацыі Валодзя праляжаў у аддзяленні не больш тыдня. Прыходжу ў чарговы раз.

— Наташа, заўтра мяне выпісваюць.

— Як выпісваюць? А рэнтген страўніка табе рабілі?

— Не.

— А наогул абследаванне?

— ...

Ніхто яму нічога не рабіў. Ці не палічылі патрэбным, ці ён сам пярэчыў? Гэтага ўжо я не ведаю.

Быў канец сакавіка, надвор'е стаяла нядрэннае, і радаваўся Валодзя, што вяртаецца з бальніцы, як малое дзіця...

Час паціху спрыяў аздараўленню Валодзі. Ён штодня хадзіў на вуліцу. Напачатку з Іванам Мікалаевічам, потым — адзін. І калі апранаў сваю сінюю куртачку, я клала яму ў адну кішэню яблык, у другую — шакаладную цукерку, каб мог перакусіць. А Валодзя браў з сабою кнігу ці часопіс і ішоў у Цэнтральны сквер, непадалёк ад дома, садзіўся на лавачку ля фантана «Хлопчык з лебедзем» і чытаў. Праўда, не шмат ён там чытаў. Вельмі хутка ўгледзелі яго артысты-купалаўцы (тэатр жа таксама побач!), і кожны раз то адзін, то другі падыходзілі да Уладзіміра Сямёнавіча пагутарыць. Трохі пазней мастакі запрасілі яго на адкрыццё новай выставы ў Палац мастацтваў, дзе ён сустрэў шмат знаёмых і вярнуўся вельмі задаволены. Паступова пачало заўважацца, што ў Валодзі зноў з'яўляецца цікавасць да жыцця. Ён, дарэчы, цаніў і нашы клопаты пра яго і проста не ведаў, чым аддзякаваць. Прыйдзе ў пакой, пытаецца: «Можа, вам кавы зварыць?» — «Звары, калі ласка». Ён зварыць каву, я, напрыклад, у гэты час газету чытаю, прынясе кубачак, паставіць. Калі хадзіў у выдавецтва ў Дом кнігі — па дарозе фірменны магазін «Рамонак», абавязкова зойдзе, купіць мне цукерак дыябетычных, яшчэ што-небудзь смачнае прынясе...

20 красавіка мы з ім паехалі ў санаторый «Аксакаўшчына». Нам далі пуцёўкі на дзесяць дзён: Валодзю — рэабілітацыйную, мне — за грошы. Адпраўляць яго аднаго, яшчэ хворага, не хацелася. Лячэнне яму, праўда, ніякае не прызначалі, абмежаваўшыся толькі адпачынкам. Што

ён спраўна і рабіў. Кожную раніцу пасля снедання хадзіў у парк — якая там прыгажосць! А паветра лясное чыстае! Якраз толькі пачалі з'яўляцца першыя пралескі, і Валодзя прыносіў іх мне пасля кожнай прагулкі. Ну, а я ўжо круцілася — то масаж, то ванна, то іншыя працэдуры — хацела. каб за дзесяць дзён мяне адрадзілі нанова...

Наведвалі нас там часта. Быкавы прыязджалі, перакладчыца В. Шчадрына з Масквы, В. Ляшковіч з Маладзечна разам з прыхільнікамі творчасці Караткевіча, народныя ўмельцы з Івянца. Усе з радасцю адзначалі добры настрой Уладзіміра Сямёнавіча, прывозілі падарункі (частка з іх цяпер знаходзіцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры). Прыходзіла мастачка В. Дзёмкіна разам са сваім бацькам, яны насупраць Аксакаўшчыны жылі, прыносілі нам сырадой. Так што ўвесь гэты час Валодзя быў сярод людзей.

Напярэдадні Першага мая мы вярнуліся дамоў. Пакуль Валодзя адпачываў, знаёмыя засумавалі, што не сустракаюць яго больш ля фантана «Хлопчык з лебедзем». Цяпер штодзённыя прагулкі зноў аднавіліся. Увогуле, я б сказала, пасля паездкі ў Аксакаўшчыну жыццё пайшло трошкі весялей. Валодзя пачаў працаваць. Тады ж упарадкаваў і сваю хатнюю бібліятэку — на кожную кнігу паставіў экслібрыс. Мы з мужам яму дапамагалі, падаючы кніжкі. Іван Мікалаевіч, дарэчы, прапанаваў скласці каталог, але Караткевіч не пагадзіўся: «У мяне ўвесь каталог у галаве. Я ўсё помню, дзе што ставіў...»

Любіў Валодзя той вясною хадзіць са мной і на базар: я выбіраю што патрэбнае з прадуктаў, а ён асобна ходзіць, размаўляе з людзьмі, слухае вясковую гаворку. Яму дужа падабалася — усё ж у тыя гады на Камароўцы быў своеасаблівы нацыянальны каларыт. Там чулася мова фактычна з усіх куточкаў Беларусі. Відаць, Валодзя нешта для сябе запамінаў ці нават запісваў. Перад тым як разысціся, мы з ім звычайна дамаўляліся, дзе і праз які час сустракаемся, каб разам ехаць дамоў. Аднойчы я прыходжу на месца сустрэчы, стаіць Валодзя, чакае мяне, а побач з ім — бутля-аплятанка на 50 літраў. І ён мне кажа:

— Наташа, глядзі, што я купіў!

— А навошта яна табе? — не разумею я.

— Ой, дзядзька, што прадаваў, вельмі прасіў, яму так грошы патрэбны былі. Дык я і купіў...

У гэтым учынку — увесь Караткевіч. Або яшчэ адзін прыклад. Апошнім часам яму шмат званілі. Многія ведалі, як цяжка ён хварэў, і, мусіць, хацелі падтрымаць яго маральна. Значыць, раздаецца званок, Валодзя здымае трубку і абавязкова пытаецца, хто звоніць: «Вы ж ведаеце — я не пазнаю голасу па тэлефоне». Я неяк усё ж не вытрымала: «Як гэта ты не пазнаеш голас?» Смяецца: «Ты думаеш, я сапраўды не пазнаю? Я

проста хачу, каб мне адрэкамендаваліся. Мне так падабаецца...» На ўсё ён рэагаваў па-свойму, неардынарна, непрадказальна...

Калі не працаваў, то чытаў. І чытаў шмат. Акрамя кніжак абавязкова беларускія часопісы: «Маладосць», «Нёман», «Полымя», а таксама — «Англию», «Америку», «Вокруг света», «Науку и жизнь», рускія мастацкія часопісы, як правіла — «ЛіМ», «Литературную газету». Ён заўсёды выпісваў безліч перыядычных выданняў. Вечарам глядзеў тэлевізар. Асабліва падабаліся яму мульцікі, але не любіў чамусьці музычных фільмаў (аперэт), не прапускаў інфармацыйную праграму «Час». Пасля якой, калі больш нічога не цікавіла, ішоў у свой кабінет і чытаў. Гадзіна ночы — ён чытае, дзве — шчыліна пад дзвярыма свеціцца. Чытаў звычайна далёка за поўнач. Праўда, з раніцы спаў. Так што адно другім кампенсаваў. Пакуль устане, мы з мужам паспеем і паснедаць, і ў магазін схадзіць.

Увогуле, апошнім часам Валодзя быў вельмі дамашні. Мы з ім столькі размаўлялі, столькі згадвалі пра самыя розныя перыяды нашага жыцця. Як быццам ён прадчуваў, што на гэтай зямлі яму засталося ўжо няшмат...

Неўпрыкмет надышла і другая палова чэрвеня. Валодзя сур'ёзна думаў пра паездку ў Кіеў. Рыхтаваў усім сувеніры, а ў асноўным — свае кнігі і буклеты. Цяпер ён часта хадзіў у выдавецтва, у кнігарні, на выставы. Сустракаў там знаёмых, купляў кнігі. Аднойчы з мастацкага салона прынёс два нацюрморты і пейзаж Г. Ціхановіча. Быў вельмі задаволены сваім набыткам (гэтыя карціны вісяць у нас і цяпер). Перад паездкаю мы купілі яму ў «Ивушке» новы плашч і чаравікі. Пазваніў Валодзя і ў Кіеў, прасіў, каб яму заказалі асобны нумар у гасцініцы. Цікавіўся, ці запрасілі Лідзію Арсеньеўну Панамарэнка, якая выкладала на іх курсе літаратуру народаў СССР і з якой у Валодзі захаваліся сяброўскія адносіны на ўсё жыццё. Лідзія Арсеньеўна, дарэчы, прыязджала ў Мінск пасля смерці Уладзіміра Сямёнавіча, на яго саракавіны...

Па ўсім адчувалася, што Валодзя сустрэчы з аднакурснікамі чакае. Я назірала, з якою ахвотаю ён збіраўся, як хацелася яму зноў патрапіць у горад сваёй маладосці... Прапанаваў нават мне паехаць разам, але я адмовілася. Была б Валянціна Браніславаўна... Адным словам, узялі мы яму білет, правялі ў аэрапорт і сталі чакаць вяртання. Праз чатыры дні, першага ліпеня, Валодзя прыляцеў дамоў. Убачыла яго, і сэрца ў мяне раптам сціснулася. Нешта ў ім перамянілася, хаця знешне ўсё выглядала быццам на добры лад. Але нейкае прадчуванне з'явілася ўжо тады...

З Украіны Валодзя прывёз усім сувеніры: шкатулкі, размаляваныя лыжкі. Праўда, пра самую паездку расказваў няшмат. Панаракаў толькі, што фізічна вельмі стаміўся. Аднак сустрэчай з Кіевам, з аднакурснікамі быў вельмі ўсцешаны...

Так мы дажылі да ліпеня. Бралася на сярэдзіну лета. Валодзя параненйшаму хадзіў у сквер, да фантана, мала-памалу рабіў свае справы: нарэшце менавіта сёлета выпадала здзейсніць даўнюю мару — адправіцца ў падарожжа па Прыпяці. Гэту думку яны выношвалі ўтрох: Уладзімір Сямёнавіч, фотажурналіст Валянцін Ждановіч і мастак Пятро Драчоў. (Першы раз Валодзя быў на Палессі разам з В. Ждановічам у 1969 годзе, пасля чаго з'явілася яго эсэ «Званы ў прадоннях азёр».) Пазней ажыццявіць даўнія намеры вандроўнікам перашкаджалі розныя абставіны, але зараз яны цвёрда вырашылі — больш падарожжа не адкладаць. Адзінае, чаго не ведалі пакуль, на чым плысці? Праўда, тут нечакана пашанцавала. Тагачасны дырэктар Вязынскага музея-запаведніка Янкі Купалы Леанід Тарасавіч Хадкевіч запрасіў Уладзіміра Сямёнавіча на Купалаўскія святы ў Вязынку. Валодзя з-за хваробы доўгі час не ўдзельнічаў ні ў якіх літаратурных сустрэчах, таму на прапанову Хадкевіча адгукнуўся з задавальненнем і не пашкадаваў. Свята, як заўсёды, прайшло хораша, і ў размовах з Леанідам яшчэ высветлілася, што той можа дапамагчы. Так падарожнікі атрымалі надзіманы плыт з палаткай, і пачалася актыўная падрыхтоўка. Валодзя склаў спіс, што я павінна яму купіць: якую конаўку (хоць іх у хаце — не пералічыць!), якія лекі, якую каву-гарбату і шмат іншых дробязей: паперу, блакноты, некалькі шарыкавых ручак (дома ён звычайна карыстаўся чарнілам). Пасля хлопцы расказвалі, што ручкі тыя дрэнна пісалі і Уладзімір Сямёнавіч з абурэннем кідаў іх у Прыпяць. З антрэсоляў дасталі вуды, спальнік. Усё было гатова. Мяне нават здзівіляў і крыху палохаў той энтузіязм, той уздым, з якім Валодзя збіраўся. На яго гэта неяк і непадобна было. І ўжо ў самы апошні момант (відаць, хвароба не адпускала) ён раптам... завагаўся, засумняваўся: ці патрэбная гэтая паездка?..

Тым не менш ужо была аформлена камандзіроўка ў часопісе «Маладосць», дзе Караткевіч, дарэчы, часта друкаваўся і які вельмі любіў. І вось 12 ліпеня з самага ранку да нас прыехалі на машыне Валянцін Ждановіч, Пятро Драчоў і іх сябра Юрый, якому даручалася прыгнаць «Ніву» назад у Мінск. Караткевіч яшчэ спаў. Я разбудзіла яго. Ён падняўся, папіў трохі кавы. Перакінуліся мы нейкімі нязначнымі словамі. Потым, праўда, ён паклікаў мяне ў кабінет: «Наташа, вось тут ляжаць грошы і ашчадная кніжка,— і паказаў на кніжную шафу.— Гэта няхай будзе нам на помнікі». Я засмяялася: «Валодзя, нешта я не хачу помніка. Хай лепш грошы ляжаць...» І мы з ім пайшлі ў двор. Сеў ён у машыну, толькі выгляд у яго быў чамусьці засмучаны... Хлопцы тым часам складвалі рэчы. Нарэшце ўсё гатова, паехалі. І тут мне сумна так стала, па-сапраўднаму сумна... Перад вачыма — Валодзя, як ён сядзеў у машыне. Пацалаваўся са мною на развітанне, сказаўшы Драчову: «Пеця, пацалуй маю сястру!» Быццам жартам, але жарту таго не атрымалася...

Не ведала я, што бачу Валодзю апошні раз. Мы спадзяваліся, можа, падарожжа развее яго змрочныя думкі, надасць сілы, падбадзёрыць... А насамрэч аказалася, што Валодзя паехаў развітацца і з Прыпяццю, і з усёй Беларуссю... Як і чэрвеньская паездка ў Кіеў сталася для яго развітаннем з маладосцю...

Мы з Іванам Мікалаевічам і ўнукам Жэнем адправіліся ў Оршу. Валянцін Ждановіч пры нагодзе тэлефанаваў маім дочкам у Мінск, гаварыў ім, як адчувае сябе Валодзя. Дочкі трымалі мяне ў курсе спраў. Спачатку навіны былі суцяшальныя — Валодзя нават купаўся. Праўда, я падумала, ну, якое там купаўся? Можа, паплюхаўся трохі, але і яно добра...

20 ліпеня я званю ў Мінск і даведваюся, што Валодзя дома. Яму стала блага, і сябры не рызыкнулі плысці далей. На сустрэчнай ракеце Валянцін з Валодзем вярнуліся ў Тураў, а Пятро заставаўся з плытом на рацэ. У Тураве жонка В. Клакоцкага, арнітолага Прыпяцкага дзяржаўнага запаведніка, з якім яны сябравалі і дзе заўсёды спыняліся, заварвала Валодзю зёлкі, каб яго падтрымаць. Тады трохі палепшала і Валодзя нават прапанаваў працягваць падарожжа. Але Ждановіч усё ж выклікаў машыну, каб ехаць у Мінск, бо адчуваў, што адкладваць нельга. Прывезлі Валодзю дадому, ён апекаваўся маімі дочкамі, а Ждановіч вярнуўся назад да Драчова на Прыпяць, каб завяршыць пачатую справу. Уладзімір Сямёнавіч настойліва прасіў яго пра гэта. Тым больш што сам ён пачуваўся цярпіма. Але тое трывала нядоўга.

Ноччу 21 ліпеня ў Караткевіча пачаўся кішэчны крывацёк. Забралі ў бальніцу, дзе крыху палягчэла. У лекавым аддзяленні яго пастаянна наведвалі то Надзя, то Лена. Праз два дні, 23 ліпеня,— рэзкае пагаршэнне і Валодзю перавялі ў рэанімацыю. Мяне тэлеграмай выклікалі з Оршы, але сустрэцца нам ужо не выпала... Я прыехала 24 ліпеня позна вечарам, амаль ноччу, а раніцай 25-га пазванілі з бальніцы, што ў 4 гадзіны Уладзіміра Сямёнавіча не стала...

Нельга выказаць, што адчулі ў той момант усе мы, яго блізкія. Здавалася, час спыніўся... Я дранцвела ад думкі, што мне выпадае хаваць малодшага брата, які так любіў жыццё і бласлаўляў яго беларускім словам...

Спачувальныя тэлеграмы ішлі адусюль: з Масквы, Ленінграда, Сібіры, Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі... І ў кожнай — смутак па сябру, пісьменніку, які заўчасна пайшоў з жыцця... Мая страта была несуцяшальная, я згубіла найперш брата...

На пахаванне Уладзіміра Сямёнавіча прыйшло шмат мінчан, прыехалі землякі з Оршы, з Віцебска, артысты Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа, прадстаўнікі Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта імя Т. Шаўчэнкі. Ува ўсім адчувалася непадробная жалоба. Але гэта як быццам абмінула мяне. Я мала што памятаю. З тых ліпеньскіх дзён час падзяліўся для мяне на два вымярэнні: да смерці Валодзі і пасля...

Цяпер, праз гады, відавочна прысутнасць у нашым жыцці Караткевіча-мастака. Яго душа, выказаная ў слове, адтуль, з нябёсаў, нагадвае свайму чытачу пра самае ва́жнае: чалавечую любоў і годнасць, адданасць роднаму Краю...

*1 жніўня 1993 года — 31 ліпеня 1996 года*

* * *

Радок бяззбройны і бясспрэчны
Слабым — адзіна верны шчыт.
І не знікаць Паэтам вечна,
У вечнай Песні жывучы.

Калі пайду з юдолі гора,
Не скончыўшы найлепшы сказ,
То божы свет мяне паўторыць,
Як паўтараў ужо не раз.

Як моры, зоры і азёры,
Якія ў вечнасць забяру.
Свет шчодры.
Свет мяне паўторыць...

Ну, а не свет,
дык Беларусь.—
Мне — досыць...

## Ізабела Гатоўчыц

# Спакоранасць перад талентам



У самым канцы 70-х, калі ў жыцці грамадства прыкметна паслабеў, але ўсё ж лунаў яшчэ вольны дух хрушчоўскай адлігі, у Акадэміі навук БССР нарадзілася адна з лепшых яе гуманітарных ідэй. Было вырашана правесці своеасаблівую інвентарызацыю з абавязковым навуковым апісаннем усіх помнікаў гісторыі і архітэктуры, манументальных твораў скульптуры і жывапісу, у тым ліку і найбольш каштоўных храмавых аб-

разоў. Загад пра стварэнне аддзела падпісалі 19 кастрычніка. Наперадзе чакала па-сапраўднаму цікавая доследная работа. Шукаць звесткі ў архівах, у кнігах, магчымасць убачыць у самых далёкіх ад сталіцы раёнах малавядомыя цэрквы і касцёлы, палацы і замкі, старыя млыны і фальваркі — гэта вам не заходнюю буржуазную думку выкрываць (як тады вялося), не маючы нават доступу да першакрыніц.

Калектыў таксама склаўся адпаведны: маладыя, а галоўнае — захопленыя справай. Пачаліся экспедыцыі, побытавы дыскамфорт якіх пераносіўся ўсімі спакойна і з гумарам. Начавалі ў глыбінках, часцяком на сенавалах, у хлявах, бывала — па суседству з коньмі або козамі. Ніхто не лічыўся са сваім часам. Работу заканчвалі позна. Адзінае, што бянтэжыла,— амаль пустыя паліцы вясковых магазінаў з традыцыйнай колькай у тамаце і танным вінам-«чарнілам». Хлеб на Палессі народ вазіў з раённых лавак у абрусах за плячыма. Мы падвозілі людзей, яны дзяліліся з намі хлебам.

Нават цяпер, праз столькі часу, зрэдку сустракаючыся з калегамі, адчуваеш цеплыню нашага шчаслівага перыяду жыцця. Няма ўжо сярод нас Юры Якімовіча — аўтара выключнай кнігі пра беларускае драўлянае дойлідства. Хто яшчэ з такім ціхім зачараваннем і бляскам у вачах мог аглядаць палескія драўляныя храмы. Няма Вольгі Церашчатавай, якая амаль падлеткам патрапіла на ваенную спецслужбу, а потым усё сваё далейшае цывільнае жыццё засвойвала мастацтвазнаўства. Часам недарэчнасцю прамоўленага слова Вольга прымушала нас доўга смяяцца, але, валодаючы здольнасцямі добрага арганізатара, яна служыла справе аддана і бескарысліва. Церашчатава фактычна здолела дабіцца выніку ў стварэнні Музея старажытнага беларускага мастацтва АН БССР.

Памятаю самае першае, некалькі нечаканае з'яўленне сярод нас Валянціны Караткевіч. Штат быў укамплектаваны, але аднойчы ў наш пакой на другім паверсе цэнтральнага корпуса АН увайшла блакітнавокая ў акулярах бландзінка, крыху паўнаватая, але зграбная, у маленькай чорнай класічнай сукенцы, якая ёй вельмі пасавала. Без хвалявання новенькіх яна села за стол ля акна, назвала прозвішча — Нікіціна — і сказала, што будзе займацца гісторыяй і археалогіяй. Яна прыехала з Брэста, дзе працавала ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, а потым выкладала курс гісторыі КПСС у педагагічным інстытуце. На пытанне, як жа гэта ёй собіла такі курс выкладаць, яна дастаткова рэзка адказала: «Захочаш есці — будзеш і такое выкладаць». Больш задаваць пытанні не хацелася, але Юра Якімовіч у хуткім часе расказаў, што вярнуцца ў Мінск і ўладкавацца на працу Нікіцінай дапамог Караткевіч, парушыўшы сваё правіла ні пра што ніколі не прасіць.

Ёй было трыццаць пяць гадоў. Трымалася яна з сур'ёзнасцю людзей, якія ў жыцці штосьці ўжо перанеслі. Напаўголад у Казахстане, падпале-

ны дом, дзе яна пасялілася па вяртанні на радзіму з маці, якая працавала следчым у пракуратуры раённага гарадка, няўдалы шлюб і развод з мужам. Нам, яе калегам, крыху маладзейшым, такіх іспытаў лёс яшчэ не падкідваў, і гэта, магчыма, перашкаджала наблізіцца да яе адразу на кароткую дыстанцыю, як было прынята. Між іншым, панібрацтва і потым, значна пазней, калі былі з'едзены агульныя хлеб і соль у экспедыцыях, не атрымлівалася. Цяпер, на адлегласці часу, я магу гэта патлумачыць: яна адкрывалася нам паступова як асоба і чалавек лёсу.

Мы не знойдзем імя Валянціны Караткевіч (Primo Voto — Ватковіч) у Беларускай энцыклапедыі поруч з імёнамі стваральнікаў фундаментальнага «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», хаця яе ўнёсак, бясспрэчна, з самых вагомых і яна пасмяротна лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Чый гэта дзіўны недагляд? Валянціна Караткевіч навукова адрэдагавала і напісала многія канцэптуальныя гістарычныя тэксты. Яна кіравала ўсімі арганізацыйнымі працамі па абследаванні помнікаў сваёй тэмы, хаця афіцыйнай кіруючай пасады не мела. Загадваў аддзелам тэатразнаўца Уладзімір Іванавіч Няфёд. Сутнасцю прадмета навуковай тэмы ён сябе не абцяжарваў, тым самым не перашкаджаючы рабочаму працэсу. Сваю звышзадачу ён увасабляў дастаткова проста — назіраў, каб не пранікла ў будучае выданне ідэалагічная памылка, і стараўся апярэдзіць выхад аналагічнай кнігі ў Маскве. Атрымаўшы званне члена-карэспандэнта АН БССР, Няфёд сышоў у свой тэатразнаўчы сектар, а на яго месца прыйшоў Станіслаў Віктаравіч Марцэлеў, таксама ў далейшым адзначаны высокім званнем.

Чым далей адсоўвалася «адліга», тым партыйная ідэалогія паводзіла сябе больш жорстка, і менавіта ў аддзеле гісторыі ўсё часцей узнікала праблема забараніць, адхіліць альбо ўрэзаць той ці іншы артыкул, прысвечаны важным для нацыянальнай гісторыі і культуры імёнам і памятным мясцінам. Тут выключную ролю іграў і розум Валянціны, і яе ўменне весці абгрунтаваны і матываваны дыялог з вышэйстаячымі. Хаця атрымлівалася і так, што ні настойлівасць, ні нават вельмі павышаны тон, на які яна адважвалася, ні яе партбілет не дапамагалі. І яна чарговы раз вярталася «з дывана» з чырвонымі нервовымі плямамі на твары, абураная і раздражнёная садзілася крэсліць ужо гатовы тэкст. Наша начальства, трэба сказаць, за цвёрдасць характару яе недалюблівала. Аднак не памятаю, каб яна спрабавала калі-небудзь ліслівa сфальшывіць, каб наладзіць камфортныя для сябе ўзаемаадносіны.

Яе кандыдацкая дысертацыя напісана па археалогіі на тэму паморскай культуры пад кіраўніцтвам выдатнага рускага вучонага Барыса Аляксандравіча Рыбакова, навуковую і этычную школу якога Валянціна Караткевіч старалася помніць. Яна расказвала эпізод са сваёй абароны, калі другі вядомы археолаг, яе апанент Валянцін Васільевіч Сядоў, які не

падзяліў пункту гледжання дысертанткі на праблему даследавання, тым не менш высока ацаніў яе работу і заклікаў вучоны савет да аднадушнага галасавання за прысваенне навуковай ступені.

Працуючы за сваім сталом насупраць Валі (у мае абавязкі ўваходзілі пераклады з польскай мовы старых навуковых крыніц і рэдагаванне тэкстаў), я бачыла яе здольнасць да пастаяннай сістэматычнай работы ў любым настроі. Трымаючы мноства неабходных кніг і папер на працягу дня ў абсалютным парадку, Валя з раніцы пачынала «пісаць літары» — яе выраз. Згадваюцца даволі прыгожыя рукі са штодзённым бела-ружовым перламутрам манікюру, схіленая над сталом галава з пастаяннай «а ля Мерлін» прычоскай і жэст, якім яна падносіла акуляры да святла, а затым акуратна працірала. Твар яе рабіўся раптам непазнавальна безабаронным. Ці не ад гэтага пастаянства ў характары, у жыцці, па дарозе дадому, яна так любіла зазірнуць у кнігарню, каб купіць чарговы «дэфектыў», як называліся ёю дэтэктывы. Спісаныя Валяй старонкі адрозніваліся буйнасцю літар, што стаялі асобна адна ад адной. Не ведаю, як патлумачыў бы іх графолаг, але, думаю, пра шчодрасць аўтара яны, бясспрэчна, сведчаць. Валя была сапраўды вельмі шчодрым, таварыскім чалавекам — і ў час сваёй беднасці, і ў сваім дастатку, які з'явіўся недзе ў апошнія чатыры-пяць гадоў сумеснага з Караткевічам жыцця.

Амаль з першых дзён працы Валі да нас пачаў заходзіць Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, неўпрыкмет стаўшы сябрам нашага калектыву. Мы любілі яго прыходы. Трымаўся ён з намі па-прыяцельску проста, на «ты», але не па-прасцецку. Калі хтосьці, жадаючы дагадзіць Валодзю, пераходзіў на трасянку, ён стрымана і ветліва абразумліваў: «Говори по-русски. Я тебя пойму. Не калечь белорусский язык!» Ён цярпліва дараваў толькі Валі, якой тлумачыў усю недарэчнасць не ведаць сваю мову, і Валя вырашыла гаварыць. Першы час яна памылялася на кожным кроку, але паступова, ігнаруючы ўсмешкі носьбітаў мовы, авалодала ёю прыстойна. Калі на працу за пісьмовым сталом Валодзю шанцавала, ён прыходзіў да нас вясёлы, энергічны, як марак, які сышоў з карабля пасля працяглага плавання ў моры. Чакаючы Валю, каб разам з ёй ісці дахаты, Караткевіч паліў адну-дзве папяросы «Беламорканалу», папярэдне змінаючы характэрным для курыльшчыкаў спосабам муштук, і што-небудзь цікавае распавядаў.



Па шырокай лесвіцы цэнтральнага корпуса АН БССР ён збягаў, як і ўздымаўся,— праз дзве-тры прыступкі, балансуючы рукамі і моцна парушаючы прыняты тут стыль храмавай паважнасці. На вуліцы ён мог адзівачыць што-небудзь вясёлае, незвычайнае. Аднойчы, задумліва ідучы паперадзе нас з Валяй па галоўным праспекце горада, Валодзя раптам прыставіў указальныя пальцы да лба і, пры гэтым моцна, «па-бычынаму» рыкнуўшы, кінуўся ўслед за дзяўчынай, якая ў модным чорным з

белымі плямамі цялячым футры гучна выстуквала абцасікамі-шпількамі па тратуары. Тая, нават не азірнуўшыся, ад страху кінулася ў двор, у пад'езд бліжэйшага дома. Караткевіч вывеў незнаёмку, якая плакала і смяялася аднначасова, і, абдымаючы яе за плечы, паўтараў: «А мамачка ты мая, ну даруй ты мне, нягодніку, ну даруй!» Валя назірала карціну прымірэння моўчкі, з усмешкай. Як тут не сказаць асобна пра ўсмешку Валі, калі яна паглядала на Караткевіча, пра гэта мяккае расцягнутае «с», калі яна з лёгкім дакорам, але і замілаваннем вымаўляла хатнюю мянушку Валодзі: «А-с-ь-п-і-д». Так пазіраюць хіба што маці на сваіх любімых дзяцей-гарэзаў.

Пра застолле з сябрамі Караткевіч не раз пісаў як пра важную ўмову чалавечага жыцця, пра годнасць і традыцыі, што існуюць на беларускай зямлі. Вось яго словы разам з любімай прымаўкай: «Госць у хату — Бог у хату. І ганьба таму, хто не зможа дагадзіць госцю». Аднаму з паклоннікаў свайго таленту ён рэзка адмовіў ад дома. А потым гнеўна патлумачыў: «Я не люблю людзей, якія адмаўляюцца сесці за стол у маім доме».

Валя з задавальненнем і ўменнем стаяла дзеля сяброў ля пліты. На той час, калі Караткевіча не друкавалі, а Валя атрымлівала мізэрную зарплату малодшага навуковага супрацоўніка, ім жылося вельмі цяжка. Але стол для сяброў накрывалі заўсёды. Бываў ён небагаты, часам нават бедны, але заўсёды вясёлы. Непадалёк ад дома Караткевіча ў Кіеўскім завулку пражывала сям'я яго блізкага сябра Адама Іосіфавіча Мальдзіса — Адася, як называў яго Валодзя. Набіраючы нумар тэлефона, каб пракансультавацца па пытанні літаратуры ці гісторыі, Валя звычайна абвяшчала: «Чаго не ведае Мальдзіс — не ведае ніхто!» Ад Караткевіча да Мальдзіса хады было ўсяго некалькі хвілін. Наўскасяк праз двор, далей, праціскваючыся паміж дзвюма высокімі агароджамі, ісці па вузкай зарослай сцежцы. Гэтая сцежка ў сяброў Валодзі называлася праспектам Караткевіча. Гаспадарлівая, кампанейская і лёгкая на пад'ём жонка Мальдзіса Марыя паспявала прынесці праспектам каструлю гарачай бульбы, ніколькі яе не астудзіўшы, да агульнай нашай радасці.

Кніга «Чорны замак Альшанскі» выйшла ў 1983 годзе. Уважліва чытаючы радкі рамана, можна распазнаць рэальныя прататыпы, пераствораныя пісьменніцкім уяўленнем. Золата валасоў, сінеча вачэй, чыстая скура «без рабацiння, малочна-белая, зусім без блакітнага адцення» — добра знаёмыя рысы Валянціны. Магчыма, чытацкая інтуіцыя мяне і падводзіць, але адна са сцэн галоўнага героя з «жанчынай з мінулага» ўспрымаецца як рэмінісцэнцыя перажытага спаткання з будучай жонкай.

Знаёмства Валянціны з Караткевічам, па яе згадках, адбылося ў цягніку Берлін—Масква. Спадарожнікамі яны ехалі ўдваіх у адным купэ да Брэста. Яна ўжо прачытала да гэтай выпадковай сустрэчы «Дзікае

паляванне караля Стаха», якое і пасля, праз гады, Валя любіла больш, чым іншыя кнігі Караткевіча, магчыма, таму, што гэтая адыграла знакавую ролю ў яе лёсе. Малады абаяльны пісьменнік з незвычайнымі вачыма рознага колеру — блакітным і карым, уразіў. Яна закахалася. Неўзабаве Караткевіча запрасілі на сустрэчу са студэнтамі ў Брэст. Цікавасць з боку моладзі была да яго вялікай. Вечарам ён гасціў у Валянціны.

Жыць у цеснаце «хрушчоўкі» Караткевіча пасля пераезду Валянціны ў Мінск дапамагаў характар Надзеі Васільеўны. Яна перабралася да сына ў састарэлым узросце, паколькі мела патрэбу ў клопаце сына, хаця яшчэ і сама старалася клапаціцца пра яго. Усе, хто бываў у Караткевіча, Надзею Васільеўну любілі. Аблічам яна нагадвала настаўніцу даўніх часоў. У цёмнай сукенцы з брошкаю пад каўнерыкам, Надзея Васільеўна з ветлівай усмешкай сустракала госця. Гаварыла яна ціхім голасам і хадзіла па кватэры бясшумна, злёгку раскачваючы поўнае цела на хворых, ацёкшых нагах. Калі сын нерваваўся альбо раздражняўся, Надзея Васільеўна ніколі не ўступала ў спрэчкі, толькі з дакорам. моўчкі ківала галавою і сыходзіла ў свой маленькі пакойчык.

Як і належыць, магчыма, пісьменніку-рамантыку, Караткевіч вышэй за ўсе астатнія выгоды любіў свабоду — у шырокім агульным і канкрэтна асабістым разуменні. Пра жаніцьбу вуснамі аднаго са сваіх літаратурных alter ego ён разважае так: «Хто жэніцца — у таго жыццё сабачае, затое смерць чалавечая, а хто не — у таго сабачая смерць, але затое чалавечае жыццё». Прамоўлена з гумарам, але, трэба думаць, і не без перажытых ваганняў перад тым, як афіцыйна страціць халасцяцкі статус. Як тут не прыгадаць і чэхаўскі ідэал жонкі, якая з'яўлялася б мужу не часцей, чым поўня на небе, і старонкі Льва Мікалаевіча Талстога, прысвечаныя Соф'і Андрэеўне. Караткевічу трэба было зарэгістраваць фактычна брак, які цягнуўся ўжо некалькі гадоў. Прызначылі рэгістрацыю на люты 1971 года. Туфлі мы, калегі па працы, як у тыя часы вялося, з цяжкасцю дасталі і купілі ў складчыну. Сукенку — элегантную, крэмавага колеру, з ледзьве прыкметнай парчовай бліщчынкай, але без звыклай вясельнай пышнасці, Валя купіла сама. У дзень урачыстасці па дарозе ў загс Караткевіч быў у добрым настроі, але хваляванне адчувалася хаця б у тым, як паўтараў ён сваю любімую прыказку: «Ды адпусціце вы маю душу на пакаянне!» У сведкі ўзялі Людмілу Лапцэвіч і Адама Мальдзіса. Я дапамагала Надзеі Васільеўне накрываць на стол. К вяртанню ўжо законных мужа і жонкі з загса прыйшлі паэт Рыгор Барадулін з жонкай, саветнік Міністэрства замежных спраў Генадзь Навіцкі і вядомы інжынер Валерый Лапцэвіч — мужы мой і Людмілы, Галіна Ярмоленка і Юра Якімовіч — нашы калегі па працы. За сталом вясельны пафас адсутнічаў. Як заўсёды, шмат жартавалі, гаварылі пра жыццё, апошнія падзеі, кнігі.

Аднаму з жылых гістарычных дамоў на вуліцы Маркса, № 36, у самы час іменавацца домам пісьменнікаў — так шмат імёнаў беларускай літаратуры з ім звязана. На фасадзе гэтага дома цяпер устаноўлена мемарыяльная дошка Караткевіча. А ў яго пад'ездзе некалі на лесвічных пляцоўках да сцен былі прымацаваны стулы — так Валодзя паклапаціўся пра сваю старэнькую маці, каб ёй лягчэй было падымацца на пяты паверх, дзе яны пасяліліся пасля кватэрнага абмену. Цяпер Валодзя мог працаваць без перашкод у вялікім кабінеце сярод сваіх кніг, свабодна расстаўленых на стэлажах. Надзея Васільеўна размясцілася ў даволі ўтульным пакоі з вокнамі ў двор. Гасцям служыла гасціная, якую Валя з часам абставіла добрай мэбляй і прыгожым посудам. Але збіраліся часцей, па традыцыі эпохі, на кухні — прасторнай, з балконам. Аднойчы на гэтай кухні мне пашчасціла слухаць цудоўныя спевы. Барытонам спяваў Іван Антонавіч Брыль, басам — Мікалай Міхайлавіч Грынчык, тэнарам — Валодзя. Галасы стваралі гармонію, падтрымліваючы адзін аднаго. Спявалі па-беларуску, па-руску і па-польску.

У канцы 70-х гадоў халодным марозным надвор'ем мы з Валяй ішлі пешшу пасля працы. Яна папрасіла мяне праводзіць яе. Яшчэ днём я заўважыла па яе твары, што яна чымсьці сур'ёзна расстроена. Мы ішлі даволі доўга моўчкі, потым Валя адкрыла прычыну сваёй панурасці. Напярэдадні яе выклікалі ў партбюро аддзялення АН БССР і патрабавалі ў катэгарычнай форме выступіць на агульным партсходзе, які мае адбыцца, з пакаяннем за светапоглядныя думкі Караткевіча. Калі ж яна адмовіцца, было сказана ёй, давядзецца пакінуць працу. У АН БССР тады праходзіла кампанія барацьбы з нацыяналізмам. Шэраг «нацыяналістаў» ужо пацярпеў. Сярод іх выявіліся і знаёмыя Валодзі. Цяпер, мяркуючы па ўсім, ініцыятарам мерапрыемства патрабавалася эфектнае завяршэнне кампаніі за чысціню камуністычных поглядаў. Трэба ведаць атмасферу таго часу, каб адчуць нежартоўную трывогу Валі. Згадалі мы аднаго з купалаўскіх акцёраў, які свайму сябру, што баяўся ў буфеце тэатра выпіць кілішак гарэлкі ў прысутнасці парторга, задаваў адно і тое ж кароткае пытанне: «А навошта было ў партыю ўступаць?» Толькі замест «навошта» акцёр ужываў даволі моцнае слоўца. Смяяцца не атрымлівалася... «І што ім ад яго трэба?» — у адчаі перапытвала Валя. Старое як свет пытанне. Ах, калі б ідэолагі чыталі добрыя кнігі, яны б ведалі, што талент і без іх для чалавека — цяжкая ноша. Яны б ведалі, што самы вялікі суддзя не яны, а час. Пройдзе час і ўсё паставіць на свае месцы. Як іх зваць, гэтых ідэолагаў? Што яны значаць? Хто іх цяпер памятае?

Не пісаць ніякіх заяў пра звальненне з працы, не гаварыць пакаянных прамоў. «Ты сабе гэта, Валя, ніколі не даруеш, не кажучы пра Валодзю»,— падтрымаў яе рашэнне Янка Брыль. На партсходзе Валя прагаласавала супраць агульнай аднадушнай большасці. Другі раз яе

не выклікалі. Валодзя ўсё часцей стаў выпіваць. Вясной 1971 года ён вырашыў ад'ехаць з дому і пасяліцца ў нумары гасцініцы «Юнацтва», што на Мінскім моры. Праз сваіх знаёмых мне пашанцавала дапамагчы Валодзю, паколькі права жыць у гасцініцы пры наяўнасці кватэры на той час у нашых грамадзян не было. Валодзя пачаў працу над «Зямлёй пад белымі крыламі». Яму спатрэбіліся цішыня, адзінота і магчымасць сузіраць прыроду.

Варта зняць з паліцы кнігу з цёплым і жартаўлівым дарчым надпісам мне і мужу — Генадзю Навіцкаму — «ад Кракадзіла і Эрудыта — Валодзі», як быццам чуеш голас Караткевіча. Кніга выйшла ў Кіеве ў выдавецтве дзіцячай літаратуры. На беларускай мове яна з'явіцца значна пазней. Плаўны рух радкоў, іх немітуслівая напоўненасць, рытм слоў, аўтарскае стрыманае пачуццё чалавечай гордасці і годнасці ставяць «Зямлю пад белымі крыламі» ў шэраг лепшых настальгічных прызнанняў у любові да Радзімы. Кніга, фактычна, адкрыла нам зямлю, на якой жывём. Па нядзелях, калі Валодзя дазваляў сабе адпачынак, мы з Валяй прыязджалі ў «Юнацтва». У лесе, дзе стаіць гасцініца, раслі вясною, да вялікага задавальнення Валодзі, смаржкі. Выпіўшы па кубачку кавы, мы ішлі іх збіраць. Валодзя выразаў сабе доўгі дубец і, шнырачы ім па траве, рухаўся па лесе неверагодна сур'ёзны і засяроджаны. Варта было Валі ці мне выпадкова да яго наблізіцца, як гучала грозная перасцярога: «Калі хоць адна з вас падыдзе да мяне бліжэй чым на дзесяць крокаў, страляю без папярэджання!» У гэтым было штосьці ад падлетка, які не дагуляў у сваім ваеннага часу дзяцінстве. У нумары гасцініцы Валя ўмудралася гатаваць смаржкі ў конаўцы з дапамогай кіпяцільніка — замацаваны ў шматлікіх экспедыцыях вопыт. У адну з нядзеляў, прыехаўшы ў «Юнацтва», мы апынуліся «на вернісажы», які Валодзя наладзіў да нашага прыезду. Выстава складалася з партрэтаў. Пад іржавымі, недзе знойдзенымі Караткевічам кратамі, што нахілена стаялі на пісьмовым стале, ляжала шрубка. Этыкетка паведамляла — «Аўтапартрэт». Кансервавая бляшанка з ялавічынай у белым соусе была падпісана — «Партрэт жонкі». Высокая вінная бутэлька і маленькая чацвярцінка, пастаўленыя побач, намякалі на мае з мужам прапорцыі росту. Экспазіцыя ўключала таксама слоік з завялым бэзам, трохгранны флакончык з воцатнай эсенцыяй і іншыя «партрэты». Фотаздымкі з выставы, падораныя Караткевічам, з яго надпісамі філігранным почыркам я захавала.



Абставіны склаліся так, што мне нельга было надалей заставацца ў аддзеле, і я пайшла выкладаць студэнтам у інстытут культуры. У Караткевічаў бывала цяпер менш, чым раней. Часцей Валя, сама пазваніўшы, гаварыла з хваляваннем пра Валодзю, нервавалася, расказваючы, што яму вельмі, як некалі ў Надзеі Васільеўны, баляць ногі, часам ён нават губляе раўнавагу і не можа ўтрымацца стоячы. Цяжка

было чуць і пра яго выпіўкі. Цяпер Валя зноў кідалася ў перажыванні за мужа. Адвесці душу яна магла са сваёй суседкай Нінай — жонкай Вячаслава Адамчыка.

Захварэўшы, Валянціна перанесла дзве аперацыі, адну з іх — у Бараўлянскай анкаклініцы. Сваю бяду яна перажывала з рэдкім для чалавека цярпеннем, без скаргаў. На сеансы апраменьвання з ёй ездзілі калегі з працы. За тыдзень да свайго апошняга дня, лежачы, яна спрабавала чытаць гранкі чарговага тома «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі».

Валя і Валодзя пахаваны на розных могілках. Ён спачывае ў пантэоне, на Усходніх, яна — на Паўночных. Адзін з замежных перакладчыкаў твораў Караткевіча, пакланяючыся памяці сваіх сяброў, заўважыў, што нам усім павінна быць сорамна за такое недастойнае раздзяленне гэтых двух людзей.

Сёння — 28 чэрвеня — дзень нараджэння Валі. Ёй спаўняецца 71 год. Ідзе праліўны дождж. Мы адкладваем на іншы дзень паездку на могілкі. Я іду ў Кацярынінскую царкву, каб запаліць свечку ля абраза Божай Маці. У душы ў мяне светлая ўдзячнасць Валі. Бо менавіта яна сваім не кніжным, а жывым прыкладам, адданасцю, любоўю і цярпеннем адкрыла мне сутнасць спакоранасці перад талентам.

*2005*

## Нэлі Казак-Галубовіч

# Вальс дзяцінства

Як помню я сябе, так памятаю і Валодзю Караткевіча. Некалі сябравалі нашы бацькі, таму з самага дзяцінства мы таксама ведалі адно аднаго. Валодзя быў жвавым хлопчыкам з вельмі звонкім голасам, часта дэкламаваў нам вершы, любіў рухавыя гульні. Калі ў час гульні на яго накладаўся штраф і яму выпадала нейкі час пасядзець ціха, гэта пераносілася ім як цяжкае выпрабаванне. Неяк, пасля схованак ці жмурак, мы пачалі маляваць кожны свой дом. Валодзя расфарбаваў плот рознымі колерамі: адна дошка — чырвоная, другая — жоўтая, трэцяя — сіняя і г. д. Я раблю яму заўвагу, што так не бывае, дзе ён такі плот бачыў? А ён адказвае: «Усе аднолькавыя — гэта так сумна». Помню, з якім захапленнем гулялі мы ў прыгоды па кнізе «Барацьба за агонь». Валодзя, я з братам Ігарам, мае стрыечныя брат з сястрой — усе амаль аднолькава-

га ўзросту — збіраліся на беразе Дняпра. Калі ўсе кніжныя падзеі мы адыгрывалі, далей прыдумвалі свае, і самыя цікавыя — Валодзя. Часцей гульня працягвалася па яго сцэнарыю. Аднойчы, стаміўшыся, паселі ля ракі, Валодзя раптам пытаецца: «Што вы думаеце, калі на ваду глядзіце?» Мы пэўнага нічога адказаць не маглі. Ён працягвае: «А ў мяне, калі на ваду гляджу, вершы набягаюць».

Падлеткамі нас разлучыла вайна, і сустрэліся мы ўжо вучнямі старэйшых класаў у пасляваенныя гады. Тады ж склалася наша кампанія школьных сяброў, якім было цікава і весела разам. Усе мы разумелі і любілі гумар, шмат чыталі, але Валодзя вылучаўся сярод нас і колькасцю прачытаных кніг, і энцыклапедычнасцю ведаў, і сваім поглядам на свет. Яго можна параўнаць з палаючым факелам. Сваімі ведамі ён дзяліўся ахвотна і з радасцю. У яго была фенаменальная памяць: усё, што прачытаў, мог у патрэбны момант узнавіць. Мы часта хадзілі ў чытальную залу гарадской бібліятэкі, якая знаходзілася ў маляўнічым кутку — ля старога млына на беразе Аршыцы. Маршрутных аўтобусаў тады яшчэ не было, мы ішлі пешшу. Доўгі шлях не заўважалі за размовамі, спрэчкамі, жартамі.

Валодзя чытаў нам шмат вершаў, што адпавядалі яго настрою, і рабіў гэта артыстычна. Большасць тых вершаў не ўваходзілі ў школьную праграму. Чытаў ён і свае, але ніколі не абвяшчаў пра гэта. Ён цудоўна складаў бурымэ. Мы прапаноўвалі яму самыя неверагодныя злучэнні слоў, і праз хуткі час ён выдаваў нам гатовы твор. Шмат у яго было жартоўных вершаў пра падзеі школьнага жыцця, пра свае няўдачы з матэматыкай. Свой шлях да дошкі, каб даказаць тэарэму, ён жартам называў шляхам на Галгофу. Аднойчы на рускай літаратуры нам задалі дома напісаць п'есу, каб яе можна было паставіць у школьных умовах. Лепшую напісаў Валодзя Караткевіч.

Мяне заўсёды здзіўляла, як ён хутка чытае. Падручнікаў і мастацкіх твораў, патрэбных па праграме, не хапала. Таму часта даводзілася чытаць па чарзе ўголас, каб пачулі астатнія. Такое чытанне стрымлівaецца вымаўленнем слоў. Калі я перагортвала старонку, то, не гледзячы ў тэкст, вымаўляла ўсяго некалькі слоў, а Валодзя — некалькі сказаў. І маляваў ён добра. На палях яго сшыткаў, запісных кніжак было шмат малюнкаў, якія ён рабіў хутка, у той час, пакуль думаў. Любіў маляваць шаржы на сяброў. Валодаў добрым слыхам і прыемным голасам. Ён пачынаў спяваць, а мы звычайна падхоплівалі. Як правіла, песню «Степь да степь кругом...», потым спявалі ўсё, што ведалі. Паміж Валодзем Караткевічам і Лёнем Крыгманам ладзіліся своеасаблівыя конкурсы, хто больш ведае мелодый. У ход ішлі песні, рамансы, папулярныя арыі з аперэт і опер. Мы выступалі ў якасці суддзяў.

Адносіны да дзяўчат у нашай кампаніі былі рыцарскія. Заўсёды ўступалі лепшае месца, дапамагалі, паважалі як сяброў, усім гуртам разво-

дзілі па дамах. Усе мы ў той час любілі танцаваць. Шукалі танцы і ішлі на край горада, часта, з дазволу дырэктара, арганізоўвалі іх у сваёй 1-й школе. Валодзя выдатна танцаваў вальс. Дарэчы, аднойчы ён намаляваў цікавы шарж на мяне і незнаёмага матроса, які запрасіў мяне на танец: з маіх туфляў адлятаюць абцасы, а ў матроса рвуцца стужкі на бесказырцы.

Валодзя быў вельмі адданы ў сяброўстве. Калі ён лічыў цябе сваім сябрам, то дзяліўся апошнім, дапамагаў выйсці з бяды. Пасля 10-га класа, у час экзаменаў, са мной здарылася няшчасце. Я цяжка захварэла на сухоты. Многія знаёмыя спалохаліся, не сустракаліся са мной. Валодзя па-ранейшаму заходзіў. Аднойчы я паскардзілася ў яго прысутнасці, што цяжка кожны дзень хадзіць на ўколы. Нічога не кажучы, назаўтра ён прыйшоў з веласіпедам і больш за тыдзень вазіў мяне ў бальніцу.

...Пасля заканчэння школы ў кожнага з нас вызначылася свая жыццёвая дарога. Наш сябар Валодзя Караткевіч стаў вядомым пісьменнікам, і ў душы мы ганарыліся гэтым. Апошні раз ён патэлефанаваў мне ў Маладзечна незадоўга да сваёй смерці. І запрасіў прыехаць да яго. Мы сустрэліся 19 мая 1984 года. Размова атрымалася вельмі цёплай. Магчыма, ён штосьці прадчуваў, а гэта наша сустрэча была для яго вяртаннем у школьныя гады...

*2005*

## Надзея Кучкоўская

# Мой Дзядзька-Дзядзечка

У апошні раз, калі я была на магіле Караткевіча, па звычцы прыбрала старыя кветкі, паставіла свежыя, прысела на лавачку, каб пагаварыць з ім, і тут раптам усвядоміла: «Дзядзечка, а я ўжо старэйшая за цябе. Мінула больш чым 20 гадоў з таго страшнага дня, калі я адправіла цябе паміраць у бальніцу...»

Я, канечне, спадзявалася на ўратаванне. Але цяпер добра ведаю, што паміраць трэба дома. І ўвесь час прашу ў яго прабачэння. Я проста не зразумела ці не хацела верыць, што ён памірае. Пасля, калі ўрач, які апераваў маму, быў досыць катэгарычны ў сваіх прагнозах, я адразу адказала яму: «Мы забяром маму дадому, як толькі вы скажаце». Мама пражыла яшчэ больш за два гады. І нашу Лялечку (дачку старэйшага брата Караткевіча) мы паспелі прывезці дадому, калі зразумелі, што ўстаць ёй ніхто не дапаможа...

А тады ў ліпені 1984 года ў Мінску была гарачыня. Караткевіч паехаў на Прыпяць, мама з татам і маім пляменнікам — у Оршу. Мне патэлефанавала на працу сястра Лена, што Ждановіч вязе Караткевіча дадому. Я прыбегла на кватэру. Валянцін дапамог дзядзьку ўзняцца на пяты паверх, мы паклалі яго на канапу. Дзядзька заснуў і праз сон стагнаў. Ждановіч застаўся з намі, ён быў усхваляваны, расказваў пра паездку. Калі дзядзечка прачнуўся, есці і піць ён не захацеў, сказаў, што ў яго ўнутры ўсё баліць. Я выклікала «хуткую». Цяпер не помню дакладна, ці я настойвала на абследаванні, ці ўрач сам прапанаваў гаспіталізацыю, але дзядзька катэгарычна адмовіўся. Я працягвала яго пераконваць, але ўрач тут жа сказаў, што ён не бачыць у гэтым асаблівага сэнсу, тым больш што хворы адмаўляецца. А вечарам прыйшлі Лена з мужам, сказалі, што пажывуць у дзядзькі, пакуль мама не вернецца з Оршы. Гэта была пятніца, у суботу—нядзелю мы перазвоньваліся. Лена нават мяне парадавала, што дзядзечка згаджаецца патрошку есці, вось папрасіў вішні купіць. У панядзелак зусім рана звоніць Лена: «Яшчэ звечара дзядзька скардзіўся на болі ў жываце, а цяпер у яго расстройства. Баюся пакідаць яго аднаго, а трэба ісці на працу — у нас прахадная». Добра, што ў мяне на рабоце не было прахадной, я паехала да Караткевіча.

Мой дзядзечка неяк нязграбна ляжаў у сваім кабінеце на тахце і толькі ціхенька стагнаў. Я стала мяняць яму прасціну, штосьці гаварыла, ён не адказваў. Я выклікала «хуткую». Першае, што сказала ўрач: «У хворага крывавы панос». Ну а што гэта такое, я ведала. Таму, здавалася, на той момант перастала ўвогуле штосьці разумець. На гэты раз урач катэгарычна настойвала: толькі гаспіталізацыя. Але як? Сам ён не можа (і не хоча) спусціцца з пятага паверха. Рашэнне прапанавала зноў жа ўрач. Яна знайшла ў кашальку, які заўсёды ляжаў на століку побач з тахтой, дзесяць рублёў. Трэба за гэтыя грошы запрасіць рабочых, што працуюць у двары,— яны дапамогуць. Дзядзечка, нягледзячы на ўсе нашы ўгаворванні, наадрэз адмовіўся легчы на насілкі. Рабочых адпусцілі. Урач некуды пазваніла. Прыехала яшчэ адна «хуткая». У кватэру ўвайшлі рослыя хлопцы ў белых халатах, у адзін момант паклалі дзядзечку на насілкі і знеслі ўніз. Мне здаецца, ён нават не зразумеў, як тое адбылося. (Можна ж было абысціся і без зневажальнай сцэны з рабочымі!) Ужо ў машыне «хуткай дапамогі», калі я сядзела побач, дзядзечка паглядзеў на мяне і сказаў: «Ну і сволач ты, Надзька, усё-такі ўпякла мяне ў бальніцу». Больш ён са мной не размаўляў і не глядзеў у мой бок. Мы моўчкі даехалі да бальніцы, там яму адразу паставілі кропельніцу і зрабілі заспакаяльны ўкол, бо ён патрабаваў адвезці яго дамоў. Мяне адправілі з бальніцы і больш ні мяне, ні маю сястру да яго не пускалі.



**Цётка Яўгенія Васільеўна, бацька Сямён Цімафеевіч, дзед Васіль Юльянавіч Грынкевіч, маці Надзея Васільеўна, сястра Наталля і брат Валерый. 1928 г.**







**Бацька Сямён Цімафеевіч. 1916 г.**
**Маці Надзея Васільеўна. 1911 г.**
**Дзед Васіль Юльянавіч Грынкевіч. Канец 30-х гг.**



**Валодзю адзін год. Орша, 1931 г.**



З аднакурснікамі на лекцыі. Кіеў, 1950 г.



Муза Сняжко (Залеўская),
Фларыян Няўважны
і Уладзімір Караткевіч (у цэнтры).
Кіеў, 1951 г.



1950 г.



**Першы рад: Уладзімір Караткевіч, пляменніца Надзя, стрыечны брат Аляксандр, пляменніца Рая. Другі рад: Мікалай Садавы, Вольга Садавая, Надзея Васільеўна, Сямён Цімафеевіч, Наталля Сямёнаўна. Орша, 1955 г.**



**1954 г.**



**З Мікалаем Садавым. 1955 г.**



Нарада маладых пісьменнікаў.
У першым радзе Ц. С. Гарбуноў,
Якуб Колас, Пятрусь Броўка.
Уладзімір Караткевіч першы злева
ў другім радзе. 1955 г.



1957 г.





1957 г.



1959 г.



З Янкам Брылём на 4-м з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. 1959 г.



1960 г.



З пляменніцай Ленай. Чэлябінск, 1961 г.



1963 г.



Лідзія Арсеньеўна
Панамарэнка,
выкладчыца
Кіеўскага
універсітэта.
1962 г.



Свіцязь. 1963 г.



На рацэ Лясной. 1963 г.





З Янкам Брылём.
Слонімшчына, 1963 г.



1963 г.

Іван Чыгрын, Ірына Крэнь, Данута Бічэль,
Уладзімір Караткевіч, Мікола Прашковіч, Адам Мальдзіс.
Мінск, 1966 г.



Вёска Маламажэйкава.
1963 г.



На возеры Свіцязь. 1967 г.



1966 г.



Уладзімір Караткевіч, Валда і Еранім Стулпаны
са сваёй сваячкай Олгай. 60-я гг.



У Белавежскай пушчы.
1968 г.



Уладзімір Караткевіч і Вацлаў Жыдліцкі. 1968 г.



Уладзімір Караткевіч,
Вацлаў Жыдліцкі,
Алесь Барскі.
1968 г.



Уладзімір Караткевіч, Яўгенія Янішчыц, Валянціна Коўтун, Мікола Станкевіч, (?),
Вацлаў Жыдліцкі з Ілонкай Барадулінай, Міхась Стральцоў,
Мікола Прашковіч, Ала Сакалоўская.
Мінск, 1967 г.

На наступны дзень з Оршы прыехала мама. Яна размаўляла з урачом, ёй абяцалі, што ў сераду зранку пусцяць да брата. Дзядзечка не дачакаўся яе прыходу — каля чатырох гадзін раніцы ён адышоў назаўсёды...

Орша — наша радзіма: маёй мамы, яе братоў Валодзі і Валеры і мая. Майго тату, ваеннага лётчыка, перавялі ў 1950 годзе на Урал. Мы жылі ў ваенным гарадку ля Чэлябінска. Але кожнае лета прыязджалі ў Оршу. Дзядулеў дом на вуліцы Варашылава (Касманаўтаў, Караткевіча) стаяў побач з Дняпром — і гэта быў сапраўдны рай. Калі не лічыць такіх неспрыяльных момантаў, як нарыхтоўка травы для трусоў, чэргі па хлеб, адсутнасць сяброў — дзяцей майго ўзросту. Першыя мае ўспаміны пра дзядзьку Валодзю звязаны з яго студэнцтвам. Мы збіраліся ісці фатаграфавацца (гэта ў 1953 годзе), я капрызіла, мне не падабалася сукенка, усе мяне ўгаворвалі, а ён сядзеў і чытаў.

Самыя яркія і ўдзячныя згадкі — калі дзядзька навучыў мяне плаваць. Ён ужо настаўнічаў у Оршы, а мы зноў прыязджалі на лета. Помню, прачынаўся ён заўсёды рана, хаця працаваў позна. Браў сабаку Тобса і ішоў на Дняпро. Пасля абеду, здаралася, клікаў з сабою мяне. Я толькі ўмела заграбаць па-сабачаму, але праплывала які метр, не болей. Дзядзечка цярпліва няньчыўся са мной. Я клала яму рукі на плечы, і мы спрабавалі плысці. Я навучылася трымаць цела на паверхні, але плыць сама, без яго падтрымкі, баялася. Неяк ён не вытрымаў: «Калі зараз не паплывеш, больш цябе з сабою не вазьму». Ад страху я паплыла. З таго часу мы плавалі разам амаль да сярэдзіны Дняпра (тут было няхуткае цячэнне), потым я вярталася назад, а ён плыў на той бераг. Аднойчы ён прапанаваў: «Ну што, плывем разам?» Спраўдзілася мая запаветная мара — я на другім беразе! Мы ўзлезлі па пясчаным адхоне і пайшлі ўздоўж ракі ўверх па цячэнні. Горад знік. Засталіся поле, сонца, вецер і мы. Ён расказваў мне пра ўсё, што мы бачылі,— кветкі, птушак, траву. Ён усяму ведаў найменне. А то раптам замаўкаў, думаў пра нешта сваё, і я старалася яму не перашкаджаць. Калі мы спусціліся да вады, я ўжо вельмі стамілася, і ён зразумеў. Не помню, дзе ён знайшоў лодку з лодачнікам, магчыма, гэта быў рыбак, які і перавёз нас на той бераг Дняпра, амаль да самага дома.

Часам ён браў мяне з сабою ў горад, і мы заходзілі ў кнігарню. Дасюль у мяне захоўваюцца яго кніжныя падарункі: «Гарганцюа і Пантагруэль» Ф. Рабле, «Прыгоды Нязнайкі» М. Носава, «Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі» Я. Лары і інш. Аднойчы пад уражаннем «Хаціны дзядзі Тома» я гуляла ў двары ў «рабоў». Канечне, я была рабаўладальнікам (ну не выконваць жа мне ролю раба!). Я размахвала дубчыкам і адпраўляла «рабоў» ірваць траву ці прыбіраць двор і, мусіць, штосьці гаварыла

ўслых. Тут якраз ішоў дзядзька Валодзя, спыніўся і пытаецца: «Ты ў што гуляеш?» Я сумелася. «У рабоў»,— кажу. «Знайшла ў што гуляць. Лепш бы ў дочкі-маці пагуляла ці кніжку пачытала».

Я абажала яго. Інакш было проста нельга: малады, прыгожы, жыццялюбівы, цудоўны апавядальнік, калі ён смяяўся — міжволі ўсміхаўся яму ў адказ. Яго хочацца параўнаць з сонейкам. Бабуля ў ім душы не чула. З дзядулем адносіны складваліся крыху інакш. Па-першае, ён быў больш стрыманы, па-другое, на гэты час — ужо цяжкахворы, а яшчэ, як пазней я даведалася, дзядуля быў «за Сталіна». Адсюль, відаць, стрыманасць у адносінах.

Калі дзядзька штосьці расказваў, а мама лічыла, што мне гэта непажадана чуць, яна паказвала яму вачыма ў мой бок. Тады ён казаў: «Надзька, выйдзі». І я пакорліва ішла за дзверы, бо не паслухацца яго я не магла і цярпліва чакала слова: «Заходзь». У нас гэта ўвогуле доўгі час было гульнёй. Пакуль Валя, жонка дзядзькі (у чарговы раз прагучала: «Надзька, выйдзі», а я ўжо, мусіць, інстытут закончыла), не зліталася: «Ведаеш, я думаю, яна можа нарэшце і застацца...» У дзяцінстве я часта чула: «Надзя, цішэй, дзядзька Валодзя працуе». І яшчэ тады пашанотны «дзядзька Валодзя» пачаў хатнія дражнілкі: Надзька-Надзечка. З майго боку спачатку гучала: дзядзька Валодзька — дзядзечка Валодзечка, а потым карацей: Дзядзька-Дзядзечка.

У 1963 годзе Дзядзечка прыязджаў да нас у Чэлябінск. Ён якраз атрымаў ордэр на кватэру ў Мінску па вуліцы Чарнышэўскага, аднапакаёвую «хрушчоўку». І адпаведна «намаляваў» яе нам:

Дали мне квартиру новую. хреновую.
Пол склизкий, потолок низкий,
Коридор неосвещенный
И этот, как его, совмещенный.

А ў мяне на той час была «жалоба». Пасля трох гадоў заняткаў я кінула балетную студыю, куды цяжка было ездзіць з ваеннага гарадка. Дзядзечка ведаў пра маю захопленасць балетам (у Оршы даваў мне чытаць кнігу «Русский балет», выдадзеную яшчэ на пачатку XX стагоддзя, і тлумачыў, як правільна чытаць словы з літарай «ять»), як мог, стараўся мяне суцешыць: што жыццё ў балерын складанае, прафесія гэта цяжкая. Я была яму вельмі ўдзячна за падтрымку.

У наступны яго прыезд мне запомніліся два эпізоды. Мы з Дзядзечкам паехалі катацца на лыжах. Снег у тым годзе ляжаў нават у сакавіку. Дзядзька Валодзя, канечне, адрозніваўся ад усёй нашай публікі, такі паважны, у берэце, не бег па лыжні, а ішоў і больш азіраўся па баках. Калі мы вярнуліся дахаты, ён сказаў маме: «Надзька мяне саромелася». Я зніякавела: выходзіць, ён усё заўважыў, бо я і сапраўды там, на лыжні, засаромелася яго нетутэйшага выгляду...

А перад самым Дзядзькавым ад'ездам нам задалі напісаць сачыненне па вядомай кнізе Салтыкова-Шчадрына «Гісторыя аднаго горада». Твор я не чытала. Выратавала мама: «Валодзя, напішы дзіцяці сачыненне». Сама я нізавошта з такой просьбай да яго б не звярнулася. Як былы настаўнік ён адрэзаў: «Хай сама піша». Але мама яго ўсё ж пераканала, і ён напісаў. Сачыненне атрымалася вельмі доўгае, але штосьці выкінуць не атрымлівалася: кожны сказ быў на сваім месцы і без яго мог парушыцца сэнс. Я сумленна перапісала ўсё ў сшытак на дванаццаць лістоў. Калі мне пасля праверкі вярнулі сачыненне, на палях паўсюль стаялі чырвоныя галачкі, шмат косак было закрэслена. Тлустая адзінка красавалася ўнізе, а побач — перасцярога настаўніцы, што не трэба спісваць з крытыкі, трэба пісаць самой. Дзядзечку я потым сказала, што ў яго дрэнна з сінтаксісам, а ён адказаў: «Пішы сама». Шкада, што тое сачыненне згубілася, калі мы пераязджалі з Чэлябінска. З якой бы цікавасцю я прачытала яго зараз.

А яшчэ былі паездкі ў Мінск. У кватэру на Чарнышэўскага я прыязджала два ці тры разы. Першы раз у 1964 годзе разам з мамай і сястрой. Тады Дзядзька амаль адразу з'ехаў, і мы сустрэліся з ім у жніўні ў Рагачове ў бабулінага брата. Дзядзька Ігар і мой Дзядзька часта выбіраліся на маторцы на рыбалку або паляванне на качак. Аднойчы яны ўзялі мяне з сабою. Мы выехалі вельмі рана. Быў густы туман, і гэту малочную ідылію парушаў толькі трэск матора. Потым яго выключылі і пайшлі на вёслах. Лодку разам са мною пакінулі ў чаратах. Я чула стрэлы, брэх сабакі і назірала за тым, як рассейваўся туман. І нават не помню, ці забілі тады хаця б адну качку. Гэта не было галоўным. Калі мы вярталіся назад, дзядзькі абмяркоўвалі паляванне, а я слухала і любавалася Дняпром... Я ўвогуле любіла іх сумесныя гутаркі, асабліва па вечарах. Помню, Дзядзька неяк з горыччу сказаў, што не друкуюць яго «Каласы...»: «Магчыма, я апошні, хто ведае пра звычкі людзей, што тут жылі, і калі не надрукуюць мой раман, ніхто пра гэта і не даведаецца...»

Той час, калі Дзядзька жыў у аднапакаёўцы на Чарнышэўскага, мне запомніўся сустрэчамі з цікавымі людзьмі. Гэта былі і яго сябры-пісьменнікі, і студэнты тэатральна-мастацкага інстытута. Там абмяркоўвалі, спрачаліся, спявалі. У адзін з маіх прыездаў летам Дзядзька чытаў сябрам «Таўрыду». Запалены свечкі, сухое віно, усе застылі, толькі гул хвалявання ў пакоі. Я дасюль чую «Фантан слёз» у яго выкананні. Ён увогуле цудоўна чытаў не толькі свае творы. Аднойчы я прынесла яму часопіс, дзе была надрукавана казка В. Шукшына «Да трэціх пеўняў». Мы размясціліся вакол і слухалі яго на адным дыханні. Потым я ўжо прыязджала ў Мінск, калі Дзядзька жыў у двухпакаёвай кватэры на вуліцы В. Харужай. І ўсё тая ж атмасфера творчасці, гарачыя спрэчкі, песні і, канечне ж, анекдоты. Тут я ўпершыню даведалася пра іншы бок савецкага жыцця:

што ў творчым асяродку ёсць «стукачы», а ў надзвычай адораных асоб ёсць і «персанальныя стукачы». Прычым іх амаль усе ведалі. Неяк бабуля расказвала блізкім Дзядзькавым сябрам, што ўчора да іх заходзілі людзі і N застаўся начаваць, а ў яго была нясвежая кашуля, і бабуля яе памыла. Хтосьці не вытрымаў: «Навошта Вы гэта зрабілі? То ж Валодзеў “стукач”». А Рыгор Барадулін парыраваў: «А як жа! Асабісты стукач і ў бруднай кашулі!»

Летам 1970 года Валя Караткевіч узяла мяне з сабою ў экспедыцыю па двух раёнах Брэсцкай вобласці ў якасці тэхнічнага работніка. Ездзіў з намі і Дзядзечка. Як заўсёды, ён быў у цэнтры ўвагі. З ім раіліся. Ён расказваў пра дарогі-брукаванкі, старасвецкія паркі, Палессе, асушванне балот і яго вынік — пясчаныя буры. Адна з супрацоўніц перапытала Караткевіча: «Вы што, супраць савецкай улады?» «Я супраць дурняў у любой уладзе»,— катэгарычна адрэагаваў Дзядзька.

У 1971 годзе мы пераехалі ў Мінск, часта бачыліся з Дзядзечкам. Мяне заўсёды здзіўляла, што пры знешняй абстрагаванасці ён усё прыкмячаў і помніў. Аднойчы я вязала пры ім, раптам Дзядзька кажа: «Калі ты вяжаш, вазьмі мае часопісы «Наука и жизнь», там часта друкуюць «Плацейка для дзяўчынкі», «Штонікі для хлопчыка». Ну навошта, здавалася б, яму помніць і прыкмячаць гэтыя «штонікі»? Ці, напрыклад, ён пытаецца ў мяне, колькі часу. Я адказваю, што прыблізна столькі. «У цябе няма гадзінніка?» — здзівіўся Дзядзька. Я тлумачу яму, што стары гадзіннік зламаўся, а новы купіць рукі не даходзяць, што дома і на працы ёсць гадзіннік, а ўвогуле ў мяне актывізаваўся ўнутраны рэжым, і я вызначаю час з дакладнасцю да пяці хвілін. «Вось табе грошы, купі сабе гадзіннік». І не супакоіўся, пакуль я не паказала яму набытую рэч...

Незадоўга да яго смерці я паведаміла Дзядзечку, што выходжу замуж. «Ён жа цябе не кахае,— ускрыкнуў Дзядзечка і тут жа сумеўся: — Хаця, магчыма, я не маю рацыі, вырашай сама». Ён быў вельмі тактоўным чалавекам. А яшчэ ён быў і застаўся рамантыкам, мой Дзядзечка. Як хлопчык, ганарыўся, калі з запаведніка «Кедравая падзь» прыйшоў водгук на «Чазенію», дзе адзначалася ўсяго пару недакладнасцей у апісанні раслінага і жывёльнага свету. А вось прысуджаная ў 1983 годзе Літаратурная прэмія імя І. Мележа за раман «Нельга забыць» гонару ў яго не выклікала. Нават прысудзіўшы прэмію, можна пакрыўдзіць. Аднойчы, калі я бадзёра сказала: «Таварыш малодшы лейтэнант, віншую цябе з днём Савецкай Арміі»,— ён не падтрымаў майго жартаўлівага тону і сумна адказаў: «Затое, можа быць, я — генералісімус беларускай літаратуры...»

Я ніколі не сніла Дзядзечку пасля яго смерці. Толькі адзін раз у час аперацыі ён выйшаў з блакітнага ззяння і працягнуў мне руку. А пасля мой Дзядзечка быццам адступіў, усё паблякла і растала — урачам удалося вярнуць мяне да жыцця...

*2005*

Васіль Сінькевіч

# Урокі сумленнасці

Пазнаёміцца з У. С. Караткевічам мне пашчасціла ў 1977 годзе, а потым даволі часта даводзілася сустракацца з ім, слухаць яго, бываць разам у розных кутках Беларусі. Перш за ўсё хочацца расказаць пра яго як чалавека, у жыцці якога галоўным заставалася бясконцая адданасць свайму народу, сваёй зямлі. І яго любоў праяўлялася на справе, у адносінах да кожнага канкрэтнага чалавека. У 1979 годзе я здзіўляўся, аб чым можна так доўга размаўляць з вясковым пастухом, які папрасіў у нас закурыць у лесе на Лагойшчыне, дзе мы з Уладзімірам Сямёнавічам збіралі грыбы. Размова ішла пра сялянскае жыццё: што бульбу есць гэты паласаты жук, якога раней і не было ніколі, што трава сёлета дрэнная, а вось атава чакаецца добрая. Спалілі за размовай па адной цыгарцы, па другой, пастух пайшоў зганяць кароў, а мы пачалі збірацца дамоў. Бачу, хоць і кошыкі нашы толькі напалову запоўнены, а настрой у Караткевіча, зранку не надта добры, узняўся — з чалавекам пагутарыў! Ён казаў, што ў простых людзей з самай глухой вёсачкі ёсць нейкая ўнутраная інтэлігентнасць, чысціня і гэтыя размовы — вялікае багацце! На мой погляд, вытокі багатай і каларытнай мовы герояў яго твораў ляжаць недзе там, у гэтых гутарках, нетаропкіх і паважных, з тонкім гумарам і хітрымі пытаннямі... І калі на юбілейным вечары ў 1980 годзе Уладзімір Сямёнавіч сказаў, што без сваіх чытачоў, без свайго народа ён ніхто, мяне гэта ўжо ніколькі не здзіўляла і пераконвала ў адным: ён сказаў гэта ад усёй душы.

Зараз неяк увайшло ў моду называць цешчу з цесцем ці свякруху са свёкрам імем і імем па бацьку, і таму я нават і не думаў, а як жа зваць жончынага дзядзьку — зразумела, Уладзімірам Сямёнавічам. І зваў яго гэтак да таго часу, пакуль ён сам не абурыўся: «Ну што ты гэтак афіцыйна, заві дзядзькам...» Да мяне ён ставіўся вельмі добразычліва, заўсёды пытаўся, ці не патрэбна дапамога, і калі здаралася аб чым-небудзь яго прасіць, ён, дальбог, успрымаў гэтыя просьбы ледзь не з радасцю. Але ўсё ж мне здаецца, што ставіўся ён да мяне (ды і не толькі да мяне, але і да ўсіх, на мяне падобных) даволі неадназначна. Нарадзіўся я і вырас у вёсцы на Палессі, а паступіўшы ў канцы 60-х гадоў у адну з мінскіх тэхнічных ВНУ і пасля, працуючы на прадпрыемстве аднаго з саюзных міністэрстваў, дзе гучала толькі руская мова, я паступова страціў цікавасць і да роднай мовы, і да роднай культуры. Чытаў адну-дзве кнігі ў год на беларускай мове — і ўсё. А што да грамадскага жыцця, то тагачасная тэхнічная інтэлігенцыя дзялілася на дзве часткі: адны

былі да яго абыякавыя, закапаўшыся ў свае «жалезкі», і другія праяўлялі цуды абароцістасці, і не ў «жалезках», а менавіта ў грамадскім жыцці. І, думаю, горка было бачыць Уладзіміру Сямёнавічу свайго земляка, мужа пляменніцы, якому ўсё роўна, што адбываецца вакол.

Аднак, разумеючы, што мне цяжка размаўляць на беларускай мове, дыялогі са мной ён вёў пераважна па-руску. І не настойваў, каб вярнуць мяне, як кажуць, да роднай «веры». Жыві, брат, як хочаш, але толькі думай! Гэта, дарэчы, было характэрнай рысай Уладзіміра Сямёнавіча — размаўляць з чалавекам на мове, на якой той можа адказаць. Аднойчы мне давялося прысутнічаць у яго кватэры пры вельмі цікавай размове пра гістарычны лёс розных народаў, у якой прымалі ўдзел два беларусы, рускі, яўрэй і малдаванін. Уладзімір Сямёнавіч быў чалавекам вельмі, як зараз кажуць, камунікабельным, меў шмат сяброў і проста знаёмых, сярод іх — рускія і ўкраінцы, армяне і грузіны, латышы і літоўцы, палякі і славакі. З яго лёгкай рукі (ён даў нам з жонкай пачытаць томік Надара Думбадзе) мы ў свой час вельмі захапіліся творчасцю гэтага выдатнага пісьменніка, што дало нам магчымасць зразумець потым глыбока філасофскі сэнс вобразнага абуладзеўскага «Пакаяння», гэтай першай, на мой погляд, «ластаўкі перабудовы» ў кінамастацтве і ў нашым духоўным жыцці.

Дзякуючы кантактам з Уладзімірам Сямёнавічам я па-іншаму паглядзеў на перадваенны час і вайну. Зараз гэта можна назваць павышэннем грамадзянскай свядомасці, а тады, пры адсутнасці ўсякай інфармацыі пра падзеі 30—40-х гадоў, такое вызначэнне выглядала б вельмі праблематычна. Уладзімір Сямёнавіч быў вялікім чалавекалюбам і таму не пагаджаўся з думкай, што хтосьці можа забраць у чалавека жыццё. З гэтага пункту гледжання ён і аналізаваў 30—40-я гады. Напрыклад, расказваючы пра Бярозаўскі лагер, Уладзімір Сямёнавіч называў лічбу яго вязняў і такія падрабязнасці лагернага жыцця, ад якіх шапка паднімалася. Або пра баі за Харкаў, колькі яны забралі жыццяў салдат, сярод якіх, дарэчы, быў і мой дзядзька, якога я ніколі не бачыў... Зараз я вельмі шкадую, што тады не хапіла розуму калі не запісаць на магнітную стужку, то хоць бы занатаваць тыя расказы пра цяжкія часы, дзе чалавек, нават не заўважаючы таго, што ён робіць брудную справу, мог з лепшых памкненняў падвесці пад шыбеніцу ці пад ізаляцыю ў жудасных умовах сваіх сяброў, блізкіх. Уладзімір Сямёнавіч даваў мне зразумець, што жыццё трэба пражыць так, каб пры любых паваротах гісторыі, у самых нечаканых абставінах заставацца чыстым і сумленным, не здрадзіць сабе, сябрам, Радзіме. Гэтая думка пра чалавечае сумленне ў высокім сэнсе лейтматывам праходзіць праз адметны верш Караткевіча «Бекеш, або Ода ерасі», які, дарэчы, мне некалькі разоў давялося чуць у выдатным выкананні артыста Віцебскага драматычнага тэатра імя Я. Коласа Пятра Ламана:

...Ерась, вялікая маці ўсіх народаў вялікіх,
Выратуй сына свайго, што не будзе быдлець спакваля.
Не падтрымае ў натоўпе аб дыбе звярыныя крыкі
І не падкіне нявінна ў вогнішча Гуса галля...

І хоць пад загалоўкам «...Оды ерасі» напісана «Балада 1555 года», яна не страціла актуальнасці, бо, на жаль, і ў нашай, далёка не сярэдневяковай, гісторыі да апошняга часу лепшыя, чысцейшыя людзі былі выстаўлены народу ў масках ерэтыкоў. У многіх, хто ведаў Караткевіча павярхоўна, складвалася ўражанне, што ён амаль не цікавіцца сучасным жыццём, міжнароднымі абставінамі. Але на самай справе гэта было не так. Яго выказванні па асобных пытаннях помняцца мне і дасюль. Аднойчы пры размове аб апошніх ваенных канфліктах Уладзімір Сямёнавіч як бы між іншым запытаў, ці ведаю я, што ў многіх шведаў у кватэрах вісяць партрэты Пятра І. Я адказаў, што не ведаю і не бачу падстаў для таго, каб шведам так шанаваць рускага цара, які дастаткова ваяваў з імі. Уладзімір Сямёнавіч працягваў: «А шведы кажуць, што Пётр І адвучыў іх быць вялікай нацыяй, і таму на іх дамах ужо больш двух стагоддзяў не разбураліся дахі». Гэта думка як бы падштурхвае чалавека, прынамсі мяне, да далейшага роздуму на вельмі важныя тэмы.

Успамінаецца, як аднойчы ў Оршы Уладзімір Сямёнавіч запрасіў нас паглядзець Куцеінскую царкву. Ён добра ведаў горад свайго дзяцінства, падказваў, як лепей праехаць туды, дзе былі межы Куцеінскага манастыра. Царкву мы ўбачылі ў жахлівым стане: архітэктура парушана, жывапіс і ўсё ўнутранае ўбранства знішчаны. Уладзімір Сямёнавіч быў глыбока ўзрушаны такім станам гэтага помніка беларускай культуры, ён расказваў аб яго значэнні ў развіцці пісьменнасці, бо ў Куцейна ў 1631 годзе Спірыдон Собаль надрукаваў буквар, па якім вучыліся грамаце многія пакаленні беларусаў. І назва «буквар» упершыню была выкарыстана менавіта для гэтага выдання. Яшчэ Уладзімір Сямёнавіч расказваў, што царква ў паслярэвалюцыйны час выкарыстоўвалася толькі ў гаспадарчых мэтах — была і складам, і казармай, і канюшняй. Ён меў цвёрды намер — прыкласці ўсе намаганні, каб адрадзіць царкву, але здзейсніць свае планы не паспеў.

Вясной і на пачатку лета 1984 года Уладзімір Сямёнавіч наведаў многа сваіх любімых месцаў — Кіеў, Рагачоў, Палессе, ён як бы развітваўся з імі. Але ў той жа час ён піша на падараванай нам з жонкай кнізе «Каласы пад сярпом тваім» (тую, што ў нас была, нехта «зачытаў», і мы вымушаны былі папрасіць у яго, бо купіць ужо было немагчыма): «...маім пляменнікам...з просьбаю, каб не давалі нікому чытаць, бо ўжо колькі экземпляраў у вас «замялі». Мне не шкада, але няма болей. З *наступных кніг* зробім «бібліятэку» для лабатрасаў лянівых, якія не хочуць запісацца ў бібліятэку, скупых, якія не хочуць купляць, і кнігалюбаў,

якія так папаўняюць свой фонд. 22 ліпеня 84 г.». Яму хацелася ўбачыць свае наступныя кнігі, але яны выйшлі ўжо без яго...

Помню апошнюю паездку з Уладзімірам Сямёнавічам у Рагачоў да яго дзядзькі Ігара Васільевіча Грынкевіча. Разам хадзілі на Дняпро, яны паказвалі тыя месцы, дзе некалі вудзілі рыбу. Потым Ігар Васільевіч павёз нас да свайго знаёмага лесніка, абяцаючы маленькае дзіва. Ім аказалася ласяня, танканогае і зусім яшчэ малое, што бегала па двары. Яго знайшлі ў лесе ля мёртвай ласіхі. Мы з замілаваннем сачылі за ім, спрабавалі паіць малаком з бутэлечкі, а Уладзімір Сямёнавіч сумна заўважыў, што ў гэтага ласяняці, адарванага ад жывой прыроды, можа быць вельмі незайздросны лёс, як у таго мядзведзя — «актора», якога здымалі ў фільме «Пушчык едзе ў Прагу», але ж не кідаць гэтае дзіця ў лесе на смерць...

Уладзімір Сямёнавіч вельмі тонка адчуваў прыроду. Выходзячы з лесу, ён расказваў то пра зайца, які сядзеў пад кустом і нешта грыз, то пра незвычайную птушку. А на пытанне, як ён усё заўважае, з усмешкай адказваў: «Спыніся ў лесе і пастой колькі часу ціха-ціха, нават галавой не варушы. Убачыш што-небудзь, калі будзеш добра глядзець». Не ведаю, як у каго, а ў мяне нават пасля гэтай навукі нічога не атрымлівалася.

Дасканала ведаючы гісторыю, Уладзімір Сямёнавіч заўсёды з павагай ставіўся да ўсяго, што звязана з царквой, а дакладней — са шматвяковай верай народа. Паважаў ён і духоўных асоб, многіх з якіх ведаў асабіста. Адзін з нашых сваякоў, чалавек вельмі дапытлівы, цікаўны, адукаваны, любіў вандраваць і ўсюды наведваў царкву ці касцёл, стараўся пагутарыць са святарамі. Неяк ён расказаў аб гэтым Уладзіміру Сямёнавічу. Той занепакоіўся, пытаецца ў мяне: «Як ты думаеш, ён не пакрыўдзіць, не абразіць нікога сваімі пытаннямі?» Я адказаў, што маю падставы не сумнявацца ў дастатковай тактоўнасці і розуме гэтага чалавека. Пасля яны, дарэчы, пазнаёміліся бліжэй і Уладзімір Сямёнавіч супакоіўся.

Пра творчасць Караткевіча многа сказана, шмат яшчэ будзе напісана спецыялістамі, але я не магу ўтрымацца ад выказвання сваёй думкі пра выхаваўчае значэнне яго творчасці, бо гэта ў поўнай меры выпрабавана на сабе. У наш час, калі многія блытаюцца ў паняццях «інтэрнацыяналізм» і «нацыяналізм» (а некаторыя яшчэ добра памятаюць і адносіны да «бязродных касмапалітаў»), не хочуць разумець, што не можа быць ніякага інтэрнацыяналізму, нельга быць жыхаром планеты Зямля без здаровага нацыянальнага гонару і нацыянальных пачуццяў кожнага народа і кожнага чалавека паасобку, найвялікшую паслугу моладзі, як і людзям сталага ўзросту, у справе фарміравання правільных адносін да гэтых пытанняў могуць аказаць творы Караткевіча, асабліва яго эсэ «Зямля пад белымі крыламі».

Уладзімір Сямёнавіч быў чалавекам складаным і вельмі розным у розных жыццёвых сітуацыях. У ім спалучаліся вытанчаная інтэлігентнасць і мужыцкая шчырая грубаватасць, юнацкая ўзнёсласць і старэчая мудрасць, бесклапотная гарэзлівасць і глыбокі сум. Як і ўсе жывыя людзі, ён ніколі не быў іконай, на якую трэба маліцца. І калі мы зараз задаёмся пытаннем, якім быў Уладзімір Сямёнавіч, то адначасова павінны задумвацца, чаму ён быў такім, а не іншым, бо толькі ў пошуках адказаў на гэта пытанне, звязаных і з часам, у якім давялося жыць і працаваць Уладзіміру Сямёнавічу, і з людзьмі, што сустракаліся на яго нялёгкіх шляхах, можна ўбачыць і раскрыць для сябе сапраўднага Караткевіча.

Гэтыя запісы былі задуманы і зроблены ў 1986—1987 гадах пасля размовы з выдатным чалавекам, дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Ф. Дубянецкім. Зараз многае можна было б напісаць як бы ў іншым ракурсе, гледзячы на падзеі з пазіцый сённяшняга дня, але я наўмысна не хачу нічога мяняць. Няхай гэты ўспамін пра У. С. Караткевіча застанецца ў тым часе, у якім ён жыў. Як засталіся ў тым часе партрэты К. Каліноўскага, М. Багдановіча, герб «Пагоня», што па-ранейшаму вісяць у кабінеце пісьменніка на тых жа месцах...

*1987*





## Алесь Асіпенка

# Святло блізкай зоркі

Чаму я заўсёды бачу яго ў сонечным ззянні? Сустракаліся ж у слоту, завіруху, дождж і яшчэ чорт ведае ў якую непагадзь. Дык не, прыгадаю яго і адразу бачу яркую віднату, кола купальскага сонца, сінія цені, бліскучае — да рэзі ўваччу — люстэрка вады.

Вось ён стаіць у пакоі, запырсканы сонечным святлом, і сам сонечны з галавы да ног, у белай вышыванцы, з нейкім выцертым да негрыцянскай чарнаты партфелем. А насупраць дзве азярыны Панчанкавых вачэй, блакітных і ўсмешлівых,— во ўжо дзе да месца сказаць: «Азярыны смяяліся». Як у Максіма Горкага: «Море смеялось...»

Або вось яшчэ адно бачанне — групавы партрэт на зімовым фоне. Скупое лютаўскае сонца хаваецца ў радабоддзі хмар, як бы саромеючыся заглянуць у вокны пісьменніцкага клуба ў тым, старым, будынку, дзе яго прымалі ў Саюз пісьменнікаў. Чарговы аратар з неўміручай пароды магільшчыкаў прыгожага пісьменства закалочвае апошні цвік у дамавіну з раманам «Леаніды не вернуцца да Зямлі» — набор кнігі рассыпаны, а яму, аўтару, міласціва давалася права сказаць апошняе слова, як на судзе, пасля смяротнага прысуду. Ён парыўна ўвайшоў у залу і спыніўся: сонца, прарваўшы хмары, высцеліла перад ім жоўтую сцяжынку на затаптаным паркеце. Некалькі імгненняў ён стаяў, прымжыўшы вочы ад бляклых промняў лютаўскага сонца.

— Адных я люблю, другімі — пагарджаю,— кінуў ён у залу бязлітасныя словы.— Апошнім адказваць бескарысна...

Ён павярнуўся і пайшоў да дзвярэй, несучы на прыгорбленых плячах кавалачак сонца. Ён выйшаў, сонца схавалася за хмары.

Яшчэ бачу яго на крутым беразе Нёмана каля бессмяротнай Каложы. Царква ў сонечнай пазалоце. Ён, задраўшы галаву ў сіняе неба,

фантазіруе на тэмы прызямлення Хрыста ў Гародні. Фантазія ў яго таксама сонечная і каляровая, як вясёлка.

І ўжо зусім яркі малюнак. Ізумрудна-зялёны поплаў, невялічкая затока, як сажалка,— старыца Свіслачы — аж зіхаціць ад сонца, і ён на беразе той затокі, толькі што вылезшы з халоднай яшчэ вады, голы і ўвесь абліты сонцам ад аўсянага чуба да жоўтай, як малое куранё, пяткі, якую ён, падскокваючы на адной назе, стараецца разгледзець.

— Хлопцы,— кажа ён з той сур'ёзнасцю, якая патрэбна, каб замаскіраваць нястрымны смех,— што там, халера на яе, коле?..

Нехта жартуе:

— Страла Купідона...

Ён рагоча бесклапотна і весела:

— Ахламоны вы і вісусы, хіба Купідон страляў у пяткі?..

Ланцужок згадак-прыгадак, які нанізаны на адзін стрыжань.

Гэта ён — такі розны ў розных абставінах і такі пастаянна гарэзлівы — Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, Божай міласцю паэт, празаік, эсэіст, драматург, крытык, сцэнарыст, чалавек энцыклапедычных ведаў і нястомнай працавітасці, яркая і блізкая чытачу зорка на літаратурным небасхіле, які то прасвятляўся на кароткія часіны, то надоўга зацягваўся смугою. Радасці былі кароткія, засмучэнні — наадварот. Не заўсёды можна было развінуць на ўвесь мах крылы для творчасці нават яму, няўрымсліваму рамантыку і жыццялюбу.

Адзін з былых і даўніх кіраўнікоў культурнага фронту неяк падвёў драматурга да акна ў сваім кабінеце і, паказваючы на галоўны праспект сталіцы, параіў зусім сур'ёзна:

— Бачыш праспект? Во і хадзі па ім. Навошта зварочваць на бакавыя вуліцы?..

Караткевічу хацелася пахадзіць па Нямізе, не цяперашняй, а старажытнай, калі яшчэ і вуліцы такой не было, а толькі рака і абапал яе па крутых берагах стаялі войскі Усяслава Полацкага і трох Яраславічаў. І ён ніяк не мог зразумець, чаму яму нельга хадзіць па сцежках гісторыі, а толькі па сучасным праспекце.

У Караткевічу дзіўным чынам ужываліся ўзнёслы да наіўнасці рамантызм з бязлітасным рэалізмам. Ён глядзеў на свет як бы праз дзве прызмы: адна прыводзіла яго да экстазу перад прыгажосцю і буйнасцю жыцця, другая — да роспачы перад пачварнай несправядлівасцю і гвалтам. Іншы на ягоным месцы раздвоіўся б, згубіў бы арыенціры ды і пайшоў па жыцці і літаратуры, як усе,— па праспекце. Караткевіч застаўся верны сабе і сваім прыхільнасцям. У яго быў добры дарадца — мудрасць.

Мудрасць не набытак гадоў, як мы звыклі меркаваць. Яна — узровень чалавечага інтэлекту. Памножаная на апантанасць мудрасць нараджае сапраўдныя дзівы мастацтва, якімі і былі творы Уладзіміра Караткевіча.

Бяруся сцвярджаць, што сёння мы знаходзімся толькі на подступах да разумення ягонай творчасці і яго самога як асобы. Адкрыццё адбудзецца пазней, калі выйдуць у людзі ўсе ягоныя творы, у тым ліку і маленькія шэдэўры эпісталярнага жанру — ягоныя пісьмы. Ды і не толькі яны...

Нас чатырох — У. Караткевіча, І. Навуменку, І. Клаза і мяне — прымалі ў Саюз пісьменнікаў у адзін дзень напярэдадні выхаднога ў самы пік лета.

Ярка свяціла сонца. Цвілі на праспекце ліпы. На душы млела ўрачыстасць. Але забірала і трывога. Не толькі мяне аднаго. Ды і не дзіва — прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў выглядаў салідна, прадстаўніча: Кандрат Крапіва, Янка Маўр, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Ілья Гурскі, Пімен Панчанка, Янка Брыль...

Галасавалі тады адкрыта... выступалі таксама адкрыта. Гаварылі праўду ў вочы.

Пра Уладзіміра Караткевіча — маладзейшага сярод нас — гаварылі хораша, хоць з нейкімі заўвагамі па творчасці, але шчыра, добразычліва. Дэталі згладзіў час. Тая атмасфера высокай патрабавальнасці і добразычлівасці засталася ў памяці назаўсёды. З Караткевічам дасюль я быў амаль незнаёмы. Ён закідваў сваімі творамі часопіс «Полымя», верны, як адналюб, толькі яму. Зрэдку заходзіў і да нас у часопіс «Маладосць». Мусіць, адзін з такіх візітаў і ўрэзаўся мне ў памяць.

Сярод дня дзверы ў пакой адчыніліся, і на парозе ўзнік малады, трапяткі, з аржаным чубам непаслухмяных валасоў цыбаты хлопец. Кінуўшы важкае: «Дзень добры», ён у чатыры крокі перасек пакой, спыніўся перад сталом, за якім сядзела Вера Палтаран, адзіная ў пакоі жанчына. Яна падала яму руку на вітанне. Ён узяў руку, як найкаштоўнейшую, богам падараваную рэліквію, і, па-рыцарску ўпаўшы на адно калена, прыклаўся да яе па-дзіцячы пульхнымі вуснамі.

Гэта было нечакана і вельмі прыгожа, бо натуральна і шчыра. Наогул, у яго было трапяткое, абагаўлёнае стаўленне да жанчыны. Ён быў падобны на сваіх герояў, героі падобны на яго. Толькі герою Караткевіча з аповесці «Чазенія» па сіле было несці гераіню ледзь не сем кіламетраў па Усурыйскай тайзе, толькі другому герою дадзена было так любіць, а Караткевічу так прыгожа напісаць пра каханне ў рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі». І нават вялікі дыктатар і правадыр перад маленькай балерынай становіцца, хоць бы і на нейкі невялікі час, прыгожым і годным вялікага пачуцця чалавекам.

Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў, мы тады добра пасядзелі ў невялічкім рэстаране на рагу Ленінскай і Інтэрнацыянальнай. З таго дня і

перайшлі на «ты». Гэта неяк давала прастору сустрэчам і кароткім, на хаду, абменам думкамі. Далей і неяк зусім неўзабаве над Караткевічам завылі зімовыя марозныя вятры. Ці не ад іх ён ратаваўся спачатку на Вышэйшых літаратурных курсах, а потым і на Вышэйшых сцэнарных. Караткевіч балюча перажываў кожны выпад у ягоны адрас, хоць храбрыўся, рабіў выгляд, што яму мала абыходзіць разносная тэндэнцыйная крытыка. Але паспрабуй не зважай на тую крытыку, калі за ёй ішлі вельмі адчувальныя санкцыі.

Як ён, такі чулліві і безабаронны, трываў і не зварочваў з аднойчы выбранага ім шляху? Іншыя не вытрымлівалі, зварочвалі і надоўга гублялі сябе як творцы, змянялі ўласны твар на маску з саладжавым выглядам.

Ён вытрымаў, выстаяў, адстаяў сябе ў літаратуры і грамадстве.

Цяпер ужо і не памятаю — мроіцца дужа невыразная праз гады гаворка,— як узнікла ідэя надрукаваць у «Маладосці» аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха», напісаную даўно, але так і застраўшую на палове дарогі да чытача. Аповесць спадабалася. Чыталі яе ўсе ў рукапісе. Былі і сумненні — рамантычная даўніна. Была ўпэўненасць — аповесць знойдзе чытача. А галоўнае, што аповесць павінна «прайсці» — канцоўка яе аптымістычная, бунтарская.

Яна і сапраўды «прайшла» з дужа нязначнымі заўвагамі і вельмі спадабалася чытачам. Добра памятаю, як на адной сустрэчы з маладымі рабочымі нам паказалі страпаны да дзірак, увесь у мазутных плямах часопіс з аповесцю. Калі гаварыць шчыра, дык часопіс тады не вельмі чыталі, а падпіска на яго падала з году ў год. Аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» ажывіла інтарэс моладзі да часопіса, многіх маладых людзей далучыла да беларускай мовы і памножыла шарэнгі прыхільнікаў творчасці Уладзіміра Караткевіча.

Поспех аповесці быў відавочны. Акрылёны ім, Караткевіч паабяцаў рэдакцыі напісаць яшчэ адзін твор з прыгодамі ў старажытным замку. Задума твора саспела ў яго даўно, і, як казаў ён, трэба толькі засесці за стол. Але радавацца было рана. Неўзабаве Уладзіміра Караткевіча сталі папракаць захапленнем даўнінай, абвінавачваць у ідэалізацыі мінуўшчыны, у адыходзе ад надзённых праблем, а значыць, у шкодным уздзеянні ягонай аповесці на моладзь. Не ўратаваў і аптымістычны, бунтарскі канец. Аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» ляжала ў рэчышчы ягонай творчасці, і трэба было мець багатую фантазію, каб бачыць у ёй нешта шкоднае. Але ж бачылі і верылі, што робяць дабро.

У рэдакцыі перажывалі за Караткевіча, разумелі — неабгрунтаваная крытыка можа выбіць яго з творчай каляіны. А ён перажываў за нас, рэдакцыйных работнікаў, якім, на ягоную думку, маглі пагражаць непрыемнасці — на памяці яшчэ жыло нядаўняе вызваленне ад пасады галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Аляксея Кулакоўскага.

— Хлопцы,— вінаваціўся Караткевіч перад намі,— я вельмі люблю вас, і мне аж брыдка, што падвёў вас сваёй аповесцю. Хай бы яшчэ ляжала.

Ён быў такі вельмі далікатны ў дачыненні да сяброў і гатоў быў браць на сябе віну, абы выгарадзіць таварышаў.

Асобнай кнігай аповесць тады так і не выйшла. І абяцаная аповесць паявілася ў друку праз шмат гадоў — «Чорны замак Альшанскі».

І яшчэ адзін нагадак пра ягоную публікацыю ў часопісе «Маладосць». Неяк Уладзімір Караткевіч папрасіўся ў камандзіроўку на Палессе. Тыдні праз два ён сядзеў у рэдакцыі і абурана расказваў, як знішчаюцца старажытныя, можа, адзіныя ў свеце помнікі культуры і архітэктуры, захапляўся палескай прыродай, сівымі легендамі і сказаннямі.

Я пажартаваў:

— Выгаварышся і не захочаш пісаць...

Ён адказаў з болем у голасе:

— Не пісаць — крычаць хочацца...

Нарыс быў надрукаваны. Называўся ён «Званы ў прадонні азёр». Адзін з лепшых нарысаў Уладзіміра Караткевіча, актуальнасць якога відавочна і сёння. То быў сапраўды крык збалелай душы. За «Маладосцю» тады сачыла не адно пільнае вока. Шчыра прызнаюся: многія мясціны нарыса выклікалі ў мяне як рэдактара нядобрае прадчуванне. Рука так і ўздымалася, каб нешта паправіць, выкрасліць, падгладзіць. Але тут жа і апускалася.

Напярэдадні завітаў Уладзімір Караткевіч, папрасіў:

— Стары, вельмі прашу — не праўце. Лепей не друкуйце...

Я разумеў яго: кожнае слова ў нарысе — праўда, набраклая гневам супраць тых, каму абыякавая гісторыя народа, хто не даражыць ягонымі набыткамі. Што будзе, тое хай будзе! І ўсё ж адзін грэх я ўзяў на сваю душу: выкрасліў не вельмі вялікі абзац недзе пад самы канец нарыса. Падумаў: можа, Караткевіч і не заўважыць. А што абзац гэты можа выклікаць прычэпкі ў вельмі пільных крытыкаў, я чамусьці не сумняваўся. Часопіс выйшаў у свет. Ніхто, здаецца, не выказваў незадаволенасці, наадварот: хвалілі нарыс узнёсла за смеласць, праблемнасць, праўдзівасць.



Дзён праз дзесяць, а мо і болей у дакладзе на ідэалагічнай нарадзе нарыс быў жорстка раскрытыкаваны, а ў якасці аргумента апалітычнасці і ледзь не ідэалагічнай дыверсіі прыведзены той самы абзац, які я выкрасліў. Нейкая чартаўшчына! Сам жа выкрасліў, а потым яшчэ чытаў карэктуру нарыса, праглядаў, калі падпісваў да друку. Адкуль узяўся той «крамольны» абзац?.. Тым часам на падставе таго абзаца быў зроблены і зусім не двухсэнсоўны закід у адрас «Маладосці»: дакуль яна будзе дапускаць такія сур'ёзныя памылкі? Побач са мной на той нарадзе сядзеў

малады перспектыўны гісторык. У адказ на закід дакладчыка ў адрас часопіса кінуў злосную рэпліку.

— Судзіць трэба! Аўтару — дзесяць, рэдактару — дзесяць! Перастануць памыляцца.

І хоць часы былі другія, пасля Дваццатага з'езда партыі, чуць такое, пагадзіцеся, было не дужа прыемна.

Што было, тое было. З песні слова не выкінеш. Сама рэчаіснасць расставіла акцэнты: аўтар стаў славутым пісьменнікам, гісторык — вучоным, рэдактар дажыў да пенсіі, а нарыс жыве, вучыць моладзь любіць свой край, сваю вялікую радзіму, шанаваць працу нашых прапрапрадзедаў. Ага, дык пра той абзац, выкраслены мной.

Было так. Караткевіч чытаў карэктуру на апошняй стадыі, калі на ёй ужо стаяў мой подпіс. І, вядома ж, заўважыў, што дарагога яму абзаца няма. Дзяжурыла па нумары Вера Палтаран. Калі Караткевіч звярнуўся да яе з пытаннем, хто выкрасліў абзац, яна адказала, што ён няйначай «выпаў» пры вёрстцы. Месца, каб уставіць яго, было. Уставілі і адаслалі ў набор.

Ніякай чартаўшчыны. А нарыс і па сённяшні дзень выдаецца з тым абзацам.

У старым Доме творчасці — Каралішчавічах — ішоў семінар кінадраматургаў.

Была вясна. Самая камарыная пара. Мы хадзілі пагрызеныя. Палілі кастры, каб адагнаць тых праклятушчых камароў, а ў часе пасяджэнняў бязбожна дымілі цыгарэтамі. Камары толькі пасміхаліся. Сярод кіраўнікоў семінара былі маскоўскія і вельмі папулярныя на той час кінадраматургі: Фрыд і Дунскі — неразлучныя сябры і аўтары сцэнарыяў. Караткевіч жартаваў, што ёсць адзін кіраўнік, якога можна называць або Фрыд-Дунскі, або Дунскі-Фрыд.

Аднаго разу Уладзімір Караткевіч сказаў:

— Хлопцы, ну што могуць запомніць пра нашу Беларусь Фрыд-Дунскі або Дунскі-Фрыд? Камароў-крывасмокаў. Дык гэта ж будзе вельмі скажонае ўяўленне аб нашым краі. Давайце зробім добрую справу, пачастуем іх беларускімі грыбамі. Далібог, яны гэтага заслужылі, і магу паспрачацца, што, апрача маскоўскага асфальту і калымскай тундры, яны анічога не бачылі.



На ягоную прапанову адгукнуліся Слава Шмыроў, акцёр і сцэнарыст беларускай кінастудыі, і я. Утрох мы нарэзалі два паўнюсенькія кошыкі маладых смаржкоў і страчкоў. Караткевіч сам узяўся гатаваць іх па адным яму вядомым рэцэпце, адкапаным ім ці то ў бібліятэцы Радзівілаў, ці то ў архіве Сапегі. А каб часам тайна рэцэпта не стала вядома мілітарыстам з НАТА, ён прыняў усе меры засцярогі, гэта значыць, выгнаў усіх з кухні, пакінуўшы сабе ў памочнікі кухара Таццяну. З нас жа —

Шмырова і мяне — узяў урачыстае слова ні пры якіх абставінах не гаварыць гасцям пра грыбы — патрэбна для эфекту нечаканасць.

Гадзіны праз паўтары са сталовай пацягнулася ў жылы корпус працэсія на чале з Караткевічам. Ён нёс каструлю са смажанымі грыбамі, за ім кухар і афіцыянтка неслі талеркі, відэльцы, чаркі і яшчэ сёе-тое для падмацавання.

— Не праглыніце языкі, бо чуеце, як смачна пахне. Аж няма слоў і таленту, каб перадаць усю непаўторнасць паху вясновых смажаных грыбоў,— папярэдзіў ён нас і пайшоў клікаць гасцей.

Тыя, аднак, захаплення не падзялілі, а нават жахнуліся, што іх паклікалі на грыбы. А важкі, на думку Караткевіча, аргумент, што грыбы гатаваў ён сам, толькі павялічыў страх перад такой нечуванай для вясны стравай. Спасылаючыся на розныя хваробы і парады ўрачоў, госці далікатна, але і настойліва адмовіліся пакаштаваць смажаныя грыбы, аддаўшы перавагу смажанаму мясу.

Смажаныя грыбы былі сапраўды надзіва смачныя. Бачачы, што з намі нічога дрэннага не здарылася, абодва сцэнарысты неўзабаве адважыліся пакаштаваць і былі вельмі здзіўлены, што грыбы такія смачныя. А Валодзя Караткевіч праслыў сярод масквічоў яшчэ і вялікім гурманам і неперамўзыдзеным кухарам. Пасля гэтага пачаліся ягоныя варыяцыі на кулінарныя тэмы. Можна было падзівіцца, якіх толькі страў не ведаў Караткевіч. І з дзічыны, і з птушкі, і з рыбы. Часам мне здавалася, што некаторыя стравы Уладзімір Караткевіч выдумвае непасрэдна тут, за сталом: вельмі ўжо выглядалі яны фантастычна. Але ён расказваў пра іх так ярка і праўдзіва, што сумнявацца можна было толькі моўчкі.

А прыгадалася ўсё гэта ў сувязі з тым, што з таго семінара на памяць мне застаўся малюнак, зроблены рукой Уладзіміра Караткевіча. На заключным пасяджэнні мы сядзелі з ім поруч. Гаворка чамусьці завіравала вакол прывіду атамнай вайны. Можа, перад гэтым глядзелі нейкі зарубежны фільм, а можа, слухалі лекцыю на міжнародную тэму — абстаноўка ў свеце тады была трывожная, вясна 1968 года. Караткевіч слухаў, маўчаў, хмурыўся. У ягоных руках паявіўся аркуш белай цвёрдай паперы. Прыкрыўшыся левай рукой ад цікаўных вачэй, ён нешта маляваў на тым аркушы. Ужо калі закончылася пасяджэнне, ён аддаў малюнак мне. У сваім пакоі я разгарнуў аркуш паперы. На ім — дзве малпы: адна завісла на суку з галінкай і чатырма лісточкамі і рагоча; другая стаіць на карачках і злосна паглядае на чалавека ў парванай вопратцы, знямоажанага голадам, дарогай і страхам. Чалавек ідзе з горада, які відаць удалечыні. Над горадам стаіць атамны грыб.

Унізе пад малюнкам подпіс: «Вяртанне аблуднага сына».

Вясна. Камары. Сонца. Смаржкі і страчкі. Атамны грыб. Адзінокі на планеце чалавек, які вяртаецца ў сваё пячорнае мінулае. Жыццё і алегорыя. Ён быў яшчэ мастак. Адметная рыса выдатнага таленту.

У кіно яму не шанцавала. Фільм па рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» атрымаў нізкую катэгорыю ды так і застаўся вязнем кіношнай паліцы. Ён пісаў і напісаў сцэнарый двухсерыйнага фільма пра славутую бітву на Нямізе. Спецыялісты сцэнарый хвалілі, раілі ставіць. З усяго семінара ён сапраўды мог мець зайздросны лёс. У студыйнага начальства і ў Дзяржкіно БССР сцэнарый выклікаў боязь. Як жа, даўніна, гісторыя. Можа быць перакос, калі патрабуецца рабіць фільмы на сучасныя тэмы. Больш-менш удалай атрымалася экранізацыя аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». Фільм атрымаў прыз на фестывалі прыгодніцкага фільма. На жаль, захапіўшыся прыгодамі і знешнімі кінаэфектамі, рэжысёр згубіў сутнасць твора Уладзіміра Караткевіча, зацямніў сэнс і думку. Панесла страты і аповесць «Чорны замак Альшанскі».

Нездарма ж Уладзімір Караткевіч неяк паскардзіўся:

— Змарнавана шмат часу. Можа, дарэмна, але кіно зацягвае, як чароўны вір. Ды хацелася паспрабаваць сябе ў кіно.

Шкада, што беларуская кінастудыя так рэдка і не заўсёды плённа звярталася да твораў Уладзіміра Караткевіча. У мяне ўвесь час такое адчуванне, што студыя яшчэ не дарасла да Караткевіча, як і да многіх іншых выдатных пісьменнікаў Беларусі. Таму і «корміцца» адходамі другіх студый.

Ён здаў неяк адразу. І знешне, і ўнутрана. Яшчэ пісаў, яшчэ быў поўны задум і планаў. І ўжо ўвачавідку мяняўся: грузнеў, чарсцвеў, чорна хмурыўся. Над сабой паджартоўваў з'едліва, нават бязлітасна. А ў вачах жыла, расла нясцерпная туга. Апошнія гадоў пяць — сем мы бачыліся рэдка: на хаду, на бягу. Бяда была не ў тым, што ён хварэў — усіх нас не абмінаюць хваробы. Ён абсалютна не бярогся.

Была апошняя наша сустрэча. І зноў у сонечны дзень. На беразе Свіслачы, у парку імя Горкага. Я запыніў яго сам. Не жадаючы таго, пачаў ушчуваць яго, што не беражэцца. На маё здзіўленне, ён слухаў не перапыняючы, а калі я вычарпаў усе аргументы, раптам самотна спытаўся:

— А навошта?..

Угнуўшы плечы, нават не развітаўшыся, ён пайшоў хадою бясконца змаранага чалавека.

Так і стаіць ён у маіх вачах: ідзе па асфальтаванай сцежцы, нібы адыходзіць у другое вымярэнне...

*1990*

Мікола Аўрамчык

# Беларускі рамантык

Не памятаю, калі я пазнаёміўся з Караткевічам. Але ведаў Уладзіміра з яго юнацкага ўзросту. Добра памятаю, як увосень, у першыя гады выдання «Маладосці», на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў былі заўважаны і станоўча ацэнены яго вершы. Некаторыя з іх я асабліва запомніў, пра што раскажу трохі ніжэй.

Дома я знайшоў ліст Уладзіміра на тры старонкі вялікага памеру, напісаны характэрным клінапісным почыркам. Ліст адасланы з Оршы 21 лістапада 1956 года. У ім Уладзімір выказвае спачуванне пасля маёй хваробы на тыфус, прывезены з Украіны, і апісвае, як там небяспечна есці садавіну, абмытую вадой з мелкіх студняў або заброснелых стаўкоў.

Уладзімір здзіўляецца, што я не быў на пахаванні Якуба Коласа, бо пад некралогам у газетах першым падпісана маё прозвішча. Ён паведамляе, што напісаў новыя вершы, і абяцае хутка выслаць іх. Хваліць «Маладосць», якой яна стала. Дасылае праўкі да некаторых ранейшых рэчаў. Выказвае задавальненне працай на новым месцы, хаця і прызнаецца, што мала загружаны ў школе. Затое рад, што ў яго ёсць магчымасць пісаць. Праўда, шкадуе, што ў Оршы няма сяброў, бо знаёмая моладзь раз'ехалася.

Уладзімір спадзяецца, што неўзабаве стане на лыжы і з нецярплівасцю чакае, калі з Кіева вышлюць яго стрэльбу. Піша, што ў школе кіруе літаратурным гуртком, з якім выязджаюць на гастролі. Рыхтуе з ім пушкінскі баль-маскарад. Збіраецца ставіць урыўкі з «Паўлінкі» і з «Пінскай шляхты». Просіць паведаміць наконт конкурсу па драматургіі, бо закончыў п'есу з часоў вайны. Паведамляе, што напісаў апавяданне «Памяці вялікага артыста». Але шкадуе, што яно вялікае для «Маладосці». Таксама дапрацоўвае некалькі малых апавяданняў, якія збіраецца прыслаць у наш часопіс. Спадзяецца, што на зімовыя канікулы будзе ў Мінску і мы пабачымся.



На першай старонцы ліста пяром Уладзімір намаляваў сябе з пікай-ручкаю, на фурманцы, што нагружана літаратурнай прадукцыяй і запрэжана крылатым Пегасам. У канверт з лістом укладзены асобны невялікі аркуш паперы, на якім таксама пяром намаляваны кот з вусамі, у шапцы, адзенні і ботах. Зверху яго вялікімі друкаванымі літарамі надпіс для маёй пяцігадовай дачкі: «Ірачка, гэта пан Коцкі».

Мяркуючы па ўсім гэтым, мы былі ўжо добра знаёмы з Уладзімірам.

Сярод рэштак фотаархіва «Маладосці», які штомесяц выкідваўся, у мяне ацалелі арыгіналы некаторых сяброўскіх шаржаў на Уладзіміра і некалькі яго фота. Сярод іх рэдкі здымак, які, мабыць, нідзе не друкаваўся і, можа, толькі захоўваецца ў сямейным фотаальбоме. Відаць, Уладзімір сфатаграфаваны неўзабаве пасля заканчэння кіеўскага універсітэта.

Малады, прычэсаны і прыгладжаны як анёл, з універсітэцкім і яшчэ з нейкім значком на абодвух лацканах пінжака, Уладзімір артыстычна сядзіць у крэсле, на падлакотнікі якога смірна паклаў рукі.

Гэты здымак быў прысланы Уладзімірам у рэдакцыю да адабраных для друку ягоных вершаў. Але паколькі вершы не былі надрукаваны, дык і здымак застаўся нявыкарыстаным.

Вышэй я сказаў, што асабліва запомніў некаторыя з яго вершаў, якія адзначаліся на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў, і з тых, што ён прысылаў або прыносіў у «Маладосць». Добра помню таму, што пасля кожнага апошняга і пры наступным яго прыходзе ў рэдакцыю я адчуваў сябе перад ім няёмка і не мог нічога толкам растлумачыць у сваё апраўданне.

У першыя гады выдання «Маладосці» членам яе рэдкалегіі быў адзін з любімых мною паэтаў, блізкі і дарагі мне чалавек — Максім Танк. Ён заўсёды праглядаў усе адабраныя мною для друку вершы. Колькі разоў я ні прапаноўваў яшчэ ў тонкія нумары часопіса вершы Уладзіміра Караткевіча, Максім Танк кожны раз чамусьці адхіляў іх. Прычым ніколі не тлумачыў, менавіта чаму здымае тую ці іншую рэч. Не ведаю, ці то манера пісьма Уладзіміра не падабалася яму, ці то ён раўніва ўспрымаў падабенства са сваім у літаратурным паходжанні некаторых вершаў маладога паэта. Прычыны такіх паводзінаў Максіма Танка я не разумеў тады, і загадкаю яны застаюцца для мяне да гэтага часу.

Да іншых пачынаючых паэтаў Максім Танк заўсёды быў паблажлівы. Наадварот, з вялікай прыхільнасцю ставіўся да іхніх вершаў, нярэдка падтрымліваючы слабаватыя рэчы. У «Полымі», якое ён рэдагаваў, я таксама працаваў шэсць гадоў і за гэты час не бачыў нічога падобнага.

Вядома, я заўсёды казаў Уладзіміру, чаму яго вершы не надрукаваны. А ён то спярша з задуменным засмучэннем у вачах, і зморшчыўшы лоб, як любіў гэта рабіць, толькі маўчаў, то раптам ні з таго ні з сяго са штучным рогатам успрымаў маё тлумачэнне.

Я тады не разумеў гэтага ягонага пераходу ад аднаго стану да другога. Ніжэй я паспрабую растлумачыць гэтую яго рэакцыю.

Толькі ў канцы 1956 года Максім Танк нарэшце адобрыў адабраныя мною вершы Уладзіміра Караткевіча «Бацькаўшчына», «Ялінка» і «Рута ў халоднай расе», якія з фотаздымкам іх аўтара пад рубрыкай «Галасы маладых» былі надрукаваны ў першым нумары «Маладосці» за 1957 год. А

ў чацвёртым нумары за той жа год з'явіўся яго верш «Вясна». Гэта ў той час, як у «Полымі» за 1955—1956 гады былі ўжо надрукаваны чатыры вершы Уладзіміра Караткевіча.

Між іншым, ніхто з даследчыкаў творчасці Караткевіча не звярнуў увагі на тое, што на працягу першых чатырох гадоў выхаду часопіса для маладых аўтараў у ім не з'яўляліся яго вершы, у той час, як у гэтым выданні ўжо рэгулярна друкаваліся творы паэтаў, на год-два маладзейшых, у прыватнасці Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Алега Лойкі і Петруся Макаля.

Але каб хто-небудзь, крый бог, не падумаў, што Максім Танк мог адхіляць вершы Уладзіміра Караткевіча з ідэйных меркаванняў, я прызнаюся, што і загадчык аддзела паэзіі і галоўны рэдактар «Маладосці» сачылі за ідэйнай чысцінёю часопіса пільней, чым член яе рэдкалегіі.

Менавіта за безыдэйнасць у творах Уладзіміра Караткевіча на яго неаднойчы нападалі заўзятыя крытыканы, пачынаючы ад яго землякоў і канчаючы сакратаром ЦК кампартыі па ідэалогіі.

Яшчэ ў першых вершах Уладзіміра яго землякі актыўна пачалі вышукваць безыдэйнасць. У 1957 годзе аршанская газета ў адным з артыкулаў востра раскрытыкавала яго вершы, а пасля яшчэ арганізавала цкаванне маладога паэта ў аглядзе лістоў сваіх чытачоў. Арганізатарам і натхняльнікам крытычнай кампаніі быў рэдактар газеты В. Каліберaў.

У адказ на гэтую аглабельную крытыку група беларускіх пісьменнікаў звярнулася ў рэдакцыю «Звязды» з артыкулам, у якім давала належную водпаведзь нападкам на маладога паэта. Я прыгадваю, што той артыкул падпісалі Антон Бялевіч, Анатоль Вялюгін, Сяргей Дзяргай, Янка Казека і я. Андрэй Макаёнак, які добра ведаў В. Каліберава, бо вучыўся разам з ім у партыйнай школе і за чатыры гады да таго ўжо ўвекавечыў ягоным прозвішчам аднаго з адмоўных герояў сваёй камедыі «Выбачайце, калі ласка», таксама ахвотна падпісаўся пад гэтым артыкулам.

У «Звяздзе» спачатку паднялі нас на смех. Маўляў, што вы наважыліся з цяжкой артылерыі біць па вераб'ях. Але ў паводзінах некаторых яе супрацоўнікаў яўна адчувалася нежаданне крыўдзіць аршанскую газету і асуджаць занятую ёй пазіцыю.



Пасля нашых настойлівых патрабаванняў рэдакцыя паабяцала надрукаваць артыкул, але падпісаны толькі трыма прозвішчамі: Анатоля Вялюгіна, Андрэя Макаёнка і маім. Але газета марудзіла і не выконвала свайго абяцання. Таму Янка Казека, галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва, у вытворчасці якога ўжо знаходзіўся першы зборнік вершаў Уладзіміра Караткевіча, звярнуўся да паэта-акадэміка Пятра Глебкі з просьбаю стаць трацейскім суддзёю ў гэтай справе. У выніку пад іх двума прозвішчамі ў лютым 1958 года ў «Звяздзе» і з'явіўся артыкул у абарону вершаў маладога паэта.

Я таксама добра памятаю, як на нейкім шматлюдным зборышчы беларускіх пісьменнікаў сакратар ЦК кампартыі па ідэалогіі назваў аповесць Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» нацыяналістычным творам. Але пазней паводле названай аповесці быў зняты мастацкі кінафільм. А яшчэ пазней сам гэты праведнік-ідэолаг пакончыў жыццё самагубствам.

Праўда, у вышэйназваным кінафільме, як і ў іншых, што пазней былі зняты паводле аповесцей і раманаў Уладзіміра Караткевіча, мала чаго заставалася ад задумаў аўтара. Між іншым, сам ён, калі я цікавіўся кожным, толькі што знятым кінафільмам, заўсёды раіў мне: «Лепей не глядзі яго. У ім няма нічога майго».

На самай справе прычынай крытыкі многіх твораў Уладзіміра Караткевіча была глыбоканацыянальная свядомасць іх аўтара. Гэта адразу ж заўважыла чынавенства. Таму верныя паслугачы апошняга заўзята накінуліся на першыя вершы маладога паэта.

Уладзімір Караткевіч — да мозгу касцей нацыянальны рамантык, пісьменнік з ухілам гістарычнага паказу побыту і нораваў свайго народа.

У арыгінале аднаго з сяброўскіх шаржаў на Уладзіміра Караткевіча мастак адчуў гэты рамантызм пісьменніка і нясмела паказаў яго. Малады Уладзімір Караткевіч з уздыбленым на ветры гальштукам, усеўшыся на кляновы ліст, лунае ў паветры. Праўда, мастаку трэба было пасадзіць Уладзіміра не на кляновы ліст, а на кілім-самалёт, што болей праўдападобна перадавала б сутнасць творчасці паэта.

У еўрапейскіх краінах пісьменнікі такога кшталту з'явіліся значна раней. Толькі ў гаротных беларусаў, з прычыны пэўных гістарычных абставін, з'яўленне гэткага пісьменніка было штучна затрымана пагалоўным вынішчэннем нацыянальнай інтэлігенцыі пасля паўстанняў у XIX стагоддзі, а таксама пасля разгрому беларусізацыі ў 30-я гады XX стагоддзя.

Менавіта гэткі пісьменнік мог нарадзіцца толькі ў асяроддзі нашай засцянковай шляхты або яе адукаванай інтэлігенцыі. Высокі інтэлект і глыбокія і шырокія веды нельга набыць за вучнёўскай партаю або за інстытуцкім сталом з нашых абмежаваных і павярхоўных школьных і універсітэцкіх падручнікаў па роднай гісторыі.

Уладзімір пачаў усмоктваць усё гэта яшчэ з малаком маці і прагна засвойваў ад родных і блізкіх людзей, што акружалі яго з маленства. Нездарма ж ён гэтак ганарыўся сваім радаводам, які праз вякі выкалыхваў і перадаваў нашчадкам высакародныя мары, жаданні і памкненні.

Несумненна, Уладзіміру пашчасціла, што пасля школы ён трапіў у Кіеўскі універсітэт, дзе захаваліся нацыянальныя традыцыі. Знаходжанне ў такім асяроддзі паспрыяла яшчэ большаму абвастрэнню і канчатковай загартоўцы нацыянальнай свядомасці.

Таму невыпадкова на кнігі Уладзіміра Караткевіча з прагнай цікаўнасцю накідвалася і накідваецца шматлікая колькасць чытачоў як з нашай адукаванай інтэлігенцыі, гэтак і з асяроддзя студэнцкай і вучнёўскай моладзі, у якой яго творы выклікаюць нацыянальнае абуджэнне і выхоўваюць нацыянальную свядомасць.

Я ганаруся тым, што на паліцах маёй бібліятэкі стаіць большасць гэтых кніг са шчырымі сяброўскімі надпісамі аўтара. На тытульнай старонцы славутага рамана «Каласы пад сярпом тваім» Уладзімір напісаў: «Дарагому Міколу Аўрамчыку, даўняму-даўняму другу, чалавеку, які ледзь не першы друкаваў мае вершы. Хлопцу (дзядзьку?), якога вельмі люблю. 8.7.69. Ул. Караткевіч».

А апошнюю прыжыццёвую кнігу сваіх вершаў «Мая Іліяда» паэт падараваў мне з надпісам: «Любаму майму другу, слаўнаму майму чалавеку Міколу Аўрамчыку — ад таго, хто ніколі не падводзіў сяброў і заўсёды ўмеў любіць іх. У дзень ягонага юбілею. 14.1.70. Ул. Караткевіч».

Я цытую гэтыя надпісы не толькі дзеля таго, каб пахваліцца імі, але яшчэ і дзеля таго, каб чытачы, якія не бачылі Уладзіміра Караткевіча, зразумелі, што я таксама маю некаторыя падставы дадаць некалькі штрыхоў да ягонага партрэта. Бо падоўгу бываў разам з ім на людзях, у рэдакцыі і ў вандроўках па краіне, удвух з ім бавіў час у яго кватэры і ў пакоях Дамоў творчасці. Бачыў яго непахісна цвёрдым у адстойванні сваіх поглядаў і надзвычай працавітым за пісьмовым сталом. Назіраў за яго шырокай натурай, надзіва здольнай пераўвасабляцца, і ведаў яго па-дзіцячы наіўнага і даверлівага.

Памятаю, як з ЦК кампартыі запрасілі нас абмеркаваць, у якім месцы Мінска ўзводзіць помнік Янку Купалу. Было гэта пасля патаемнага ад народа пахавання кіруючым чынавенствам астанкаў паэта, перавезеных з Масквы. Відаць, чыноўнікам хацелася хоць неяк згладзіць непрыемнае ўражанне, якое выклікаў іх ганебны ўчынак сярод пісьменнікаў. Напэўна, таму чынавенства і вырашыла правесці гэтае абмеркаванне. Праходзіла яно перад ганкам нядаўна адчыненага тады Літаратурнага музея Янкі Купалы. Удзельнічала ў ім чалавек пятнаццаць, у асноўным старэйшых пісьменнікаў і адказных супрацоўнікаў літаратурных выданняў. Я добра запомніў прапанову Уладзіміра Караткевіча і ўражанне, якое яна зрабіла на мяне і асабліва на прадстаўніка ЦК кампартыі.

Мабыць, не адзін я, але і некаторыя іншыя лічылі тое абмеркаванне тэатралізаваным фарсам дзеля адводу вачэй. Тады мы наогул не верылі, што помнікі народным паэтам сапраўды будуць узведзены ў сталіцы Беларусі. Але паколькі нас запрасілі выказаць свае меркаванні, мы выказваліся. Большасць пісьменнікаў прапаноўвала ўзвесці помнік Песняру ў

яго скверы. Праўда, адны хацелі бачыць помнік на месцы бюста герою-лётчыку С. Грыцаўцу, што стаяў на самым рагу Купалаўскага сквера, а другія — перад Літаратурным музеем. Хтосьці нават прапаноўваў месца для помніка на супрацьлеглай па дыяганалі праз скрыжаванне вуліц пляцоўцы перад сяміпавярховым домам, што насупраць цырка. На большае тады мы не разлічвалі.

Адзін Уладзімір Караткевіч спачатку прапанаваў, а потым горача настойваў на тым, каб помнік Янку Купалу быў узведзены на месцы зруйнаванага манумента Сталіну на Цэнтральнай плошчы Мінска. У той час, напэўна, многія з нас выказаць такую прапанову не адважыліся б.

Прадстаўнік ЦК кампартыі, які праводзіў абмеркаванне, быў шакіраваны прапановаю Уладзіміра. Перад непахісным адстойваннем апошняга ён вымушаны быў асцярожна намякнуць, што прапанаванае месца не можа быць занята нікім. Напэўна, вышэйшае чынавенства ўжо браніравала гэтае месца для помніка Хрушчову.

Але Уладзімір Караткевіч па-ранейшаму так і не адступіў ад сваёй прапановы.

Уладзімір быў надзвычай працаздольны. За адзін прысест ён пісаў па некалькі старонак, прычым пісаў начыста, без усялякіх папраўак. Яго нястомная працавітасць і сіла волі да пісання нават у экстрэмальных абставінах здзіўлялі.

Аднойчы я працаваў у каралішчавіцкім Доме творчасці пісьменнікаў, калі туды прыехаў Уладзімір. Тады існавала няпісаная завядзёнка, што кожны прыезджы абавязкова пачатак сваёй працы сімвалічна адзначаў з прыяцелямі ці калегамі, якіх там заставаў.

Пасля вячэры Уладзімір запрасіў у свой пакой Алеся Асіпенку, літоўскага пісьменніка Яніса Радайціса і мяне, каб адзначыць пачатак сваёй працы. Мы сядзелі да поўначы. Размаўлялі пра свае літаратурныя справы. Наш літоўскі калега быў галоўным рэдактарам іхняй літаратурнай газеты. Апошні разам з Алесем апоўначы пайшлі адпачываць. А Уладзімір папрасіў, каб я пабыў яшчэ з ім. Разы два ён гатаваў сабе каву, а мне — чай. Мы сядзелі побач, гутарылі, жартавалі.

І раптам Уладзімір шчыльна прысланіўся плячамі да спінкі крэсла, адкінуўшы на яе сваю галаву. Рукі яго павіслі, як плеці. Напэўна, калі б я не падхапіў яго за плечы, дык ён зваліўся б на падлогу. Я расшпіліў каўнер яго кашулі, зняў з ног чаравікі, збольшага распрануў яго і паклаў у ложак. Уладзімір моцна спаў, раўнамерна дыхаючы.

Я, вядома, спалохаўся, бо сведкаю такога быў упершыню. Праўда, штосьці падобнае аднойчы здарылася і са мною. З Янкам Брылём мы сядзелі побач у першым радзе тэатра ў Магнітагорску і глядзелі спектакль. Раптам нечакана мне стала дрэнна. Я толькі адчуў, што Янка

расслабіў на шыі мой гальштук і расшпіліў каўнер маёй кашулі. На нейкае імгненне я страціў прытомнасць. Але праз адну-дзве хвіліны расплюшчыў вочы і да мяне паволі вярталася свядомасць. Толькі твар і шыю абдало халодным потам.

А Уладзімір па-ранейшаму спаў моцным сном і раўнамерна дыхаў. Я накрыў яго коўдраю і выйшаў на веранду, зачыніўшы за сабою дзверы. Але не ведаў, што рабіць з уваходнымі дзвярамі з вуліцы. Яны лёгка адчыняліся ад павеву ветру. У Каралішчавічах тады было шмат прыблудных сабак і катоў. Не замыкаць жа Уладзіміра ключом з ганка. Я туга зашчаміў дзверы тонкай галінкаю і пайшоў у свой пакой, што знаходзіўся з галоўнага ўвахода ўсярэдзіне Дома творчасці.

На гадзінніку было дзве гадзіны ночы. Я нават не распранаўся, бо мне было не да сну. Трохі прыдрамнуў і а пятай гадзіне раніцы пайшоў да вуглавога пакоя Уладзіміра. Абодва акны ў гэтым пакоі ярка свяціліся. А я ж, як выходзіў, выключыў святло. Таму я захваляваўся, не разумеючы, што здарылася.

Але ўваходныя з ганка дзверы па-ранейшаму былі туга зашчэмлены галінкаю. Гэта трохі супакоіла мяне. Калі я з веранды пастукаў у дзверы пакоя, Уладзімір бадзёрым гучным голасам выкрыкнуў: «Калі ласка!»

Я ўвайшоў у пакой і аслупянеў ад здзіўлення. Апрануты, Уладзімір сядзеў за сталом і пісаў.

— Валодзя, як ты сябе адчуваеш? — першым чынам запытаўся я.

— Цудоўна! — адказаў ён і здзівіўся: — А што такое?..

Я расказаў, што з ім здарылася ўначы.

— Глупства ўсё гэта! Я ўжо, як бачыш, некалькі старонак накідаў,— радасна адказаў ён.

На стале перад ім ляжала начыста запоўненая клінапісным почыркам верхняя старонка рукапісу.

Натура Уладзіміра была з шырокім размахам.

Помню, як наша нешматлікая пісьменніцкая дэлегацыя прысутнічала на ўрачыстым адкрыцці Дзён беларускай кнігі ў Маскве. Пасля гасціннай вячэры, якую з гэтай нагоды нам наладзілі гаспадары, мы вярнуліся ў гатэль, дзе размяшчаліся. А Уладзімір Караткевіч з Анатолем Вярцінскім рашылі пагусарыць па вячэрняй Маскве. Але паколькі ў ёй у позні час усе пажыўныя месцы заняты прыезджымі і пранікнуць у рэстараны немагчыма, Анатоль назваўся прадзюсерам і перакладчыкам вядомага польскага кінарэжысёра Уладзіміра Караткевіча, якога як замежную славутасць і прадставіў метрдатэлю. Апошні ў такой сітуацыі, вядома, не мог не прапусціць іх у рэстаран. Там яны абодва прынялі дзейсны ўдзел у вяселлі ці то афрыканскай князёўны, ці то дачкі правадыра нейкага афрыканскага племя і выклалі ўсе свае пенёнзы. Трэба было бачыць іх абодвух, сумных і стомленых пасля тае разгульнае ночы.

А ў Маскве нам неабходна было затрымацца яшчэ на дзень-два. Спачуваючы, я спытаўся ў Анатоля, як магло здарыцца такое.

— Мікалай Якаўлевіч, я не ведаў, што ў Караткевіча такая шырокая натура, і непрыкметна паддаўся яе ўплыву,— прызнаўся ён.

А Янка Брыль у сваю чаргу пацікавіўся ў Караткевіча, што ён будзе рабіць цяпер?..

Самотны Уладзімір адказаў, што перахопіць грошай ці то ў свайго дзядзькі, ці то ў нейкага дзядзькавага знаёмага ў Маскве.

Пазней, у Мінску, я неаднойчы чуў, як Уладзімір многім расказваў пра тое злашчаснае вяселле афрыканскай князёўны як пра свае забаўныя рамантычныя прыгоды. Прычым, расказваючы, настолькі пераўвасабляўся, што ніхто са слухачоў не мог западозрыць, што тыя прыгоды на самай справе былі для яго трагікамічным спектаклем.

Для Уладзіміра, больш чым для каго іншага з нашых пісьменнікаў, характэрна было гэткае пераўвасабленне. Пазней я зразумеў, што адзнакі яго ўжо выяўляліся ў юнацкім рэагаванні Уладзіміра на маё тлумачэнне, чаму яго вершы не надрукаваны ў «Маладосці».

Уладзімір любіў бавіць час у нашай рэдакцыі. Можа, таму, што яна была непадалёку, у трох хвілінах хады ад яго кватэры, а магчыма, таму, што ў ёй панавалі дэмакратычныя парадкі, пры якіх яму было дзе расхінуцца на ўсю шырыню сваёй натуры. Аб гэтых яго наведваннях сведчаць некаторыя вядомыя фотаздымкі.

Спачатку Уладзімір падоўгу праседжваў у аддзеле прозы і паэзіі, дзе працавалі мы з Міхасём Стральцовым. А калі бачыў, што пачынае замінаць нам, моўчкі пераходзіў праз разнасцежаныя ў сцяне дзверы ў сакратарыят, да Уладзіміра Юрэвіча і Веры Палтаран. Апошняя не адпускала яго да тае пары, пакуль яны разам не абмяркуюць усе навінкі мастацкай літаратуры.

Але адказны сакратар рэдакцыі Уладзімір Юрэвіч, які быў заняты працаю больш за нас, мог і намякнуць госцю, каб ён не перашкаджаў працаваць. Тады праз другія разнасцежаныя ў сцяне дзверы Уладзімір пераходзіў у аддзел мастацкага афармлення, дзе вёў рэй пляменнік Янкі Купалы мастак Янка Раманоўскі. Тут Уладзімір размаўляў з многімі мастакамі, што наведвалі рэдакцыю. Асабліва хінуўся да Арлена Кашкурэвіча, з якім у іх былі прыязныя стасункі.

У апошняе перадпенсійнае дзесяцігоддзе маёй працы ў «Маладосці» Уладзімір часта запрашаў у сваю кватэру на каву мяне з Уладзімірам Дамашэвічам, які тады загадваў у часопісе аддзелам прозы. Бывала, апоўдні патэлефануе:

— Якаўлевіч, ну дык я ўжо чакаю вас абодвух.

А «Маладосць» жа, у адрозненне ад «Полымя», пачынала працу не а 14 гадзіне, а апоўдні. Таму ў гэты час сама што прыходзілі наведвальнікі ў нашы аддзелы.

— Валодзя,— адказваю я,— дык у нас жа сядзяць аўтары.

— Ну, добра, тады прыходзьце па адным, змяняючы адзін аднаго,— не адступаў ён.

Звычайна мы так і рабілі. Першым да яго ішоў той, у каго перад сталом не сядзеў наведвальнік. А праз гадзіну-другую вяртаўся і на змену яму рушыў другі.

З Уладзімірам цікава было пасядзець, пагутарыць. Асабліва паслухаць яго расповеды пра даўнія падзеі нашай гісторыі, пра беларускую шляхту, пра яе побыт, звычаі і норавы. Мала таго, каб сказаць, што веды ў яго былі энцыклапедычныя, усебаковасць, шырыня і глыбіня іх здзіўлялі.

Памятаю, як мы сядзелі з ім, а да яго ўпершыню прыехаў прадстаўнік Мсціслаўскага райвыканкама і прасіў Уладзіміра напісаць гістарычны нарыс пра Мсціслаўшчыну. Трэба было бачыць, як Уладзімір узрадаваўся гэтай просьбе. Ягоная маці Надзея Васільеўна нарадзілася ў Мсціславе.

Я тады падумаў сам сабе: «Як добра, што менавіта да такога аўтара, а не да звычайнага газетчыка звярнуліся з просьбаю раённыя кіраўнікі». А заадно мне таксама прыемна было распытаць у іхняга прадстаўніка сёе-тое пра гэты гістарычны горад, у якім па волі лёсу я правёў самую жахлівую другую дзесяцідзёнку вайны і адкуль нарэшце разам з мясцовымі жыхарамі трапіў у армію.

Тады ні Уладзімір, ні я не прадбачылі, што ён напіша цудоўны гістарычны нарыс пра гэты край. Шкада толькі, што савецкая цэнзура пакрамсала па жывым выданне гэтай кнігі.

Аднойчы Уладзімір расказаў мне, як ён з вучэбнай вінтоўкаю ў руках, разам з нашымі вартавымі, па дняпроўскай кручы канваіраваў нямецкіх палонных. Яго расповед узрушыў мяне. Я так і ўявіў сабе цыбатага Уладзіміра-юнака ды яшчэ не з баявой, а з вучэбнай вінтоўкаю ў руках. Так у мяне напісаўся прысвечаны яму верш «Ты ж знаеш, як паэзію — у прозе і прозу — у паэзіі знайсці».



Бывала, сядзім у яго кватэры, а ён возьме дый патэлефануе ў Акадэмію навук сваёй жонцы Валянціне Браніславаўне:

— Валя, ведаеш, хто ў мяне сядзіць зараз?..

Скажа хто і перадасць мне тэлефонную трубку.

— Мікола, як я рада, што вы наведалі Валодзю. Калі вы сядзіце разам з ім, я спакойна за яго. Затрымайцеся, калі ласка, пачакайце, пакуль я прыйду з працы.

Я адчуваў, што абое яны рады нашай сустрэчы. Напэўна, і мяне яны лічылі калі не іхнім сватам, дык шаферам-дружкай. Бо ў свой час Янка Брыль не раз і не двойчы вазіў мяне з Уладзімірам Караткевічам у Брэст да свайго сябра, вядомага крытыка і літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка. Там мы сустракаліся са студэнтамі і выкладчыкамі педагагічнага інстытута, у якім працавалі Уладзімір Калеснік і Валянціна Браніславаўна. Там мы і пазнаёміліся з апошняю. А трохі пазней яна выйшла замуж за Уладзіміра Караткевіча і пераехала ў Мінск.

Часам Уладзімір быў па-дзіцячы наіўны і даверлівы. Помню, як Усесаюзнае бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў СССР запрасіла дэлегацыю беларускіх пісьменнікаў наведаць буйныя прамысловыя прадпрыемствы Урала.

Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Васіль Вітка, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка, Іван Навуменка, Уладзімір Паўлаў і я самалётам ляцелі з Масквы ў Чэлябінск. Мы з Уладзімірам Караткевічам сядзелі ў крэслах побач. А з другога боку яго, каля ілюмінатара, сядзела незнаёмая жанчына.

Як бывае ў дарозе, мы ўтраіх зрэдку перакідваліся словамі.

Увечары, падлятаючы да Чэлябінска, Уладзімір прызнаўся, што тут яго павінна сустрэць родная сястра.

— Гэта добра,— пазайздросціла суседка, якой з Чэлябінска яшчэ трэба было ехаць далей, і яна не ведала, ці ўдасца ёй уладкавацца на ноч у незнаёмым горадзе.

Я чуў, як Уладзімір з дзіцячай наіўнасцю паабяцаў суседцы, што яна зможа пераначаваць у яго сястры.

У аэрапорце, калі мы выйшлі з самалёта, сястра Уладзіміра Наталля Сямёнаўна з мужам Іванам Мікалаевічам сустрэлі брата, які пазнаёміў нас з імі. Я таксама чуў, як Уладзімір сказаў сястры, што трэба ўладкаваць на ноч незнаёмую жанчыну, якая сядзела з ім па суседстве ў самалёце.

Наталля Сямёнаўна абурылася. Маўляў, не паспеў адляцець ад жонкі, як ужо ў дарозе заводзіць знаёмствы.

Мне было шкада наіўнавата-шчырага Уладзіміра. Я спачуваў яго даверлівай суседцы і разумеў насцярожанасць Наталлі Сямёнаўны.

І па-свойму ніхто з іх не быў вінаваты.

Пасля выхаду на пенсію я трынаццаць гадоў пражыў у Крыме. Штогод прыязджаў у Беларусь толькі позняй вясною і ўсё лета жыў на дачы. Мінск наведваў разы два ў месяц. Увесь гэты час мы з Уладзімірам сустракаліся рэдка.

Праўда, аднойчы, калі я жыў у ялцінскім Доме творчасці пісьменнікаў, Уладзімір працаваў у коктэбельскім, адкуль прыязджаў у Ялту. Мы тады разам наведалі магілу Максіма Багдановіча.

Другі раз Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч і я сеялі насенне васількоў на гэтай магіле, пра што я расказаў у вершы «Сімвалічная кветка», прысвечаным памяці Алеся Адамовіча.

Аднаго разу, калі позна ўвечары я прыехаў з дачы ў Мінск, мая малодшая дачка Наталля сказала, што на мінулым тыдні тэлефанаваў Караткевіч. Прасіў, каб я абавязкова патэлефанаваў яму. Я збіраўся тэлефанаваць заўтра. Але тое заўтра было 25 ліпеня 1984 года. У гэты дзень Уладзіміра не стала. Чаго ён тэлефанаваў мне, я не ведаю і ўжо ніколі не даведаюся.

*2005*

## Данута Бічэль

# Як Уладзімір Караткевіч прызямліўся ў Гародні вясной 1965 года

Каложа, туга мая светлая!..
*У. Караткевіч*

Уладзімір Караткевіч вандраваў па свеце. У Гародню ён прыехаў вясной 1965 года. Было яму 35 гадоў, і быў ён халасты. Я думала, што была першай асобай, каго ён у Гародні спаткаў на мосце каля замка. Але магла я і памыліцца. Я думала, што гэта быў травень. Але дакладнай даты не памятаю. Цёпла было, я ішла ў тонкай сукенцы свабоднага крою, я чакала нараджэння сына Валеры. Ішла з-за Нёмана праз новы мост, які будавалі недалёка ад лесу Пышкі, да замкавай гары. Любіла хадзіць у маладосці. Мне было 28 гадоў.



«Ля Салянай вежы — камяністы касталомны зрыў да ракі... А ля яе — узгорак, вышэйшая кропка замчышча, гародзенская Галгофа»,— буду браць цытаты толькі з кнігі У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Валодзя стаяў на мосце паміж старым і новым замкамі, я ўбачыла яго і ўжо не пайшла аж да пачатку тратуара, а пабегла па крутым насыпе. Валодзя падаў мне руку.

Ён прызямліўся ў Гародні, каб праверыць, ці той горад, які ён прыдумаў у кнізе, адпавядае таму гораду, які пабудавалі ў стагоддзях. Ён прыдумаў гісторыю, у якой вырашыў паблытаць час, апавядаць пра

сучаснасць і будучыню ў мінулым часе. «Час уцякае — вечнасць чакае...» — надпіс на франтоне касцёла ў мястэчку Вадавіцы. «Сярэднявечча...» — спявае пра сучаснасць Віктар Шалкевіч.

У кнізе У. Караткевіча ўсё ж не дакладная карта горада. Я не чула, каб тут былі каменяломні. Я не ведаю пра царкву Трохкупальнай Ганны. Праўда, легенды пра падземныя тунелі тут апавядалі. Але ўсё гэта дробязі. Валодзя Караткевіч прызямліўся ў Гародні і быў маім экскурсаводам. Я яго слухала, але ён мог апавядаць і сабе самому, усе пісьменнікі так робяць.

Мы дайшлі па дзядзінцы старога замка да муроў Вітаўта. Валодзя пералез на зарослы бур'яном той касталомны зрыў да ракі, куды лазяць хлопчыкі, ён разглядаў гэты «слоены пірог», сцяну, якая будавалася,— рад цаглін, рад камянёў. Прабраліся ў глухі востры куток замка, адкуль Вітаўт глядзеў у бок крыжакоў. Адтуль добра відаць Каложа — старажытная царква XII стагоддзя Барыса і Глеба. На панадворку ці на замчышчы была абгароджана дошкамі падмуроўка ніжняй царквы. Валодзя пашукаў шчыліну ў плоце, пралез туды, але там было цемнавата. Да Каложы мы ўзыходзілі па стромкіх утравелых сходках з каменняў, якія ў многіх месцах прападалі, трэба было лезці па пяску ці кустах. Каля Каложы стаяў драўляны домік, у ім жыла жанчына, якая мела ключы ад дзвярэй царквы і ад брамы. Не думаю, што ёй хто-небудзь плаціў за варту. Валодзя яе ўгаварыў, яна адчыніла сама вароты і дзверы. Мы глядзелі і гладзілі адшліфаваныя каляровыя камяні і маёлікавыя пліткі, плінфы-цагліны, і пасля зайшлі ў царкву. У кнізе ў Валодзі царква знутры белая. Але белай яна ніколі не была. Ён паразмаўляў у галасніці-гарлякі збанкоў, правяраў, «ці галасна». Прапаў у алтары і з'явіўся высока злева каля акна-байніцы на вузкім выступе. Правы бок забіты дошкамі, таму што ён абваліўся ў паводкавы Нёман, здаецца, у 1852 годзе.

Валодзя заспяваў народную простую песню «Ой, сівы конь бяжыць...».

У аднайменным кінафільме па кнізе Караткевіча аўтар іграе маленькую ролю і пяе старую, але, відаць, створаную ім жа песню... Я таксама паднялася па вінтавой стромай лесвіцы да байніцы. Цяпер то я і на хоры фарнага касцёла іду з вялікім хваляваннем...

Тады на Каложы мы прабылі доўга. У музей Валодзя адмовіўся ісці. Не хацеў марнаваць такую прыгожую раніцу. Зусім нядаўна ў выпадковай размове з гародзенскім скульптарам Аляксандрам Ліпенем, равеснікам Валодзі Караткевіча, я даведалася, што Валодзя ў тое прызямленне ў Гародні правёў шмат часу, доўга вывучаў замак, чытаў дакументы ў фондах музея і ў архіве. А пасля працы адпачываў з Ліпенем на рацэ Ласасянцы, дзе яны лавілі стронгу. З Ліпенем і Валодзем Уласенкам, земляком Караткевіча, які працаваў на ТЭЦ-1. А са мной ён проста прагуляўся для асалоды душы.

Караткевіч да жанчыны адносіўся з павагай, у яго творах усе жанчыны прыгожыя, у залежнасці ад узросту яны падзяляюцца на добрых маці, Магдален (як Марына Крывец) і Веранік (як Анея)...

У цэнтры Гародні ўзвышаецца касцёл святога Францішка Ксаверыя, віленскае барока. Я ў маладосці заходзіла ў касцёл памаліцца слязамі. Сядзела і маўчала ў сумоўі са святымі. Уладзімір Караткевіч у касцёле пра мяне забыўся, чытаў адзін фрэскі касцёла — намаляваную высока на сценах кнігу жыцця ксяндза-іспанца, які паехаў у далёкія краіны павяртаць паганаў. Магчыма, драўляныя скульптуры апосталаў і евангелістаў падказалі Уладзіміру Караткевічу пра інквізіцыю тое, што ён шукаў у Гародні. Я ў іх размову маўклівую не ўлазіла. Адзін раз у дзяцінстве я ўлезла, калі гутарылі мужчыны, мяне тата стукнуў. Але балюча, навучыў.

Езуіцкі кляштар у Гародні займае вялікі квартал. Ён абнесены высокай сцяной. Там і цяпер знаходзіцца турма. А пры касцёле — сядзіба біскупа, ксяндзоў. Ад вуліцы Гараднічанскай (тады Энгельса), якая выходзіць на вуліцу Карла Маркса, так гэтая вуліца і цяпер называецца, а ў пазамінулым стагоддзі называлася Купецкай. Сцяна езуіцкага кляштара памазана была едкай бруднай ружовай фарбай. Але Валодзя не бачыў таго колеру. Ён бачыў сярэднявечную сцяну таго часу, калі Ігнацы Лаёла пасылаў свайго сябра Францішка Ксаверыя, езуіта, з Францыі ў Індыю. А на думку Караткевіча — у Гародню... Сцяну ён абнімаў, гладзіў. І кажа: «Калі буду прэзідэнтам, пабудую празрысты купал, каб захаваць гэты горад ад ветру, граду і разбурэння. Гэты горад будзе ратаваць мой народ ад бяспамяцтва і дурноты...» І перастаў гаварыць. Тут цытата з кнігі: «І вочы... З нязвыклым ім самім выразам, прыўкрасней за якіх не было нічога на свеце...» У гэты час ён быў Юрасём Братчыкам. У пісьменніцкім уяўленні. Містычна. Яшчэ мы паглядзелі драўляны лямус — дом без цвікоў — у прасторы брыгіцкага кляштара, пабылі на пляцы перад будынкамі Антонія Тызенгаўза і па вуліцы Каліноўскага прагуляліся аж да лесу, я яму паказала, дзе ў Гародні вуліца Цёткі, Алаізы Пашкевіч, нашай паэткі. Там развіталіся.

У мяне нарадзіўся сын Валера.

Валодзя прыслаў у канверце верш «Каложа» з прысвячэннем Дануце Бічэль. Гэты верш ёсць у ягоным васьмітомніку. Ёсць некалькі вершаў розных паэтаў з такой назвай і прысвячэннем, нават Ларысы Геніюш. Але Валодзя параўнаў Каложу з бэтлеемскай зоркай, якая паказвала дарогу да народжанага Збавіцеля свету... Тут, у Гародні, я са сваім сынам так, як там, у Бэтлееме, не маем мы месца ў гасподзе, а толькі ў стайні між бяздомнымі жывёламі. Але жывёлы лепшыя за людзей. Валодзя ведаў, што так са мной тут будзе, таму што ў горадзе жыве такая парода людзей, пра іх ён сказаў так: «Болей за ўсё яны любілі свой спакой, сваю ўладу і саміх сябе».

Уладзімір Караткевіч перасяліў сваю кнігу ў мінулае, каб абмануць і падараваць надзею, бо «павінен быць хоць маленькі агеньчык, на які глядзелі б дзеці...». Таму і прызямліўся ў Гародні Юрась Братчык, які ў змрочныя часы інквізіцыі ў сярэдзіне 60-х гадоў ХХ стагоддзя спрабуе арганізаваць справядлівую вайну. Аж пакуль «на гэтай цвердзі не народзіцца новая парода людзей з веданнем і чысцінёй думак...».

Валодзя свой раман будуе па евангелічнай схеме. З'яўленне Хрыста, якога ў вандроўным тэатры іграе Юрась Братчык. Грамадская дзейнасць. Справядлівы падзел хлеба. Вайна з крымскімі татарамі... Вандраванне па Гарадзеншчыне і ў святыню — Вострую Браму... Апошняя вячэра. Роздум у садзе каля Каложы. Крыж...

Да кожнага раздзела кнігі аўтар падбірае эпіграфы з прыгожых кніг сусветнай літаратуры, з народных песень і мудрасці, а найболей са Святой Кнігі Евангелля, асабліва з Апакаліпса св. Яна.

Адвольна інтэрпрэтуе і ўкладае ў прамову Юрася Братчыка да мужыцкага свайго войска перад бітвай «Восем благаславенняў» (Мц. 5: 2—12):

«— Благаславёныя вялікія і добрыя духам, якія б малыя яны ні былі...

— Благаславёныя тыя, хто ахвяруе людзям кроў сваю і свой гнеў, таму што на рахманых ездзяць...

— Благаславёныя, калі выходзіце са зброяй за просты, бедны люд і падаеце... Таму што тады вы — соль зямлі і святло свету. Любіце і мірыцеся...»

Валодзеў Юрась Братчык пазбегнуў укрыжавання. Малады, прыгожы, з каханай Анеяй і тымі сябрамі, якія яму не здрадзілі, сее збожжа і нават крыху выпівае. Гэтым ён моцна не дацягвае да Хрыста, які перамагае ахвярнай смерцю. Што тут зробіш? Прытча прышчэплена да рамантызму, ментальнасць беларусаў патрабавала такога сюжэта. Мы не верым, а спадзяёмся на добрага Юрася Братчыка, які за нас усё зробіць...

«Дзіўныя рабіліся справы. Ён, такі спачатку бездапаможны і слабы, застаўся жыць, а з тых, магутных, што калісьці навязалі яму страшную тую гульню, не засталося ніводнага...» — думаў Братчык.

Чаму сакратары КПСС не ўбачылі ў Балвановічы — Басяцкім — Лотры саміх сябе? Былі занятыя партыйнай работай, не прачыталі кнігу Уладзіміра Караткевіча. А Валодзя іх папярэджваў!

А сваё войска, землякоў, інтэлігенцыю вучыў не палохацца ні татарскіх ханаў з баявымі сланамі, ні замежную інквізіцыю, не баяцца расейцаў і палякаў, а любіць і мірыцца, сеяць жыта між пушчаў на нівах у дзве жмені...

*Пачатак красавіка 2005 г.*

Янка Брыль

# Наш Караткевіч

## 1

Паслязаўтра год, як яго няма...

За маім расчыненым на ўсход акном, у пакоіку на гарышчы вясковага дома, застыла ў чаканні, можа, нарэшце, і сенакоснага дня сонечна-церпкая, росная раніца, асабліва прыгожая пасля зацяжных дажджоў. Над акном, у белацагляным вільчыку, пачырыквае ды шалпочацца ў цеснаватым ужо гняздзе ластаўчына малеча, падлёткі. З блізкага лесу зрэдку пачуецца гівал. Гэты голас Валодзя любіў. У слове пра маё пяцідзесяцігоддзе, успамінаючы наша падарожжа па маіх родных мясцінах, ён называў гэтага птаха двойчы і за пісьмовым сталом, чуючы яго песню,— «дзьме ў дудку з вадой». Час ад часу недзе воддаль гаркне варона, зімой і летам аднолькава, а ўсё ж, здаецца, сёння трошкі прыгажэй.

Во, і ластаўкі маладзенькія так ужо блізка — зляцелі з гнязда, паселі на белых фортках акна. Калупаюцца дзюбкамі ў новым перайку, прыхарошваюцца, змалку чысцюлі, зрэдку якая чырыкне штосьці, як і мама з татам, зусім даверліва, не баючыся чалавека. Бачу іх праз сетку фіранкі, няхай сабе менш выразна, але ж з жывымі ценямі, якія пацешна трапечуцца на ўзорыстай белі. Гэта тады, калі прылятае адно з бацькоў і насустрач чарговай мошцы ўся дзетвара адразу і галасамі, і крылцамі выказвае нецярплівасць.

Каб ён, Валодзя, наведаў мяне тут (а гаварылася ж!..), дык і заціхнуў бы разам у назіранні, а потым і засмяяўся б, па-свойму гучна ды молада, што акно цяпер шаноўнай панечцы гаспадыні прыйдзецца мыць часцей!..

Успамінаю словы яго, што ўразілі нядаўна пры перачытванні шматпакутнай кнігі «Нельга забыць»:

«Прыйдзе дзень, і мяне не будзе. А свет не застанецца без слоў.



...Прыйдзе дзень, і мяне не будзе. Але будзе вечнай зямная цеплыня.

...А на цёплай зямлі ў буркатлівых галубоў лапкі ў векі вякоў будуць каралавымі».

Зусім інакш чытаецца гэта цяпер, чым чыталася вось ужо больш за дваццаць гадоў таму назад, у рукапісе.

Увосень васьмідзесятага я запісаў у блакноце:

«Думаў учора, што трэба будзе перачытаць Караткевіча, якога я чытаў найбольш у першых рукапісных варыянтах. І гэта па-свойму гаворыць мне пра яго значнасць. У нейкай залежнасці ад яго юбілею».

Пасля, праз няпоўныя чатыры гады, прыйшла другая — горкая, балючая залежнасць. Жаданне перачытаць паўтарылася. За гэты год перачытаў амаль усё надрукаванае. (Найбольш — за гэтым столікам, на якім цяпер пішу.) У мностве папак, якія мы, сябры, сумна кажучы — члены камісіі па яго літаратурнай спадчыне, перабралі ў папярэднім азнаямленні, ёсць яшчэ нямала таго, што будзем не перачытваць, а чытаць упершыню. Асабліва блакноты з рабочымі запісамі зачараванага вандроўніка па самых розных кутках Беларусі, па ўсёй савецкай краіне і за межамі яе, з запісамі хатнімі, за перагружаным сталом. Уражанне ад таго, што ён паспеў зрабіць, як ён нямала зрабіў — пазней яшчэ пабольшыцца. Яно немалое і так, я гэта адчуваў над яго старонкамі неаднойчы. І мне з ім добра было, нібы з жывым гаворачы...

Інакш загучалі і пісьмы Валодзевы, паўсотні пісем з Оршы, з Масквы, з Рагачова. І мае да яго таксама перачыталіся цяпер інакш. І аўтографы на кнігах таксама гучаць па-іншаму. Хоць бы такі, апошні, на тытульнай старонцы «Чорнага замка Альшанскага»:

«Другу майму з год былых, цяперашніх і, спадзяюся, доўгіх яшчэ будучых...» Дата: 11 лютага 84 г.». За пяць месяцаў і чатырнаццаць дзён...

Днямі, яшчэ раз убачыўшы гэты аўтограф, успомніў словы Адама Багдановіча з яго ўспамінаў пра Максіма. Не памятаю іх у зусім дакладным гучанні, помніцца жаль, які і ў мяне кладзецца ў падобныя словы: «Не думаў я, што мне прыйдзецца пісаць пра цябе, а не наадварот...»

Леташні ліпень... Валодзя паехаў зноў на Палессе, у апошняе, скажам цяпер — у адчайнае падарожжа. Некалькі дзён перад гэтым, калі ён вярнуўся з Кіева, з юбілейнай сустрэчы выпускнікоў універсітэта імя Шаўчэнкі, а я «на дзянёк» прыехаў з вёскі, мы гаварылі па тэлефоне. Ён мне сказаў, што ў Кіеве яшчэ застаўся наш агульны друг, таксама былы «шаўчэнкаўскі» студэнт, Флёрыян Няўважны, вядомы польскі ўкраініст, шчыры, актыўны прыхільнік і нашай літаратуры. Знайсці яго можна зноў жа па сяброўскай лініі, цераз іх аднакашніцу, кіяўлянку Музу Сняжко. З гэтай мілай жанчынай, якую я пакуль што ведаю па расказах беларуса ды паляка і па голасе ў тэлефоннай трубцы, мы нямала пагаварылі пра нашага беларуса. Куды менш весела, чым сумна, заклапочана. І з Флёрыянам крыху пазней — таксама. Муза Яўгенаўна перадала мне *пасля* Валодзева фота, зробленае ёю ў Кіеве, у тым апошнім чэрвені. Ён быў зусім стары на сваім толькі пяцьдзесят чацвёртым годзе, стары і тужліва-зняможаны.

І здымак той, для мяне апошні, і гутарка па міжгароднім з украінкай і палякам, і наша з Валодзем гутарка па тэлефоне мінскім — усё было апошнім *нечакана.* Як яно, *такое,* было ўжо неаднойчы, як будзе і потым. Да нас, у нас, пасля нас...

Здарылася так, што ў тыя ліпеньскія дні я злёг у вёсцы ад нейкага віруса, дзён колькі ныў у нязвычна высокай тэмпературы, і жонка, вярнуўшыся з Мінска, застаўшы мяне хворага, не адразу паведаміла пра страшнае. Гэта было пад вечар 27-га. А ў дзве гадзіны поўдня, яшчэ адзін, у пэўным прасвятленні, я ўключыў транзістар, узяў пасля Мінска Варшаву, дзе якраз дванаццаць, і пачуў адтуль славуты кракаўскі «гейнал».

Хай мне прабачаць тыя, хто гэта ведае і сам,— сказаць трэба для тых, хто не ведае. «Гейнал» гэты, шчымліва прыгожы, глыбока гістарычны голас горна з акна высачэннай вежы Марыяцкага касцёла, гучыць на ўсе чатыры бакі свету кожную гадзіну. І кожны раз мелодыя яго абрываецца *недагукам.* На ўспамін пра тую татарскую стралу, што — па легендзе — упілася ў напружанае горла гарніста ў адзін з жахлівых для стольнага Кракава дзён 1241 года. Я гэты «гейнал» — хвалюючы, радасна-ўрачысты, з сямівекавым абрывам ў канцы — ведаю яшчэ з тых даваенных, заходнебеларускіх дзён, калі і ў нашу хату маленькім і вялікім цудам прыйшоў чорны эбанітавы радыёпрыёмнічак з навушнікамі. Чуў яго потым і непасрэдна, у Кракаве, то знарок, то міжвольна спыніўшыся на прасторнай, гладка забрукаванай плошчы, з найбольшай сілай адзначанай тою плітой з надпісам, на месцы якое наш высакародны, палымяны зямляк Касцюшка, паўстаўшы на няроўную барацьбу, прысягаў сваю вернасць паняволенаму народу.

«Гейнал» гучыць, лунае з аднаго акна. Пасля чуваць завучана мерны крок гарніста, які няспешна ідзе да акна другога. Потым ён нясе свой урачысты голас да трэцяга, да чацвёртага...

Гэтак чуваць мне па радыё. Я слухаў, лежачы, і ўжо не першы раз успомніў, што туды, на тую касцельную вышыню — 222 крутыя прыступкі — да тых гарністаў аднойчы цудам, праз усе забароны, трапіў і беларус. І гэта быў вясёлы беларус, адзін з нашых найлепшых, калі не найлепшы апошнім часам знаўца сваёй і суседскай гісторыі. Не ведаю, чуў ужо ён тады ці не чуў, што гэты ж хмельна-вясёлы подзвіг зрабіў да яго вельмі дастойны польскі аптыміст і рызыкант паэт Галчыньскі, пан і таварыш Канстанты Ільдэфонс, высокай пробы слова якога Караткевіч ведаў і любіў. Ну што ж, з усмешкай думаў я, слухаючы песню горна, не важна, што быў папярэднік,— так ці так, а яно і ў нашага рызыканта зрабілася молада ў кожным узросце.

Бог мой, і гэта ўсё — думкі, усмешкі мае — было якраз у тыя хвіліны, калі за сто кіламетраў, у Мінску, якраз пачалося жалобнае развітанне. З тым, каго і я любіў, люблю, як дарагога, нялёгкага, светлага, незабыўнага брата...

Яшчэ праз два дні мне сказалі ўсё, паказалі газету з некралогам.

2

Пра нашу першую сустрэчу і знаёмства ён пісаў у згаданым ужо юбілейным «штрыхавым партрэце» пад назвай «Мой друг і мая зямля», назвай, якая тады, на старонках «Маладосці», здалася мне хоць і прыемнай, але залішне ўзнёслай. Што ж, па-ягонаму. На той, улетку 1955-га, нарадзе маладых пісьменнікаў я не быў, прыехаў з Нарачы, калі яна ўжо закончылася. Аднак да сустрэчы з Караткевічам паспеў пачуць пра яго як пра найцікавейшага з маладых. А сустрэліся мы ў кнігарні, дзе ён здзівіў мяне і маладым, свабодна гучным беларускім голасам у размове з прадаўшчыцамі, і колькасцю купленых кніг, і сваім адметным выглядам высока-танклявага юнака, маладзейшага за свае, як потым стала мне вядома, дваццаць пяць.

Гадоў праз дваццаць, а то і больш, на адной з менш вясёлых сустрэч, я спытаўся ў яго, ці памятае ён таго ўкраінскага вясковага настаўніка, пачынаючага беларускага паэта, неацяжаранага, імклівага ў юначай захопленай чысціні,— ці добра памятае сябе з тых дзён, калі прыйшоў да ўражанага чытача першай кніжкай паэзіі, а неўзабаве і прозы, калі пісаў сябрам, і маладым, і старэйшым, поўныя і перапоўненыя гумарам, розумам, аптымізмам пісьмы, калі бываў у іх сем'ях жаданым, у кожны дзень святочным госцем?.. Не зазлаваў Валодзя ад гэтага няментарскага пытання, толькі пасумнеў ледзь не да слёз у вялікіх вачах, пачаў, як і ўсе мы, раздражнёна шукаць прычын перш за ўсё толькі звонку. Хоць і было тых вонкавых, «аб'ектыўных» прычын вельмі нямала, як на аднаго, няхай сабе і дужага.

Няўжо так было заўсёды і так заўсёды будзе, што некаторым з найбольш таленавітых трэба прабівацца да чытача з незвычайнымі цяжкасцямі ды перашкодамі, як потым акажацца — лішнімі і шкоднымі не толькі для носьбіта таго жывога агню, але і для сапраўднай літаратуры? Потым акажацца... А тое «потым» прыходзіць не толькі позна, але ж і запозна. І вінаватых як быццам няма...

Кнігу «Нельга забыць» вышэй я назваў шматпакутнай. Паміж яе часопіснай публікацыяй і першым асобным выданнем прайшло больш за дваццаць гадоў. Перачытваеш цяпер і дзіву даешся, чаго, за што, навошта чапляліся да кнігі адкрытыя ды закрытыя выдавецкія рэцэнзенты, куды глядзела само выдавецтва, чаму не больш настойліва змагалася за правы таленту пісьменніцкая грамадскасць? Раман «Каласы пад сярпом тваім», у якім з дыстанцыі, пры перачытванні, яшчэ больш удзячна бачыцца ва ўсёй гістарычнай грунтоўнай эпічнасці яшчэ і чыстата, шчырасць захаплення, мудрасць высокай чалавечнасці,— раман гэты трэба было *прабівацць* згуртаванымі сіламі літаратараў і навукоўцаў. З няменшым націскам прабіванне ішло і ў

Маскве, дзе ў адным шаноўным выдавецтве мне давялося пачуць, што Караткевіч — аўтар двухтомных «Каласоў...», «Дзікага палявання караля Стаха», яшчэ некалькіх ёмкіх аповесцей, многіх яркіх апавяданняў, вершаў, нарысаў, п'ес,— што Караткевіч, бачыце, «не дарос да асобнай кнігі»!.. Такога могуць дамагчыся крыкуны ды шаптуны, зайздроснікі ды «знаўцы»!.. Крыху пазней паэтычная аповесць, а то і паэма ў прозе — «Чазенія», першая Валодзева кніга прозы ў перакладзе на рускую мову, пабіла ўсе шматгадовыя рэкорды па колькасці чытацкіх пісьмаў у выдавецтва «Молодая гвардия» і, дзякуючы гэтаму выданню на мове нашых братніх кантактаў, неўзабаве сіганула за Пірэнеі, да чытача іспанскага.

Тут дарэчы будзе згадаць, як добра, хутчэй, чым у іншых краінах, Караткевіч быў зразуметы, прыняты ў залатой, скарынаўскай Празе. Мне жыва помніцца гордае адчуванне сяброўскай, зямляцкай радасці, нябрыдкай зайздрасці, з якімі я прыняў з рук дырэктара выдавецтва «Svoboda» важкую, багата ілюстраваную таміну рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Раман гэты, як і «Дзікае паляванне...» і «Нельга забыць» (раней чым дома!) выйшлі ў Чэхіі ў дабротным, як ацэньваюць знаўцы, перакладзе — з арыгінала — нашага добрага і нястомнага друга Вацлава Жыдліцкага.

Цяжкасці, перашкоды... Усё такое ды падобнае трэба было пераносіць чуламу сэрцу, вострай сумленнасці, абражанай годнасці чалавека і мастака. Аднаму, у горкай самоце, з роднымі і сябрамі, дзе былі і мудрая падтрымка, і бездапаможнае спачуванне, і шкоднае пераздахвальванне з застольных вуснаў спачувальнікаў не вельмі шчырых або проста і недалёкіх, а гэта ж і для моцнай, мэтанакіраванай натуры можа стаць згубным...

Валодзя быў моцны не толькі духам. Я бачыў, як ён нястомна плаваў у сваім рагачоўскім Дняпры, у Чорным моры пры васьмі-сямі градусах, мы з ім нямала пахадзілі па сцежках горных і нізінных. Рыбак, і летам, і зімой, надрэчны вогнепаклоннік; і ў мора хадзіў з рыбакамі як свой чалавек. Зацікаўлены, цягавіты, вясёлы ў сваёй дужасці — такі ён быў і, здавалася, будзе заўсёды...



А потым малады знаёмы медык ціха расказваў мне пра апошнія дні і гадзіны свайго пацыента, цану якому ведаў і ён. У Валодзі не было ўжо ні ціску, ні пульсу, а ён яшчэ ўсё гаварыў з дзяжурным доктарам. І гэта яшчэ раз сведчыць, наколькі дух нашай добрай надзеі заставаўся мацнейшым за цела, так заўчасна зняможанае, загубленае навалай неабавязковай немачы.

Цяжка пра гэта гаварыць...

3

І я не мог. Два месяцы не мог пісаць далей пачатае. А вось перачытаў яго і захацелася сказаць:

— Смейся, мой слаўны, і спявай, як мы смяяліся і спявалі, асабліва ў дарозе!

Трохі свайго я ўжо расцерушыў у надрукаваным (з апошняга — «Адкрытка» ў кнізе «Сёння і памяць»), мала сказаўшы пра Валодзеву шчырую, натуральную паэтычнасць, прастату і складанасць, дзіцячую схільнасць да смеху, часамі крыўдлівасць, таксама ледзь не дзіцячую, лёгкую ранімасць, што ніколі не затойвалася ў недастойнай помслівасці, пра яго юначы рамантызм і сталае высакародства, што пераходзіла сяды-тады ў крыху пацешнае рыцарства, як быццам ён пазычаў яго ў сваіх гістарычных герояў.

Пра некаторыя з нашых падарожжаў ён пісаў. З ім нялёгка спаборнічаць — столькі зоркага вока, вернай рукі, безагляднай свабоды і добрага сэрца ў яго то, здаецца, зашчодрых, то заскупых, аднак заўсёды яркіх, дакладных штрыхах.

У дарозе мы маладзеем, часамі нават дзяцінеем, ці што. Ад адчування свабоды, палёту ў новае, якога ў нас наперадзе — так верыцца — вельмі многа.

Стары, маўклівы шафёр, чалавек практычна-хітраваты, і Валодзева мама, таксама старая, інтэлігентная жанчына, маглі аднойчы, майскай ранняй раніцай, кожны па-свойму здзіўляцца, недаўмяваць, што гэта вычвараюць тры дарослыя пісьменнікі, едучы з Мінска на многа дзён з намерам рабіць у гэтай самакамандзіроўцы штосьці сур'ёзнае?..

А быў такі намер, была такая задума. Утрох — Караткевіч, Барадулін і я — мы вырашылі наведаць разам родныя мясціны кожнага з нас, пабыць там столькі, каб потым можна было разам напісаць пра гэта. Разам... А можа, і не варта шкадаваць, што мы не напісалі тое ўтрох? Відаць, і не змаглі б як след. Чэхаў казаў пра сааўтарства, што нельга ўдвух іграць на адной скрыпцы, а тут жа нават утрох. Потым Валодзя збольшага напісаў, а мы з Рыгорам не. Аднак яно бясследна не прайшло для нас, для творчай памяці — тое цудоўнае падарожжа ў два прыёмы: на іх радзіме вясной 1965-га, на маёй — праз год.

А для пачатку мы ў машыне, сонечнай раніцай, на лёгкапахадной дарозе, спявалі, балбаталі і смяяліся. Былі і песні-імправізацыі. Скажам, на паскакушна-хлёсткую мелодыю «бульбы», якую, як вядома, вараць, параць і таўкуць, складалася песня, новая, з жывымі героямі ды пацешнымі сітуацыямі, якая ў запісе, калі б я цяпер зрабіў яго, не гучала б так весела ды бяскрыўдна для некаторых сяброў і таварышаў рознага ўзросту і рангу, як бяскрыўдна, дасціпна гучала яна тады. Радасць палё-

ту ў родную, новую красу, да новых людзей шукала выхаду, знаходзіла яго ў блазенскім рыфмаплёцтве, то разам, то на змену, ад кожнага па кветцы ды калючцы.

Весела ды цікава бывала і ў іншым складзе, у розны час. Утрох у машыне, з двума Уладзімірамі, Караткевічам і Калеснікам (за рулём),— па маляўнічых прасторах заходняй Гродзеншчыны; да гэтых трох дадаўшы Міколу Аўрамчыка — Пружанскі, Камянецкі раёны, маці-Белавежа; з Фёдарам Янкоўскім — у яго Клетным каля Глуска, у легендарнай Рудабелцы...

Дарогі, дарогі!.. І па зямлі, што «пад белымі крыламі», і па ўсёй нашай раздольнай неабсяжнасці.

Між іншым, светла помніцца Магнітагорск, калі мы былі зноў на некалькі год старэйшымі, аднак і зноў шчасліва, радасна гатовымі амаладжвацца падарожжам, свежасцю песні і смеху. Ад велізарнай ямы, што зеўрае на месцы гары Магнітнай (гара пайшла ў асноўным на танкі і снарады Вялікай Айчыннай), ад палымяна-грымучых цэхаў славутага камбіната, ад цікавых, адказных сустрэч са сталяварамі, бібліятэкарамі, школьнай моладдзю, ад менш ды больш дымных, копатных кварталаў абапал ракі Урал, граніцы Еўропы і Азіі, гасцінныя гаспадары на выхадныя дні вывозілі нас у свае дамы адпачынку. Над Банным возерам, назва якога, па легендзе, паходзіць ад «банно-прачечного» прывала, які тут дазволіў свайму войску Пугачоў. У башкірскіх гарах, у тым Абзакаве, дзе было так беласнежна, белабярозава і сонечна, што маладзейшыя ды смялейшыя з нашай групы,— а першы, вядома, Караткевіч,— да пояса голыя загаралі... у сакавіку. Дзесяць пісьменнікаў, што дзесяць дзён знаёмілі магнітагорцаў з беларускай літаратурай, мы там былі, вядома, не адны, з гаспадарамі і гаспадынямі. І зноў жа — столькі смеху было, столькі песень! І нават сярод маладых ды маладзейшых за яго самым вясёлым, непасрэдным бачыўся, чуўся ён, Валодзя...

Дзень яго сумнай гадавіны быў сонечны, як спецыяльна пасля занудна-заложных дажджоў. Пасля соснаў і кветак над месцам яго спачыну, ужо за людным сталом, дзе многа, шчыра і цвяроза гаварылася пра таго, хто сапраўды *«быў, ёсць, буду»,* як сведчыць назва апошняй з падрыхтаваных ім самім кнігі паэзіі, адзін з яго найбліжэйшых сяброў, Адам Мальдзіс, з якім мы побач сядзелі, спытаўся ціха пасля майго выступлення:

— А пра той цвік ва ўспамінах вы скажаце?

Мы ціха засмяяліся... не, толькі ўсміхнуліся, нібы з *яго* дазволу, ледзь не з *ім* разам, з нашым Уладзікам. Бо прыгадалі такое.

Нястомны падарожнік, закаханы знаўца роднай даўніны, ён умеў акружаць сябе, сваё месца на свеце, свой дом і стол і кніжныя паліцы ўсім тым, што люба, што заўсёды гаворыць пра запаветнае, галоўнае.

Гадоў некалькі мы жылі па-суседску, за сцяной майго рабочага пакоя была яго сталовая, хутчэй гасціная, густоўна і шчодра запоўненая рознай, дробнай і буйнейшай, даўнінай. Разьба, карціны, чаканка, ліццё, шкатулкі, альбомы.

І вось аднойчы за сцяной у мяне пачуўся спачатку нібы асцярожны, але ўсё больш ды больш настойлівы стук малатка. У тым месцы, дзе гэты стук цэнтраваўся, на сцяне маёй пачаў прыкметна ўздрыгваць, напухаць, трэскацца пафарбаваны тынк. Кавалачак яго вось-вось мерыўся адваліцца. А потым, ад стуку таго, не вельмі ахвотна, а ўсё ж палез, пачаў вытыркацца даволі вялікі цвік!..

Першае, што я зрабіў, гэта гукнуў туды: «Эй, вы!» і на дадатак грукнуў у сцяну кулаком. Тады пайшоў да суседа. Маё «эй, вы!» сказалася як быццам у прадчуванні, што гаспадар там не адзін. І сапраўды — удвух, з Мальдзісам. Сабраліся прыладзіць на сцяне драўлянага, у блекла-светлых фарбах старадаўняга, касцельнага або каплічнага анёла. Для гэтага спачатку трэба было ўбіць цвік, прытым адпаведна надзейны.

Нічога не кажучы, я запрасіў майстроў да сябе. Перад маёй салатавай сцяной яны застылі ў недаўменні. Пасля даўгаватай мінорнай паўзы наш паважаны Адась Іосіфавіч,— і сапраўды паважаны за сваю плённую працу ў родным літаратуразнаўстве, за свае чалавечыя, таварыскія якасці,— здзіўленне выказаў першы. Даволі сімпатычна ды салідна прышапетваючы, са сваім, усюды абавязковым «перш-наперш», ён спытаўся глыбакадумна, з багатым вопытам архіўнага даследчыка:

— Чаму ж ён, перш-наперш, лезе адтуль не вастрыём, а капялюшыкам?

Зрэшты, адразу прызнаюся: гэтага ён, здаецца, не сказаў,— гэта я ўбачыў у яго нязвычна разгубленым позірку і потым, расказваючы пра здарэнне, так той позірк «агучыў».

Яшчэ больш разгублены быў паважаны Ладысь Сямёнавіч. Ну, зусім-зусім як малы, з поўнай дзіцячай верай у казачна-фантастычнае. Той Валодзя, які, як часам здавалася, ведаў усё на свеце, паэт, празаік, драматург, публіцыст з трыма вышэйшымі асветамі, з зайздроснай памяццю і фантазіяй, з начытанасцю ўсебаковай і грунтоўнай.

І мне прыйшлося прызнацца, каб потым ужо ўтрох зарагатаць.

Гадоў некалькі перад гэтым, рыхтуючы кватэру да рамонту, я выдзіраў у сваім пакоі цвікі з-пад карцін, каб потым, на свежых сценах, павесіць іх інакш. Ёсць жа і ў гэтым нейкае задавальненне. Найбольшы цвік, які трымаў пейзаж у масіўнай раме, цягнуць я пабаяўся, каб не выдраць і глыбу тынку (а то і проста філасофія ляноты), і забіў яго на ўсю глыбіню. А потым ён гладка знік пад новай афарбоўкай. І трэба ж так — той цвік, што забіваўся пад анёла, трапіў якраз у мой падпольны, канец у канец, і мой палез — сусветна-гістарычна — капялюшыкам наперад.

4

З дому зноў хочацца ў дарогу — пішучы гэта цяпер. Там мы, хоць і суседзі, а былі, здавалася, бліжэй адзін да аднаго.

У семдзесят першым, зноў на маёй Міршчыне, мы неяк вырагаталі ў машыне і на сцежках яшчэ адзін намер: на гэты раз ужо не ўтрох, а ўдвух заіграць на адной літаратурнай скрыпцы. Я расказваў Валодзю сёе-тое з таго, што бывала, па-мясцоваму кажучы, «за польскім часам», і адно нам здалося прыдатным для сумеснай рэалізацыі.

Пры доме, дзе ў нашым мястэчку размяшчалася гміна (раней, па-руску, воласць, а сёння, не раўнуючы, сельсавет), была адрынка, у якой стаяў конь і стаяла брычка, для пана-войтавага выезду, быў дрывотнік і яшчэ адно памяшканне, назваць якое так, як яно ў вёсках называлася, мне няёмка. Па-польску гаварылася «пака», па-руску гэта «каталажка», а па-нашаму, па-вясковаму значна прасцей, такім адкрытым словам, да якога лёгка ладзіцца рыфма «свісцёлка», «гудзёлка», і, пашукаўшы, гэтак далей.

У гэтым, не надта раскошным закутку працоўная вёска адседжвала розныя штрафы, якіх тады было багата. З падаткам апазніўся, дзіця ў школу не ходзіць, плот не пабяліў — плаці або адседжвай. Што ж, гэта танней, чым плаціць, тым больш калі няма чым, ды тады, калі з часам вальней, у познюю восень або зімой. Хлеба ў торбу і туды, «да пакі», а па-свойму — у тую, таксама ж на літару «п...». Дроў пры гміне нямала, але парэзаць іх, пакалоць, скласці гуртам можна гуляючы. Двор падмесці — зусім не работа. А тады зноў ляжы, нават удзень, расказвай ці слухай, куры, калі курыш і ёсць што курыць, рэжся ў «дурня» або займайся «гукаспаборніцтвам», ад якога, дарэчы, і пайшла назва той сядзёлкі (яшчэ адна рыфма). Колькі там было перагаворана, перасмяяна! Як святамі, заслужана адпачываючы, сярод сваіх, свабодных ды ахвочых пасмяяцца. Я — можна сказаць, на жаль, там ні разу не быў, іншыя расказвалі, у тым ліку старэйшы брат, што заахвоціўся «лепш не плаціць» і праз пяць дзён прыйшоў няголены і вясёлы.

Вось мы з Валодзем і задумалі ні больш ні менш, а цыкл пад назвай «Апавяданні з гміннай... гм, гм...». І не напісалі яго, як вядома, зноў разышоўшыся па сваіх, няхай сабе і зусім суседскіх, пакоях. Дарма што ў дарозе мы столькі смяяліся на тую тэму, што ён неўзабаве напісаў мне на рускім выданні «Чазеніі»: «...ад смяшлівага, як дзіця,— смяшліваму, як падлетак, ад гыгалы — гэгэкалу...» З улікам узросту і адпаведнай пашанай.

Сёлета напрадвесні, калі мы, камісія па Валодзевай літаратурнай спадчыне, разбіралі яго архіў, больш за сотню папак, на адной з іх я ўбачыў надпіс «Рассказы из каталажки», з падзагалоўкам «сценарий».

Яшчэ адна яго, бясспрэчна ж таленавітая, аднак і беспаспяховая спроба дабрацца да розуму і сэрца нашай кінастудыі. Разбор архіва быў папярэдні, мне яшчэ трэба будзе, хочацца заглянуць у тую папку, як толькі прыйдзе нагода. А тады адразу падумалася пра той наш намер, які з майго боку ў пэўнай меры здзейснены «Ніжнімі Байдунамі».

Добра гэта, прыемна, але і трывожна — даваць таварышу сваё новае, свежанькі рукапіс. Калі я на працягу апошняга года перачытваў усё Валодзева ў кнігах, мне часта, здалёк усміхаліся, цёпла і сумнавата, тыя старонкі, перш за ўсё напісаныя ад рукі, чорна, дробна і акуратна запоўненыя яго працавітым почыркам, старонкі многія і заўсёды жывыя, якія ён прысылаў са сваёй настаўніцкай далечы, спачатку з кіеўскага сяла Лесавічы, потым з Оршы, а затым і з далечы стольнай, маскоўскай, з Вышэйшых курсаў літаратурных і кінасцэнарных. Калі ж ён стаў мінчанінам, разам з рукапісамі пайшлі і машынапісы, што ўжо прыносіў сам. Старонкі паасобныя і папкі рознай таўшчыні ды кілаграмнасці. Хоць бы тыя самыя «Каласы...» — некалькі папак адразу. Мы ажно ўспомнілі словы бацькі-Багушэвіча: «Будзе і ў беларусаў ксёнжачка!..» Не раз і радаваліся ўступна, і віншаваліся потым, бо ён жа маё таксама чытаў, і спрачаліся, часам і рэзка, зноў разумнелі — усё дзеля галоўнага.

А з «Байдунамі» было так. Я даў яму рукапіс аднаму з самых першых. Іншыя прачыталі, пагаварылі са мной, а ён так доўга не аддаваў, што я пачаў і непакоіцца, падазраваць, нават нібы злавацца. Але не званіў, не заходзіў, асцерагаўся сустрэцца. Цярплівасць даволі прыкрая... Ды вось ён — нарэшце! — прыходзіць.

— Стары,— пачынае, не сеўшы, як вінавата стоячы сярод пакоя з папкай,— чатыры разы ўзапар чытаў...

Апраўдваецца ён з размашыстым сяброўскім пераборам, і мне крыху няёмка, і смешнавата, аднак я пачынаю спакваля і рассалоджвацца ад пахвалы, стараюся нібы абараняцца ад яе, ці то стрымана, ці то і збянтэжана мармычу:

— Ну і як?

Ён хваліць. Кажа, праўда, што «ніякая гэта не аповесць», але такое мне, між іншым, абыякава: што тут за жанр. Я чакаю ацэнкі, больш цвярозай і канкрэтнай, па галоўнай сутнасці, а ён, мне здаецца, не заўважае гэтага. Кажа:

— І маме прачытаў.

Зноў маё «ну, і як?». І яго — нечаканае:

— Іржала, стары, і качалася па падлозе.

Неадпаведнасць яўная! Салідная, па-старэчы прыгожая, хоць і нямоглая ўжо, з даўнім ухілам інтэлігентная, прыязна і разумна ўсмешлівая Надзея Васільеўна — і такое «іржала», «качалася»... Трэба сказаць пра

гэта, да часу стрымліваючы ўсмешку, даць дакор маладзейшаму, аднак цікавасць перамагае.

— А грубасць яе не шакіравала?

Зноў нечаканае, з так добра і даўно знаёмым пафасам:

— Што ты, стары! Мы, арыстакраты, гэта любім!

Ах, Валодзя, Уладзік, Ладысь,— як гэта ўсё па-твойму звычайна, пацешна, міла! І тады было, і сёння — яшчэ больш...

## 5

Былі прыходы і іншыя.

Аднойчы ён да мяне пазваніўся, не тэлефонна, а ў дзверы, так позна, што можна было і ўстрывожыцца. Я адчыніў. Ціхутка, з калідора, цераз сталовую ў мой пакой. Зачыніліся.

— Што? — шапнуў я.

У руцэ яго была кніга. Палец закладзены паміж патрэбнымі старонкамі.

— Стары, паслухай.

Гэта быў том Талстога. «Хаджы-Мурат», кароценькі раздзел пра разбурэнне царскімі карнікамі чэркескага аула.

Чытаючы, і не вельмі прыцішана, Валодзя стрымліваўся ад усхліпаў, перапыняўся. Закончыў і, гледзячы на мяне вялікімі, поўнымі па-дзіцячы краплістых слёз вачыма, сказаў, як выдыхнуў:

— Стары, колькі ўсяго можна ім даравацъ за такую праўдзівасць?!.

Ён праўдзівы і сам. Верыў у тое, што гаварыў. І ў жыцці быў праўдзівы, і ў творах застаўся. У творах — наколькі ўдалося...

Мы, хто блізка ведаў Валодзю, кожны патроху, кожны па-свойму раскажам пра яго, успамінаючы.

Рэшту скажа ён сам, сваімі кнігамі. З усёй сваёй раскошнай расказанасцю, буйствам фантазіі, здольнасцю пранікаць у далёкае ў часе, ажыўляць яго ў людзях. Сплочванне нашых даўгоў перад роднай, так часта трагічнай гісторыяй, перад сапраўднай Літаратурай.



Беларусь даўно чакала такога пісьменніка.

І радасна, што ён прыйшоў.

І горка, балюча, што ён не змог, не паспеў разгарнуцца яшчэ больш глыбока і шчодра.

*1985*

# Зноў ды зноў...

### З лірычных запісаў

З галаўным болем, але ж і з добрым настроем пісаў уранні, калі прыехаў з Мінска мілы Валодзя Караткевіч, прывёз даўно абяцанае віно... Добра пагаварылі, стоячы, і раптам пацалаваліся двойчы — ад радасці жыцця і нашай даўняй ужо дружбы.

Пасля Куляшоў чытаў свой, тут, у Каралішчавічах, напісаны цыкл вершаў. Радасна было за нашу асмейваную, зацюканую мову, за тое, што на ёй пішуцца такія рэчы, што будуць, на радасць людзям, пісацца і лепшыя!

Добра, нечакана добра, неяк па-святочнаму хораша было мне ў даўно не адчуванай, сапраўды пісьменніцкай атмасферы. Таму і запісваю гэта, пры лямпе, перад сном, вярнуўшыся з далёкай, самотнай праходкі — па шашы, пад гоман жаб і перасвіст салаўёў.

*1962*

Багатая зеляніна маладога бульбяніку, якога так шмат за светлымі вокнамі хаты, дзе я чытаю за сталом, зноў нагадала даўнюю ўжо раніцу ў шэсцьдзесят трэцім годзе, калі мы ўтрох падарожнічалі на машыне па Гродзеншчыне і ў Лідзе заходзілі да чалавека, што сябраваў з Валянцінам Таўлаем.

Калеснік пайшоў у той дамок на ўскраіне, а мы з Караткевічам пакуль што засталіся на дварэ, шырока зялёным ад буйнай расквечанай бульбы, і зводдаль любаваліся тым, як на адкрытай верандзе бабуля штосьці вязала, а з пласцінкі ёй... як жа хораша, як сардэчна спяваў італьянскі хлапчук Ларэці. «Ave Maria».

*1978*

Цудоўная паездка з Жыдліцкім у Хэб і ў Мар'яньске Лазне. Сонечная краса Судэтаў. Наведанне яго дваюраднага брата ў саўгасным пасёлку. На кніжнай паліцы (у адным з пяці пакояў — у трактарыста!), побач з Ірасекам, Дзюма, Дастаеўскім — Караткевіч. Таксама па-чэшску, у перакладзе Вацлава.

Едучы адтуль, з пасёлка далей, весела ўспамінаў Бранеўскага, з якім у Караткевіча ёсць падобнае ў характарах.

Уладзіслаў, спыніўшыся позна вечарам каля вясковай карчмы, заказаў сабе літр гарэлкі і яечню з трыццаці двух яек, выпіў адзін кілішак, з'еў адно яйка, расплаціўся за ўсё, з «чаявымі», галантна падзякаваў і паехаў далей.

А наш Валодзя ў маскоўскім рэстаране пачаставаў вялікую групу неграў — за ўсе грошы ў першы дзень камандзіроўкі,— «хай ведаюць, што такое Беларусь!..».

*1980*

«Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Мнагавата каравасці і няўвязак. Стылізацыя пад тагачасную мову, праз якую лезуць звычайныя русізмы, паланізмы, набытыя ў Кіеве ўкраінізмы. І блазенства нейкае: і ў Папы Рымскага, і ў мітрапаліта «хрэн», «халера» ў сур'ёзных дакументах. Танчэйшы гумар просіцца.

А потым — у «Саранчы» — высокая паэзія, трагічнасць нашай гісторыі, сур'ёзнае.

«Паэтычныя вольнасці»: мазахізм у XVI стагоддзі, сланы ў татараў, вялікае кружлянне па блізкіх вёсках з аўтэнтычнымі назвамі. Скажам, ад Любчы да Уселюба дзевяць кіламетраў, а ў яго — два конных перагоны. І рагоча, помню, калі я такую заўвагу зрабіў.

Перачытваецца туга. Не тое што «Каласы...», «Дзікае паляванне...» і іншае.

Запісвалася гэта на працягу некалькіх дзён. А сёння ўранні дачытаў і зноў, з яшчэ большай перакананасцю, убачыў, што дзеля выдатнага канца і ўсяго добрага ў творы трэба было яго перабяліць, падціснуць, адрэдагаваць — самому аўтару.

*1985*

Над Караткевічам успомніў і такое.

Сярод мноства песняў, якія я змалку чуў у сваёй вёсцы і асабліва ў суседняй, дзе і сёння стаіць «малітвенны дом» сектантаў-пяцідзесятнікаў, былі і песні высокай мастацкай значнасці. Шчымліва-велічны псалом Давіда «Когда возвращал Господь...», лермантаўскае «В минуту жизни трудную...» і яшчэ адна песня невядомага аўтара на ўзнёсла-абаяльную мелодыю, тэкстам таксама таленавіта.



У падарожжы па Гродзеншчыне ўтрох з Калеснікам, на яго машыне, мы з Караткевічам многа спявалі. І тую песню таксама. Мелодыю — чую, не перадам, а словы, напрыклад, такія:

Везде я чувствую, везде
Тебя, мой Бог, в ночной тиши —
и в отдаленнейшей звезде,
и в глубине моей души...

Праўда, і маладосці яшчэ нямала было. Сустракаючы каля лесу стандартную дошку: «Берегите лес от пожара», мы зноў і зноў падхаплівалі

ў машыне — хай нам дарue старэйшы наш паважаны таварыш — на матыў «кабардзінкі»:

Завещал нам Миша Машара:
«Берегите лес от пожара!»

Тады круты паварот і адтуль:

«Берегите лес от пожара!» —
Завещал нам Миша Машара.

І зноў спачатку, і так бясконца можна, бо бяздумна і бяскрыўдна весела.

*1985*

Оція Іаселіяні. Той незнаёмы грузін, што ў лістападзе ў нас, на «круглым стале», выступаў, гаворачы нячутна і ледзь зразумела. А потым, аблеплены першым снегам, увечары вярнуўся ў гасцініцу, як аказалася, з могілак, ад магілы Караткевіча, і стала ясна і блізка, што гэта — адзін з Валодзевых сяброў.

Чытаю яго апавяданні, цяпер ужо так выразна чуючы голас яшчэ аднаго таварыша па рабоце жыцця. Выразна і ўдзячна.

*1985*

Над старонкамі «Ярмарки тщеславия» прыемна ўспамінаўся Дзікенс («Піквікскі клуб»), і Гоголь, і Караткевіч, нават трошкі і «Байдуны»,— **свабода аўтарскай прысутнасці.**

*1986*

Пасля маскоўскай гутаркі з паважаным эстонскім калегам падумалася: «Як добра вяртацца дадому, у каго ёсць дом!»

Успомніў гэта цяпер, у вёсцы, чытаючы Караткевіча: «Быў. Ёсць. Буду.».

У Валодзі быў родны дом, хоць часамі і горкавата было ў ім шчыраму хлопцу...

*1986*

У «Полымі» — слабая юнацкая аповесць Караткевіча «У снягах драмае вясна», якую сам ён не палічыў патрэбным друкаваць.

Дарэчы, што за **драмае**? З любові да Валодзі маладыя ўляпіліся за набытыя ім на вучобе ў Кіеве ўкраінізмы. **Распавядаць** — ад **розповідати,** ад чаго ў іх пайшоў і **распавед,** і прыкры наватвор **аповяд,** і **распавяду,** і то і такое ў маладой, шыкоўнай паэткі са сцэны: «Я вам

распаўю свой верш...» Нібыта ён, шануючы вас, саграшыў у пялёначкі. Няўжо пойдзе ў шырокі абыходак і драмае? Няўжо наш вясёлы Ладысь не ведаў такога, народнага (зноў жа шануючы вас):

Ці не спіш, Акуліна,
ці не дрэмлеш ты,
ці не прыйдзе табе ліха —
ці не п... ты?..

Апошні радок — з унутранай рыфмай.

*1988*

У Гаграх, у семдзесят шостым, калі ў мяне нечакана разбалелася нага і цяжка стала хадзіць, сусед Валодзя Караткевіч, надоўга пайшоўшы кудысьці, прынёс мне самшытавы кій. Старанна акораны і цяжэнны — не панесці. З такім хоць пад Грунвальд, у конным ці ў пешым страі. А ён, чалавечына любы, яшчэ і расказвае, як выразаў яго:

— Ты ведаеш, стары,— над безданню! На адной руцэ вісеў, другою рэзаў!..

*1991*

Перачытваючы запісы восемдзесят пятага года, як прыемнае адкрыццё — Бог мой, толькі праз сем з палавінай гадоў! — убачыў тое, дзе і як мы пазнаёміліся з Міхасём Ткачовым. Каля магілы нашай агульнай любові — Валодзі Караткевіча.

І гэта бачыцца цяпер, ужо і цераз Міхасёў заўчасны адыход, не так сабе...

*1993*

Позна ўвечары па радыё — Уладзімір Караткевіч, запісанае ў 1981-м і ў 1964-м.

Адчуванне несмяротнасці — яго і справы, якой ён служыў і служыць. Пры таленце — і эрудыцыя, адназначнасць нацыянальнага і агульналюдскага. Пры чалавечай абаяльнасці, так жыва памятнай, яшчэ і ачышчанай светлай памяццю ад неістотнага.

*1994*

«Грубка халодная, як мёртвая дупа»,— казала калісьці наша маці. Усё-такі далікатней.

А ў Валодзі Караткевіча — яшчэ лепш: радзіска з белымі дупкамі.

*1995*

Нідзе, наколькі ведаю, памяць пра славутага земляка беларусы яшчэ так не адзначалі, як аршанцы Валодзеву.

Хоць за гэтым балюча-сумна ные і голас часу: у школах, якія ганарацца Караткевічам,— у адной вучыўся, у другой працаваў,— няма ўжо беларускіх першых класаў...

Навыступаўся я: чатыры разы і ўсё экспромтам,— на канферэнцыі, перад студэнтамі філіяла камерцыйнага інстытута, на ўрачыстым вечары і каля помніка, усюды не паўтараючыся і не зацягваючы.

Яго сябры па Кіеву — паляк Флёрыян Няўважны і ўкраінка Муза Сняжко. З ім у мяне — працяг даўняй дружбы, з ёю — другая сустрэча. Асабліва хараша было ў Валодзевым родным доме, у сям'і яго пляменніцы, дзе мы наспяваліся — да другой гадзіны ночы.

*1995*

У Мінску, у радыёвыступленні Музы Сняжко, прыемна і сумнавата было пачуць, як Валодзя любіў Паўстоўскага, як марыў і збіраўся напісаць кнігу, падобную на «Залатую ружу», аднак, вядома ж, яшчэ лепшую...

*1995*

Адзін з БНФ, другі з Грамады, у розны час ды не змаўляючыся, абодва цёпла і ўдзячна згадваюць Валодзю Караткевіча, дзякуючы якому яны адчулі сябе беларусамі.

А Валодзем называюць яго не яны, а я.

*1997*

Тая аршанская бабка, што абуралася каля помніка Уладзіміру Караткевічу:

— Каму вы кветкі несяце, ён жа бэнээфавец!..

Чым гэта не «О, святая наіўнасць!» тое сярэднявечнай бабулі-праведніцы, што падкладала і сваіх дроўцаў у вогнішча пад Янам Гусам?..

*1998*

## Генадзь Бураўкін

# На беразе Дняпра

Я люблю ўглядацца ў гэты аматарскі здымак, зроблены паўвека назад пад Мінскам, у славутым Доме творчасці ў Каралішчавічах. Божа, якія мы ўсе былі маладыя — вастраносы Рыгор Барадулін, «акулярык» Юрась Свірка, Мікола Сіскевіч у вайсковай форме, усмешлівы Анатоль Канапелька і танклявы, інтэлігентны Валодзя Караткевіч з універсітэцкім ромбікам на правым лацкане пінжака!..

Шчыра скажу, не памятаю, аб чым мы тады — на нарадзе маладых пісьменнікаў — гаварылі, якія вершы чыталі адзін аднаму, што збіраліся разам несці ў жыццё. Відаць, хапала ўсяго: і смелых спадзяванняў, і наіўных спрэчак, і сяброўскіх споведзяў на яшчэ не разбуджаных галасістымі птушкамі вясновых лясных сцежках. Добра ведаю адно: тады пачалося наша літаратурнае і чалавечае сяброўства, якое ўсе мы зберaглі праз гады, якія — каму больш, каму менш — адвёў літасцівы Бог...

Бліжэй з Уладзімірам Караткевічам я пазнаёміўся летам 1957 года, калі па ягонай прапанове прыехаў студэнтам трэцяга курса Белдзяржуніверсітэта на журналісцкую практыку ў аршанскую газету «Ленінскі прызыў». Валодзя сустрэў мяне на вакзале і прывёў у бацькоўскую хату непадалёк ад цэнтра горада, блізка ад паўнаводнага, спакойнага Дняпра.

Хата на вуліцы Варашылава, 10 (пасля яна стала вуліцай Касманаўтаў, а яшчэ пазней набыла імя Караткевіча) была вельмі сціплай і для немалой сям'і відавочна цеснай. Часы тады былі небагатыя, і «харомаў» практычна не было ні ў кога. Пакойчыкі ў Валодзевай хаце былі маленькія, але клапатліва дагледжаныя, акуратныя і ўтульныя. Лішняму чалавеку, вядома, месца ў іх не было — і мы з маім сябрам «акупавалі» пуньку, якая стаяла ў двары і дзе ў кутку ляжала добра высахлае сена. Там мы начавалі, там вялі свае бясконцыя шчырыя размовы. Ужо тады я падзівіўся і шырыні Валодзевых інтарэсаў, і глыбокай дасведчанасці ягонай у гісторыі, літаратуры, астраноміі. Калі перад сном мы часта сядзелі на лаўцы перад хатаю і глядзелі на высокае зорнае неба, я, нібы малы хлапчук, зачаравана слухаў яго рамантычныя расповеды пра таямнічыя палёты планет і паэтычныя легенды, звязаныя з загадкамі Сусвету і даўнімі марамі зямлян аб невядомым касмічным жыцці. У школе я добрасумленна вывучыў падручнік па астраноміі, меў за гэта «пяцёрку» ў атэстаце, але такой захопленасці і прыгажосці, якую адкрыў мне ў ёй Валодзя, не мог і ўявіць. Ён беспамылкова знаходзіў у цёмнай вышыні сузор'і Лебедзя і Стральца, узгадваў старажытныя міфы і — здавалася — проста

ў мяне на вачах складаў поўныя хараства вершы пра вечны Млечны Шлях і запозненых леанідаў. Неба было для яго любімай, не дачытанай да канца кнігай, і ён нібы баяўся адарвацца ад яе, каб не ўпусціць нешта вельмі цікавае і важнае, сам не заўважаючы, як натхнёна «дапісвае» ў яе ўласныя непаўторныя старонкі...

Аб чым толькі за амаль два месяцы нашых начлегаў на духмяным сене ў зацішнай пуньцы мы не перагаварылі! Вядома, я часцей слухаў, бо Валодзя быў і старэйшы, і вопытнейшы, і куды больш адукаваны. За плячамі ў яго быў не толькі філфак Кіеўскага універсітэта і аспірантура ў ім, а — галоўнае — блізкае знаёмства з такімі славутасцямі, як сусветна вядомы славяназнаўца Аляксандр Іванавіч Бялецкі, у бібліятэцы якога можна было знайсці кнігі, якіх не выдавалі тады і ў самой Ленінцы. Няцяжка ўявіць, як шчасліва «наглытаўся» там цікаўны, прагны да ведаў беларускі хлопец старажытных летапісаў, даследаванняў Ключэўскага і Кастамарава, забароненых на той час вершаў Шаўчэнкі і Гумілёва, Багдановіча і Антоныча. Мы, так званыя мінскія «пачаткоўцы», сыны полацкіх ды магілёўскіх вёсак, яшчэ толькі падступаліся да тых, старанна схаваных ад нас пільнымі ідэолагамі багаццяў, а Валодзя ўжо ўсё гэта паклаў у сваю ўражлівую душу і яны сталі натуральнай часткай ягоных перакананняў і фантазій. Таму ў ягоных славутых раманах даўняя наша гісторыя такая дакладная і асязальная, такая жывая і прыгожая. Таму, напэўна, для мяне з аповесцей і апавяданняў маладых ягоных калег так настырна вытыркаюцца закладкі ў пажоўклых фаліянтах, толькі ўчора ці пазаўчора радасна адкрытых імі. Якая гэта, між усяго іншага, рэдкая ўдача — своечасова далучыцца да унікальнай, не замутнёнай палітычнай кан'юнктурай крыніцы ведаў пра тое, адкуль пайшоў твой народ і праз што ён прайшоў да таго, як і ты адчуў сябе ягоным сынам і летапісцам!..

Вядома ж, гаварылі мы і пра палітыку, бо гэта быў час хрушчоўскай адлігі, час развянчання культу асобы Сталіна і выкрыцця славутай «антыпартыйнай групы» і далучанага да яе Шыпілава, але я чамусьці не памятаю, што канкрэтна асабліва хвалявала нас. Можа, першае ўзрушэнне ад гістарычнага XX партыйнага з'езда ўжо прайшло, а можа, проста, па сваёй маладосці, мы болей жылі літаратурнымі справамі і надзеямі. Валодзя пісаў тады сваю першую аповесць «У снягах драмае вясна». Ён мне не паказваў яе, толькі дзяліўся развагамі і нібы правяраў на мне сюжэтныя павароты і жыццёвыя калізіі. Мне вельмі падабалася сама назва, паэтычная і трошкі нават таямнічая, з непрывычным словам усярэдзіне — «драмае», а не «дрэмле». І я часта паўтараў яе, смакуючы само гучанне, што, відаць, падабалася Валодзю, бо ён кожны раз перапытваў: «Добра? Праўда?..»

Як я заўважыў, сваімі літаратурнымі планамі Валодзя не надта дзяліўся і з бацькамі, ва ўсякім разе, калі мы збіраліся ўранку або вечарам разам, пра ягоную творчасць гаворкі ніколі не было. Маці — Надзея Васільеўна — выглядала, як мне помніцца, заўсёды строга і нават даволі ўладна, нібы падкрэслівала і паводзінамі і рэдкімі заўвагамі сваю галоўную ролю ў сям'і. Бацька — Сямён Цімафеевіч — ужо тады быў разбіты інсультам, звычайна сядзеў з кіёчкам убаку і маўкліва глядзеў на ўсіх сваімі добрымі, яснымі вачамі, дарэчы, такімі ж выразнымі і светлымі, як у сына. Парай яны былі цудоўнай: абое інтэлігентныя, акуратныя, падкрэслена ветлівыя і выхаваныя. Я дык трошкі асцерагаўся іх, каб, не дай божа, нешта па наіўнасці не ляпнуць або па няўмеласці зрабіць не так.

Валодзя мне расказаў, што маці паходзіла з роду ўдзельнікаў паўстання Каліноўскага і паспела закончыць да рэвалюцыі жаночую гімназію. Таму ў маім уяўленні яна была ледзь не дзекабрысткай і трохі «буржуйкай». Прасцейшым і больш зразумелым і свойскім здаваўся Сямён Цімафеевіч, але што ж зробіш, калі хвароба так аддаліла яго ад усіх нас.

Кожнай раніцаю строгая Надзея Васільеўна ставіла перад намі на стол агромністую патэльню смажанай бульбы — і мы з Валодзем, маладыя і галодныя, за некалькі хвілін «ачышчалі» яе.

Які ні быў я нявопытны і няўважлівы, але адчуў, што мая прысутнасць на кухні дабаўляе мілым гаспадарам лішняга клопату і вымушае іх уразаць свой звыклы рацыён. І я паспрабаваў аднойчы разлічыцца за сталаванне, бо ў рэдакцыі пасля першых маіх удалых камандзіровак у калгасы мяне залічылі ў штат сельгасаддзела і я стаў атрымліваць, як тады мне здавалася, неблагія грошы. Спробы паказаць сваю фінансавую саліднасць былі адвергнуты Надзеяй Васільеўнай рашуча і без лішніх слоў. Сітуацыя складвалася для мяне непрыемная і надзвычай далікатная — і я вымушаны быў пашукаць пакойчык непадалёк ад рэдакцыі, куды і занёс неяк вечарам няцяжкі свой чамадан. Валодзя на мяне лаяўся, як заўсёды, гучна і «літаратурна», але мне здалося, што мяне ўсе зразумелі і належным чынам ацанілі мой учынак. Вядома, шкада было, што ў пуньку на ноч збіраўся адзін Валодзя, а раніцою да Дняпра пакупацца ці наспех спаласнуцца мы беглі ў розных кутках горада.



Сустракацца мы сталі ўсё радзей. На мяне, як на маладога і «пісучага», у рэдакцыі навальвалі ўсё больш розных даручэнняў. Я, як кажуць, не вылазіў з дальніх калгасаў, у кожны нумар даваў то рэпартаж, то нарыс, а то і цэлую «паласу» пра сенакашэнне і праполку кукурузы, пра будні «перадавой фермы» ці пра актывістаў «ідэалагічнага фронту». Прыязджаў я да сваёй адзінокай сівой гаспадыні-яўрэйкі позна ўвечары, а то і ноччу, а раным-раненька бег на аўтобус, каб паспець у нейкую

далёкую брыгаду. За гэтым штодзённым журналісцкім заняткам не было калі заскочыць да сябра, нагаварыцца з ім. Хіба што міжвольную віну згладжвалі выхадныя, калі мы сустракаліся каля кінатэатра або ў парку. Пару разоў зазірнулі ў мясцовы рэстаран, душны і цёмны. Пітакі мы тады былі слабыя і, памятаю, на дваіх агаралі толькі бутэльку саладкаватага віна з незразумелаю назваю «Алеатыка». Валодзя тады надрукаваў у Мінску некалькі падборак сваіх вершаў і быў шчаслівы ад нечаканага поспеху...

Вершы Валодзевы і скарацілі маё прыемнае знаходжанне ў Оршы.

Пад канец лета таго 1957 года рэдактар «Ленінскага прызыву» Васіль Каліберaў, «праслаўлены» Андрэем Макаёнкам у нашумелай п'есе «Выбачайце, калі ласка», і адзін з ветэранаў, былы партызан Леанід Высоцкі, вырашылі раптам заняцца літаратурнай крытыкай і «па-партыйнаму» павыхоўваць маладую мясцовую «зорку» — Уладзіміра Караткевіча. Не ведаю, ці то была іх уласная ініцыятыва, ці мудра падказаў нехта «зверху», але ў газеце з'явіўся вялікі, як па мерках «раёнкі», непрывычны для перыферыйных выданняў разгромны артыкул пра апублікаваныя ў старэйшым, аўтарытэтнейшым беларускім часопісе «Полымя» вершы земляка. Караткевічу ставіліся ў віну ўпадніцкія настроі, адыход ад гарачых праблем сучаснасці і залішняя, падкрэсленая ўвага да далёкай мінуўшчыны. Яго старанна хацелі загнаць у дысцыплінаваны гурт аптымістычных вершатворцаў, якія славілі б гераічныя подзвігі савецкіх людзей і светлыя далягляды камуністычнай будучыні. Артыкул быў грубы, як казалі тады, «праработачны», без уліку спецыфікі мастацкай творчасці і павагі да відавочнага таленту.

Я быў разгублены, не ведаў, што рабіць,— бегчы суцяшаць Валодзю, кінуцца яго бараніць (куды? да каго? як?), пайсці да рэдактара са шчырай размовай? Вершы мне падабаліся, напісаны яны былі па-майстэрску і ніякай палітыкі, тым больш «антысаветчыны», я ў іх не бачыў. Але не паспеў я разабрацца з сумятнёю супярэчлівых думак, як да мяне ў пакой зайшоў мажны, лысы Леанід Канстанцінавіч Высоцкі і з ходу прапанаваў тэрмінова, «у нумар», напісаць «ад імя літаратурнай моладзі» матэрыял у падтрымку крытыкі. Гаварыў ён так напорыста і пераканана, што я не паспяваў і слова ўставіць...

І я паспешліва і спалохана ўцёк з Оршы, як гэта ні сумна прызнаваць. Сабраў хуценька нешматлікія свае рэчы, разлічыўся з гаспадыняй кватэры і пашыбаваў на вакзал, каб апошнія дні канікулаў правесці ўжо дома, непадалёк ад роднага Полацка. У мяне не хапіла мужнасці сказаць усё, што думаў, ні строгаму рэдактару, ні заслужанаму ветэрану, якія так добра да гэтага ставіліся да мяне і далі магчымасць за час практыкі зарабіць на новы касцюм і чаравікі. Я не мог здрадзіць сябру, якога шчыра палюбіў і які за кароткія летнія ночы ў ціхай адрыне навучыў

мяне чытаць высокае зорнае неба і слухаць глухі, вольны пошум дняпроўскай плыні...

Нядаўна я зноў пабываў у Оршы, прыйшоў на знаёмы бераг Дняпра, адкуль мы з Валодзем Караткевічам любілі кідаць каменьчыкі ў глыбокую, спакойную ваду. Дняпро мне здаўся нейкім чужым і абмялелым, не тым, да якога мы бегалі роснымі чэрвеньскімі ранкамі паўвека таму назад. Вядома ж, мы тады былі такія шчаслівыя і маладыя...

*2005*

## Алена Васілевіч

# Позні званок

Позні вячэрні званок той — дзіўна, але гэтак мне і сёння здаецца — прызначаўся, відаць, некаму іншаму... Вельмі блізкаму, патрэбнаму, хто мог чакаць яго, мог на яго спадзявацца, нарэшце меў сяброўскае права пачуць гэты званок.

Але ён у той слотны, безнадзейна паныла вечар працяў цішыню адзіноты менавіта маіх сцен.

— Алена Сымонаўна. Гэта Караткевіч.

(Ён зваў мяне так: Сымонаўна.)

Гэта было не надта подаўгу пасля таго ўжо, калі ён пахаваў Валянціну Браніславаўну. Калі застаўся ў сваіх сценах адзін. Калі ў такія панылыя безнадзейныя вечары...

— Даруйце мне, што я гэтак позна... Што, напэўна, патурбаваў... Можа, нават пабудзіў. Але — прашу — зразумейце мяне: такі настрой і ўсё такое навокал, што хочацца выць. Даруйце мне!

Што было дараваць? Як быццам самой мне было незразумелае, невядомае гэта самае «хочацца выць»...

Нешта ж я гаварыла яму. Нейкія ж словы здольная была вымавіць, хоць, напэўна, яны былі мо і не зусім тыя, якія былі патрэбныя яму, чалавеку са скразной ранай у сэрцы.

...Памятаю, як тады расказвала яму пра сваю, гэтаксама па тэлефоне, гутарку з Валянцінай Браніславаўнай, калі яна, вярнуўшы яго з таго свету ў Сімферопалі, на некалькі дзён па тэрміновай справе вярталася ў Мінск. Якой шчаслівай адчувалася яна, калі расказвала, як была ў той занядбанай паўднёвай бальніцы — у палаце на пяцёх, «гэтак, як Валодзя», прыкутых да ложкаў мужчын, была ім і за няньку, і за сястру, і за маці. Як карміла і паіла іх з лыжкі, як хадзіла за імі...

— Гаварыце! Гаварыце яшчэ... Вы ж не ведаеце, якая яна была.

Я не ведала. Хоць і *ведала* — цэлую гадзіну здольная была яна расказваць пра *яго:* пра яго незвычайнасць, пра безагляднасць і неабсяжнасць яго натуры, пра яго дзівацтвы (гэтак здавалася іншым, збоку). Пра яго, пра яго, пра яго...

Але я званіла ёй па справе. Рэдакцыя павінна была падрыхтаваць адпаведныя рэкамендацыйныя паперы для перакладу Караткевічавай «Зямлі пад белымі крыламі» ў Літве і Славакіі. Яна выходзіла ў нашай рэдакцыі літаратуры для юнацтва ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Выходзіла — зазначу — адразу не «бесканфліктна». Не гладка. Былі спрэчкі. Была ўзаемная — рэдакцыі і аўтара — нязгода. Быў часам добра сапсаваны настрой...

З характэрным яго пяру раблезіянскім размахам Караткевіч — у самай першай рэдакцыі «Зямлі пад белымі крыламі» — маляваў побыт беларусаў такімі нясцерпна буйнымі фарбамі, што, збоку зірнуўшы на такое піраванне жыцця (а ўпершыню «Зямля пад белымі крыламі» пабачыла свет на Украіне, у нас яна ішла ўжо як бы аўтарскім самаперакладам з украінскае мовы), кожны сказаў бы: «А, чорт іх не браў, гэтых беларусаў: як цары жылі, елі сала з салам і спалі на саломе...» На самай жа справе, хто з нас, людзей яшчэ старэйшага пакалення, не ведае, не памятае, як раскашаваў «пан сахі і касы». Хлеба з мякінай да новага ўраджаю не заўсёды хапала, не тое каб выстаўляць на святочныя сталы па якіх трыццаць абавязкова-традыцыйных беларускіх страў... Каб гойсаць па паляваннях ды фарсова прытупваць бліскучымі чаравічкамі ды хромавымі — у гармонік — ботамі «Лявоніху»... Была, была, вядома, і людская здатнасць, і непадробная весялосць, і бесклапотны гумар... Але быў, быў і пэўны «перакос» у маючай быць кнізе... І перш за ўсё ад паўнаты пачуццяў, што перапаўнялі аўтара, ад нястрымнай натхнёнай сілы ў руцэ, якая вадзіла маляўнічым пэндзлем... Патрабавалася, было неабходна «ўраўнаважыць» кнігу рэалістычнай (і гістарычнай!) аўтарскай развагай. І аказалася гэта — напачатку — вельмі няпроста...

— Хто гэта будзе мяне тут вучыць?.. Мяне — чытаюць!

Патрабаваўся трацейскі суд. І аўтара «вучыў» лепшы яго друг, сябра... (І наш — рэдакцыі — вельмі паважаны аўтар і дарадца.) Яны ўпоравень — абое — стаялі і па сваіх энцыклапедычных ведах, і па сваёй літаратурнай вазе... Бескампрамісную, аднолькава патрабавальную і добразычлівую рэцэнзію для рэдакцыі друг Караткевіча напісаў, здаецца, на трынаццаці старонках... Я запрасіла па тэлефоне Уладзіміра Сямёнавіча прыйсці пазнаёміцца з рэцэнзіяй. Ён прыйшоў вельмі хутка. Стрымана павітаўся. Распрануўся, павесіў паліто і сеў у самым зацішным нашым закутачку («Мастацкая літаратура» ціснулася тады ў двухпавярховым асабняку побач з «фабрыкай-кухняй»). У нашым пакоі — у ім мес-

цілася адразу тры рэдакцыі — запанавала пагрозлівая цішыня, як перад вялікай бурай. Караткевіч чытаў засяроджана, доўга, сціснуўшы вусны і сурова звёўшы бровы. А калі скончыў, узняўся і неяк як бы пазяхнуў:

— Рэцэнзент — дурань! Ён нічога не зразумеў...— згарнуў рэцэнзію, паклаў у кішэню і, цырымонна пакланіўшыся агульным паклонам усім, хто сядзеў у пакоі, выйшаў.

...Раней як праз тыдзень прынёс ён у рэдакцыю рукапіс «Зямлі пад белымі крыламі». Чысты. Нанова перадрукаваны. Пасля дапрацоўкі — па рэцэнзіі Друга. Ніводную нязгоду не толькі па змесце, а нават па стылі, па сінтаксісе, ніводнай «косачкі» не пакінуў ён без увагі. І павагі — да ўвагі Друга...

І Кніга — на гонар аўтару і рэдакцыі, а можа, найгалоўней, на гонар нашай беларускай зямлі і літаратуры таксама — высака і шырака ўзмахнула сваімі белымі крыламі! Далёка і за межамі яе таксама.

І вось я трымаю яе ў руках. Перагортваю яе... «Мілай Алене Сямёнаўне Васілевіч, з якой разам пакутвалі над гэтай кнігай. Ул. Караткевіч. 22.XI.77».

* * *

...Мне ўяўляецца, як ён пісаў, Уладзімір Караткевіч.

Фантасмагорыя самых неверагодных праяў і вобразаў сядлала яго ўяўленне, і яно, як дзікае паляванне караля Стаха, неслася, неслася, імчала наперад, не прыпыняючыся і не азіраючыся, не звяртаючы ўвагі ні на што на сваёй дарозе... Таму, напэўна, невыпадкова, што пры ўсёй сваёй такой красамоўнай выразнасці, мастацкае палатно Караткевічавай прозы часам не-не ды і спыніць зрок на моўнай хібе, здзівіць недакладнасцю, а часам і вельмі прыблізнай псіхалагічнай характарыстыкай. І ўражанне пакіне такое (магчыма, гэта суб'ектыўнае ўражанне-ўспрыманне), што ён не заўсёды паспяваў перачытваць, на слых «спрабаваць» усяго таго, што нараджалася з-пад яго імклівага пяра, асядланага неверагодным уяўленнем.



Аднак ён не даваў чытачу часу, ні настрою не ствараў у яго, каб вось узяць і настырна і нудна вышукваць і аловачкам падкрэсліваць, адзначаць, выпісваць... («Дзед выцер жалейку аб прыпол сарочкі»... «За пісьмовым сталом, за якім яны спяшаюцца запісаць апошнія палаючыя думкі, дыхаючы кавалкамі лёгкіх»... «Апошнія адбіткі промняў падалі на яе твар, які ляжаў у мяне пад пахай»... «Карціць і мая душа на гэта дзіва паглядзець»...)

Дзе там! Вы імчалі за ім далей. Вы былі ўжо ў зусім іншым, але ўсё роўна, зноў, у тым жа Караткевічавым «вымярэнні».

«Ля дзвярэй стаяў на падлозе вялікі бюст Вальтэра, вельмі падобны на гаспадыню, і какетліва на мяне пазіраў з-пад анучы, якая замест лаўраў вянчала яго галаву... А ў наступным пакоі быў такі гармідар, быццам тут змяшчаўся чатырыста год таму філіял Грунвальдскай бітвы...»

Калі б вам з суседняга пакоя, не паказваючы кнігі ў вочы, хто-небудзь прачытаў усяго толькі два гэтыя пасажы, не сумняваюся, вы беспамылкова, захоплена ўсклікнулі б: «Госпадзі, ды гэта ж Караткевіч!»

...Ён умеў быць такім абаяльным, што жанчыны, сустрэўшыся з ім і адпіўшы з келіха яго чараў, няхай сабе толькі маленькі глыток, непрыкметна самі рабіліся чараўніцамі. І, думаю, гублялі галаву таксама не так ужо і рэдка («Яка чудова, яка чарівна людина!..» — чуецца мне здалёку даўні ўсплёск жаночага захаплення, пра якое сам Караткевіч, напэўна, і не ведаў...).

З мужчынамі ж, часам нават і з вельмі блізкім сябрам, калі той не надта далікатна наступаў на любы яго мазоль і закранаў яго самалюбства, ён рабіўся раптам ганарысты і пагардлівы, як польскі пан ці старадаўні шляхціц («Гэта вы хочаце павучаць мяне добраму тону?..» — і абавязкова з блізкага, сяброўскага «ты» пераходзіў на пагардлівае «вы»).

Я бачыла, як стаяў ён і пачціва падтрымліваў (у трамваі) сваю высакародную, у цёмным адзенні, маці, калі праводзіў яе на вакзал у дарогу. «Гэта мая мама»,— наколькі дазваляла трамвайная таўкатнеча, з гонарам пазнаёміў ён мяне з тою, якая ўзводзіла яго па ўласнай радаслоўнай лініі ці не да беларускіх інсургентаў — продак яго па гэтай лініі быў «камандзірам», як сам ён адзначае ў аўтабіяграфіі, беларускіх паўстанцаў. Дарэчы, гэта «лінія» таксама адна з улюбёных у творчасці Караткевіча: непакора і высакародная годнасць!

...Мы не сябравалі з Уладзімірам Караткевічам. Не былі блізкія «дамамі»... Пры самым першым знаёмстве выбухова зблізіў нас успеты Караткевічам у яго рамане Рагачоў. І зусім «парадніла» старая хвоя-ліра на рагачоўскіх могілках над Дняпром. І ён і я — у розныя часы — сядзелі на гэтай хвоі-ліры ў святлейшыя дні свайго жыцця!

А перад гэтым, у красавіку 1966 года, па дарозе аўтобусам у Гісарскую даліну, калі мы ехалі на стрэчу з чытачамі (удзячны лёс занёс мяне на з'езд пісьменнікаў Таджыкістана), цудоўны чалавек і таленавіты крытык-літаратуразнаўца Аляксандр Макараў казаў мне:

— Алёна, вы обязательно должны близко познакомиться с Володей Короткевичем! Это такой необыкновенный мальчик! Белорусская литература будет гордиться им! Володя был самым любимым моим учеником!

(Уладзімір Караткевіч вучыўся ў А. М. Макарава ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах.)

Вось пасля стрэчы з Макаравым, пасля таго, як перадала я палкія вітанні настаўніка яго вучню, і вучань таксама ўспамінаў і гаварыў пра свайго настаўніка з непадробнай любоўю і абагаўленнем (дарэчы — су-

падзенне? — абодва яны пражылі амаль аднолькавы век. Вучань пражыў нават на год меней за настаўніка...), пасля ўсяго гэтага і «знайшоўся» Рагачоў — наша агульная адданасць і захапленне, і славутая хвоя-ліра, і доўгая, прыязная, натхнёная гаворка. «О Шиллере, о музах, о любви»...

* * *

Розны ён быў, ох, які розны, Уладзімір Караткевіч! I зусім няма патрэбы сёння далучаць яго да «ліку святых»... Яго самога гэта смяшыла б і абурала. Ён быў у жыцці і ў сваіх кнігах святы грэшнік. Таму і застаўся ў нашай памяці і ў нашым эмацыянальным свеце як непаўторная з'ява.

...Не скажу, каб вельмі трымалася я свят ці памятала хоць адну малітву (за выключэннем, вядома, «Ойча наш»!), якім вучыла мяне ў раннім маленстве мая набожная пакутніца маці. А памятаю, як было нечакана радасна, калі аднойчы на Вялікдзень дастала я з паштовай скрынкі дзіўную прыгожую паштоўку з намаляваным велікодным яйкам-«пісанкай». «З Вялікаднем!» — і больш ні слова — толькі адваротны адрас на вуліцу Карла Маркса — Караткевічаў адрас... I так павеяла тады добрым светлым святам у маёй хаце.

* * *

— Пазваніце мне! Мне гэта вельмі патрэбна!..— прасіў ён у той непраглядны, даўні ўжо вечар.

Чаму я не пазваніла яму?!

*1987*

## Анатоль Вярцінскі



# Дзеля Маці-Радзімы

«Найдаражэйшай істотай для кожнага чалавека, а нават і для жывёлы — маці. Таму што маці першая прамовіла для нас у роднай мове. Маці — першая настаўніца нашай роднай мовы — найдаражэйшага скарбу. Дык ведайце, што той вялікі праступнік, які адкіне найдаражэйшы скарб, атрыманы ад роднай нашай маці. Шануйце сваю родную маці, родную мову...» Менавіта гэтыя словы (а яны належаць Максіму

Гарэцкаму) згадаліся мне ў сувязі з угодкамі з дня нараджэння слыннага сына Беларусі, яе натхнёнага песняра, сапраўднага мастака — патрыёта Уладзіміра Караткевіча.

Чаму менавіта гэтыя словы?

Ды, відаць, па той простай прычыне, што без гэтага глыбінна-зямнога і ў той жа час нябесна-высокага слова «Маці» немагчыма ўявіць Уладзіміра Караткевіча і як творцу, і як асобу, і як грамадзяніна. Свой першы паэтычны зборнік ён назваў «Матчына душа». Адзін са сваіх лепшых твораў, гістарычную легенду ён нарок «Маці ветру». Чытаем ягоныя вершы... «Загінеш — і ведаць не будуць // Маці, жонка, бацька стары»; «І на іншых вяршынях суровых // Вера! Роўнасць! Свабода! Край! // Ты струменьчык матчынай мовы, // Быццам маці не забывай»; «Язміну кветка на марозе. // На веях мёртвага сляза. // Матуля, бедная! Як гэта вытрымаць?!»; «І адказ. Цішэй скрыпічнай струны. // Голас маці Хрыста і маёй...» І іншыя яго радкі са словам «маці».

І сярод яго любімых песень (а ён, дарэчы, валодаў прыгожым і даволі моцным пеўчым голасам) былі такія старажытна-баладнага складу, як «Пайшла старая матулька сваіх сынкоў пабуджаць», «Памру, мая маці, памру, радзімая...» і інш.

Словам, Маці, Матуля, Матулька. Маці рэальная, канкрэтная, па імені Надзея Васільеўна, якую мы ведалі (і ведалі, якім добрым, клапатлівым, адказным сынам быў Уладзімір). І Маці ўяўная, Маці ўмоўна — паэтычная, Маці песенная. А ўвогуле, у канчатковым выніку — Маці-Радзіма, Маці-Беларусь. «О любоў мая, Беларусь!» — вырываецца ў яго з грудзей незадоўга да смерці. І прыблізна ў той жа час ён пісаў:

Можна ўсё: пусціць каханне дымам,
Ўзяць і занядбаць мінулы шлях.
Але толькі — не любіць Радзімы
З чорнаю павязкай на вушах,
З чорнаю павязкаю на вуснах,
З чорнаю павязкай на вачах.
Толькі слухаць словы нездрадлівыя,
Толькі не тлуміць яе маной,
Бо адным мы вінны, пакуль жывы,
Перад нашаю вялікай нівай:
Праўдай абавязаны мы ёй.
Ісцінай.
Адзінаю.
Адной.

Ён бы мог напісаць і гэтыя, стаўшыя крылатымі (на жаль, ужо пасля яго смерці) радкі, радкі — крэда, радкі — запавет: «Як жыць — дык жыць для Беларусі. А без яе — зусім не жыць!» Так, для Беларусі ён жыў і тварыў. З радасцю, любоўю і болем яе вернага Сына...

*2005*

Валянцін Ждановіч

# Белы човен

Ён быў ПАДАРОЖНІК.

ЁН быў ПАДАРОЖНІК з вялікай літары.

ЁН валодаў талентам падарожжа. Ніводнага не ведаю, хто мог бы параўнацца з ім у гэтым таленце.

ЁН не сціраў белыя плямы на геаграфічных картах. ЁН стараўся, каб не было белых плямаў у нашай памяці і свядомасці. Не векавечыў сваё ІМЯ «высочайшим соизволением» на глобусе, а шукаў у нашым краі заўчасна забытае.

Бывала, колькі бывала! — вецер дзьмуў супраціўны, зрываліся ветразі, ламаліся вёслы, лодку шпурляла на камяні. Бывала, ЁН радаваўся чэрстваму хлебу, а часам хлеб здараўся горкі.

ЁН ніколі не скардзіўся на гэта. Упарта, зацята — не тыя словы, каб вызначыць ягоныя прынцыпы пранікнення ў блізкі і далёкі свет. Ім кіравала натхнёнасць, якая вырасла з самай вялікай любові — з любові да народа, да РОДНАЕ ЗЯМЛІ. Але самаадданасць фанатыка была яму чужая. Сапраўдныя паэты — не фанатыкі, а вельмі чулыя людзі. ЁН быў надзвычай чулы да ўсяго і да ўсіх. ЁН быў ПАДАРОЖНІК ЧУЛЫ.

Ён лавіў Слова, як ловяць ветразем вецер; пачуўшы ўпершыню старадаўнюю песню, рабіўся шчаслівы, як дзіця; у рэчах, звычайных для фалькларыстаў, этнографаў, архітэктараў, мастакоў, бачыў цуды і дзівосы — зрок яго быў востры і такі ж востры слых: імклівa і лёгка, нібы гуляючы, рабіў ён дасціпныя малюнкі тым жа пяром, якім пісаў балады і раманы; дакладна выводзіў гучным высокім барытонам складаныя мелодыі і адну, сваю ўласную, увекавечыў, падараваўшы яе Дзмітрыю Смольскаму — лейтматыў оперы «Сівая легенда». З фотакамерай ён быў на «ты», і неаднойчы прафесіяналы чырванелі, калі ён паказваў не заўважаны імі цікавы кадр.

Ён любіў паляванне, умеў спрытна закінуць вуду (праўда, пазней ён адмовіўся ад гэтых мужчынскіх забаў — не мог нішчыць жывое), а вогнішча распальваў з віртуознасцю заўзятага турыста.

Ды куды тым турыстам... Ніколі ён не падарожнічаў, каб наматляць на спідометр рэкордныя кіламетры, дзеля забавы скарыць горную вяршыню, здзівіцца нязвыкламу краявіду. Так, ён узбіраўся на Крымскія горы, вандраваў па Далёкім Усходзе, выходзіў у Чорнае мора лавіць кефаль, блукаў па старажытных расійскіх гарадах, сам-насам быў з Бухарой і Самаркандам.

Але галоўным яго падарожжам праз усё жыццё было вандраванне па Беларусі. Родныя шляхі і сцяжыны вывучаў падрабязна, грунтоўна. Ён хадзіў і ездзіў па іх рэгулярна і ненатольна, не ведаючы стомы. Чаму і стаў ТАКІМ.

У яго была зайздросная памяць, знітаваная з магутным інтэлектам. Ён памятаў так многа — быццам за ўсіх бяспамятных — і ведаў болей за нас, а калі нехта звяртаўся да яго па даведку, ён адразу знаходзіў адпаведную кніжку ці спасылку або раіў, у каго атрымаць кансультацыю, мог і сярод ночы тэлефанаваць сябру — удакладніць. Усё ўбачанае і пачутае занатоўвалася ім у запісных кніжках дробным акуратным почыркам. Парадак нататкаў — скрупулёзны. Гэтак жа каліграфічна працавала яго памяць, убіраючы змест старажытных манускрыптаў і першадрукаў, звесткі з розных галін культуры і навук. Насычанасць ведамі, багатая здольнасць да асацыяцый, вірлівая фантазія, чуласць і пранікнёнасць дапамагалі яму глыбока асэнсоўваць мінулае і сучаснае Краіны Беларусь.

Зразумела ж, размова ідзе пра Уладзіміра Караткевіча. Гэта ЁН — Падарожнік з вялікай літары. Ніхто да яго не змог, вандруючы па Беларусі, **так** напісаць пра Беларусь, ніхто **так** не крануў маладыя сэрцы шчырым даверам і ўзнёслым рамантызмам. Але, добра ўгледзеўшыся ў сутнасць твораў Уладзіміра Сямёнавіча, заўважаеш: не такі ён рамантык, як вызначаюць літаратуразнаўцы. Грунт яго твораў рэалістычны. І не апошнюю ролю ў гэтым адыграла Караткевічава прыхільнасць да падарожжаў. З іх ён вывозіў багатыя скарбы жывой сувязі з народам, у падарожжах ён пранікаўся верай у прыгажосць роднага краю і роднае культуры.

## 1. Знаёмства

Са шматлікіх талентаў Караткевіча ўсе, хто добра ведаў яго, цанілі яшчэ адзін — талент сяброўства. Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў сказаў, што Караткевіч быў рыцарам чалавечага духу. У сяброўстве ён таксама быў рыцарам, верным, самаахвярным, гатовым заўсёды падзяліцца як апошняй скарынкаю, так і ўсім багаццем сваёй натуры. Характэрная Караткевічава рыса: ён ніколі не выказваўся адмоўна пра сваіх сяброў і забараняў іншым гаварыць пры ім хоць нешта благое пра адсутных. Ён вельмі рэдка ўжываў спосаб гаворкі «паміж намі» і то — не пра сяброў. Трэба было моцна папрацаваць супраць Уладзіміра Сямёнавіча, ужываючы непрыстойныя прыёмы, каб узрушыць яго, прымусіць даць адпор. Пры гэтым ён быў вельмі далікатны, адчувальны да крыўды, тонкія даспехі безумоўнай інтэлігентнасці слаба абаранялі яго ад чорнай зайздрасці, помслівасці і зласлівай крытыкі, сам ён гэткай пагані

быў пазбаўлены начыста. Напярэдадні апошняга падарожжа сказаў: «Чалавек, які робіць крыўду другому, у рэшце рэшт крыўдзіць сябе».

Ён дзяліўся сяброўствам са шматлікімі людзьмі: пісьменнікамі, мастакамі, кінематаграфістамі, артыстамі, настаўнікамі, навукоўцамі, журналістамі — гэта па працы, «па інтарэсах», як кажуць. Але меў сяброў з іншых і часам нечаканых колаў, не праводзячы паміж імі мяжы, бо цаніў перш за ўсё людскасць. Сябраваў са старэйшымі за сябе і маладзейшымі, да тых і другіх ставіўся аднолькава прыязна, з усімі быў на «ты», цярпець не мог, калі сябар звяртаўся да яго з залішняй павагаю.

Неўпрыкмет і я пераступіў парог умоўнасцей, які раздзяляе знаёмых і не павінен існаваць у шчырым сяброўстве. Зразумела, тактоўным ініцыятарам быў Валодзя. Тады ў галаву не прыходзіла, што паміж намі розніца восем гадоў — такі малады ён быў! Ды ён заўсёды быў малады, толькі паступова я заўважаў, як багацею яго душой, як ад яго да мяне пераліваецца людскасць, шырэйшы робіцца мой свет. Я ўдзячны лёсу за сяброўства з Караткевічам.

Мы здружыліся ў чэрвені 1969 года, калі «Маладосць» наладзіла нам экспедыцыю на Палессе. Магчыма, слова «экспедыцыя» занадта ёмкае (у навуковым сэнсе): мы ўладкаваліся на агітцеплаход «Уладзімір Маякоўскі», ва ўтульную каюту, нас везлі, а мы пазіралі, камфорту ставала, бракавала самадзейных маршрутаў і самастойнасці. Хутка мы зразумелі, як не трэба падарожнічаць, і катэгарычна вырашылі пакінуць утульны борт «Маякоўскага», рызыкнуць на сапраўдныя прыгоды. Паспелі да таго часу прайсці Сож ад Гомеля да Лоева, па Дняпры — да Кіеўскага вадасховішча, Прыпяць — да Гарыні. У Давыд-Гарадку высадзіліся на сушу.

«Хадзі па зямлі марудна, сядзі доўга ў чумах, слухай людзей,— некалі сказаў Расмусену эскімос.— Тады зразумееш нас». Параўнаць Палессе з Запаляр'ем гэтак жа немагчыма, як Прыпяць з Амазонкай. Але дзякуючы ненатольнай дапытлівасці і дасціпнасці Валодзі, а яшчэ папярэдняму ўяўленню Прыпяці як непаўторнай з'явы прыроды, мы з галавой нырнулі ў «экзотыку».

На жаль, дагэтуль «экзотыку» мінчанін знаходзіць на Палессі, а пінчук — на Віцебшчыне. Нават шырокая сучасная матарызацыя мала каму расплюшчвае вочы на шматколернасць Беларусі. Вось і нязвыкла-дзіўна трапіць жыхару Лагойшчыны ў неабсяжнасць Пінскіх балотаў, а тураўчаніну — у змрочныя ельнікі Полаччыны — тайга. дый годзе!.. Іншаму ўладальніку «Лады» лягчэй пракінуцца ў Крым ці калясіць па Чуйскім тракце, ён, як дзіця наіўнае, разявіцца на псеўдабарочныя храмы Растрэлі, не падазраючы, што сапраўднае барока ў яго дома — у старой Гародні. XII стагоддзе Каложы і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы засцяць яму Кіжы. Яму няўцям, што апроч «Залатога кола» існуе іншае — Кола Мужнасці, і яно побач, варта толькі наведаць Нясвіж, Мір, Наваградак,

Ліду, Сынкавічы, Мураванку, Крэва... Ён так прывык да стэрэатыпу «Белавежская пушча», што і Белая Вежа Камянецкая здаецца адно цагляным слупам. Таму і смешна і грэшна, калі маладыя барадатыя эстэты, тыцкаючы пальцамі ў дакументальныя фатаграфіі, катэгарычна заяўляюць: гэта — не Беларусь! Гэта — экзотыка. Кабінетна-барадатае мастацтва імкнецца падрабіць пад свой густ (ці пад свой вус?) уяўленне пра зямлю, якая паўночным рубяжом падступае да тайгі, а на поўдні мае флору і фауну з элементамі Крыма і дэльты Дуная.

Добра, калі малады ўрач, інжынер або хімік інтэлігентна заўважае, што некалі жыў у Францыі славуты паэт Апалінер і цытуе яго; што Адам Міцкевіч сябраваў з Пушкіным і... цытуе Пушкіна, што ў турпаходзе вышэйшай складанасці давялося летась пераваліць хрыбет Чэрскага,— а як запытаеш, адкуль родам Апалінер, Міцкевіч і Чэрскі, горка робіцца... Яму, гэтаму маладому «інтэлігенту» ў першым калене, шмат славутых імёнаў з беларускай зямлі здаюцца экзатычнымі, чужаземнымі. І ўсё не ўбачанае сваімі вачыма ў родным краі з чыесьці чужое рукі залічваецца ў катэгорыю экзатычнага, усё аднесенае на кошт абмежаваных ведаў пераходзіць у разрад чужаземнага.

Караткевіч ведаў шмат з беларускай гісторыі і сучаснасці. Ведамі не ганарыўся, а з адкрытай радасцю («Вось я гэта ведаю, і ты ведай!») дзяліўся. Усёй шчырай натурай дзяліўся, на ўвесь белы свет, каб кожнаму грэла яго цяпельца пазнання. Ён атрымаў добрую школу ў Кіеўскім універсітэце, яшчэ большую — самавукам, а гартаваўся ў пошасцях літаратурнай крытыкі часоў застою. І як ні марудна прарастала афіцыйнае прызнанне яго пісьменніцкага таленту, ён ніколі не стамляўся дабрынёю і прагаю пазнання Бацькаўшчыны. Самыя неверагодныя з'явы і падзеі на ёй ніколі не спяшаўся кваліфікаваць як экзатычныя. Можа, якраз таму і трапляў у сітуацыі для іншых дужа прыўкрасныя, а на яго мерку — дык амаль звычайныя — не паказваючы выгляду, што ўзрушаны падзеямі, адно хутка-хутка і як бы неўзаметку пісаў у сваім акуратненькім блакноціку акуратненькай чорнай ручкай. Зноў-такі не хаваў здабыткі назіранняў, а ў традыцыях лепшых апавядальнікаў, з гумарам, з дакладнымі інтанацыямі, з песнямі, калі была такая нагода, з лірычнымі і нелірычнымі адступленнямі разгортваў дзею ў асобах — а голас меў гучны, чысты, гнуткі, яго дыкцыі зайздросціў не адзін акцёр. Усіх слухачоў: сяброў і прыяцеляў, знаёмых і няпрыяцеляў,— Караткевічавы распавяданні дужа забаўлялі, смехам і апладысментамі дзякавалі яму за выразнасць і дасціпнасць. А ўсё ж не хапала сумнення, таксама вясёлага: ну ці магло так быць?!

Я паверыў яму адразу, тады, як сышлі з борта «Маякоўскага» на дашчаныя масткі Давыд-Гарадка. Бо адразу ж трапілі ў прыгоду, якую самы таленавіты рэжысёр не зможа інсцэніраваць. Гэта цыганскія памінкі па

Вярхоўным цыганскім суддзі. І каб не дзесяткі негатываў, што дагэтуль захоўваюцца ў маім архіве, то і сам я, магчыма, апынуўся б у стане скептыкаў: ну ці магло такое быць?!

Пасля яшчэ здараліся розныя, амаль неверагодныя прыгоды з ім, са мною, з намі ўдвух. Сумнявацца нікому не забараняецца, але мушу сказаць: Караткевіч не выдумляў баек. Яму шанцавала на прыгоды — ён шукаў прыгод, і прыгоды яго чакалі, а яшчэ яму дапамагала інтуіцыя Таленту. Сіднем седзячы ў гарадскім кабінеце, ён і тысячнай долі не спазнаў бы з таго, што сустрэлася яму на шляхах і сцяжынах Беларусі.

Так што размовы пра «экзотыку» здаюцца мне не надта карэктнымі. А лічыць «чужаземным» усё, што ўваходзіць у паняцце Палесся, наогул абсурдна! Як можа выглядаць на экзотыку край, арганічна зліты з усёй Беларуссю, зліты геаграфічна, гістарычна, этнічна, сацыяльна, экалагічна...— усялякі тэрмін будзе вызначаць і падкрэсліваць толькі крэўную роднасць Палесся з «непалескай» Беларуссю[1].

Чаму ж у такім разе Караткевіча як магнітам прыцягвала Палессе? Ды ці толькі яго? Чым прыварожвае Прыпяць? Як расшыфраваць Валодзевы радкі:

Калі захлынаецца песня,
Адчаем туманіцца зор,—
Клічуць душу на Палессе
Званы з прадонняў азёр.

## 2. На абшар

Адказ шукайце ў эсэ «Званы ў прадоннях азёр». Там усё — чысцютка, празрыста! Тагачасны Караткевіч у поўным росквіце творчае сілы. Яму 39 гадоў, на далонях трымае дзве кнігі нядаўна выдадзеных «Каласоў...» і карэктуру зборніка «Мая Іліяда». У «Іліядзе», «Каласах...» і ў эсэ ён прызнаецца ў любові да Дняпра: «Ён — бацька. Ён калыска наша. Ягоная душа — наша душа, усё яшчэ нястрымная, язычаская, вераломна-праўдзівая, паганская. Ён і сапраўды язычнік, мнагажонец, і ўсе жонкі ягоныя не чуюць у ім душы. І Друць, і Прыпяць, і Дзясна. А браты ягоныя і сябры, накшталт Сажа, таксама не чуюць у ім душы. Бо гэты не выдасць. Бо ён верны сябар, які не заложыць цябе ўсякай свінні.

Бо ён — Рака».

Жонка Прыпяць Дняпру ці не жонка — паэтычная фігура няхай нас пакуль не цікавіць, тут справа ў зменах настрою Караткевіча. Цеплаход



[1] Так думалася тады, у 1984 годзе,—да Чарнобыля. Але і цяпер ад гэтых поглядаў адмовіцца немагчыма, ды, на жаль, з'явілася істотная папраўка: чарнобыльская катастрофа і радыеактыўны бруд можна залічыць у экзоты, аднолькава пачварныя і ў вачах палешукоў, і ў вачах усяе беларускае нацыі.

«Маякоўскі» праз некалькі дзён плавання па Сажы і Дняпры трапіць у вусце Прыпяці, у гарлавіну Кіеўскага вадасховішча:

«...Амаль марскі разліў з сапраўднымі марскімі бакенамі на створы. Месца, дзе ў абдоймы да майго віцязя прыходзіць Прыпяць і неразрыўна, навекі зліваецца з ім. Караблі, рудавозы ў туманцым вэлюме, белыя, крыклівыя хусціны чаек, напаўзатопленыя астравы.

Абшар! Бог мой, які абшар!»

Гэта Прыпяць прынесла «сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну». І Караткевіч у прадчуванні радасці зноў апынуцца сярод раздольнага, распеўнага багацця паляшуцкай духоўнасці ўсклікае:

— Абшар! Бог мой, які абшар!

Шмат якія прычыны вылучылі Палессе ў рэгіён Беларусі, дзе найбольш захаваліся этнічныя асаблівасці. Не варта адхінаць з гэтых прычын і прыродную, фізіка-геаграфічную. У мінулыя вякі з-за неадольнасці палескіх балот, пяскоў, пушчаў, крапіўна-камарыных дуброў ворагам менш удавалася пранікаць да селішчаў, як гэта было на пагорыстых абсягах паўночнай і сярэдняй Беларусі. Па Прыпяці можна ісці за вадой і процi вады, a толку было мала: на рацэ стаялі моцныя гарады, калі іх і разбуралі захопнікі, то вёскі, аддаленыя бязмежжам забалочаных паплавоў, выжывалі — за іхні добры кошт зноў адраджаліся гарады, агульная культура зберагалася. Вораг не мог у такіх умовах на ўсю моц карыстацца зброяй, вынішчыць агнём ці асіміляцыяй палескі народ.

На пачатку нашага стагоддзя бытавала заганнае, па сутнасці, расісцкае ўяўленне пра Палессе адсталае, зацюканае; палешукі — без разбору — былі **не чалавекі, а палешукі,** з абавязковым каўтуном, амаль як самаеды. У тыя часы дарэмна трацілі энергію фалькларысты і этнографы, даказваючы, што на Палессі існуе багатая старажытнейшая культура.

Патомкі дрыгавічоў між тым праз усе гістарычныя выпрабаванні, пры так званай усеагульнай адукацыі, тэхнізацыі, урбанізацыі, зберагаюць і цяпер шматлікія элементы традыцыйнай культуры. Гэта не замінае ім быць сучаснымі ва ўсім астатнім. Ды і каму яна замінае, матчына песня? І ці можна называць край, дзе ў большай меры, як у суседзяў, захавалася спракавечнае, сваё, непадробнае,— экзатычным?

Не па экзотыку імкнуліся мы на Прыпяць і не па сенсацыю. Цыганскія памінкі былі толькі невялічкім эпізодам нашай экспедыцыі. Нас цікавіў палескі люд, яго традыцыйны воблік у сённяшнім часе. І сама рака, бо аддзяляць чалавека ад прыроды нельга, прырода таксама «лепіць» характары.



Пасля публікацыі «Званоў...» была крытыка, і даволі злосная. Нейкі Жога ў «ЛіМе» абвінавачваў Караткевіча ў тым, што не адлюстраваў індустрыяльных і сельскагаспадарчых дасягненняў, што шукаў архаічныя праявы, што ўвогуле паказаў не сучаснае жыццё на Палессі, а нейкую

рэзервацыю і г. д. і да т. п. Аб майстэрстве, з якім напісана эсэ, аб шырокім інтэлектуальным дыяпазоне аўтара, аб шматгучнай гарманічнасці твора — ні слова. А «Званы...» — лепшы публіцыстычны твор Караткевіча і адзін з лепшых у тагачаснай дый сучаснай беларускай публіцыстыцы. Але ў 1969 годзе модна было крытыкаваць Уладзіміра Сямёнавіча, крытыка лёгка сыходзіла з рук, а то і арганізоўвалася «дырэктыўнымі органамі». Зараз гэтакі куродымны феерверк не ўдаўся б — адсырэў порах у цвілых жабрацкіх торбах. А тады папяровай качкай выслізнула з-пад пяра крытыка слова «рэзервацыя» — у дачыненні да плана, у якім напісана эсэ, у дачыненні да Палесся!.. Да звычаяў і традыцый палешукоў!..

Валодзя на гэтую «крытыку» адрэагаваў па-свойму, па-караткевіцку:

— А што ж ты, браце, хочаш ад чалавека, чыё прозвішча аднолькавае з забойцам Кейстута?..

Не ведаў Уладзімір Сямёнавіч, што ў ганаровай варце ля яго труны будуць стаяць і Жога, і яшчэ некалькі падобных, тых, хто зласлівым пяром, благім словам скарачалі Караткевічава жыццё. Літаратурнымі хуліганамі назваў іх Генадзь Бураўкін.

* * *

Мінула пятнаццаць гадоў ад чэрвеня 1969 года, калі з верхняй палубы агітцеплахода ўзіраўся ў прытопленыя — яшчэ повень не сышла — берагі Уладзімір Караткевіч. Даўно жадаў ён прайсці зноў па самай паўнаводнай нашай рацэ, зноў апынуцца сярод палескага люду, асвяжыць памяць мілагуччам паляшуцкіх гаворак і песень, усцешыць зрок магутным размахам вады, паплавоў, неба. Хацеў даведацца, як меліярацыя, індустрыя, геалогія паўплывалі на прыроду Палескай нізіны, як інтэнсіўнае суднаходства адбілася на берагах працавітай ракі, як людзі ў век матораў не забыліся майстраваць дубовыя чаўны і ткаць кужаль.

Складвалася і новая кніга: «Дуб Крывашапкі», «Званы ў прадоннях азёр», «Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён». Кніга патрабавала лагічнага завяршэння. Яшчэ адна «ходка», яшчэ адно намаганне, каб прайсці раку, на гэты раз самастойна: дзе хачу, там і прыстаў, дзе адвячэраў — там і паснедаў, сустрэўся цікавы чалавек — пагавару з ім колькі захочацца, прайду не галоўным рэчышчам, а праточкай, пад ніцай вярбой пасяджу з вудаю, паразважаю на сходзе дня, а паплавок...— Бог з ім — не апошняя рыба ў Прыпяці... Аўтаномнае плаванне дазволіла б адчуць вольны абшар Палесся, надыхацца зялёным паветрам, нагойдацца ў чаўне!..

Не, бяздзейным сузіральнікам Караткевіч ніколі не быў. Ён так сваю пашаньку ўрабляў, так веславаў на сваёй галеры, што нам з вамі і не снілася. Справядліва мяркуюць выдаўцы, што дзесяці тамоў не хопіць для поўнага збору ягоных твораў.

Тры гады збіраліся мы на Палессе, але выкананню плана замінала адна бяда за другой. Пасля доўгай хваробы памерла Валодзева жонка Валянціна Браніславаўна, археолаг, гісторык,— з ёю Караткевіч таксама шмат падарожнічаў, рысы Валянціны Браніславаўны прагледжваюцца ў «Чорным замку Альшанскім», ёй прысвечаны раман. Смерць жонкі ён перажываў доўга, з надрывам, потым сам цяжка захварэў. Караткевічава выздараўленне сябры ўспрынялі як спадзею на яго доўгі век. Сапраўды, пад ласкавым летнім сонейкам Купалаўскага сквера, ля «крадзенага» фантанчыка, дзе ў чэрвені 1984-га, апоўдні, сустракаўся ён з сябрамі і знаёмымі, вясёлы рогат сатрасаў старыя клёны і ясені. Паружавелы, пасвяжэлы Сам-Караткевіч зноў блішчэў разнаколернымі вачыма, а вусны яго ўсміхаліся — крышачку сумнавата, а ўсё ж весела і мудра. Ля фантанчыка было канчаткова вырашана, што мы стартуем з Пінска і павінны фінішаваць у Нароўлі, а калі хопіць часу, то і ў Даўлядах — спусцімся «за вадою» паўз усю Прыпяць у межах Беларусі. Наважыліся спачатку нейкім чынам прыдбаць лодку, але нам падказалі лепшае выйсце: надзіманы выратавальны плыт. Знайшоўся добры чалавек, Леанід Тарасавіч Хадкевіч, тады дырэктар Вязынскага музея Янкі Купалы, які, не міргнуўшы вокам, пазычыў нам гэтую каштоўную рэч.

Плыт ПСН-10 меў памеры 2 × 4 метры, мог толькі на адной сваёй палове ўтрымаць 10 чалавек. Заадно з плытам надзімалася палатка вышынёю каля 1,5 метра, спераду і ззаду меліся ўваходы, у якіх можна было сядзець і веславаць. Так што плыт быў і суднам і домам, дождж нам быў не страшны, а вялікая грузападымальнасць і ўстойлівасць дазвалялі захапіць з сабой якую хочаш маёмасць. Мы разумелі, што ў працяглым плаванні на Прыпяці, дзе так мала вёсак на берагах, асабліва ў верхняй яе частцы, нам давядзецца спадзявацца толькі на ўласныя прыпасы, і таму ў дзень ад'езду «Ніва» Пятра Драчова была біткам набіта дарожным скарбам.

Так, трэцім членам экіпажа з'яўляўся мастак Пятро Драчоў. З Караткевічам ён пасябраваў у 1975 годзе, калі мы ўдвух афармлялі Валодзеву кнігу «Зямля пад белымі крыламі», беларускае выданне. Пазней Пятро з захапленнем і любоўю стварыў ілюстрацыі да «Чорнага замка Альшанскага» — упершыню на Беларусі так багата выдалі творы Караткевіча.

Мы разумелі з Пятром, што Валодзя яшчэ не настолькі ўздужэў, каб на роўнай з намі выконваць усялякую работу ў падарожжы,— хоць у чэрвені ён наведаў Рагачоў, пасля з'ездзіў у Кіеў на 30-годдзе свайго універсітэцкага выпуску, а 8 ліпеня прысутнічаў на свяце паэзіі ў Вязынцы.

Хоць сам падганяў нас з адпраўленнем і праз свайго пастаяннага ўрача запэўніў нас, што падарожжа будзе яму на карысць. І вось у жартаўлівай форме абавязкі размеркаваліся так: Караткевіч — адмірал, Пятро — капітан, я — матрос, гэта значыць каманда. І плыт мы пасля разгарадзілі адпаведна: палову займала адміральская каюта, у якой з чатырох надзіманых матрацаў і двух спальных мяшкоў змайстравалі «адміральскую канапу», а ў другой палове плыта знаходзіліся сумешчаныя кубрык для «капітана» і «каманды», трум і камбуз.

12 ліпеня 1984 года, а восьмай гадзіне раніцы, ушчэнт перагружаная «Ніва» — толькі плыт важыў 60 кілаграмаў — выехала з двара дома № 36 па вуліцы К. Маркса, у густой чарадзе грузавікоў, аўтобусаў, тралейбусаў і легкавушак, выбралася на Слуцкую шашу і скіравалася дакладна на поўдзень.

З намі ехаў Юры Рыгоравіч Гарбутовіч, выкладчык механікі, кандыдат тэхнічных навук, цудоўны вадзіцель і... проста Юрык — з-за невысокага росту і жвавага характару,— наш агульны з Пятром сябар. Юрык павінен быў адагнаць «Ніву» назад у Мінск, а пасля прыехаць па нас у тое месца, куды праз месяц прыплывём на плыце. Наперад скажу, надзейная рухавасць Юрыка выручала нас у гэтым трагічным падарожжы.

Мы няхутка рухаліся: на кожным павароце нагадваў пра сябе абцяжараны верхні багажнік, кожная ямка скаланала «Ніву», звычайна неадчувальную да большых ямін і купін. Асабліва не давала разагнацца дарога пад Салігорскам. Тут заўсёды, з тых часоў, як з'явіліся шахты, асфальт нагадвае пральную дошку: падземныя зрухі і правалы — вынік праходкі — адчуваюцца і на паверхні.

Мы растлумачылі Уладзіміру Сямёнавічу гэтую з'яву, расказалі пра другую бяду Салігоршчыны, Случчыны і Любаншчыны — пра засаленне глебы. Разам нагадалі п'есу Петрашкевіча. ЁН загарэўся і, відаць, напісаў бы пра Салігоршчыну ў новым эсэ, напісаў бы імпэтна і глыбока, па-караткевіцку — ва ўвесь голас. Ціхмяным ніколі не быў, нават пад ганебным агнём ліхадзеяў, калі білі прыцэльна і па плошчах, білі ў адкрытую і патаемна, каб давесці да тлуму ці груба, жорстка спыніць,— Пісьменнік Уладзімір Караткевіч тону свайго голасу і пяра не паніжаў. «Ты даў нам усім урок сумленнасці»,— скажа ля яго труны Рыгор Барадулін. «Усім нам» — пісьменнікам, журналістам, мастакам. «Усім нам» — як людзям звычайным, што ўрабляюць палеткі і гартуюць сталь. «Усім нам» — як бацькам і маладым матулям, што выхоўваюць сваіх дзяцей грамадзянамі...

За Салігорскам шырока расчынілася брама ў Палессе. Зніклі ядлоўцы і елкі, часцей сталі сустракацца дубы, вязы, грабы. Чырвоныя бары межавалі з чорнымі алешнікамі, роўнядзь асушаных балот дзе-нідзе перасякалі пясчаныя грады. Толькі на Палессі мы маглі адчуць такую вольную і бязмежную цішыню прасторы, прасторы супакоенай, ласкавай, распеўнай!.. Тады, у 1984 годзе...

Нас віталі ў Пінску гарачае паўднёвае сонца і рынак, які зіхацеў дробнай маладой бульбай, агуркамі-доўжыкамі, першым ападам белага наліву, танюткай моркаўкай і пузатымі парніковымі памідорамі. Рынак патанаў у духмяных хвалях кропу, пятрушкі, сельдэрэю, цыбулі, часнаку. І млеў на сонцы ад бяздзейнасці. Здавалася, попыт рынку меў на ўвазе адных нас. А ўсё ж чалавек, які прадаваў доўтае паляшуцкае вясло, якое нам, па нявопытнасці, так хацелася далучыць да сваіх дзвюх дзюралевых «грабёлачак», такую заламаў цану, быццам не вясло прапанаваў, а новенькую каравелу. І мы адважыліся абысціся без адмысловай старажытнай прылады, заехалі на другі бок Пінска, дзе можна было падступіцца да вады, на нізкі беражок Піны, уключылі паходны кампрэсар, узброіліся помпамі і трыма парамі ўласных лёгкіх (адмірал, зразумела, не прымаў удзелу ў аўрале) — пачалі рыхтавацца да адплыцця.

...Надзьмуты і нагружаны падарожнай маёмасцю плыт быў усё адно як паплавок, ён мелка сядзеў у вадзе, а палатка, як ветразь, імгненна злавіла вецер. Капітан і каманда адразу зразумелі, што давядзецца добра ўпацець, каб прайсці па вузкай Піне ў Прыпяць, прайсці праз увесь горад, міма дзесяткаў цеплаходаў і барж, навідавоку вольных гараджан, што абляпілі берагі загарэлымі целамі,— было градусаў пад трыццаць. Капітан і каманда яшчэ не ведалі, колькі вузлоў можна выціснуць дзвюма дзюралевымі грабёлачкамі з няўклюднай, падобнай да тоўстай, абсечанай з кораня моркаўкі, пасудзіны, якая гарэзліва прытанцоўвала на дробных хвалях. Каб не заначаваць нам у Пінску, на рэспектабельнай набярэжнай! Відаць, мясцовы бакеншчык, высокі прыгожы хлопец, што лавіў рыбу побач з нашай стартавай пазіцыяй і спакваля назіраў, як мы стараемся перакачаць усё паветра Піншчыны ў неабдымнае чэрава ПСН-10, таксама зразумеў, якая неспадзяванка можа напаткаць нас у першы дзень плавання. Як цёзка адмірала, ён па-рыцарску дакляраваў правесці нас на буксіры да Прыпяці. І ў 18.00, развітаўшыся з Юрыкам, мы прынайтовілі плыт да лодкі Валодзі-бакеншчыка. Загрукацеў матор — мы рушылі на ўсход, паўз размораныя на сонцы пляжы, пад агнём цікаўных вачэй і вачанят — у вусце Піны.

З вусця Піны пачалося апошняе падарожжа Уладзіміра Караткевіча.



### 3. Перакаты і плёсы

У той вечар, 12 ліпеня, мы прайшлі самастойна ўсяго 5 кіламетраў: асвойвалі нораў ракі і прывыкалі да кіравання плытом. Давала сябе знаць стома ад пераезду з Мінска і перадстартавых клопатаў, а яшчэ трэба было адшукаць зручную мясціну, каб уладкаваць начлег — гэта значыць разгрузіць плыт, выцягнуць яго на бераг, змайстраваць з матрацаў і спальнікаў зручныя ложкі, прыгатаваць вячэру.

Пакуль каманда з капітанам займалася гэтымі справамі, Караткевіч адшукаў на поплаве такія-сякія дровы, і ледзь села сонца, як на першым нашым беразе весела трашчала вогнішча, побач ціхенька гудзеў «чмель», а транзістар голасам мінскага дыктара абяцаў на заўтра добрае надвор'е. Неўзабаве з-за нізкага лазняку выкацілася поўня, сталі насіцца ў паветры кажаны, і раптам над вогнішчам з'явілася яшчэ адна бясшумная істота — сава.

— Ну вось і госці,— сказаў Валодзя.— І што ў іх за нагода круціцца над вогнішчам?

І пацякла нетаропкая гаворка, прыемная і цікавая — рэй жа вёў Караткевіч. Будзе так яшчэ некалькі разоў, усяго некалькі... Што ні кажы, а з'яўленне савы над вогнішчам супала са старажытным змрочным павер'ем.

Цяпер настаў час звярнуцца да «малой падарожнай кніжыцы» — прагарнуць старонкі дзённіка Уладзіміра Сямёнавіча. Гэта карычневы блакноцік з добрай паперы (ён любіў добрую паперу, добрыя ручкі, кепскімі пісьмовымі прыладамі працаваць не мог), з вечным календаром (ён любіў календары, як кнігі, як караблі). Дзённік друкаваўся ў часопісе «Полымя» за 1989 год, але без каментарыяў і, на жаль, з памылкамі. Расшыфраваць вельмі сціслыя запісы тут неабходна, за нас ніхто гэта зрабіць не зможа. Тым болей што гэта **апошнія запісы Караткевіча.**

Дзённік пачынаецца з запісу (двукоссе Караткевіча):

**1984**

«Аб сэнсе жыцця. Аб бессэнсоўнасці войнаў у ракурсе вечнасці. Аб параўнальных магчымасцях зла і дабра. Аб іх проціборстве — у грамадстве і ў душы чалавека. Аб любові і каханні. Аб гераізме. Аб подзвігу. Аб смерці. Аб бессмяротнасці. Пытанні, якія юнацтва ўсіх стагоддзяў задае сабе і навакольным. І чым больш і настойлівей задае іх, тым далей не робіцца старасцю».

Далей некалькі старонак прысвечана папярэднім паездкам. Запіс ад 12 ліпеня прыводзіць не будзем, пра гэта расказана вышэй. Пачнем з 13-га, каментарыямі ўдакладнім асобныя нататкі (у дужках мае каментарыі.— *В. Ж.*).

Сёння 13 ліпеня, пятніца, у без трох адзінаццаць былі на шостым км ад Пінска. Усё яшчэ маячыць (Пінск). Берагі. Раніцай ідуць касцы. Канава (меліярацыйная канава — Караткевіч пачынае пільна ўглядацца ў праявы асушэння Палесся).

Дзень сонечны [,] але са смугою.
Матрос Ждановіч
Капітан Драчоў

І адмірал Караткевіч, толку ад якога было, шчыра кажучы, пэўна, столькі [,] колькі ад адм. Ражэственскага пад Цусімай.

Чайкі. Маторкі паварочваюць. Цікаўныя. (Цікаўнасць выклікаў плыт, маторкі часта круціліся каля нас.) Кіламетр прайшлі за 15 хвілін. Заточкі, пляжыкі, зарослы правы бераг.

Што бачыў Пеця ў прадонні пратокі. Стаўбуры, зарасць бадзягі [,] на іх мора рагозу і сітнягу. (У Драчова быў гідракасцюм. Некалькі разоў ён ныраў у затоках.)

Адміральскае бэрала. (Мы ўручылі Валодзю сцябліну рагозу з вялізным катахом.) Лунь. Нейкія сінія высокія суквецці. Як мала мы ведаем!

— Пясочак як манко (манка)*. На 8-м кіламетры па левым беразе ля прыгажэйшай купы дрэў чародка каноэ, аранжавая палатка і сцяг над ёю. (Відаць, палатка належала студэнцкаму будатраду, які працаваў на касьбе.)

— Яшчэ байдаркі,— кажа Валя,— гэта сёння тут уся пінская шляхта паплыла. Трыснёг у два чалав[ечых] росты.

— Як кукуруза.

— А гэта гледзячы ў якім саўгасе[.]

Варушыцца бясконцае мора трыснягоў.

Трэнеры ў чаўнах ля берага, пакармілі моладзь і пусцілі іх наперад. (Вярталіся з воднага паходу навучэнцы Пінскай ДЮСШ.) Сабака руды спіць на носе аднаго чоўна. Ноль увагі.

— Здалёк плывяцё?

— З вашай сталіцы[,—] адк[азвае] Валька.

— А ў вас там, дзе напісана «ўваход», заходзіць можна? — белазубае пытанне. (На плыце ля ўваходаў заводскія надпісы «вход».)

10 км — у 13.00.

На 11 км Пеця — бурлак па вадзе. (Калі вецер адціскаў плыт ад берага і па беразе можна ісці, мы з Пятром па чарзе «бурлачылі» — вялі плыт на капронавым тросе. Ішлі і па вадзе — на пясчаных косах. Валодзя або сядзеў на «адміральскай канапе», альбо сыходзіў на бераг, каб размяцца.) І адразу сустрэча з «Маякоўскім». **15 гадоў споўнілася, кругленькіх.** (Караткевіч падкрэсліў гэты радок: узрадаваўся сустрэчы з агітцеплаходам.)

В[ёска] Церабень. вял[ікай] прыгажосці, з такімі вялізнымі купаламі лістоўных раскошных дрэў. Пунька бакеншчыка. На 13 км 13 чысла ледзь не прыц[існула] рудавозам. (Рака ўверсе вузкая. Вецер — заходні, у агульным напрамку ракі, нам спрыяў, калі дзьмуў у спіну. Але рака пятляе, робіць павароты градусаў на 180, і мы часта выходзілі насустрач ветру ці ішлі з бакавым. Тут камандзе з капітанам даводзілася развіваць

* Заўвагі У. С. Караткевіча, запісаныя ім у думках, і надалей пазначаны зорачкай.

поўную магутнасць дзвюх чалавечых сіл. А самыя небяспечныя былі пустыя рудавозы, узятыя на буксір, «на вяроўку», бо хадзілі з высокай хуткасцю і на паваротах іх заносіла, прыціскала да фарватэрнага берага. Мы стараліся трымацца косаў, але зноў-такі ад бесперапыннага пятляння Прыпяці на паваротах даводзілася яе перасякаць — вось тут і чакала нас небяспека. Але ніводнага разу мы не трапілі ў аварыйную абстаноўку.)

В[ёска] Крывічы, 14 км, км 5 прайшлі [—] матрос зблытаў пачкі запалак і яны з адміралам прыкурвалі ад аваднёў на востраве. (У адзін з пустых карабкоў Валодзя збіраў злоўленых аваднёў — для рыбалкі.)

Крывічы вёска бусляная, чарацяная. Дзядзька сказаў, што вада харошая і яе часта хларыруюць[.]

— Бо прыізжаюць буд. студ. атрады і штоб оны не забалелі і добрэ робылы. (Мы з Пятром хадзілі ў Крывічы па ваду і малако для Караткевіча, які заставаўся на плыце, і прынеслі яму гэтае выказванне. Ён тым часам размаўляў з падлеткамі і запісаў наступнае.)

Нет кіно, няма хлеб. магазіна, клуба. Танцы е. А клуб?

— Зараз нікога нема. Усе людзі в болоті. І муж[ыкі] і бабы ўсе чыста ў балоце. (Усе на сенажаці.)

— Малака выпілі — і Прыпяць па калена,— сказала мне каманда. (Рэпліка запісана Караткевічам з нагоды абсалютна «сухога» закону, устаноўленага на час падарожжа.)

Буслы апанавалі стажок, 4 вакол і адзін на вяршыні. Сенажаць, пудзяць (касцы) жаб, конікаў.

Лясны бераг з палаткамі. Мядзвяна-бурштынавыя хвоі. (Тады на Прыпяці адпачывала шмат турыстаў, у асноўным — кіяўлян.) Царскае бэрла (а яшчэ тут кажуць каравяк)* вышынёю сантым. у 180 залаты, у тры ярусы. Нібы і не беларускі, а аднекуль з краін дзівосаў. Паром на 18,7 км. Будка. І карова — манумент з кургана глядзіць на яго [паром]. Курадава [вёска] у вялікіх кронах дрэў[.] У намёт коннік з узятым з табуна канём. Коні пад Курадавай. Вербы на пясчаным узгорку[.]

На гэтыя вербы вечарам села такая чарада маладых шпакоў, якой мне дагэтуль не даводзілася бачыць. Спачатку яны доўга і ўпарта ганялі над берагам, дзе мы спыніліся (луг, балотцы, зарасці вярбоўніку)*, вялізнага коршака. Міла было глядзець, як упарта і ў канцы з якім трыумфам.

Пасля пацягнулі на начлег. А за імі зляталіся новыя, новыя, новыя. Валя папрасіў мяне, і я пайшоў пад высозныя вербы (не дужа, па вядомай прычыне, блізка)* і гукнуў. Неба пацямнела і пачарнела. ЁН сфатаграфаваў, але святла малавата было — можа і не атрымацца.

Сонца сядала ў хмары. Камароў было!!! Выкурвалі іх з палаткі, а пасля заснулі. Было не так задушна — прызнак не з лепшых.

14 ліпеня, субота. Прыкметы збыліся. Калі я выйшаў з пантона на золку — сонца ўзыходзіла, перакрэсленае хмаркамі. («Пантон» — плыт. І «палатка» — плыт, але выцягнуты на бераг.) Пеці не было — на рыбе. Зноў прыгрэўся і заснуў, прачнуўшыся ад барабаннага пошчаку дажджу па версе пантона. І тут пачалося. Заваліўся адзін са стаякоў, прыйшлося паддзімаць. (Верх плыта, тэнт, трымаецца на дзвюх пнеўматычных кроквах-трубах. Безумоўна, усе надзіманыя канструкцыі «травяць» — спускаюць паветра. І, вядома, пры паніжэнні тэмпературы паветра сціскаецца. Таму паддзіманне плыта было нашым з Пятром штодзённым клопатам.) Пасля — на практыцы — пачалася барацьба з вадой. Высеклі стаякі пад уваходы. Пасля праз адзін шланг пачала ліцца вада. (Уваходы на плыце абсталяваны рукавамі, як у альпійскіх палатках, але з больш складанай сістэмай шнуроўкі. Каб Караткевічу лягчэй было карыстацца ўваходам, мы рукавы не зашнуроўвалі. На дождж прыдумалі падпіраць верхнюю частку рукавоў лазінамі. «Стаякі» ў першым Караткевічавым значэнні — пнеўматычныя кроквы, у другім — высечаныя капітанам лазіны. Шлангі, якія злучаюць з памяшканнем вонкавыя кішэні, прызначаныя для збору дажджавой вады ў моры-акіяне, спрацавалі, бо не былі заглушаны. Каманда заглушыла іх, скруціўшы і перавязаўшы капронавай ніткай.) Пасля зграбалі яе міскамі з правіслага верху палаткі. Ледзь не патанулі на сушы.

І вось «во субботу день ненастный» лье і малоціць па тканіне. Шэрая рака, туманныя далечы.

Сядзім.

Раптам распагодзілася.

Адплылі ў 13.15. Надвор'е ўсё ж няўстойлівае, берагоўкі лётаюць нізка. Дзень — як не ведае, ці ўсміхнуцца, ці заплакаць. Але за сёння трэба — хоць душа вон — прайсці шлюз і як мага наблізіцца да наступнага. (Каманда з капітанам разлічвала ісці ў сярэднім па 20 км штодня. Такім чынам, адлегласць паміж Пінскам і Даўлядамі — каля 400 км — пераадольвалася за 20 хадавых дзён. На астатнія 10 сутак спісваліся: благое надвор'е, затрымкі ў населеных пунктах, неспадзяваныя прыгоды. Абодва шлюзы, Качановіцкі і Стахаўскі, таксама пагражалі затрымкай. А мы ж прайшлі ў першы дзень 5 км, на другі — 16. Таму капітан і каманда наляглі на вёслы.)

22 км прайшлі ў 13.27.

Валы, што кідаюць на берагі. (Гэта — пра работу земснарадаў.) Дрэвы стырчаць вострымі мордамі, як кракадзілы.

Не абазнач[ан]ы ў лоцыі паром, паром перад самым шлюзам. (Лоцыяй мы называлі «Маршрутник по рекам Верхне-Днепровского пароходства», падараваны Караткевічу ў 1969 годзе капітанам «Уладзіміра Маякоўскага». За 15 гадоў рэчышча Прыпяці наравіста змянілася і за

95 кіламетраў — ад Пінска — скарацілася на 9 кіламетраў.) Абсаджаны дрэвамі шлюзавы канал.

Шлюз — рабочы нап'ецца, ну дык нап'ецца, а начальнік нап'ецца, то, як свіння, колькі ні падсцілай — усюды грязко.

Гэта Валянцін пайшоў на шлюз гаварыць наконт праходу, то швартоўшчык. Шлюзаўшчык лаяўся страшнымі словамі: убачыў, плыве $^1/_2$ бох[ана] хлеба, хлеб кінулі з рудавоза[:] ужо хліба наилыся.

— Гэта гідравузел № 11, пабудаваны ў 1953 годзе. Прайшлі мы недзе ў 2 г[адзіны]. Валянцін дамовіўся за 15 хвілін. (Матрос Валянцін не так шмат прылажыў намаганняў, каб нас адшлюзавалі. Проста дзядзькі надарыліся гаваркія — а што ж, ім сумнавата, хоць:)... 700—800 назваў (цеплаходаў) праходзіць паўз шлюз. (На працягу навігацыі.) Шлюзаваліся роўна 17 хв. Зараз 3 г. 03... За шлюзам статак. Там сабака — першы сабака, які нас аблаяў[.]

Тут доўгі пляж, і па ім выгульвае пантон, як сабачку, Пеця. («Бурлачыць».)

Выгляд шлюза здалёк прыгожы.

Дзюны з руінамі «старажытнай крэпасці», з пяску. Гэта насыпалі, калі рыхтавалі выемку пад плаціну. (У суладдзі пяску, ветру, вады прырэчныя дзюны ствараюць карціны няўстойлівыя, але часам вельмі ўражлівыя. «Старажытная крэпасць», «жаба», «пячора» — наша фантазія, але і фантазія прыроды. У сонечны ветраны дзень 14 ліпеня правабярэжныя дзюны Прыпяці на вачах трансфармаваліся ў самыя нечаканыя выявы.)

— Вусце Ясельды. Уліваецца ў Прыпяць крыштальна чыстая вада, піць можна.

— А яшчэ на правым, паўдзённым беразе Прыпяці рака зрабіла «наглядны дапаможнік па аграноміі» (такі звычайна робяць штучна)*, «што такое глеба»[.] Над ярам спялее жоўтае жыта, ніжэй пласт чорнай глебы, яшчэ ніжэй жоўценькі, аж белы, пясочак, яшчэ ніжэй — вада.

Прайшлі 26 км у 17.02.

Зрабілі толькі 5 км. Гэтаму дапамаглі дождж і шлюз.

— Перакаты і перакаты. Ля слупа 27 км у трыснягу палескі стажок на беразе[,} мне здалёк здалася хата. І купа трыснягу на беразе, як бамбук, а далей, на правым беразе, дзіўны горб урвішча[.]

Перакусілі на водмелі цыбуляй, памідорамі і хлебам.

— Прыгожы бераг. У урвішчы рака вымыла пячоры, гроты, аркі.

— Нас даганяе хмара, і сонца пускае стрэлы прамянёў: абяцае дождж.

— 30 к[м] — у 18.26.

— Сёння субота, свята ў Пінску. (40-годдзе вызвалення Пінска ад фашысцкіх захопнікаў.) Рыбак пінскі, што спяшаў у горад на свята, а адпачываў у Курадаве[,] казаў гэта. Усе спяшаюць туды, а то пінчукі

гойсаюць па рацэ на маторках як шалёныя. Ды й далёка мы ад'ехалі ад Пінска, сюды ўжо заяз[д]жаюць не так. Толькі куды падзеліся параходы і рудавозы. Загулялі з поваду суботы? («Параходы» — упарта не саступае рамантычнай любасці Караткевіч. Параходаў на Прыпяці няма. Даўным-даўно іх замянілі цеплаходы. Таму і ў «Званах...» чытайце «параход» як цеплаход.)

31-ы км — зноў паром (занядбаны і высокі, відаць[,] да высокай вады)*.

Бакенны пост Любавічы.

Недзе пасля 35 км — начлег.

Перад гэтым гісторыя з ракетай. І перад гэтым бачылі, як рудавоз завярнуў баржу ледзь не ля самага берага. Трапілі б між ёю і ім, расціснула б, як арэх у клешчах. Узгорак. На ім вербы, спавітыя ажыннікам, хмызы, парэчкі. За намі азерца, дзе кумкаюць жабы і хмызы густыя, што аж гудуць ад камарынага звону.

Не ведаю, што гэта за камары, бледныя, не кусаюцца, даўжэйшыя за ляціцу.

Кепска з жыватом, асабліва калі паясі.

Звычайная праца[,] вогнішча, праўда, удалае і дужа многа дроваў, агню і дыму. «Камароў» на дровах — мірыяды. Шалёна ходзіць з гэтай нагоды рыба, бо й над вадой яны.

Начны сход, ці, як гэта сказаць, «злёт», у спальніках і палатцы[.] Адмірал, спасылаючыся на свой стан[,] просіць каманду аб крайняй разважлівасці, спайцы і дысцыпліне. Прапановы.

(Першая прапанова Караткевіча: надзець на матроса выратавальную камізэльку, так званую панікёрку, бо матрос плаваў дакладна як тапор, а Валодзя не спадзяваўся на свой спрыт і сілу, каб вылавіць тапельца з вірлівай ракі. Матрос на гэта сказаў: «Плаваць не ўмею, дык не патану». Караткевіч пагадзіўся: «Патанае плывец» — з Песні Песняў. А капітана ўсё ж прасіў не зводзіць вачэй з тапорнай каманды. Другая прапанова: «Хлопцы, не рызыкуйце пры сустрэчы з ракетай. Расклад руху ракет — пасажырскіх суднаў на падводных крылах тыпу «Беларусь» — мы дастаткова вывучылі, магутнае рычанне іх матораў чулі здаля, але імклівасць, з якой выскоквалі яны на перакаты, вымушала трымаць вуха востра. Каб не трапіць у аварыю, загадзя спыняліся ў зручным месцы. Усё ж даводзілася, стоячы па калена ў вадзе, трымаць плыт, каб крутымі хвалямі ад ракеты не ўскінула яго на вострыя карчы, не пацерла пяском. Напярэдадні «сходу» Пятро не ўдзельнічаў у чарговай страхоўцы, ды і навошта яму было падстрахоўваць — каманда без натугі засцерагала «пантон». Адмірал жа занепакоіўся — мусіць, адчуваў адказнасць і за нашу бяспеку, і перад Хадкевічам. Гэта — пра дысцыпліну. А наконт «спайкі» адмірал меў такую рацыю: каманда і капітан часам

разыходзіліся ў метадах суднаваджэння. Крытычнай рысы ніхто не пераступаў, але спрэчак на борце быць не павінна, Караткевіч цярпець не мог хоць якой звады паміж сябрамі.)

15 ліпеня. Нядзеля. Пад раніцу туман, холад. Бледны месяц. Праспаў бы пад раніцу — душна. Пеця наторгаў рыбы. Душна. Адплылі ў 12.15.

Каровы. Пеця-бурлак у каровін[ай] чарад[зе], выганяе [кароў] з вады.

— Дарогу, начальства едзе!

(Гэты эпізод выглядаў даволі камічна. Вялікі статак кароў забрыў на пляж, зайшоў у ваду, замінаў Пятру «бурлачыць». Давялося яму пакрычаць і памахаць канцом фала, як пугай.)

Паром. Ідзе рудавозам мікашэвіцкі граніт. Дояць у вадзе. (Дзень гарачы, каровы ратуюцца ад гізоў у рацэ.) Пастух конны. Выгляд. (Выглядаў пастух даволі імпазантна.) 120 кароў і два сабакі, Шарык і Жучок (Жучышча!)*. Вялізны, калматы, з белым канцом хваста.— Але грызе суседскіх пастухоў... (Загайдала на хвалях, такі і почырк.)*

37 км прайшлі ў 12.50.

Учора і сёння на рацэ амаль пустынна. Але заўтра пачнецца[.] Ды і сёння давяраць рацэ нельга,— праўдзівей, людской тэхніцы на рацэ.

Парыць. Ярыла!

В.— А навальнічка збіраецца.

П.— Раз просіш — значыць, будзе.

Беражцы. Хлопцы ідуць туды «маімі вачамі». Так няважна мне яшчэ. Я на варце. Хлопцы швартуюць, бяруць біклагу для вады. І — гайда!

— Вярнуліся скора. У Беражцах пуста, усе «ў балоце». А прыезджыя сонныя і, як укушаныя, злыя. Будынкаў шмат новых, нават здалёк відаць. Але нагл[ядная] агітацыя чамусьці на старых хатах пад замшэлым сітнягом і з плятнямі. Не заўсёды яна на месцы, наглядная агітацыя. (Сапраўды, недарэчна стасаваліся гучныя заклікі і лозунгі, напісаныя на невялічкіх бляшаных і фанерных шыльдачках, з чарацянымі стрэхамі і крывымі плятнямі.)

— 40 км я палове чацвёртай.

— Часам вербы сядзяць на берагах такія акуратна круглыя і такімі правільнымі шэрагамі, што нагадваюць сады.

Рака стала аднастайная, здымаць няма чаго.

42 км — у 16.8.

Перад шлюзам (Стахаўскім) км. раў [кіламетраў] на 7 нават лоцыя нічога не адзначае. Плёса — і толькі на вёслах.

(Перад шлюзам плынь дужа слабая — падпёрта плацінаю рака. Плёсы доўгія, без перакатаў, па сутнасці, суцэльны плёс. А ў дадатак сціх вецер і берагі непраходныя. Даліся нам з Пятром у знакі гэтыя 7 кіламетраў у бясконцых трысняговых джунглях!)

Плёса і першы людскі дуб на Прыпяці, з борцю, 42 км. Знізу выгараў, грамабойны дуб.

Плаціна падпірае, і 7 км бы ў затоне.

43 км — у 16.26.

— Лаза настолькі абвітая павоем, што здаецца белай і ружовай.

У адным месцы на малым узвышшы нейкія дробныя градкі, сухі мох, нават крушына. Наводдаль рэдкія вялікія дрэвы. Мабыць, безліч дзікоў. (Мы прыпыніліся ў гэтай мясціне, каб даць магчымасць Караткевічу зірнуць на абшар непралазных прырэчных лазнякоў.)

— Купальшчыкі-дзеці.

— Палатка плыве.

— Ётка, ётка едзе.

— Вялізная-вялізная затока (ці мо пратока, што агінае востраў)*. Высотны сітняк [трыснёг], жоўтыя гарлачыкі і белыя лілеі.

— Слуп 44 км. 5 г. 04 хв.

Трыснёг злева нізкі, тут яго касілі, бралі на стрэхі.

— Павольна-павольна ўздоўж сцяны трыснягоў. Павольна-павольна, як плаваў тут і першародны славянін.

Здымалі сцяну сітнягоў [трыснягу]. Плыт павольна плыве паўз яе, а В., звесіўшы ногі, водзіць сваім «Асахі».

— А хораша здымаць з гэтай штукі (плыта). Праўда, на хвалі або пры ветры для такіх здымкаў чорта ўтрымаў бы.

Між 46 і 47 км. У гушчары стагі. Чамусьці заўсёды па 7. Чаўны, а [ў] іх баба і мужык, гэтыя і дзіця.

— І бакенны пункт пад вялікім дрэвам. Вялізная гаспадарка. Нейкія там акрамя хаты павільёны, часовыя будынкі, пяць стагоў, мноства чаўноў рознага калібру, нібыта бакеншчыкі на фэст з'ехаліся.

48 км, і шлюз, па-мойму, ужо відаць. Ідзём волакам. Вялізная купа вялізных дрэў. Сакавіта-зял[ёныя] дрэвы. Дакладна шлюз — такая ж шпакоўня, як і на першым. (Шпакоўня — шкляная будка з пультам кіравання шлюзавай брамай.) Перад шлюзам памяняліся месцамі. Я з Пецем...

...Таполі з адбіткамі ў веч[най?] вадзе, як на карцінах Пісара...

...Зайшлі ў шлюз... Як прапускалі. Чаму пасярэдзіне шлюза (як Гулівер у басейне)*— тырчаць крукі. Зачэпім і пакуль адчэпішся — кранты.

Адкрываецца брама шлюза. Як брама ў новы свет.

— Прайшлі шлюз у 20.05.

Праскочылі шмат (гал[оўнае], прайшлі шлюз)*, улічваючы, што выехалі позна, што вецер амаль не дапамагаў, што ўвесь час на руках.

Пеця выбраў начлег «з прычыны прыгожага выгляду на дуб». Дроў няма, бераг травяністы і В. не можа мыцца. (Нязручны падыход да вады.) Шчасце — камароў мала. Затока вельмі рыбная, б'е рыба — аж срэбныя целы плотак лятуць у паветры. Затока з лілеямі, якія закрываюцца на ноч, вялікія-вялікія, як на кепскіх рэкламах.

І П. і я ўпершыню бачылі вечарам у паветры гульні маладых чапляў, іх плаванне ў вячэрнім залатым паветры...

...Ноччу, гадзіны ў тры, перуны і маланкі, пасля дождж. **Як закаркоўваліся.** Уваходы. Задуха дзікая, кепска. Дождж на хвіліну перастаў, зноў ладзяць сетку марлевую. (Ад камароў. Мы не адразу навучыліся карыстацца ёю ў дождж.) Дыхаць лягчэй.

16 ліпеня. Панядзелак. Пяты дзень. Плавання няма[.] Ужо 11.53, а мы ўсё яшчэ стырчым у затоцы, праўда, загрузіўшыся і закаркаваўшыся. Ужо на вадзе[.]

И в воде он будет плавать,
Словно желтый лист осенний,
Словно желтая кувшинка.

І снедалі ж наспех: кавалак хлеба з паштэтам ды кубак чаю з тэрмаса, а вось сядзім і нават гарбаты няма як варыць. Закаркаваліся пакуль поліэтыленавым тэнтам, светла, а нічога не відаць.

**Як прывязалі якар, як занава распрацавалі сістэму закрывання, як зрабілі новы канец з рагулькаў.** (Якар перавязалі, перамясцілі з «пяты» ў «нос», дзе знаходзіўся капітан — так зручней швартавацца. «Сістэма закрывання» — уваходныя рукавы, «ла́зы», як называў іх Пятро, прыстасавалі да ўмоў «палаткі ў час дажджу» — каб зручна выходзіць і ўваходзіць, каб на вадзе дажджом не залівала і пазбегчы духаты, не закладкоўваць наглуха плыт. «Новы канец з рагулькай» — фал даўжынёю метраў дзесяць — на «бурлачанні» і «выгульванні» даводзілася зматваць і распускаць, у выніку — бясконцае разблытванне «барады» псавала «бурлакам» нервы. Прыдумалі зматваць фал не на локаць, а на падвойную рагульку, зробленую з лазы. І — справа пайшла на лад: фал не заблытваўся.)

Паглядзеў, што, нават нягледзячы на хваробу, які я няўдаліца. (Запіс недакладны. Відаць, думка такая: нават будучы здаровым, «які я няўдаліца».) Многа ўмею, але каб так віравала работа ў руках і так хутка (я б тую рагульку рабіў палову гадзіны [—] В. за 5 хвілін і за 5 жа хв. П. прымацаваў да яе капронавы шнур (канцы абпаліць)*. Што значыць вялікая практыка падарожжаў, фатаграфавання, рыбалоўства, свае машыны, палаткі, аквалангі.



Нічога гэтага ў мяне не было. Падарожжаў было шмат, але пешшу, на кані, у чоўне. З начлегам у бакеншчыка, палясоўшчыка, у паляўнічай хатцы, проста ля вогнішча ля паддзі, у шалашы. Першабытна. А вось як яны — не сумеў бы. І позна вучыцца. («Акваланг» — гідракасцюм, маска і ласты. Караткевічаў камплімент наконт хуткаснага вырабу рагулькі залішні — нам спатрэбілася 5 дзён плавання, каб дадумацца да такой старажытнай прылады. І «практыка фатаграфавання» тут ні пры чым: проста вопыт дзяцінства — хто не рабіў рагатак! Астатнія радкі цікавыя аўтабіяграфічнасцю.)

**Мы яшчэ не ў самым горшым становішчы.**

Уявіць сабе людзей у акіяне[.] Набілася 9, а то 10 чалавек, зашнураваліся, дыхаць няма чым, невял[ікі] НЗ, дождж, вада і аэрон ад качкі.

...

(Далей Караткевіч перапісваў у дзённік інструкцыю па карыстанні плытом і паводзін у экстрэмальных умовах выратавання. Пад нудным дажджом інструкцыя здалася нам трагікамічнай, бо, пасля тлумачэння ўсіх метадаў выжывання, інверсійна прапаноўвала... вывучыць вышэйназваную інструкцыю. Уладзімір Сямёнавіч дужа развесяліўся.)

Вырашылі ўсё ж кранацца. Вецер змяніўся і няма чаго, як лебедзю, цэлы дзень паласкаць азадак у вадзе. (Народны анекдот з Магілёўшчыны: шаплявы мешчанін упершыню трапіў у панскі парк, на сажалку з лебедзямі. Паглядзеў на шыкуноў, пачасаў за вухам і кажа: «Што жа радасць чэлы джэнь голай ш-ай шаджэч у ваджэ!») Прыўзнялі пластык, дзень шэры[.] У 13.07 адчалілі. Выходзім з гавані лілей. Упершыню начаваў у гавані. (У затоцы. Папярэднія начлегі — на пясчаных косах або пляжах.)

Заліў Пятра Вялікага, г. зн. Драчова.

Ідзём добра, кожны дзень па-свойму добры, нават учарашні. Хаця напрацаваліся, але прайшлі шмат, і галоўнае, шлюз, а да гэтага, пры выхадзе са шлюза. ракета яшчэ не паспела набіць хвалі, бо толькі ўзяла разбег.

Гора-маракі.

— Валянцін, што там на беразе, качкі ці карчы.[?]

— Па-мойму, качкі.

— Ды не [—] карчы.

— Качкі.

— Карчы.

— Точна карчы. Ясна, што тут пад вадою вялізны корч ляжыць.

— Забірай між ім і берагам.

(Мы баяліся карчоў, як агню, перасцерагаліся, каб не прапароць плыт. Чараўніца Прыпяць падманліва жартавала не з адным сапраўдным капітанам і стырнавым. Вось мы і пільнаваліся — капітан і каманда — не даверыцца б уяўнаму!)

52 км — 13. 40.

На вяршыні дрэва — гіганцкае гняздо дзікіх — яны больш асцярожныя за хатніх — буслоў. Проста велічнае дрэва, а гняздо не пляскатае, а як папаха.

Бобрык, вада ледзяная, 13.52. (Прайшлі вусце ракі Бобрык.) За Бобрыкам прычалілі да пляжа. Ішоў рудавоз, а перад вокнамі кубрыка — настурцыя і фасоля. (Такія кветнікі на буксірных цеплаходах ВТ часта бываюць, калі кок — жанчына.)

— Спіхвалі і не можам. А толькі тады заўважылі, што плыт заякараны — век жыві, век вучыся. (Зноў Караткевіч падсмейваецца. Перанос якара да капітана дэзарыентаваў каманду.)

П.— Не грабі на фішку, на фешку. (Драчоў, як сапраўдны мсціславец, багата надзелены гумарам. Вешкі з абстаноўкі фарватэра ён, дзеля смеху, называў спачатку фішкамі — пасля таго, як мы некалькі разоў, не ўправіўшыся з кіраваннем, прапусцілі іх пад днішчам плыта і пачулі жудасны гук, аж вушы раздзірала: уявіце здаравенны бярозавы кол, які скрабе тонкі нейлон! На заўвагу: «не фішкі, а — вешкі» — Пятро адрэагаваў імгнення: «фешкі».)

Перад Валянскім мостам Прыпяць бы ў цясніне з высокіх берагоў, а на іх дубы! Дуб упаў у ваду верхавінай. Даўно ўжо мёртвы, сухія сукі казачна выгнуліся над вадой. Даўно ўжо мёртвы, на зямлі, што засталася між каранёў (ці, можа, яе нанесла)*, цвітуць жоўтыя і ліловыя краскі. Прыклад табе, чалавеча.

— Зноў дрэва з дзікімі буслямі, на самым беразе. І знак 54 км — 14.32. І адразу Валянскі мост, людзі на фермах маставых. Фарбуюць. Крычыць нехта з моста, ці многа рыбы налавілі (адно на вуме)*.

(Дзьмуў несупынны заходні вецер. Пачала прыбываць вада. Рыба лавілася вельмі квола. Сустрэчныя-папярэчныя рыбакі адно пыталіся: ці ловіцца? Не лавілася. А Пятро ўсё ж з дробных пляскавак — верхаводак і плотак — прыстасаваўся варыць для Валодзі дыетычную юшку. «Адно на вуме» — пра рыбацкую хцівасць. Караткевічавае заўсёднае супраціўленне карыслівасці.)

...56 км — 15.03. Нейкая турбаза, пустая[.]

57 [км] —15.18.

Зараз 15.57. Хлопцы пайшлі, і чакаць іх трэба пры ўдачы праз паўтары, а пры няўдачы і праз дзве гадзіны. Ды і ўвогуле, ці не давядзецца заначаваць тут, спадзеючыся на горшае. Справа ў тым, што кепска глядзелі ў лоцыю: зараз мы ля вёскі Караб'е (2 км)*, у якой ёсць магазін (і тое невядома, ці магазіншчыца не на сенажаці)*, а далей, да самага Турава, прыстані ёсць і паромы ёсць[,] а вёсак на беразе няма, усе дужа далёка. (Ад Прыпяці.) Да бліжэйшай прыстані Нырча, дзе (зноў жа па лоцыі, а яна састарэла)* ёсць тэлефон — 54 км. А да Турава 110 км. Вёскі ёсць, але дужа далёка. Між тым трох боханаў хлеба нам на іх (на 110 км) не хопіць, цукру таксама. І тут мы дылетанты. Ды і цыбулі і, можа, малачка, варта было б купіць. Мяса і іншае — гэта ёсць. А наконт хлеба мы дылетанты. Заставацца камусьці трэба. Мне ісці цяжэй за ўсіх. Добра, пасядзім. Аднаму таксама трэба пабыць, падумаць, можа, перазарадзіць фотаапараты, перапакаваць рукзак і г. д. На беразе ля бакеннага паста дзве кінутыя хаты, жанчына вязе ў безматорным чоўне з таго берага траву. Ёсць халодны чай у тэрмасе. Пагляджу, паляжу, можа, нават засну.

(У першыя тры-чатыры дні плавання самаадчуванне Уладзіміра Сямёнавіча паступова паляпшалася. Ён гаварыў: «Хлопцы, праз пару дзён і я буду грэбці, ужо хачу быць матросам». Пасля стан яго здароўя пачаў пагаршацца. Мы занепакоіліся. Прапанавалі вярнуцца дадому. У адказ: «Назаўтра мне стане лепш». Яшчэ адна такая прапанова — і зноў рашучае жаданне працягваць падарожжа. Гаварыў імпэтна, з пагрозаю, маўляў, паспрабуйце ад мяне пазбавіцца! Мы ўстрывожыліся ў Кароб'і. Прыпасаў, у тым ліку і хлеба, нам хапіла б на далейшае пры нармальным Валодзевым адчуванні. Але ашчадная дыета патрабавала, каб хлеб і гародніна былі свежыя — мяса ён амаль не еў, хацеў больш малака і чаю. А чай, мы заўважылі, у тых дозах, якія спажываў Караткевіч, быў яму не на карысць, і мы стараліся ўсялякім чынам адвесці яго ўвагу ад чайніка і тэрмаса. Ды не заўсёды паспяхова.

Нам не хопіць здагадак, каб знайсці прычыну рэцыдыву хваробы. Пятро, не вельмі дужы на страўнік, баяўся хоць якой недабраякаснасці ў ежы, гатаваў на калодзежнай вадзе — была з намі шкляная «біклага» на 10 літраў, прымус «чмель» і дзве каністры бензіну да яго. Усё, што еў Уладзімір Сямёнавіч, елі і мы, ды яшчэ значна больш — апетыт на свежым паветры ды пры інтэнсіўнай фізічнай нагрузцы быў у нас з Пятром воўчы. Дыхалі адным паветрам, а паходнае мастакоўскае крэсліца, што абачліва прыхапіў Пятро, ставілі ля вогнішча так, каб не сядзець Валодзю супраць дыму. Трымаліся рэжыму сну, які выбіраў ён,— чаму так позна і здымаліся са стаянкі. Але рэцыдыў праяўляўся мацней, бескарыснымі, а можа, і шкоднымі аказаліся лекі, што займалі палову яго партфеля і якія ён рэгулярна прымаў. Радасць падарожжа прыўгасала, зрабілася трывожна.)

Здзіўляе багацце краю і неўладкаванасць жыцця ракі. А мо гэта мы разбэшчаныя птушыным малаком горада. Хаця не такое ўжо яно і птушынае. Хто б кінуў гэты край, каб на змену знішчанага старога побыту (свой хлеб, кумпякі і г. д.)* прыйшоў новы. Так, шлюзы, так, ракеты, так, каналы (невядома яшчэ, ці карысныя)*, (прыйшоў новы зручны, не знішчыўшы ані вунцыі гэтай старажытнай прыгажосці, людзей, мовы, краявідаў, гэтай вялікай ракі? Я, напрыклад[,] ніколі, хаця і нарадзіўся далёка адсюль і палескі дыялект — не мой і няма ў мяне тут роднай душы. Родны мне тут увесь ласкавы народ.

Вярнуліся хлопцы ў 18, мясцовыя казалі — 2 км (да магазіна). Добрых 4. Станцыя, на якой магазін[,] з[а]вецца Прыпяць. Дарога Лунінец — Сарны. А ўжо адтуль на Адэсу, на Сімферопаль (ходзіць цягнік Рыга — Сімферопаль)* на Харкаў. Трапілі ў точку. Днём працуе (магазін) з 4.33 да 6. Яна (магазіншчыца) злітавалася і дала ім два боханы хлеба. У магазіне пуста. Прынеслі баклажаннай ікры і вафляў, крыху цыбулі.

— Не растэ ў гэтых карчах. (Так нам тлумачыла кабета, што адмовілася браць грошы за пук цыбулі і кропу.)

Крыху перакусілі і ідзём далей. Праз гадзіну — ракета. Зноў давядзецца чакаць.

І цяпер, сапраўды, «Прощай, любимый город». Ідзём на 100 км, без пасяленняў. І толькі адышлі, у 18.20, ракета «Якуб Колас»...

...60 км ў 19!!!

61 [км] у 19.19.

Праз такія абставіны спыніцца вырашылі раней, на пясчаным пляжы. Нікому не раю. І есці [нязручна], і наносіцца пясок у плыт[.]

Расклаліся. Пеця рабіў новую рамку з дроту (для марлевай сеткі, якая абараняла ўваход ад камароў), В. вячэра[ў], я, ледзь не ракам збіраў дробныя трэскі[,] выкінутыя вадой (з дровамі кепска)*, пасля В. прывалок аднекуль з-пад кінутага буданчыка лазовых карчоў. Вогнішча. Размова аб атамнай вайне. Што, каб на ўпарадкаванне такіх мясцін на зямлі. Апошніх, запаведных.

Бакен не гарыць, бакеншчыкі праводзяць кампанію барацьбы за эканоміку[.] Рудавоз нас асвяціў [пражэктарам] ля агню, мы памах[алі] рукамі. Ён раўнуў у адказ. Скібка ўзыходзячага месяца. (У гэтым месцы дзённіка Караткевіч намаляваў, як з-за хмаркі ўзыходзіць поўня.)

Ноч. Пад раніцу мне няважна, вылез, бледная пляма поўні праз хмары. І дождж. Наставіліся. Толькі напалохаў [дарэмна дождж].

17 ліпеня. Аўторак. Шосты дзень плавання, такі самы бездарны, як і ўчарашні (пакуль што)*: багаты думкамі, але бедны падзеямі, як і ўчарашні. А я гэтага не люблю. (Гэты запіс абведзены рамкай.)

Усталі рана, але клопаты занялі больш часу. Дзень ветраны (ці гэта мы сталі на ветранай касе)*, то сонца[,] то хмары, словам, лухта.

Учора скончылі на 62 км (прайшлі, значыцца, за дзень 12)*. Не ведаю, колькі ўдасца сёння.

63 — мінулі ў 12.10.

64 км. Сфінкс з пяску. Матрос імгненна выхапіў камеру, але пранесла хуткай плынню. Вось нязручнасць плыта. (Пясок і вецер стварылі на беразе выяву, дужа падобную на сфінкса. Валодзя сказаў: Напішу верш «Палескі сфінкс».)



Верш:

— Зноў берагі, завітыя павоем.

66 [км] — 13.11.

**Верш «Сфінкс»:** Што сфінкс? Што ўсе яго загадкі?
Палессе нельга разгадаць.
Глядзіць пясчанымі вачыма
Палессю ў ... твар

Быстрасочава. (Назва праката.)

67 [км] —13.25.

(Заўважце, 1 кіламетр мы прайшлі за 14 хвілін. У той дзень імклівая плынь і моцны спадарожны вецер дазвалялі нам рухацца з рэкорднай хуткасцю.)

— Спаў?

— Егіпецкі фараон. Аблокі плывуць хутчэй за берагі, якія праплываюць паўз човен [плыт]. Здаецца, што плывём назад.

Рэкорд адлегласці хочуць паставіць. Ідзе [плыт] ходка, плынь хуткая і «па вадзе», як кажуць[,] ісці добра, вецер у спіну. І спыняцца няма чаго.

Пачаліся пляскатыя берагі і нічога на іх (гэта перад 80 км)*.

...Берагі, счасаныя баржамі ў вузкім фарватэры, нібы рыдлёўкай зрэзалі, дый прыпляскалі.

Спыніліся перачакаць недзе ў 18 г[адзін] ракету. Бо далей вузкі фарватэр, абодва берагі ракі хмызаватыя (адвесна ў ваду)*, і — ну яго, далей ад граху.

Без дваццаці сем прайшла ракета «Янка Купала».

Адзін мужык, якога мы сустрэлі ўдзень дарогаю, спытаў:

— Гэта што ў вас, плавбаза?

80 км — у 19.19.

А за дзень мінулі 18 км.

Перад 82 км — зноў бурлачаць. Але вельмі плытка.

Нізкі бераг і на ім рыжы, маладзенькі, гладзенькі косю.

Дзікі начлег, дымар з альховых габлюшак. Дымар самаробны, з дзвюх банак. Урэшце В. ідзе начаваць вонкі, на матрас і ў спальніку, і толькі світанкавы дожджык прыганяе яго назад.

(Караткевічу стала горш, ён кепска спаў. А ў В. нейкая дурная алергія, ад аднаго камарынага звону пачынае свярбець усё цела, менавіта ноччу. Так што сам не заснеш і сябрам спаць не дасі. Лепш — пад адкрытым небам, чым замінаць Валодзю і Пятру.)

18 ліпеня. Серада. Сёмы дзень.

Думалі дняваць, але вырашылі змяняць проста месца начлегу. Там — адрэзаныя ад людзей старыкамі з усіх бакоў.

Адплылі ў 16.00.

83 км мінулі [ў] 16.30.



* * *

Гэты запіс ад 18 ліпеня — апошні ў падарожным дзённіку Караткевіча. Дзённік даецца амаль без скарачэнняў. Купюры зроблены толькі з прычыны вельмі нязначнай інфармацыі, паўтораў ці з-за немагчымасці публікацыі скарочанага па этычных — у адносінах да Уладзіміра Сямёнавіча — меркаваннях.

Раніцою ён папрасіў нас не кранацца з месца, даць яму паляжаць. У яго перастаў працаваць страўнік, ніякая ежа не ішла яму на карысць. Ён бясконца патрабаваў чай, мы ледзь паспявалі кіпяціць ваду, але з чаю якое ж сілкаванне...— Валодзя стаў слабець. Папярэдні начлег быў сапраўды нязручны ізаляванасцю ад сушы: старарэчышчы і непралазнае балота адрэзалі нас нават ад касцоў, у якіх мы хацелі купіць малака для хворага.

Мы з Пятром дамовіліся, што Караткевічу трэба неадкладна спыняць падарожжа. Найхутчэйшы спосаб такі: сплаўляемся ўніз яшчэ на 4 кіламетры, у вусце ракі Смердзь, дзе ёсць прыстань. Там адзін з нас застаецца на беразе з плытом, а другі разам з Валодзем адплывае на ракеце ў Тураў, па тэлефоне выклікае Гарбутовіча і ўсе разам едуць у Мінск.

Днёўка 18 ліпеня не прынесла палёгкі нашаму сябру. Нельга было і паскорыць ад'езд у Тураў: ракета хадзіла толькі раніцою, адзін раз у суткі. І нам давялося перажыць яшчэ адну ноч, бяссонную для ўсіх трох, вельмі трывожную і доўгую. Валодзя спрабаваў пярэчыць ад'езду, маўляў, яму б яшчэ дзень-другі паляжаць і хвароба пройдзе сама па сабе. Але на гэты раз мы рашуча не паддаліся на ўгаворы.

На раніцу 19 ліпеня выдаўся густы туман. Бруілася чорна-шызая вада. Ля прыстані няўклюдна тырчэла жалезная, іржавая, замкнутая на ржавы замок будка невядомага прызначэння. Паблізу скрозь туман прагледжвалася аднапавярховая камяніца: стромкі дах, на даху і вакол камяніцы як недаробленыя ці паўразбураныя канструкцыі; сталёвыя аканіцы і краты; завалы і зноў-такі ржавыя вялізныя замкі на аканіцах і дзвярах; нейкае сюррэалістычнае ламачча на падворку; зарослая калматай, дзікай травой сцежка праз балота. А вакол — ні душы... Птушкі маўчаць, нават сарок не чутно. Быццам спраўдзілася фантазія братоў Стругацкіх і трапіў у зону сталкераў.

Вось так выглядала прыстань Лахва 19 ліпеня. «Прыстань» — занадта гучная назва, на самай справе ніякай прыстані не існавала, а быў няўтульны, неабсталяваны, але крыху прыдатны да падыходу ракеты бераг.

Мы пабойваліся, што з-за туману ракета парушыць расклад,— толькі і не хапала... Караткевіч сядзеў на раскладным крэсліцы ля ржавай будкі, хаваўся ад золкага подыху, такой няласкавай на развітанне Прыпяці.

— Паслухайце, хлопцы, што я скажу, аб чым папрашу. Не спыняйце падарожжа! Прайдзіце гэту раку, як намі задумана. Прайдзіце УСЮ! Плыт давяраю цалкам, бачу, вы — не дурні. А ты, Валька, мне раскажаш і сам напішаш. Будзем у сааўтарстве. Згода?

І ў ракеце, якая спазнілася, можа, хвілін на 10, і потым, у Тураве, і наступнае раніцы ў Мінску ён настойліва прасіў, каб мы завяршылі падарожжа. Завяршылі абарваныя для яго кругі...

У салоне ён сагрэўся, аднаго разу выйшаў пакурыць (апошнім часам курыў мала, ледзь пыхне першай зацяжкай і адкідвае «беламорыну»):

— Як добра было на плыце — павольна, спакойна, усё разгледзіш, усё пачуеш. А тут нібы ў самалёце.

Я падбадзёрваў Валодзю жартамі, нагадаў нейкі недарэчны анекдот пра дурнога Ёську, што тыцкае пальцам у сонца і пытаецца ў сустрэчнага, а ці высока яно (нехта з пасажыраў дапытваўся, ці скора будзе Тураў — гэта пры самалётнай хуткасці!..). Мой хворы сябар таксама адказаў анекдотам. І раптам, разумеючы, пэўна, усю бездапаможнасць маіх захадаў паправіць настрой, «ліпу» майго кволага аптымізму, а можа, у прадчуванні горшага, спахмурнеў, пранізліва зірнуў мне ў вочы:

— А ты, Валька, думай! І Пятру скажы: няхай думае. І ўсім добрым хлопцам скажы, каб думалі. Такая наша работа — думаць...

Даруйце, людзі, за маё «сааўтарства» з Караткевічам — неспагадны лёс змусіў мяне прымкнуць уласнае журналісцкае пяро да залатога пяра Паэта. Даруйце, калі ў гэтых нататках вы ўгледзіце маю нясціпласць. Якія тут могуць быць самахвалавічы... Адно імкнуся перадаць настрой, жартаўлівы і лірычны спачатку, трагічны — пад канец апошняга падарожжа Караткевіча. Яго апошнія дні. Яго апошнія словы. І запавет: «А вы, хлопцы, думайце!» Я разумею сэнс гэтых слоў, як разумее Пятро Драчоў, як кожны з вас рана ці позна павінен зразумець. Лепш — раней. Лепш — як мага раней.

### 4. Галасавыя

Тураў яшчэ і тым быў зручны ў нашым становішчы, што тут мелася бальніца, што можна было спадзявацца на цёплы прытулак у маіх сяброў Клакоцкіх. З Клакоцкімі Вадзімам Пятровічам і Тамарай Мікалаеўнай Караткевіч быў добра знаёмы, жыў у іхняй хаце чатыры гады назад, калі працаваў над эсэ «Сцюдзёная вясна...», крыху напісаў пра іх у гэтым эсэ. І сапраўды, Вадзім хутка забраў нас з Тураўскай прыстані. Мы пасяліліся побач з кватэрай Клакоцкіх, у нумары запаведніцкай гасцініцы. Прапанову выклікаць урача Валодзя катэгарычна адхіліў.

Дзякуючы чуламу дагляду Тамары Мікалаеўны, ён крыху акрыяў, але быў слабы і спаў увесь дзень, пакуль не прыехаў з Мінска Юрык. І на світанку 20 ліпеня мы дапамаглі Караткевічу падняцца ў яго кватэру.

Дома нікога не было. Валодзя пазваніў пляменніцы — Надзя абяцала прыехаць праз некалькі гадзін. Я застаўся пры хворым.

Было зразумела як двойчы два, што яму патрэбна доктарская дапамога, магчыма, клініка. Гэта пацвердзіў і выкліканы Надзяй доктар: ён быццам ведаў усе хваробы свайго пацыента. Але ні ўгаворы доктара, ні

Надзіны, ні мае выніку не далі. У адказ ранейшае: дайце мне адляжацца дома, хвароба пройдзе сама, назаўтра мне стане лепш.

Што тут зробіш? — сілу ж не прыменіш.

21-га раніцай мы з Юрыкам скіраваліся на Тураў: трэба выручаць Пятра, які чакаў нас у вусці Смердзі — аднаму з плытом управіцца немагчыма, нават пры бязветранасці. А прыбывала ў Прыпяці вада, і хлеб, напэўна, у Пятра калі не скончыўся, то зацвіў.

Перад ад'ездам я пазваніў Уладзіміру Сямёнавічу:

— Ну як ты, адмірал?

Бадзёры, нават вясёлы голас у трубцы:

— Дзякуй, амаль што здароў. Праз пару дзён магу далучыцца да каманды.

— Ды не, дружа, папраўляйся, дужэй!

— Ладна. А вы — плывіце далей. І глядзі — не зваліся за борт. Да сустрэчы!

Да сустрэчы... Цяпер адна ў нас можа быць сустрэча — за той мяжой, якую я пакуль што не пераступіў, але пераступлю непазбежна...

* * *

Мы працягвалі плаванне — выконвалі пажаданне Валодзі, хоць настрой быў благі. Ішлі плытка: вецер дзьмуў моцны, напорысты, шквалісты; плынь, чым ніжэй спускаліся, рабілася хутчэйшая, а весляроў стала трое — Юрык лёгка навучыўся кіраваць плытом. Мінулі вусці каламутнай ад валынскіх дажджоў Гарыні і скапанай на канаву, меліяраванай Лані, правялі паўдня ў «бусліным каралеўстве», апісаным Караткевічам у «Званах...», пераначавалі на Случы і на беразе тураўскага парку. Каб выйграць час, ішлі з Турава да прыстані Хлупін на буксіры. Меліся затрымацца ў Галасавых, або ў Галаве — так называецца ўрочышча, якое знаходзіцца ў першым квартале Снядзінскага лясніцтва. Чатыры гады назад Клакоцкі паказаў гэтую мясціну, адну з унікальных на Беларусі, Уладзіміру Караткевічу:



«А пасля было дзіва. Неапісальнае. Мабыць, з апошніх такіх на нашай зямлі, хаця раней Дняпро, і Нёман, і Сож — гэта былі поймённыя дубровы па берагах.

Вада яшчэ не зусім спала. І стаялі над гэтай высокай вадой дубы карказломныя, дубы-вежы, дубы, на якіх замкі можна было б будаваць, дубы-хмары ў палову неба, дубы-калоны, на якіх трымаецца неба над гэтай зямлёй.

...І плылі мы назад па канале Рэчышча. І было ў дрэвах возера Кругленькае, метраў гэтак на 12—13 з хвосцікам глыбіні. І неабсяжныя

па таўшчыні і недасяжныя па вышыні вербы стаялі ў вадзе, і градамі на Прыпяць адсюль было не прайсці — гэтымі водамі і джунглямі многімі.

...І тут урэшце была салаўіная краіна. Па дакладным падліку сем салаўёў на нейкія дзвесце метраў».

Вось куды мы прыйшлі **25 ліпеня**, яшчэ не здагадваючыся, што праз колькі гадзін неба над Галасавымі счарнее.

І неба счарнела.

* * *

У Альшанах даяркі гаварылі Караткевічу:

«— Мы калісьці над рэчкаю спявалі. За шэсць вёрст песня чутна была.

— А лесам як песня ідзе!»

У Галасавых дзве дубровы, паміж імі шырокі поплаў раскінуўся сярод праток і азёр ад Прыпяці да вёскі Хлупін. Заспяваюць у Хлупіне — і песня птушкаю ляціць, да самай ракі не губляючы гучнасці і чысціні галасоў.

Калі захлынаецца песня,
Адчаем туманіцца зор...

«Дубы-вежы, дубы, на якіх замкі можна было б будаваць, дубы-хмары ў палову неба, дубы-калоны, на якіх трымаецца неба над гэтай зямлёй», панура маўчалі.

Захлынулася песня...

Назаўсёды спыніў сваё плаванне белы човен, не стала ў людзей Паэта.

* * *

Людзі адыходзяць у нябыт. Песні не паміраюць.

Сыходзяць долу паэты. Жывуць іх вершы.

Апускаюць у магілу цела Караткевіча. Узлятае над абсягам зямлі ЯГО слова, быццам уся Беларусь стала Галасавымі. І плыве па ўсіх рэках, па ўсіх азёрах Бацькаўшчыны ЯГО белы човен Любові і Дабрыні, Гонару і Сумлення.

Белы човен
Здаля
Відзён.

Белы човен
Як востраў
У повень.

Белы човен
Ўначы
Відзён.

Белы човен,
Як поўня,
Відзён.

*1984—1990*

## Васіль Зуёнак

# Крылы над роднай зямлёй

І скажу — вельмі ж нялёгкая гэта справа: успамінаць. Хочацца згадаць нешта эпахальнае — я ўспамінаецца ўсё, здаецца, зусім не вартае гэтага паважанага жанру.

Звычайна кажуць: пра нябожчыка — альбо добрае, альбо нічога. Чытаеш іншы раз важкі том — ледзь не поўны збор надмагільных слёз і літанняў, дзе ўсе змяшаліся — і сябры-аднадумцы, і зусім нядаўнія нядобразычліўцы, яўныя і прытоеныя, з кукішам у кішэні,— і ўсё больш настойліва аддзяляецца ад цябе той, пра каго ўспамінаюць, нейкай шкляною сцяной саладжава-клікунскіх фраз (быццам відаць, бачна, а дыхаць няма чым); характар вырываецца — як рэпка — з глебы: дзедка за рэпку, бабка за дзедку, унучка за бабку... і нават мышка прыбегла ўспомніць нешта сваё,— і выходзіць, што апошняе слова застаецца за ёй, «слова ісціны»: яна вырвала рэпку...

«Эгацэнтрычная» справа — успаміны... Амаль усё — з нязначнымі выключэннямі — круціцца вакол восі Я і N. Я — на першым плане, разумеецца. І Я — у самым лепшым выглядзе: як і дзе, сустрэўшыся, N. хваліў гэтае самае Я (было такое пры жыцці альбо не — дзе і чым засведчана яно? — вазьмі правер, перапытай...). А ўжо заадно, зараз, пасля смерці, падзяка гэтага Я таму N... Сумна... Ды, відаць, законы жанру такія...

Вось і я — колькі разоў беручыся за «сціло» — упіраўся ў тое самае Я. Колькі разоў думаў: не ўмею, я дакладней — не магу пісаць успаміны... Думаю і зараз... І суцяшаю сябе: гэта ж пішу я, — значыць, Я павінна тут быць: як мне помніцца, як мне бачыцца...

Былі сустрэчы, былі размовы, я пачну з аднаго непаразумення, ці як яго назваць...

Угаварылі, а хутчэй, як гэта бывае, лёгка пагадзіўся Уладзімір Караткевіч напісаць для часопіса «Маладосць» эсэ (ці назавём — фотарэпартаж: здымкі рабіў Валянцін Ждановіч) да 1000-годдзя Турава. Зацягнуў да апошняга, я тады ў дзень здачы ў набор прыходзіць і давай папікаць, што больш ён так выкладвацца не намераны, ночы не спаць (хоць было 10 дзён камандзіроўкі і пасля яшчэ 20 дзён,— па звычайных журналісцкіх мерках тэрмін не сказаць, каб казачна вялікі, але прыстойны), ну і ўсё ў гэтакім родзе... А ў рэдакцыі ўжо атмасфера была панічная: два дні сядзелі і чакалі (машыністка, карэктар, тэхрэд і г. д.), каб тут жа з машынкі вычытваць, размячаць — і ў набор. Пацягнула за язык — сказаў усяго толькі: «На каго ж ты крыўдуеш? Хутчэй мы ўсе крыўдзіцца павін-

ны...» Як успыхне тут, як падхопіцца Валодзя: «Дык вы яшчэ так?!» — і грукнуў дзвярыма. Добра, што хоць рукапіс пакінуў...

А ўжо ці не назаўтра Уладзімір Сямёнавіч пераступіў парог рэдакцыі і, як ні ў чым не бывала, весела пытаўся, калі прыйдзе карэктура...

Ён быў крыўдлівы, як дзіця, і гэткі ж адыходлівы. У цукерачнай абгортцы любімай ім юнацкай вышыванкі (пазней зазвычай стаў абавязковы гальштук) была натура выбуховая, нечаканая, непрадбачаная і ў многім невытлумачальная, незразумелая для акаляючых, а таму — як і ва ўсякага мастака — нялёгкая, трэба думаць... Гэта пры чарачнай нагодзе, у бестурботнай кампаніі можна было гадзінамі лёгка слухаць яго рыцарскія эпапеі — у любым, што ні кране, пытанні. Але ж былі і гадзіны, суткі, тыдні знясільваючай працы. Нервы былі на абрыве. І не разумець гэтага — недаравальна. Недаравальна не «ўлавіў» гэтага тады і я. Натуральна ж і зусім па-чалавечы, па-мастакоўску хацелася яму пачуць у той момант (пасля касмічных перагрузак пакутных імгненняў творчасці) і словы ўдзячнасці, і словы здзіўлення — як гэта здорава, што ён, знясільваючыся, зрабіў усё ж абяцанае — і вось яно — на рэдакцыйным стале, гэтае і цяжкое бяссонне яго, і нялёгкая радасць выказанага: два дзесяткі старонак, усыпаных драбнюткім, каліграфічным бісерам літар... Ды і што той друкарскі графік, зрэшты!.. Трэба было думаць перш — хто напісаў (Уладзімір Караткевіч!) і як напісаў!..

З Караткевічам было і лёгка і не лёгка. У працы Валодзя быў апантаны, у перакананнях цвёрды, у спрэчках няўмольны. І тыя «канфліктныя» ўспышкі былі не ад яго, не ад Караткевіча, а ад таго, дзе ён толькі што быў, перад якім бяздоннем стаяў, якія землятрусы скаланалі яго безабаронную душу,— гэта яшчэ пралятала над ёй «последняя туча рассеянной бури...». Душу паэтычную і ўражлівую.

Ён быў зменлівы ў настроях і нязменны ў адным — у любові да роднай зямлі, да Бацькаўшчыны. «Матчын дар» і «Матчына душа» — дзве паэтычныя кнігі (першыя — і ў Алеся Гаруна і ў Уладзіміра Караткевіча) паставілі побач са словамі «дар» і «душа» самае светлае і самае святое — маці,— невыпадкова і сімвалічна. І дар, і душа — гэта ўсё тое, што набыў чалавек з нараджэннем: маці родную, маці-Айчыну, песню яе, памяць, мову, мінуўшчыну і мройлівую будучыню,— усё тое, што назваў Янка Купала Спадчынай — «старонкай роднаю...». І ўсё тое, што прыносіць ён сам — чалавек — на гэты свяшчэнны алтар,— сваім жыццём, сваімі дзеямі. У Караткевіча яны — даастатку, да кроплі — былі ахвяраваны ёй — старонцы роднай. Ён не ўяўляў, проста не мог уявіць — усё было арганічна, крэўна — сваю існасць і сваю сутнасць без гэтага высокага служэння. Іншым ён быць не мог. Іншае для яго — небыццё.

У гэтых пачуццях яго — заўжды, у кожным душэўным руху, у кожным штрышку і памкненні — было штосьці адкрыта-непасрэднае,

пяшчотнае, сардэчнае,— як да жывога, роднага чалавека, адзінага на ўсё жыццё і на вечнасць — маці... Узнімаючыся аднойчы да кватэры Валодзі Караткевіча па нарматыўна-альпінісцкіх лесвічных пераходах у пад'ездзе дома яшчэ «дахрушчоўскай» муроўкі, я нечакана напаткаў дэталь, так сказаць, інтэр'ера, якая не тое што здзівіла, але неяк весела збянтэжыла: на лесвічнай пляцоўцы тулілася драўлянае, добрага веку, просценькае крэсла, што само па сабе магло б стацца звычайнай рэччу — «спісалі» гаспадары з-за непатрэбы ды ціхенька, каб ніхто з суседзяў не ўбачыў, выставілі з кватэры,— маўляў, не насіцца ж з ім, а так, можа, хто падбярэ ці выкіне... Рэч звычайная, калі б... Калі б не моцныя, у колькі столак, драцяныя закруткі, якімі мацавалася крэсельца да радыятарных ацяпляльных труб,— не раўнуючы як бывала ў добрага дзядзькі жардзё да слупоў у плоце ці агароджы прыкручвалася адмысловымі ракітавымі віткамі... А разгадвалася ўсё проста і да слёз шчымліва. «Гэта я для мамы такі прыпынак абсталяваў,— тлумачыў Валодзя,— вельмі ж цяжка ёй узнімацца без ліфта па гэтых бясконцых лесвічных пралётах да маёй кватэрнай верхатуры. Ідзе яна, ідзе, прытоміцца, пасядзіць — і далей тупае...» — «А навошта ж закруткі такія?» — «А гэта ад шкадлівых бэйбусаў: колькі крэслаў стаўляў — усё пазносілі... Цяпер во хай паспрабуюць!..» — І весела, як бы пацяшаючыся з гэтых невядомых яму, збянтэжаных такой нечаканкаю зламыснікаў, не пакідаючы ў запас ні макулінкі крыўды ці злосці на іх, засмяяўся.

А цяпер прачытаем: «Чырвоныя захады і пахілае дрэва восені, бэз ля закінутых капліц і сіні палёт сіваваронкі, туман і залаты лубін — гэта мы. Мы з нашай зямлі і з неба, з магутнасці ляснога зубра і пошчакаў салаўя, самых пяшчотных у свеце...» Не адно духоўнай, але радзіннай, існаснай крэўнасцю з роднай старонкай — як роднай маці — жыло сэрца Уладзіміра Караткевіча. Ён адчуваў яе фізічна — дыханнем, зрокам, кожным дотыкам. Ды не — нават не тое — «адчуваў». Гэта быў ён сам: ва ўсім гэтым, як гэтае ўсё — у ім. Яе боль быў яго болем, яе смутак быў яго смуткам. І кожнай хвіляй свайго жыцця, кожным радком сваім ён парываўся дапамагчы ёй, абнадзеіць і аблегчыць шлях на крутых прыступках гісторыі. Натуральна-будзённае, жыццятворнае, крывяноснае зліваласся ў адзінства яго духу, неразгаданую касмічную сілу, намёртва прывязаную да роднай зямлі — маленькага кавалачка ў Сусвеце — якая сама вырастала з ім у Сусвет. Ён беражліва нёс гэты Сусвет у сабе, ахвяруючы сабою дзеля яго ва ўсім — і ў вялікім, і ў малым. Тут не было для яго дробязяў. Як у стаўленні да маці, у самаадданым шанаванні і асланенні яе ад бяды...

Ён быў сутнасцю Радзімы, як Радзіма была сутнасцю яго.

Мне, як відаць, і шмат каму яшчэ, запомніўся той дзень і тая зала ў Саюзе пісьменнікаў менавіта першым знаёмствам — тады яшчэ не аса-

бістым — з Уладзімірам Караткевічам: проста я ў ліку маладых суперажывальнікаў сядзеў і слухаў, як чытае ён перад шаноўнай пісьменніцкай публікай свайго «Машэку» — верш, нядаўна апублікаваны ў часопісе «Полымя», і, галоўнае, верш, які адразу зрабіў імя аўтару (адзін верш! — так па-сапраўднаму ўваходзілі і ўваходзяць у літаратуру: не доўгацярплівым тленнем, а маланкава, не крыклівымі абяцаннямі і дэкларацыямі, а справай):

Лісце алае засыпае роў,
Пушчу чорную апавіў туман,
Атачон з усіх чатырох бакоў
Золкай восенню мой лясны будан...
...Ад усіх я ўцёк, ад усіх я збег.
Буйным воласам да калень зарос...

А ён стаяў — Караткевіч — перад першым радам, не там, на ўзвышэнні, на сцэне, дзе сядзеў прэзідыум, а тут, вочы ў вочы «з народам», стаяў у вышыванцы, сонцавалосы і з гэткім жа прасветленым тварам. І голас яго — па-юнацку высокі і звонкі, з ноткамі летуценнага трымцення ці хвалявання — неяк не стасаваўся да малюнкаў, якімі дыхаў верш: «З дзікім свістам я коні супыню, І спячэцца пан на маім нажы...»

Паэтычнае вучнёўства, літаратурная недарослась ніяк не лучацца ў нашым уяўленні з Уладзімірам Караткевічам. Ён адразу прыйшоў і паўстаў як Майстар. Тады многае яшчэ не было вядома: ні грандыёзныя задумы яго на ніве гістарычнай прозы, не з'явіліся яшчэ на часопісных і кніжных старонках славутыя сёння раманы і аповесці «Каласы пад сярпом тваім», «Нельга забыць», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Дзікае паляванне караля Стаха»,— усё гэта было наперадзе, а тады пісьменніцкая зала, праслухаўшы яшчэ колькі — пакуль што не друкаваных — вершаў паэта (помніцца, чытаў ён «Оршу» — пра горад, у якім нарадзіўся), аднадушна прынімала яго ў члены Саюза пісьменнікаў.

І ў тым супастаўленні паэтычных вобразаў і вобліка паэта — як цяпер, па часе, усё добра відно — нібы ў кроплі чароўнага крышталю, адбівалася двухадзінства Уладзіміра Караткевіча — суровы рэаліст і летуценны рамантык. Такім быў яго творчы характар. І яшчэ было адно радасна-незвычайнае адчуванне — навізны, нестандартнасці мовы верша,— на фоне таго, шырока распаўсюджанага ў час нашага вучнёўства, рыфмаванага гладкапісу, абкатаных, аб'езджаных ды абслізганых фраз і трафарэтных слоў, з якімі мы зжыліся, да якіх, здавалася, безнадзейна і назаўсёды прывыклі... І тут гэтае — «Атачон з усіх чатырох бакоў»,— «атачон»! — як яно велічна, сапраўды па-волатаўску выступае ў радку — слова, узнятае з глыбінных моўных пластоў. А з ім адкрывалася і нам, захапляла і клікала невычэрпнае багацце роднай, народнай мовы.

Душа Караткевіча сталася класічным узорам душы мастака, душы паэтычнай: «Пока не требует поэта к священной жертве Аполлон, в заботы

суетного света он малодушно погружен...» (Хай прабачыць чытач гэтае міжвольнае адступленне, але паглядзіце, які — таксама класічны — узор даў Аляксандр Сяргеевіч для занудлівых крытыкаў — лаўцоў «блох»,— жывое «саркастычнае» пытанне само бяжыць на пяро ці на язык: «А хто «он» — паэт альбо Апалон? — «в заботы погружен»? Самы раз ус-клікнуць, радасна і задаволена паціраючы рукі (вось якія мы!): «Яўная стылістычная нязграбнасць!..»)

Нешта такое даводзілася чуць і пра мову Уладзіміра Караткевіча,— не вышэй карэктарскай пазіцыі (зусім не хачу пакрыўдзіць прадстаўнікоў гэтай паважанай, патрэбнай, карпатлівай і шматпакутнай працы,— яны тут ні пры чым, яны чэсна робяць сваю справу, — тут «пры чым» шмат-паважаныя і высокачынныя рэдактары, якім так і карцела (скажам: «так і карціць», бо з'ява гэта пастаянна і ўстойліва вечная) нешта падкрэсліць, падправіць, «падчысціць», нацягнуць на свой капыл,— тых «дырэктараў» «птушкаферм», што так любяць разводзіць і выпускаць з-пад сваіх алоў-каў на палі рукапісаў статкі «птушак»)...

Былі, помніцца, такія спробы і ў часопісах «Маладосць» і «Бярозка», дзе мне давялося не адзін год працаваць і прачытаць не адзін рукапіс Уладзіміра Караткевіча. Дык вось знаходзіліся там іншы раз «чыстапі-сальшчыкі» (асабліва ў «Бярозцы» на першым часе здзівіла мяне гэта шкалярская «тэндэнцыя» выстройваць словы па граматычным «ранжы-ры»: дзейнік, за ім выказнік, дапаўненне, перад ім, калі ёсць, азначэнне, і ні кроку ўбок... І гэта — у казках Караткевіча — іскрыстых, смяшлівых, вынаходлівых і на дзею, і на слова!.. Перамагала ж, аднак, асцярожнае стаўленне, можна сказаць, асабліва ахоўнае разуменне мовы і стылю пісьменніка. Што казаць, пры фармальным падыходзе даваў ён іншы раз і прастор і магчымасць сагнаць таму-сяму свой філалагічны «сверб». Але ж усе гэтыя «прыўкрасны» («Яна ўяўлялася мне тады па незямному прыўкраснай»), «нагія» («На Украіне берагі Дняпра нагія»), «тунна» («Гэ-тыя таленты пайшлі тунна»),— усё гэта таксама Караткевіч. Гэта і яго рамантычны палёт у вольным акіяне слова, і яго (можа, і падсвядомае) імкненне запоўніць пустоты ў асобных (асабліва ўзвышана-духоўных) лексічных пластах нашай літаратурнай мовы. Была тут, зразумела, і чыста характарыстычная неабходнасць выкарыстання таго ці іншага слова — аднаразавага, як у выпадку з апісаннем забавы ў аршанскім парку:

Прывязаныя як трэба,
Пад крыкі дзяўчат і друзей
Людзі ў чорнае неба
Лятуць на стромай дузе,—

пастаўце замест «друзей» «правільнае» слова — і радок патухне, умомант зробіцца посным, знікне каларыт сённяшняга гараджаніна — учарашня-

га вяскоўца, з якога сама вёска вельмі дасціпна смяецца, перадаючы яго мову: «Іду я, гэта, бульбай, а тут з картошкі — заяц!..»

Мова пісьменніка такога рангу, як Уладзімір Караткевіч, павінна знаходзіцца пад ахоўнай граматай,— гэта свой, непаўторны свет.

Як непаўторны свет самога мастака, яго з'яўленне і быццё на гэтай зямлі. І цяпер з усёй выразнасцю і непапраўнасцю бачна, як трэба было берагчы, ахоўваць яго ад усяго наноснага, разбуральна-згубнага, чым адорвала яго асяроддзе ў хвіліны, калі «не требует поэта к священной жертве Аполлон»... Не раз крыўдаваў Валодзя, што я рэдка заходжу да яго, як бы цураюся яго хаты, запрашаў, нават настойваў: «Во зараз і гайда...», а мне заставалася адно — знаходзіць часовыя адгаворкі, бо так жа не хацелася прынесці ў хату яшчэ адну зачэпку для «гасцявання»... Наіўна думаць, што гэтае маё «пасіўнае супраціўленне» магло нешта змяніць, але ўсё ж...

Светла ўспамінаецца адна — як тады было, яшчэ па старых маштабах Мінска,— загарадная вылазка. «Паехалі да Пушкіна!» — гукнулі Валодзя з Рыгорам Барадуліным. Паехалі — кудысьці ў раён Сляпянкі, у прыгарадную вёсачку (што цяпер, відаць, затоплена каменнымі аграмадзінамі), дзе кватараваў Пушкін — былы аршанскі вучань Караткевіча — журналіст Яўген.

Варылі бульбу на вогнішчы. Булькала ў саганку, весела скакала полымя, плыў над лугавінаю дымок, а Валодзя, папраўляючы паленцы («Заяц варыць піва»,— жартавалі мы, бо надта ж падобны быў гэты абразок на той — з Валодзевага верша,— праўда, там была зябкая восень — «Павінна ж быць і ў зайца радасць перад халоднаю зімой...»,— а тут буяла вясна, усё цвіло і спявала, сквірчэла і квакала ў цёплым надвячэр'і), захоплена і сур'ёзна чытаў лекцыю, як можна з бульбы прыгатаваць тысячу (не меней!) самых розных страў. У нас была адна — бядняцказвычайная, будзённая, без прэтэнзій,— вараная. Але мы разумелі Валодзю. Ён расказваў смачна, артыстычна (былі тут і «клёцкі з душамі», і піражкі, фаршыраваныя грыбамі, і... ды што казаць — усё было на гэтым самабраным абрусе, раскінутым фантазіяй Валодзі Караткевіча), расказваў, быццам сам вось зараз быў найслыннейшым у свеце кухарам, гурманам (прынамсі, ён той хвілінаю шчыра верыў у гэта — і паспрабуй хто-небудзь засумнявацца...).

Ён заўсёды любіў маляваць пышныя, «арыстакратычныя» панарамы, а лад жыцця, побыт меў надзвычай просты, часам аскетычны,— ён, з шырокай, размашыстай натурай, не мог камусьці ў нечым адмовіць, і гэтым часта карысталіся... З «кіношных заробкаў» зазвычай выходзіў ён «гол як сакол», пазычаў, каб разлічыцца з даўгамі (асабліва пасля экспедыцый «на натуру»,— у Крым, скажам...).

Што ж тычыцца самога кінематаграфічнага пераўвасаблення прозы Уладзіміра Караткевіча, то поспехі ў пастаноўшчыкаў былі куды больш

сціплыя (аб гэтым слушна пісаў у свой час Адам Мальдзіс). Усё пераважна зводзілася да знешняй эфектацыі, дзяжурнай кіношнасці, глыбінная нацыянальная сутнасць, боль і роздум пісьменніка неўпрыкмет выветрываліся. Не знайшлося між кінематаграфістаў мастака, роўнага талентам Уладзіміру Караткевічу, не дайшло да экрана багацце яго раманаў і аповесцей.

Самым частым і ўзаконена-пастаянным месцам сустрэч была рэдакцыя «Маладосці». Тады наогул звычай быў такі: у рэдакцыю ішлі, як у клуб,– пагаманіць, пачуць навіны, свае прынесці. І нікога не здзіўляла гэта, нікому не перашкаджала, усе радаваліся такім сустрэчам...

Добра папрацаваўшы з раніцы, Уладзімір Караткевіч выходзіў «на людзі». А «на людзі» гэтыя, калі перабраўся ён у кватэру па вуліцы Карла Маркса, былі побач: прайсці Купалаўскім скверам да будынка ЦК камсамола, дзе месцілася рэдакцыя «Маладосці» (тут жа, на першым паверсе, была «Бярозка»).

Гэты голас і цяпер гучыць у вушах, чутно — яшчэ з-за дзвярэй: «Василий Васильевич дома?» То была яшчэ адна з незлічоных інтэрмедый-містыфікацый Валодзі. «Так,– гаварыў ён,– чуваш-сусед ідзе да суседа і яшчэ са свайго парога гукае на ўсю вуліцу: «Василий Васильевич дома?» (Быў і другі варыянт: «Поп Васька дома?» — «А кто спрашивает?» — «Василий Васильевич»...) Здаецца, больш за ўсё падабалася ў гэтай сцэнцы яму паўтараць «Василий Васильевич» — з націскам, з акцэнтаваным, дыстылявана правільным рускім вымаўленнем. Гэта была запеўка, пасля якой ён пачынаў расказваць, як хрысцілі папы чувашоў і чаму ў іх да нядаўняга бытавалі такія артадаксальна вывераныя, праваслаўнаасвечаныя імёны: «Иван Иванович», «Василий Васильевич», «Тимофей Тимофеевич»...

А я ў сваю чаргу прыгадваў, як пабываў нечакана ў калгасе «Самалёт» — таксама ў Чувашыі. На здзіўленае пытанне: «Чаму такая назва незвычайная?» старшыня гаспадаркі патлумачыў, што было гэта ў час калектывізацыі: суседняя вёска назвала свой калгас «Трактар», тады тут рашылі: «Што мы, горшыя? Яшчэ хутчэйшую назву возьмем — “Самалёт”!»

І Уладзімір Караткевіч пагаджаўся: так, гэта «парасткі» аднаго і таго ж кораня: перагнаць саміх сябе...

Чалавек энцыклапедычных ведаў — Уладзімір Караткевіч быў і неспатольным фантазёрам. Ён мог гадзінамі расказваць розныя гісторыі — і сур’ёзныя, і смешныя, мог ставіць сябе і сваіх герояў у самыя неверагоднейшыя сітуацыі, але ніколі, ні ў якім разе нельга было западозрыць яго, «злавіць» на нейкай таннай «мюнхгаўзеншчыне», бо за кожнай, абмаляванай ім сітуацыяй стаяла Праўда, якую называем мы ў мастацтве крыху высакамоўна, але па сутнасці дакладна — Праўдай Жыцця. Гэта — што

звязана з вуснымі апавяданнямі Уладзіміра Караткевіча — больш за ўсё і найперш тычыцца і яго празаічных твораў, многія з якіх напоўнены адчайнымі прыгодамі, захапляюць напружанасцю сюжэта, таямнічасцю і загадкавасцю сітуацый і падзей,— словам, трэба прачытаць «Дзікае паляванне караля Стаха» ці «Чорны замак Альшанскі», каб на поўную меру адчуць самому і зразумець усё гэта. У той жа час за кожным з твораў стаяла дапытлівая, карпатлівая, цягам гадоў па-падзвіжніцку здзяйсняемая пошукавая праца. Ён быў заядлы вандроўнік (з сябрамі-пісьменнікамі, журналістамі, навукоўцамі ў розных экспедыцыях — гісторыка-археалагічных, фальклорна-этнаграфічных, экалагічных) і нястомны чытач — з выключнай памяццю.

Абмалёўка знешняга партрэта Уладзіміра Караткевіча была б не поўная без аднае дэталі — кніжкі ў кішэні ці згорнутага ў «трубачку» часопіса, апошнім часам найчасцей з новым дэтэктывам (у чэшскім, славацкім, польскім ці яшчэ якім выданні). На пытанне ці нават нясмелы пратэст: «Навошта табе гэтая мішура?» адказваў сур'ёзна: «Трэба распрацоўваць беларускі дэтэктыў, трэба заваяваць самага шырокага, дэмакратычнага чытача, а пасля гэтай «нажыўкі» ён абавязкова «клюне» і на сур'ёзнае». І спасылаўся на добры вопыт нашых блізкіх сяброў — славакаў, чый гістарычны лёс вельмі ж падобны на наш... У тыя дні Уладзімір Караткевіч пісаў раман «Чорны замак Альшанскі» — спецыяльна для часопіса «Маладосць». Тады ж распачаў ён захоплена працаваць над казкамі — для дзяцей, — з тымі ж намерамі: заваёўваць чытача з самага юнага ўзросту.

З мэтанакіраванай паслядоўнасцю і нязменным творчым і чытацкім поспехам распрацоўваў Уладзімір Караткевіч жанр гістарычна-прыгодніцкага рамана і аповесці. Яго Юрась Братчык («Хрыстос прызямліўся ў Гародні») стаў сапраўдным беларускім сабратам такіх сусветна вядомых літаратурных герояў, як Ціль Уленшпігель ці Робін Гуд.

Ён, здаецца, ведаў усё. Толькі запасы гэтыя былі не акадэмічна-казённыя, а пранізаныя, як бы тут сказаць, нейкай рамантычнай узвіхуранасцю. Ён, быццам бы памяняўшыся сутнасцю, але не месцамі з самім Богам, глядзеў не з неба на зямлю, а з зямлі ў неба. Гэта з асаблівай выразнасцю выяўляла яго далёкаўсходняя аповесць «Чазенія»: на «марскія», а асабліва на «таежныя» старонкі, як з меха, высыпаліся незлічоныя багацці звестак, фактаў, назваў і тэрмінаў,— іншы раз праз меру, і пачынала здавацца, што ўся гэтая «жыўнасць» «перасялілася» з запісных кніжак ці музейных стэндаў...

Так, акадэмічнай казёншчыны не было, але акадэмічная грунтоўнасць і дакладнасць Уладзімірам Караткевічам гарантаваныя. Аднойчы ён даверліва гаварыў мне, а дакладней вучыў, дзяліўся вопытам, адчыняў акенца ў сваю лабараторыю: «Калі сказана ў мяне, што ў чацвер

6 ліпеня тысяча пяцьсот нейкага года мой герой прахапіўся на досвітку ад страшэннага навальнічнага грукату, то будзь пэўны, што чацвер той быў не 5 і не 7 ліпеня, а менавіта 6»,— і па сакрэту дадаваў: «Можаш праверыць, а будзе патрэба і пакарыстацца: у святароў ды і ў багатых бібліятэках ёсць добрыя — вечныя — календары...»

Нядаўна, перачытваючы — ужо ў кніжным выданні, пасля ці не чвэрцьвекавога марынавання — раман Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць», я напаткаў малюнак: ...узыходзіў крутлы халодны месяц... замёрзлыя ставы... цені канькабежцаў... І раптам: «Ад зямлі ўздымаўся туман. Ганна сказала, што гэта на цяпло, і ён (Андрэй Грынкевіч.— *В. З.*) згадзіўся, хоць добра ведаў, што наадварот, на холад...» Мароз і туман... Ды і гэтыя прыкметы... Добра пакорпаўся я ў спецыяльнай літаратуры, ды так і не натрапіў на пэўны адказ: усё ж — на цяпло ці на холад?.. Паверыў апошняму: за кожным словам Грынкевіча стаіць аўтар. Засумняваўся б, каб хто сказаў іншы... А Караткевіч... Помню яго «сакрэцік» пра той чацвер. І думаю: недзе ж ёсць пацвярджэнне... Вось толькі няма ўжо ў каго запытацца... Ён бы адкрыў таямніцу. Як шчодра адкрываў ён іх юным чытачам са старонак кнігі «Зямля пад белымі крыламі». Мы сёння шмат гаворым аб стварэнні падручнікаў па роднай гісторыі, па культуры, геаграфіі, прыродазнаўстве Беларусі. А гэтая ж кніга — гатовы — і ніякага перабольшання не будзе — выдатны навучальны дапаможнік па нашым краязнаўстве. Маленькая — займальная і змястоўная — энцыклапедыя для школьнікаў. Варта толькі завінуцца ды хутчэй перавыдаць яе ды забяспечыць школы і бібліятэкі.

І наогул, як хацелася б, каб у кожнай беларускай сям'і быў томік з творамі Уладзіміра Караткевіча (як у любым армянскім доме ёсць кніга па гісторыі Арменіі ці ў эстонцаў — Эстонская энцыклапедыя). Хацелася б сказаць: «Памаліцеся яго словамі за родную зямлю»,— яна вартая гэтага — сваімі пакутамі і сваёю славаю.

Са старонак твораў Караткевіча гаворыць сама Беларусь. І ён гаворыць — вуснамі сваіх герояў, іх думамі і ўчынкамі. Калі хочаце скласці партрэт Уладзіміра Караткевіча — складзіце яго з характараў Алеся Загорскага, Андрэя Грынкевіча, Юраса Братчыка, урэшце,— у кожным з іх яго часцінка...



А яшчэ ва ўсёй велічы паўстае духоўны воблік Караткевіча са старонак кніг яго паэзіі, асабліва апошняй — «Быў. Ёсць. Буду.», кнігі спавядальнай і развітальнай, кнігі, якую ён не паспеў патрымаць у руках...

Абяцаюць нам новы раскошны дом.
Але ТУТ нам жыць і канаць,
Тут пад кожным навекі здабытым бугром
Нашы продкі забітыя спяць.
Яны аддалі нам меч і касу,

Слова з вуснаў, цяпер нямых...
І нам немагчыма пайсці адсюль
І пакінуць са смерцю іх.

Наогул, паэзія Караткевіча заўжды — ад першага радка да апошняга — гучала тастаментна. Ён быў дакладны і строгі,— як у змесце, так і ў форме, ніякага фармальнага штукарства, ніякіх бразготак і танных упрыгожанняў — верш класічна стройны, з каранямі ў глебе, з кронаю — пад аблокі:

У векавечнай бацькаўшчыне клёны
Нячутна пачынаюць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На весніцы, на ціхі стаў, на гаць.
Зямля глядзіць азёрамі-вачыма
На ясны свет...

Тут нельга разменьвацца на звонкую дробязь, бо слова — пра самае святое: пра векавечную Радзіму, пра народ, пра яго лёс. Радзіма, народ, нялёгкія і няпростыя шляхі яго гісторыі сталі нялёгкай і няпростай доляй творчага шляху Уладзіміра Караткевіча. Ён нястомна даследаваў, вывучаў і натхнёна вяртаў нам у мастацкім слове спадчыну — напаўзабытую і забытую, згубленую і прададзеную, абылганую і зганьбаваную. Але — неўміручую. Яна паўставала з цямнот і лёхаў мінуўшчыны перад намі, нашчадкамі, у велічных, гераічных і светлых вобразах, створаных Уладзімірам Караткевічам. Тут ён быў першапраходцам. Ён першы ў нашай літаратуры разгарнуў шырокую мастацкую панараму пярэдадня паўстання Кастуся Каліноўскага. І сёння застаецца толькі горасна шкадаваць, што раман «Каласы пад сярпом тваім» пісьменнік не змог, не паспеў закончыць — засталіся нам толькі два яго тамы, астатнія адышлі разам з творцам.

Розныя выказваюцца цяпер меркаванні, чаму не быў завершаны раман. Адны сцвярджаюць: «Надышлі, неадступна апанавалі новыя задумы...» Другія: «Жыццё так склалася, павярнулася нейкім неўладкаваным бокам, закруціла, панесла...» Трэція «здагадваюцца»: «Спыніўся перад самым галоўным — перад паўстаннем, не хапіла грамадзянскай рашучасці, гістарычнага грунту...» Вось дзе ўжо адразу хочацца катэгарычна запярэчыць!..

Запярэчыць і прыгадаць, з якой насцярожанасцю сустракалі чыноўныя выдаўцы і знаўцы літаратуры, «спецы» па нашай гісторыі дзве першыя кнігі рамана. Колькі было запланаваных «давыдавецкіх» і «паслявыдавецкіх» абмеркаванняў... Вынікалі такія многаакрутныя рэестры заўваг і прапаноў наконт таго, як трэба было і як надалей варта пісаць Караткевічу свой раман, што заставалася толькі параіць іх сачыніцелям: ці не лепш самім сесці і напісаць твор — ад сябе, а не за іншага, выказаць усё, што вы так добра ведаеце і мудра разумееце,— вам і пяро ў рукі... Як гаварыў Міхась Ціханавіч Лынькоў, «дзярзайце, уюнашы»... А Уладзімір Караткевіч сказаў сваё.

Ды хоць была і гарачая падтрымка, але камень халаднавата-прафесарска-разважлівых меркаванняў упаў на душу мастака. Ён не даваў паварушыцца. Ён ціснуў шматпудовым, гнятлівым цяжарам... Як гэта спрыяе працы, творчаму настрою ў самым іх зеніце,— можна толькі ўявіць... Не вытрымала душа, надтрэснулася пад гэтаю халоднаю глыбай... А няскончанасць рамана застаецца фактам гісторыі літаратуры, вялікаю стратаю і для сучаснікаў, і для нашчадкаў. Для сучаснікаў жа яшчэ і — хай сабе прыхаванай — пакутай сумлення...

Прырода надзяліла Уладзіміра Караткевіча багаццем і шматтраннасцю душы. Як трохі насмешліва прызнаваўся ён у аўтабіяграфічнай нататцы — «таленты выяўляў разнастайныя: і маляваў, і ў музычную школу хадзіў (прычым абсалютны слых спалучаўся ўва мне з гэткай жа абсалютнай лянотай)...».

Народную песню, як і наогул народную творчасць, Валодзя знаў дасканала, шанаваў, любіў апантана. І ўмеў спяваць. Згадваю адно позняе вяртанне з літаратурнай паездкі. Аўтобус імчаўся праз ноч, і праз усю ноч амаль, усю дарогу гучалі песні — беларускія, украінскія, рускія, польскія, балгарскія... Спявалі Уладзімір Караткевіч з Іванам Антонавічам Брылём. Спявалі нястомна, захоплена. І таленавіта, з душэўным пранікненнем у песню. Колькі іх было — не злічыць... Толькі і чулася: «А гэтую, Валодзя...», «А гэтую, Янка...».

Калі чытаеш творы пісьменніка паасобку, з разбежкай у часе, многія дэталі «праходзяць» аўтаномна, не так бачна кідаецца ў вочы іх тыповасць, характарыстычная адметнасць. А вось калі ўсё ахопліваеш адразу, у сістэме, выяўляюцца моманты дужа цікавыя і нечаканыя. Раптам заўважаеш, напрыклад, колькі сапраўды яркіх твораў выяўленчага мастацтва здзейсніў у слове Уладзімір Караткевіч. Ён любіў маляваць — алоўкам, пяром. Імгненныя накіды: дакладная лінія, штрых — і праступае профіль, сілуэт, характар... Берагу адзін такі ягоны малюнак — жаночы партрэт, выкананы лёгкім, слухмяным, спеўным пяром аўтаручкі. Ёсць віншавальныя паштоўкі — самаробныя Валодзевы маляванкі.

Але вось — проза, слова: «Усё было проста: насычанае чырвоным неба, барвовы адбітак у спакойнай вадзе, схіленая пад уласным цяжарам вадзяная чарацінка, што перакрэсліла палосу...» — выдатная кампаноўка! А фарбы можна ўявіць. Гэтую карціну Караткевіч «стварыў» за свайго героя «Ідылія ў духу Вато». А тут — калі ласка — партрэтны жывапіс: «Празрыстыя славянскія вочы,— быццам майскае неба ў ранішнім тумане, тупы носік, румяны рот з мяккімі ямачкамі ў куточках вуснаў. І лепей за ўсё была каса. Таўшчынёю з руку, залацістая, як сухі ліст каштана»,— знаёмцеся, хто не паспеў: Наталька з апавядання «Блакіт і золата дня». Ці гэты манументальны малюнак з рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»: «Сумавала вакол капліцы шыпшына. А сейбіты падымаліся

на вяршыню круглага пагорка, як на вяршыню зямнога шара. І першым ішоў насустрач нізкаму сонцу Хрыстос, мерна размахваючы рукамі...» — выразна, рэльефна, жыва...

Яшчэ адна мая памятка пра Уладзіміра Караткевіча — хоць і нейкім чынам ускосная, не прамая, але затое штодзённая. На сцяне ў маім пакоі, у невялікай багетавай рамцы, вісіць партрэт Максіма Багдановіча. А гісторыя яго — чыста караткевічаўская.

Святкаваўся Валодзеў юбілей. Пяцідзесяцігоддзе. Вечар у Доме літаратара быў шматлюдны. Валодзя губляўся ў гэтым тлуме, і смутак ляжаў на яго твары, сцінаў душу, такую няўрымслівую раней... Хвароба трымала яго ўчэпістымі рукамі... Падыходзілі сябры, знаёмыя, чытачы. З віншаваннямі было шмат сувеніраў. Валодзя ўзяў з маіх рук канверт з кніжачкай, механічна паклаў у кішэню, не зазірнуўшы нават, што ў тым канверце. Мабыць, і забыўся пра яго ў віншавальным патоку. І толькі праз нейкі час, як схлынуў натоўп з вестыбюля — усе падаліся ў залу, з гасцёўні раптам, дзе ўтварыўся цэлы сувенірны Эльбрус, выбухнуў голас Караткевіча: «А гэта хто мне прынёс?» А потым, відаць, прачытаўшы надпіс, кінуўся да мяне з паўторнымі — ужо не віншавальна-юбілейнымі — абдымкамі...

Была гэта «Жалейка» Янкі Купалы...

А партрэт Багдановіча — ён неяк выпраменьваўся насустрач з падаруначна-сувенірнага вэрхалу, і ў мяне вырвалася амаль тое ж самае здзіўленае пытанне: «А гэта хто табе прынёс?»

Тут быў Максім зусім не той хрэстаматыйны, з афіцыйна-сур'ёзным, застылым тварам. Тут свяціўся ён нязмушанай, цёплай, быццам да цябе звернутай, усмешкай. І рукі — артыстычна вытанчаныя рукі музыкі,— ці не таго скрыпача, пра якога пісаў Максім...

Зрабілі партрэт — паводле адшуканага нядаўна калектыўнага фотаздымка з юнацкіх гадоў Багдановіча — фотакарэспандэнт «Маладосці» Валянцін Ждановіч і мастак Пятро Драчоў. Ціхенька ўгаварыў я хлопцаў і займеў дублікат... Так і глядзіць, усміхаецца з рамкі Максім Багдановіч — даверлівай усмешкаю Караткевіча, і чупрына, здаецца, такая ж — неслухмяна-караткевічаўская...

«Зямля пад белымі крыламі» — так любіў яе, так славіў Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч...

Лунаюць над ёй, ахінаюць яе — прыгожую і векавечную — крылы добрай надзеі. А нам уяўляецца, нам бачыцца, што ў гэтай чарадзе гордых птушак ляцяць і светлыя думы паэта. Ляцяць над роднай зямлёю. Яны — разам, яны — не могуць разлучыцца. Толькі гукаюць-перакліка-юцца — жывая з жывым: «Як ты, маці-Беларусь?..» — «Помню, сыне...»

*1988*

Янка Казека

# Як гэта было

Кнігу «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» аўтар падараваў мне з такім надпісам: «Дарагому Янку Казеку, які калісь ледзь не першы з пісьменнікаў зрабіў мне добрую паслугу,– на добры ўспамін. Ул. Караткевіч. 15.III.73».

Якую ж «паслугу» прыгадаў ён?

Мелася на ўвазе выступленне супраць шальмавання яго на старонках аршанскай газеты «Ленінскі прызыў».

Варта, мабыць, успомніць тую даўнюю гісторыю, бо апошнім часам з'явіліся публікацыі, у якіх асобныя факты, акалічнасці, звязаныя з ёю, асвятляюцца недакладна. Так, ва ўспамінах пра Караткевіча, змешчаных у газеце «Літаратура і мастацтва» 2 чэрвеня 1989 года, Барыс Сачанка закрануў і «аршанскую гісторыю». Напісаў пра тое, як ратавалі тады паэта «ад надзеленага ўладай дурня — кіраўніка раённага маштабу»: Пятру Глебку нібыта давялося ездзіць у Оршу, дзе працаваў у школе Караткевіч, і «выступіць у газеце «Звязда» з артыкулам у яго абарону».

А было крыху не так.

У студзені 1958 года па выдавецкіх справах прыйшоў я да старшыні Саюза пісьменнікаў Петруся Броўкі. Калі абмеркавалі пытанні, якія цікавілі мяне, зайшла размова пра Караткевіча. Броўка сказаў, што аршанская газета ўжо некалькі месяцаў ахайвае творчасць маладога паэта, што варта было яму, Броўку, у дакладзе на рэспубліканскім сходзе актыву творчай інтэлігенцыі станоўча ацаніць вершы Караткевіча, як з Оршы пасыпаліся абвінавачванні ў нежаданні «прызнаць правільную крытыку знізу».

— Можа, вы заступіцеся за яго, напішаце ў «Звязду»? — запытаў у мяне Броўка.

І да размовы з ім я ведаў пра нападкі на Караткевіча: у выдавецтва, дзе я працаваў, заходзілі пісьменнікі, гаварылі пра гэта, абураліся. Мяркуючы па фразеалогіі абвінавачванняў і папрокаў паэту, газета «Ленінскі прызыў» дзейнічала няйначай як па ўказцы мясцовых ахоўнікаў чысціні афіцыйнай ідэалогіі, завучаных імі канцэпцый і схем. Таму я засумняваўся: наўрад ці захоча «Звязда» апублікаваць артыкул у яго абарону.

— Гэта я бяру на сябе,— запэўніў Броўка.— Вы толькі напішыце, а я дамоўлюся з рэдактарам.

...Усё пачалося з артыкула супрацоўніка рэдакцыі «Ленінскага прызыву» Л. Высоцкага «Не ў нагу з жыццём», змешчанага ў гэтай газеце

31 ліпеня 1957 года. Прысвячаўся ён падборцы вершаў Уладзіміра Караткевіча ў ліпеньскім нумары часопіса «Полымя».

Можна толькі здзіўляцца, з якой аператыўнасцю адгукнуліся ў Оршы на новыя творы земляка. Ад газеты, якая некалькі гадоў назад надрукавала яго першыя вершы, ён чакаў справядлівай, спагадлівай ацэнкі сваёй працы. Але аўтар артыкула і не ставіў за мэту разабрацца ў змесце і мастацкіх вартасцях яго твораў, а галаслоўна абвінавацію маладога паэта ў безыдэйнасці, адарванасці ад жыцця і іншых смяротных грахах. Увесь набор тагачасных стандартных крытычных закідаў, рэзкіх і крыўдных выразаў абрынуўся на яго. Думкі паэта часам проста перакручваліся, яму прыпісвалася тое, чаго і не было ў вершах.

Пра верш «Вадарод», якім адкрывалася падборка, у артыкуле гаварылася: у ім «паэт упадае ў чорную меланхолію і, ахоплены поўнай безнадзейнасцю, прадракае... пагібель нашай краіны». І гэта пра твор з такой выразнай, празрыстай думкай! Асудзіўшы тых, хто найвялікшае адкрыццё навукіператварыў у «сродак зла і знішчэння», Караткевіч сцвярджаў, што ўжо «ўсім даўно астабрыдла стаяць над абрывам», і выказаў гарачую мару людзей пра час, калі

...ад погані чыстая наша планета
Стала б вольнай, прыгожай, шчаслівай навек,
Стала б лепшым брыльянтам кароны сусвету,
Цёплым раем, якога чакаў чалавек.

Гэтак жа крыкліва, тэндэнцыйна, з відавочным намерам зганьбіць паэта ацэньваліся і астатнія вершы падборкі («Як размаўляюць звяры і птушкі», «Гісторыя з першым каханнем», «Песня шафёра», «Праменьчык», «Сырцовыя цагліны», «Лісце»). У віну ставілася нават тое, што паэт «закаханы ў жыццё і ў кожную мушку» (цытуючы гэты радок, аўтар артыкула выкінуў словы «ў жыццё»). Дасталося і рэдкалегіі «Полымя», якая «прадаставіла на старонках часопіса месца нізкапробным практыкаванням Ул. Караткевіча».

Аднаго артыкула «Не ў нагу з жыццём» рэдакцыі газеты падалося замала. Праз некаторы час (16 жніўня 1957 года) яна змясціла агляд лістоў чытачоў. Не выклікала сумнення, што прыйшлі гэтыя лісты ў рэдакцыю не самацёкам: у агляд трапілі толькі такія «водгукі», якія і па змесце, і па стылі супадалі з ацэнкамі Л. Высоцкага. Дзіўная аднадушнасць!

І яшчэ раз рэдакцыя «Ленінскага прызыву» звярнулася да грамадскай думкі. У лістападзе 1957 года яна арганізавала канферэнцыю чытачоў на аршанскім ільнокамбінаце. Большую частку справаздачы з канферэнцыі (апублікавана 24 лістапада) аддала крытыцы вершаў Караткевіча. Калі верыць справаздачы, чытачы нібыта асабліва асуджалі яго творы на гістарычныя тэмы. Нікому не дазвалялася сказаць пра яго добрае слова.

Цікавасць да гістарычнага мінулага Беларусі абудзілася ў Караткевіча яшчэ ў студэнцкую пару. Многія дні і вечары прасядзеў ён у кіеўскіх бібліятэках над старадаўнімі кнігамі, вывучаў гістарычныя дакументы, публікацыі архіўных матэрыялаў. Высокую дасведчанасць, свой адметны — далёкі ад канонаў афіцыйнай гістарычнай літаратуры — погляд на падзеі ранейшых часоў і гістарычных асоб паэт выявіў ужо ў ранніх вершах, прысвечаных мінуламу беларускага народа, лёсу яго нацыянальнай культуры. Таму гэтыя вершы і выклікалі такія нападкі з боку Л. Высоцкага і яго аднадумцаў.

На гэты раз газета паспрабавала дамагацца ад Саюза пісьменнікаў і рэспубліканскіх літаратурных выданняў, каб яны прызналі правільнасць яе выступленняў і асудзілі памылкі ў вершах Караткевіча.

...Дні праз тры, перадрукаваўшы на машынцы тэкст свайго артыкула «Ці гэта чакаў малады паэт?», я пайшоў да Петруся Броўкі. У яго якраз быў Пятро Глебка. Разам прачыталі артыкул.

— Няхай, можа, і Пятро Фёдаравіч падпіша? — параіў Броўка.— Справе гэта не зашкодзіць.

Як ліст у рэдакцыю за двума подпісамі артыкул і быў надрукаваны ў «Звяздзе» 4 лютага 1958 года.

Пасля гэтага Караткевічавы нядобразычліўцы прыціхлі. Прынамсі, у «Ленінскім прызыве» не з'явілася больш зласлівых выпадаў супраць яго.

Гістарычная тэматыка стала асноўнай у прозе і драматургіі Караткевіча. Пісаў ён з вялікай любоўю да свайго народа, з верай у яго, і ў апавяданнях, п'есах, аповесцях, раманах ажылі яркія, часам забытыя, а то і не вядомыя раней старонкі мінулага Беларусі, гістарычныя персанажы, падзеі, факты.

Разносная крытыка ранніх вершаў — не адзіная сумная старонка літаратурнай біяграфіі Караткевіча. Іх у яго было нямала. У 1963 годзе павінен быў выйсці асобным выданнем яго раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі» (разам з аповесцю «Дзікае паляванне караля Стаха»). Выдавецтва падрыхтавала кнігу, падпісала яе да друку, але цэнзура не дазволіла друкаваць.

Усе, хто працаваў у тыя гады ў выдавецтвах, ведаюць, што ў такім выпадку пагражала іх супрацоўнікам, якія прычыніліся да падрыхтоўкі кнігі. Трэба было пісаць тлумачэнні, чакаць розных непрыемнасцей і спагнанняў. У мяне, калі даведаўся пра забарону, усё ж заставалася яшчэ сякая-такая надзея паправіць становішча, і я пайшоў у Галоўліт. Але не змог пераканаць цэнзара і кіраўнікоў гэтай установы, што ў кнізе няма ніякіх ідэйных заган і наогул няма нічога шкоднага для нашага грамадства. Змацаваны кавалкам дроту (так пасылалі яго ў цэнзуру, каб не згубіліся асобныя старонкі) карэктурны адбітак кнігі, падпісаны выдавецтвам да друку, я праз некаторы час аддаў аўтару. А набор быў

рассыпаны. Убачыў жа свет раман толькі амаль праз дваццаць гадоў пад назвай «Нельга забыць», як было ў часопіснай публікацыі.

Свае перакананні, творчыя пазіцыі Караткевіч адстойваў пры ўсіх варунках.

Прыгадаю ў гэтай сувязі адзін факт. Шукаючы рукапіс артыкула «Ці гэта чакаў малады паэт?», сярод розных папер я натрапіў на дакумент, пра існаванне якога даўно забыў,— заяву супрацоўнікаў рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь». Падпісалі яе загадчык рэдакцыі Алесь Бажко, рэдактары Уладзімір Дамашэвіч, Васіль Сёмуха, Раман Ярохін і іншыя. Яны скардзіліся, што ад Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Варно і Аляксандра Лазнявога даводзіцца «выслухоўваць шмат несправядлівых дакораў і нават абраз», і прасілі «прыняць адпаведныя захады» перад Саюзам пісьменнікаў. Заява не датавана, але, мяркуючы па прыкладзенай да яе выпісцы з пратакола абмеркавання рамана Лазнявога «Горные вершины» ў Саюзе пісьменнікаў 17 сакавіка 1966 года, з'явілася яна прыкладна ў той час.

Помніцца, якраз тады рэдакцыя пачынала працу над рукапісам рамана Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Цяпер ужо не магу прыгадаць усіх акалічнасцей, якія ўскладнілі ўзаемаадносіны аўтара і рэдакцыі. Калі не памыляюся, ускладненні ўзніклі ў выніку рэзкай крытыкі ў друку часопіснай публікацыі рамана. Крытыка гэта паўплывала на пазіцыю рэдакцыі. Пэўнае ўяўленне пра адносіны аўтара да яе патрабаванняў можа даць згаданая заява. Азнаёміўшыся з заўвагамі і патрабаваннямі рэдакцыі, ён сказаў: «Вы зарэзалі мой добры раман і гэтым толькі самі сабе нашкодзілі. Я не разумею, што вам ад мяне трэба. Правіць я нічога не буду... Сто гадоў буду чакаць, але надрукую ўсё так, як напісаў». А на заўвагі рэдактара Міхася Клышкі наконт аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» адказаў: «Заставайцеся пры сваёй думцы. Аповесць будзе друкавацца ў такім выглядзе, як я напісаў».

Нічога абразлівага ў яго словах не было, таму заява і пакінута без увагі.

Сустракаўся я з Уладзімірам Караткевічам не часта — у выдавецтве, Саюзе пісьменнікаў. І размовы звычайна тычыліся выдавецкіх спраў. З гадамі ад тых сустрэч мала што зберагла памяць. Крыху лепш помніцца адна — калі ён прынёс напісаную па маёй просьбе аўтабіяграфію «Дарога, якую прайшоў».

Было гэта, здаецца, у канцы 1964 года. Гаварылі мы пра літаратурныя навіны, абменьваліся думкамі пра творы нашых агульных знаёмых. Добра, цікава было пабыць з ім, паслухаць яго неардынарныя меркаванні, дакладныя, вострыя ацэнкі некаторых слабых, бляклых кніг. Ён не шукаў згладжаных фраз і фармуліровак, і ва ўсім, што гаварыў, адчувалася глыбокая перакананасць.

*1991*

Уладзімір Калеснік

# Братанне з Караткевічам

Сёння была грымотная ноч, цяжкая для сардэчнікаў. Мне прысніўся Валодзя Караткевіч. Сядзеў за рулём джыпа, а Брыль і я — за яго спінаю пасажырамі. Імчаліся па краёчку нейкага глыбокага абрыву, дарога спярша адхілялася, а потым крута павярнула ў бездань. Валодзя зухавата крутануў рулём і памчаў нас на скрут галавы.

— Куды ты?! — папярэдзіў першы Брыль.

— Стой! Спыніся! — закрычаў я.

А ён без аглядкі пацвельваўся: «Заплюшчце вочы, старыкі! Падніміце ногі, каб шкарпэтак не падмачыла. Адзін скок — і на тым беразе...»

Я прачнуўся і стаў успамінаць, адкуль жа, з якой бочкі вылез такі сон? Незнарок павярнуўся на левы бок і — на табе, пайшла ўсялякая д'ябальшчына. Ды, зрэшты, было пару страшных выпадкаў у часе нашага з Валодзем сяброўства. Прыгадаўся выпадак, калі я павёз яго першы раз у Белавежскую пушчу. Рэжым запаведніка тады яшчэ не быў такім строгім. Дырэктар, інвалід вайны Раманаў, сімпатызаваў пісьменнікам, мастакам, наогул давяраў інтэлігентам і дазваляў самім, без прыгляду, пахадзіць па пушчы. А хто меў свой транспарт, то і паездзіць па вызначанай для экскурсій трасе. Мне даводзілася часта суправаджаць групы прыезджых пісьменнікаў, таму ведаў самыя экзатычныя мясціны і, здаралася, калі штатны экскурсавод быў заняты, вадзіў гасцей сам. З дырэктарам мы пазнаёміліся на беразе Лясной ля Камянюкаў, дзе ён любіў пасядзець з вудаю і пагаманіць з хлапчукамі, што на лоўлі печкуроў нажывалі сабе рыбацкае хобі. Так, па знаёмстве, павёз я і Караткевіча паглядзець пушчу.

Недзе ў глухім матачніку мы пешкі прабіраліся да волата-дуба Ягайлы і натрапілі на вялізны, у два чалавечыя росты, яловы вываратэнь. Валодзя зацікавіўся ім і збочыў, каб падзівіцца на магутную ахвяру ўрагану. Я прыпыніўся ў ягадніку на сцежцы і чакаў, пакуль госць натоліць цікаўнасць і вернецца з уражаннямі. Але Караткевіч як толькі зазірнуў за вываратэнь, так і прыліп да карнявішча, замёр без руху. Я ўжо збіраўся паклікаць яго — гукнуць, але ўбачыў, як ён асцярожна, адступіўшы пару крокаў назад, даў лататы, цэлячыся ад аднаго да другога тоўстага дрэва.

— Што там страшнае з'еў? Шэршня? — пажартаваў я з задыханага назіральніка.

— Зубрыха з дзіцёнкам!..— шэптам адказаў ён мне.— Не жартуй, бо як бадне, дык ад твайго «Масквіча» застанецца сплюснутая кансерва! Паехалі!

— Не чуваць было яшчэ, каб зубрыха машыны хвастом вываворчвала.

— Але ж яна з дзіцёнкам! Ты што, не ведаеш, што матка зубраняці драпежная, горш за тыгрыцу?!

— Ну то давай пойдзем да нашага дуба ў абыход, зойдзем з другога напрамку.

— Давай, нельга ж з-за нейкай зубрыхі, хай сабе раз'ятранай, адмовіцца ад сустрэчы з дубам Ягайлы.

Валодзя ахалонеў таксама хутка, як і распаліўся прадчуваннем небяспекі. Зрэшты, і зубрыха не паказалася з-за вываратня.

Ля дуба-волата я здымаў госця на памяць. На жаль, здымкі не атрымаліся, у гушчары панаваў паўзмрок, і толькі зрэдку здараліся моманты, калі неба разбіралася і жменька сонечных промняў прабівалася праз сіта голля і лісця.

Быў у нашых вандроўках яшчэ раней адзін небяспечны выпадак. Здарыўся ён у часе першай паездкі па Заходняй Беларусі. Небяспека там была каварная, бо неўсвядомленая: пагроза без страху... Гаварыць пра яе трэба асобна і па парадку.

### «Велікоднае яечка»

Позняй восенню 1962 года я абжыўся машынай, купіў па партызанскай ільгоце, балазе намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама працаваў былы партызан, ён выдзеліў мне аднаго з трох «Масквічоў», атрыманых за нейкія, відаць, земляробскія перавыкананні планаў, бо два астатнія дасталіся старшыням калгасаў. Машына была, як на той час, ніштаватая: камфорту не дужа, але праходная, не сказаць гонкая, але моцная, надзейная. Гэта пра «Масквіч-407» гаварыў неяк Эйзенхаўэр Хрушчову, які хваліўся чыста савецкай маркай новай легкавухі: «Абавязкова куплю сабе такую, як выйду на пенсію...» Савецкая прэса, падлашчваючы свайму лідэру, падала сказанае без іроніі. Зрэшты, чаму б і не? Мне самому тады «Масквіч» падабаўся: просты ў абслугоўванні, непатрабавальны, адно толькі не падыходзіла — чырвоны колер. Дзеці ў двары, як я толькі прыгнаў сваю «цацку» з Мінска, пачалі дражніць мяне «пажарнікам». Як бы змовіўшыся з берасцейскімі падшыванцамі, гэта ж паўтарылі і падшыванцы ў маёй роднай вёсцы. Знайшоўся неўзабаве рацыянальны контраргумент: польскі часопіс падаў еўрапейскую статыстыку, з якой вынікала, што з машынамі чырвонага і белага колеру найменш здараецца аварый. Ага, падумаў я, ёсць і тут, як і ў прыродзе, свая кампенсацыя для рыжых. У душы я адчуваў, што свет складаецца з незаменных прадметаў, а карыснасць не можа адмяніць брыдоты. Чырвоны колер — колер крыві, які эстэтычна не пасаваў да машыны,

у народзе лічыцца сімвалам хараства: «Што чырвана, то і хораша, што салодка — то смачна». Увесь сучасны клопат у манаполіі на гэты колер пажарных вадавозаў ды вогнетушыльнікаў. Дзіўнае, капрызнае права хараства і карысці.

Аўтамабіль я асвоіў за восень і весну, але ж належала яго аб'ездзіць з сябрамі, урачыста, як аб'язджалі, бывала, у вёсках на Юр'я маладых жарэбчыкаў. Вось я і запрапанаваў навесну 1963 года Брылю паездзіць удвух па Слонімшчыне і Наваградчыне. У нас была задума зрабіць альбом Міцкевічавых памятных мясцін, мы ўжо нямала пахадзілі пешкі, паездзілі на веласіпедах, потым на Брылёвай «Волзе», шукаючы рэліктаў, цяпер прыйшоў апошні этап дазбірвання і пераздымання таго, што не ўдалося, і таго, што было добрым, а магло б атрымацца яшчэ лепшым. Фотаздымкі для альбома рабіў я, Брыль падбіраў, накідваў тэкст. Знешне лёгкі занятак мой быў моцна залежны ад абставін, часам і ад выпадковасці. Вазьміце той жа Наваградскі замак, каб выява яго стала падобнай на Міцкевічавы рамантычныя апісанні, трэба было ўлавіць момант, калі на небе з'явяцца «рамантычныя» аблокі і цераз таямнічы заслон выгляне краёчак сонечнага дыска, кране праменнямі хмурае неба і падсвеціць руіны трывожным бляскам.

Мне хацелася, каб у большасці здымкі былі, як і апісанні ў Міцкевіча,— начнымі, таямнічымі. Але ноччу цяжка зрабіць здымак, які надаецца да друку. Чорныя мясціны выдаўцы называюць праваламі і бракуюць выяву. Я навучыўся выкарыстоўваць каляровыя фільтры, адпаведныя насадкі на аб'ектыў. Пры іх дапамозе дзённае святло прыпадабнялася да начнога, ззянне сонца да бляску месяца. Праўда, і пры такіх творчых падманах трэба было шукаць шчаслівых момантаў, калі дзённы краявід надаваўся для рамантычнай трансфармацыі. Нялёгка было злавіць момант, калі ёсць на што накладваць таемны бліхтр.

З Брылём лёгка працавалася, ён быў вельмі тактоўным і талковым саўдзельнікам выяўленчых задум, глядзеў на наваколле вокам і сэрцам паэта, лавіў у прыродзе перадусім «чалавечы» змест, не ўмешваўся ў маю фотакухню. Яго бачанне аб'ектаў не сапернічала з маім, нацэленым на жывапісны зрокавы эфект. У мяне ўражанне ішло ад вока да кадра, а ў яго ад вока — да сэрца, уяўлення. Любуючыся разам нейкім краявідам, мы перажывалі яго красу кожны па-свойму, лавілі іншыя імпульсы, што зыходзілі ад аб'екта, дапаўнялі адзін аднаго. Калі нам абодвум нешта падабалася без спрэчак, значыць, варта было над ім паваражыць з фотакамерай. Мы звыкліся дапаўняць адзін аднаго ў бачанні свету, і нам добра сузіралася ўдвух, добра гаварылася вечарамі пра ўбачанае днём. Цяпер да нас прыходзіў нехта трэці.

Прапанову ўзяць Караткевіча ў падарожжа зрабіў Брыль па тэлефоне. Сказаў коратка, што ён добры хлопец і я застануся задаволены

новым знаёмствам. Што ж, наканоўвалася паводле народнай мудрасці: сябар майго сябра — мой сябар. Я чытаў некалькі падборак вершаў Караткевіча ў перыядычным друку, напісаў нават рэцэнзію на зборнік «Матчына душа», чуў пару хвалебных водгукаў пра яго ад Брыля, які бачыў у маладым паэце буяны талент. Чуў і пра яго выбухны характар, задзірыстасць. Я давяраў Брылёваму «нюху» на цікавых людзей, але ўсё ж пабойваўся, што паэт пачне ўмешвацца ў маё фатаграфаванне, якое хоць і было мастацтвам адкрытым і залежным ад тэхнічных «штучак», але патрабавала такой жа свабоды творчасці, як і паэзія ці жывапіс. Часта гэтага не разумелі людзі, якія не лічылі фатаграфію мастацтвам, фатаграфуючыся, любілі памуштраваць фатографа. Я быў насцярожаны, таму, зрабіўшы ў тэлефоннай размове ўступку Брылю, паклапаціўся знайсці плацдарм аховы сваіх інтарэсаў, у выпадку чаго — пабоку работу над альбомам. Цалкам перакінуся на збор матэрыялаў для аповесці пра Таўлая, дам Караткевічу і Брылю мажлівасць займацца, чым яны толькі захочуць.

І вось мы сустрэліся, як было дамоўлена, перад вакзалам у Баранавічах.

Едучы сюды, я чакаў натрапіць на ганарлівага спрэчніка, разбуральніка асноў, а сустрэў хутчэй тып анёльска-апостальскі, юнака акуратна апранутага, ветліва-ўсмешлівага, што ў пачатку палітычных замаразкаў, рэцыдываў ваяўнічага аскетызму, страху перад абстракцыяй лічылася бунтам інтэлігентшчыны, актам зламыснага самаўхілення ад «лініі». Спадабалася мне раскаванасць і захопленасць, што надавала дынамічнай эксцэнтрычнасці паэта духоўную змястоўнасць, рабіла яго ўвасабленнем дабраякасных кантрастаў і антыномаў. У выглядзе яго былі як бы праз памылку перамешаны мужчынскія рысы з жаночымі: далікатная дзявочая скура, прыпаднятая верхняя, крыху заечая губа, незнаёмыя з брытвай поўныя шчокі, ямка на барадзе, а ў той жа час моцная мужчынская пластыка профілю: буйны крывіцкі нос, прамы і тупаваты, але з рухомымі пялёсткамі ноздраў, шырокі, усмешлівы, ад вуха да вуха, рот і віхрастыя, прамыя, непакорныя, рассыпістыя русыя чысцюткія валасы, якія гаспадар прывык зграбаць з ілба і зухавата закідваць граблямі пальцаў назад. Прыкметай прыкмет на гэтым неардынарным твары былі вочы — вялізныя, даверлівыя, ажно крыху пацешна-лупатыя, як у блізарукага, але абрамленыя густымі веямі і прыцененыя разлётнымі густымі цёмнымі брывамі. Зрэнкі ў яго былі рознага колеру: адна — шэра-блакітная, а другая — зеленавата-шэрая. Сапраўды, у гэтых зменлівых, як надвор'е вясною, вачах свяцілася, выглядвала і глядзела імі на свет цікаўная і няўрымслівая, смелая і даверлівая да свету душа. Як бы сонцам зычлівасці зіхатнула ад яго постаці пры першым прывітанні, рука яго была па-жаночы пульхная, а поціск моцны, гартоўны.

Брыль агледзеў мой чырвоненькі «Масквіч», з ветлівасці пахваліў за надзейнасць, пра якую гаварылі сталічныя ўладальнікі.

Пайшлі абедаць у сталоўку. За абедам Янка запрапанаваў кругавы маршрут: Слонім, Кракотка, Ліда, Масты, Наваградак, Мір, Стоўбцы. Прынялі і вырашылі арганізаваць камуну. Я запрапанаваў на пачатак скінуцца па чырвонцу. Караткевіч зморшчыў лоб і горда кінуў: «Па дваццаць пяць!» Пагадзіліся. Скарбнікам выбралі старэйшага — Брыля. Той дастаў з кішэні блакнот, адгарнуў чыстую старонку, запісаў дату і суму, а ніжэй першы выдатак: «Абед. 3 р. 10 кап.».

Улучыўшы момант, Янка растлумачыў мне, як прыйшла яму думка ўзяць Караткевіча ў спадарожнікі. Хлопец пачаў нарывацца на канфлікты з-за сваёй вострай няўступлівай беларускасці. А ў Мінску ён пакуль што навічок, прызнанне яшчэ не прыйшло, сяброў не нажыў, ворагі ж самі знойдуцца. Зрываецца ў размовах на адкрыты тэкст, а тыя ловяць яго на выбухах. І сігналяць: «Заяўляе, што беларускае на Беларусі ўжо знікла — усё: мова, культура, зараз згіне і народ, і назва».

— Давай,— гаварыў Янка,— пакажам яму нашу заходніцкую беларушчыну. У нас жа тут больш, чым ва ўсходняй, захавалася рэліквій: капліччкі і цэркаўкі, могільнікі і замчышчы, ды і мова, дзякуй Богу, жыве і квітнее не толькі ў вёсках. Паглядзіць хлопец, мо акрыяе душою. Адмоўнае зраўнаважыцца станоўчым — дык і сам пачне аглядацца, перш чым агрызацца. Бо, чаго добрага, нарвецца з гарачкі на ражон і спячэцца хлопец. Давай паездзім разам. Новыя ўражанні, новыя факты і людзі — разрадка настане. І нам будзе цікавей,— закончыў Янка.— У яго ж свой цікавы погляд на ўсё. Цэлы букет поглядаў будзе ў адной кабіне!

Мы з Брылём, абодва грузныя, умасціліся на пярэднім сядзенні, для раўнавагі, а Валодзя, як малодшы і лягчэйшы, сеў на заднім.

Узялі курс на Слонім. Янка прыгадаў пацешную, па тадышніх мерках, канфузлівую сітуацыю, што здарылася ў Мінску, на прыёме зарубежных журналістаў. Выступаў на добрым падпітку амерыканскі радыкал Яша. Гэта быў сын яўрэя з Адэсы. Прымусіў анямець нашых не толькі афіцыйных асоб мацюжнымі эпітэтамі: «Макарці — х... Ільічоў — на х... Каб не было Макарці і Ільічова, мы, амерыканцы, і вы, савецкія,— дружылі б. Макарці травіў майго дзядзьку, славутага артыста, за сімпатыі да вас, да СССР, а Ільічоў травіць Еўтушэнку і іншых за сімпатыі да нас, амерыканцаў, да Захаду. Мой дзядзька, артыст, быў вегетарыянцам, ён не баяўся галадаць. Сышоў са сцэны і жыў сабе забыты людзьмі, а зараз ізноў на сцэне». Самае пацешнае было ў тым, што вопытны перакладчык з ЮНЕСКА перакладаў усё alanatiurel. Прытым спакойненька: «Як сказаў пан Яша, Ільічоў — гэта... вы самі чулі хто...»

Караткевіч згадаў няёмкую сітуацыю, у якую паставіў перакладчыкаў ААН Мікіта Хрушчоў выслоўем: «Мы ім пакажам кузькіну маць». Перакладалі, калькуючы, «la mer de la Cuska», а слухачы нічога не разумелі.

Брыль, стрымліваючы яго, перапыніў: «Глядзі, прыглядайся на свет, а то пішаш пра Беларусь, не пабачыўшы Беларусі». Караткевіч не пакрыўдзіўся. Гэтая некрыўдлівасць вельмі спадабалася мне. «Дружна праўдзём наша падарожжа»,— падумаў я сабе.

Слоніму ў вайну пашанцавала больш, чым якому іншаму беларускаму гораду — застаўся цэлы. А цяпер не агонь і дынаміт, а толькі час, заядлы шашаль гісторыі, нішчыў цэрквы, касцёлы, сінагогі, палацы. Час рабіў справу знішчэння неўпрыцям і спакваля, нібы папярэджваючы людзей і запрашаючы даглядаць тое, што было зроблена продкамі на вякі, лепш шанаваць помнікі мінулага, берагчы памяткі дзён, каб не збяднеў край і не страціў памятлівасці народ. Караткевіч накідваўся вачыма на даўніну, здавалася, гатовы быў на хаду вываліцца з машыны. Слонім прыйшоўся яму даспадобы.

Мы з Брылём мелі ў горадзе даўнія знаёмствы сярод былых мясцовых рэвалюцыянераў-падпольшчыкаў, партызан і краязнаўцаў. Зараз, уладкаваўшыся ў гасцініцы, пайшлі да Мікалая Бурсевіча.

Мікалай Васільевіч быў адным з прадстаўнікоў рэвалюцыйнай эліты на Слонімшчыне, зямляк і сябар школьных гадоў паэта Валянціна Таўлая, таварыш і наступнік Сяргея Багданчука, важака падпольнага камсамола Брэстчыны, забітага паліцыяй ля Радваніч у 1932 годзе. Разам з украінскім паэтам Аляксандрам Гаўрылюком, які ўзначальваў Дамачоўскі падпольны райком КПЗБ, Бурсевіч рыхтаваў масавыя выступленні сялян Ляплёўкі, што выліліся ў Кобрынскае паўстанне. Ноччу ля Славатыч, на мосце цераз Буг, ён напароўся на паліцэйскі патруль, быў паранены, злоўлены і асуджаны на доўгія гады турмы. У віленскім падполлі ён быў знаёмы з Максімам Танкам, у партызанах разам з Анатолем Іверсам працаваў у рэдакцыі падпольнай раённай газеты, пасля вызвалення Слонімшчыны загадваў у раёнцы аддзелам.

Як бачна, Бурсевічу пашанцавала супрацоўнічаць і сябраваць з некалькімі рэвалюцыйнымі паэтамі, а ўрэшце, і самому стаць журналістам, набрацца яшчэ большай павагі да мастакоў слова.

Бурсевіч сустрэў нас з адкрытымі абдымкамі, пазнаёміў з жонкай, таксама ўдзельніцай партызанскага руху. Гаспадыня запрасіла нас на вячэру: дала мужу даручэнне зрабіць нейкія закупкі, і мы вызваліся ў памочнікі да яго, пахадзілі разам па вячэрнім Слоніме. Узнікла, памятаю, гаворка, чаму гэта ў былой Заходняй гарады больш зялёныя і лепш дагледжаныя, чым ва ўсходніх абласцях. Караткевіч даў песімістычны адказ: «Таму што нас, усходнікаў, дзесяткі гадоў адвучвалі ад працы, прывучалі да голаду і калгасаў...» Бурсевіча аж перасмыкнула ад такой заявы, а Янка штурхануў Валодзю пад бок, прызываючы да правіл этыкету. Але той агрызнуўся: «А хіба не праўда?»

Праўда, бясспрэчна, была тут парушэннем этыкету. Апраўдвала Валодзю тое, што ён як усходнік рэзаў праўду супраць сябе.

За сталом у Бурсевічаў прыгадалі Іверса і пачалі скрушліва гаварыць пра няўдзячны лёс, які абрынуўся на яго. Упаўнаважаны ЦК КПБ на Слонімшчыне, нехта Анішчык, блаславіў яго на работу ў слонімскі магістрат, каб увайшоў у давер ды інфармаваў партызан аб намерах акупантаў. Той сумленна выконваў небяспечныя даручэнні. Улады, пранюхаўшы пра яго сувязь з партызанамі, захапілі і расстралялі жонку сувязнога. Сам Іверс цудам збег з горада ў лес. Цяпер жа, пасля вайны, яму замест падзякі адмовілі ў даверы, выжылі з газеты, пасадзілі паэта на падсочку. Бурсевіч напісаў пісьмо ў высокія інстанцыі, дамагаючыся справядлівасці для Анатоля Іверса. На той час заступніцтва было смелым крокам. І асцярожлівая жонка пры нас пачала ўшчуваць Мікалая Васільевіча: «Чаму менавіта ты павінен абараняць Іверса, а не Анішчык? Чаму ж ён ніколі не сказаў хоць бы слова ў падтрымку, не кажу — у абарону?» Мы ўсе занялі бок гаспадара, але гаспадыня яшчэ больш раз'ятрылася і пачала ўпікаць мужа, што той не па чыну бярэ на сябе, бо пазней за яе прыйшоў у партызаны. Атрымалася няёмкая сітуацыя.

Янка пачаў разраджаць канфлікт, сказаў, маючы на ўвазе Анішчыка, што і партыйныя функцыянеры, бывае, выкарыстоўваюць аўтарытэт партыі ці партыйную дысцыпліну для асабістай выгады, для кар'еры. Такім кіраўнікам выгадна дысцыпліна, калі на белую столь ён скажа, што яна чорная, дык ва ўсіх павінна пацямнець у вачах, і яны пацвердзяць, што столь чорная. Не прызналі такога тлумачэння не толькі гаспадыня, але і гаспадар. Мы засталіся персонамі небяспечна незалежнымі ад святых догмаў. Гаспадар ажно ўстаў з-за стала і, жэстыкулюючы, даводзіў, што партыйная дысцыпліна — вялікая сіла. Усё гэта сумна дэманстравала нешта адваротнае: страх — не сіла, а слабасць, дысцыпліна пад страхам — не дысцыпліна, а глумленне і няволя. Караткевіч завёўся: «Партыец — механізм, «артикулом предусмотренный...» Янка наступіў яму на нагу, але той усё ж назваў цара Паўла, аўтара перафразаванага выслоўя.

Жадаючы жыццёвымі фактамі давесці, якой панурай і шкоднай аказваецца на Захадзе для нас дагматычная артадоксія, Брыль прыгадаў размову з прагрэсіўным эмігрантам Акуловічам, які паходзіў са Слонімшчыны і жыў у Канадзе. Брыль сустрэў яго ў Таронта на мітынгу міру: «Ну што ў вас за агітатары там? — дзівіўся канадскі беларус.— Завялі дурную песню і цягнуць на ўсе галасы: капіталізм грабіць рабочых, нясе голад і галечу працоўным масам і г. д. У нас тут антысаветчыкі рады, рукі паціраюць, дзякаваць гатовы за лухту: «Во, чытайце самі, людзі, і глядзіце, як ілжэ савецкая прапаганда!» А хіба не? Вунь колькі легкавых машын з'ехалася на гэта свята. Не злічыць, як авец на пашы. Дык што гэта — буржуі, абдзіралы прымчаліся на сустрэчу з савецкімі абаронцамі міру? Рабочыя, браце, такія ж, як я. І потым вы ж злуеце, чаму не папулярны Саветы на Захадзе».

Мікалай Васільевіч і тут пачаў пярэчыць, атрымалася, што той хоча, каб госць не верыў сваім вушам і вачам. «Аўтамабілямі нас не здзівіш!» Брыль адчуў сябе задзетым недаверам і паставіў пытанне рубам: «Ты што — ад мяне хочаш бараніць савецкую ўладу?» Я памкнуўся злагоджваць спрэчку. Добра, што Бурсевіч па натуры быў памяркоўным чалавекам — беларускі рахманы тып, а незгаворлівым рабіла яго сістэма адносін, жыццё, што прымушала хадзіць па струнцы з самым паскудным страхам за пазухай — часамі перад сваімі адзінадумцамі. Янка, нібы для разрадкі, прачытаў з дарожнага блакнота прыказку, запісаную нядаўна на Полаччыне: «Конь худы — едзь хоць куды, стаўляй абы-дзе — ніхто не звядзе!» Гэта намёк на аўтамабілефобію. І яшчэ адну — пра фатальную звычку асцярогі: «Ох, гэты хлопец у крапіву не ўлезе». Прыказкі ўсе пахвалілі, быццам яны не датычылі нікога з нас. Разыходзіліся мірна.

Гаспадары праводзілі нас да гасцініцы. На дварэ Валодзя ў парыве ветлівасці памкнуўся накінуць свой пінжачок на плечы гаспадыні (было зябка), тая пачала адбівацца, наклёўваўся інцыдэнт ветлівасці. Янка прыпыніў пэнд рэплікай: «Ну вось, пачынаецца сеанс у іспанскім стылі. Перастань!» Пасля развітання, перад уваходам у гасцініцу, Брыль даў лёгкую прачоску Валодзю. Гаварыў, што той прэтэндуе на свецкую выхаванасць, а сам бескантрольна балбоча пры першым знаёмстве з людзьмі. «Ты што, не бачыш, што гэта фанатыкі ідэі? Скажуць яму — грызі гэты слуп (Брыль паказаў на тэлеграфны слуп з запыленай лямпачкай) — будзе грызці. Але, браце, няхай настане час, што трэба аддаць жыццё за радзіму, за сацыялізм — ён аддасць. Вось у чым справа. Я чым больш жыву, тым больш пачынаю любіць людзей з іх недахопамі, дакладней — нягледзячы на недахопы. Вось, скажам, Максім Танк, ён бывае і дыпламатам, перастрахоўваецца, а часам і зрываецца, але які ж магутны паэт, чалавек! З ім можна аб усім чыста гаварыць, усё разумее. Пры ім можна і паныць, паскардзіцца на жыццё, і парагатаць з ім можна ад душы».

У гасцініцы, перад сном, зайшла гаворка пра Брылёў раман, тэкст якога ён дапрацоўваў. «Я дапісаў 80 старонак, ад чаго раман стаў карацейшы на 30. Пабудаваў па прынцыпе шашлыка: нанізваў на верцел уперамежку сюжэтныя раздзелы з навеламі, у якіх раскрываецца лінія адносін героя з партызанскаю машыністкай. Канчаецца раман тою навелкай, якою пачынаўся: герой, у партызанах, на кані ад'язджае на заданне, а машыністка праз акенца зямлянкі глядзіць на яго. І той адчувае, што на яго глядзяць закаханыя чыесьці вочы».

Янка рыхтаваў ужо тэкст для перакладу на рускую мову для больш далёкага чытача, які менш ведае заходнебеларускія праблемы, таму лічыў патрэбным перапісваць твор і заадно вярнуць некаторыя, знятыя цэнзураю мясціны. «Невядома,— гаварыў ён заклапочана,— што

скажа на чакаемым пленуме Ільічоў. Мо так зацісне, што і не дыхнеш. Але верагодна, што пачне збаўляць тон. Бо, аказваецца, ЦК Кампартыі Польшчы, Югаславіі, Францыі, Італіі прыслалі ў ЦК КПСС свае пярэчанні ці нават пратэсты супраць той свістапляскі вакол мадэрнізму і абстракцыянізму, якая ў нас шуміць і гудзе без супынку. Аказваецца, замежны часопіс, у якім была надрукавана аўтабіяграфія Еўтушэнкі ў Францыі,— прагрэсіўны. Выдаецца ён на сродкі Пікасо. Дык той абурыўся ды сказаў: «Калі справу, якую так цяжка было наладзіць,— губяць, дык хай робяць цяпер самі».

Моцна даймала Брыля і праблема якасці перакладу, не было сярод добрых перакладчыкаў незанятага. Арсенія Астроўскага перахапіў Шамякін. Брыль стаў падумоўваць услых, ці не зрабіць пераклад самому. Караткевіч падхапіў ідэю самаперакладу.

— Канешне, сам перакладай. А наконт стылю, то мне даў бы пачытаць...

Зноў Валодзя закрануў незнарок старэйшага сябра за жывое.

— Ідзі ты ведаеш куды... Я не горш за цябе рускую мову ведаю. Знайшоўся мне стыліст... Трэба ўсё ж мець пачуццё рэальнасці і меру ведаць...— сышоў Янка на прымірэнчы тон.

Караткевіч соладка замурлыкаў пад гэтае прымірэнне, заснуў. І мы ўдвух прадаўжалі гаворку пра літаратуру і пра планы на заўтрашні дзень. Было ўжо дзве гадзіны ночы, пастанавілі ўстаць а восьмай гадзіне, паснедаць і адразу пачаць агляд слонімскага музея. Там абяцала сустрэць нас зямлячка, Надзея Дабрыян, жонка Івана Дабрыяна, слонімца, якога сустрэла яна ў падполлі на Наваградчыне. Пасля Бурсевіч абяцаў правесці нас па мясцінах Валянціна Таўлая. Пакінем Бурсевіча ў родзічаў, а самі застанемся ўтрох і дагодзім просьбе Караткевіча, заглянем у Зэльву да Ларысы Геніюш, якую Валодзя выдаваў за далёкую сваячку.

Усталі, як дамовіліся, перакусілі і ў дзевяць разам-гужам наведалі краязнаўчы музей. Аказалася, слонімцы добра папрацавалі над экспазіцыяй, пазнаходзілі і выставілі шмат новых унікальных экспанатаў, асабліва рэліквій часу вызваленчай барацьбы. Дастойна прадоўжылі землякі справу заснавальніка музея, адукаванага фальваркоўца Стаброўскага, які, вярнуўшыся інвалідам з Першай сусветнай вайны, улажыў увесь свой маёнтак і пенсію царскага палкоўніка, каб зберагчы памяць і душу роднага краю, які так пацярпеў ад ваенных катаклізмаў. Перад годнасцю культурнага дзеяча спасавалі нават акупацыйныя фюрэры, не хацелі задзірацца з ахвярнікам, дазволілі зберагаць (праўда, у апячатаных шафах) нават кнігі класікаў марксізму, а не то што прылады сялянскай працы і прадметы побыту ды розныя цуды-юды накшталт чучала цяляці з дзвюма галовамі. Наша правадніца, Надзея Дабрыян (дзявочае прозвішча Пратасевіч), вядомая на Наваградчыне ў 30-я гады камсамол-

ка, падпольшчыца. Тады яна пісала палітычныя вершы для нелегальнай газеты «На акупанта», пасля вайны перадала слонімскаму музею калекцыю партызанскіх насценгазет, у выданні якіх удзельнічала сама, дапамагаючы мужу — камісару атрада весці палітыка-выхаваўчую работу. Калекцыя хораша прадоўжыла традыцыі даваеннай піянерскай ды камсамольскай прэсы Слонімшчыны.

Караткевіча зацікавілі не так падпольныя друкаваныя выданні, як галава язычніцкага ідала, высечаная, можа, яшчэ крэмніевымі зубіламі з чорнага гранітнага глыжа. Галава невялікая, крыху меншая за натуральную чалавечую, а выраз твару бога быў зусім невыразны. Як я ні стараўся сфатаграфаваць «балвана», каб выйшла нешта пластычна-чытэльнае,— нічога не атрымалася. Галава нагадвала фрагмент манументальнага малюнка «Твар нашага веку» Сікейраса, дзе нейкі гамункул як бы трымае ў сваіх далонях з бязрадна растапыранымі пальцамі бязвокую, бязносую і бязротую балванку ўласнай галавы. Валодзю крануў гэты экспанат недамоўленасцю, гэта быў генератар, ад якога намагнічвалася гатовая выбухнуць іскрамі асацыяцый Караткевічава гістарыязафічная фантазія. Само ўсведамленне абсягу часу, далечы гадоў, якую ўвасабляў гэты, месцамі толькі абабіты, а месцамі падшліфаваны, глыж, будзіла ўяўленне, ставіла пытанні: навошта мучыўся продак, высякаючы такую ўмоўную выяву? Няўжо для таго, каб сцвердзіць перавагу безаблічнага чалавека над усімі жывымі істотамі? Няўжо хацеў даць яму выключнае права на панаванне ў прыродзе? Душа Караткевіча не зносіла ўціску і падпарадкавання. Залежнасць была для яго суцэльнаю пакутай. Я запамятаў трагічна зашчымленую цягу да волі, якой дыхаў яго першы апублікаваны верш «Машэка». Паэтператварыў там рахманага волата ў разбойніка, выраджэнца, паказваў яго змагаром і ахвярай уласнай помслівай волі, забойцам уласнай душы, а ўсё-такі вольным нелюдзем з прагай справядлівасці ў крыві.

> Я стаю, як корч, ў воўчай скуры ўвесь,
> Зліўся з дрэвамі і гляджу на шлях,
> Цёмны я увесь, цёмны голы лес,
> Толькі два агні свецяцца ў вачах.



Псіхалогія гуманістычнай дапытлівасці, успрыманне даўніны як вытоку духу, пакутнай прагі тварыць свет чалавечы лепшым за цёмны свет прыроды была блізкай Караткевічу. Яна дала настрой, сэнс і мэту такім яго раннім творам, як «Сырцовыя цагліны», «Размова з Кіева-Пячэрскім сланом», а яшчэ праграмней азвалася ў вершы, прысвечаным выдатнаму ўкраінскаму гісторыку літаратуры А. І. Бялецкаму, які быў любімым настаўнікам універсітэцкіх гадоў Караткевіча. Яму перадаў састарэлы прафесар сваю гістарычную бібліятэку, як запавет ці амулет місіянера. Гаворачы ў думках з настаўнікам, паэт пацвярджае і развівае яго ўяўлен-

не, што сапраўдная гісторыя — гэта дзейнасць стваральная, усёабдымная творчасць. Памяць пра цярністыя шляхі творчай дзейнасці чалавека — залатое сячэнне гісторыі.

О, як трэба шукаць на шляхах чалавека,
Як любіць, берагчы, не крыўдзіць яго,
Каб пабачыць славу наступнага века
Ў сэрцы сціплага сына суседа свайго!

З гісторыяй новай, заходнебеларускай, Караткевіч знаёміўся ў Рудаўцы, Кракотцы, дзе сябры, землякі і паплечнікі Валянціна Таўлая ўспаміналі маладыя гады, змаганне за беларускую школу, будаўніцтва грамадскім спосабам народнага дома, бібліятэкі-чытальні. Вадзілі нас на паляну ў лесе, дзе адбываліся нелегальныя першамайскія мітынгі. Тут гісторыя нацыянальна-вызваленчай барацьбы заходнебеларускага насельніцтва жыла не ў выглядзе транспарантаў, лістовак і газет, як у слонімскім музеі, тут яна жыла яшчэ ў памяці землякоў, у сказах і паданнях пра неардынарныя чалавечыя лёсы. Паэт убачыў персаніфікаваную ідэю адраджэння беларусаў, ахопленых ідэаламі сацыялізму, свабоды, справядлівасці, пачуў расказы пра рупнасць і любоў да роднай мовы, пра абарону нацыянальнай і чалавечай годнасці, права «людзьмі звацца», уз'яднацца ў адзінай сям'і з усходнімі братамі. Усё гэта прыгадвалі простыя людзі, удзельнікі падзей, расказвалі маляўніча-пявучаю слонімскаю гаворкай. Прыходзіла на думку Міцкевічава ідэя, што наймацней узрушаюць сэрцы моладзі і выхоўваюць патрыятызм расказы дзядоў, бацькоў, землякоў пра тыя гістарычныя падзеі, у якіх ім давялося ўдзельнічаць.

Нягледзячы на знешнюю дынамічнасць і кампанейскасць, Караткевіч у душы быў задумлівым і летуценным сузіральнікам, не зносіў дурной таўкатні, вэрхалу і тлуму, не прызнаваў прыярытэту спраў над духоўнымі вартасцямі, не любіў выступаць на афіцыйных сходах, удзельнічаць у кіраўнічых цырымоніях, лічыў усё такое насланнём, замахам на свабоду душы, на святое права жыць па-свойму — зрываўся. Меў ён зуб на голых практыкаў, бо сустракаў сярод іх шмат заядлых антыгуманітарнікаў, прагматычных трыбухачоў, хітруноў, гарлахватаў, муціцеляў чыстых крыніц духоўнага жыцця народа.



Мне ўдалося тады, у Кракотцы, Рудаўцы і іншых вёсках, ідучы па слядах Таўлая, спісаць цэлыя два блакноты. Караткевіч, зразумела, слухаў не ўсе расказы людзей, якія цікавілі мяне. Ён нярэдка адыходзіў убок з Брылём ці адзін, ласаваўся суніцамі на гістарычнай паляне або разглядаў экзатычныя старыя хаціны, незвычайныя дрэвы, кветкі ў гародчыках, гутарыў з дзецьмі і старымі пра тое, што цікавіла яго. Але не падганяў мяне: усе людзі, што жылі ў адной з гарачых зон заходнебеларускага вызваленчага руху, лёсы гэтых людзей, гісторыя рэгіёна,— усё было яму новым, нечаканым і па-свойму цікавым.

У Кракотцы мы развіталіся з Мікалаем Бурсевічам, які здорава дапамог нам, забяспечыў сваім аўтарытэтам рэвалюцыянера і партызана давер да нас тутэйшых людзей. Адвячоркам мы выехалі ў кірунку Зэльвы. Быў прахалодны пасля дажджоў, ветраны дзень. На старым шляху, абсаджаным яшчэ пры царах бярозамі, я схапіў рамантычны кадр, які трывожным настроем пераклікаўся з вядомаю карцінай Фердынанда Рушчыца, прысвечанай бежанцам 1914 года. Здымак трапіў у альбом, прысвечаны А. Міцкевічу, «Між тых палёў», Я. Брыль назваў яго «Дарогі Наваградчыны».

У сям'і Геніюшаў нам заімпанавала духоўная ўзнёсласць Ларысы Антонаўны, яе адчайная смеласць жыць самотна, наводшыбе, не баючыся заблудзіцца ў бязмежжы паэтычнай галактыкі. Незалежнасць, асабістая пазіцыя для кожнага з нас былі не толькі штодзённым клопатам, але і сэнсам жыцця. Змаганне за права на сваю думку забірала ў кожнага з нас процьму сіл, кідала ў пот і ў холад, зганяла сон з вачэй, смылела і шчымела ў душах. Зэльвенскай пустэльніцы было як быццам лягчэй, бо яна мела ўжо за плячыма тое, што магло чакаць кожнага. Прайшла сваю Галгофу і стала зайздросна вольнай, як вечны камікадзэ. Знаёмства абавязвала мяне як крытыка стаць яе памочнікам у канфліктах з рэаліямі жыцця, якое яе пакрыўдзіла і якое я абараняў. Кіруючыся вінаватасцю і пачуццём абавязку, я запрасіў Ларысу Антонаўну наведацца ў Брэст. Прызнацца, я не дужа спадзяваўся тады, што яна скарыстае запрашэнне, што павязу яе ў Брэсцкую крэпасць і, вяртаючыся назад, пачую: «Усё гэта ўражвае, але яно не наша...» Не мог прадбачыць, што выбухне мая партызанская гордасць, што між намі дойдзе да кароткага ідэалагічнага замыкання. На шчасце, Ларыса Антонаўна не пакрыўдзіцца і ў знак даверу прывядзе свайго абруселага племяша і папросіць, каб я яго беларусізаваў. Не ўяўляў сабе, што згаджуся дзеля святой згоды, хоць буду разумець, што не стае гэтаму плану дробязі — сустрэчнай ахвоты самога выхаванца. Дарэчы, Караткевіч пазней на мае роспыты пра знікшага кудысьці родзіча паэткі, а магчыма, і ягонага, будзе паціскаць плячыма, звальняючы гэтым мяне ад даручэння здзейсніць педагагічны цуд. Як усё ж блізка і пацешна ляжаць у душах паэтаў праніклівасць з наіўнасцю, задзірыстасць з памяркоўнасцю,— будзе думацца мне.

Позняй ноччу пакінулі мы гасцінны дом Геніюшаў. Нас, падарожных, перапаўнялі ўражанні таго клапотнага дня. У гасцініцы, расслабленыя, ледзь дакрануліся да падушак і заснулі як пшаніцу прадаўшы. Была гэта адна з тых начэй, калі рана ўстаеш бадзёрым, з адчуваннем шчасця.

Не дбаў і не думаў я раніцай пра чарговы капрыз «Масквіча», што сапраўды, як малады жарэбчык, кожны дзень паказваў мне свае норавы. Нехта, выпускаючы яго з завода, не іначай як не тройчы адпляваў. Пра гэта падумаецца пад абед.

Увогуле, з першага дня ўладання пачаліся мае з ім турботы. Як толькі прыгнаў з Мінска і паставіў у двары, каб перакусіць і загнаць у інстытуцкі гараж, то і аказалася, што двор пусты, мой транспарт знік, шукаў, пакуль наткнуўся ў завулку. Зразумеў, што забыўся паставіць на ручны тормаз і жэўжыкі закацілі вялікую цацку ў тупічок, як робяць з гаспадарскімі вазамі на Купалле. Пасля таго я зацягваў «ручнік», нават ставячы машыну ў гараж. Але раз перабраў меру. Позна ноччу, спяшаючыся, забеглі мы з заядлым курцом і выдатным наваградскім краязнаўцам Міхаілам Петрыкевічам у рэстаран захапіць цыгарэт, бо абкурыліся за дзень. Зацягнуўшыся, я забыў зняць машыну з ручнога тормаза і гнаў ад Наваградка да Валяўкі, пакуль у салоне не запахла гарэлай гумай: ляпнула ўся тармазная сістэма. Пасля тае прыгоды я стаў змагацца са сваёю рассеянасцю, паспрабаваў лічыць ручны тормаз непатрэбнаю прыдумкай канструктараў, ад якой гаспадару больш лішняга клопату, чым карысці, а машыне — адна порча.

Заехаўшы неяк у Гродна да Карпюка, пакінуў машыну незатармажанай. Вечарам выйшлі з Аляксеем прайсціся па горадзе. Бачым — знікла мая машына. Кінуліся шукаць — абшнырылі некалькі кварталаў, нарэшце наткнуліся на яе ля глыбокага абрыву, пад якім цурчэў ручай, прыток Нёмана. Пад шчоткай шклоачышчальніка тырчала паперка з надпісам: «Паря! Не зевай. Следующий раз скинем в пропасть».

Пасля падобных папярэджанняў наступнага разу не бывае. Але «Масквіч» мой заставаўся наравістай казой. У часе паездкі па Прыбалтыцы я неяк палез пад яго з гаечным ключом праверыць тармазны дыск і не падстрахаваўся. Машына стала каціцца на мяне. З цяжкасцю ўтрымліваючы яе, я крыкнуў жонцы: «Падлажы што-небудзь пад кола!» Тая падлажыла часопіс і вызвала гамерычны рогат Вялюгіна, Брыля і балгарскага літаратуразнаўцы Юркі Вылчава, якія прыбеглі ратаваць вадзіцеля ад саманаезду. Вялюгін з Брылём тады нават эпіграму склалі, чамусьці па-руску, пад Крылова і Пушкіна:

Из дальних странствий возвратясь,
Побыв на Неринге и в Купе,
О, Володимир, Брестский князь,
Ты начертай себе на д..е
Совет внимательных друзей:
Чем больше технику мы любим,
Тем меньше нравимся мы ей.



Так небяспека і гумар сяброў вучылі культурна абыходзіцца з тэхнікай. Самы небяспечны з урокаў маёй шафёрскай практыкі здарыўся на шляху з Зэльвы на Свіцязь. Небяспеку я змог усвядоміць пазней, калі менш любіў свайго «Масквіча», затое добра, не паводле пашпарта, а на справе, спазнаў, што гэта цацка важыць тону з гакам, а вагу трэба паважаць.

Перад абедам падкацілі мы да Нёмана, выехалі на абалонне, рэчкі яшчэ не было відаць, але яна адчувалася: шырокая, атуленая масівам дубовых гаёў уздоўж адхоннага лугавога берага.

— Усё. Спынімся над кручай Нёмана і паабедаем,— апавясціў Валодзя.

Абед уяўляўся яму не як падмацунак, а як рытуал паяднання з Нёманам.

— Звернем, братцы, вунь туды, у самы пук дубровы, і ўчынім трапезу на язычніцкі лад. Прычашчэнне да Нёмана. Ну, вярні руля, вадзій!

Я прыпыніў машыну: сапраўды — ідэя! Ад'ехаць ад тракту на пару кіламетраў па абалонні, схавацца за расахатымі дубамі, разлегчыся на крутым беразе, на чабаровым мурагу ды палюбавацца, як плыве ён, бацька-Нёман, як цячэ тут, у нізоўях, на поўную сваю сілу...

Янка падтрымаў Валодзеву ідэю.

Я крутануў рулём, газануў, і машына лёгка пакацілася па тупкай лугавой дарозе. Мы ад'ехалі з кіламетр, і заставалася ўжо толькі збочыць улева, пад'ехаць да ракі і спыніцца, як дарогу перасекла доўгая латачынка, колішняя Нёманава старыца. Я заўважыў глыбокія каляіны ў чорным іле, але абапал іх зелянела шаўковая лагчына. Агульнае жаданне выскачыць да Нёмана прытупіла маю асцярогу, пусціў «Масквіч» каціцца па мяккай зялёненькай посцілцы, пакідаючы між калёс чорныя сляды падвод, якія разлаташылі лугавую дарогу. Паехалі мы, пакаціліся, пакуль не сеў наш «Масквіч» на пузе. Сеў грунтоўна. Калі я паддаваў газу, дык толькі балота свістала з-пад задніх скатаў.

У нас ужо быў сякі-такі вопыт выпіхваць угразлую машыну з балота. За Слонімам учора мы ўгразлі на глiністай дарозе ў вялікай дажджавой лужыне. Але сілы там было болей: з намі быў Мікалай Бурсевіч. Трое мужчын разуліся, забрылі ў лужыну ды рыўком так папхнулі, што яна выскачыла, як корак з бутэлькі. Не сядзела яна там так глыбока ў муле, як тут, над Нёманам, ды не ставала плечука Бурсевіча, а машыне тупкага грунту, як на дне лужыны. Паспрабавалі Караткевіч з Брылём выштурхваць, але з-пад задніх колаў толькі пырснулі на іх два фантаны чорнага мулу. Папіхачы адскочылі ўбок, не ведаючы, як даступіцца да капрызнага «Масквіча». Паспрабавалі выцягваць за ручкі дзвярэй, стоячы абапал кузава, але гэты спосаб не дзейнічаў.

Доўга апісваць, як мы вымошчвалі грэблю, як дамкрацілі, як я бесталкова газаваў, аж вада ў радыятары закіпела, ды не ў гэтым справа, не сапёрныя прыёмы аказаліся кульмінацыйным момантам прыгоды. Самым напружаным і небяспечным стаў эпілог. Выехаў я з балота задні́м ходам і стаў упоперак каляін, якія пралажыў, з'язджаючы з груда ў лагчыну. Цяпер належала падняцца на груд. Накіроўваючы машыну наўскасяк адхону, каб не было так строма, я пачаў падымацца, рухацца па касагоры. Адхон аказаўся, аднак, небяспечна круты, і я ўспомніў, як,

бывала, паступаў мой бацька, калі вазіў сена цераз прынямонскія раўкі, лужыны і брады. Ён аддаваў мне лейцы, паказваў, куды накіроўваць каня, а сам, падкасаўшыся, падыходзіў да воза, убіваў у бок сахор і трымаў воз, страхаваў. У асобных выпадках бацька падлазіў пад край воза і браў увесь яго цяжар на спіну, ішоў гезам па касагоры, пакуль конь не выцягваў на роўнае. Нібы кадры кінафільма, праплылі ў мяне перад унутраным зрокам памятныя з дзіцячых гадоў вострыя сцэнкі сенавання, і я, доўга не думаючы, сказаў Брылю, які і сам хіба некалі ўжываў падобныя прыёмы, возячы сена ці снапы:

— Янка, падтрымайце разам з Валодзем...

Яны падышлі і ўперліся рукамі ў кузаў паверх акон, а я ўключыў першую хуткасць ды прадоўжыў выезд па схіле. Перад самым чубам груда касагор стаў такім крутым, што левыя колы пачалі адрывацца ад зямлі, мяне кінула ў пот, але я ведаў цвёрда, што ў небяспечныя моманты самая страшная рэч — паніка: «Да д'ябла, трэба адкідаць усякія сумненні і думкі пра небяспеку,— сказаў я сабе па партызанскай звычцы.— Айда наперад!» І не перастаў падрульваць улева. Вось левае кола ўжо датыкнулася чубка грудавое травы. Пранесла!

— Ага, пакацілася велікоднае яечка! — пераможна гукнуў, падымаючы, як алімпіец на подыуме, рукі ўгору, Валодзя.

Так Караткевіч стаў хросным бацькам майго чырвонага «Масквіча», адною метафарай зняў з яго бірку-мянушку пажарнай машыны. Вось што значыць паэтычнае бачанне. Яно не фіксуе, а дае найменні рэчам, працэсам, адносінам — прызнае ці абрыджвае. Паэзія робіць рэчаіснасць не толькі двойчы існуючай, а суаднесенай з чалавекам, гуманістычна прасветленай і ацэненай па шкале каштоўнасцей, выпрацаванай цывілізацыяй.

Паехалі да Нёмана паўз латачыну, памыліся, паабедалі на адкрытым месцы, але без ідылічных настрояў: страцілі шмат часу, а дарога была далёкая — ажно пад Ліду, у вёскі, ад якіх Янка Брыль быў нядаўна абраны дэпутатам. Край там аказаўся цікавы кантрастамі: поруч са старадаўняй, абсаджанай магутнымі дубамі мураванай з валуноў царквы ў Бабраўцах — курная хаціна каля Мажэйкава на хутары. І слабаватыя калгасы, да якіх ніяк не магла прывыкнуць частка людзей, гналі, як і ў часы акупацыі, самагонку па кустах ды неяк перабіваліся з хлеба на квас. Брыль гарэў жаданнем паправіць маральны клімат у акрузе, шукаў спосабаў, як дастаць дэфіцытную тэхніку калгасам, думаў, як наладзіць мастацкую самадзейнасць, прыцягнуць людзей у хаты-чытальні, бібліятэкі. Я чуў у Мінску ад яго шмат расказаў пра той этнічна стракаты куток, дзе частка каталіцкага насельніцтва ў знак непрымання калгасаў аб'яўляла сябе палякамі, мела інфармацыю ад родзічаў, якія выехалі ў Польшчу, што пры жаданні можна заблакіраваць калгасы. Увогуле людзі трапілі-такі пад моцны ідэалагічны ўплыў польскамоўных рэдакцый, сродкаў масавай інфармацыі

Захаду, якія вялі халодную вайну. Тое, што мы ўбачылі, пераўзыходзіла ўяўленне. Насам-перш кантрасты: выцацканыя дамкі з пафарбаванымі охрай ды бялілaмі зухаватымі верандачкамі і раптам — курныя хаціны. Калгас пабудаваў адной даярцы, якая жыла са старою маці, нармальную хату, дык не мог перасяліць: маці і дачка не хацелі перасяляцца, прывыклі і не звярталі нават увагі, што дзецюкі цураліся курніцы. Успамінаючы брата, што жыў у Ленінградзе, яна хацела, ды не магла кінуць наседжанага гнязда — жыла. Караткевіч разы два абабег навокал хаты, бязвокай праявы, карцела зазірнуць і ўсярэдзіну. Але кудою? На фоне парослай дзікім плюшчом па самы вільчык страхі ён папрасіў сфатаграфаваць яго. Здымак той змешчаны, здаецца, у 5-м томе ягонага васьмітомніка, як адна з пікантных прыгод аўтара «Дзікага палявання караля Стаха».

З Брылёвымі выбаршчыкамі на той раз не сустракаліся, і сам дэпутат абмежаваўся некалькімі гутаркамі. Ён заўважыў, што некаторыя выбаршчыкі прымалі яго за цудатворцу, які павінен усё магчы, і патрабавалі немагчымага. Хадайніцтвы — няўдзячны абавязак дэпутата. Многія вяскоўцы лічылі калгас ярмом для сябе, ды яшчэ дубовым, гадалі, калі яно такі трэсне. А пакуль не трэснула, гналі ўпотай самагоніцу ды збывалі ажно ў Ліду ці Гродна. Як памятку больш статэчных дзён агледзелі мы царкву ў Бабраўцах, змураваную з кола тых валуноў, абсаджаную старавечнымі дубамі, быццам язычніцкі храм у гонар Ярылы і ўсіх чарадзейных і дужых рэчаў, магутных стыхій і істот.

На схіле дня мы з прыемнасцю рванулі ў кірунку Свіцязі, у гасцінны дом ляснічага Сацэвіча, паспелі яшчэ да захаду сонца выплысці на лодцы з вудамі, але возера было ціхім, празрыстым, рыба баялася нашых ценяў, уцякала жыраваць у густыя водарасці, адцэджваць праз жабры планктон.

Свіцязь была яшчэ тады сабою — не нагружана рэстаранам, пансіянатам, не засмечаная кампаніямі аматараў выпіць на прыродзе. Было ў возера яшчэ шмат той рамантычнасці, якая вылівалася ў радкі Міцкевіча: «Gwiazdy nad tobą i gwiazdy pod tobą, i dwa obaczysz ksieżyce».

Мы з Янкам дражнілі Валодзю ўспамінамі пра леташнія дабычлівыя рыбалкі. Бывала, у кампаніі на світанках ганялі пазычаную ў ляснічага лодку цераз чароты і, знаходзячы невялікія вокны, кілзалі дзябёлых гарбылёў наўздзіў гаспадыні. Свіцязянскі акунь адмысловы, нідзе такога не знойдзеш: луска далікатная, нібы ў плоткі, такога не цяжка чысціць. Гэтым адвячоркам нам не шанцавала, давялося задавольіцца здымкамі, на якіх Караткевіч, крыху пазіруючы, паказваў рыбацкі азарт. Страціўшы ўрэшце надзею на ўлоў, Валодзя пачаў пераводзіць гаворку на паэзію, мы па памяці дэкламавалі свіцязянскія балады Міцкевіча, пераносіліся ў XIX стагоддзе. Здаецца, тады, над Свіцяззю, Караткевіч запяяў беларускую песню паўстанцаў Каліноўскага «Ой, закурэла ды сырымі дрывамі». Спаўняліся ж сотыя ўгодкі паўстання 1863 года, Валодзя жыў тою гераічнаю парой, прыгадваў

малавядомыя, часта парадаксальныя факты, дзёрзкія выпады паўстанцаў, жорсткія самадурныя выхадкі Мураўёва-вешальніка, які ў помслівым гневе апускаўся да змены назваў вёсак, у якіх прыгонныя сяляне ішлі да «мяцежнікаў». Адна вёсачка на радзіме Цёткі атрымала назву Сабакінцы.

У спеўным настроі мы вярнуліся ў хату, дзе гаспадыня прыгатавала беларускую вячэру з кумпяком і каўбасою, з грыбамі і гарачаю бульбачкай. Уміліла Валодзю атмасфера сям'і ляснічага, у якой так звонка шчабяталі па-беларуску дзеці. Нам перадалася атмасфера зычлівасці, гармоніі, лагоднай усмешлівасці. Пявучых спадарожнікаў пацягнула на песні, і я меў прыемнасць слухаць мо самы багаты рэпертуарам пісьменніцкі канцэрт. Валодзя цягнуў барытонам, Янка запяваў тэнарам, лесніччыха повічкавала мяккім сапрана. Які мы спеўны і які недалужны народ — не ўмеем паказаць таго, што ўмеем.

Наша вандроўка прадоўжылася назаўтра аглядам наваградскага замчышча, фарнага касцёла і музея Міцкевіча. А закончылася на дзядзінцы замка ў Міры, які Валодзя аглядаў пільна, нібы інтэндант, якому належала раскватараваць у падобнай будыніне не адну княжацкую дружыну. Брыль многа расказваў пра Наваградчыну і Міршчыну, прытым высмыкваў з памяці вясёлыя ды займальныя эпізоды. Вось з'ехаліся ў 1799 годзе на з'езд у Мір цыганы, караля абіраць і каранаваць. Урачыста вялі апошняга нашчадка дынастыі Квекаў пад ручкі, апранулі славутага канакрада ў чорны фрак, і раптам людзі, мірскія мяшчане, што прыглядаліся цырымоніі, зарагаталі. Убачылі, як на чорным фраку матлялася ззаду бірка ламбарднага магазіна, у якім арганізатары свята пазычылі панскую вопратку.

Я адвёз спадарожнікаў на станцыю ў Стоўбцы. Не хацелася расставацца, так мы прыцерліся за гэтых некалькі дзён. Чалавек — істота грамадская, хоць часам і дзічыцца або фардыбачыцца і ўнураецца ў сябе.

*1990*



## Віктар Карамазаў

# Свята і пір жыцця

З Лёшкам Гайдуком, даўгашыім і белагаловым, нібы голуб-альбінос, адзін з тых бойных-бігаў, якіх ён раней прадаваў на Старажоўскім рынку, мы стаім на беразе Камсамольскага возера.

Лёшка кажа:

— Ці памятаеш маіх жаўтабокіх шпанаў? З капялюшыкамі. Хітрыя былі галубы. А манахаў?

— І манахаў памятаю.

— Напісаў бы пра іх, тучарэзаў?..

Чакае, што я на гэта адкажу. Але я маўчу.

— На Старажоўцы такіх раней не было ні ў кога. Я прывёз іх з Адэсы ад брата. Бялюткія-бялюткія, а на хвастах стужкі карычневыя. І капялюшыкі. Хвост — дваццаць чатыры пяры! То былі бігі!..

Маўчу, хоць і ведаю, што яму адказаць. Я быў бы шчаслівым чалавекам, калі б змог напісаць пра яго цудоўных бойных манахаў. Але не змагу. Не рызыкну. Не ўпэўнены, што знайду тыя словы, якія не разбураць мае даўняе дружбы з Лёшкам.

Знайсці тыя словы мог толькі адзін чалавек, якога Лёшка ведае. І я пытаюся:

— Валодзю Караткевіча помніш?

Цяпер ужо ён маўчыць.

— Сваіх тучарэзаў ты ўсім прадаваў па чырвонцу, а яму прадаў па рублю. Помніш?..

Лёшка выходзіць з задумлівасці — твар цяплее, усміхаецца:

— Ці гэтакае забудзеш?!

Ён глядзіць некуды далёка, за возера, і, здаецца, не бачыць ні снегу, ні лёду, які цяпер, у адлігу, трымаецца на возеры паўз берагі, ні чорнай халоднай вады, ні шэрай смугі ў небе. Бачыць зусім іншае неба: чыстае, блакітнае, цёплае. Сонечнае. І ў тым небе — бялюткіх манахаў...

Шумела вясна. Снег і вада паспелі скаціцца не толькі з гарадскіх вуліц, двароў і паркаў, але і з загарадных падлескаў. Цёплая прозелень пачынала высыпаць на каштанах, ліпах, таполях, разлівала ў паветры духмяны водар жывіцы. Брук на Старавіленскім тракце блішчэў, памыты і падсохлы, нібы луска на шчупаку, выкінутым на сонца. Пасярод бруку ззялі трамвайныя рэйкі. Яны прабягалі міма свежапабеленай рыначнай брамы, за якою ядрана пахла памаладзелай зямлёй, прэлай саломай, размяклымі аўчынамі, вільготнай поўсцю жывёлы. Красавік, адыходзячы, вітаўся з майскай прозеленню і просінню.

Выскачыўшы з трамвая, я прайшоў у рыначную браму і павярнуў да шчабятлівага птушынага выраю. Мой позірк стрэльнуў да шэрага плота на знаёмае месца, дзе звычайна стаяў са сваімі галубамі Лёшка. Ён і цяпер падпіраў спіною той самы плот. Белая галава, якую ён амаль ніколі, ад зімы да зімы, не хаваў пад шапкаю, кінулася ў вочы адразу. А ў наступную хвіліну я звярнуў увагу яшчэ і на тое, што гляджу на Лёшку не адзін. Усе, хто стаяў блізка, купляў ці прадаваў, глядзелі ў яго бок.

І нехта гарласта крыкнуў:

— Альбінос!.. Цану збіваеш?..

А хтосьці яшчэ і зарагатаў, быццам з дурня:

— Тучарэзаў па рублю спускае...

Я добра ведаў Лёшку. Яшчэ ў пяцьдзесят трэцім, калі ехаў у Мінск паступаць вучыцца на філфак універсітэта, бацька даў мне адрас свайго пляменніка, майго стрыечнага брата, якога я раней у вочы не бачыў. Ён, мой брацenік Пятрок, жыў за возерам на Варварынскай у пабеленым прыватным дамку, наймаў з жонкаю і двума малымі дзецьмі мансарду, і ў яго мансардзе я пасяліўся на час экзаменаў. Лёшка быў Петраковым суседам, меў галубоў і насіў сваіх тучарэзаў на рынак. Прадаваў іх даражэй, як іншыя, у цане ні капейкі не спускаў. Скупым не быў. Проста ведаў, што ў яго самыя лепшыя бігі, і высокай цаною падтрымліваў іх высокі аўтарытэт. А таму цяпер, убачыўшы людскую ўвагу да Лёшкі, пачуўшы, што пра яго казалі, не даўшы веры чалавеку, які гэтак казаў, я праз натоўп пашыўся да Гайдука.

Калі я быў ужо зусім блізка, чыесьці рукі ў доўгіх рукавах паліто ўскінуліся вышэй за галовы паміж Лёшкам і мною, і з тых доўгіх шырозных рукавоў, усё роўна як з іх, у неба шуганулі два белыя галубы. Гэта былі Лёшкавы. Я пазнаў іх адразу. Іх нельга было не пазнаць ці зблытаць з іншымі галубамі. Асабліва ў небе. Імкліва ўзляцеўшы і павіснуўшы ў паветры над дахамі драўляных дамкоў, яны прыгожа распускалі магутныя хвасты і крылы, быццам намацвалі апору, рабіліся падобныя на вялізныя, аж нейкія казачныя рамонкі, і ў гэты момант, здавалася, можна было палічыць іх пёрцы, якія трымцелі нібыта і разам, і паасобку. А потым, у наступнае імгненне, малюнак мяняўся: галубы ператвараліся ў белыя кучаравыя аблачынкі, падобныя на вялізныя дзьмухаўцы, якія аж залаціліся на сонцы.

Я кінуў позірк на Лёшку, і побач з ім заўважыў таго, хто даставаў з яго клеткі птушак і падкідаў іх у цёплае сонечнае неба.

То быў Валодзя Караткевіч. Ён стаяў да мяне тварам, але мяне не заўважаў. Мы былі знаёмыя. У той год я бегаў па Мінску лёгкім на нагі газетчыкам, а ён быў ужо вядомым паэтам. Ніхто нікога не заўважаў. Усе бачылі перад сабою адно цёплае неба над рынкам ды белых бігаў у небе.



Але мне ад той сустрэчы яшчэ запомніўся сіні Валодзеў шалік. Канец яго вылез з-пад каўняра паліто, адляцеў на плячо, жывапісна падкрэсліваючы гарэзна-вясёлую русую галаву. Гэта, можа, таму запомнілася, што паэт з галубамі, ды яшчэ з Лёшкавымі, якіх я ведаў і любіў, быў мне захапленнем не меншым, як самі галубы ў небе. Асабліва калі яго рукі, выпусціўшы птушак, заміралі на нейкі момант угары, звязваючы вольную душу з сонечным небам і бялюткімі галубамі.

Бігі падымаліся ўсё вышэй, радыя «блакіту і золату дня», а Валодзя падкідаў усё новых птушак, пакуль клетка не апусцела.

Засталася апошняя самачка. Ён паднёс яе блізка да твару і, шчаслівы, сам — быццам тая вясновая птушка — шчабятлівы, разглядаў радужку ў цёплым галубіным воку. Хто ведае галубоў, той ведае цану галубінай радужцы. У ёй не галубіны свет. Увесь, зямны — птушыны і чалавечы. У ёй — сусвет.

Лёшка, падхапіўшы пустую клетку, пашыўся праз натоўп да брамы, а Валодзя, пасадзіўшы галубку сабе па грудзі і прытрымліваючы яе рукою, падаўся ўслед за Лёшкам.

Я застаўся на рынку і адтуль, з таго самага месца, бачыў, як праз хвіліну за брамаю над брукам Старавіленскага тракту ўзляцела тая, апошняя, з Валодзевых грудзей, галубка.

— Альбіноса не абдурыш,— разважаў нехта з мужчын.— І чырвонец у кішэні, і галубы дома. Ха-ха!..

Тады я зразумеў усё, што адбылося.

Валодзя не меў патрэбы купляць галубоў. Куды і навошта? Але вясна прывяла яго на Старажоўскі рынак да Лёшкавых манахаў. Ці яна, вясна, пытаецца ў нас, людзей, што ёй з намі рабіць, куды нас весці? Яе ўлада над намі большая, як наша над ёю. А ён быў паэт. А паэту вясною ці мала што можа ўзбрысці ў галаў? Раптам захацелася павыпускаць галубоў з клетак на волю. А як выпусціць чужых птушак? Спачатку іх трэба, мабыць, купіць? Купіць — трэба грошы, і немалыя. Была дзесятка? Але воля, купленая для аднаго манаха, хіба задаволіць душу паэта? Яму хацелася даць волю ўсім птушкам, якіх рынак трымаў у клетках. Калі не ўсім, дык хоць усім Лёшкавым.

І тут яны, паэт і птушнік, паразумеліся. Бо абодва былі паэтамі ў душы. Хоць Лёшка і ведаў, што галубы, падняўшыся ў неба, усе да аднаго вернуцца на Варварынскую. У гэтым была яго маленькая хітрасць. Але яна не сапсавала свята.

Цяпер, праз дваццаць гадоў, я пытаюся:

— Надоўга прыехаў з Адэсы ў Мінск?

— На два дні. На выстаўку. Хацелася паглядзець, якія цяпер галубы ў Мінску.

Птушыная выстаўка адкрылася на вуліцы Жданава ў будынку Інстытута тэхнічнай эстэтыкі. Там мы нечакана сустрэліся.

Ад возера падымаемся на Старавіленскі тракт. Спыняемся насупраць белай ад снегу рыначнай брамы.

— А-а... скажы?.. Ён пісаў пра галубоў?

Я разумею Лёшку. Але парадаваць не магу. І не магу засмуціць. І таму расказваю адну са шматлікіх паэтавых казак: пра Лата і яго срэбнага пеўніка на шпілі званіцы Пятра ў Рызе — як-ніяк тут і паэт, і птушка, і паэзія. Хоць пераказ казкі заканчваю не там, дзе яна канчаецца, а на радку, які помню:

«І Лат, перш чым знікнуць у натоўпе, узяў пеўніка і высока падкінуў яго.

— Ляці!..»

Лёшка слухае ўважліва. Казка падабаецца. Але яму мала гэтае казкі. І я ўспамінаю малюначак з «Кніганошаў»: «Чалавек ужо нерухома ляжаў на прыбярэжным жвіры, а кнігі ўсё яшчэ падалі. Цяжкія турманамі куляліся па камянях адхону, лёгкія галубамі ляцелі ў паветры».

І тады Лёшка кажа:

— А ён і пасля прыходзіў да мяне на Варварынскую. Заўсёды прасіў падняць галубоў. Ляжа ў садзе на траву і глядзіць у неба, як мае тучарэзы кругамі ходзяць. Гадзінамі стаялі ў небе. Вернуцца — ажно кроў пад крыламі. А пасля я паехаў да брата ў Адэсу. Нашу ж хату знеслі. І галубятню знеслі. І хату, у якой жыў твой Пятрок, знеслі. Галубоў я ў Адэсе завёў. З імі звяжашся — на ўсё жыццё. Такая хвароба.

Дзень звычайны, будзённы. На рыначнай браме замок, бо рынак збірае людзей і жывёлу толькі ў нядзелю. Але мы доўга стаім перад брамаю, усё роўна як чакаем — вось-вось адчыніцца. Над ёю, белай, у белым зімовым небе нам бачацца белыя манахі. Нам — бо ўпэўнены, што іх бачыць і Лёшка. Яны зноў падымаюцца над Старажоўкаю ў чыстае высокае неба і там, у вышыні,ператвараюцца ў вялізныя белыя рамонкі.

А пад імі, бігамі, зноў стаіць, як некалі, мудрэц з гарэзнай дзяцінай душою, казачнік, які здзіўляў і здзіўляўся. Ён стаіць, як тады, з ускінутымі ўгару рукамі і з шырокіх рукавоў паліто выпускае ў неба ўсё новых і новых бялюткіх Лёшкавых галубоў.

Ён любіў волю, выдатна, як мала хто з сённяшніх паэтаў, ведаў, што гэта такое, і дарыў яе, волю, усяму жывому. І самому сабе, пакутуючы ад няволі.

Ён добра ведаў, што птушкі павінны лётаць, чазенія павінна расці, барс павінен гойсаць па лесе, а Гражына Арсайла павінна кахаць мужнага Будрыса Севярына. І што гэта, толькі гэта,— «свята і пір жыцця».

*1986*



## Генадзь Кісялёў

# Ён дарыў сяброўства...

Упершыню я ўбачыў яго ў годзе прыкладна шасцідзесятым. Я толькі што закончыў маскоўскую аспірантуру і вярнуўся на работу ў Вільнюс, цудоўную старажытную Вільню. Шмат займаўся паўстаннем 1863 года і ўжо тады (нават крыху раней — з 1959 года) пачаў друкавацца ў

беларускім друку, пераходзячы паступова да засваення больш шырокіх пластоў беларускай культуры. І вось аднойчы я пачуў, што ў архіў (гістарычны архіў тады яшчэ не выдзеліўся ў асобную ўстанову і размяшчаўся разам з астатнім Цэнтральным архівам Літвы на вуліцы Міндаўга) прыехаў пісьменнік Караткевіч, працуе над матэрыяламі 1863 года, над следчай справай Каліноўскага. Я бачыў яго здалёку, мелькам. Быў ён тады хударлявы, таму падаўся больш высокім, як потым. Надта сур'ёзны, засяроджаны і нейкі прасветлены. Мне падалося нават — «не от мира сего». Тады мы з ім не пазнаёміліся, хоць імя яго я збольшага ведаў і нейкую цікавасць да яго меў.

Пазнаёміліся і зблізіліся мы праз пару гадоў у тым жа Вільнюсе праз Адама Мальдзіса. Яны прыехалі разам і ўладкаваліся ў высокіх і гулкіх пакоях для гасцей пры Саюзе пісьменнікаў на вуліцы Рашытаю. Мы звалі потым гэты прыстанак, які не раз выручаў прыезджых беларусаў, «літаратурным падвор'ем».

Помню тую не надта сярдзітую прыбалтыйскую зіму і яго — Валодзю Караткевіча.

Быў ён тады ў самай лепшай форме і здаваўся проста нейкім цудам. Маладосць, шчырасць, шчодрасць, дружбацкасць, эрудыцыя, тактоўнасць. Ужо не кажу пра нейкую асаблівую беларускую мяккасць. І пры ўсім тым паэт, аўтар цудоўных вершаў, якія ён ахвотна чытаў у кампаніі. Манера яго чытання падкупляла. У манеры гэтай не было ніякіх знешніх эфектаў. Ён не шаманстваваў, як некаторыя іншыя паэты, а чытаў тактоўна, нягучна і ўсё ж як найлепей даносіў свой твор да слухача. Яго вершы сваёй інтэлігентнасцю, высокай культурай прыцягвалі ўвагу нават небеларусаў. Першых яго зборнікаў у мяне няма — скруціў нехта ў Вільнюсе. Тым больш яго паэзія выйгравала ў аўтарскім выкананні. Паўтараю — ён захапляў і прыцягваў.

Неяк ён сказаў:

— Я, калі захачу з кім пасябраваць, дык абавязкова пасябрую.

Гэта была праўда. Супрацiўляцца яму, нават калі б такое жаданне ўзнікла, было немагчыма. Пасябравалі і мы. Помню, як праводзілі мы з Мальдзісам яго ў Мінск (Мальдзіс яшчэ аставаўся). Ён стаяў у дзвярах вагона ў сваім блакітнаватым паліто з шэрым барашкавым каўняром, махаў нам на развітанне і некалькі разоў выскокваў на перон цалавацца.

Помню, як прывёў яго да сваіх сяброў. Пазванілі. Нам адчынілі. На пляцоўку з брэхам выскачыла сабачанё гаспадароў — па-мойму, нешта беспароднае, ці не самая звычайная дварняга, якая мела, зрэшты, статус пакаёвай сабачкі. Момант — і псіна прыціхла ўжо ў абдымках Караткевіча, і так разам з сабакам ён пераступіў праз парог. Было ў гэтым нешта ясенінскае: «Поцелую, прижмусь к тебе телом и, как друга, введу тебя в дом...» Потым ішоў непараўнальны караткевічаўскі рытуал

цалавання дамскіх ручак. Рабіць гэта так натуральна, столькі ўкладваць сюды шчырасці і нязмушанасці ўмеў толькі Караткевіч. Ён умомант пакарыў маіх сяброў. Поспех быў поўны.

У асобе Караткевіча людзі нібы занава адкрывалі для сябе Беларусь ва ўсім бляску цеплыні, душэўнасці, таленту і інтэлігентнасці. Часам узнікала гаворка пра Вільнюс і Мінск. Інтэлігентнаму вільнюсцу, захопленаму старажытнасцю і арыгінальнасцю свайго горада, Мінск мог падацца занадта маладым, невыразным, як бы без свайго твару. Тое, што па пашпарце Мінск на 250 год старэйшы за Вільнюс, было слабым аргументам. Караткевіч, як ніхто іншы, адчуваў непаўторнасць Вільні, не гаворачы ўжо пра ўсё яе значэнне для Беларусі, але не здраджваў і Мінску:

— Вось пачакайце, пройдуць гады, абрасце наш Мінск машком ды абвешаецца мемарыяльнымі дошкамі — тады паглядзім.

Пабывалі мы (не помню, ці ў гэты прыезд Караткевіча) і на Антокалі, у майстэрні беларускага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Літвы Пётры Сергіевіча. Пётра Аляксандравіч — чалавек надзвычай мяккі, далікатны, інтэлігентны — ахвотна паказваў нам свае палотны, старыя і новыя (ён працаваў тады якраз над кампазіцыяй з жыцця Паўлюка Багрыма), а сам усё паглядаў на вельмі цікавы для мастака твар Караткевіча: вялікія лупатыя вочы розніліся — адно шэрае, другое піўнога колеру.

Былі ў гэтым жа старым доме і ў Сергіевічавага суседа Янкі Шутовіча. Дзядзька Янка — колішні выдавец «Калосся», які друкаваў яшчэ Максіма Танка, добра ведаў Машару, Таўлая — шумна расказваў пра Вільню 20—30-х гадоў. Зрэдку ўстаўляла слоўка маўклівая, засяроджаная яго жонка — літоўская пісьменніца Она Міцютэ. І зноў душой кампаніі быў Караткевіч, зноў чуўся нягучны падчас чытання яго голас, адбываўся цуд яднання людзей, цуд паэзіі.

Мабыць, іншым разам, але таксама зімой (добра помню, як мы з жартамі пераваліліі праз нейкую заснежаную грэблю на ўскраіне горада) Арсень Ліс (здаецца) завёў нас на Панары, у адзінокую, сярод лесу, сядзібу старэйшай беларускай пісьменніцы Зоські Верас. Людвіка Антонаўна некалі ведала самога Максіма Багдановіча і цяпер з цікавасцю прыглядалася да новага таленавітага беларускага паэта. І зноў вершы, дасціпнасць, тактоўнасць, вытанчаная галантнасць. Нас частавалі там нейкім трункам са шляхетных мініяцюрных чарачак. Маладыя мы былі і, калі прызнацца, здаваліся нам гэтыя чарачкі занадта малымі.

У архіве я паказваў Валодзю некаторыя дакументы паўстання 1863 года, у прыватнасці ваенна-судовую справу Тамаша Грыневіча, расстралянага ў Рагачове за ўдзел у паўстанні. Ён быў нават нейкім сваяком Караткевіча, і той чуў расказы пра яго яшчэ ў дзяцінстве. І цяпер

яму надзвычай цікава было ўбачыць аўтэнтычныя дакументы следства, спавітыя шнурам аўдытарыята.

А ў цэлым я не помню, каб яму так ужо моцна былі патрэбны мае веды пра паўстанне. Ён і сам усё ведаў выдатна, дзе з кніг і з дакументаў, а дзе, здагадваюся, проста апрыёры, спасцігаючы ісціну ашаламляльнай мастакоўскай інтуіцыяй. Прынамсі, мне так здавалася. Важней, мабыць, было тое, што мы былі аднадумцамі ў ацэнцы паўстання. У тыя часы ў нашай навуковай гістарычнай літаратуры быў пашыраны погляд на падзеі 1863 года як на сялянскае паўстанне супраць памешчыкаў, гэта быў нібыта прамы працяг сялянскіх бунтаў пасля рэформы 1861 года. Караткевіч жа бачыў у паўстанні складаную з'яву, дзе надзвычай важную ролю адыгрывалі шляхецкія рэвалюцыянеры. Шляхецкі вызваленчы рух і стыхійны сялянскі не заўсёды аб'ядноўваліся, нярэдка супярэчылі адзін аднаму. Так і паказваў Караткевіч тыя падзеі ў рамане «Каласы пад сярпом тваім». Я таксама, працуючы ў Вільнюсе над архіўнымі матэрыяламі, пераканаўся, што факты ў сваёй сукупнасці супярэчаць прынятаму погляду на паўстанне. Але стары погляд яшчэ не толькі трымаўся — панаваў непарушна. Таму раман Караткевіча ішоў з вялікімі цяжкасцямі. Многія лічылі, што раманіст занадта яскрава распісаў у творы шляхту, аддаў ёй перавагу і абдзяліў у гэтым сэнсе сялян.

У 1965 годзе быў надрукаваны часопісны варыянт рамана, але кніга ўсё яшчэ ішла са скрыпам. Прэтэнзій да раманіста было шмат. Многіх раздражнялі або насцярожвалі і толькі што прыведзеныя акалічнасці, і сама манера аўтара, вельмі яркая, індывідуальная, рамантычная. Ды і гістарычная проза ўвогуле на Беларусі тады была навіной. Словам, адбывалася ўсё тое, што бывае з наватарскімі творамі. Галоўная цяжкасць заключалася ў самой навізне і нязвыкласці рамана.

Мне давялося прысутнічаць і нават выступіць на абмеркаванні рукапісу рамана ў Саюзе пісьменнікаў. Зала пасяджэнняў на другім паверсе колішняга пісьменніцкага дома на вуліцы Энгельса была перапоўнена. Выступілі многія. Ніл Гілевіч цікава гаварыў пра рамантычную манеру Караткевіча. Алесь Адамовіч падтрымаў накірунак яго творчасці, сказаў, што Караткевіч як мастак здзейсніў прарыў (помню якраз гэта слова) у гісторыю свайго народа. Былі рэверансы, былі закіды. Рэверансаў больш. А ў цэлым гэта была дыскусія без адназначных вынікаў.



Пасля абмеркавання мы, некалькі чалавек, адправіліся да Караткевіча дамоў. Ідучы за Валодзем, я бачыў, як цяжка ён ступае. Нялёгка, падумалася, табе, браце, усё гэта даецца.

Аднойчы ён з'явіўся ў Вільнюсе нечакана ў разгар лета і адшукаў мяне ў архіве на Добрай радзе. Прыйшлося адпрасіцца (або збегчы?) з работы, і мы, прыдбаўшы ў бліжэйшай краме сякой-такой правізіі, паджгалі ў недалёкі парк Вінгіс (па-нашаму Закрэт). Парк цудоўны і

па магутнасці раслiннага царства (чамусьці хочацца ўжыць якраз гэта слова) ні ў якое параўнанне не ідзе з даволі-такі чэзлым і вытаптаным мінскім паркам Чэлюскінцаў. Да таго ж у Закрэце шмат глухіх мясцінак, дзе ніхто не замінае. Мы ляжалі на траўцы, глядзелі на магутныя ствалы хвояў, ускінутыя ў неба. Нібы нетутэйшыя казачныя асілкі-секвоі атулілі нас сваёй засенню. Было па-маладому хораша. Валодзя гаварыў, які цудоўны свет і як жахліва, што ўся гэта краса ў адзін момант можа праваліцца ў тартарары, што нечая рука, можа, цягнецца ўжо да страшнай кнопкі...

Потым дома (я жыў тады з маці і братам у невялікай, але даволі светлай квадратнай келлі былога кляштара бенедыкцінак на вуліцы Гедрыса, літаральна ў некалькіх кроках ад месца апошняга зняволення Каліноўскага) маці частавала нас такімі смачнымі ў спёку халоднымі бурачкамі.

З'явіўся з работы брат, і мы адправіліся купацца на пляж Валакампяй. Валодзя быў там ці не ўпершыню, з цікавасцю паглядаў на ідылічны — як на старых палотнах — пейзаж на тым баку ракі Нерыс (так у Літве называецца наша Вілія) з невялікім старадаўнім, вельмі маляўнічым кляштарам над самай вадою (тады там была, здаецца, турбаза). На вадзе Валодзя трымаўся някепска і, хоць пачаў ужо паўнець, у ахвоту сплаваў на той бок і назад. Помніцца, брат мой (таксама Валодзя) усё дурасліва палохаў нас сваімі прапановамі зрабіць масаж. Рабочыя рукі ў яго як абцугі, і гэта было вельмі балюча.

Вечарам адшукаў нас Мальдзіс, які прыехаў з групай кіношнікаў, што здымала па сцэнарыі Караткевіча дакументальны фільм пра старадаўнюю архітэктуру. Заначавалі мы ўтрох у пустой кватэры Мальдзісавага прыяцеля Чэся Мекіна недзе за чыгункай (гаспадар быў у начной змене). Назаўтра пахадзілі па старым горадзе, агледзелі славутыя Святаянскія муры, пабывалі ва ўсіх універсітэцкіх дворыках, пакланіліся непаўторнай красе Святой Ганны. Валодзя то станавіўся сур'ёзным, то жартаваў і залівіста рагатаў, як ён умеў (гэтую адметную караткевічаўскую рысу, калі не памыляюся, недзе трапна занатаваў і Уладзімір Калеснік). Зайшла размова, чаму старадаўнія будынкі такія моцныя, і Валодзеў анекдот пра наіўных разанцаў, якія на загад начальства даставіць на будоўлю яйкі, прывезлі яйкі, звараныя ўкрутую, выклікаў нежартоўную спрэчку, бо нехта з кіношнікаў аказаўся якраз з Разані і пакрыўдзіўся.



У адзін з прыездаў я пазнаёміў Валодзю з вельмі цікавым чалавекам, старым літоўскім дзеячам Домасам Кучынскасам. Па ўзросце ён гадзіўся нам у бацькі, але душу захаваў маладую. Недзе ў канцы 20-х гадоў Кучынскас быў арыштаваны жвальгібай (тайнай паліцыяй) за друкаванне рэвалюцыйных газет і лістовак. Была вельмі гучная справа. Маладога рэвалюцыянера прысудзілі да расстрэлу, але ў выніку дэманстрацый пратэсту расстрэл замянілі пажыццёвай турмой, з якой яго вызваліла

ў 1940 годзе новая ўлада. Тады ж ён рамантычна пасябраваў і ажаніўся з расіянкай, прысланай на работу ў Каўнас. У вайну жонка не паспела выехаць. Пра яе трагічны лёс Кучынскас даведаўся толькі пасля вайны. Словам, яго жыцця хапіла б не на адзін раман. У свой час ён займаў у рэспубліцы даволі важныя пасады, а цяпер на пенсіі падрабляў у Архіўным упраўленні па кадрах. Ён шмат расказваў цікавага са свайго жыцця, выдаў некалькі кніжак успамінаў, адна называлася «У камеры смертніка». Чалавек вялікай дабрыні і далікатнасці, ён дазваляў мне называць сябе «Дзядзькам Дамінікам». Дык вось Караткевіч і Кучынскас пазнаёміліся і вельмі спадабаліся адзін аднаму. З намі аказаўся тады яшчэ адзін літоўскі паэт, таварыш Караткевіча па маскоўскіх літаратурных курсах. Дык той якраз быў неяк не ў гуморы, а Караткевіч зусім зачараваў Кучынскаса, і ён казаў пасля:

— Як прыездзе той беларускі пісьменнік, ты мяне абавязкова пакліч.

Улетку 1971 года неўзабаве пасля жаніцьбы мы з жонкай прыехалі ў Мінск паглядзець горад. У Адама Мальдзіса сабралася «нявелькая, але бардзо пажондная кампанія». Былі, помніцца, Янка Брыль, Алег Лойка, Янка Саламевіч. Быў і Валодзя з маці Надзеяй Васільеўнай і жонкай Валянцінай. Валодзя паводзіў сябе шумна і ўсё даваў смешныя наказы то мне, каб не крыўдзіў жонкі, то Яніне, каб не крыўдзіла, барані божа, мужа. І ўсё прыдумваў, што ён зробіць з крыўдзіцелямі. Але адчуваўся ў яго шумнасці ўжо нейкі надрыў.

Неўзабаве я ўладкаваўся на работу ў Інстытут літаратуры, а ўвосень 1972 года перабралася ў Мінск мая сямейка. Мы сталі сябраваць сем'ямі, тым больш што Яніна ў хуткім часе даволі блізка сышлася з Валодзевай Валянцінай. Валодзя з Валянцінай часта бывалі ў нас у маленькай кватэры на Сурганава, калі яна звалася яшчэ Друкарскай, а апошнім часам у больш прасторнай кватэры на вуліцы Леніна. Гэтую кватэру, дарэчы, усяляк дапамагаў нам агораць Караткевіч, яшчэ раз паказваючы сваю таварыскую ўвагу і дабрыню. На наваселле, якое супала з маёй круглай датай, падарылі нам Караткевічы са сваіх багатых запасаў розных цікавых рэчаў аленевы рогі, якія цяпер упрыгожваюць нашу прыхожую, і даволі вялікі партрэт Каліноўскага вугалем, які зараз, калі я пішу гэтыя радкі, вісіць нам маім сталом. На адвароце прыгожы надпіс цвёрдай Валодзевай рукой:

«Дарагому сябру Генадзю Кісялёву дорым гэты партрэт работы беларуса-вільняніна дзядзькі Пётры Сергіевіча. Партрэт Кастуся, для памяці якога ты за свае 50 год зрабіў болей за ўсіх (прымем гэта за юбілейны камплімент, які Караткевіч шчодра раздаваў направа і налева.— *Г. К.*).

Хай у новай хаце свеціць табе святло ягоных вачэй. Хай добра табе працуецца пад ягоным позіркам». Потым подпісы: «Валянціна Караткевіч, Уладзімір Караткевіч — і дата: 28 сакавіка 1981 г.».

Бог ты мой! Як нядаўна ўсё гэта было! Чаму вы так рана пайшлі? Дзякуй вам, мілыя, за тое, што вы былі...

За апошняе дзесяцігоддзе жыцця Караткевіч спазнаў сапраўдную славу і папулярнасць. Добра пайшлі яго кніжкі не толькі на Беларусі, але і ў Маскве, у іншых рэспубліках, а таксама за мяжою. (У Мінску — не магу не адзначыць — яму з адкрытай душой усяляк спрыяў, даваў дарогу тагачасны дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міхаіл Фёдаравіч Дубянецкі.) Кінафільмы, пастаўленыя па яго творах, атрымлівалі ганаровыя прызы, яго творчасцю вельмі цікавіліся музыканты і дзеячы тэатра. Мастакі лічылі за гонар для сябе напісаць партрэт папулярнага пісьменніка або праілюстраваць яго творы.

З'явіліся някепскія грошы. (Трэба сказаць, што ў яго раней траплялiся працяглыя перыяды безграшоўя, калі яны жылі толькі на Валянцініну зарплату, я яшчэ раней, прыязджаючы ў Вільнюс, яму здаралася перахопліваць невялікія сумы нават у мяне. Для гісторыі зазначу — вяртаў ён бездакорна, што не заўсёды ў нас прынята. Я б назваў яго ў гэтым сэнсе сапраўдным рыцарам карэктнасці, па-руску кажучы, щепетильности.) Яны стварылі з Валянцінай цікавы, гасцінны, адкрыты для добрых людзей дом, які перабачыў многа не толькі нашага брата, але гасцей з Масквы, Украіны, Латвіі, Арменіі, Польшчы, Чэхаславакіі (тады яшчэ Чэхаславакіі) і г. д. і г. д. У яго было шмат удзячных чытачоў у розных кутках зямлі, якія слалі яму розныя рамантычныя дзіковіны. Ён і сам з Валянцінай любіў падарожнічаць і заўсёды прывозіў не толькі ўражанні, але і розныя цікавосткі. Так што дом з цягам часу ўсё больш і больш нагадваў нейкі дзівосны музей, вельмі прываблівы для сяброў і гасцей.

Выдатна прайшоў пяцідзесяцігадовы юбілей, колькі цёплых, цудоўных слоў яму было сказана. Сябры з радасцю сустрэлі ўзнагароджанне яго высокім ордэнам.

Адносіны з уладнымі структурамі ў яго былі няпростыя. Ён не быў адкрытым дысідэнтам, але і роля нейкай «шрубкі» яму, выдатнаму пісьменніку і мысліцелю, аніяк не падыходзіла. У 1974 годзе яго выклікалі ў адпаведны будынак і папрасілі тлумачэнняў аб стасунках з некаторымі «апальнымі» навукоўцамі. (Сёння гэты дакумент з'явіўся ў друку і зноў засведчыў гранічную высакароднасць Караткевіча.) А колькі гадоў перастрахоўшчыкамі бяздарна марынаваўся раман «Нельга забыць». Помню, неяк курылі мы з ім у мяне на балконе яшчэ на Друкарскай і ў яго вырвалася:

— Цяпер мяне ўжо з літаратуры так проста не выкінеш — я ва ўсіх энцыклапедыях...

Шмат чаго стаіць за гэтай фразай. Толькі пазней, з ростам папулярнасці, з ім сталі сур'ёзна лічыцца.


Рагачоў, 1968 г.


1968 г.


На Прыпяці. 1969 г.



З Валянцінай Нікіцінай.
Ялта, 1969 г.



1969 г.



Каля магілы Максіма Багдановіча.
Ялта, 1969 г.



З Янкам Брылём.
Крым, 1969 г.



З маці Надзеяй Васільеўнай (справа)
і Валянцінай Нікіцінай.
Крым, 1969 г.



У рэдакцыі часопіса «Маладосць».
Уладзімір Юрэвіч, Міхась Стральцоў, Мікола Аўрамчык,
Уладзімір Караткевіч, Васіль Зуёнак. Канец 60-х гг.



1969 г.



На чытацкай канферэнцыі па рамане «Каласы пад сярпом тваім» у Інстытуце літаратуры АН БССР. Сядзяць: Марына Барсток, Паўліна Мядзёлка. Стаяць: Уладзімір Караткевіч, Мікола Капыловіч, Вячаслаў Зайцаў, Аляксандр Коршунаў, Кузьма Хромчанка, Юльян Пшыркоў. 1969 г.





1969 г.



1969 г.



З Уладзімірам Калеснікам у Белавежскай пушчы.
1971 г.



Іван Чыгрынаў, Уладзімір Караткевіч, Давід Сімановіч.
Ушачы, 1971 г.



Уладзімір Караткевіч сярод удзельнікаў
Дзён беларускай літаратуры ў Магнітагорску.
1971 г.






Вяселле.
Люты 1971 г.







Валянціна Караткевіч.
Сярэдзіна 70-х гг.



Міхась Забэйда-Суміцкі, Валянціна Караткевіч, Уладзімір Караткевіч, Вацлаў Жыдліцкі.
Прага, 1973 г.





Іван Дзяржынскі, Марк Фрадкін, Уладзімір Караткевіч, Андрэй Бембель.
Віцебск, 1972 г.



**На Стаўбцоўшчыне. Чэрвень 1976 г.**



**1971 г.**



**Брацiслава, 1978 г.**




Уладзімір Караткевіч,
Валянціна Караткевіч,
Юрый Цвяткоў.
70-я гг.



Уладзімір Караткевіч, Валянціна Караткевіч,
Валянціна Шчадрына.
1977 г.



Уладзімір Караткевіч, Уладзімір Ганчароў,
Валерый Мазынскі. Віцебск, 1978 г.



**З супрацоўнікамі Інстытута літаратуры АН БССР. Адам Мальдзіс, Уладзімір Караткевіч, Анатоль Верабей, Васіль Жураўлёў. 1979 г.**



**1979 г.**









З дачкой Міхася Чарняўскага Алесяй у грыбах. 1979 г.



На Міншчыне. 1979 г.



**У Тураве на рацэ Струмень.
1980 г.**



**З арнітолагам Прыпяцкага
дзяржаўнага запаведніка
Вадзімам Клакоцкім.
Тураў, 1980 г.**



**1980 г.**



1980 г.



Уладзімір Ліпскі віншуе з юбілеем. 1980 г.





Вёска Хлупін. 1980 г.



У Навагрудку.
Кастрычнік 1982 г.



1981 г.



1984 г.



1981 г.



У час сустрэчы з кнігалюбамі
Мінскага ВА «Інтэграл».
1982 г.



1984 г.



**Каля студні ў Латвійскім этнаграфічным музеі пад адкрытым небам. Алег Лойка з жонкай, Уладзімір Караткевіч, Вячка Целеш, Мірдза Абала. Дубулты, 1981 г.**



**Аксакаўшчына, 1984 г.**



**На Прыпяці. 16 ліпеня 1984 г.**

Але стала здаваць здароўе. Усё часцей і часцей трапляў ён у бальніцы, усё часцей на пытанне пра жыццё і здароўе пачынаў скардзіцца. (А раней жа мала хто, як ён, умеў смела адказваць на гэтыя, часам дзяжурныя пытанні бадзёрым: «Выдатна!»)

Яму б перайсці на больш ашчадны рэжым, але ён быў вялікім жыццялюбам і не хацеў адмовіцца ні ад адной радасці жыцця.

Ён скардзіўся на ногі, на болі ў жываце. Стаў менш выходзіць з дому. Нешта нездаровае з'явілася нават у яго абліччы. Узнялася неяк грудная клетка, штосьці кволае, хлапечае бачылася ў шыі, як глядзіш ззаду.

Аднойчы, калі Валодзя адпачываў на поўдні, па Мінску прайшла нават чутка аб яго смерці.

Аказалася, у Кактэбелі ён саслізнуў з высокай гары і моцна пабіўся. А тут яму трэба было ехаць у Адэсу на канферэнцыю па праблемах гістарычнай прозы. Паднімаючыся ў Сімферопалі па трапе самалёта, ён страціў прытомнасць. Давялося Валянціне мчацца ў Сімферопаль і многа дзён выходжваць яго ў тамашняй бальніцы.

Валянціна здавалася куды мацнейшай, але адышла першай. Прычым зламалася яна неяк адразу. Вось улетку 1982 года мы з Янінай правялі з ёй дзень у Вільнюсе, куды яна ездзіла за пакупкамі. Выглядала вельмі бадзёрай і энергічнай. А Новы год ужо сустракала з цяжкасцю. У лютым яе не стала.

Смерць Валянціны Валодзя перажыў цяжка. Пайшоў вельмі блізкі чалавек. Разбурыўся звыклы ўклад жыцця. За труною жонкі давялося весці яго пад рукі. Ён яшчэ паспеў паклапаціцца пра жончын помнік, на якім выбіты яго верш — абяцанак перайсці ўслед за Валяй у родную зямлю...

Неўзабаве мне давялося суправаджаць яго ў санаторый «Сосны» на Нарачы. Саюз пісьменнікаў даў машыну, і мы за некалькі гадзін дабраліся цераз снежную завею да месца. Па дарозе Валодзя ўспамінаў свае ранейшыя прыгоды на Нарачы, сяброўства з нарачанскімі рыбакамі. Але тады было лета, было здароўе, маладосць.

У прывілеяваных «Соснах» ён не прыжыўся, і яго вельмі хутка давялося забраць адтуль у цяжкім стане.

Былі ў яго і апошнія радасці.

У лютым 1984 года пазваніў у абед і папрасіў прыйсці. Навошта — не сказаў. Не без трывогі з'явіўся я, а ён зірнуў на мяне неяк асабліва пранікліва (маўляў, ведаю, што ты разгублены) і са стрыманым задавальненнем падаў мне кніжку. Гэта быў «Чорны замак Альшанскі» — надзвычай вынаходліва аформлены Драчовым і любоўна выдадзены «Мастацкай літаратурай». Кніжка атрымалася яркая — якраз у духу Караткевіча, і ён абзваньваў сяброў-прыяцеляў, каб парадаваць іх і кніжкай, і шчырымі прысвячэннямі, рабіць якія ён быў вялікі мастак. Як неацэнная рэліквія

захоўваецца ў нас гэта кніжка з надпісам: «Дарагім маім сябрам, Генадзю і Яніне Кісялёвым з пажаданнямі ўсялякіх шчасцяў і даброт — з любоўю Ул. Караткевіч. 8 лютага 84 г.».

Між іншым, Яніна была ці не першым чытачом «Замка». Неяк здарылася, што ў Валодзі не было ў гэты момант сталай машыніcткі, і Яніне давялося перадрукоўваць твор з аўтографа (было гэта яшчэ недзе ў канцы 70-х гадоў). Цікава, што Караткевіч назваў спачатку свой твор аповесцю. Дык Яніна, аддаючы яму машынапіс, сказала, мажліва, без асаблівага значэння:

— Якая ж гэта аповесць? Тут цэлы раман.

— А што — трэба падумаць,— адказаў Караткевіч.

Відаць, у чымсьці гэта супадала з яго ўнутранымі меркаваннямі.

Вясной 1984-га ён доўга ляжаў у лечкамісіі ў рэанімацыі. Лічылася, што ён ужо не паднімецца. Але насуперак усім прагнозам устаў, здавалася, нават някепска ачуняў. Толькі вочы ў яго сталі як быццам новыя, з'явілася ў іх нейкая попельнасць, нібыта ён спазнаў нешта такое, што не кожны спазнае. Як пацяплела, аблюбаваў сабе паблізу ад дома месца ў цэнтральным скверыку, каля добра вядомага мінчанам і гасцям сталіцы залачонага хлопчыка з лебедзем. Сядзеў на лаўцы, перагортваў прынесеныя з дому кнігі і часопісы. Папыхваў сваім нязменным «Беламорам». Мы не адзін раз падыходзілі да яго з дачкой Наташай, калі я вёў яе са школы (Наташчына 4-я школа побач з філфакам і Ленінскай — цяпер Нацыянальнай — бібліятэкай, і ісці дамоў нам было якраз праз сквер). Валодзя яшчэ ўшчуваў, чаму нясу за Наташку партфель — непедагагічна. Часам яго пазнавалі людзі, спыняліся, прысаджваліся. І ён, бывала, скардзіўся пасля, што вось нідзе не схаваешся — не даюць нават пачытаць. Але адчувалася, што ў душы ён задаволены, што на людзі яго цягне.

Летам я з сям'ёй паехаў адпачываць на вёску ў Астравецкі раён, дзе нас цудам знайшла тэлеграма Адама Мальдзіса. Цудам, таму што дакладнага адраса Мальдзіс не ведаў, у тэлеграме шмат чаго было перакручана, але галоўнае мы, не хочучы верыць, зразумелі: памёр Уладзімір Караткевіч, пахаванне ў пятніцу, 13.30...

Некалькі, пад канец, рысак.



Апошнія гады нездароўе раздражняла яго, і ён мог быць рэзкім і несправядлівым да людзей блізкіх. Але добрым і шчодрым ён заставаўся заўсёды. Калі, здаралася, мы прыходзілі ў госці без дзяцей, то на развітанне ён заўсёды клапаціўся, каб Валянціна паслала ім які гасцінец. Да мяне ён час ад часу падступаўся з «мужчынскай» размовай:

— Слухай, стары, можа, табе грошы патрэбны?

— Не, Валодзя, пакуль зарабляю сам.

— Ды што там вашы акадэмічныя заробкі. Да таго ж бываюць жа ў мужчын, сам разумееш, свае выдаткі.

У мяне такіх выдаткаў не было, я адмаўляўся, але слухаць гэта было надзвычай прыемна. Не кожны брат будзе такім уважлівым. Дарэчы, ад яго ж я чуў, што многія бралі ў яго грошы без аддачы.

Любіў тэлевізар, глядзеў шмат якія перадачы, прыгодніцкія фільмы, мульцікі. У мяне выпадкова захавалася старая газета з тэлепраграмай, дзе яго рукой адзначана, што паглядзець. Інтарэсы шырачэзныя.

Дзіўна, але красвордамі, па-мойму, не захапляўся, хоць пры яго багатых, разнастайных, часам нечаканых ведах гэта магло быць някепскай трэніроўкай.

Згуляць у шахматы не выказваў ахвоты, хоць мы і падарылі яму неяк пры выпадку адмысловы сувенірны камплект. Гэта не перашкодзіла яму з імпэтам і смакам распісаць шахматную гульню ў «Ладдзі Роспачы».

Апошнім часам, прыхварэўшы, быў не супраць дзеля адпачынку згуляць у карты. Любіў «тысячу» — сапраўды някепскую гульню, якая добра мадэлюе жыццё, з яе логікай і нечаканасцямі. Хоць гулялі мы не на «інтарэс», ён ставіўся да гульні вельмі сур'ёзна. Прыносіў ліст добрай паперы, сам асабіста разграфляў яе шарыкавай ручкай з чорным стрыжнем. Умудраўся без лінейкі праводзіць амаль ідэальна простыя лініі, прычым хваліўся — гэта што, у маладосці ён мог правесці яшчэ прамей. Гуляў з найвялікшым захапленнем, радуючыся свайму поспеху, а няўдача кідала яго ў бездань адчаю. Калі б ён нават хацеў схаваць сваю рэакцыю, усе эмоцыі адразу адбіваліся на твары. Мяне пастаянна падазраваў у недазволеных хітрасцях, хоць, здаецца, гэта мне зусім неўласціва. Быў шчаслівы, выйграўшы.

Чамусьці вельмі не любіў, калі крытыкі называлі яго рамантыкам, хоць пры яго эрудыцыі не мог не разумець, што яго творчасць уяўляе сабой сплаў, сінтэз рэалістычных і рамантычных рыс. Але ў яго была зусім іншая мера рэальнага ў жыцці. Ён лічыў, што ўсё тое яркае, пра што ён піша, сапраўды растворана ў жыцці, толькі мы гэтага не заўважаем. І трэба сказаць, што жыццё вельмі падтрымлівала Караткевіча ў такім перакананні. З ім сапраўды здаралася шмат незвычайнага. Узяць хаця б апошнюю паездку ў Мсціслаў, калі машына, у якой ён ехаў, апынулася ў шматгадзінным снегавым палоне.

— А ты бачыў,— узбуджана пытаўся ён у мяне, калі мы чарговы раз загаварылі пра рэальнае і рамантычнае ў жыцці і літаратуры,— каб малпа проста так на вуліцы скакала па плячах прахожых? А я гэта бачыў у Брэсце, як прыязджаў на сустрэчу з чытачамі.

Мне давялося з ім прысутнічаць у медыцынскім інстытуце на вечары, прысвечаным стагоддзю Якуба Коласа. Ён расказаў студэнтам-медыкам, што Коласава кніга некалі вельмі даўно выратавала яму жыццё. Яна была ў яго за поясам і прыкрыла яго ад нажа нейкага хулігана.

Пісаў ён толькі аўтаручкай, чорным чарнілам. Почырк вельмі роўны, прыгожы, уборысты (па прыгажосці, зграбнасці яго почырк нагадвае

мне почырк Уладзіслава Сыракомлі, думаю, што яны блізкія нечым і як чалавечы тып). Любіў добрую паперу. З адной старонкі яго пісання выходзіла ці не дзве нармальныя машынапісныя старонкі. Калі камісія па творчай спадчыне Караткевіча разбірала яго архіў, то я не паверыў спачатку Янку Брылю, які сцвярджаў, што ў адной тоўстай такі папцы са спісанымі Караткевічам лістамі заключаюцца абедзве кнігі «Каласоў па сярпом тваім». Мне — вопытнаму архівісту — гэта здавалася неверагоднымі. Меў рацыю ўсё-такі Янка Брыль.

Спачатку Караткевіч рабіў падрабязны, дэталёвы план буйной рэчы. Як бы канспект. А потым пісаў ужо канчаткова, амаль без памарак.

Творчая патэнцыя ў яго была магутная. Да 100-годдзя Янкі Купалы ён абяцаў Тэатру юнага гледача п'есу пра маладосць вялікага Песняра. Я працаваў тады над зборнікам дакументаў і матэрыялаў пра Купалу і прынёс яму рукапіс зборніка, трохі паўнейшы за выдадзены потым варыянт. Ён зацікавіўся паплечнікам Каліноўскага Зыгмунтам Чаховічам, які аказаў вялікі ўплыў на маладога Купалу, і папрасіў у мяне дадатковых матэрыялаў пра Чаховіча. Я прынёс яму архіўныя выпіскі, кнігу мемуараў Гейштара з біяграфічнай даведкай пра Чаховіча. У даведцы быў радок, што Чаховіч, вярнуўшыся праз многа гадоў з катаргі і атрымаўшы яшчэ праз многа гадоў спадчыну, разлічыўся за даўгі неймаверна далёкага ўжо па часе паўстання. За гэта Караткевіч і ўхапіўся. Для яго гэта быў мастацкі ключ, якім удалося адкрыць многае — і характар самога Чаховіча, і важную сюжэтную лінію п'есы. Ён быў задаволены і, помніцца, гаварыў:

— Вы, гісторыкі, не заўсёды звяртаеце ўвагу на галоўнае.

Саму п'есу «Калыска чатырох чараўніц» Караткевіч напісаў вельмі хутка, па-мойму, ці не за пару тыдняў, хоць чуўся тады вельмі кепска. Калі я чытаў яе, то дзівіўся, якое яркае мастацкае асвятленне знайшлі ў творы ўвогуле даволі знаёмыя мне факты.

Ён марыў працягваць работу над «Каласамі...», хоць, магчыма, гэта перспектыва яго недзе і палохала. Пасля напісання першых дзвюх кніг прайшло ці не два дзесяткі гадоў. Паступова мяняліся погляды на жыццё і мастацтва. І ўсё-такі аб працягу ён думаў. Нават незадоўга да смерці, у 1984 годзе, ён мне неяк сказаў:

— Увосень прынясеш мне Гейштара.

Растлумачу: мемуары Гейштара — адна з асноўных крыніц па гісторыі паўстання Каліноўскага. Усё-такі яно, паўстанне, цягнула, вабіла яго.

Да восені яму не суджана было дажыць.

Ён пакінуў нам хрустальны замак сваёй творчасці, куды будуць прыходзіць усё новыя і новыя пакаленні прыхільнікаў, і ўсё новыя пакаленні даследчыкаў будуць біцца над яго загадкамі.

*1994*

Валянціна Коўтун

# Пяць сустрэч з вечнасцю

Вядома, іх было не толькі пяць — тых сустрэч з пісьменнікам, які займеў адметнае месца ў Святой кнізе беларускай нацыянальнай класікі. Аднак важна, што кожная з тых сустрэч мае сваю знакавасць, свае колеры, свой водар. І сваё арганнае гучанне.

У касмічнай паралелі з маім асабістым творчым лёсам імя пісьменніка Уладзіміра Караткевіча перш за ўсё асацыіруецца з маладосцю. Маладосцю нацыянальнага падзвіжніцтва. З тым самасцвярджальным Пачаткам, калі на мапе жыцця яшчэ толькі пазначаліся першыя літаратурныя пуцявіны-маршруты да зор. Аднак жа да зор — праз церніі. А значыць, праз першыя страты. Праўда, церніі жыццёвых страт пачатку 80-х (калі і адбыліся мае першыя сустрэчы з Караткевічам) як бы патаналі ў бляску рамантычных надзей і не ўспрымаліся дастаткова трагічна. Сёння, калі ўжо ёсць магчымасць азірнуцца і глянуць на той адметны прасторава-часавы беларускі «пейзаж» з адлегласці пражытых дзесяцігоддзяў, бачыш інкрустацыю выключна кантрастную, дзе асабістае творчае цесна пераплялося з агульным. Што да асабістага, то ўжо быў згублены адным з супрацоўнікаў тагачаснага літаратурнага выдавецтва рукапіс майго першага паэтычнага зборніка і пачалося аднаўленне стрыжнявых вершаў. Ужо была спроба «прыснавядомага» дэкана філфака БДУ А. Волка выключыць з навучальнага працэсу маладую паэтку-пяцікурсніцу, якую Львоўскі дзяржаўны універсітэт імя Івана Франка паслаў у Мінск для навучання ў аспірантуры на славянскім аддзяленні. Радзіма прымала маладую паэтку «ў штыкі». Толькі за тое, што думала, пісала, мроіла, гаварыла па-беларуску. Рэпрэсіі, аднак, узмацніліся пасля таго, як разам з Алесем Разанавым і Віктарам Ярацам мы з'ездзілі ў адведкі да Ларысы Геніюш. Наколькі памятаю, менавіта тады, у пакоі славутай зэльвенскай «эмігранткі», надзвычай многа гаварылася і пра Валодзю Караткевіча. Бадай, якраз у прысутнасці Ларысы Антонаўны і адбылася мая першая сапраўдная сустрэча з Караткевічам, знаёмства з паэзіяй высокага нацыянальнага кшталту. Гаворка ідзе пра перыяд, калі беларуская ідэя зноў і зноў прабівалася праз бар'еры шматлікіх забарон. Менавіта ў гэты час на філфаку маімі сябрамі-паэтамі збіраліся подпісы на карысць выкладання ў БДУ на беларускай мове, што таксама выклікала пэўную негатыўную рэакцыю з боку дэканата. Мне, нядаўняй студэнтцы ўкраінскай ВНУ, была да скразнога абурэння незразумелаю адкрытая русіфікатарская пазіцыя

тагачаснага беларускага дэканата, аб чым і было, горача і адкрыта, абвешчана на адным з камсамольскім сходаў. Падобная палітычная крамола «львавянкі» не мінулася дарэмна. Мроя пра аспірантуру загінула беспаваротна. Усе мы, і Алесь Разанаў, і Віктар Ярац, і я, былі адпаведна «высланы» з БДУ.

Аднак жа гэты мой кароткі экскурс у 80-я не выпадковы. Бо гаворыцца не проста пра час нашай маладосці. Гаворыцца пра тую атмасферу, тую палітычную сітуацыю, калі носьбіты самой беларускай ідэі, асабліва таленавітыя літаратары, выводзіліся ў шэраг палітычна неблаганадзейных і нават небяспечных. Менавіта гэткім змагарным шляхам і ўвайшоў у беларускі літаратурны касмалогас Уладзімір Караткевіч. Менавіта такім — мужна-беларускім і таленавіта-непахісным — увайшоў ён і ў маё асабістае творчае жыццё. Нас яднала не толькі ўкраінская «чыгуначная» пляцоўка, расквечаная белапеннымі каштанамі, прасякнутая мілагучнымі ўкраінскімі песнямі і надзвычай метафарычнай украінскай паэзіяй. Нас лучыла агульная мроя — мроя пра Беларусь беларускую. Ці не таму належалі мы да агульнай сям'і аднадумцаў. Ці не таму на адным з першых фотаздымкаў, зробленых у Мінску, здаецца, Сяргеем Панізьнікам, побач са мною — сонечная Жэня Янішчыц, віхрасты Валодзя Караткевіч, стрымана-сур'ёзныя Вацлаў Жыдліцкі, Міхась Стральцоў... Пэўна, якраз тады, падчас нейкай звычайнай сяброўскай вечарыны з пітвом і смачнай ежаю, адбылася цесная мая сустрэча з пісьменнікам, які ўжо быў добра абазнаны ў літаратурным асяродку.

Той творчы беларускі асяродак звычайна прыходзіў да мяне найперш падчас рэдакцыйных сустрэч. Помню светлыя калідоры тагачаснага часопіса «Маладосць», дзе я чулася такой свойскаю пры сустрэчах з Міколам Аўрамчыкам, Верай Палтаран, Уладзімірам Караткевічам. Менавіта на гэтым калідоры адбылася яшчэ адна мая сустрэча з Караткевічам, што запомнілася аўтографам. Хітра ўсміхнуўшыся, Уладзімір, адгарнуўшы першую старонку свайго новага паэтычнага зборніка, напісаў: «У мяне ёсць бог адзіны. Ды не Сафо, а Коўтун Валянціна». І сам з задавальненнем уголас прачытаў свой экспромт...

Той радасны смех, тыя задаволена-рокатныя тоны ў Валодзевым голасе, здаецца, яшчэ доўгія гады заставаліся прысутнымі ў сімфоніі маёй жыццёвай паўсядзённасці. Калі зачытвалася і яго паэтычнымі імпрэсіямі, і яго заглыбленымі ў нацыянальную гісторыю празаічнымі творамі. Менавіта ён, Уладзімір Караткевіч, нязмушана прымусіў і ўсіх нас, і нашых суседзяў зірнуць на беларускую гісторыю як на багацейшую касмічную адметнасць. Менавіта ён, Караткевіч, распачаў апавядаць пра нацыянальную гісторыю зусім на-новаму, з новымі жывымі фарбамі, пахамі, суквеццямі падзей, лёсаў, фантастычных спалучэнняў заканамернага і выпадковага. Ён ствараў сваю літаратурную вотчыну

наступальна і мэтанакіравана, ад кнігі да кнігі, ад стагоддзя да стагоддзя. У рэшце рэшт, пісьменнік выяўляў, па-філасофску асэнсоўваў, фіксаваў, грануляваў, дзякуючы па-мастацку разгорнутым гістарычным характарам, генетычны код нацыянальнай мінуўшчыны, сучаснасці, наступнасці. Спазнаваў і расшыфроўваў генетычны код нацыі.

Верны рыцар Яе вялікасці беларускай нацыянальнай спадчыны, пісьменнік Караткевіч падыходзіў да гэтай незвычайнай красуні ўшчыльную... Але не толькі для таго, каб сказаць Даме сэрца камплімент ці пацалаваць руку. Ён гатовы быў аддаць ёй, і аддаваў, усё сваё дыханне, усе свае сілы і палёт думак, свае бяссонныя ночы і напружаныя дні. Урэшце, свой магутны талент. Гэта было стварэнне новай літаратурнай прасторы, новага стылю паводзін у чырвоным пісьменстве, выпрацоўкі новага кірунку і прызначэння мастацкага слова. Урэшце, адбывалася па-сапраўднаму патрыятычнае літаратурнае выхаванне і заваёва новага беларускага чытача. Чытача, які пачынаў захапляцца ўсім сваім. І ў першую чаргу сваёй беларускай бацькавінай. Пісьменнік-наватар ішоў да моладзі. І быў успрыняты моладдзю спаўна. Згадваю першы год майго настаўнічання. Гэта быў год выгнання з БДУ. Не дапусціўшы бунтарную студэнтку да аспірантуры, дэканат філфака «выслаў мяне» настаўнічаць у катастрафічна далёкія ад Мінска Варняны Астравецкага раёна на Гродзеншчыне. Аднак выгнанне тое было ў пэўным сэнсе шчаслівым і плённым, так як Астравеччына, дарэчы, цесна звязаная з лёсам блізкага сябра Караткевіча Адама Мальдзіса, суседзіла з Вільняю, што так увачавідкі нагадвала Львоў, прыцягнуўшы мяне і сваімі архівамі, і сваім асаблівым зместам. Усё тут дыхала беларускай гісторыяй, усё нагадвала і пра Цётку, і пра герояў рамана «Каласы пад сярпом тваім»... Менавіта тут, у Варнянскай сярэдняй школе, адчула я магутны ўплыў Караткевічавай прозы на моладзь.

...Чытаю на факультатыўных занятках для старшакласнікаў «Дзікае паляванне караля Стаха», па сутнасці, адзін з першых беларускіх гістарычных бестселераў. Слухачы — падлеткі-школьнікі з аддаленых вёсак, якім няпроста дабірацца на заняткі ў школу. Цяжка патрапіць і пасля заняткаў дахаты, бо аўтобусы па тым часе здараліся не так часта. Факультатыў праводзіцца пасля заняткаў. Часу вельмі мала. А ў класе агульная завароженая ўвага. Амаль здранцвенне. Усе — у прачытаным, усе ахоплены магіяй сюжэта і беларускай гістарычнай матэрыі.

Праз некалькі дзён, заходзячы ў клас, змеціла хітраватыя іскрынкі ў вачах сваіх старшакласнікаў. Не вытрымалі, нейкім чынам усё ж даехалі да Астраўца і ў раённай бібліятэцы прачыталі ў «Маладосці» апошнія старонкі Караткевічавай аповесці.

Нас бы, цяперашніх, так шукалі па бібліятэках, каб прачытаць! Нас бы так шанавалі!

Надоўга запомнілася і паездка на Украіну па запрашэнні ці не Кіеўскага таварыства кнігалюбаў... Ездзілі тады з Жэняй Янішчыц, Юрасём Свіркам, Уладзімірам Караткевічам, сустракаліся з украінскімі калегамі.

Дняпро... Вершы, экспромты... Бясконцыя сустрэчы з чытачамі. І басавітае Караткевічава чытанне любімага і такога, здавалася, просценькага верша «Заяц варыць піва»... Напісана бясхітрасна, немудрагеліста. А слухачам падабаецца...

І яшчэ адна, ужо апошняя сустрэча з Караткевічам. Ужо без яго самога. Сустрэча з неапублікаваным пры жыцці творам. Калі ў выдавецтва «Юнацтва», дзе я тады працавала ў рэдакцыі літаратуры для старэйшага школьнага ўзросту, сястра пісьменніка прынесла рукапіс ягонай ранняй аповесці «У снягах драмае вясна» — пра Кіеў, студэнцкую пару, падзенне і ўзвышэнне чалавечае годнасці. Пра незабыўную маладосць і ўсё, што ўзносіць у горнія прасцягі маральнай чысціні ці, наадварот, апускае чалавека ў бяздонне здрады, нікчэмнасці, подласці: усяго таго, што так часта перашкаджала жыць і працаваць і самому аўтару аповесці — аднаму з самых таленавітых беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя.

...Ён прыйшоў у сваю літаратуру і свой час, у сваю грамадскую супольнасць з такім адметным наватарскім светапоглядам, такой жыццёва запатрабаванай жыццём беларускай звышзадачай, што адразу ж вызначыўся стваральнікам, першапраходцам, пачынальнікам новага літаратурнага мацерыка. І назаўсёды акрэсліўся беларуска-знакавай Асобаю ў абсягах літаратурнага касмалогасу чалавецтва.

*2005*

## Уладзімір Ліпскі

# Планета Караткевіча



Уладзімір Караткевіч — чалавечая планета.

Яна — прыцягальная і таямнічая, далёкая і блізкая, вядомая і нязведаная. Яе хочацца спасцігнуць розумам, да яе цягнецца душа.

На Караткевічавай планеце — утульна ва ўсе часы, ва ўсе поры года. На ёй знаходзяць уцеху людзі розных узростаў, густаў. Тут можна адшукаць адказы на тыя пытанні, перад якімі бяссільныя акадэмічныя падручнікі, вопытныя настаўнікі.

Аднойчы я купіў кнігу паэзіі Уладзіміра Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду.». Пачаў чытаць з алоўкам, упускаючы на спод душы самае

кранальнае. На старонках восемдзесят чатыры — восемдзесят пяць я надоўга прыпыніўся.

Верш «Смяротная страта» стаў для мяне неверагодным адкрыццём. Уладзімір Сямёнавіч, з прысутнай яму вобразнасцю і адкрытасцю, апісвае сцэну забойства цара Аляксандра II. Здзейсніў той адчайны замах нарадаволец Ігнат Грынявіцкі з Бабруйшчыны. Караткевіч прысвячае яму свой верш і робіць нечаканую (ва ўсякім разе для мяне) выснову: Ігнат Грынявіцкі, сын Беларусі, сваім выбухам адпомсціў цару за 1863 год, за патопленае ў крыві паўстанне Кастуся Каліноўскага.

Далей чытаць кнігу «Быў. Ёсць. Буду.» я ўжо не змог. Палез у энцыклапедыі, даведнікі, у мемуарную літаратуру, якія былі пад рукой. У той вечар я даведаўся, што наш Ігнат Грынявіцкі быў у партыі «Народная воля», сябраваў з Андрэем Жалябавым, Соф'яй Пяроўскай, Мікалаем Кібальчычам, Цімафеем Міхайлавым. Божа мой, пра гэтых патрыётаў напісаны кнігі ў серыі ЖЗЛ, пра іх ведае свет. А чаму беларус Ігнат Грынявіцкі не ўвекавечаны? Каля верша Караткевіча я напісаў у яго кнізе: «Гэта ж аповесць! Хто ён, Ігнат?..»

Пачаліся мае творчыя пакуты. Я палез у мінскія і ленінградскія архівы, у аддзел рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі. Паехаў па беларуска-літоўскіх мясцінах, дзе ў свой час бываў Ігнат Грынявіцкі. Адкрыцці ашаламлялі мяне.

У той дзень, калі адбывалася каранацыя цара Аляксандра II, нарадзіўся Ігнат Грынявіцкі. Праз дваццаць пяць гадоў Ігнат і імператар сустрэнуцца каля Кацярынінскага канала ў Санкт-Пецярбургу. І на адно імгненне зазірнуць адзін аднаму ў вочы...

Ігнат, аказваецца, чытаў «Мужыцкую праўду» Кастуся Каліноўскага. Ён вучыўся ў Беластоку, пасля ў Санкт-Пецярбургу, і добра ведаў чым закончылася паўстанне ў Беларусі ў 1863 годзе, як жорстка быў пакараны яго кіраўнік.

У ноч перад замахам на цара Ігнат Грынявіцкі напісаў свой «Запавет»: «Гісторыя сведчыць, што раскошнае дрэва свабоды патрабуе чалавечых ахвяр. Мне не давядзецца ўдзельнічаць у апошняй барацьбе. Лёсам наканавана мне ранняя гібель. Я не ўбачу перамогі, не буду жыць ніводнага дня, ніводнае гадзіны ў светлы час урачыстасці, але лічу, што сваёй смерцю зраблю ўсё, што павінен быў зрабіць, і большага ад мяне ніхто ва ўсім свеце патрабаваць не зможа...»

1 сакавіка 1881 года выбух скалыхнуў набярэжную Кацярынінскага канала. У барвова-чорным мроіве Ігнат паспеў убачыць, як цар апускаўся перад ім на калені...

Сваю кнігу «Невядомы», аповесць пра Ігната Грынявіцкага, я прысвяціў незабыўнаму, мужнаму Уладзіміру Караткевічу, які сваім вершам «Смяротная страта» натхніў на гэту працу.

Я і цяпер у захапленні ад мудрасці, празорлівасці Уладзіміра Сямёнавіча. Здаецца, не было ў нашай гісторыі такіх падзей, такіх асоб, якіх бы не ведаў пісьменнік Караткевіч. Ён не проста назапашваў у сабе веды, ён іх прапускаў праз свой камп'ютэрны мозг і выдаваў часам такія вывады, з якімі цяжка было не пагадзіцца. Вось як пра Ігната Грынявіцкага: адным радком свайго прысвячэння ён даў ацэнку подзвігу беларуса-нарадавольца. Іншы навуковец для такога вываду гадамі б пісаў дысертацыю.

Энцыклапедычную дасведчанасць Уладзіміра Караткевіча хораша прыкмеціў яго сябар Рыгор Барадулін: «Ты ведаў як мала хто шмат, Ты штохвіліны імкнуўся даведацца яшчэ болей, дапасці да сутнасці, да першавытокаў сэнсу ўсяго нашага вокамгненнага зямнога бытавання — жыцця».

Пры ўсёй вялікасці ў творчасці, Уладзімір Караткевіч быў просты ў побыце, з людзьмі, на вуліцы. Да яго можна было дазваніцца, з ім можна было сустрэцца. Пакарыстаўшыся аднойчы такімі чалавечымі якасцямі вядомага пісьменніка, я папрасіў яго напісаць што-небудзь для чытачоў «Вясёлкі». Ведаў, Уладзімір Сямёнавіч заўсёды загружаны працай, на яго рабочым стале — тоўстыя рукапісы для дарослых. А так хацелася, каб літаратурны мудрэц адкрыў залацінкі свайго творчага скарбу самым юным чытачам, якія толькі-толькі пачынаюць спасцігаць родную мову.

У восьмым томе Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ў «Летапісе жыцця і творчасці» за 1980 год ёсць запіс: *«Ліпень, 20 — жнівень, 12 (?)* Лячыўся ў санаторыі «Беларусь» у Друскінінкаі. Закончыў для час. «Вясёлка» казкі «Вясна ўвосень» (31 ліпеня) і «Жабкі і Чарапаха» (1 жніўня)».

Мы надрукавалі ў лістападаўскім нумары казку Уладзіміра Караткевіча «Вясна ўвосень». Для ўсіх вясёлкаўцаў гэта публікацыя стала святам: сам Караткевіч спецыяльна для нашых чытачоў напісаў казку!

А сюжэт казкі — просты і мудры. Захварэў хлопчык Янка. Заўтра ў яго дзень нараджэння, а ён увесь чырвоны, нічога не бачыць і не чуе. Здаецца Янку: шуміць цёмнае мора пад хмарамі, а чорныя караблі адвозяць у невядомы свет усе ягоныя цацкі. Нічога не хоча хворы хлопчык. Толькі просіць сонейка. А якое ж сонейка ўвосень? Мама толькі развяла рукамі. А сястрычка Аленка моўчкі ўзяла плашчык ды пайшла сонейка шукаць, брацікa ратаваць.

Аленка, як кажуць дарослыя, падняла на ногі сонных жабак, мокрых вераб'ёў, шчыглоў, сінічак, ляснога зайца, калючага вожыка. Прачнулася і сонейка, зацікавілася: што там, на зямлі, за вясенні канцэрт? Зазірнула сонейка і ў акно, за якім ляжаў хворы Янка. Аленка пакланілася ўсім добрым сябрам. Заплакала. З радасці. «А Янка-брацік спаў. І плылі да яго пад Сонейкам, вярталіся светлыя караблі...»

Гэту светлую казку Уладзіміра Караткевіча ў розныя гады мы перадрукоўвалі некалькі разоў, як і яго казку «Жабкі і Чарапаха». А тады, у лістападзе 1980 года, свежы нумар часопіса і ляльку Вася Вясёлкін я ўручыў Уладзіміру Сямёнавічу на яго юбілейным вечары, які праходзіў у Доме літаратара. «Пра сілу і красу караткевічаўскага слова» гаварылі ў той вечар Васіль Быкаў, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Іван Пташнікаў, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Анатоль Кудравец і шмат хто яшчэ. Але, думаецца, не згубілася і маё, вясёлкаўскае прывітанне. Разам з падарункамі я агучыў пісьмо Уладзіміра Сямёнавіча, якое ён напісаў нам з санаторыя, суправаджаючы ў рэдакцыю свае арыгінальныя казкі. Роўным, уборыстым почыркам ён пісаў чорнымі чарнілами: «Ох, браткі, каб жа я зараней ведаў, якое цяжкое вы далі мне заданне, я б ніколі не падмеўся пісаць для вашых маленькіх, але вельмі патрабавальных чытачоў...» Пісьмо цытую па памяці, бо арыгінал перадалі некалі ў архіў. У ім, у Караткевічавай манеры, даецца ацэнка твораў для дзяцей, вызначаецца вялікая адказнасць аўтара перад юнымі чытачамі. Пісьмо і казкі Уладзіміра Караткевіча сталі для нас, вясёлкаўцаў, павучальным урокам класіка.

На сваёй планеце, як і ва ўсёй Беларусі, Караткевіч быў вольным, незалежным чалавекам. У сябры не набіваўся, да начальства не падлізваўся, а ў што верыў, чаму служыў, то гэта — без падману і надзейна. У яго ўсё сваё, адметнае: паходка, постаць, звычкі, мова. Свой характар!

Аднойчы я меў вельмі даверлівую гутарку з былым сакратаром ЦК КПБ Аляксандрам Трыфанавічам Кузьміным. Мы сядзелі з ім у яго дачнай альтанцы, і ён багата чаго прыгадваў. Расказаў, дарэчы, як аднойчы ўдалося яму заманіць у свой кабінет самога Караткевіча. Хацелася прыблізіць, прылашчыць да ўлады вялікага творцу. Размова была доўгай, таварыскай. На развітанне Кузьмін сказаў: «Уладзімір Сямёнавіч, калі ўзнікне патрэба, заходзьце да мяне ў любы час, мінуючы варту, памочніка, сакратара».

— Праз нейкі час,— расказаў Кузьмін,— звоніць мне Караткевіч і кажа, што хоча зазірнуць на хвілінку. Калі ласка, адказваю, чакаю вас. Прыходзіць, здароўкаемся. Запрашаю прысесці. Не, кажа, я на адну хвілінку. Выцягвае з кішэні жменю таблетак і падае мне: «Аляксандр Трыфанавіч, мяне пачаставалі. Вельмі патрэбныя пасля выпіўкі. Імгненна здымаюць пах і хмель. Вырашыў з вамі падзяліцца...» Мы пасмяяліся. Я прыняў Караткевічаў падарунак. Як мне здаецца, пісьменнік праверыў мяне, ці праўда, што з ім хачу таварышаваць...

Вось такі быў наш Караткевіч. Чаму быў? Ён ёсць! У кніжках, успамінах, у нашай памяці. Нядаўна мне прызналася адна медсястра: «Не паверыце, выключыла тэлевізар і ўзяла кніжку Караткевіча. Захацелася душэўнага цяпла...»

Мне таксама час ад часу хочацца пачытаць Караткевіча, павучыцца ў яго, паслухаць мудраца. Жыву з адчуваннем: мы з Уладзімірам Сямёнавічам — радня. Яго бацька Сямён Цімафеевіч — родам з-пад Рагачова. Мая мама ў першым замужжы за Міхаілам Караткевічам, родам з-пад Жлобіна. От бы паразумецца нам, калі мы жылі з Уладзімірам Караткевічам на адной вуліцы ў Мінску, калі сустракаліся ў Саюзе пісьменнікаў, на з'ездах, калі ён друкаваў свае казкі ў «Вясёлцы»!

Спазніўся блізка пазнаёміцца, пасябраваць, падарыць яму свае дагадкі. Усцешваю сябе, што «Каласы пад сярпом тваім» — самы перачытваемы мною раман, а «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» не залежваецца на маёй паліцы. Блізка ў сэрца запусціў запавет незабыўнага літаратурнага брата Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча: «Трэба працаваць. Не для сябе, а для маёй роднай краіны, для Беларусі, якой, калі дазволіць лёс, я паслужу, колькі будзе дадзена дзён,— многа або мала, але да канца».

Дзякуй, дарагі Уладзімір Сямёнавіч, за навуку любіць да слёз нашу мілую радзіму Беларусь.

*2005*

## Ванкарэм Нікіфаровіч

# «Я імгненне жыву, і памру на імгненне...»

Ён нарадзіўся 26 лістапада. Гэтая ж дата — так супала — ёсць і дзень смерці вялікага сына зямлі беларускай Адама Міцкевіча, уплыў асобы і творчасці якога Уладзімір Караткевіч адчуваў усё сваё жыццё. Можа, таму ён так звяртаўся да слыннага класіка: «Кажуць, што ў ноч на дваццаць шостага лістапада ты з'яўляешся на зямлю, якая цябе нарадзіла, і ходзіш па ёй, заглядаючы ў кожную хату, у кожную адрыну, на дно кожнага глыбокага возера... Нячутныя крокі твае, а вочы з пяшчотнасцю нябачанай глядзяць на гэту простую і мілую зямлю...»



Гэтыя словы прыгадаліся сёлета, напярэдадні сямідзесяціпяцігоддзя Уладзіміра Караткевіча. Які дзіўны перагук так званых «круглых» дат: роўна 150 гадоў таму не стала вялікага польскага і ўсіх славян паэта Адама Міцкевіча, а Уладзіміру Караткевічу, выдатнейшаму беларускаму пісьменніку, было б роўна 75... І падумалася, што тыя згаданыя словы ён мог сказаць і пра сябе самога. Бо ён заўсёды ёсць і будзе разам з намі,

пакуль будзе жыць наш край і яго людзі, пакуль будуць жыць беларуская мова і беларускі народ.

І яшчэ адна цытата з Уладзіміра Караткевіча не забываецца, асабліва тут, у эміграцыі:

> Беларусь! Зялёная, залатая!
> Край мой светлы, што выпіў мора пакут!
> Да апошняй бярозы багаслаўляю
> Светлы дзень, калі я нарадзіўся тут!

Пражыць Уладзіміру Караткевічу давялося толькі пяцьдзесят чатыры гады. Але ён паспеў пакінуць нашчадкам найвыдатнейшую літаратурную спадчыну, якой сёння ганарыцца і беларуская, і сусветная літаратура: раманы, аповесці і апавяданні, п'есы, нарысы, найцікавейшая публіцыстыка і эсэістыка, сцэнарыі кінафільмаў і тэлевізійных праграм. Жыццё і творчасць Уладзіміра Караткевіча — сапраўдны ўзор незвычайнай самаадданай любові да радзімы, заснаванай на высокай чалавечнасці, на канцэпцыі Чалавека ў нашым сённяшнім разуменні, на сучасным падыходзе да гісторыі Беларусі, гісторыі барацьбы яе народа за свабоду і незалежнасць. Сваёй палымянай творчасцю, яе ідэйным зместам, яе жанравым багаццем і высокімі эстэтычнымі вартасцямі Уладзімір Караткевіч працягваў і пашыраў традыцыі і славу беларускай літаратуры, што ішлі ад Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа.

...Мы з ім пазнаёміліся вельмі даўно, ці не на самым пачатку шасцідзесятых, калі Уладзімір Караткевіч, вярнуўшыся з Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве, стаў жыць у Мінску. Быў мой дзень нараджэння; святкавалі ў нашай аднапакаёвай кватэры на бульвары Шаўчэнкі. Запрасіў я тады да сябе Івана Бурсава, Міхася Стральцова ды Рыгора Барадуліна. Усе ў час сабраліся, аднаго толькі Рыгора доўга не было. Нарэшце — званок у дзверы, я адчыняю, стаіць Барадулін. «Вось табе, Ванкарэм, жывы падарунак,— гаворыць ён і робіць крок убок. За ім стаіць, сарамліва ўсміхаючыся, высокі і хударлявы малады чалавек.— Знаёмся, гэта Уладзімір Караткевіч».

З таго часу мы моцна пасябравалі. Я бясконца ўдзячны яму за незвычайную чалавечую ўвагу і шчырасць, за гатоўнасць у любы час прыйсці на дапамогу. Толькі адзін прыклад: праз колькі год ён сам прыйшоў на тэлебачанне, дзе я тады працаваў, і сказаў, што напісаў рэкамендацыю, каб мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, хоць я да яго з такой просьбай раней не звяртаўся. Сказаў таксама, каб я афармляў усе неабходныя дакументы, паведаміў, што ён дамовіўся з Юркам Гаўруком і Язэпам Семяжонам — яны таксама дадуць неабходныя рэкамендацыі. Потым было многа і сустрэч, і гутарак, і сумесных вандровак; асабліва запомніліся паездкі разам з Уладзімірам Караткевічам па Карэліцкім

раёне, па Наваградчыне, дзе ён расказваў пра Адама Міцкевіча і пра многія слынныя старонкі беларускай гісторыі, а таксама было цудоўнейшае сумеснае падарожжа ў Вільню, дзе ён ведаў абсалютна ўсё пра кожную вулку, будынак, узгорак, помнік, камень...

Тады, у далёкім ужо 1966 годзе, я працаваў у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Шукаючы нейкія новыя, уласцівыя тэлебачанню формы, прапанаваў кіраўніцтву стварыць серыю праграм, прысвечаных літаратурным і культурным узаемасувязям Беларусі з іншымі народамі. Першаму расказаў пра задуму Уладзіміру Караткевічу. Ён актыўна ўхваліў ідэю, згадзіўся быць аўтарам сцэнарыя шэрагу праграм і сам прапанаваў распачаць гэты серыял перадачай пра нашыя ўзаемасувязі з Літвой. Помню, якія ўсхваляваныя водгукі мы атрымалі пасля гэтай праграмы, якую вёў Уладзімір Караткевіч і якая ішла тады ў эфіры на ўсю Беларусь і Прыбалтыку. Асаблівую цікавасць выклікаў тады расповед аўтара пра Вільню — калыску беларускай культуры і беларускага адраджэння. Уладзімір Караткевіч расказваў і пра славутых дзеячаў польскай, літоўскай, яўрэйскай, рускай культур, жыццё і дзейнасць якіх былі звязаны з гэтым горадам і гэтым старадаўнім беларускім краем. І ў той праграме, як і ў многіх сваіх творах, ён падкрэсліваў выключную традыцыйную талерантнасць беларусаў, іх спрадвечную павагу да суседзяў, жаданне жыць з імі ў міры і дружбе.

Свой верш-заклік да дружбы і братэрства розных народаў назваў сімвалічна: «Сплятайце рукі!» Працытую радкі, якія адразу запомніліся назаўжды:

Хто сказаў, што патрэбныя слёзы?
Хто сказаў, што розны наш лёс,
І таму, што насы ў нас розныя,
Ты павінен разбіць мне нос?
Хай ён нюхае лепей кветкі
Ці каханай сваёй валасы.
Месца хопіць для ўсіх на палетках,
І на ўсіх хопіць веснай красы.

На ўзнёслыя радкі выключнай мастацкай сілы Уладзіміра Караткевіча, апрача «Вільні ў дождж», Гародні і Магілёва, Мінска і Навагрудка, Оршы і Мсціслава, Полацка і Віцебска, натхнялі і іншыя далягляды: Пячэрск у Кіеве і Домская вежа ў Старой Рызе, горы Арменіі, «што крывавяць ад ран», Чатырдаг і Чуфут-Кале ў Таўрыдзе, Марыяцкі сабор і вуліца Дэшчавая ў Кракаве, слёзы фантана Бахчысарая, «быццам расінкі вясёлак з дубоў беларускіх», «кроў Іліяды, попел Плошчы кветак, Рагнеды плач і Хірасімы прах»... У яго паэзію і прозу асацыятыўна ўрываліся рытмы і мелодыі Чайкоўскага, Шапэна, Шуберта, Бетховена, Манюшкі, Агінскага, магутныя выяўленчыя вобразы Рафаэля, Рублёва, Босха, Брэйгеля, Дэга, Курбэ, Пікасо, Чурлёніса, Гоі, Шагала, Рушчыца, Драздовіча. У ягонай кватэры ў

Мінску можна было сустрэцца і пазнаёміцца з балгарамі Георгіем Вылчавым і Сімяонам Уладзіміравым, немцам Норбертам Рандавым, чэхам Вацлавам Жыдліцкім, славакам Душанам Слабоднікам, палякам Фларыянам Няўважным, беларусамі з Польшчы Янам Гушчам, Алесем Баршчэўскім і многімі іншымі, хто неслі і сёння нясуць у свет слова пра Беларусь, пра яе народ, пра яго культуру і духоўнасць. Згадваецца, што мне пашчасціла прывесці да Караткевіча і пазнаёміць з ім Георгія Вылчава, Сімяона Уладзімірава, калі яны прыязджалі ў Мінск. Ды і Норберта Рандава, з якім да гэтага я двойчы сустракаўся на семінарах у Балгарыі і якому тады многа расказваў пра Беларусь і беларускіх пісьменнікаў.

Сёння асабліва хочацца падкрэсліць, што адным з найкаштоўнейшых урокаў Уладзіміра Караткевіча ёсць менавіта гэты: можа, нашым цяперашнім працэсам барацьбы за дэмакратыю, за суверэнітэт і за незалежнасць, за адраджэнне роднай мовы, спадчыны і духоўнасці не хапае часам такога шырокага інтэрнацыянальнага, скажам так, погляду, падыходу да многіх праблем і пытанняў? Погляду Максіма Багдановіча, што гучыць у яговых славутых словах аб тым, што «ня толькі беларускаму народу, але і ўсясветнай культуры...» нясём мы свой дар,— словах, якія часта любіў прыгадваць Уладзімір Караткевіч? Можа, такі падыход хутчэй будзе спрыяць так патрэбнаму сёння на Беларусі рэальнаму аб'яднанню ўсіх нацыянальна свядомых сіл, рухаў, напрамкаў і ўсіх, заклапочаных тым, каб Беларусь найхутчэй заняла «свой пачэсны пасад між народамі»?..

Уладзімір Караткевіч пакінуў багатую спадчыну ва ўсіх літаратурных жанрах; паступова яна прыходзіць і да новага пакалення чытачоў, удзельнічаючы ў фарміраванні яго нацыянальнай самасвядомасці. Хацелася б толькі, каб была звернута належная ўвага і да яго яскравых драматургічных твораў. Думаецца, што яшчэ наперадзе іх сцэнічнае адкрыццё і мастацка-вобразнае ўвасабленне ў тэатрах Беларусі і іншых краін. Уладзіміру Караткевічу быў уласцівы свой, адметны падыход да драматургіі, сваё сцэнічнае бачанне створаных ім вобразаў. Прыгадваю, як праз колькі гадоў пасля смерці Валодзі мяне ўразілі рукапіс першага варыянта яго народнай драмы «Руна пра Кастуся» і своеасаблівая прадмова — зварот аўтара да тэатра і артыстаў, што я знайшоў у музеі-архіве Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы. Адразу ж здзівіла дакладнае веданне Караткевічам прыроды і сутнасці тэатра, законаў сцэнічнага мастацтва. Тады я і зрабіў сабе некаторыя выпіскі з гэтага «Звароту». Аўтар адразу просіць акцёраў «не ірваць страсці ў шматкі». Жанр сваёй п'есы ён вызначае як «паданне, песня, а людзі паданняў павінны быць значна цішэйшымі, чым жывыя, больш задушэўнымі і стрымана-рамантычнымі». Цікавая заўвага і пра народныя сцэны: «За ўсім гэтым павінна цвёрда праглядваць веліч, бо яны — звычайныя

людзі — героі трагедыі, хоць самі і не разумеюць гэтага». Далей драматург удакладняе: «Нашы героі проста людзі, выключныя людзі, вельмі страсныя, добрыя і чалавечныя. Яны робяць тысячы памылак, але з гэтай прычыны яшчэ больш дарагія нам, бо іхнія памылкі таксама ад любові... Усе ў п'есе павінны быць людзьмі. Людзі — вось што галоўнае... Людзі, скутыя адным ланцугом... Людзі, якія жылі сто год назад, але якіх мы разумеем, магчыма, лепей, чым сучаснікаў».

Не ўпэўнены, ці надрукаваны дагэтуль гэты «Зварот» Уладзіміра Караткевіча. Лічу, што і ён, як і многае напісанае нашым выдатным творцам, гучыць з кожным годам значна шырэй, актуальней, асабліва з пункту гледжання сённяшняй сацыяльна-культурнай сітуацыі ў Беларусі.

Давайце ж, успамінаючы Уладзіміра Караткевіча, аддаючы належнае ягонай літаратурнай спадчыне, не ўяўляючы без яго нашу беларускую духоўнасць, прыслухаемся яшчэ раз да яго ўрокаў-запаветаў. А гэта значыць, будзем рабіць усё, каб наблізіць здзяйсненне яго самай запаветнай мары: «Толькі б вечнае шчасце каханай старонцы маёй».

*2005*

## Вячаслаў Рагойша

# «Дыплём» Уладзіміра Караткевіча

Быў гарачы чэрвень 1967 года. Гарачы ў прамым і пераносным сэнсе. У пераносным — найперш для мяне. Я рыхтаваўся да абароны кандыдацкай дысертацыі. Хто ўдзельнічаў у гэтай акцыі, зразумее маё адчуванне. А тут яшчэ пабочныя акалічнасці: гэта была першая абарона на толькі што створаным, першым у гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта спецыялізаваным савеце па літаратуразнаўстве; да гэтага мой напарнік (Павел Ткачоў), з якім мы павінны былі абараняцца ў адзін дзень, не паспеў з выданнем аўтарэферата, і я застаўся сам-насам...

Расказваю пра ўсё гэта, каб вы адчулі мой стан 14 чэрвеня 1967 года, калі я стаяў за высокай трыбунай перад перапоўненай залай на Чырвонаармейскай вуліцы стольнага Мінска (там калісьці размяшчаўся філфак БДУ), даводзячы сябрам вучонага савета (і ўсім прысутным) слушнасць асобных палажэнняў даследавання «Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша». Ад хвалявання аўдыторыю перад сабой я бачыў як у тумане. Тым больш апошнія рады прысутных, дзе сядзеў і нешта старанна запісваў (як мне здавалася) Уладзімір Караткевіч.

З Караткевічам, дзякуючы Адаму Мальдзісу, мы асабіста пазнаёміліся і паразумеліся годам раней. Хто з тагачасных студэнтаў і аспірантаў, для якіх Бацькаўшчына была больш чым месцам пражывання, а мова — больш чым сродкам зносін, не марыў сустрэцца і пазнаёміцца з «самім» Караткевічам! Ужо выйшлі з друку яго патрыятычныя, асвяжальныя, як глыток марознага паветра, зборнікі вершаў «Матчына душа» (1958), «Вячэрнія ветразі» (1960), кніга рамантычных апавяданняў і аповесцей «Блакіт і золата дня» (1961), з рук у рукі хадзілі нумары «Полымя» з гістарычнымі раманамі «Нельга забыць» (1962), «Каласы пад сярпом тваім» (1965) і «Маладосць» — з захапляльным «Дзікім паляваннем караля Стаха» (1964)... Памятаю, як я падпільноўваў Караткевіча каля будынка кансерваторыі пасля векапомнага выступлення ў ёй знакамітага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Было гэта яшчэ ў маі 1963 года. Падпільноўваў, каб толькі сфатаграфаваць пісьменніка, і потым, паказваючы здымак, хваліцца перад студэнтамі-аднакурснікамі... Зразумела, што на сваё трывожнае свята (а абарона дысертацыі і ёсць такое свята) Караткевіча я не мог не запрасіць.

Абарона закончылася паспяхова. Хоць перад гэтым і была даволі вострая дыскусія пра разуменне сутнасці самой паэтыкі твора (некаторыя навукоўцы па-даўнейшаму яе не прымалі ці разумелі не іначай як стыль твора), пра вартасці і неабходнасць для беларускай паэзіі верлібра, гарачым абаронцам якога я выступаў,— вучоны савет аднагалосна прысудзіў мне вучоную ступень кандыдата філалагічных навук. Гэта была перамога. Адным з першых павіншаваць мяне прыйшоў Караткевіч. «Віншую, шчыра віншую! — сказаў ён, моцна ціснучы руку.— А яшчэ павіншую на другой частцы абароны».

«Другая частка» адбывалася ў кафэ «Тэатральнае». За сталом рэй вёў мой навуковы кіраўнік, загадчык кафедры беларускай літаратуры прафесар Міхась Рыгоравіч Ларчанка. Ён таксама меў пэўны сентымент да Караткевіча. Таму слова яму даў аднаму з першых. «Слухай, стары! — звярнуўся ён да мяне, хаця гэты «стары» быў ад яго маладзейшы больш чым на дзесяць гадоў.— Усе мы, твае сябры, яшчэ раз ад усяго сэрца віншуем цябе з выдатнай абаронай кандыдацкай дысертацыі! Абарона была такая выдатная, што ўжо сёння, не чакаючы, калі табе ВАКнецца, мы вырашылі ўручыць табе свой дыплом. Паслухай...» І Караткевіч сваім зычным, выдатна пастаўленым акцёрскім голасам стаў чытаць:

*«Дыплём»*

*Шматпаважанаму мэтру, ілюстрымісе Рагойшу, як беларускія, так і іншыя элаквенцыі майстру, які вырас сам, без дапамогі тых, што «дапамагалі яму расці», як сцвярджае ён у сціпласці сваёй.*

*На знак таго, што спасцігнуў ён навукі, што калі ёсць танк, то ён — глабальная ракета.*

*На знак таго, што кандыдат ён у правадзейныя члены акадэміі, а карэспандэнт-членам яму не быць, бо «ежалі розуму ў каго не хапае, але карысць навуцы можа прынесці — тым лічыцца членамі-карэспандэнтамі».*
*Табе ж прэзідэнтам акадэміі быці або рэктарам быці, а іначай — не!!!»*

Сказаўшы гэта, Караткевіч адным глытком апаражніў бакал з шампанскім, а потым, шырока размахнуўшыся, ляснуў хрустальны бакал аб падлогу. «На шчасце». Падышоў да М. Ларчанкі, папрасіў яго распісацца на «Дыплёме», з гэтай жа просьбай звярнуўся да Ю. Пшыркова, А. Лойкі, І. Шаблоўскай і некаторых іншых гасцей, потым — пад апладысменты прысутных — уручыў яго мне.

«Дыплём», намаляваны (не памыляюся — сапраўды намаляваны!) на асобных лістках белай паперы «ў васьмушку», быў апраўлены ў вокладкі з такой жа паперы. («Аказваецца, вось чым займаўся Валодзя, старанна нешта крэмзаючы за сталом вучонай аўдыторыі!») На першай старонцы вокладкі, на фоне запаленай паходні, стаяла: «На абароне адной дысертацыі. 1967 год. 14 чэрвеня». Яшчэ ніжэй: «Мэтру Славу Рагойшу ад падмайстра Вовы Караткевіча». Затым, на асобных лістках-укладышах, ішлі арыгінальныя, я сказаў бы, высокапрафесійныя малюнкі Караткевіча — партрэты прысутных. Некалькімі скупымі штрыхамі Караткевіч не толькі «схопліваў» рэальныя рысы тых ці іншых абліччаў, але і перадаваў характар чалавека. Дакладней, асноўную рысу характару. Здзіўляе мяне дагэтуль, як мастак (так, мастак!), які, магчыма, першы раз бачыў чалавека, мог так адразу «вычуць» характар, убачыць яго характэрную паставу, манеру трымацца, слухаць... Вось некалькі дзявочых партрэтаў, з якіх пачынаецца «Дыплём»,— «Дзяўчаты на славутай абароне (1967 г.) Славы Рагойшы (1942 года)». Назваўшы гады, Караткевіч, відаць, тым самым падкрэсліў маладосць дысертанта. Вось два партрэты з надпісам «На абароне дысертацыі» — тагачаснага старшыні вучонага савета прафесара М. Г. Булахава, а таксама Дзмітрыя Бугаёва, вядомага крытыка, літаратуразнаўцы. Спачатку партрэт Бугаёва не атрымаўся, і Караткевіч яго перакрэсліў. Затым анфас замяніў профілем, намаляваным са спіны, з выразным тыпова бугаёўскім паваротам галавы. Трэцяя старонка «Дыплёма» змяшчае аўтапартрэт Караткевіча з засведчаным месцам падзеі: «На абароне дысертацыі Славы». Гэта — адзін з двух-трох аўтапартрэтаў пісьменніка, на маю думку, найбольш дасканалы. Затым паказаны «Неафіцыйны апанент на "імянінах дысертанта"». Усяго некалькі штрышкоў, нават не ўвесь твар, а яго верхняя палова — нос, акуляры, вялікая залысіна, і мы можам лёгка пазнаць прафесара і паэта Алега Лойку, які на абароне сапраўды выступаў як неафіцыйны апанент і якому дысертант шчыра дзякаваў як «неафіцыйнаму кіраўніку» навуковай працы.

Нарэшце два малюнкі, што ўслаўляюць самога дысертанта: шарж «Муза вянчае Славу» і яго партрэт з подпісам «vers libre» (указанне на тое, што я змагаўся за непрызнаны тады яшчэ свабодны верш, або верлібр). Апошняя старонка вокладкі «Дыплёма» таксама не пуставала. На ёй — багіня Перамогі з запаленай паходняй, што сядзіць на спіне льва — сімвале моцы і ўлады. І подпіс, зноў у духу Караткевіча і нашага сяброўства: «Светачу чалавецтва ад сяброў-падсвечнікаў»...

Сёння, калі я разгортваю гэты, відаць, самы унікальны сярод маіх навуковых дакументаў «дыплём», разглядаю яго, чытаю напісаныя чорным чарнілам, старанным караткевічаўскім почыркам гумарыстычныя подпісы пад малюнкамі, мяне агортвае тужлівая радасць. Радасць — бо былі амаль два дзесяцігоддзі блізкіх узаемаадносін, шчырага сяброўства з гэтым геніяльным (так, геніяльным!) чалавекам. Тужлівыя — бо так рана пайшоў ён з жыцця, рэалізаваўшы, можа, толькі дзесятую частку сваіх творчых мажлівасцей. Але і гэтага дастаткова, каб навечна застацца ў памяці ўдзячных патомкаў, стаць класікам беларускай літаратуры, тытанам беларускага Адраджэння.

*2000*

## Давід Сімановіч

# Ліст з маладосці

**Дзённікавыя запісы з кнігі «Віцебскі вакзал, або Вячэрнія прагулкі праз гады»**

*Красавік 1958 года*

Быў у Віцебску адразу на двух вялікіх мерапрыемствах. Нарада настаўнікаў вобласці і сход работнікаў мастацтва. Мяне выклікалі з Крынак. А з Оршы прыехаў Уладзімір Караткевіч. Яго імя мне ўжо вядома. Друкуецца. Выкладае ў аршанскай школе, як і я ў Крынкаўскай, рускую мову і літаратуру. Закончыў Кіеўскі універсітэт. А піша па-беларуску... Якое сузвецце моўнае!.. Здаецца, мы прыйшліся па душы: ён — мне, я — яму...

Пазнаёміліся — і ўжо не маглі спыніцца, вялі бясконцыя размовы пра жыццё, літаратуру, гісторыю і, вядома ж, пра сябе... А колькі вершаў прачыталі два настаўнікі: сельскі — я і гарадскі — ён.

Паабедалі ў рэстаране «Аўрора», выпілі белага віна, многа жартавалі, смяяліся. А потым яшчэ абодва, нейкія вясновыя і ззяючыя,

пайшлі на спатканне да маёй сяброўкі, разам чакалі яе і ўтраіх пагулялі па Віцебску.

Быў цёплы вясновы вечар. І на душы было таксама цёпла ад сустрэчы, размоў і чакання нечага вялікага і светлага, што чакала — не магло не чакаць! — кожнага з нас.

Сустрэчныя гараджане звярталі ўвагу на субяседнікаў, якія гучна гаварылі і размахвалі рукамі, на рытмічныя рыфмаваныя іх размовы. А мы не заўважалі нічога. Толькі спадарожніца наша часам упрошвала: «Цішэй, хлопцы, мы не адны на вуліцы...»

Уладзімір чытаў сваіх «Калумбаў». Я — «Верш пра мастака Левітана». Потым іншыя вершы — свае і чужыя.

Апрануты Уладзімір быў проста, як і я. А яму асаблівы каларыт надавала тое, што шыя была абкручана чамусьці беласнежным бінтам.

Позна ўвечары мы прыйшлі на вакзал да цягніка на Оршу, развіталіся і дамовіліся пісаць лісты, а для пачатку перапісаць і даслаць яшчэ неапублікаваныя свае вершы...

*Чэрвень 1958 года*

Атрымаў добрую вестку ад Уладзіміра. Разборлівым почыркам выведзены радкі «Калумбаў» і пісьмо — якое пісьмо!.. А на канверце замест адраса: «Давіду Сімановічу на станцыю Крынкі ад Уладзіміра Караткевіча з Оршы». Як такі ліст дайшоў да адрасата? Але дайшоў...

Пераношу яго ў дзённік.

«Шаноўны знішчальнік літаратурных Галіяфаў!

Лайдак ты, браце, вось што! Чакай, я яшчэ дабяруся неяк да цябе, калі прыеду ў Віцебск, будзеш ты глядзець на свет праз уласныя рэбры. Адзіным суцяшэннем для мяне з'яўляецца тое, што я і сам такі самы лайдак, калі яшчэ не горшы. З вершамі затрымаўся, нікому не пішу, нічога не пішу — бяда, дый толькі. Праўда, у школе маёй ідуць экзамены, і я сяджу там, як ёлуп, на розных там геаметрыях. Памятаеш, як у пятроўскія часы казалі: «Богомерзостен пред господом богом всяк, любяй геометриу».

Вядома, значна лепей было б зараз шпацыраваць па гульвару з асобай, пра якую зноў-такі продкі казалі: «Нагами намизающа, вачыма играюща. Завесила вушы камением драгим и не слухае слова божага».



Але гэта ўсё пакуль што толькі мара. Пакуль што існуюць лаянкі, спрэчкі і іншыя пастылыя аксэсуары настаўніцкай нівы і фразы з твораў накшталт: «Пьера женили на Элен, но он сам не понимал: зачем это». Або: «Плюшкин был прорехой в теле человечества: опустился до такой степени низости, что нельзя было различить, мужчина он или женщина».

Дасылаю табе сваіх «Калумбаў», а ты мне дашлі свайго «Левітана», рэч патрасаючую. Не бойся: Інстытут Прыстойных Людзей імя Берыя нядаўна зачынілі, «перапраізводства», а то былі б мы там кандыдатамі з табою.

Я, браце, таксама часта прыпамінаю нашу кароткую і такую добрую сустрэчу. Застаецца яна мне як адзін з лепшых успамінаў. І думаю, што гэта не апошняя сустрэча. Прывітанне тваёй сімпатычнай сяброўцы ад аршанскага барсука. Хай не думае, што я такі непрыгожы. Шыя мая прайшла, і я зараз гожы, тоўсты парніша.

Ну, паціскаю лапу. Дасылай верш. *Твой Уладзімір*».

*22 чэрвеня 1958 года*

У Лёзненскім Доме культуры — мой даклад на вечары «Беларуская паэзія за 40 год». Чытаў вершы Купалы і Коласа, Броўкі і Панчанкі. Сказаў, што мне прыслаў свой верш малады паэт Уладзімір Караткевіч і прачытаў на памяць «Калумбаў», хаця рукой Валодзі пасля першых 16 радкоў пазначана: «Верш пачынаецца адсюль». І ўсё ж я пазнаёміў аўдыторыю з ім цалкам і высока ўзняў канцоўку:

А я ў народ мой заўсёды веру,
І для яго, як вопытны кормшчык,
Адкрыю найлепшую ў свеце Амерыку
(Вёску Амерыку, што пад Оршай).

Верш, які называецца «Калумбы зямлі незнаёмай», хоць і з Валодзевай паметкай «адкінуць першыя радкі», я друкаваў бы цалкам. І пачатак няхай будзе ў дзённіку:

Мяне запрасілі, як нейкага прынца,
На цёплы вечар у прыватным салоне.
На зборы вольных паэтаў правінцыі
У дом ля калішняй царквы Гумёнаў.
Былі там да́мы з абліччамі слёзнымі,
Кандыдат навук з кампілятарскай кніжкай,
Служачых пара, настаўнікі розныя
І нават дзве-тры вялікія шышкі,
Нашых кніг спажыўцы пагардныя,
Ідэйны ліхвяр, чатыры студэнты...
Ну, словам, поступу нашага барды
З гордай назваю: інтэлігенты.
І ўсе яны разважалі пра славу,
Пра геніяў іншых краін разважалі,
Чыталі вершы, па-польску нават,
І толькі на ўласную мову плявалі...

А Валодзя лічыць, што пачынаць трэба з радка «Паэт лахмаціў валоссе кудлатае»...

*Верасень 1958 года*

З Мікалаем Спаткаем (ён рэдактар, а я член рэдкалегіі) падпісваем у друк альманах «Дзвіна». У ім тры вершы Караткевіча: «Орша», «Спадарожніку зямлі», «Праменьчык»...

*4 кастрычніка 1958 года*

Трымаю ў руках першую кніжку Валодзі, ён назваў яе «Матчына душа»... Сёння паслаў яму тэлеграму:

Нават сто паэтаў у складчыну
Не напішуць душу матчыну!..

Вядома ж, я маю на ўвазе, што такую кніжку, як напісаў Караткевіч, не можа стварыць разам нават цэлая абойма паэтаў.

Паспрабаваў перакласці Валодзевы вершы на рускую мову і быў здзіўлены і заклапочаны: прападала, гублялася ўся іх своеасаблівасць. І я зразумеў, што глыбокія па думцы, часта вельмі складаныя па пабудове, яны напісаны такой сакавітай беларускай мовай, якую рэдка знойдзеш (а можа, і не знойдзеш) у вершах не толькі маладых, але і сталых паэтаў...

Не ўбачыла гэтага і многага іншага аршанская райгазета і рэзка, я б сказаў, проста пагромна напісала пра свайго земляка...

А «Калумбаў» у зборніку няма...

Пачаў пісаць рэцэнзію. Але хто яе надрукуе?

*Май 1971 года*

Калі я рыхтаваў тэлеперадачу пра вёску Глыбачку, у сваёй ушацкай хаце быў Барадулін. І ўсю майскую ноч, ноч смерці яго мамы Куліны, я правёў з Рыгорам... А раніцай на пахаванне прыехала з Мінска цэлая пісьменніцкая брыгада. І быў у ёй адзін з лепшых сяброў Рыгора – Караткевіч... З ім разам неслі мы дашак дамавіны некалькі кіламетраў праз Ушачы... А на могілках Уладзімір сказаў сваё сяброўскае памінальнае слова, звяртаючыся да Рыгора і да ўсіх нас. Ён гаварыў пра тое, што ўсе мы губляем сваіх маці рана ці позна, але іх вочы з вечнасці сочаць заўсёды за нашымі лёсамі на зямных шляхах, і таму мы жывём пад іх вечнымі поглядамі...

Гэта былі сумныя гадзіны развітання, але ўсе мы стаялі побач з Рыгорам. І, можа, самае галоўнае: побач быў лепшы сябра Барадуліна Валодзя Караткевіч...

*1 ліпеня 1972 года*

Ужо вырашана, што праз два гады будзем святкаваць 1000-годдзе Віцебска. І вось я прапаную стварыць у горадзе літаратурны музей. А сёння па запрашэнні гаркома ў горад прыехала вялікая група вядомых землякоў-творцаў: можа, да свята што-небудзь зробяць, напішуць...



Сустракаў і размаўляў з імі на вуліцах, над ранішняй Дзвіной, а потым прывёў на тэлестудыю цэлую брыгаду, у якой былі Заір Азгур, Іван Дзяржынскі, Марк Фрадкін, Андрэй Бембель, Пятрусь Броўка, Уладзімір Караткевіч, Генадзь Бураўкін, Еўдакія Лось, Аркадзь Маўзон. І ўсе яны выступалі, расказвалі віцяблянам у перадачы з экрана пра свае новыя творы і задумкі...

Марк Фрадкін абяцаў песню пра Віцебск. А Караткевіч — п’есу на гістарычную тэму, можа, будзе называцца «Набат», ці «Набатныя званы Віцебска», ці «Набат над Дзвіной»...

Калі плылі на цеплаходзіку па Дзвіне, спявалі песні, і ўсе, нават Фрадкін, былі проста ўражаны, слухаючы, як цудоўна зацягваў старадаўнія мелодыі Караткевіч...

А вечарам на вялікім банкеце ў парку «Мазурына» я сядзеў побач з Уладзімірам. І калі Фрадкін сказаў, што збіраецца напісаць песню пра Віцебск на мае вершы, Караткевіч не вытрымаў і голасна на ўвесь парк закрычаў: «У-у-у! Давід! Песняпевец!.. Прачытай «Левітана»!..»

Нічога я, зразумела, не чытаў, а Караткевіч падняўся, і мы ўтрох — ён, Фрадкін і я — чокнуліся, абняліся і выпілі за старажытны Віцебск...

*29 жніўня 1974 года*

Віцебск святкуе 1000-годдзе... У тэатры — прэм'ера «Званы Віцебска». І пад шумныя авацыі віцяблян і гасцей горада ўсхвалявана і неяк сарамліва, але з пачуццём уласнай годнасці, як мне здаецца з залы, раскланьваецца на сцэне аўтар — Уладзімір Караткевіч.

*31 жніўня 1974 года*

Свята. Ускладанне кветак. Мітынг і шэсце ад плошчы Леніна да плошчы Перамогі.

Іпюў у калоне побач з Караткевічам, а Валодзя трымаў за руку сваю Валянціну. З імі — пра спектакль, пра рэжысуру маладога Валерыя Мазынскага, пра артыстаў (Ф. Шмакава, У. Куляшова, І. Матусевіча, Т. Кокштыса, П. Ламана, А. Лабанка, Л. Пісараву, В. Петрачкову), пра фактаграфію і мастацкае асэнсаванне гісторыі, пра вымаўленне акцёраў (часта — не беларускае)...

Разам з Уладзімірам і Валянцінай — кампліменты Марку Фрадкіну: учора прагучала яго новая песня, прысвечаная Віцебску. Караткевіч: «Няхай бы яна спявалася і па-беларуску... Я перакладу, але дапішу хоць адзін слупок...»

Яшчэ з ім: «віцябляне» ці «віцябчане». Учора ў дакладзе П. М. Машэрава яго памочнікі «падсунулі»: «віцябчане»... Уладзімір рашуча: в і ц ь б і ч ы...

*1 верасня 1974 года*

З Караткевічам — вячэрнія агні, сузор'е Віцебска.

*Лістапад 1977 года*

Нарэшце выдадзена кніга Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». Тры гады назад на свяце ў Віцебску ён сказаў мне, што абавязкова пра гэта напіша. І вось у кнізе цудоўная глава — эсэ «Віцебск — горад майстроў». І няхай хоць фрагменцікі з яе будуць у маім дзённіку, у маім «Віцебскім вакзале»:

«Мне давялося пабываць на свяце тысячагоддзя. І рэдка мне яшчэ даводзілася бачыць падобную феерыю...

Свята мастацтва, свята агню, песні, выдумкі, таленту, свята майстроў, бо Віцебск — месца майстроў. Я ганаруся, што ў маёй «Кнізе працоўнага

ўкладу» таксама занесена пару слоў аб працы на карысць горада і тысячагоддзя...

Ён устаў з попелу, як уся Беларусь...

Віцебск — гэта цяпер цалкам новы горад. Старых будынкаў засталося мала: некалькі палацаў, ратуша XVII стагоддзя (цяпер у ёй добры гісторыка-краязнаўчы і мастацкі музей з багатай калекцыяй беларускага, рускага, заходняга і мясцовага, віцебскага жывапісу).

Віцебск — горад старых мастацкіх традыцый. Працавалі тут, у прыватнасці, Ю. Пэн, М. Дабужынскі, славуты К. Малевіч, не менш славуты цяпер М. Шагал і некалькі год — І. Я. Рэпін, маёнтак якога, Здраўнёва, быў непадалёку ад Віцебска...»

*Снежань 1978 года*

Быў у тэатры. Коласаўцы паставілі «Кастуся Каліноўскага»... Ужо можна гаварыць пра тэатр Караткевіча. З Уладзімірам — ён прыехаў на прэм'еру — пра ўсё гэта... Ён: «Ты перабольшваеш... Тэатра такога яшчэ няма... Але ён будзе!..»

*25 ліпеня 1984 года*

Вестка пра смерць Караткевіча.

Здавалася мне: і зямля сумавала,
і гаварыла журботна са мной,
калі я па Віцебску ішоў да вакзала
ціхаю вулачкай над Дзвіной.

Раптам пачуў я ў самотным напеве,
быццам у вершаваных радках:
«Я Віцебск люблю!» —
мне сказаў Караткевіч...
І знік, і растаяў
у прыдзвінскіх барах...

*24 лістапада 1986 года*

На тэлестудыі правёў вечар, прысвечаны Караткевічу. Чытаў яго вершы, падзяліўся ўспамінамі.

*26 лістапада 1986 года*

Орша. У дзень нараджэння Караткевіча нарадзіўся яго музей. Праўда, гэта пакуль што толькі адна сцяна ў Музеі славы настаўнікаў.



Былі мінчане, палачане, аршанцы, віцябляне: У. Дамашэвіч, У. Арлоў, Н. Гальпяровіч, Л. Баршчэўскі, А. Салтук, С. Сакалоў. Арганізатар — настаўніца Лілія Радомская. Я прачытаў фрагмент з кнігі, яго пісьмо, верш «Калумбы зямлі незнаёмай».

Думаю, што ёсць добры пачатак, закладзена традыцыя, і трэба кожны год адзначаць Дзень Караткевіча ў Віцебску і Оршы.

*19 лістапада 1987 года*

Прапанаваў абласное свята паэзіі, якое пачынаецца сёння, прысвяціць Караткевічу. У педінстытуце пра яго гаварылі мы з Анатолем

Канапелькам і І. Папковічам. У свяце ўдзельнічалі і смаленскія паэты А. Мішын і У. Прастакоў.

*26 лістапада 1988 года*

Дзень Караткевіча. Днём — у педінстытуце. Слова пра Уладзіміра сказаў Ванкарэм Нікіфаровіч, потым — мы з Рыгорам Барадуліным. Запрасілі студэнтаў і выкладчыкаў на вечар у Коласаўскі тэатр.

Прыехала і Наталля Сямёнаўна. І выступалі мы ўсе. Вечарына пачалася позна, у 22 гадзіны, пасля спектакля. Акцёры-коласаўцы паказалі кампазіцыю па вершах Караткевіча. Барадулін сказаў добрае пранікнёнае паэтычнае слова пра сябра. Я выступіў з успамінамі. І калі раптам патухла святло, тры мінуты працягваў «свяціць» у цемры, як трапна сказаў Рыгор.

Так ужо ў трэці раз адзначаецца свята Караткевіча ў Віцебску, у Оршы — таксама.

*25 лістапада 1989 года*

Ляўкі — Барань — Орша. Заўтра — дзень нараджэння Караткевіча. І мы на вечары зноў, як у мінулым годзе ўтраіх — Наталля Сямёнаўна, Кучкоўская, Барадулін і я. А яшчэ чатыры сакурснікі Уладзіміра. І мастацкая самадзейнасць — яго вершы і песні.

*5 кастрычніка 1990 года*

На прэзідыуме абласнога Савета. Я выступаў, гаварыў пра ўвекавечанне памяці Шагала і Караткевіча.

*11 кастрычніка 1990 года*

Сустрэў «першага» — Уладзіміра Грыгор'ева. Ён: «Я падпісаў пастанову пра ўвекавечанне памяці Шагала і Караткевіча...»

*23 лістапада 1990 года*

У майстэрні скульптара Івана Казака з Наталляй Сямёнаўнай, Барадуліным, В. Нікіфаровічам і Міхаілам Шмерлінгам. Ім (і мне) работа падабаецца: падобны, суровы і ўзнёслы. Пра гэта гаварыў мне і сябра Казака — Сяргей Рублеўскі.

Дзве з паловай гадзіны — вечар у тэатры. Караткевіч — з намі, і Наталля Сямёнаўна, і родныя з Мінска і Оршы.

*24 лістапада 1990 года*

«ЛіМ» і «Витебский курьер» надрукавалі маё пра Караткевіча.

У Оршы — вечар на льнокамбінаце... Кіраўніцтва вобласці і горада. Прызнанне Уладзіміра Віктаравіча Грыгор'ева, што на рашэнне праводзіць такі юбілей натхніў я... Шкада толькі, што тут цэнтрам стала аршанская самадзейнасць і амаль убаку аказаліся пісьменнікі.

*25 лістапада 1990 года*

На вуліцы Караткевіча — мемарыяльная дошка. І дошка на доме, дзе ён жыў. Абед у доме пляменніцы Раісы Барабаш. Мой тост за вечна

маладога Валодзю, якім яго помняць гэты дом і гэта вуліца... Пасядзеў у пакойчыку, з якога ён некалі напісаў мне пісьмо. З Барадуліным вечарам выступалі ў гасцёўні бібліятэкі імя Пушкіна.

*26 лістапада 1990 года*

У школе імя Караткевіча і ў музеі. Выступалі з Барадуліным у школьнай зале перад вучнямі ўсіх узростаў і настаўнікамі.

*14 снежня 1990 года*

Вечар у 3-й віцебскай школе, прысвечаны Караткевічу: вучні, настаўнікі і п яшчэ раз адзначылі 60-годдзе...

*23—24 лістапада 1991 года*

Сустрэчы ў Оршы: школа, ільнокамбінат.

*26 лістапада 1991 года*

Правёў вечар Караткевіча ў віцебскай бібліятэцы імя М. Астроўскага.

*27 чэрвеня 1992 года*

Адкрыццё помніка маладому Караткевічу ў Оршы над Дняпром. Скульптар Ігар Голубеў.

*26 лістапада 1992 года*

Орша. Ля помніка. Караткевічаўскія чытанні ў гарадскім Доме культуры. Канцэрт — народныя песні, вершы Уладзіміра.

*26 лістапада 1993 года*

У Віцебску ля помніка Караткевічу, які яшчэ афіцыйна не адкрылі. «Няхай будзе такая традыцыя ў яго дзень!» — гавару я. Выступаюць начальнік гарадскога аддзела культуры В. Кібісаў, У. Папковіч, А. Салтук, артыст А. Лабанок і С. Дашкевіч ад тэатра. Традыцыя закладзена...

*24 ліпеня 1994 года*

Адкрыццё помніка ў Віцебску. Скульптар І. Казак, архітэктар В. Рыбакоў. Мая вершаваная прамова.

І зноў на планеце начамі бяссоннымі
пакуты, пажары, крывавы прыбой.
Як некалі, сёння, Уладзімір Сямёнавіч,
давай над Дзвіной пагаворым з табой.
Сваёю ўсмешкаю добраю, мудраю
жыццё наша, дні нашы ты благаславі,
каб над рэспублікай шматпакутнаю
сонца ўставала ў дабры і любві.
Каб зло і варожасць забылі прытулак свой
і ніхто не сказаў на дарогах зямных,
што жывём мы, не ведаючы мінулага,
манкурты, што продкаў забылі сваіх.
Бо неба не разумее: якія мы,
што сталася з нашай спрадвечнай зямлёй...
Народжаны ў Оршы, вучыўся ты ў Кіеве,

любіў і маскоўскія плошчы шумлівыя,
і яўрэямі сябраваў (і са мной)...
І гаварыў ты, што ў шчасці і горы мы
з народамі нашымі разам заўжды.
А сіла гісторыі, праўда гісторыі —
не кроплі дыстыляванай вады.
І лёс Беларусі ў пяшчоце й суровасці
ты адраджаў як гісторык-паэт,
каб не загінулі мы ў невядомасці
і ведаў пра Беларусь увесь свет...

Ля помніка ў гэты дзень гаварылі з Караткевічам многія: В. Зуёнак, Г. Бураўкін, У. Някляеў, В. Мазынскі, іншыя пісьменнікі, артысты.

Фрагменты відэазапісаў, якія вяло тэлебачанне, забраў у свой архіў: калі-небудзь спатрэбяцца — гэта ж летапіс гісторыі літаратуры...

*26 лістапада 1994 года*

У гэтым годзе — два святы Караткевіча. Сёння падышлі на паклон да помніка Наталля Сямёнаўна, Р. Барадулін, В. Тарас, К. Шэрман, Я. Будзінас. А потым у тэатры гаварылі пра Караткевіча і яны, і літаратары Віцебшчыны — А. Канапелька, У. Папковіч, А. Жыгуноў, І. Жарнасек, А. Салтук.

Я вёў вечар. Святаператварылася ў сапраўдныя Дні літаратуры, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу.

Я закончыў вершам пра тры помнікі.

Лёс распарадзіўся так, каб на гэтай старажытнай віцебскай зямлі, дзе вякамі жылі разам беларусы, рускія, яўрэі, у горадзе на Заходняй Дзвіне ўзняліся тры помнікі сынам трох народаў.

У слаўным Віцебску сонца устала
сярод радасці, сярод бяды.
І глядзіць на мяне, як заўжды,
мудры Пушкін над светлаю хваляй.
І над вечнаю стужкай Дзвіны
ззяе сіняе неба Шагала.
А гісторыі дні назаўжды
Караткевіча муза звязала,
каб не сцерліся продкаў сляды
і каб памяць нашчадкаў яднала.

*23 лістапада 1995 года*

Ля помніка — з кветкамі. У тэатры — спектакль «Вераб'іная ноч» па творах Караткевіча ў пастаноўцы коласаўцаў, малады рэжысёр — Міхась Краснабаеў.

*24 лістапада 1995 года*

Орша. Міжнародная навуковая канферэнцыя «Караткевіч у братніх культурах». Выступаў.

*25 лістапада 1995 года*

Адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку 8-й аршанскай школы. пасяджэнне ў Палацы культуры льнокамбіната.

*26 лістапада 1995 года*

Шэсце па горадзе. Вечар у 3-й школе.

*26 лістапада 1996 года*

Віцебск. Універсітэт. Рэктар В. Вінаградаў (мы з ім дамовіліся напярэдадні) аб'яўляе пра стыпендыю студэнцкую імя Караткевіча, называе першага стыпендыята.

Орша. У гасцёўні бібліятэкі імя Караткевіча. Выступаў. Падарыў цэлы мех кніг музею і школе: Караткевіч і пра яго, беларуская паэзія.

*24 лістапада 1997 года*

У рэдакцыі газеты «Народнае слова» — сустрэча з удзельнікамі Дзён літаратуры, прысвечаных Караткевічу.

*25 лістапада 1997 года*

Віцебская бібліятэка імя Караткевіча. У. Арлоў, В. Сёмуха, А. Канапелька, У. Папковіч і я ладзім свята для школьнікаў.

Універсітэт. Даклад рэктара А. Русецкага, аўтара манаграфіі пра Караткевіча. Слова і вершы Р. Барадуліна. Кароткія выступленні віцебскіх літаратараў. Вёў.

*26 лістапада 1997 года*

Ад помніка над Дзвіной — да помніка на Дняпры. У Оршы. Са мной У. Арлоў і А. Канапелька. Сустрэчы ў 3-й і 1-й школах.

*25—26 лістапада 1998 года*

Віцебск. Вёў Караткевічаўскія чытанні. А. Канапелька прадстаўляў сваіх студэнтаў, якія выступалі з кароткімі дакладамі. У бібліятэцы імя Караткевіча — вечарына «На граніце любові». Кінафестываль. Ля помніка. Выстава «Ты ёсць. Ты будзеш».

*26 лістапада 1999 года*

З паклонам да помніка. У бібліятэцы імя пісьменніка. Караткевічаўскія чытанні. Мой дар — 2000 кніг бібліятэцы і Літаратурнаму музею. Прымаюць загадчыца бібліятэкі Ніна Максіменка і дырэктар музея Святлана Казлова.



*7 чэрвеня 2000 года*

Прапанаваў у Дзень Беларусі на фестывалі «Славянскі базар» у юбілейным годзе Караткевіча правесці мерапрыемствы, прысвечаныя яму. І сёння — інсцэніраванае шэсце ад тэатра да помніка. З Наталляй Сямёнаўнай паставілі вялікі кош кветак. Потым яна сказала пра брата. Выступіў А. Мальдзіс. І я прачытаў «І зноў на планеце...».

Працягам стала вечарына ў Літаратурным музеі. У Віцебску якраз Рыма Казакова. І я прывёў яе ў музей. І яна, і родныя Караткевіча, і яго сакурсніца Муза Сняжко, Анатоль Канапелька і Сяргей Рублеўскі, і ўсе віцебскія літаратары хораша гаварылі пра Караткевіча.

*21 лістапада 2000 года*

Правёў вечарыну ў музычным вучылішчы. Студэнты чыталі вершы Караткевіча, спявалі песні. Я падзяліўся ўспамінамі.

*22 лістапада 2000 года*

Свята ў бібліятэцы імя Караткевіча. Вёў, чытаў. Усё прайшло добра.

Падлічыў, што свята ўжо ў семнаццаты раз (улічваючы два ў 1994 годзе і два ў гэтым годзе).

Віцебскі абласны выканаўчы камітэт зацвердзіў прэмію імя Караткевіча.

*23 лістапада 2000 года*

У кінатэатры «Спартак» — фестываль фільмаў па творах Караткевіча. Сёння — «Сівая легенда». Ф. Сіўко сказаў слова. А. Канапелька і я прачыталі вершы. У Літаратурным музеі выступалі на выстаўцы «Мастакі — Караткевічу» і «Тэатр і Караткевіч».

*24 лістапада 2000 года*

Выступаў на канферэнцыі «Творы Караткевіча на сцэне тэатраў Беларусі». А потым быў вялікі вечар, на які не ўсіх нават пусцілі: не хапіла крэслаў. Выступаў апошнім, як дамовіліся, каб паставіць своеасаблівую кропку (пісьмо, вершы мае і радкі Р. Барадуліна — яго не было). Спектакль Гомельскага абласнога драмтэатра «Дзікае паляванне караля Стаха». На банкеце мой тост за Наталлю Сямёнаўну, ёй прачытаў па тэлефоне.

*25 лістапада 2000 года*

Орша. Ля помніка. У бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Вечар у Палацы культуры чыгуначнікаў.

Атрымаў Ганаровую грамату Аршанскага гарадскога выканаўчага камітэта «за папулярызацыю літаратурнай спадчыны У. Караткевіча і аказанне дзейснай дапамогі работнікам музейнага комплекса «Гісторыя і культура Аршаншчыны» ў гэтай высакароднай справе».

На ўрачыстым адкрыцці Музея Уладзіміра Караткевіча прачытаў:

Калі краіна ўшаноўвае
Сваіх славутых песняроў,
Яна і памяць умацоўвае,
Яна і праўду ўратоўвае,
І справядлівасць для вякоў!

Янка Сіпакоў

# Між Дняпром і крыкам жураўліным

Ён вельмі любіў Беларусь. І Беларусь таксама вельмі любіла Яго: з такім захапленнем і дасведчанасцю пра яе ў той час мала хто гаварыў.

Ён вельмі любіў людзей, і людзі гэтаксама любілі Яго. Бо Уладзімір Караткевіч паважаў іх і прымаў усіх такімі, якія яны ёсць,— з іхнімі хібамі і заганамі, з іхнімі клопатамі і замілаваннямі.

Яшчэ пры жыцці ён ужо быў класікам. Многія гэта бачылі, аднак усё неяк саромеліся сказаць яму пра тое.

Ён не быў народным па званні, але быў сапраўды народным па прызванні і па той папулярнасці, якую меў сярод народа.

Мне пашчасціла нарадзіцца на той жыццядайнай зямлі, якая дала свету Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча. Але я не магу, як некаторыя, пахваліцца, што мы былі з ім блізкімі сябрамі. Толькі ўпэўнена магу сказаць: пра тое, што мы з Аршаншчыны, аршанскія «мальцы», землякі, памяталі абодва. Думаю, што не толькі я чытаў і захапляўся ўсім, што выходзіла з-пад яго пяра, але і ён, здаецца, па-зямляцку цікавіўся тым, што пішу я. Невыпадкова ж ён сваю кнігу «Зямля пад белымі крыламі» падпісаў мне гэтак шчодра: «Дарагому другу і земляку ва ўсіх сэнсах (і па зямлі і па сэрцу) Янку Сіпакову на добры ўспамін».

І як сведчанне таму — яго глыбокае, патрабавальнае і эмацыянальнае слова, якім ён адгукнуўся на маю паэтычную кнігу «Веча славянскіх балад». Ён не толькі яе падтрымліваў, але і абараняў ад нядобразычліўцаў, за што я да апошніх сваіх дзён буду ўдзячны яму.

Сваё вялікае жыццё ў літаратуры Караткевіч пачаў з кнігі паэзіі. Паэтычнаю кнігаю ён і закончыў свой слаўны творчы шлях.

«Матчына душа» і «Быў. Ёсць. Буду.». Яны, гэтыя кнігі,— нібы грунтоўныя, дагледжаныя берагі вельмі моцнай літаратурнай ракі, якая бурна віравала каля трыццаці гадоў. А паміж імі — магутная плынь магутнага таленту: вершы, паэмы, апавяданні, раманы, аповесці, дэтэктывы, п'есы, эсэ. Цэлая бібліятэка беларускіх кніг, якімі зачытваліся і зачытваюцца людзі,— «Мая Іліяда», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Вока тайфуна», «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі», «Зброя», «Млын на сініх вірах», «Званы Віцебска», «Кастусь Каліноўскі», «Калыска чатырох чараўніц», «Маці ўрагану», «Зямля пад белымі крыламі». Колькі кніг, колькі твораў, колькі шэдэўраў! Заўважце, усе яны і сёння на слыху ў чытачоў.

Свой зямны і творчы шлях Уладзімір Караткевіч годна закончыў паэтычным шэдэўрам «Быў. Ёсць. Буду.». Ён сам склаў кнігу, падрыхтаваў

да друку. Рыхтаваў рупна, дбайна — як усё роўна прадчуваючы, што яна будзе апошняю. «Быў. Ёсць. Буду.» — нібыта выдыхнуў ён на развітанне.

Вершамі ён прывітаўся з намі, вершамі і развітаўся.

«Быў. Ёсць. Буду.».

Такая кніга магла б скласці гонар любой літаратуры, якая паважае сябе. І як добра, што яна з'явілася менавіта ў нашай беларускай літаратуры, якой такія кнігі вельмі і вельмі патрэбныя.

Гэта кніга пра дарагую і нязводную для паэта Беларусь, якую ён любіў як родную маці. Але ж яна яшчэ і пра ўсе краі і народы нашай зямлі, якімі паэт даражыў гэтак жа шчыра і апантана, бо ён заўсёды быў сярод тых, «хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы паўстане нават на бога».

Гэтая кніжка — нібы аголены нерв: яна ўся з хвалявання і болю. Але ж яна яшчэ і з мудрасці, з радасці жыцця, з вялікай і непахіснай упэўненасці, перакананасці, веры ў будучыню: «І які той цяжар ні будзе, ён веры маёй не сагне: мяне пахаваюць людзі, лепшыя за мяне».

І яшчэ:

Будуць давеку крыніцы на гэтай зямлі,
Будзе давеку наш мужны і мудры, вялікі народ.

Гэтая кніжка, названая паэтам так развітальна яшчэ пры жыцці, з'явілася быццам бы запаветам нам, усім тым, хто застаўся без яго, пасля яго любіць родную зямлю, даражыць сваім народам, шанаваць сваю мову — так, як рабіў гэта ён.

«Быў. Ёсць. Буду.»

Журуся над старонкамі гэтай апошняй кнігі паэта, якую ён сам паспеў падрыхтаваць, а перад вачыма той, яшчэ стары, цесны дом Саюза пісьменнікаў Беларусі, куды мы, студэнты універсітэта, немаведама як трапілі, і ён, Уладзімір Караткевіч, настаўнік з Оршы, які чытае паважанай аўдыторыі свайго «Машэку», сваю «Баладу пра паўстанца Ваўкалаку». Памятаю тую цішыню, якая стаяла тады ў зале, тую ўвагу, з якою слухалі маладога паэта знаныя майстры, чые творы ўжо тады ўпрыгожвалі школьныя хрэстаматыі, памятаю сваю ўзрушанасць і здзіўленне: усё гэта было новае, нечаканае, нязвыклае, сваё. «Лісце аб'еш, алень»,— само сабою назаўсёды заставалася ў памяці.

Потым палымянская падборка вершаў у ліпеньскім нумары часопіса за 1957 год. Як яны ўзрадавалі, гэтыя шчырыя, сардэчныя, разумныя вершы — і «Як размаўляюць звяры і птушкі», і «Гісторыя з першым каханнем», і «Сырцовыя цагліны», і іншыя. Як уразіў «Вадарод»!

Знікнуць казкі жыцця і Купалавы песні,
Знікне нашага шчасця і радасці храм...

Таму нейкай недарэчнасцю здаўся той артыкул «Не ў нагу з жыццём», што з'явіўся ўжо 31 ліпеня таго ж 1957 года — бачыце, якая апаратыўнасць!

«Гаворачы аб жахах, якія цягне прымяненне вадароднай бомбы,— злаваліся крытыкі,— паэт упадае ў чорную меланхолію і ахоплены пачуццём поўнай безнадзейнасці прадракае... пагібель нашай краіны». І далей: «Якім сапраўды кашчунствам, абразай для савецкага чытача гучаць гэтыя прадраканні новаз'яўленага прарока». Гэта пра радкі, дзе гаворыцца пра «казкі жыцця і Купалавы песні», пра «нашага шчасця і радасці храм». О час! Ты заўсёды рабіў маленькімі калісьці вялікіх і ўзвышаў да вялікіх некалі зганьбаваных!

«А то блукае па старажытнаму гарадзішчу,— абураліся «чытачы»,— і «ўсхваляваны амаль што да слёз» трымае ў руцэ цагліну 900-гадовай даўнасці. І не хоча прыкмеціць пры гэтым, як пад умелымі рукамі муляраў 1957 года кладзецца цагліна за цаглінай і вырастаюць на савецкай зямлі вялікасныя і светлыя будынкі нашых дзён».

Гэта пра верш «Сырцовыя цагліны», у якім і нас, як і паэта, расчуліў, «усхваляваў амаль што да слёз» адбітак дзіцячай ножкі на цагліне той даўнедалёкай часіны.

«Закаханы... у кожную мушку»,— здзекаваліся зласліўцы.

Божа, як ён толькі і цярпеў такое, той «мясцовы аўтар, малады настаўнік мовы і літаратуры адной са школ г. Оршы»?!

А неўзабаве пайшлі яшчэ і арганізаваныя водгукі чытачоў. Чаго толькі не нагаварылі гэтыя чытачы!

«Усе вершы У. Караткевіча, аб якіх ідзе размова ў артыкуле,— «сырыя цагліны»,— іранізаваў загадчык навучальнай часткі індустрыяльна-педагагічнага вучылішча.

«Жыццё ідзе ўперад, народ узводзіць новыя будынкі, а паэт не бачыць гэтага»,— павучаў настаўніка вучань 10-га класа адной са школ.

«У вершах У. Караткевіча праз меру многа капання ў асабістых настроях, шмат тугі, мала бадзёрасці»,— сцвярджала галоўны ўрач супрацьтуберкулёзнага дыспансера.

«Здзіўляе, што такія немастацкія творы, як вершы У. Караткевіча, змаглі быць надрукаваны ў часопісе «Полымя»,— выносіла свой прысуд інжынер-тэхнолаг машынабудаўнічага завода.

З крытыкаю вершаў выступілі інструктар райкома камсамола, прапагандыст РК КПБ, сакратар райкома камсамола. Крытыкавалі паэта і госці. Свой «водгук» даслаў нават кандыдат гістарычных навук!



Сярод тых, хто асуджаў паэта, не хапала толькі слова земляка-студэнта, пачынаючага паэта.

Я тады, скончыўшы другі курс універсітэта, на летніх канікулах працаваў у Шклоўскай раённай газеце. Знайшлі мяне там і ўгаворамі, прысілам, а то і пагрозамі змушалі напісаць патрэбны ім «водгук». Я ж быў абураны і абражаны нават самою гэтаю прапановаю. Як?! Я буду асуджаць цудоўныя вершы, якія леглі на душу, ускалыхнулі сэрца, узра-

давалі і шчыра прымусілі задумацца над тым, што якраз вось так і трэба спалучаць, паядноўваць паэзію і жыццё?! І я рашуча адмовіўся ад удзелу ў гэтай непрыстойнай валтузні.

А сама валтузня прадаўжалася. Увосень была сабрана канферэнцыя чытачоў, якая аднадушна асудзіла вершы настаўніка.

У сталіцы ж ніхто не хацеў далучацца да гэтага непрыгожага, вульгарнага гвалту. Наадварот, сталыя майстры ўсяляк імкнуліся падтрымаць маладога паэта. І гэта яшчэ болей злавала «праўдалюбаў».

«Наколькі далёка зайшло нежаданне прызнаць правільную крытыку знізу,— абураюцца яны ўсё ў той жа справаздачы з чытацкай канферэнцыі,— красамоўна гаворыць і такі факт. Выступаючы з дакладам на сходзе актыву работнікаў літаратуры і мастацтва Беларускай ССР П. У. Броўка — старшыня праўлення Саюза, ён жа і член рэдкалегіі «Полымя» — ні словам не абмовіўся аб памылках у вершах У. Караткевіча. Наадварот, ён палічыў магчымым сцвярджаць, што «...усё цікавей, выразней падаюць свой голас маладыя паэты... і У. Караткевіч».

А як жа ён, малады выкладчык мовы і літаратуры? Ён, добра ведаючы, што на тым прынцыпова цяжкім шляху, які паэт сам абраў сабе за жыццё, заўсёды будуць сустракацца людзі, якія не зразумеюць яго, а то і стануць ворагамі, з гонарам выйшаў з гэтага нялёгкага для маладога паэта выпрабавання. Колькі яму гэта каштавала сіл, мусіць, ведаў толькі ён сам.

А настаўнік быў малады — мог зламацца. Не зламаўся. Выстаяў.

Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы,
Нельга ні ўджаліць, ні забіць.

Але пра сваіх нядобразычліўцаў памятаў. Пра ворагаў не забываўся. Вось і ў апошняй кніжцы, да якой мы вяртаемся зноў, у вершы «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў» — за тых, каму «не дадзена нас палюбіць і не дадзена нас зразумець» — ён іранізуе:

Божа, дай ім даўжэй пражыць,
Хай спаўна адтрубяць свой час,
Хай на самай апошняй нашай мяжы
Будуць яны у нас.
Божа, ты скінуў іх нам, як дары,
І мы славім мудрасць тваю,
Бо яны нас будзяць яшчэ да зары
І рана заснуць не даюць.
І ўстаем, і арэм мы нашы палі,
Пакуль не апусціцца змрок,
І мы ўстаем, і зброю сталім,
Слова сталім і радок.

І далей, у паэме «Грубае і ласкавае» ў раздзеле «Перад сечай» вуснамі героя паэт усклікне — не, не ўсклікне, а нават закрычыць:

Моцнага ворага дай!

І ўсё ж справядлівасць тады перамагла: у Саюз пісьменнікаў Беларусі Уладзіміра Караткевіча прынялі ў тым жа, 1957 годзе, а ў наступным выйшла з друку яго «Матчына душа».

Што б мы зараз ні гаварылі, як бы сёння ні прызнаваліся ў любові і павазе да яго, усё ж мы б крыху пакрывілі душою, калі б узяліся сцвярджаць, што і пасля яму з намі было заўсёды добра, лёгка і шчасліва,— ужо нават адно тое, што такі пісьменнік, які б упрыгожыў любую літаратуру, не быў дэлегатам ніводнага Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў, абвяргае некаторыя нашы запозненыя прызнанні.

Песня мне не належала,
Голас мне не належаў,
Слова мне не належала,—
І ўсё я ў змаганні ўзяў,—

нібы падслухаўшы думкі паэта, гаворыць змаганец у выдатным філасофскім вершы «Рагнарадзі».

Урэшце, бог з імі, з тымі ворагамі, бо ім «няма з кім ісці плячо да пляча, з кім любіць, з кім стаяць у баі, з кім смяяцца, спрачацца і нават маўчаць» — тым больш што і сам ён, добры і велікадушны, здаецца, адпусціў ім іхнія грахі.

Справа не ў ворагах, справа ў сябрах. Ва Уладзіміра Караткевіча было многа сапраўдных, шчырых сяброў, якія заўсёды мелі радасць ад сустрэч з ім — «як добра быць другам і братам нам, і яму, і табе, і мне». І я ўспамінаю, як у апошнюю яго вясну, калі ён, з цяжкасцю выбавіўшыся з бальніцы, яшчэ не зусім здаровы, амаль штодзень з кнігаю ў руках выходзіў недзе пад поўдзень у Купалаўскі сквер. Садзіўся на лаўку тварам да сонца, але чытаць яму не давалі многія — і сябры, і проста знаёмыя, а то і зусім незнаёмыя людзі знарок сыходзілі са сваіх маршрутаў і, дужа занятыя, пазніліся, затрымліваліся, бавіліся, але ўсё ж заварочвалі сюды, каб пабачыць яго, сустрэцца з ім вачыма, пагаварыць з ім, а то і проста памаўчаць.

А сябраваць ён умеў як ніхто іншы, і сяброўства было для яго не нейкай паказной дабрачыннасцю, а самім жыццём.



Каб паверыць у гэта, прачытайце, да прыкладу, усяго толькі цудоўную, напісаную на адным дыханні, малую паэму «Віно дажджоў» — гэты высокамастацкі, непаўторны гімн дружбе і жыццю.

Ён быў мудры і дзёрзкі, разумны і наіўны, грубаваты і цнатлівы, непрымірымы і пяшчотны, яршысты і ціхмяны, задумлівы і вясёлы, дасціпны і справядлівы. І заўсёды сумленны.

Я не пляміў ніколі
Рукі бязвіннай крывёю,
Не пляміў маною песню
І словам здрадніцкім — рот,—

з гонарам гаворыць усё той жа змаганец з «Рагнарадзі», а мы разумеем, што менавіта так мог бы сказаць пра сябе і сам аўтар, Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч.

Такім наіўна-мудрым, грубавата-цнатлівым, непрымірыма-даверлівым і крыштальна чыстым застаўся ён і ў сваёй апошняй паэтычнай кнізе. Паэзія Уладзіміра Караткевіча нічога не страціла з той маладой пары, з той першай публікацыі ў «Полымі», з той першай юнацкай кніжкі «Матчына душа» — яна засталася такой жа зычліваю, шчыраю, захопленаю жыццём (памятаеце: «закаханы ў кожную мушку»?).

Нават даўні яго «абдуванчык», які запомніўся з першых вершаў, захаваўся і тут, у апошняй кнізе, побач з такімі нечаканымі словамі, як «устаткаваны», «брохнула», «стагны».

Але амаль за трыццаць год нялёгкага шляху паэта ў літаратуры яна і набыла вельмі шмат — глыбіню і шырыню, яснае ўсведамленне свайго абавязку, мэты жыцця і творчасці.

«Унутраная годнасць таленту вызначаецца тым, якім з'явам аддае пісьменнік сваю ўвагу, якая значнасць гэтых з'яў. Чым буйнейшы талент, тым мацней ён звязаны з жыццём і з яго вострымі пытаннямі»,— пісаў калісьці мудры грузін Важа-Пшавела.

Радзіма. Народ. Мова. Жыццё. Справядлівасць. Любоў. Вайна і мір. Якія яшчэ тэмы могуць быць больш вострымі і больш важнымі для паэта!

Усе гэтыя (і шмат якія іншыя!) тэмы, пазначаныя таўром майстра, таленту і высокай паэзіі, жывуць у пасмяротнай (хочацца сказаць — несмяротнай!) кнізе Уладзіміра Караткевіча. Ён адданы сваёй роднай Беларусі, і яму, улюбёнаму сыну сваёй зямлі, здаецца, што «няма нідзе вярнейшых сяброў і прыгажэйшых жанчын». (Верш «На Беларусі бог жыве».) Ён адданы сваёй роднай мове і апантана, з караткевічаўскай бескампраміснасцю, так рашуча, як гэта мог толькі ён, прамаўляе слова ў яе славу:

Праваслаўны або каталіцкі,
Ці які там твой будзе парог,—
Яе разам з матчынай цыцкаю
Даў табе ў твае вусны бог.
Пі. І ведай: гіне ў пракляццях
І з дзярма павек не ўстае
Той, хто выплюнуў цыцку маці
Або злосна ўкусіў яе.
І на іншых вяршынях суровых
(Вера! Роўнасць! Свабода! Край!)
Ты струменьчык матчынай мовы,
Быццам маці, не забывай.

Гістарызм мыслення. Бадай, ніхто не можа зраўняцца з ім у гэтым. Менавіта гістарызм нарадзіў вершы, балады і маналогі, прысвечаныя Кастусю Каліноўскаму, Ігнату Грынявіцкаму, Максіму Багдановічу, Ігнату Буйніцкаму, Гою і Байрану, нарадзіў вольны пераказ армянскіх прытчаў, нібыта вярнуў

паэта ў Пампеі, каб ён у жудасны час землятрусу пабачыў тую пяшчотную жанчыну, якая пакінула на пампейскіх мурах такі журботны надпіс, што гэтак уразіў паэта: «Калі ты ведаеш, на што здатнае каханне, і калі ты мужчына, пашкадуй мяне, не кажы «не» і дай мне ўвайсці».

Гістарызм нават у вершах пра каханне!

Праз мільёны ўдараў і ранаў,
Заступаючы шлях журбе,
Мая даўняя, мая жаданая,
Не крыўдуй, я іду да цябе.

А колькі цноты і пяшчоты, ласкі і замілаванасці ў яго лірыцы, у чыстых і светлых, закаханых радках:

Я многія вочы і сэрцы трывожыў
І толькі перад каханай адной
Бляяў рахмана, як агнец божы,
Піў з капытка і цягнуўся струной.
Я ведаў, што трэба кахаць бязмерна,
Што не біць, а песціць павінна рука,
Што лепей ягня, чым тхор крыважэрны,
Лепей юродзівы, чымсьці кат.
А яна мне на шыю стужку ўвязала,
Як ягня, барола мяне галавой,
І ў кучаравы лоб цалавала,
І гадавала зялёнай травой.

Каханне для яго — святое пачуццё, і паэт пераконвае ў гэтым нават сатану:

Ён кахаў, і за гэта палову віны
Выкраслі з кнігі сваёй.
І душа яго была, як палі
Ў сонечнай майскай расе.
Ён кахаў прыгажэйшую на зямлі,—
Выкраслі віны ўсе.

Кніга шматмерная, глыбокая і нечаканая. Нечаканая з боку мастацкага адкрыцця і паэтычнага бачання. Нечаканая ў сваіх параўнаннях.

Хмара закахалася «ва ўсю Беларусь маю чыстую».

«Душы забітых — аблокі».

«Кнігі-сябры. Іх кідаюць перш за ўсё: яны цяжкія...»



«На найлепшым кані не дагоніць ніхто гарызонт».

Нечаканая і вось гэтая мара пра нейкі горад простых:

І горад простых чакае мяне...

Нечаканае і вось такое, крыху уітменаўскае:

Мёртвым лягчэй, і нясцерпна жывым,
Што мёртвых у сэрцы нясуць.

Што ж, сапраўдным паэтам, мусіць, заўсёды аднолькавым болем баліць сэрца за ўсіх пакрыўджаных, зганьбаваных, забітых.

Нечаканае і вось гэтае, нібы прарочае:

І прыме мяне валавокая цемра Дняпра.

Нечаканая і ўся яго трубная, развітальная песня, якая бунтуе, віруе, нібы неспакойная кроў, «між Дняпром і крыкам жураўліным».

Упэўнены, што чытачы будуць перачытваць яго глыбокафіласафічныя вершы «Дэман», «Масква — Вечнасць», «Рагнарадзі», будуць вяртацца, каб яшчэ раз атрымаць асалоду, да паэм пра каханне — «Грубае і ласкавае», «Плошча Маякоўскага», «Паэма пра явар і каліну». Усе яны невялікія па аб'ёме, але так руплівa напоўнены зместам, так шчодра наплаўлены душэўнымі эмоцыямі, столькі выхадаў пакідаюць для нашай абуджанай думкі, для памяці і пачуцця, што аднаго прачытання, зразумела, будзе мала, каб спазнаць усе глыбіні гэтых і многа якіх іншых твораў паэта.

Дарэчы, вельмі да месца прыйшліся тут вершы і паэмы ранейшага Караткевіча, узятыя з рамана «Нельга забыць» (творчасць Андрэя Грынкевіча) — яны не толькі не аказаліся чужароднымі гэтай новай кнізе, а, наадварот, пацвердзілі яе адзінства і цэласнасць, пашырылі яе тэматычна, яшчэ раз пераканалі нас у думцы, што паэт заўсёды, ва ўсе перыяды свайго жыцця толькі сур'ёзна і толькі стала адносіўся да любой творчасці.

Кніга «Быў. Ёсць. Буду.» — вельмі змястоўная і неабдымная. Як і ўся яго творчасць. Таму я спачуваю тым, хто яшчэ не ведае Караткевіча. Але і зайздрошчу ім: у іх наперадзе вялікае свята адкрыцця гэтага закаханага ў жыццё талента.

А ў сваім зямным жыцці ён, як і многія вялікія, здаецца, быў звычайным чалавекам: меў свае слабасці і недахопы, але і ўмеў бараніць сваю годнасць.

Быў кампанейскім. Выдатны расказчык. Захоплены апавядальнік.

І душа, здаецца, любой кампаніі. Слухаючы яго ўспаміны пра неверагодныя сустрэчы і здарэнні, думалася, што ён толькі тое і робіць, што трапляе ў нестандартныя, як кажуць зараз, сітуацыі: то ён прысутнічае на вяселлі цыганскага караля, то ён аказваецца ў нейкай вясковай краме, заваленай пад столь крабамі, то ён разам з кіношнікамі ў нейкім раённым гарадку мые з брандспойтаў Ісуса Хрыста, то ён адзін, абараняючы гонар дзяўчыны, размахвае цэлую плойму нягоднікаў. Гэтыя ўспаміны былі настолькі незвычайныя, што многія паблажліва ўсміхаліся — ну-ну, давай-давай, залівай.

Аднойчы ён прыйшоў у «Маладосць» і пачаў гаварыць, што ў яго сёння на абед крабы і вустрыцы. Яму не паверылі, пачалі пасмейвацца. Уладзімір Сямёнавіч раззлаваўся, набраў нумар свайго хатняга тэлефона, сказаў у трубку:

— Мама, скажы гэтым ёлупням, што ў нас сёння на абед,— і сунуў трубку мне ў рукі.

І маці прыемным голасам на добрай рускай мове адказала:

— У нас сегодня на обед крабы и устрицы. Приходите, пожалуйста, с Володей обедать.

Уладзімір Караткевіч сам нарываўся на неверагодныя здарэнні, сам шукаў іх.

Лета. Спёка. Выпадкова сустрэліся на Круглай плошчы.

— Хачу піць. Пайшлі зойдзем у «Бярозку».

Уладзімір Сямёнавіч узяў бутэльку сухога віна — з халадзільніка, запацелую. Сядзім і на французскі манер наталяем смагу — ратуемся ад гарачыні. Мужчына ля стойкі нечым не спадабаўся Караткевічу.

— Хочаш, вось пайду зараз, дам яму па мяккім месцы, а ён мне дзякуй скажа?

Не паспеў я і слова вымавіць, як ён ужо быў ля стойкі. Размахнуўшыся, з усёй рукі ўліў мужчыну ляшча. Той павярнуўся і з перакошаным ад злосці тварам ужо гатовы быў накінуцца на крыўдзіцеля. Але Караткевіч добра загаварыў да яго:

— Прабачце, вы недзе выпацкаліся. Можна, я вас абтрасу?

І пачаў лёгенька страсаць чыстыя і так штаны незнаёмага.

Мужчына палагаднеў, пачаў усміхацца і вінавата дзякаваць нечаканаму памочніку.

Вярнуўся, сеў за столік і нібыта між іншым сказаў:

— Ну што я табе казаў?

Пасля каля Купалаўскага парку мы сустрэлі дачку Юлляна Пшыркова — Вольгу Дэконскую. Уладзіміру Сямёнавічу, галантнаму кавалеру, захацелася раптам падараваць ёй ружу. Ён тут жа накіраваўся ў парк. Каля кветніка спыніўся, пасадзіў нас на лаўку, а сам закасаў рукавы, узышоў на клумбу і пачаў палоць ружы, падварушваць зямлю ля іх, збіраць ламачча, смецце. Ён так захапіўся гэтаю работаю, што, здаецца, забыўся і на нас. Упэўнены, што тыя, хто праходзіў побач, верылі: гэта працуе сапраўдны садоўнік, кветкавод. Працаваў ён так з паўгадзіны. Потым занёс да урны смецце, абтрос рукі і толькі тады адламаў ружу.

Адламаў упэўнена — як узнагароду за працу.

А, здаралася, часам сядзіш, сумішся, увесь свет здаецца табе не мілы, вінаваты ў тваіх нягодах. Пазвоніш яму, ён, адчуўшы твой настрой, параскаваe столькі ўсякага, што ты забываешся на свае непрыемнасці і смяешся разам з ім, тваім выратавальнікам.

Такім ён быў для мяне, мой зямляча,— выдатны, чысты талент, падараваны Беларусі і свету нашай любай Аршаншчынай.

*1987, 2005*

Ала Сямёнава

# Рыцар сонечнай стыхіі

**«І ўстаў з нябёс герояў строй...»**

Самы канец 70-х гадоў. 1979-ы.

Заходжу да Рыгора Васільевіча Шкрабы, у «Полымя»: «Хацелася б напісаць пра Караткевіча».— «Ужо ёсць дамоўленасць з Адамам Мальдзісам». Што тут скажаш? І — раптам увечары званок ад Шкрабы: «Давайце Караткевіча». Мабыць, як то здараецца (ці здаралася) у перыядычных выданнях, не было нічога ў нумар. «Два тыдні хопіць?»

Два тыдні... Уладзіміра Караткевіча можна даследаваць гады і пісаць пра яго — гады, можна — з лёту, перачытаўшы, перагартаўшы чытанае, пазначанае, падкрэсленае. Магчымы ўвогуле розныя падыходы.

Што неаспрэчна — эфект яго прысутнасці ў літаратуры, у культуровым асяроддзі, у жыцці (нават калі асабістых стасункаў з ім не было) — адметны, непаўторны, вызначальны. Тады, у 1979-м, ужо цалкам было выяўлена тое, што два наступныя дзесяцігоддзі пацвердзілі, ператварылі ў неаспрэчнае — Уладзімір Караткевіч адчуваў, прадчуваў, шмат у чым прадвызначаў духоўную сітуацыю. Сваёй творчасцю спрабаваў адказаць на пытанні — як суаднесці той феномен, што носіць назву «агульначалавечая культура» з нацыянальным кантэкстам, з культуровым антуражам індывіда — у яго выяўленні, што пазначаны як «нацыянальны характар». Як вызначыцца ў каардынатах, дзе сышліся б сучасная рэчаіснасць і вопыт мінулага, эмпірыка фактаў і падзей з мройнай ваблівасцю легенд. Якую сістэму пісьма абраць — каб гэта была і школа духу, і жывая «повязь вякоў», і складаны ўзор драматычных супадзенняў і супрацьдзеянняў, і сутыкненне звычаёвага быцця і надсветавых сфер, гістарычная рэальнасць і непаўторны свет мастацкай рэальнасці.

Паэт, празаік, эсэіст, драматург, сцэнарыст, публіцыст, крытык — Уладзімір Караткевіч пачынаў як паэт. І ў паэзіі, па сутнасці, скандэнсавана вызначыў свае творчыя арыенціры, асноўныя канцэпцыі светабачання, свой будучы мастацкі свет.

Народ, нацыя, Айчына, родная мова — для многіх краін пытанні не тое каб рытарычныя, але такія, што атрымалі шматвекавое светапогляднае, мастацкае, палітычнае пацверджанні. Для беларусаў і дагэтуль — праблемы вострыя, актуальныя, найважнейшыя, так бы мовіць, адкрытыя. Тыя, хто побач з Уладзімірам Караткевічам вызначалі літаратурны працэс, давалі сваю мастацкую і свядомасную інтэпрэтацыі гэтым паняццям, нароўні з шматлікімі іншымі.

Ужо быў пачуты і ўспрыняты чалавецтвам голас Васіля Быкава з яго апасродкавана-філасофскім асэнсаваннем дабра і зла, маральнасці і справядлівасці,— не проста ў асноўным на матэрыяле мінулай вайны, але з тым свядомасным кодам, які прачытваўся і разгадваўся ў кантэксце трагічных падзей і перспектыў канца другога тысячагоддзя, дзе крызісная самасвядомасць і экзістэнцыялізм існавалі побач з хрысціянскім адраджэннем. Ужо існавала на правах твораў жывога класіка лірычна-філасофская проза Янкі Брыля, вызначалася як непаўторная пісьменніцкая індывідуальнасць Алена Васілевіч, з яе мастацкім сплавам думкі, лірызму, гумару і іроніі, улоўліваў кожны новы павеў рэчаіснасці ў яе арганізацыйна-вытворчым і побытавым выяўленні Іван Шамякін, выходзячы на неверагодныя тыражы. Зусім яшчэ толькі (у 1976 годзе) адышоў з жыцця Іван Мележ, ускалыхнуўшы літаратурнае і нелітаратурнае асяроддзе сваімі творамі, найперш палескай дылогіяй, дзе яго эпічны талент шчасліва спалучыўся з лірычным бачаннем.

Называю тут і далей толькі празаікаў — таму што шматжанравы пісьменнік Уладзімір Караткевіч найбольш вызначыўся ўсё ж сваёй непадробнай прозай.

Калі мець на ўвазе літаратурных равеснікаў і тых, хто быў паблізу, дык за невялікімі выключэннямі яны «прапрацоўвалі» — глыбока, таленавіта, запамінальна — вясковую і ваенную тэматыку. Жорсткі псіхааналіз і сітуацыйны драматызм раманаў Вячаслава Адамчыка; непадробная пластыка пісьма Анатоля Кудраўца, з яго маральнымі праблемамі і мяккай іроніяй; высокае майстэрства Івана Пташнікава; найтанчэйшая, чэхаўская нюансіроўка размаітых твораў Алеся Жука, што ніколі не быў пачаткоўцам, адразу — сталы празаік; маштабная, эпічная хада Івана Чыгрынава, якому не чужы быў і жанр апавядання... Адметны шлях Міхася Стральцова — празаіка, паэта, эсэіста, крытыка, што трымаўся толькі і выключна еўрапейскіх. сусветных арыенціраў.

Усе — майстры.

Сярод іх, а неяк сам па сабе — Уладзімір Караткевіч. У пару, калі беларуская мова амаль адышла са школ, калі міграцыя з вёскі ў горад усё пашыралася, і губляўся той, вясковы чытач. Новы гараджанін, рабочы, чалавек сферы абслугоўвання імкнуўся да «невясковай культуры». Інтэлігенцыя — таксама, тая, што прыйшла «з хат»,— спасцігала розныя культуровыя каштоўнасці, з аднаго боку, з другога — адыходзіла ад каранёў, у шырокім і вузкім сэнсах. З'явіліся новыя пакаленні: рознага сацыяльнага статуса, аднак з той зацікаўленасцю, якую абудзілі наступствы «адлігі» — у шырокім культуровым кантэксце. Кнігі, кіно, выяўленчае мастацтва, перыёдыка. Распаўсюджвалася літаратура андэграўнда. На фотаплёнцы, а пазней на ксераксах, распаўсюджваліся забароненыя

выданні — беларускія таксама. Былі ўсё ж вернутыя, хаця не ўсе, многія імёны: Максім Гарэцкі, Андрэй Мрый, Лукаш Калюга... І іх творы...

Вытворчыя раманы чыталі ўжо, мабыць, толькі выдавецкія рэдактары і літаратуразнаўцы, сучасны герой з'яўляўся, як пазначалі крытыкі, найбольш амбівалентным.

Пераважалі прынятыя з канца 50—60-х гадоў прыцішаныя інтанацыі, паўтоны, мяккія ці жорсткія, але з адчуваннем абавязковага даверу да чытача і разумення, без кантрастаў.

І Уладзімір Караткевіч уварваўся — адначасова як рыцар, трувэр, трубадур, герольд. Са сваімі старасвецкімі — ярасцю і захапленнем, нянавісцю і неўтаймоўнай, вялікай любоўю, з вялікім каханнем, з бескампраміснымі ўяўленнямі пра дабро, справядлівасць. Ён вывеў сваіх герояў. Якая амбівалентнасць? Рыцары духу, ваяры, высакародныя, чыстыя. «І ўстаў з нябёс герояў строй...» Яго словы. І толькі так — з нябёс.

Гэта былі людзі з далёкіх вякоў і з сённяшняга дня, але паядналыя яны былі вось тымі самымі, толькі што пералічанымі якасцямі. І — што было неацэнна важна: яны былі беларусы. Не французскія шэвалье, не нямецкія фюрсты ці бароны, не ангельскія лендлорды. А сённяшні герой быў падобны да ідэальнага ўвасаблення тых, хто чытаў Уладзіміра Караткевіча. Гэты герой прагнуў прыгод, высокіх ідэй, насычанага зместам існавання.

Жанры? Тэмы? Калі ласка. Гістарычны раман, гістарыясафічны раман, гістарычныя аповесці і апавяданні, прыгодніцкія аповесці. Гісторыі кахання. Лірычныя прыпавесці. Філасофска-лірычныя і гістарычна-літаратурныя эсэ.

Уладзімір Караткевіч пісаў тое, што хацеў. І тое, што вызначыў. Для сябе і іншых. Трэба заваяваць чытача. Пісалі ж дэтэктывы чэхі. Трэба давесці пра тое, што мы, беларусы, не горшыя за іншых. Усё ў нас ёсць. Усё ў нас было. І павінна быць. Была свая гісторыя. Свая культура — не ад рэвалюцыі 1917 года яна пачалася, як сцвярджалі многія афіцыйныя крыніцы і папулярызатары гэтых ідэй — ад інструктараў дзяржаўных устаноў да людзей з навуковымі званнямі.

Уладзімір Караткевіч быў не адзін на Беларусі. Над узнаўленнем гістарычнай праўды пра наш народ, нашу культуру працавалі (і працуюць) многія. Гісторыя, літаратура, філасофія, мастацтва, архітэктура, музыка... На той момант многае было напрацавана філосафам Уладзімірам Кананам, літаратуразнаўцамі Адамам Мальдзісам, Генадзем Кісялёвым, Генадзем Каханоўскім, Вячаславам Чамярыцкім, археолагам і мастацтвазнаўцам Міхасём Чарняўскім, гісторыкамі Анатолем і Валянцінам Грыцкевічамі, Міколам Ермаловічам (хаця яго працы пабачаць свет пазней)... Не буду працягваць пералік, ён будзе доўгі...

Справа рабілася неацэнная. Аднак жывое, мастацкае слова... Яркае, экспрэсіўнае... Мастацкі сусвет, дзе пануе і сонечная стыхія пачуццяў,

і віхурна змяняюцца падзеі, і — вызначаецца таямніца вечных духоўных каштоўнасцей. Уладзімір Караткевіч не проста заваяваў папулярнасць — для чытачоў, асабліва для моладзі, ён стаўся вызнаным аўтарытэтам, ганфаланьерам Беларускага Адраджэння. Кнігі яго — *на беларускай мове* — вокамгненна знікалі ў кнігарнях. Без рэкламы. Без «раскручвання» ў прэсе.

Публіка, абазнаная ў прыгожым пісьменстве, ставілася да яго больш патрабавальна. Рафінаваныя эстэты не прымалі ўвогуле — асабліва тыя, каму былі далёкія яго патрыятычныя, адраджэнскія ідэі. Калегі па цэху ўспрымалі яго па-рознаму. «Валодзя — белетрыст»,— казаў пра яго адзін з найталенавіцейшых літаратурных равеснікаў, з лёгкай усмешкай і ведаючы слабыя бакі пісьменніцкага дару Уладзіміра Сямёнавіча.

Афіцыйна ж... Яму споўнілася ў 1979-м 49 год, былі напісаныя, па сутнасці, усе галоўныя рэчы: «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Ладдзя Роспачы», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Сівая легенда», «Блакіт і золата дня», ну, адным словам, аповесці, апавяданні, п'есы, эсэ (выдатнейшыя), нарысы,— аднак ніякіх узнагарод і прэмій на той момант не было.

Гэта я вяртаюся да таго, з чаго пачынала свой допіс, да рэдакцыйнага заказу.

Узнагарод не было. Але ж, думалася мне, *талент дае Бог, а ўзнагароды і чыны* — людзі. То талент не заўважыць было нельга. У бібліятэку ішла з прадчуваннем, што патану ў бібліяграфіі і сур'ёзных артыкулах. І вельмі здзівілася, калі знайшла ў асноўным невялічкія газетныя выступленні, у тым ліку разгромныя. Сярод таго, на што абавязкова трэба было звярнуць самую пільную ўвагу: рэцэнзіі — Уладзіміра Калесніка на кнігу паэзіі «Матчына душа», Генадзя Кісялёва на раман «Каласы пад сярпом тваім» і водгук на аповесць «Чазенія» ў польскім часопісе «Przyjaźń» Фларыяна Няўважнага.

Свой матэрыял я рабіла ўзлётна, як на хвалі, адчуваючы «повязь часоў», «блакіт і золата дня», разумеючы «музыку слоў», вызнаючы глыбокую мудрасць пісьменніка, яго самаахвярную любоў да Беларусі.



## Ружы Караткевіча

І выйшаў адзінаццаты нумар «Полымя». Ганарары тады атрымлівалі на чацвёртым паверсе Дома кнігі (на праспекце Машэрава, тады яшчэ — Паркавай магістралі). Пайшла і я атрымаць свае грошы. У чарзе да касіркі — мой герой: Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Нехта пытаецца ў яго: «Ты ўжо чытаў у «Полымі»? Пра цябе». Караткевіч не проста адказвае, а рыкае, што тур: «Чытаў! Буду я іх чытаць! Крытыканы! Крытыкі!»

Ён раз'ятрана крычыць яшчэ нешта. Мабыць, даліся яму ў знакі аглабельныя практыкаванні Якава Герцовіча і да яго падобных.

Мне — хоць праз усе чатыры паверхі праваліцца. Сітуацыя... Аднак я звычайна пішу, як думаецца, не чакаючы падзяк аўтараў. І ўсё ж крыўдна. Ведаю — што несправядліва. Няпросты герой майго эсэ. Адно суцяшае — бушаваў a priori, не чытаўшы. І ўрэшце...

...Назаўтра сяджу я ў сваёй рэдакцыі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Адна. Усе недзе разышліся.

Нечакана дзверы пачынаюць нібыта самі сабой расчыняцца. Паказваецца аграмадны букет белых ружаў. 1979 год! Дастаць ружы ў снежні ў Мінску — усё роўна, што зорку з неба ўхапіць. Але той, што нясе ў руках гэтае ўвасабленне хараства, здатны, мабыць, на ўсё — рыцар, паэт, чараўнік. Уладзімір Караткевіч.

Моўчкі ён кладзе кветкі на мой стол. А да іх — кораб (так!) цукерак, вялізны, што куфар з пасагам для нявесты. І яшчэ — кнігу пра Беларускі мастацкі музей і «Каляндар прыроды» на 1980 год. «Значыць, вы і ёсць Ала Сямёнава»,— ён садзіцца за стол насупраць мяне. Я моўчкі раблю нейкі рух плячыма. «Маглі б і болей лаяць»,— дадае Уладзімір Сямёнавіч. Такога намеру ў мяне не было, не люблю гэтае пратакольна-працэсуальнае дзейства: вось — станоўчыя якасці, вось — адмоўныя. Проста вяла гаворку пра творчасць Уладзіміра Караткевіча, імкнучыся не прамінуць ні вертыкаляў, ні гарызанталяў.

«Значыць, вы тут працуеце»,— ён аглядвае наш пакой — рэдакцыі крытыкі і драматургіі, такое было спалучэнне. І мы доўга сядзім моўчкі. Я падпісваю яму сваю кснжачку — толькі што выйшла: «Гарачы след таленту». Там ёсць і эсэ пра Караткевіча: у кнізе яно пад назвай «Стагоддзяў срэбны звон», у часопісе — «Часоў жывая плынь».

Калі Уладзімір Сямёнавіч выходзіць з рэдакцыі, пачынаю разглядваць прэзенты. Ад Уладзіміра Караткевіча! На календары надпіс: «Альбіне Іванаўне Сямёнавай, каб пражыла год шчасліва і плённа і ў канцы года зрабіла мне справаздачу аб тым, што створана за гэты год. У. Караткевіч. 14 снежня 1979 г.».

Аднак шчаслівы год не прыпаў на долю — ні гэты, ні наступны... Абставіны майго жыцця скляліся так, што некалькі год былі амаль што перакрэсленыя — справаздача не атрымалася. А пайшоў з жыцця Уладзімір Караткевіч крыху больш як за месяц да смерці маёй мамы і ў адзін дзень з маім аднакурснікам Алегам Сініцкім, эрудытам і парадаксалістам: яму не нашмат перайшло за сорак.

Такія былі перасячэнні паводле Провіду...

Аднак я маю спадзеў, што дзе-небудзь у «бязмежжы хвалюючай вечнасці» змагу справаздачу трымаць — ці давядзецца ў кніжным выглядзе, не ведаю: са 140 аркушаў напісанага (аркуш — прыблізна

23 старонкі машынапісу) — крытычная проза, эсэ, уласна проза — толькі 34 аркушы ўвасобіліся ў кнігі, астатняе — параскіданае па перыёдыцы (часопісы «Крыніца», «Нёман», «Полымя», «Тэрмапілы» (Беласток), «Наша Вера», штотыднёвікі «ЛіМ», «Голас Радзімы», матэрыялы канферэнцый і кангрэсаў — напрыклад, кангрэсаў ПЭН-цэнтра — і г. д.), ляжыць у папках у шуфлядах пісьмовага стала і ў шафах, адданае немаведама на чыю волю...

Эсэ «Стагоддзяў срэбны звон» заўважылі: да 50-годдзя мне замовілі нататкү ў адну з газет, у васьмітомніку (1987—1991 гады, рэдактар тома Васіль Быкаў, выдавецкі рэдактар Святлана Прыгодзіч) яго змясцілі ў скарочаным варыянце, ЭЛІМБел прапанавала мне зрабіць артыкул пра Уладзіміра Караткевіча. Заўважылі эсэ і за межамі Беларусі: Юрый Сураўцаў — не так паводле пасады (ён быў тады першым сакратаром СП СССР), як па духоўнай і прафесійнай схільнасці і неабходнасці, ён умеў і ўмее не прамінуць нічога ў літаратуры, беларускай у прыватнасці,— тады вызначыў мой матэрыял.

Была і задума кнігі. Не спраўдзілася — не з маёй правіны. Але — такое бяды... З'явіліся шматлікія кнігі, безліч артыкулаў. Але — падчас і пасля юбілею. І — пасля смерці.

### Сонца зямлі

Юбілей прайшоў хараша. У Саюзе пісьменнікаў, у Доме літаратара мала памятаю такіх неафіцыйна таленавітых, такіх цёплых вечарын. І юбіляр быў нейкі сцішаны, па-мойму, здзіўлены — ордэн Дружбы народаў, дружная ўвага.

Былі пазней і прэміі — Літаратурная імя І. Мележа і Дзяржаўная імя Якуба Коласа.

Аднак колькі лаўрэатаў і якіх, як сёння мовілі б, прэстыжных прэмій, засталіся толькі на кніжных паліцах і ў пратаколах урачыстасцей, на старонках старых перыядычных выданняў. Уладзімір Караткевіч — усе гэтыя гады — актыўна чытаецца, жыве ў памяці, сам ператвараецца ў легенду.



І я бяру з паліцы кнігі Караткевіча: васьмітомнік, двухтомнік, «Зямля пад белымі крыламі», «Чорны замак Альшанскі», «Нельга забыць», «Дзікае паляванне караля Стаха»... І зусім ужо зачытаныя — «Матчына душа», «Вячэрнія ветразі», «Блакіт і золата дня»...

Перагортваю старонкі...

Адчуваю магутны ўплыў сонечнай стыхіі таленту Уладзіміра Караткевіча.

Думаю — пра феномен творчасці Уладзіміра Караткевіча.

Заснавальнік беларускага гістарычнага рамана (спробы Б. Мікуліча: «Адвечнае» і Б. Садковіча і Е. Львова: «Францыск Скарына» — па сутнасці, толькі падыходы да асваення жанру). Раман «Каласы пад сярпом тваім», нават нясконччаны,— шырокае сацыяльна-гістарычнае палатно пра пярэдадзень найважнейшай, этапнай падзеі ў гісторыі Беларусі: паўстання 1863 года. Гэта, дарэчы, і раман выхавання, што ўвабраў у сябе традыцыі такога жанру ў заходнееўрапейскай і рускай літаратурах.

Гістарыясофскі раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — зусім новы для беларускай літаратуры стыль мыслення, стыль выкладання, стыль пісьма... Зусім новыя і разнастайныя сюжэтныя ходы, новая гістарычная канцэпцыя, новы мастацкі рытм... Праўда і ілюзія... Упершыню ў мастацкі ўжытак шырока ўведзеныя матэрыялы хронік і летапісаў, парафразы біблейскіх тэкстаў, варыяцыі ў розных кантэкстах біблейскіх выразаў і народных выслоўяў.

А «Сівая легенда», «Цыганскі кароль», «Паром на бурнай рацэ»... Можна пералічаць доўга.

Глыбокае, дасканалае веданне фактаў, падзей, рэалій часу. Веданне мастацтва, архітэктуры, этнаграфіі, фальклору, літаратуры. Сусветных і беларускіх. Віртуознае валоданне сюжэтам, фабулай. І — мастацкая «рэканструкцыя» часу, сацыяльнага і побытавага каларыту, псіхалогіі людзей, самасвядомасці. Жывы подых часоў, водар жыцця. Тое, што даецца творчай інтуіцыяй, мастакоўскімі зрокам, слыхам, усімі пачуццямі, культурай ведаў — *і геннай памяццю, геннай культурай, генезісам маральнага «я»*. Тым, што не сёння з'явілася, мела гістарычны шлях, перадавалася гадамі, стагоддзямі, у пэўных свядомасных, сітуацыйных, падзейных, сацыяльных умовах. Як вядома, Уладзімір Караткевіч меў дваранскія карані, і ганарыўся гэтым — у тую пару, калі ніхто яшчэ сутаргава не шукаў у сабе якой кропелькі блакітнай крыві, а наадварот — большасць імкнулася падкрэсліць свой рабоча-сялянскі патомны статус.

Ён быў эрудытам. Калі ведаў, дык ведаў дакладна. І пра Гарадзенскі замак, і пра ўсе гістарычныя перыпетыі горада Турава, і пра тое, якую зброю хто меў і ў якія часы, і хто як апранаўся, і якія рытуалы былі, а якіх не было (на розных сацыяльных узроўнях). Ніколі не пазычаў «рэквізітаў», не блытаў рэаліі гістарычныя з сённяшнімі. Веды былі цвёрдыя, спатрэбіліся — адразу на пяро. А пяро ва Уладзіміра Караткевіча было падуладнае магутнай, стваральнай — *сонечнай стыхіі* яго таленту. Жыццё грамадства, узаемаадносіны людзей, свядомасць тымчасовых насельнікаў Беларусі — усё гэта арганічна ўваходзіць у вобразную структуру твораў, на «зямлі пад белымі крыламі», дзе ў харастве сваім і непадробных фарбах мінаюць вёсны, леты, восені, зімы, дзе чутныя перагук званоў, гоман свят, спевы маладзіц, галасы люду размаітага.

Усё віруе, іскрыцца, усё поўнае жыцця. «Эмацыянальны дублікат» быцця, але і — «думак халодны пажар». І ўсё падсвечана, высвечана,— гумарам, іроніяй, часам — сарказмам. Ну, вось хаця б некалькі радкоў з «Цыганскага караля»: «Так скончылася вялікая цыганская вайна, адна з самых славутых войнаў, якія вёў кароль Якуб Першы. Вялікую славу здабылі ў ёй усе мужныя змагары. Але і страты былі вялікія: адзін шляхцюк адбіў пячонкі, упаўшы з воза, два захлынуліся віном у склепе; пяць чалавек забіліся да смерці. Яны загінулі за радзіму. Забітых вогнястрэльнай зброяй не было».

А ўвогуле шляхту — своеасаблівы сацыяльны пласт — ён умеў апісаць, як ніхто іншы. *«Ён высакародна араў сваё поле...»* (курсіў мой.— *А. С.*). Класіка! Лепш не скажаш! Нібыта мужык — сам за канём ходзіць, аднак жа — рыцар, абаронца, годнасць і высакародства — галоўнае! І так мог пазначыць толькі Уладзімір Караткевіч!

«Пісаць трэба хвацка!» — сцвярджаў ён у адным са сваіх інтэрв'ю. І — пісаў так. Сучасную прозу — таксама. «Чазенія», «Лісце каштанаў», «Дрэва вечнасці», «Залаты бог» і г. д. І, безумоўна, эсэ. Бляск — думкі. Экспрэсія. Каскад слоў, яркіх, дасціпных, *искрометных*.

Працаваў Уладзімір Караткевіч, падпарадкоўваючыся толькі стыхіі свайго таленту — шмат, з імпэтам, узлётна. І — спрактыкаваны мастацкі густ мог і можа тут заўважыць, што недзе шторм высокіх слоў мог быць і суцішаны, недзе іх мнагавата, а дзе-небудзь і ўвогуле варта было б перайначыць, адшліфаваць. Аднак — Уладзімір Караткевіч іншым быць не мог. Такім яго прыняў і палюбіў чытач.

«Палюбіў, мабыць, яшчэ і за тое, што пісьменнік разбурыў стэрэатып нацыянальнага характару. Не кажучы пра крыўднае, някрасаўскае: «высокорослый», «больной белорус», але і пра распаўсюджанае ўяўленне: рахманы, ціхі, цярплівы, нікога не пакрыўдзіць, нікога не кране. Героі Уладзіміра Караткевіча — людзі моцныя, таленавітыя, смелыя, яркія, разумныя, высакародныя! Алесь Загорскі, Раман Ракутовіч, Юрый Гораў, Андрэй Грынкевіч. Героі! І нават калі гэты так званы «жанравы чалавек» (Н. Бяркоўскі), дык якія ж гэта каларытныя, прыкметныя постаці! Жыццялюб, весялун, смяльчак, рызыкант Гервасій Выліваха («Ладдзя Роспачы»), відавочны беларускі сабрат Ціля Уленшпігеля і Кала Бруньёна, увасабленне сутнасці нацыянальнага характару! Або праўдашукальнік, узняты да вялікага разумення ісціны, хаця крочыць ён да яе надта пакручастымі шляхамі — Юрась Братчык. Той самы, згаданы вышэй сваімі выслоўямі шляхціц Багдан Роскаш.

Колькі іх усіх!

...Жанчына ў творчасці Уладзіміра Караткевіча — часцей за ўсё не так суб'ект дзеяння, як аб'ект кахання героя: кахання высокага, усёпаглынаючага, чыстага. Чароўная Дама — гераіня Караткевіча —

увасабленне хараства, пяшчоты, цнатлівасці, вышыні пачуццяў. Іх неяк і памятаеш, што якіх гераінь куртуазнай паэзіі, па імёнах: Ірына, Гражына, Марыя...

...Пра што б ні пісаў Уладзімір Караткевіч, ва ўсім і заўсёды прысутнічаў — адзіны, непаўторны, натхняючы вобраз — Радзімы. Не ў яго аднаго — вядома. Але, як у кожнага, тут было сваё. Асобае. Пранізлівае. Вызнанае ўсім зробленым, створаным.

«Радзімы твар, і горды, і суровы».
«Храм наш агульны і светлы...»
«На вуліцы першай радасці...»
«Твой дом і сабор...»

І гэтае, незабыўнае:

Каб плыў судоў уратавальны дым,—
А родны край знікаў навекі ў хвалях,—
Я б лепей згінуў з ім, з яго апошнім жалем,
Як жыў і мучыўся бязмерна — з ім.

Словы — не народнага пісьменніка, паводле табеля аб рангах. Аднак — народнага, паводле памяці пра яго.

Кніг Уладзіміра Караткевіча ў кнігарнях і цяпер няма. Не залежваюцца.

Людзі чытаюць яго і ідуць да яго. Да таго каменя з коласам, дзе знайшоў ён свой вечны спачын.

Каб ушанаваць памяць і выявіць сваю ўдзячнасць і любоў. Бо ён — «быў, ёсць, будзе».

Рыцар сонечнай стыхіі.

*2000*

## Міхась Чарняўскі

# Глыток свежага паветра



Прысутнасць харошага чалавека ўспрымаецца як дадзенасць. Як паветра ці хлеб на стале. І здаецца, так будзе доўжыцца вечна. І толькі калі чалавек адыходзіць, разумееш увесь цяжар страты і прыходзіць шкадаванне, што не занатаваў калісьці ўбачанае, перажытае, пачутае. Не запісаў — з-за штодзённай мітусні, якая забірае большасць часу, а то і па звыклай ляноце. Было яшчэ і спадзяванне на памяць: «Вось сяду за пісьмовы стол...» Але час мінае, і памяць блякне, як стары фотаздымак, і толькі яшчэ праглядаюцца некаторыя святлей-

шыя і ярчэйшыя дэталі... І толькі калі Караткевіч сур'ёзна захварэў, я, асцерагаючыся найгоршага, пачаў тое-сёе з нашых сустрэч запісваць у дзённік.

У далёкім 1958 годзе я, вясковы настаўнік невялікай сямігодкі на Мядзельшчыне, набыў тоненькі зборнічак вершаў. Найперш уразіла назва. Яна цалкам выпадала з сацрэалістычнага шэрагу назваў тагачасных зборнікаў тыпу: «Яснае світанне», «Сонечнымі днямі», «Размова аб шчасці», «Пад сцягам перамог», «Зары насустрач», «Светлая хваля» і г. д. да бясконцасці. А тут — «Матчына душа», а ў ёй замест знатных механізатараў і перадавых даярак — «У векавечнай бацькаўшчыне клёны нячутна пачынаюць аблятаць...». Гэта было як вырвацца з доўгага і нуднага прафсходу на свежае паветра.

*1962 год*

Пачатак восені. Я ўжо аспірант па спецыяльнасці археалогія ў акадэмічным Інстытуце гісторыі.

Зайшоў у інтэрнат для навуковых супрацоўнікаў на вуліцы Друкарскай (Сурганава), дзе жылі мае знаёмыя даследчыкі літаратуры і мастацтва. Хацелася адвесці душу ў беларускамоўнай гаворцы, з якой было тады яшчэ цяжкавата ў нашым аспіранцкім інтэрнаце. І тут Арсень Ліс кажа: «Прыехаў Уладзімір Караткевіч, давай я цябе з ім пазнаёмлю». Знаёмства адбылося ў суседнім пакоі, дзе таксама жылі свае хлопцы.

Я ўбачыў маладога чалавека амаль ўзросту Хрыста, і ён, як і чакалася, падаўся мне незвычайным. Скульптар Прырода, якая ляпіла яго твар, а таксама стварала яго духоўны змест, чэрпала, ды поўнымі жменямі, з самых розных генетычных засекаў. Асобныя часткі твару быццам былі ўзятыя ад розных людзей, але гэтай уяўнай недапасаванасцю яны стваралі непаўторную і вельмі запамінальную гармонію. Найбольш уражвалі вочы, і гэта, дальбог, не банальнасць. Яны былі рознакаляровыя, вялікія, нават вірлавокія, і вельмі ўважлівыя, даследуючыя. Гэта былі вочы навукоўца і мысляра. А потым уражваў голас сваім грудным і глыбокім тэмбрам, сваёй звонкасцю.



Пазней я даведаўся, што ён цудоўна спявае, добра малюе, мае надзвычайную памяць, разумее і любіць гумар. Ён меў талентаў на некалькі жыццяў, але лёс не даў дажыць напоўніцу і адно...

Караткевіч, акрамя ўсяго, захапляўся археалогіяй, таму мая асоба яго, здаецца, зацікавіла. І ў далейшым мы сустракаліся як добрыя знаёмыя, асабліва калі пажаніліся і нашы сямейныя гнёзды апынуліся на вуліцы Карла Маркса праз пару дамоў паміж сабой. Але я стараўся не назаляць яму сваёй прысутнасцю і лішнімі тэлефанаваннямі. Стараўся не адымаць яго ад творчасці, такой неабходнай Беларусі.

*1964 год. Восень*

У «Маладосці» пачала друкавацца аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». Нумары часопіса зачытваліся да дзюрак. Аспіранты-расійцы замучвалі пытаннямі: «А што значыць гэта слова? А гэта?» Яны, трапіўшы ў Беларусь з якога Паволжа або Сібіры, упершыню чыталі па-беларуску! Чыталі, з асалодай прадзіраючыся праз хітрыкі Караткевічавага сюжэта, праз старабеларусізмы і нават аўтарскія навасловы.

«Дзікае паляванне...» паспрыяла і жаніцьбе Уладзіміра. А справа была такая. Восенню гэтага ж года закончыла тэрмін навучання мая каляжанка па аспірантуры, таксама археолаг Валянціна Нікіціна (у дзявоцтве Ватковіч). Гэта была разумная маладая жанчына з дэмакратычнымі перакананнямі і даволі незалежным характарам, што не заўсёды падабалася начальству. І ёй, ужо на парозе абароны кандыдацкай дысертацыі, не знайшлося месца для працы ў нашым Інстытуце.

У змрочным настроі ехала яна ў Брэст, каб уладкавацца там на працу. І я, ведаючы яе ахвоту да чытання дэтэктываў, спрэзентаваў «на дарогу» пару нумароў «Маладосці» з «Дзікім паляваннем...». І так здарылася, што праз нейкія тры гады яны і пазнаёміліся на літаратурным вечары ў Брэсцкім педінстытуце. Валянціна была захопленая «бацькам» яе любімага «Караля Стаха». А ў 1971 годзе адбыўся іх шлюб, і з таго часу Уладзімір жартам называў мяне сватам.

Не ўсім сябрам і прыяцелям Караткевіча напачатку спадабалася яго выбранніца. Уяўлялася, што поруч з ім павінна была быць гэткая беларуская патрыётка, палымяная і рамантычная, новая Алаіза Пашкевіч. А тут рускамоўная выкладчыца гісторыі КПСС з нейкага правінцыйнага педінстытута. Аднак гэта быў выбар лёсу. Валянціна стала яму і жонкай, і ахоўніцай, і нянькай, і медсястрой, і лекарам. Найперш яна разагнала прыліпал з бутэлькамі, частка з якіх мэтанакіравана старалася спаіць пісьменніка. Яна ўпарадкавала ягоны побыт, апекавалася, вызваляючы час для творчасці, ствараючы для гэтага ўтульнасць і спакой. А родную мову ўспомніла хутка і натуральна. Калі Валянціна Караткевіч узначаліла ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук аддзел Збору помнікаў гісторыі і культуры, Уладзімір разам з ёю пабываў у многіх экспедыцыях, аб'ездзіў цікавейшыя куткі Беларусі. Гэта давала пісьменніку, зацікаўленні якога былі звязаныя з нашай гісторыяй, велізарны пажытак. «Чорны замак Альшанскі» ў асноўным і быў створаны пад уражаннем гэтых паездак. Там цэлыя кавалкі з экспедыцыйнага жыцця. Нават ёсць эпізод абвалу шахты каменнага веку пад Ваўкавыскам на маю сціплую асобу. У прысвячэнні да кніжкі аўтар напісаў: «В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю». Не трэба тлумачыць, хто хаваецца за гэтым В.К.

Заўчасную смерць жонкі ў 1983 годзе Караткевіч успрыняў як катастрофу. Знікла яго апірышча ў рэальнай штодзённасці. «Пасля Валі мне няма чаго заставацца на гэтай зямлі»,— казаў ён у хвіліны чорнай тугі. І пайшоў ён за ёю ў наступным, 1984 годзе.

*Сярэдзіна 60-х гадоў*

У Акадэміі навук адбываецца нейкая навуковая, а хутчэй палітычная дыскусія. З трыбуны высокапастаўлены кіраўнік нашага мовазнаўства, які з цяжкасцю мог вымаўляцца па-беларуску, з гонарам заяўляе: «А ў меня два радных языка — русскій і белорусскій». На што з залы звонка зарэплікаваў прысутны Уладзімір Караткевіч: «Гэта ў змяі «два языка». У чалавека ж «язык» адзін — яго родная мова».

*1967 год*

Вясна. Час натужлівага прасоўвання ў друк праз цэнзурныя сіты рамана «Каласы пад сярпом тваім». Вечарам на плошчы Якуба Коласа наша група маладых акадэмічных навукоўцаў выпадкова сустракае Уладзіміра Караткевіча. Пісьменнік да слёз абураны нядаўняй размовай са сваімі «рэцэнзентамі»: «Чаму яны мяне так душаць? Я мог бы свабодна пісаць па-руску або па-ўкраінску. А я ж стаў беларускім пісьменнікам. Чаму ж у Беларусі так мяне не цэняць?»

*1967 год. Верасень*

Скончыўся палявы сезон, і, як заўсёды, склікаю сяброў у свой пакойчык у акадэмічным інтэрнаце, каб пахваліцца археалагічнымі знаходкамі і адкрыццямі. Нешта праз пару тыдняў сустракае мяне Адам Мальдзіс і кажа: «А я таксама хачу мець такі крамянёвы кінжал, які ты падараваў Караткевічу». «Які кінжал? Які падарунак?» — здзівіўся я і паспяшаўся дахаты. І сапраўды, у калекцыі знаходак бракавала адмысловага крамянёвага нажа з выгнутым лязом, знойдзенага на стаянцы каменнага веку каля Добрага Бору на Шчары.

Тэлефаную Караткевічу: «Валодзя, ведаю, што ўкраў нож, але ён нават не замаляваны. Дай хоць зрабіць з яго малюнак». «Замаляваць дам. Прыязджай»,— велікадушна пагадзіўся Караткевіч.

У калекцыі пісьменніка была процьма розных цікавостак не толькі з Беларусі, але і з іншых краін. І ён не ўстояў, каб не папоўніць яе крамянёвай зброяй свайго нейкага прашчура з каменнага веку. І я гэтаму не запярэчыў, бо ў думках мы ўжо меліся зрабіць у будучым з кватэры Караткевічаў літаратурны музей.

*1973 год. Лета і пачатак восені*

Разгарнулася «паляванне на беларускіх нацыяналістаў». Некаторым службоўцам у пагонах вельмі ж ужо хацелася знайсці і выкрыць «падпольную нацыяналістычную арганізацыю, са структурамі, кіраўніцтвам

і, вядома, сувязямі з падрыўнымі зарубежнымі цэнтрамі». На ролю кіраўніка або хоць бы духоўнага лідэра «нацыяналістаў» падыходзіў Караткевіч, бо Генію́ш знаходзілася далекавата, ажно ў Зэльве, а той быў у сталіцы, у эпіцэнтры «беларускага нацыяналізму». У КДБ вельмі ж пра Караткевіча дапытвалі ды і самога турбавалі «собеседованиями». Каб неяк дапамагчы Уладзіміру, я на допыце выказаў сумнеў у беларускай патрыятычнасці пісьменніка: ён жа з маці і жонкай размаўляе па-расейску. На гэта следчыя абазвалі мяне фанатыкам і больш пра Караткевіча не пыталіся. Выбачаюся за гэты «абгавор» перад светлай памяццю вялікага патрыёта Беларусі Уладзіміра Караткевіча.

Але Караткевічу дапамог не я. Дапамаглі заступніцтва Максіма Танка ды сакратара ЦК КПБ па прапагандзе Кузьміна, ды і Пётр Машэраў не быў схільны патураць памкненням службаў бяспекі.

*Канец 70-х гадоў*

Удзельнікі Міжрэспубліканскай канферэнцыі па вывучэнні і ахове помнікаў гісторыі і культуры робяць экскурсійную паездку па Заходняй Беларусі. З намі ў аўтобусе Уладзімір і Валянціна Караткевічы. Вяртаючыся ў Мінск, пасля перакускі ці не ў Міры, мы заспявалі. Асабліва хораша гэта атрымлівалася ва Уладзіміра. Праслухаўшы першую беларускую песню, украінскі, даволі фанабэрысты навуковец сказаў: «А цэ ж наша пісня». Пасля другой — «І цэ українська». Пасля трэцяй падобнай рэплікі Караткевіч не сцярпеў: «Ага, у беларусаў ніколі і нічога свайго не было. У нас у часы нямецкай акупацыі нават паліцыя была ўкраінская».

Госць з суседняй брацкай рэспублікі заціх ажно да Мінска.

*1980 г. Пачатак верасня*

Меў экспедыцыйную машыну, каб паехаць у археалагічную разведку. Падахвоціўся і Уладзімір зазірнуць на Койданаўшчыну — пашукаць магілу Каруся Каганца.

Раз'езды па вёсках і хутарах далі мала выніку. Старэйшыя памятаюць пра Кастравіцкіх, але тых, што пасля паўстання 1863 года не былі высланыя, а засталіся на Койданаўшчыне. Зазіраем у Навасельскую школу. Дырэктар — нейкі матэматык па адукацыі, пасля нашага прадстаўлення: «Караткевіч, Чарняўскі» кажа, звяртаючыся да мяне: «Нашы вучні Вашыя вершы любяць і вучаць на памяць». Выходзім ад дырэктара і кіруемся да нашай экспедыцыйнай машыны. Валодзя маўчыць, а затым прамаўляе: «Нет пророка в своем отечестве». Я, каб звесці сітуацыю да жарту, распавядаю, як прыехаў быў у адну з дзесяцігодак Стаўпецкага раёна, каб дамовіцца аб удзеле школьнікаў у археалагічных раскопках. Дырэктар зазірнуў у маю камандзіроўку, выдадзеную М. Чарняўскаму, паслухаў маю беларускую гаворку ды і кажа: «Ці не маглі б Вы выступіць перад вучнямі?» — «Мог бы». І вось паўнюткая зала школьнікаў і настаўнікаў і

дырэктар урачыста аб'яўляе: «У нас у гасцях вядомы беларускі паэт Мікола Чарняўскі, і ён прачытае вам свае новыя вершы». Я разгубіўся, бо не хацелася рабіць няёмкасць дырэктару перад ягонымі вучнямі, таму сказаў, што сёння вершы чытаць не буду, але лепш раскажу, хто тут жыў дзесяць тысяч гадоў таму назад і запрашу на археалагічныя раскопкі, якія пачнуцца заўтра.

*Недзе самы пачатак 80-х гадоў*

На маю заўвагу, што ён часам злоўжывае чаркай і гэтым марнуе талент, які належыць не яму, а беларускаму народу, Уладзімір адказаў: «Якія вы, заходнікі, бываеце занудлівыя. Калі я зусім цвярозы, то мне так баліць, быццам злупілі скуру. Баліць ад усяго, што вычвараюць з маёй Беларуссю. Выпіўшы, я адключаюся ад сучаснасці і магу вяртацца да сваіх герояў».

А на пытанне, калі ж чакаць завяршэння «Каласоў...», са скрухай прамовіў: «Не магу пісаць завяршэнне. Яны ж усе загінуць... Я не магу іх забіць».

*1980 год, 26 лістапада*

Сёння 50-годдзе Валодзі Караткевіча. Ведаў, што 26-га, але так запрацаваўся са «Спадчынай», што юбілей зусім выпаў з галавы. Раніцой пачуў па радыё, што яго ўзнагародзілі ордэнам Дружбы народаў.

Тэлефаную ў 9-00. Трубку падымае, як заўсёды, Валя. Віншую і кажу, што вельмі цешуся з Валодзевай узнагароды.

Валодзя яшчэ спіць. Ён позна ўстае, бо позна сядзіць за пісьмовым сталом, калі яму не баліць і можна працаваць.

В а л я. «Мы пра гэта даведаліся яшчэ пазаўчора». І кажа, каб прыехаў па запрашальны білет на ўрачыстую вечарыну ў Доме пісьменнікаў.

Трэба паслаць віншавальную тэлеграму. Мая жонка Света заказвае тэлеграму па тэлефоне, дыктуе беларускі тэкст па літарах, бо тэлеграфістка «не знает белорусского».

А што падараваць? Пасля доўгіх роздумаў рашаем: поўсць маманта. Гадоў восем назад палеантолаг Пётра Каліноўскі запрэзентаваў мне добры жмут гэтай поўсці, здабыты ў сібірскай вечнай мерзлаце з загрыўка гіганта ледавіковай эпохі. Частка жмута ўжо разышлася па знаёмых, але тое-сёе яшчэ засталося. Жонка знаходзіць прыгожую мензурку на падстаўцы, і я засоўваю туды пару доўгіх і тоўстых, колеру меднага дроту, мамантавых поўсцін.

На вуліцы мяккі беларускі снег. Званю ў дзверы. Адчыняе зноў, як заўсёды, Валя. «Праходзь, распранайся. Валодзя ў зале — прыйшлі віншаваць з Купалаўскага музея. Зараз не пытайся пра білет, бо сядзіць і Вакар, а яму білета пакуль няма».

Заходзім у залу. Там у крэслах з пяток дзяўчат і жанчын. Тут жа і Валодзя. Перад ім — мінералка, перад гасцямі — адкаркаваная бутэлька шампанскага. Дастаю з сумкі мензурку, віншую юбіляра і кажу нешта кшталту: «Прымі часцінку таго маманта, якога твой далёкі продак упаляваў дваццаць тысяч гадоў назад».

Абдымаемся, цалуемся. Валя налівае мне і сабе шампанскае. Выпіваем за здароўе юбіляра. Валодзя заканчвае расказваць гасцям нейкую сваю чарговую гумарыстычную гісторыю з паездкі ў Чэхію.

Пазаўчора Валя казала, што ён худы як шчэпка, што трымаць яго ў руках і ў форме няма ніякай моцы. А сёння Валодзя выглядае добра, свежа. Вясёлы.

Купалаўцы развітваюцца. Пайшоў і Сяргей Вакар, пакрыўджаны, што толькі заўтра атрымае запрашэнне.

Вяртаецца з развітальні Валодзя, мы сядаем каля стала.

Я зноў пра тое, што як гэта цудоўна, што ўзнагародзілі ордэнам. А ён — што гэта добра для справы, і для ўсіх нас, і для мяне ў тым ліку. Прабіліся, даказалі. Народ, чытач прымусіў іх гэта зрабіць.

«А як жа ціснулі. Мяне ж яшчэ з Кіеўскага універсітэта выключалі, як ...украінскага нацыяналіста — чытаў Шаўчэнку. Ну і чытаў. Я яго заўсёды любіў і люблю. Хацеў бы сёння сустрэць тых, хто мяне «клеймілі» і патрабавалі выключыць».

На стале гурба тэлеграм. Адусюль, ад самых розных людзей. Ад знаёмых і незнаёмых. У тым ліку і жартаўлівая Мальдзіса, быццам ад польскіх турыстаў. На віднейшым месцы — самвыдатаўская, густоўна зробленая праца Міколы Ермаловіча па старадаўняй гісторыі Беларусі, здаецца, падарунак студэнтаў-мастакоў Тэатральна-мастацкага інстытута. І сярод іншых падарункаў — кніжка з Ротніч над Нёманам.

«У Ротнічах пад Друскенікамі прыходзіў на могілкі. Прыбраў магілу Яна Чачота, пасадзіў кветкі, што доўга растуць (называе). Зацікавіліся мной мясцовыя дзеці. Затым пробашч надышоў. Хто, што і адкуль? Ці былі ў касцёле? Пра касцёл не скажу, а вось на могілках — непарадак, край абкапаны і валяецца чалавечая сківаца. Скажыце кусташу — хай закапае. Я, Міша, не люблю чапаць чалавечых костак. Усё здаецца, што гэтым абражу памерлага.

І ў апошні дзень падыходзяць да мяне дзеці, дораць кніжку і кажуць: «Мы з Ротнічаў». І ўцякаюць. І нічым я іх не паспеў аддзячыць. Мо тут не абышлося без пробашча? Такі харошы беларус, хоць, можа, і лічыць сябе крыху палякам».

А кніжка багатая: скураная вокладка пад сярэднявечча, з меднымі запінкамі, тоўстая, цісненне па скуры. І ўсе старонкі з цудоўнай белай паперы чыстыя. А на першай старонцы — ужо вершаванае віншаванне Барадуліна.

Я. «Гэта ж можа стаць альбомам лепшым, чым у Вярыгі-Дарэўскага».

В а л я. «Так, спачатку думалі, як гэты ротніцкі падарунак выкарыстаць, а пасля запісу Рыгора зразумелі...» І ўсе разам успомнілі, што на старой кватэры Караткевічаў уся ванная была распісана эпіграмамі і вершамі. І якія там былі знакамітыя аўтары! Шкада, што новыя гаспадары ўсё гэта пры рамонце зафарбавалі.

«Сёння мне падаравалі маманта...» — гэта харошы пачатак для казкі, і я яе прысвячу табе, Міша... А колькі ўжо твайму хлопцу?» — «Чатыры з паловай».— «Тады казка з «Вясёлкі» яму ўжо падыдзе. Валя, я пайду ў кабінет, трэба пабыць аднаму, настроіцца, каб падпісаць. Не кліч да тэлефона». А тэлефон звоніць раз-пораз.

Калі Валодзя хаваецца за дзверы, Валя кажа, што грозіцца на юбілейным вечары ў пятніцу высказаць усе свае ўласныя і агульнабеларускія крыўды. «Пагавары, Міша, каб і сапраўды ён такога не сказаў». І далей Валя зноў расказвае: «Раніцой Валодзя палез у ванну, намыліўся. І раптам званок у дзверы — Законнікаў, задыханы і нават без пінжака: «Дзе Уладзімір Сымонавіч?» Адчыняю ванную: «Вось». А той увесь у пене, толькі галава тырчыць. «Зараз будзе званіць Кісялёў!» Нясу тэлефон у ванную. Доўга і хораша пагаварылі. Ну, проста сцэнка для будучых мемуараў. Толькі пакуль ты нікому не кажы пра гэта».

Нарэшце выходзіць Валодзя з падпісанай Максіму «Вясёлкай».

...А неўзабаве тую прабірку з маім падарункам я пабачыў на экране тэлевізара. Вядучы перадачы «Спадчына» Уладзімір Караткевіч працягнуў яе тэлегледачам і пачаў: «Гэта было ў тыя далёкія часы, калі на глiністых пагорках Беларусі блукалі золатавалосыя маманты...»

*1983 год. Студзень*

У сярэдзіне месяца быў у Караткевіча.

«Адказваю на кожны ліст, а гэта адымае мноства часу. Але не адказаць на ліст, гэта як не паціснуць працягнутую руку».

Ходзіць слабавата, бо ў Адамчыкаў ашпарыў кавай нагу. На маю прапанову зірнуць рукапіс аповесці Колі Купрэйчыка (быў упэўнены, што Купрэйчык ужо дамовіўся з ім пра гэта) пачаў адмаўляцца: «Завалены рукапісамі, лістамі, а трэба працаваць над працягам «Каласоў». Зрабіў пераклад дзіцячых вершаў па просьбе Барадуліна, а зараз таго Барадуліна не знойдзеш, не даб'ешся да яго, бо адключае тэлефон. Эгаізм». І сам жа скардзіцца, што тэлефонныя званкі перашкаджаюць працаваць.

*1983 год. 26 мая*

Пазваніў Караткевічу. У таго бадзёры голас. Гэта добра. Можа, перадольвае крызіс пасля смерці жонкі? Я прасіў дамовіцца з Кузьміным аб сустрэчы наконт запланаванага начальствам пераносу Дома Ваньковіча.

*1984 год. 3 студзеня*

Званіў вечарам Валодзя Караткевіч: «Ты не звоніш, дык я званю». А я ж званіў напярэдадні Новага года, і пасля. І жаночы голас (сястра?) увесь час адказваў, што Уладзімір Сямёнавіч у ваннай... Думаў, што не хоча клікаць. Вось таму і званіць яшчэ было няёмка. Казаў, што вечарам тэмпературыць, што надакучылі дактары, што мае сігнальны экземпляр «Чорнага замка Альшанскага». Пытаў, дзе буду летам. Пэўне, хоча да мяне ў экспедыцыю, а куды ж я яго вазьму, такога хворага, калі буду даследаваць шахты на Росі пад Ваўкавыскам, дзе мясцовыя цамянтоўні засыпаюць наваколле крэйдавым пылам і ўсялякай іншай трасцай?

*8 студзеня*

Да абеду быў дома, бо загрыпаваў Максім.

Званіў Караткевіч:

— Я цябе запрашаў у госці?

— Запрашаў... Правільней — я сам напрасіўся.

— Усё адно прыходзі. Падпішу кнігу.

— А я ўжо купіў. Але і ад тваёй не адмоўлюся.

— Вось хапуга, але чакаю.

— Вельмі харошая кніга. І так аформлена!

— Ага. Нічога атрымалася. А ў цябе малюнкі з разваротам?

— З разваротам.

— Пашанцавала. Бо з разваротам абмежаваная колькасць.

— Разумееш, у мяне зараз усе загрыпавалі, таму пакуль і не магу выбрацца да цябе.

— Ну, хай папраўляюцца. Тады і зазірні.

Змаўчаў я, што ў кніжцы ёсць друкарскія памылкі. Аўтар хворы, не вычытаў як след. А куды ж глядзелі карэктар і рэдактар?

*16 студзеня*

Быў у Караткевіча. Дзверы адчыніла ягоная сястра. Жыве тут з мужам. І добра, што пры ім менавіта родзічы. Яму не так адзінока.

Перадаў слоік бацькавага мёду. Мёд чысты, з мядзельскіх кветак — хай яму лепшае.

Падпісаў мне свой «Чорны замак...» і рэкламку на «Замак...». Паўспаміналі мае раскопкі на Віцебшчыне, дзе ён калісьці быў з нябожчыцай Валяй. Парасказвалі пра свае хваробы і разышліся. Яму патрэбен баралгін і інтэрферон.

*24 лютага*

Забегся да Караткевіча. Занёс некалькі ампул з баралгінам (былі ў маіх запасах). Ён жаліўся напаўжартам, што дрэнна сядзець — учора былі вельмі балючыя ўколы.

*25 лютага*

Караткевіча забралі ў бальніцу. У надзвычай цяжкім стане — перадкома. Ляжыць у рэанімацыі лечкамісіі. Адам сказаў, што часам «грашыў» па-ранейшаму чаркай — бывалі «госці» не толькі з баралгінам.

*30 лютага*

Глядзеў «Кастуся Каліноўскага» ў пастаноўцы коласаўцаў. Раздражняў кашаль у глядзельнай зале і шэпт суфлёра. І дэкарацыі. А ўвогуле — няблага. Асабліва сцэна, калі танцуюць перад пакараннем смерцю сяляне. І апошнія сцэны. Не вытрымаў пад канец і расплакаўся (цішком ад жонкі і дзяцей). Расплакаўся над лёсам Беларусі, Каліноўскага і самога аўтара п'есы, які ў гэты час недзе памірае ў бальніцы.

*1 красавіка*

Хадзіў у лечкамісію да Караткевіча. Той ужо адчувае сябе нармальна. Дні праз тры маюцца выпісаць дахаты. Прыйшоў і Міхал Дубянецкі. Пагутарылі. Пажартавалі. Нават і парагаталі.

*17 красавіка*

Аднёс Валодзю баралгін. Адчувае ён сябе зноў блага і выгляд мае неважнецкі. А перад гэтым адчуваў сябе добра, хадзіў у Купалаўскі скверык, нават ездзіў на адкрыццё выставы Кішчанкі. Заўтра збіраецца на 10 дзён у Аксакаўшчыну — падлячыцца і адпачыць. Каб толькі не паўтарыліся «Сосны» на Нарачы пасля смерці Валі...

Скардзіўся, што нічога не можа пісаць.

*25 ліпеня*

У 10.05 пазваніў Васіль Шаранговіч і сказаў, што сёння раніцай у лечкамісіі памёр Уладзімір Караткевіч. А перад гэтым папрасіўся да Драчова і Ждановіча праплысці на плыце па Прыпяці. Як быццам хацеў назаўсёды развітацца з улюбёнымі мясцінамі Беларусі. Прывезлі яго адтуль з унутраным крыватокам...

*27 ліпеня*

Мноства людзей. Але шмат хто не ведае пра смерць Караткевіча — канікулы, адпачынкі, выезды з горада.

Паўнюткая зала. Забітыя людзьмі праходы. Кветкі каля труны на сцэне. Мноства кветак. Старая жанчына з дзвюма дзяўчынкамі прынесла і паставіла каля труны снапок зжатага жыта. Як ставіла снапок — зала пачала плакаць уголас.

Наўкола зажураныя твары, заплаканыя вочы. Вакар, усхліпваючы, кажа, што і ён хоча пастаяць каля труны Караткевіча. Іду да Законнікава ў суседні пакой, дзе сабралася калейка на жалобную варту. Потым заводжу туды і Вакара.

2 гадзіны дня. У зале з'яўляецца ўрад і кіраўнікі ЦК. Акрамя Слюнькова.

Апошнія развітальныя прамовы.

Калі Васіль Быкаў гаворыць, што надаваць Караткевічу пасмяротныя годнасці — варты жалю жэст для самаапраўдання жывых, Кузьмін згодна заківаў галавой (было бачна, што гэтага харошага чалавека глыбока кранула смерць яго ўлюбёнага пісьменніка), а Барташэвіч крыху падціснуў жывот і прыспусціў галаву. А перад гэтым неяк, здавалася, фанабэрыста пазіраў у столь.

Велізарны картэж машын да могілак. З міліцэйскім эскортам. І там прамовы.

Б у р а ў к і н. «... урачы сказалі: «На яго галаве былі шнары ад udараў. Яго білі наўпрост і ўскосна, але ён меў моцнае сэрца». Хораша сказаў. Жменькі зямлі пасыпаліся ў магілу, загрукалі ў века труны.

Бывай, Валодзя. Бывайце, Уладзімір Караткевіч.

*2005*



Варлен Бечык

# Плынь разняволеных пачуццяў

1970

*25.I.*

П'янеў ад шчодрай пагоды, зімовай свежасці і няздзейсненага шчасця. Скразны навылётны жыццёвы гул, раскашаванне бесклапотнасці, поўня ў арэоле вясёлкі, нябесная сінь, запарушаная аблокамі. Мы з Ражанскім дзве гадзіны на лыжах: Каханаўка, Бабавозаўшчына, Лявонцавічы, распушаныя кіяхі. Нейкая спрэчка пра раман Скобелева, «палітычныя» размовы, каханне; а ўсё як няіснае — плыло і сплывала, быў добры белы сон, што роўніць усіх людзей адным — здароваю дружбаю з прыродай, снежным святлом.

Каля глыбокіх (чышчаных) ачарнелых дарог ціха туліліся падчаркі стагоддзяў — родныя вёсачкі. Кудысьці пераходзілі рэдкія людзі, а дзеці малымі купкамі ладзілі сваё зімовае свята. Я думаў пра гэтых дзяцей як пра сябе, пра тую малечую адзіноту, што бярэ толькі ад сябе і праз сябе жыццёвы змест, яшчэ — пра тое, што не маю я ні вясковай, ні гарадской прапіскі...



Караткевіч — паэт жыццёвага шчасця, пераможнай рамантыкі, вольнага і гарманічнага і ўсёабдымнага кахання. Вольна яму насяляць нашу гісторыю замкамі і прыгодамі, вольна славіць жыццёвае свята, стыхію, нечаканыя сустрэчы, шчымлівыя разыходжанні, каб за ўсім уславіць галоўнае, што ў чалавеку ёсць: сілу яго пачуццяў, стыхію жыцця, каханне. Усе мэты, справы, абавязкі — умоўнае, няіснае, побач з гэтай плынню разняволеных пачуццяў, вызваленасці ад дробязнасці, мітусні, бесталковіцы. Яго неразуменні, разыходжанні — шляхі да згоды, перадвеснікі шчасця.

*5.II.*

У «Маладосці» № 12 за 1969 год надрукавана эсэ Караткевіча «Званы ў прадоннях азёр». Божа мілы, якая свабода, лёгкасць, паўната — гісторыя, літаратура жывуць разам у чалавеку, грамадстве. І яшчэ — герой т. ск. лірычны: вясёлы хлопец, проста зух, дасціпны, свойскі, глыбокі і тонкі знаток усяго на свеце. «Прыўкрасна!» А сакратар гаркома Шарапаў крытыкаваў у дакладзе. І вось рэпліка ў «ЛіМе» 3.II.70. за подпісам: Л. Жога (Л. Прокша, гал. рэд-р?). У ёй: «Дабіраўся туды паэт не з такім камфортам, як нашы падарожнікі». І яшчэ: «Аб гэтым трэба пісаць сэрцам, а не жоўцю. І адлучаць адно ад аднаго, зацямняць мінулым сучаснае, мякка кажучы, нельга».

1984

*28.VII.*

Амаль адначасова тры смерці: Васіля Бурносава, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Барысенкі. Караткевіч — перад вачыма. Ён заўсёды ўражваў неардынарнасцю, таленавітасцю. Некалькі сваіх успамінаў. Разы са тры ён званіў мне. Аднойчы: — Ну, малайчына. (Пасля прадмовы да «Беларускай балады». Там была фраза пра тое, што ён здзейсніў сапраўдны подзвіг.) У некралогу, падпісаным на самым высокім узроўні, і на пахаванні было, нарэшце, выказана ўсё, чаго ён варты.

## Анатоль Бутэвіч

# Мой Караткевіч

Кожны народ мае ў сваёй гісторыі такіх творцаў, у асобе і творчасці якіх найбольш поўна ўвасоблены характар і адметнасць яго самога. Беларусы не выключэнне. Хіба што прызнанне да такіх сыноў Бацькаўшчыны прыходзіла часам са спазненнем. А мо і самі мы не заўсёды разумелі, каго маем у сваім асяроддзі, хто гаворыць нашым голасам у шматнацыянальным чалавечым атачэнні — ці то ў Еўропе, ці то яшчэ далей.

Падаецца, што асоба Уладзіміра Караткевіча ў гэтым сэнсе адносіцца да тых прыемных выключэнняў, якія надараліся і на нашым гістарычным шляху. Пераадольваючы пэўнае неразуменне, пакідаючы безуважнымі прыдзіркі асабліва пільных чытальнікаў сваіх твораў, Караткевіч здолеў дайсці да душы прагматычна абачлівага беларуса. Ён абудзіў у ёй тое поклічнае рэха, якое ўжо ніколі, відаць, не заглухне, не адпусціць

ад напісанага Уладзімірам Сямёнавічам. Бо ў творах гучыць тое, што блізкае нам і зразумелае. Што балючай памяццю працінае сэрца. Што выклікае шкадаванне за марна страчаныя гады без ведання сваёй самабытнай тысячагадовай гісторыі, змушае ў шчырым жаданні кампенсаваць страчанае, зноў і зноў прыпадаць не толькі да даўніх летапісаў, але і да напісанага ім, Караткевічам, чыя творчасць проста-такі насычана, дыхае самой гісторыяй. Каб ачысціцца, каб зразумець кім былі і якімі сталі, і на падставе гэтага разумення ўжо ніколі не разлучацца са сваім, не баяцца яго, не цурацца, не выракацца. Адно толькі — разумець, шанаваць і ганарыцца.

А што да складанасці ўзаемаадносін сапраўднага пісьменніка, як і творцы наогул, са сваім часам, то гэта ўласціва не адно таму перыяду, у якім жыў Караткевіч. Калі не спрадвечнае, дык вельмі і вельмі даўняе пытанне. Хто на каго і як павінен уздзейнічаць і ўплываць, залежыць не адно ад канкрэтных абставін жыцця, але і ад пазіцыі, перакананасці творцы, ягонай дасведчанасці, інтэлектуальнай мудрасці, здольнасці пафіласофску асэнсаваць мінулае свайго народа ў праекцыі на будучыню і ад здатнасці не схібіць перад гістарычнай праўдай. Караткевіч здолеў глыбока зразумець мінулы час і таму апярэдзіў у гэтым свой, павёў за сабой, запаліў паходню для іншых. Не сумняваюся, што яна будзе годна свяціць на пакручастым шляху спазнання гістарычнай ісціны для многіх будучых пісьменнікаў і чытачоў, усіх неабыякавых грамадзян сваёй Айчыны.

Так бачыцца мне роля Уладзіміра Караткевіча ў нашым беларускім самапазнанні, у разуменні саміх сябе і нашага беларускага месца ў сусветнай гісторыі. Месца годнага і вартага павагі. Але гэта яшчэ і школа для тых літаратараў, якія далучаюцца да гістарычнай тэмы, хто шукае ў ёй сваё месца.

Караткевічу, на шчасце, выпала зведаць чытацкую прыхільнасць яшчэ пры жыцці. Удзячныя словы падтрымкі, вялікія чэргі ў бібліятэках (некаму сёння мо не верыцца, што такое магло быць, але гэта праўда) спачатку за часопісамі, дзе друкаваліся яго раманы, а пасля і за кнігамі, пераклады на іншыя мовы — усё гэта ён пабачыў сам.



Помніцца, як мы, студэнты філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, рыхтаваліся да чарговай паездкі на цалінныя будоўлі Казахстана. Было гэта напрыканцы шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Збіралі бібліятэчку, каб самім не адвыкнуць ад мастацкага слова і казахскім дзецям перадаць карысныя кнігі. «Каласы пад сярпом тваім» былі на беларускай мове. Для нас то нічога, а вось знаўцаў нашай мовы сярод казахаў не знайшлося. Давялося проста пераказаць сюжэт. Але для дапытлівых падлеткаў гэтага аказалася мала. Ім карцела больш ведаць пра тых людзей, што завуцца беларусамі, прадстаўнікі якіх

штогод прыязджаюць у пыльны палыновы стэп, каб пакінуць пасля сябе новыя школы, клубы, іншыя пабудовы. Давялося познімі зорнымі вечарамі чытаць няўрымслівым маладым казахам «Каласы...» з імгненным перакладам на рускую мову. Слухалі, разумелі, пыталіся, захапляліся...

А зараз вось падумаў, што ў кожнага свой Караткевіч. Быў, ёсць, будзе. І гэта не блюзнерства. Сапраўды, па-рознаму ўспрымаецца гэтая выбітная постаць тымі, хто добра ведаў і стасаваўся з пісьменнікам, меў магчымасць сустракацца і дыскутаваць, тымі, хто проста жыў адначасна з ім, слухаў яго падчас чытацкіх сустрэч, і тымі, хто спазнае і будзе спазнаваць майстра слова выключна па кнігах. Але такое ўспрыняцце ніякім чынам не прыцьміць ні асобу неардынарнага беларуса, ні зробленае ім дзеля карысці свайго народа, не зменшыць уражання ад ягонай творчасці, прысвечанай роднай зямлі. У паэтычных і празаічных радках Караткевіча жыве той высокі напал пачуцця, які не можа не выклікаць суперажывання, змушае да ўдумлівага асэнсавання кожнага твора, ніводзін з якіх не з'яўляецца выпадковым, а выбудоўваецца ў своеасаблівую лесвіцу, што вядзе ў глыб гісторыі і адначасова на вяршыню самапазнання.

Караткевіч умацоўвае нашу здольнасць свядома ўспрымаць сваю зямлю — як у далёкім мінулым, так і ў звязку гістарычна пражытага і перажытага з цяперашняй рэальнасцю. Пісьменнік даў такі ёмкі прыклад радзімалюбства, які застанецца вартым пераймання і праз многія-многія гады. Ён здолеў так гістарыязаваць сучаснасць і так асучасніць гісторыю, што пасля прачытання ягоных твораў пачынаеш адчуваць, што ты не толькі далучаны да спраў далёкіх продкаў, але ўспрымаеш гэтыя дзеі ў кантэксце і лучнасці з днём сённяшнім. Ён паказаў непарыўнасць гісторыі праз непарыўнасць чалавечых лёсаў, праз пераемнасць саміх матэрыяльных сведкаў жыцця чалавека — ад прадметаў хатняга ўжытку да замкаў, храмаў, крэпасцей, абразоў, карцін, скульптур. І не толькі саміх беларусаў, але і людзей іншых нацыянальнасцей, што здаўна ў лагодзе жылі на нашай зямельцы і годна працавалі дзеля яе карысці.

Да творчасці Караткевіча будуць звяртацца і як да гістарычнай першакрыніцы. А гэта, напэўна, адна з найвышэйшых адзнак вартасці і запатрабаванасці створанага ім. Памятаю, як бракавала мне неабходнага матэрыялу, калі пісаў пра цыганоў на беларускіх землях і пра той час, калі наш знакаміты Мір, той самы, дзе Мірскі замак, быў цыганскай сталіцай на ўсё Вялікае княства Літоўскае, і дзе жыў цыганскі кароль Ян Марцінкевіч. А найперш не ставала таго няўлоўнага настрою, таго нябачнага камертону, што дае магчымасць настроіцца на патрэбную хвалю і з найбольшай адэкватнасцю ўвасобіць задуманае. Чытаў і перачытваў Караткевіча. Твор за творам, радок за радком. Адчуў, знайшоў, зразумеў — і тады напісалася тое, што хацеў. І ўвогуле, калі прызнацца

шчыра, то гістарычнай тэмай захварэў не без уплыву Уладзіміра Сямёнавіча. Захварэў, відаць, невылечна. Але ні кропелькі не шкадую. І лічу, што для асэнсавання нашай тысячагадовай гісторыі спатрэбіцца яшчэ не адзін дзесятак гадоў, а тэм і сюжэтаў хопіць не на адно пісьменніцкае пакаленне.

Часам сам сабе задаю пытанне: а як сёння можна вызначыць асобу Караткевіча? І адказваю: проста — беларускім пісьменнікам. На мой погляд гэта найвышэйшае для творцы азначэнне. Хіба патрэбна нешта дадаваць да імён Талстога, Пушкіна, Дастаеўскага? Іхнія прозвішчы гавораць самі за сябе: і за творчасць, і за прыналежнасць да краіны. Хачу спадзявацца, што прозвішча Уладзіміра Караткевіча з'яўляецца не толькі сведчаннем сапраўднай, якаснай літаратуры, але і апазнавальнай прыкметай нашай Беларусі.

Роля пісьменніка гістарычнай тэматыкі сёння асабліва запатрабавана. Але не таго, хто суха пераказвае гістарычныя факты, хай сабе часам і забытыя. Надзвычай важна пэўным чынам міфалагізаваць, легендызаваць нашу гісторыю. Нам проста не хапае міфаў, гістарычных міфаў. Не, не выдумак адносна гістарычных фактаў і падзей. Тут панаваць павінна праўда і толькі праўда. А вось расказ пра гістарычныя з'явы, падзеі, асобы не павінен быць сухім, казённым, безэмацыйным. Нават, а мо найперш, у школьных падручніках.

Дзецям і падлеткам вельмі патрэбна займальнасць, даступнасць, разняволенасць падачы матэрыялу. Каб не адбіць ахвоту не толькі ад чытання наогул, а і ад сваёй гісторыі. На самай справе, колькі драматычных лёсаў і падзей захавала нашая даўніна, колькі легенд, паданняў, небыліц дагэтуль клубіцца вакол кожнага нашага замка, палаца, крэпасці. Гэта ж сапраўды ж ы в а я гісторыя народа. А мы часам запіхваем яе ў пракрустава ложа, зводзім да пераліку войнаў, набегаў, асадаў, падліку забітых, спаленых, палонных і г. д. Для разумення гісторыі гэтага ні ў якім разе недастаткова, а мо часам і непатрэбна. У гэтым сэнсе творчасць Уладзіміра Караткевіча, найперш ягоныя гістарычныя творы, найлепшы падручнік для школьнікаў. Там не адно займальнасць падзей, але і нацыянальны характар, сапраўднае, жывое жыццё народа і натуральны патрыятызм — без дыдактыкі, маралізатарства, але пераканаўча і доказна.



Калі пад гэткім вуглом зірнуць на створанае Караткевічам, то, безумоўна, ён мэтанакіравана дамагаўся стварэння нацыянальнага міфа, любіў сівыя легенды і таленавіта выкарыстоўваў іх у сваіх рознажанравых творах. Можна сказаць, ён паэтызаваў гісторыю, ніколі не забываўся пра духоўнае жыццё народа, пра матчыну душу. Практычна ўсё створанае ім прасякнута дбаннем пра лёс Бацькаўшчыны. А каб як мага паўней і выразней выказаць праўду, нездарма звяртаўся да

дакументальных фільмаў — ён жа быў прафесійным сцэнарыстам, вёў на тэлебачанні праграму, прысвечаную спадчыне. Караткевіч так захоплена любіў і так дасканала ведаў зямлю пад белымі крыламі, як ніхто іншы, а веды гэтыя шчодра пакінуў нам і нашым нашчадкам.

Яшчэ пры жыцці творы Караткевіча ўвасабляліся на экране. Вядома, што перавод аднаго твора ў іншы жанр, на іншую мастацкую мову не абыходзіцца без страт. Іначай, відаць, немагчыма. Мне давялося быць сведкам, як Уладзімір Сямёнавіч удзельнічаў у абмеркаванні моладдзю фільма «Дзікае паляванне караля Стаха». Бачыў рэакцыю імпульсіўнага і ўзрушанага пісьменніка. Мякка скажу, што была яна не ўхвальнай, не захапляльнай. Але ж фільм жыве і сёння хвалюе, змушае думаць, разважаць, зрэшты, прываблівае моладзь да нашай гісторыі.

Думаю, што Уладзімір Сямёнавіч разумеў пэўныя страты пераўвасаблення ягоных твораў на сцэне і ў кіно, а як да гэтага адносіўся — тое ўжо іншая рэч. Мо таму і браўся сам пісаць п'есы, кінасцэнарыі. Але ж гэта — самастойныя творы самога аўтара. А калі б сёння знайшоўся ўдумлівы, разважны і таленавіты прачытальнік створанага Караткевічам і з улікам тэхнічных і іншых магчымасцей стварыў, напрыклад, серыял па «Каласах пад сярпом тваім», які гэта быў бы важкі ўнёсак у гістарычнае і патрыятычнае выхаванне моладзі, у фармаванне гістарычнай свядомасці нашага народа, у пашырэнне ведаў і ўяўленняў пра беларуса за межамі краіны. А такіх твораў у пісьменніка шмат — яны чакаюць свайго выхаду на тэле- і кінаэкран, на тэатральную сцэну. Ці дачакаюцца? Хацелася б верыць. Бо час няўмольны і літасцівы — прыйдзем мы да Караткевіча, веру ў гэта. І не захочацца далей разлучацца.

Ён прыйшоў да нас пад шэпт «Сівой легенды», абудзіў усіх «Званамі Віцебска», пазнаёміў з «Маці ўрагану», «Кастусём Каліноўскім» і «Цыганскім каралём», хітравата запытаў: ці ведаем мы, чаму «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», расказаў, як «У снягах драмае вясна», пагушкаў у «Калысцы чатырох чараўніц», а пасля запрасіў у «Чорны замак Альшанскі», навучыў, абмінаючы «Ладдзю Роспачы», уцякаць ад «Дзікага палявання караля Стаха», нагадаў, што «Нельга забыць» ні «Маю Іліяду», ні «Вячэрнія ветразі», захапляльна распавёў пра «Зямлю пад белымі крыламі» і цвёрда заявіў — «Быў. Ёсць. Буду.».

На шчасце, не памыліўся.

*2005*

Пятро Васючэнка

# Апраметная і рай Уладзіміра Караткевіча

Герой адной з казак Сяргея Кавалёва — пісьменнік — трапляе пасля смерці ў апраметную ўласных твораў, досыць страхотную, бо апісваў ён праз усё жыццё ўсялякія жахі. Калі ўявіць, што кожнага літаратара чакае гэткая ж планіда... Найлепей, мабыць, там уладкаваліся б сентыменталісты й ружовыя рамантыкі... Пакутныя ж трагікі й пасля смерці мусяць пазбаўляцца «змрочных афектаў» праз катарсіс.

І ўсё ж пры ўсёй літаратурнасці такой схемы, яна змушае задумацца пра ўзаемадзеянне двух светаў — мастацкага ды трансцэндэнтнага. Дапамагае зразумець найвялікшую спакусу мастака — зазірнуць па той бок заслоны, інтуітыўна прыстасоўваць уласны мастацкі свет да таго, які хавае заслона.

Жаданне зазірнуць па той бок заслоны не раз апаноўвала Уладзіміра Караткевіча. Няўрымслівы й да бесцырымоннасці цікаўны, ён рушыў далей за Льва Талстога, які ў аповесці «Смерць Івана Ільіча» ў нерашучасці спыніўся перад «чорным мяшком», у які праціскаецца нехлямяжная істота героя.

Караткевіч адправіў некалькіх сваіх герояў у інфернальнае падарожжа. На свой манер ён паўтарыў мастацкі досвед Дантэ Аліг'еры, а яшчэ — Мацея Бурачка, героя і ўяўнага аўтара паэтычнага зборніка Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская». Мацей Бурачок таксама блукаў па інфернальнай прасторы — чысцу.

Разам з Босхам Караткевіч прадбачыў вусцішныя праявы Страшнага суда:

Праз трэшчыны на палотнах
Чуюцца гукі рыданняў.
Лётаюць мёртвыя птушкі,
Палаюць жывыя кусты,
Пачвары з галовамі грыфаў
Рэжуць сабе жываты.
У адных галовы без ног,
У другіх пад задам калені.
Кідаюцца ў пажарах
Маўклівыя чорныя цені...

*Прарок Геронім Босх*



Завершаная мадэль апраметнай паводле Караткевіча паўстае ў аповесці «Ладдзя Роспачы». Туды трапляе, як вядома, «хобаль, залётнік, піяка, задзіра, біток, бабздыр несамавіты» Гервасій Выліваха. Герой быў надзелены такім незнішчальным жыццялюбствам, няўрымслівасцю ды іншымі рысамі зямнога чалавека, што некаторыя караткевічазнаўцы

пачалі шукаць у ім біяграфічныя прыкметы аўтара. Што ж, Караткевіч жыў у кожным са сваіх персанажаў, ад беззаганных рыцараў — Каліноўскага, Беларэцкага, Загорскага, Грынкевіча — да амбівалентных Гервасія Вылівахі і Юрася Братчыка (апошні — з рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»).

Пекла, у якое кінуты гарэзнік з Рагачова, гэтаксама гарэзлівае, неартадаксальнае. Уваход у яго змешчаны на дне Равучага возера, што пад Рагачовам. Фарбы, якімі яно малюецца, пазычаныя ад беларускіх краявідаў: іржавае, «як запечаная кроў», падземнае мора, бераг — «пляскаты, як пінскае балота, але з суцэльнага камення». Апраметная ляжыць пад Беларуссю, і можна, ударыўшы вяслом у нізкае неба, дастукацца да Рагачова або да Полацка і папрасіць месцічаў выпіць на ўспамін аб страчанай душы.

Настолькі ж неартадаксальная й сістэма пакаранняў, распрацаваная для грэшных душ паняй Смерцю. Прынамсі, яна нечаканая сваёй аднастайнасцю. Для ўсіх аднолькавая — укус аграмаднай павучыхі Арахны, што пазбаўляе памяці і жыцця, што падаецца як збавенне ад большае кары — ад адвечнага існавання ў сутарэннях Смерці. Не падараванае забыццё адно толькі беспрасветла-чорным душам — носьбітам абсалютнага, метафізічнага ліха. Такіх няшмат: Перавозчык, што здрадзіў Полацку за часамі Рагнеды, Рагвалода і Уладзіміра, а яшчэ маскоўскі цар Іван Жахлівы.

«Над іржавым, як запечаная кроў, морам з'явілася першая за ўвесь доўгі шлях жывая істота.

Яна ляцела, цяжка махаючы перапончатымі крыламі, як вялізны кажан, і то ўзлятала ўгору, то апускалася ў ваду пад неймаверным цяжарам, падвешаным да яе ног. Здалёк гэты цяжар здаваўся нізкай серабрыстых рыб.

Калі істота падляцела бліжэй — крылы аказаліся рукавамі чорнай манашай расы, а рыбы — дзевяццю голымі жанчынамі, што чапляліся за ногі пачвары (...).

Цяпер пачвара ляцела ўжо зусім блізка ад ладдзі. Стары з вар'яцкімі вачыма, клінападобнай барадою і галавой, падобнай на агурок.

Як прагны падлаед, што часам ухопіць занадта вялікую для сябе здабычу, як коршак, схоплены сомам, стары падлятаў і падаў, кранаючыся кіпцямі вады, падлятаў і падаў. А па ягонай спіне поўз, дабіраючыся да глоткі і сціскаючы яе, юнак з акрываўленай скроняй».

Іван Жахлівы пакараны не за сямейнае тыранства. Самае страшнае злачынства было здзейснена ім над Полацкам, «калі Палата была... белая ад цел, а Дзвіна — чырвоная ад крыві».

Вялікі грэшнік і пасля смерці выпраменьвае чорныя флюіды, труцячы жывых.

«— Я ведаю гэтага чалавека,— сказаў Палачанін.— Ён выразаў ледзь не ўвесь мой горад...

— Ратуйце мяне, ратуйце! Я няшчасны цар Іван! — даляцела з вышыні.

— Дакуль ён будзе лятаць? — спытаў нехта.

— Пакуль такія, як ты, не кінуць яго хваліць,— сказаў Перавозчык».

Гэта азначае, што няшчасны цар Іван дагэтуль мерае скрыдламі нізкае падземнае мора, бо ахвотнікаў хваліць яго стае нават на радзіме Палачаніна. А Караткевіч ненавідзеў дэспатызм і тыранію ў кожнай іх праяве, пра што і казаў у каментарыі да «Ладдзі Роспачы»: «Мяне цікавіла іншае: два тыпы дэспатызму — італьянскі (вытанчаны, з атрутай) і рускі. Які лепшы?» Высвятляецца, што ніякі.

Апраметная не выпадкова размешчаная пад Беларуссю; валадарства Смерці — антыпод беларушчыны. Злачынства супраць Беларусі трапляе, такім чынам, у рэестр найцяжэйшых грахоў, роўных юдаваму. У «Баладзе аб трыццаць першым сярэбраніку» Караткевіч распавёў пра распаўзанне граху здрады, пра неўміручага злачынцу, які

Толькі здрадзе не здрадзіў і тым, хто за здраду заплаціць.
І таму перад кожным мярзотнікам гнуўся дугой
І даносіў на бацьку, даносіў на сына, на маці,
На сяброў, што з-пад выбухаў вынеслі мужна яго.
А паколькі мянціў ён прыгожа, то ўсе, як бараны,
Паўтаралі за кімсьці: «Вось вернае праўдзе плячо!
О, які ён трывалы, які ён пераканаы,
Як ваюе за думкі свае ён агнём і мячом!»
Ён нястомна разводзіў хлусні беспардоннай турусы
І паклёп, як гадзюка, сычэў ля парога турмы,
І ніхто не сказаў яму слова старых беларусаў,
Што «прымаем мы здраду, а здрадніка вешаем мы».

Канцэнтрычныя колы Дантавага пекла апускаліся ўглыб, да ледзянога возера, у якім курчыўся Юда. Апраметная, намаляваная Караткевічам, пашырае свае колы ў рэальны хранатоп, перадусім у гісторыю. Метафізічнае ліха ў ім перастае выглядаць чорным, пра што сведчыць гутарка паміж паручнікам Гогелем і вярхоўным ваяводам Беларусі і Літвы ў трагедыі Караткевіча «Кастусь Каліноўскі»:



«Г о г е л ь. Вы тупы, вузкі артадокс. Фанатык, які лічыць, што ягоныя мужыкі дараслі да парламента са сваімі мазніцамі, нераспрацаванай гаворкай і бруднымі, як каровы, бабамі. Сярод усіх колераў вы адрозніваеце толькі чорны і белы. Пакінь вам зямлю — вы заб'яце і блакітны, і аранжавы...

К а с т у с ь. Вы дрэнна ведаеце фізіку, паручнік. Каб вы скончылі... хаця чатыры класы гімназіі — вы б ведалі, што ўсю радасць, усю шматкаляровасць свету складае адзін колер, белы. І гэта мы. А вы, чорны колер, вы нават не колер. Вы — проста адсутнасць святла, смярдзючая чорная яма і гразь».

Антыгероі Караткевіча, Мураўёў-вешальнік, кардынал Лотр ды іншыя — жывуць у апраметнай уласнай душэўнай бездані, змрочнай, як космас без зорак. У параўнанні з імі лягчэй пачуваюцца нават мярзотнікі, накшталт Дубатоўка з аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», тыповага рамантычнага ліхадзея.

За выняткам грахоў, якія даравацъ нельга, Караткевіч не быў суровым суддзёй сваіх персанажаў. «Людзі бываюць бруднейшыя за свінню і чысцейшыя за анёла»,— любіў казаць Гервасій Выліваха. І яшчэ: «Чалавек носіць сваё неба з сабою». Вось так: бруд і чысціня, неба і пекла ў блізкім суседстве, у душы аднаго чалавека. Гэта, па сутнасці, барочная канцэпцыя дабра і ліха, з якой вынікае постаць так званага амбівалентнага героя. Такі Гервасій Выліваха, у якога ў адзін момант рожкі прар азаюцца на патыліцы, а іншым разам ён чуе сверб паміж лапаткамі, як быццам у яго адрастаюць анёльскія крылы. «Бабздыр несамавіты» раптам абарочваецца беззаганным рыцарам, без разваг ахвяруе сабой дзеля сарака пасажыраў Ладдзі Роспачы, без боязі гуляе ў шахматы з найдасканальшым адмыслоўцам гэтай гульні — паняй Смерцю. І перамагае, бо гуляе «не па правілах».

Рабіць «не так», «не па правілах» сталася этычным credo рагачоўскага шляхціца. «Чалавек — быдла непаслядоўнае. Таму ён і не быдла»,— даводзіць Гервасій у гутарцы са Смерцю. Ён ды іншыя «святыя грэшнікі» Караткевіча — Юрась Братчык, Косміч — будуць зацята адстойваць гэтае credo, вызваляючы неба ўнутры сябе і абараняючы яго ад граху сляпога, бяздумнага падпарадкавання абставінам.

У гэтым шэрагу нават той палахлівы заяц, які варыць піва ў самым слынным з вершаў Караткевіча. Кажуць пра «біяграфізм» і «татэмнасць» гэтага вершаванага шэдэўра. Ціхае, але нязменнае дысідэнцтва вушастага героя параўноўвалі з нонканфармізмам самога Караткевіча, заўжды нязгоднага з афіцыёзам, дыктатам, абмежаваннем творчае свабоды:

Пабачыш — не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой.
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

І няма ніякай загадкі ў тым, якую вялікую зіму наканавана перажыць зайцу. Але ён пры любым надвор'і будзе варыць сваё маленькае піва.



Ягоны вушасты сабрат з «Ладдзі Роспачы», які прадрыжэў і прадрамаў усё сваё заечае жыццё ў зарасніку калючага глогу каля чалавечага жытла, мроячы стрэльбы і драпежныя зубы, нечакана не кінуўся ўцякаць ад Вылівахі з ягонай кампаніяй, а павярнуўся да іх азадкам і «пачаў так рагатаць, што ў яго трэснула верхняя губа».

Гэтак яны, амбівалентныя героі Караткевіча, ачышчаюцца ад брыды жыцця, ад ліпучага страху, пакорлівасці, руціны — смехам. Рагоча

ўзбунтаваная Ладдзя Роспачы, галёкае і спявае, і нявольнікі смерці ператвараюцца ў людзей, выпростваюць плечы і спіны.

Перад гібеллю рагоча і блазнуе свавольны шляхціц Заруба, якога бахарэвіцкія сяляне цягнуць да плахі (трагедыя «Кастусь Каліноўскі»). Паўстанцы ў п'есе «Маці ўрагану» — людзі, якія ачысціліся ад душэўнай праказы, якія ўцямілі, чым робіцца народ «без хлеба, без страху, без волі, без мовы», ён — што «звер, загнаны ў нару».

Душэўнай праказаю Караткевічавы змагары і інтэлектуалы лічаць гістарычнае бяспамяцтва і бязмоўе. «Варты жалю той, хто не ведае былога дня і таму не можа разабрацца ў сённяшнім і прадбачыць будучы... Абыякавы да мінулага не мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай, і таму ёсць першы кандыдат на маральную, а затым і фізічную смерць. Усё адно хто гэта — чалавек ці народ». Гэтыя словы Віктара Каліноўскага з рамана «Каласы пад сярпом тваім» з'яўляюцца паўторам вядомага выказвання Мацея Бурачка, двайніка інтэлігента Францішка Багушэвіча, апранутага ў сялянскую світку: «Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі». Багушэвіч і Бурачок папярэджвалі, але не назвалі аніводнага з такіх памерлых народаў. Мы ведаем, што такім чынам памiралі этрускі, яцвягі, прусы... Караткевіч нагадаў пра гаротны досвед таўраў... І надта жорстка, рыгарыстычна засцерагаў ад такой бяды суайчыннікаў у вершы «Мова»:

Праваслаўны або каталіцкі,
Ці які там твой будзе парог,—
Яе разам з матчынай цыцкай
Даў табе ў твае вусны бог.
Пі. І ведай: гіне ў пракляццях
І з дзярма павек не ўстае
Той, хто выплюнуў цыцку маці
Або злосна ўкусіў яе.
І на іншых вяршынях суровых
(Вера! Роўнасць! Свабода! Край!)
Ты струменьчык матчынай мовы,
Быццам маці, не забывай.
Ты забыў? Ну што ж, на дасвецці
Ты без сонца будзеш канаць...
Шмат прыўкрасных грудзей на свеце,
Ды не ўспоіць цябе — ні адна...



Можна было б успрыняць гэтыя радкі як рытарычную фігуру, як стылізаваны фальклорны праклён. Але згадаем, з якой няўхільнай дакладнасцю спраўдзілася папярэджанне Караткевіча пра Чарнобыль, зробленае ў вершы «Дзяўчына пад дажджом», які быў напісаны ў 1960 годзе:

...Дождджык зрабіў сваё цуда,
Ён абляпіў, як мог,
Плечы, маленькія грудзі,
Гнуткія лініі ног.

Бэзам з садоў павявала,
Вечна хацелася жыць.
Дзяўчына ад шчасця спявала.
. . . . . . . . . . . . . .
Стронцый быў у дажджы.

Калі згадваеш ліпкія, цяжкія кроплі, што падалі на патыліцы менчукоў у красавіку 1986 года, думаеш пра прароцкі талент майстра. Другі Чарнобыль — духоўны — беларускае насельніцтва само сабе ўчыніла пазней. Караткевіч дапускаў і такое — яшчэ напрыканцы 50-х, калі краіна збіралася будаваць грамадства, у якім усё змяшаецца і будзе агульным: маёмасць, жонкі, дзеці, мовы... Дысанансам прагучаў голас паэта, грозны, бы труба архангела Гаўрыіла:

Ёсць паданне вякоў, што разбурыць калісь
Вавілонскую Вежу Адам
І няўмольна сальюцца мовы зямлі
У адну, няродную нам.
І мая безвыходна пойдзе у змрок,
У атрутны, як вечнасць, цень,
Трапяткая і сіняя, як васілёк,
Гарачая, як прамень.
Я ні шчасця, ні будучых дзён ні жадзён,
Хай пятля, хай памерці ў журбе,
Хай не будзе ні шчасця, ні будучых дзён,
Калі ў іх не будзе цябе.
Сірата па з'едлівай волі багоў,
Гінучы мой карабель,
Хай не будзе світання ў народа майго,
Калі досвіткам здрадзіць цябе...

Апошняе папярэджанне, апошні званок прагучалі 29 студзеня 1980 года а 21 гадзіне 38 хвілін, у жанры «Эпітафіі», якую можна было б назваць яшчэ і «Тастаментам»:

Сякуць, краіна, карак твайму сыну,
Ды ты не скажы ім: «Даволі!..»
Хай лепей ніколі не будзе краіны,
Чым будзе краіна — без волі.
*Эпітафія*

...І вось, праз колькі часу нехта, ці то Выліваха, ці то Юрась Братчык, але, хутчэй за ўсё, нехта трэці, надта падобны да іх, ды ўсё ж не той, з уласным «жыццём і ўваскрэсеннем», як напісаў пра яго доктар Адам Мальдзіс, пабачыў святло напрыканцы тунеля, новую зямлю і новае неба, але прыпыніўся перад імі ў нерашучасці. Як быццам напраўду чакаў, на якой мове звернуцца да яго т у т:

Ад палеткаў райскіх лёгкай ступой
Збочу я да пякельных катлоў,
Калі першы жа ангел на мове маёй
Мне не скажа: «Братка, здароў».

Калі пісьменніка напраўду чакае рай уласных твораў, дык згадайма, што, апроч бязрадаснай апраметнай, намаляванай у «Ладдзі Роспачы», Караткевіч прымроіў і сапраўдны рай — у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»:

«На самай высокай, сляпуча белай хмары стаяла хата з дзвюх састаўленых пяцісценак. І пры ёй таксама было ўсё, чаму трэба быць пры гаспадарлівай беларускай хаце: і хлявы, і адрына, і лазня.

На парозе хаты, падклаўшы рукі пад азадак, сядзеў і адпачываў пасля працоўнага дня самавіты бог Саваоф... Анёлкі апусцілі Хрыста перад ім:

— Вось, бацька, прынеслі.

— Добра, хлопцы...

— Дзень добры,— сказаў Хрыстос.

— Здароў,— сказаў Бог.— Заходзь у хату».

Далей у шчодрых барочных фарбах, апісваецца напраўду боская пачостка: пляшкі ў выглядзе абаранкаў з траўнікамі, ягаднымі водамі і, мяркуючы па водары, з кмяноўкай, высыпаная вяленая рыба, вогнедышныя ракі, пасыпаныя зялёным кропам, чорны хлеб, печаны на кляновых лісцях, каўбаса, выкалупаная са збана, дзе ляжала яна і зберагалася ў топленым халодным сале. Тут жа гуркі салёныя і гуркі свежыя, а пры іх мёд, рэдзька ў смятане, белы сыр, клятчасты ад радзіны, у якую быў загорнуты, мочаныя яблыкі і шмат-шмат чаго яшчэ. Гэты гастранамічны рай не здымае, аднак, пытанняў духу, бо госць прыйшоў з вялікай душэўнай згрызотай ды крыўдаю.

«— Расказвай,— сказаў трохі пасля Саваоф,— як там на маёй зямлі беларускай? Сам ведаю, паскудна так, што горай быць не можа, дзякуючы лютым пастырам гэтым, але ты расказвай, кажы.

І Хрыстос расказаў. Пра голад і круцельствы, пра ашуканства, прыгнёт, подласць, ханжаства і забойствы сумленных. Пра справу веры і святую службу, пра дзікае прыніжэнне годных і заціскание рота, пра бессаромную ліслівасць і высокую мужнасць, пра ярасць і мяцеж, пра дзікі боль і высокую журбу, пра ўсё, аб чым мы ўжо ведаем.

...Плакала Марыля, калі ён скончыў, а сам ён сядзеў, закрыўшы далонямі твар.

Саваоф высмаркаўся ў белую анучку, паківаў галавою, наліў Хрысту гарэлку замест чаркі ў здаравенны кубак і сказаў глуха:

— Выпі. Табе цяпер во гэтак і трэба лупянуць. Зап'еш тут ад такога жыцця. Выпі. Плюнь, сынок. Ну што ты з імі зробіш, калі яны там на зямлі дурні, людзі. Дурныя, пакуль тое.

— Дык што ж, і за такіх гінуць?

— Выпі... Выпіў? І за такіх, сынок... І за такіх, якія яны будуць.

— Якія?

— Глядзі.

І Саваоф расчыніў акно».

Падарожнік убачыў... Не камуністычны рай, але той Эдэм, які Госпад падараваў Беларусі ў вядомым апакрыфічным паданні з рамана «Каласы пад сярпом тваім»: дагледжаныя палеткі, густыя зялёныя паплавы, коні, якіх ніхто не б’е, і якія глядзяць на свет чалавечымі вачыма, і шчаслівыя, працавітыя, разумныя людзі. Гэта прымусіць згадаць «Рай» на маляванках Алены Кіш. Беларускі Эдэм, на якім замест «лепшага ў свеце начальства» гаспадарыць сам Госпад,— «бо на Беларусі Бог жыве».

І тую Беларусь пісьменнік забраў з сабой, як Гервасій Выліваха прыхапіў у апраметную галінку шыпшыны.

А тыя, ад каго ён сышоў,— яны па-ранейшаму ў Ладдзі Роспачы. Прыніжаныя, прыгнечаныя, бязмоўныя слепакі, якія забыліся на сонца, на смех, на людскую гаворку і песню. І вяслуюць з тупой зацятасцю да ўладанняў пані Смерці. А навакол успененае ржавае мора, нізкае неба і больш нічога, апрача вёслаў ды спадзявання на Боскі цуд.

*1995*

## Адам Глобус

# Дзядзька Валодзя

**Словы пра літаратара Уладзіміра Караткевіча**

*1976. Крэслы*

З дому № 68 на вуліцы Апанскага, які стаіць насупраць Кальварыйскіх могілак, я з бацькамі і братам пераязджаю на вуліцу Маркса ў дом № 36. Пасля бруднага пад’езда, што смярдзіць смеццеправодам, мяне радуе не столькі чысціня новага пад’езда, колькі крэслы на кожнай лесвічнай пляцоўцы. Крэслы паставіў Караткевіч для сваёй старэнькай маці. Тады яшчэ не было кодавых замкоў і дамафонаў, адпаведна крэслы намёртва прымацоўваюцца дротам да батарэй. Вось такая ўвага да любімага чалавека застаецца мне прыкладам. А што больш за ўсіх на свеце Уладзімір Караткевіч любіў сваю маці, скажа кожны, хто яго ведаў.

*1980. Чорны перац*

«Валодзя, кавы хочаш?» — пытаецца Уладзімір Караткевіч, стоячы пасярод лесвічнай пляцоўкі. Каву я люблю. І праз хвіліну сяджу ва ўтульнай, абвешанай дэкаратыўнымі талеркамі кухні. Караткевіч, не шкадуючы, засыпае кавы ў турку. Бярэ дзве гарошыны чорнага перцу.

Рэжа іх напалам і кідае ў напой. Каву з перцам па-караткевіцку я гатую сабе ўжо гадоў дваццаць і добрым словам згадваю кухара — дзядзьку Валодзю.

*1981. Алкаголь*

Аднойчы, прачытаўшы мае пачаткоўскія вершы, Уладзімір Караткевіч гаворыць: «Ніколі не пішы ў п'яным стане». І я не пішу ніводнага нецвярозага радка. Гэтую параду я выконваў і выконваю. А вось другую яшчэ трымаю пра запас. «Надыдзе дзень, калі не зможаш напісаць ні радка: ні прозы, ні вершаў, ні крытыкі... Тады сядай і пішы фантастыку. У цябе можа атрымацца фантастыка»,— раіць дзядзька Валодзя. Я ж, уласна фантастыку, так ні разу і не пісаў. Казкі пісаў. Фантастыка чакае свайго часу.

*1982. Мой першы зборнік вершаў*

Дзядзька Валодзя дапамагае мне стаць афіцыйным паэтам. Ён піша рэцэнзію на першы рукапіс майго зборніка пад непаэтычнай назваю «10 на 10». Адзіная вартасць тых вершаў, што пісаліся яны па-беларуску. А Караткевіч знаходзіць яшчэ некалькі станоўчых якасцей.

*1985. Папулярнасць*

Украінскі паэт Максім Стріха кажа, што вельмі зайздросціць беларусам, якія маюць такога легендарнага літаратара як Караткевіч. На кнігах Караткевіча будзе выхоўвацца не адно пакаленне беларускіх патрыётаў. Максім так расхвальвае Караткевіча, што мне робіцца няёмка. Нібыта я не разумею значнасці ягоных твораў ці выказваюся пра Караткевіча без патрэбнай павагі. Я мог бы прывесці іншыя прыклады вядомасці і папулярнасці Караткевіча, але і гэтага дастаткова.

*1990. Помнік*

Каб мне замовілі зрабіць помнік Караткевічу, я б не ляпіў бронзавага чалавека, падобнага да дзядзькі Валодзі, я б зрабіў імклівых коннікаў — паляванне караля Стаха, тое паляванне, што карае здраднікаў Радзімы. Зрэшты, такі своеасаблівы помнік я і зрабіў, пераказаўшы ў форме комікса для нашых дзяцей найлепшую легенду Караткевіча.



*2004. Легендарнасць*

Так супала, што ў часы асноўных змен у нашай сучаснай гісторыі менавіта кнігі Караткевіча дапамагаюць у чорныя гадзіны сумненняў і роспачы. Кожная беларуская сям'я мае ягоныя кнігі. У гэтым сэнсе Караткевічу пашанцавала больш, чым іншым літаратарам. Карыстаючыся сучасным вызначэннем, можна сказаць: Караткевіч — народны пісьменнік. Але, добра ведаючы дзядзьку Валодзю, думаю: яму б не спадабалася такое вызначэнне. Таму я напішу інакш... Уладзімір Караткевіч — легендарны беларускі літаратар.

*2004. Марнатраўства*

Дзядзька Валодзя змарнаваў шмат сіл і часу на экранізацыі і тэатральныя пастаноўкі сваіх твораў. Ягонае пакаленне проста згарэла ў кіназалах і на здымачных пляцоўках, як маё пакаленне згарэла на тэлебачанні, а пакаленне маіх дзяцей гарыць ясным полымем у Інтэрнэце. У кожнай генерацыі свае забаўкі, свае ловы ветру, сваё марнатраўства часу.

*2004. Постмадэрнізм*

Для мяне сам тэкст — рэальнасць. Раманы, вершы, аповесці Уладзіміра Караткевіча — рэальнасць. Дзядзька Валодзя — рэальнасць. Для мяне не існуе гісторыі як асобнай навукі. Ёсць гісторыя літаратуры, гісторыя матэматыкі, гісторыя мастацтва, гісторыя культуры і гісторыя вайны, то бок бескультур'я. Найважнейшым у гісторыях я лічу факты, складзеныя ў храналагічныя табліцы. Чалавек у еўрапейскай цывілізацыі падпарадкаваны ў сваіх паводзінах архітэктурнай сітуацыі, таму літаратурныя стылі ідуць услед за архітэктурнымі. Іх няшмат, і я пералічу: раманскі, готыка, адраджэнне, маньерызм, барока, ракако, класіцызм, рамантызм, мадэрнізм і постмадэрнізм. Караткевіч, як і ўсе літаратары нашага часу і нашай еўрапейскай культуры, належыць да постмадэрністаў.

*2004. Чытачы*

У сучасных беларускіх хрэстаматыях па літаратуры шмат выдатных імёнаў і многа няякасных тэкстаў, а ўсё з-за таго, што большасць сусветнай класікі перакладзена кепска. Узровень перакладчыкаў саступае ўзроўню аўтараў настолькі, што Шэкспір чытаецца горш за Крапіву. Каб выправіць абсурднае становішча, варта прыбраць з хрэстаматый перакладную літаратуру, уключаючы Гусоўскага і Баршчэўскага, а дадаць больш тэкстаў Караткевіча і сучасных беларускіх літаратараў. Такім чынам, чытачоў у Караткевіча стане больш, што важна.

*2004. Працягі*

Найцікавейшая рыса літаратурных твораў Уладзіміра Караткевіча — незавершанасць, якая вымагае працягаў, варыянтаў, імправізацый і пераходу ў іншыя жанры мастацтва: у графіку, у тэлевізію, у кіно...

## Леанід Дранько-Майсюк

# Прапіска ў Караткевіча

Адам Нядзелька, герой маёй аднайменнай насмешлівай паэмы, бесцырымонна мяне папікае:

Праз цешчу, толькі праз яе,
Выгоды ўсе да аднае
Займеў — пасаду, лыжку, міску
І ў Караткевіча прапіску...

Наконт усіх выгод, і перш за ўсё так сакавіта згаданай пасады, лыжкі і міскі, вечны халасцяк Адам не тое што не сказаў праўду — сказаў, але крыху перабольшыў, а вось наконт прапіскі, як у сук уляпіў.

Сапраўды, мая цешча, перакладчыца твораў Караткевіча, Валянціна Міканораўна Шчадрына паспрыяла гэтаму...

О, прапіска (у Маскве! у Мінску!) — гэта перш за ўсё страта сну, спакою, нерваў, часу, грошай!

Гэта букет рызыкоўных разводаў і фіктыўных шлюбаў!

Гэта вечнае змаганне з цёмным заканадаўствам!

Гэта ўмацаванне хабарніцтва!

І гэта яшчэ слёзы...

Так было шмат у каго.

Вось і майму Адаму Нядзельку выпалі слёзы: ён шчыра марыў прапісацца ў Мінску, але не здолеў і назаўсёды застаўся жыць у Маладзечне.

А мне пашанцавала — я захаваў сон, спакой, нервы, час і грошы.

Я не даваў у лапу — то-бок, не пашыраў і без таго неабдымную прастору хабарніцтва!

І я не цвяліў закон, беручы несапраўдны шлюб.

Мой шлюб з масквічкаю Вольгаю быў сапраўдны.

Але, маючы маскоўскую прапіску, я імкнуўся ў Мінск.

Вольга таксама.



Гэта для некага заўсёды актуальны чэхаўскі заклік: «У Маскву! У Маскву!»

А для мяне і маёй цудоўнай жонкі надзённы іншы кліч: «У Мінск! У Мінск!»

Вось тут Валянціна Міканораўна па-сяброўску і пагаварыла з Караткевічам...

Так у маім пашпарце ў лістападзе 1982 года і з'явілася жаданая адзнака: вуліца Карла Маркса, дом 36, кватэра 24 — жытло аўтара «Дзікага палявання караля Стаха», мой першы афіцыйны мінскі адрас...

Дарэчы, калі ехаў у міліцыю забіраць пашпарт, то ў таксіста ўбачыў раман «Каласы пад сярпом тваім» (заўважу, у перакладзе В. Шчадрыной!), а міліцэйскі маёр (ён ужо ведаў, у каго я прапісаны) з прыкметнаю пачцівасцю спытаў:

— А якую новую кнігу піша Караткевіч?

Ад такой саліднай увагі да мяне я адчуў у душы святочны ўздым і зневерагоднаю асалодаю ў голасе адказаў:

— Піша кнігу «Быў. Ёсць. Буду.».

— Назва добрая,— ухваліў маёр...

Праз дзень які, каб аддзякаваць Караткевічу за ягоную ласку, я прыдбаў адпаведны шкляны падарунак і пасля работы выправіўся на Карла Маркса.

Гаспадар сустрэў мяне... з пісталетам у руцэ!

На такіх некалі страляліся на дуэлях.

Каб маё недаўменне не задоўжылася, тут жа растлумачыў:

— Гэта асабістая зброя Ігната Дамейкі. Ён згубіў яе ў 1830 годзе пад Лідай. Учора я быў на тым паўстанцкім полі і знайшоў гэты пісталет пад старасвецкім дубам, якому... Браце, не паверыш... Дубу ці не тысяча гадоў! Усё адно як гефсіманскім алівам...

Я слухаў як зачараваны, таму паверыў.

У маёй крыві завіраваў паўстанцкі дух!

Рызыкоўныя малюнкі незразумелай беларускай гісторыі паўсталі перада мною, як недасяжная нацыянальная праўда, у якой заўсёды больш пачуццяў, чым разважлівасці...

— Хочаш стрэліць? — пачуў я салодкую прапанову.

— Хачу...

Мы апынуліся на бязлюдным беразе Свіслачы.

— Вось тут, пад гэтай вярбой, і стрэліш! — распарадзіўся Караткевіч і стаў даставаць сваю экзатычную знаходку.

Аднак жа стрэліць не давялося; я нават не паспеў дакрануцца да інкруставанай срэбрам рукаяткі.

— Уладзімір Сямёнавіч, добры вечар! — пачулася раптам непадалёк.

Усміхаючыся, да нас паволі падыходзіў сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін — мусіць жа, праўляў у гэты час па-над Свіслаччу абавязковы мацыён.

— Добры вечар, Аляксандр Трыфанавіч! — амаль радасна адказаў Караткевіч, схаваў пісталет, а мне між тым павучальна шапнуў: — У прысутнасці сакратара ЦК неяк няёмка страляць з пісталета Ігната Дамейкі, так што пастраляем іншым разам...

Я згадзіўся, журботна падазраючы, што «іншага разу» не будзе.

Так яно й сталася.

Праз паўтара года, у ліпені 1984-га, Караткевіч памёр, і менавіта тады ж мая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Надзея Дзмітрыеўна Васільева адправіла яму ліст.

Ці не за дзень да ягонай смерці?!

Не ведаючы хатняга адраса пісьменніка, надпісала на канверце адрас выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Пісьмо, вядома ж, спазнілася да адрасата, але не згубілася — яго змясціў у сваім дзённіку дырэктар выдавецтва Міхал Дубянецкі, і я прачытаў гэта пісьмо праз васемнаццаць год...

Цудоўнае мацуецца цудоўным.

Надзея Дзмітрыеўна прасіла Караткевіча падтрымаць мяне, яе вучня, дапамагчы мне...

Не ведала мая слаўная настаўніца, што Караткевіч ужо падтрымаў, ужо дапамог, ужо зрабіў мне царскі падарунак, прапісаўшы маю сціплую асобу ў сваёй кватэры.

*6 чэрвеня 2005*

## Пятро Жаўняровіч

# Храм душы і зямлі

Цёмнай восеньскай ноччу 26 лістапада цень славутага Адама Міцкевіча сышоў «на зямлю, якая цябе нарадзіла», схіліўся да немаўляці і надзяліў яго здольнасцю бачыць, чуць, успрымаць самае незаўважнае, патаемнае, недасяжнае. І Уладзімір Караткевіч, гэта «дзіця з вачыма празарліўца» (Р. Барадулін), пачаў чытаць душу чалавечую, пачаў блукаць па яе заблытаных лабірынтах і імкнуцца зразумець яе сутнасць. Сутнасць душы чалавека прыўкраснай беларускай зямлі і чалавека свету.

Стагоддзямі, спустошаная і абяспамятаваная, душа гэта падсвядома імкнулася да сонца, святла і цеплыні, нібы парастак сну, сплючы пад тоўстымі сумётамі, марыць пра надыход вясны. Як патрэбен першы ласкавы прамень, каб абудзіць сон ад сну, так патрэбна было праўдзівае слова шчырага творцы, каб душа страпянулася, захвалявалася і ўсвядоміла сваё прызначэнне і прызначэнне надзеленага гэтай душой чалавека.



А страпянулася душа ад разумення велічы той спадчыны, якую пакінулі дзеля яе мільёны папярэднікаў. Захвалявалася ад трагізму і здзекаў, якія давялося перажыць яе продкам. Усвядоміла сваё прызначэнне толькі пасля таго, як вынайшла сродак стварэння па-сапраўднаму гарманічных адносін паміж Боскімі істотамі — чалавечнасць, гуманізм.

Але чаму паўсюль снуюцца чорныя цені?.. Але чаму паўсюль лунае падступства і хцівасць?.. Але чаму паўсюль вынаходзяць найноўшыя сродкі знішчэння менавіта чалавечнасці і гармоніі?..

Няўжо храму душы чалавечай наканавана спрадвеку належаць Лотру і Мураўёву, Басяцкаму і Мусатаву, Дубатоўку і Кізгайлу, каралеве Агаце і Шан Яну, усюдыіснай Смерці?..

Што рабіць, калі, як і ў часы Насрэдзіна, «на ўвесь народ, на ўвесь мой край ці два, ці тры з найменнем Чалавека?»

Уладзімір Караткевіч прыйшоў на нашу грэшную зямлю, каб распавесці нам тое, пра што мы не ведалі. Каб прыгадаць нам тое, пра што мы забылі. Каб паказаць нам тое, пра што нельга было нават думаць...

Ён прыйшоў прыгадаць і паказаць **Беларусь,** распавесці пра яе.

Гэта, насамрэч, была Беларусь Караткевіча, але яна паступова, неяк ненавязліва і арганічна ўваходзіла ў нашу душу, станавілася таксама і нашай Беларуссю. Як нашымі сябрамі, праваднікамі па сваёй зямлі станавіліся і «дзеці» пісьменніка, героі яго твораў,— незнішчальныя рамантыкі і па-сапраўднаму жыццястойкія рэалісты, змагары за праўду і гуманізм, за роўнае права кожнага народа на свой кут і вольнае існаванне, няўрымслівыя і вясёлыя, глыбакадумныя і часам непрадказальныя...

Мы разам з Раманам Ракутовічам, няскораным і абязручаным, пяшчотна абдымаем акрываўленымі цурбалкамі каханую, пазбаўленую зроку Ірыну — сваю родную зямлю («Сівая легенда»).

Мы разам з Андрэем Беларэцкім знаходзім паратунак ад цёмных, вераломных сіл для запужанай і амаль пазбаўленай надзеі на далейшае існаванне Надзеі Яноўскай — сваёй роднай зямлі («Дзікае паляванне караля Стаха»).

Мы разам з Гервасіем Вылівахам блукаем па царстве Аіда і гуляем са Смерцю ў шахматы, а нам дапамагае незгасальнае святло шыпшыны і прамяністы позірк Бярозкі — сімвалаў сваёй роднай зямлі («Ладдзя Роспачы»).

Мы разам з Андрэем Рогачам праз пакуты і выпрабаванні вяртаем да жыцця сваю д'ябальскую душу, знаходзячы, страчваючы і зноў адшукваючы Дубраўку — сваю родную зямлю («Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны...»).

Мы разам з Васілём Ветрам накіроўваемся ў пячору да пракажонага, каб усвядоміць адказнасць перад Чалавекам, перад сваёй роднай маці-зямлёй («Маці ўрагану»).

Мы разам з Юрасём Братчыкам пачынаем разумець, што дзеля праўды павінны быць усвядомленыя перакананні і моцная воля, што, у рэшце рэшт, урабляць ніву, даваць ёй магчымасць радзіць — гэта і ёсць найвышэйшае прызначэнне Чалавека на роднай зямлі («Хрыстос прызямліўся ў Гародні»).

Мы разам з Петраком Ясюкевічам, прыносячы шчасце іншым народам, ратуючы ў пясках Сахары маленькі камячок жывой плоці, Джамілю,

марым вярнуцца да сваёй пакрыўджанай, здратаванай і акрываўленай, але ўсё ж самай прыгожай роднай зямлі («Сіняя-сіняя...»).

Мы разам з Алесем Загорскім і Кастусём Каліноўскім бачым «на кожным раздарожжы, над усёй краінай узлёт прабітых цвікамі рук» і змагаемся за праўду і справядлівасць, перакананыя, што «не трэба тысячы, каб пачаць» здабываць волю для сваёй роднай зямлі («Каласы пад сярпом тваім»).

Мы разам з Севярынам Будрысам знаходзім сваю чазенію — Гражыну Арсайлу, сімвал гармоніі, і страчваем яе, і ўсё ж спадзяёмся на блізкую сустрэчу з ёй — сваёй Вялікай Зямлёй, радзімай чалавецтва («Чазенія»).

Мы разам з Антонам Космічам набліжаемся да разумення таго, што без радзімы мы нічога не варты: «Край мой! Родная мая зямля! Як жа мне жыць, калі я пайду з цябе? Як мне быць, калі я памру і, можа, быццё маё яшчэ некаторы час не скончыцца — і гэта й ёсць абяцанае мне пекла? Без цябе» («Чорны замак Альшанскі»).

...Кожны сюжэт, кожны вобраз, кожная дэталь — у іх сам Караткевіч, у іх часцінка храма яго душы, часцінка яго сэрца, яго думак. У іх жыццёвы чалавечы боль і душэўныя пакуты. У іх непагасная перакананасць, што «святая праўда ўсё ж уваскрэсне на зямлі». У іх надзея, што ва ўсе часіны, пры любых уладарах, пры любых акалічнасцях зямнога беларускага існавання — «на Беларусі Бог жыве».

Вось на віншавальнай паштоўцы, самім намаляванай у 1979-м і дасланай у Віцебскі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, Ты вялікасна жадаеш: «Хай ніколі не зменіцца Ваша Вясна нуднай восенню».

Вось, упэўнены ў сваёй рацыі, Ты сцвярджаеш: «І ніколі ў свеце не пераможа той, хто не глядзіць жыццю ў вочы і баіцца называць рэчы іх найменнямі».

Вось Ты захоплена апісваеш, як Алесь Загорскі, нібы на злом галавы, імчыцца ў Оршу на сустрэчу з Кастусём і даганяе хлопца, у якога «на гожай мускулістай шыі сцягваў каўнер белай кашулі шырокі чырвоны гальштук».



Вось на чэшскім перакладзе «Дзікага палявання...» Ты ўдумліва канстатуеш: «Адасю-знаўцу (Адаму Мальдзісу) ад Уладзіміра-знаўцы».

Вось Ты апантана ўскрыкваеш: «Чалавек з прастрэленым сэрцам памірае. Горад і краіна не паміраюць, пакуль б'ецца сэрца хаця аднаго іхняга сына ці дачкі».

На сваім аўтарскім фотаздымку Ты іранічна-насмешліва зазначаеш: «Гляджу з балкона на горы. Фотапэцкаль Караткевіч».

...Кожны сюжэт, кожны вобраз, кожная дэталь — цэлы рой асацыяцый, сувязяў, думак. Як і само імя Караткевіча, якое стала своеасаблівым шматмерным канцэптам, ментальнай адзінкай, у складзе якой

выяўляецца арганічная сувязь гісторыі, сучаснасці і будучыні народа, неаддзельнасць існавання чалавецтва ад усяго жывога на зямлі, безумоўная перавага гуманізму над ідэалогіяй і рэлігіяй... І абавязкова вандроўніцтва, асабістае знаёмства з тым, пра што пішаш, глыбокае ўсведамленне неабходнасці чытаць кнігу сваёй Радзімы толькі ўласнымі вачамі і нагамі.

Гэта былі пошукі храма зямлі. Таму крокі Караткевіча памятаюць не толькі ўсе куточкі Беларусі, але і Урал, Арэнбург, Далёкі Усход, Кіеў, Палтава, Адэса, Канеў, Масква, Пецярбург, Рыга, Вільня, Арменія, Сярэдняя Азія, Кракаў, Варшава, Прага, Браціслава, Крым, Каўказ... Спеў яго памятае Гродзенская Каложа, голас яго лунае ў царкве Пакрова на берагах Нерлі, стук яго чаравікаў жыве ў Кедравай Падзі і Самаркандзе...

Караткевіч наблізіўся, праз усведамленне сябе чалавекам «зямлі пад белымі крыламі», да ўсведамлення сябе чалавекам Зямлі — «калыскі жыцця, жамчужыны розуму».

...Дзесьці на даляглядзе, ледзьве бачны, вымалёўваецца «храм наш агульны і светлы». Колькі яшчэ ісці да яго? А можа, гэта прывід, міраж? А можа, храм той ужо знішчаны, як Фара Вітаўта ў Гародні ці Благавешчанне ў Віцебску, і ўжо не падлягае аднаўленню?

Не! Магчыма, мы проста пакуль вельмі дрэнна бачым. Магчыма, вочы нашы дасюль прыкрыты белай плесняй... Дзе тыя словы, тыя ўчынкі, якія павінны выклікаць «вельмі пякучыя» слёзы, якія б спалілі і знішчылі яе, як у Перавозчыка з «Ладдзі Роспачы»?

А вочы Караткевіча-празарліўца гэты храм бачылі, душа адчувала, што «ён горда заззяе ў зеніце — Непарушны — ўзнясецца ў неба». Ісці да яго пакутліва-доўга, нясцерпна-цяжка, але мы мусім ісці, як ішоў Караткевіч, сустракаючыся з неразуменнем і захапленнем, нянавісцю і любоўю, здрадай і адданасцю, хлуснёю і праўдай... Бо «інача нельга. Інача — сорам».

Шлях да храма... Кожны павінен знайсці яго сам, пратаптаць сваю сцяжыну... У кожнага свой шлях да агульнага храма... Караткевіч свой храм знайшоў. Як доўга нам шукаць яго?

Але нават у апошнім падарожжы Караткевіч нястомна пазнае свой шлях да храма... Палеская кветка беларускай паэзіі Жэня Янішчыц прасіла ўсіх нас: «Вам, хлопцы, гнаць да Турава паром. Як і пры ім — не збочвайце са шляху».

Шукайма свой шлях да храма! І мы знойдзем яго, велічны і чалавечны, магутны і непераможны... Храм сваёй душы і храм сваёй зямлі. І мы дойдзем да яго, «мы вытрымаем, бо мы няспынныя», як сэрца Купалы, як сэрца Караткевіча. «І мы будзем жыць, пакуль гэта сэрца б'ецца ў нашых грудзях».

* * *

Адным з месцаў, дзе захоўваецца памяць пра Уладзіміра Караткевіча, стаўся Музей-кабінет яго імя, адчынены ў 2000 годзе ў Мінскім прафесійна-тэхнічным каледжы электронікі (вул. Казінца, 91).

Варта адзначыць, што базавым прадпрыемствам каледжа з часу яго заснавання з'яўляецца Мінскае вытворчае аб'яднанне «Інтэграл». Уладзімір Караткевіч сустракаўся з яго супрацоўнікамі, тагачаснай «рабочай інтэлігенцыяй», у 1982 годзе, даў інтэрв'ю для шматтыражнай газеты, выступіў у кінатэатры «Электрон». На 1984 год планавалася сустрэча ў адным з рабочых інтэрнатаў. Але, на жаль, гэта сустрэча ўжо не адбылася...

26 лістапада 1985 года ў інтэрнаце № 2 аб'яднання прыхільнікамі творчасці пісьменніка былі адчынены дзверы Гасцёўні імя Уладзіміра Караткевіча, а праз год — музейнага пакоя. На працягу дзесяці гадоў пад чуйным кіраўніцтвам выхавальніцы інтэрната Валянціны Міхайлаўны Гірыловіч адбываліся сустрэчы «інтэгралаўцаў» з творчай інтэлігенцыяй, роднымі і блізкімі пісьменніка. Гасцёўню наведалі сястра Уладзіміра Караткевіча Наталля Сямёнаўна Кучкоўская, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс з жонкай Марыяй Карлаўнай, Вячаслаў Адамчык, Пятро Драчоў, Валянцін Ждановіч, Марыя Захарэвіч, Аляксей Дудараў, Мікола Купава, Генадзь Тумаш, Вячаслаў Рагойша, Стэфанія Станюта, Віктар Манаеў, Даніла Міцкевіч, Анатоль Верабей, Генадзь Кісялёў, Уладзімір Паўлаў, Кастусь Тарасаў, Вячаслаў Чамярыцкі, Вольга Іпатава, Ірына Багдановіч, Іван Чыгрын, Сяргей Законнікаў, Эрнэст Ялугін, Зміцер Санько, Данута Бічэль, Алесь Камоцкі, Алег Бембель (Зьніч), Ала Кажэра, Артур Вольскі. Усе наведванні Гасцёўні старанна аформлены фотаздымкамі і запісамі гасцей.

Увосень 2000 года, у дні святкавання 70-годдзя Уладзіміра Караткевіча, матэрыялы Гасцёўні і музейнага пакоя, дапоўненыя новымі экспанатамі, сталі асновай адкрыцця Музея-кабінета Уладзіміра Караткевіча ў каледжы. За час працы фонд музея папоўніўся новымі экспанатамі, у тым ліку паштоўкай, дасланай пісьменнікам у 1979 годзе ў Віцебскі драмтэатр (паштоўку ахвяраваў тагачасны галоўны рэжысёр тэатра Валерый Мазынскі), фотаздымкамі з наведвання У. Караткевічам ВА «Інтэграл» (аўтар — Рыгор Горман, фотакарэспандэнт шматтыражнай газеты), фотаздымкамі з хатняга архіва Адама Мальдзіса і Галіны Дзягілевай, двума медальёнамі з выявай пісьменніка (ахвяраванні А. Мальдзіса і А. Вераб'я), кнігай «Чорны замак Альшанскі» ў адзіным экземпляры (пераплецена і аформлена мастаком Віктарам Сташчанюком), паэтычнай кнігай славацкага паэта Тэадора Крыжкі з дарчым надпісам для У. Караткевіча (ахвяраваў Л. Дранько-Майсюк), кнігай з бібліятэкі

Уладзіміра Караткевіча «Новая зямля» Я. Коласа (падарунак пляменніцы Алены Іванаўны Сінькевіч і яе мужа Васіля Мікалаевіча) і іншымі. У бібліятэцы музея — кнігі У. Караткевіча на беларускай, англійскай, латышскай, літоўскай, польскай, рускай, украінскай, чэшскай мовах, а таксама кнігі беларускіх пісьменнікаў з дарчымі надпісамі для музея. Стала добрай традыцыяй штогод праводзіць вечарыны, прысвечаныя дню нараджэння пісьменніка («З гісторыі ў сучаснасць», «Паэма пра явар і каліну», «Ты прыходзь, далёкая, любая...», «Караткевіч і Украіна» і інш.), творчыя, у тым ліку камп'ютэрныя прэзентацыі, выставы кампазіцый з прыродных матэрыялаў паводле твораў У. Караткевіча.

Актывісты музея на працягу трох гадоў стваралі электронны рэсурс, прысвечаны Уладзіміру Караткевічу. Інтэрнэт-сайт быў афіцыйна адчынены 26 лістапада 2003 года пад назвай «Быў. Ёсць. Буду.» з адрасам htth://uladzimir-karatkevich.iatp.by. Дызайн і тэхнічную падтрымку сайта ажыццяўляе выпускніца каледжа Алена Валькові́ч, навуковым рэдактарам з'яўляецца Пятро Жаўняровіч. На сайце можна знайсці ўсе творы пісьменніка на беларускай мове, напісаныя ім артыкулы і дадзеныя інтэрв'ю на рускай мове, звесткі з біяграфіі, частку ліставання, успамінаў, крытычныя артыкулы (у тым ліку кнігі А. Мальдзіса, А. Вераб'я, А. Русецкага) і іншыя матэрыялы. Рыхтуецца фотагалерэя, рускамоўная старонка... Сайт мае гасцёўню.

*2005*

## Уладзімір Ягоўдзік

# Вечар з Караткевічам

Звычайны запісны блакнот «у клетачку». На кардоннай вокладцы некалькі амаль выцвілых ад часу валошак. Старонкі стракацяць таропкімі, напалову скарочанымі запісамі, якія цяпер нялёгка расчытаць. Яны зроблены мною ў лютым 1983 года, а дакладней — 9 лютага, на кватэры Уладзіміра Караткевіча. Па заданні рэдакцыі «ЛіМа», дзе я тады працаваў, у гэты дзень мне пашанцавала браць інтэрв'ю ў пісьменніка з нагоды прысуджэння яму Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа за напісаны ў пачатку 60-х раман «Нельга забыць».

Я неаднойчы бачыў і слухаў Уладзіміра Сямёнавіча, але падысці да яго, пазнаёміцца асабіста не адважваўся, хоць шмат пра што хацелася распытаць і нават параіцца. І тут — такая магчымасць! Рэдактар сам пазваніў лаўрэату, заручыўся яго згодаю на публікацыю, мне ж заставалася

толькі падрыхтаваць пытанні і дакладна занатаваць адказы. Алоўкам у блакнот — так надзейней, чым спадзявацца на дабіты рэдакцыйны магнітафон. Увечары пасля службы, як было загадзя дамоўлена, я паспяшаўся ў раён Купалаўскага тэатра. Лёгка знайшоў патрэбны стары дом, кватэру на пятым паверсе, з хваляваннем націснуў на кнопку званка. Дзверы адчыніў сам гаспадар. Ён быў у піжаме, на босую нагу ў тапках. Вакол вачэй — цёмныя кругі. Я ведаў, што жонка пісьменніка, Валянціна Браніславаўна, цяжкахворая, ляжыць у бальніцы, што ў самога Караткевіча няладна са здароўем... Міжволі падумалася, што завітаў я не ў лепшы час. Распытваючы на хаду пра лімаўскія клопаты, Уладзімір Сямёнавіч павёў мяне ў свой кабінет. Там адразу кінулася ў вочы мноства кніг на паліцах уздоўж сцяны і карціны, непадалёку ад акна стаяў пісьмовы стол, завалены папкамі і паперамі. Мы ж прыселі каля часопіснага століка, каля якога мякка свяціўся таршэр. Гаспадар уладкаваўся на тахце, я — у мяккім крэсле. Не паспелі перакінуцца і некалькімі словамі, як раптам у суседнім пакоі ці калідоры зазваніў тэлефон. Хтосьці падняў трубку. «Пляменніца...» — чамусьці патлумачыў мне пісьменнік. Неўзабаве яна паказалася ў дзвярным праёме: «Просяць да тэлефона...» «Мяне няма,— цвёрда сказаў Караткевіч, — я працую і даўно сышоў з хаты».

Пляменніца паклала трубку, а я, адчуўшы душэўную напятасць майго суразмоўніка, не ведаў, з чаго пачаць, як падступіцца да запланаванага інтэрв'ю. Заўважыўшы маю нерашучасць, Уладзімір Сямёнавіч спытаўся: «Ну што, можа, пачнём? Давай першае пытанне...» Я не паспеў разгарнуць блакнот — зноў азваўся тэлефон. На гэты раз працягла-пераліўіста. Адразу здагадаешся — міжгорад. Пляменніца, падняўшы трубку, пацвердзіла: «Хтосьці з Масквы... Адмаўляць?»

Тэлефонныя званкі, відаць, за цэлы дзень даняли пісьменніка, бо ён скрывіўся, як ад зубнога болю, падхапіўся з тахты, пачаў выгаворваць сваячніцы: «Я ж тлумачыў — мяне няма! Я на банкеце ў ЦК ці мокну ў «Нёмане». Ну, прыдумай што-небудзь, дай нарэшце пагаварыць з чалавекам. Або зусім не падыходзь да гэтага чортавага стварэння. Няхай хоць лопне!»

Зачыніўшы наглуха дзверы, гаспадар спыніўся каля кніжнай паліцы, дастаў з-за кніг пляшку гарэлкі, шклянкі, загорнуты ў паперу хлеб: «Зробім па кроплі і будзем працаваць. Матэрыял у наступны нумар ідзе?»

Інтэрв'ю з пісьменнікам пад назвай «Найперш судзіць чытачу» з'явілася на лімаўскіх старонках 18 лютага 1983 года. Яно невялічкае, я дазволю сабе амаль цалкам яго тут прывесці.

*— Уладзімір Сямёнавіч,— пачаў я размову на ўрачыстай ноце,— атрыманне Літаратурнай прэміі, няма сумнення — падзея для аўтара прыемная, радасная...*

— І, як мне здаецца, крышачку сумная...— усміхнуўся Караткевіч.— Чаму? Бачыце, калі пачынаюць пісьменніку даваць прэміі, узнагароды, часцей за ўсё яму ўжо не 20 гадоў. На жаль... Значыцца, чалавек ты немалады або зусім стары. А хто з гэтым хоча пагадзіцца?

*— А як вы наогул ставіцеся да папулярнасці, да шырокага чытацкага прызнання?*

— Да фанфарна-барабаннага — ніяк. Хоць бы яго і не было. А вось калі адчуваеш сапраўдную павагу да таго, што ты кажаш, няхай сабе ў чымсьці і не згаджаюцца,— гэта заўсёды радуе і хвалюе. Скажу вам па сакрэце: усё-такі прыемна, калі зойдзеш у бібліятэку і жартам спытаеш сваю кнігу, а бібліятэкарка разводзіць рукамі: «Прабачце, два месяцы, як апошні экземпляр сцягнулі...» Або калі выпадкова сустрэнешся з выпадковым чалавекам, які выпадкова тваё штосьці чытаў і нават выпадкова запомніў тваё прозвішча... Слова за слова, глядзіш — разгарэлася спрэчка, а там — нехта некага і на лапаткі паклаў. Вось гэта мне падабаецца.

*— Літаратурная прэмія, якую вам прысудзілі, носіць імя Івана Паўлавіча Мележа. Гэта, мабыць, выклікае нейкія асаблівыя думкі, пачуцці...*

— Я люблю Мележа. І як чалавека, і як пісьменніка. У шмат якіх пытаннях літаратуры, наогул мастацтва, хочацца верыць, мы былі аднадумцамі, хоць і здараліся паміж намі гарачыя мужчынскія спрэчкі. Аднак не помню ў нашых адносінах адчужанасці, няшчырасці, за што я асабліва ўдзячны лёсу. Таму прысуджэнне гэтай Літаратурнай прэміі — для мяне з'ява вельмі асабістая, аднак радасць мая замешана на жнівеньскай журбе... Бо надта рана Івана не стала.

*— А якім вам бачыцца творчае звяно Мележа ў кантэксце беларускай літаратуры, наогул у нашай нацыянальнай культуры?*

— Як і шмат каму — залатым. Ніколі не забуду тое непараўнанае ўражанне, якое зрабілі на мяне «Людзі на балоце». Гэта было падобна на выбух бомбы. Жывыя людзі. Жывыя стрэхі на хатах. Жывое балота навокал. ПАЛЕССЕ! Вельмі хацелася б пісаць так густа, так глыбока, як напісаны гэты раман, як напісаны лепшыя старонкі іншых мележаўскіх кніг. Цяпер да гэтага яшчэ абавязвае і прысуджэнне прэміі яго імя.

*— А ў чым на вашу думку, Уладзімір Сямёнавіч, сакрэт такога шчаслівага вяртання да чытача вашага рамана «Нельга забыць»?*

— Твор гэты — шматпланавы, у пэўнай меры — эксперыментальны. Гісторыя тут суседнічае з сучаснасцю, проза — з паэзіяй, лірыка — з жыццёвым сухім рэалізмам. Такое спалучэнне чвэрць века назад было навіной у нашай літаратуры, дый цяпер яшчэ рэдка сустракаецца. Мабыць, у гэтым адна з прычын таго, што раман чытаецца... Адна з прычын, але не галоўная, бо, акрамя чыста літаратурных прыёмаў і формаў, чалавек у творы заўсёды знаходзіць яшчэ штосьць сваё, глыбокае, асабістае...

— *І апошняе, традыцыйнае пытанне: над чым вы цяпер працуеце?*

— У выдавецтве «Беларусь» рыхтуецца да друку альбом, прысвечаны надзвычай цікаваму старажытнаму гораду — Мсціславу. Гэта радзіма мае маці, а значыць — і мая радзіма. Напісаў да гэтага выдання невялікую прадмову, якую апошнімі днямі дашліфоўваю. А што атрымалася — найперш меркаваць чытачу.

...Гартаю блакнот, учытваюся ў алоўкавыя запісы, каторы ўжо раз з асалодаю перачытваю цудоўны пралог з рамана «Нельга забыць», які атрымаў у падарунак з дарагім аўтографам: «Паважанаму сябру Валодзю Ягоўдзіку на добры ўспамін ад аўтара Ул. Караткевіча. 9 лютага 83 г.». Звычайны, ці як у такіх выпадках кажуць, дзяжурны надпіс, але ўсё роўна першыя два словы — «паважанаму сябру» — хвалююць сэрца і разам з тым прымушаюць зірнуць на сябе збоку прыдзірлівым вокам. Той, хто доўгія гады ведаў пісьменніка, у адзін голас сцвярджаюць: ён любіў і ўмеў сябраваць. Ад сябе дадам: і лёгка мог абярнуць цябе ў сваю веру, не саромеючыся прытым казаць тое, што думаў, не зважаючы на сяброўства, званні і хваробы.

Старонкі блакнота захавалі фрагменты нашай гаворкі вось на якую тэму. Я спытаўся, ці мае права літаратар на вольную інтэрпрэтацыю гістарычнага факта. «Канечне, мае,— адказаў Караткевіч і згадаў пушкінскія «Маленькія трагедыі». Потым дадаў: — Аднак мастак, які паважае сябе, не мае права перакручваць гістарычныя падзеі на свой капыл, калі захаваліся тагачасныя дакументы, няхай сабе ў шмат чым і супярэчлівыя...» І ў якасці прыкладу чамусьці прывёў «Хамуціус» Аркадзя Куляшова. «У свой час я казаў самому ў вочы яму, што нельга так пагарджаць гістарычнымі крыніцамі, як ён гэта зрабіў у сваёй паэме. Каліноўскі прысвячае Марысі Грыгатовіч вершы, яна — ледзь не ўвасабленне ўсёй Радзімы. У той жа час, як відаць са следчай справы, менавіта Грыгатовіч выдала жандарам Кастуся. Дарэчы, мне казалі, што Аркадзю прыслалі мікрафільм гэтай справы, але ён нават не распакаваў каробачку з плёнкай... Без праўды гістарычнай мяне не цікавіць праўда мастацкая. Так і запішы!»

Я, вядома, запісаў. І тут жа пацікавіўся, наколькі праўда мастацкая адпавядае праўдзе гістарычнай у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».



«Гэты раман ад пачатку і да канца фантазія, калі хочаш, нават хлусня. Я толькі адштурхнуўся ад радкоў з хронікі Стрыйкоўскага, дзе расказваецца пра бадзягу, які выдаваў сябе за сына Божага. У мяне была зусім іншая мэта, чым зляпіць адносна праўдзівую гістарычную хроніку з сярэднявечча. Я пісаў прытчу, раман-легенду з думкаю пра тое, што здарылася б у таталітарным грамадстве, каб сапраўды з'явіўся Хрыстос. І я ўпэўнены: чалавек з галавой на плячах, а не з гаршком, ніколі не кіўне на мяне пальцам, што я адступіў ад праўды!»

Далей Уладзімір Сямёнавіч са скрухаю ў голасе разважаў, чаму нас, беларусаў, захліснула гістарычнае бяспамяцтва. «Давай паглядзім, колькі ў школьным падручніку па гісторыі Беларусі адведзена старонак мінулым стагоддзям і колькі так званаму перыяду пасля 17-га года. Не, пакуль не пазбавімся абэцэдаршчыны, застанёмся сляпымі і глухімі. I ніхто ў свеце не стане нас шанаваць, калі не навучымся паважаць саміх сябе, сваю мінуўшчыну, культуру, мову».

Стрэлкі гадзінніка імкліва набліжаліся да поўначы. Я адчуваў, што заседзеўся, што даўно наспеў час падзякаваць за гасціннасць і развітацца. Але так было добра пры ўтульным святле таршэра і так цікава слухаць Караткевіча.

Пад самы канец нашай гаворкі, нібы жартам, адважыўся спытацца, колькі патрэбна часу, каб навучыцца пісаць прыстойна. «Мне хапіла 10 гадоў, — не здзівіўся з гэтага майго наіўнага пытання Уладзімір Сямёнавіч. — Зірні пад стол!..» Я нахіліўся і ўбачыў, што Караткевічавы босыя ногі стаяць на горбе аддрукаваных машынапісных старонак. З недаўменнем пазіраю на гаспадара, а ён тлумачыць: «Гэта ўсё мае слоўныя практыкаванні. Печкі няма, каб спаліць, а вынесці на двор у сметнік — ніяк не збяруся. Зразумеў?..» Мне нічога не заставалася, як сцвярджальна кіўнуць галавою: «Зразумеў».

Праз некалькі дзён пасля выхаду ў свет штотыднёвіка з інтэрв'ю набіраю тэлефонны нумар кватэры пісьменніка. Трубку падняў сам Караткевіч. Прывітаўшыся, пытаюся:

— Чыталі, Уладзімір Сямёнавіч?

— А як жа — паглядзеў!

— Ну і як?

— Няблага, Валодзя. А ведаеш, што мне найбольш спадабалася?

— Што?

— Што ты не назваў маім любімым літаратарам Максіма Горкага!..

Я маўчу, не ведаю, як рэагаваць. А ў тэлефоннай трубцы ўсмешлівы сяброўскі голас: «Толькі ты не крыўдуй. Дальбог, такое здаралася. I неаднойчы. Заходзь, не забывайся...»

*1983, 1993*

Язэп Янушкевіч

# Ніяк

Пры кароткіх спатканнях або працяглых размовах-гутарках толькі два паэты здольныя былі надоўга ўздымаць мяне над радзімай зямлёй, каб зірнуць на яе, мілую й грэшную, з вышыні арлінага лёту; адарваць ад мітуслівай, жалю вартай дзённай мітульгі, дзеля асэнсавання ВЕЧНАСЦІ: Уладзімір Караткевіч і... Віктар Стрыжак (пэўны час, па-сталічнаму філфаку, мой аднакурснік, які навек застаўся 40-гадовым).

Гэта не азначае, што цяпер не сябрую з выдатнымі асобамі... Але тады, у далёкую пару юначага станаўлення, імклівa сталеючая душа мая, штодня адкрываючы бяздонне мінулага Бацькаўшчыны, апошнімі стагоддзямі найчасцей паняволенай, сквапна глытаючы бязмеж роднай гісторыі, прагнула адчуць моц уласных крылаў. Каб, на ўзор годнай чарады папярэднікаў, самому пачаць самастойны шлях. Ужо не азіраючыся, не зважаючы ні на што...

Знаёмства з незабыўным Уладзімірам Караткевічам адбылося на самым пачатку траўня 1979 года ў радзімым Ракаве, куды пісьменніка прывёз Караткевічаў сусед па сталічнай кватэры Вячаслаў Рагойша — наш зямляк і сусед таксама. Легендарны (ужо тады) творца айчыннай літаратуры чамусьці ўяўляўся мне нізкім, таўставатым, кругленькім, жвавым — ну, выліты шляхціц Дубатоўк з «Дзікага палявання...». А тут уваходзіць у хату высокі чалавек, крыху сутулаваты (не раўнуючы, прыгорблены), але ўсё роўна вышэйшы за мяне, (больш 180 см), коратка падстрыжаны (напэўна, мае віхры, таму прычоска так і выглядала, як у хлапчука)... Твар бледнаваты, са складкамі, але сухі і выцягнуты. Нейкі спрацаваны, бы ў нашых местачковых кавалёў Мар'яна Залатара ды Віні (Вінцэся) Барткевіча, што днявалі-начавалі пры саўгасных горнах. Голас, калі не глядзець, а толькі слухаць суразмоўцу, здаваўся голасам маладзёна, прытым паважнага і няспешнага. Гэтак і адказаў на маё пытанне, якое адважыўся (дваццацігадовы студэнт) задаць: адкуль у ягонай «Зямлі пад белымі крыламі» ўзята лічба, быццам пры акупацыйным рэжыме пад расейскім царызмам непісьменнасць на нашых землях узляцела з 40 адсоткаў да 77 %? (Скарыстаў гэты факт у сваёй курсавой і атрымаў ад рэзэнзентаў заўвагу.) На што госць прытомлена, скрушліва адказаў:

— Каб я ведаў, дзе тое аднатавана ў маіх выпісках, якіх у мяне — во-о-о! цэлыя стосы (кампутар тады анікому тут не сніўся). Але за дакладнасць вытрымкі даю заруку...

Здаецца, ён быў уражаны не столькі нашай новай, на два канцы, хацінай (немалой на тыя часіны, 5—7 пакояў), у якой вабіла зала, дзе на сталі красаваліся паўтара дзесятка каларытных партрэтаў (ад князя Усяслава Чарадзея да Янкі Купалы), намаляваных старэйшым братам Фэлікам, як тым, што мама нашая — маці-гераіня. І ўсе пяцёра — сыны! Гэтым не ў апошнюю чаргу тлумачыцца Караткевічаўскі аўтограф на зборніку «З вякоў мінулых», мудра паднесены мамай з паліц нябеднага ўжо тады хатняга кнігазбору ў гасцёўню, дзе сямейна частавалі знакамітага творцу (пра такіх на Беларусі й кажуць: «Госць у дом — Бог у дом»): *«Вялікаму, сумленнаму, нашаму роду Янушкевічаў, каб ні перад кім не схілялі галоў, як Гервасій Выліваха, і каб заўсёды былі самімі сабой».*

Годнасцю і нейкай пракаветнасцю павявала ад кожнага ягонага жарту, позірку, слова. Памятаю, калі пазней у сталічную кватэру Караткевічаў прынёс машынапіс паэмы «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага» нашага паэта-земляка Пятра Бітэля (рэпрасаванага ўжо па вайне), таксама запытаўся: «Скажыце, а як вы ставіцеся да гістарычных раманаў, што апошнім часам часта-густа выдаюцца ў нас на расейскай мове, скажам «Белая Русь» Ільі Клаза?»

Пісьменнік ажно ўздыбіўся, адарваўшы пяты ад падлогі, але потым, імгненна авалодаўшы сабою, хітнуў галавою: «Ніяк». І, падалося, у думках сігануў кудысь далёка-далёка.

За гэтым кароткім, адсечаным, бы палашом, адмаўленнем, па-свойму гранічна шчырым, схаваўся ад мітульгі і непатрэбшчыны волат роднага слова, якому здакучліва было назіраць за патугамі тых, хто імкнуўся шальмаваць родную гісторыю. Пра каго яшчэ юнаком у яго вырвалася глыбіннае, быццам стогн роднай зямлі ў буру: «Прадавалася Радзіма...»

І тады, за пісьмовым сталом, і штораз, пры кожнай сустрэчы-спатканні, у мяне спараджалася ўражанне, быццам пісьменнік знаходзіўся ў адвечным руху, ідучы аднаму яму толькі ведамым пуцінай-гасцінцам. Не запрашаючы, але і не адганяючы мажлівых спадарожнікаў. Маўляў, шлях немалы, адолее  не кожны. Таму майце на ўвазе...

Дата Вялікаднага дня на нашай зямлі, 22 красавіка 1984 года, засталася напамінам пра адно з апошніх спатканняў з пісьменнікам у Ракаўскіх ваколіцах, у санаторыі «Аксакаўшчына». Акурат выйшаў асобным выданнем доўгачаканы «Чорны замак Альшанскі» з непаўторнымі ілюстрацыямі Пятра Драчова. На самавітым каляровым асобніку, прэзентаваным мне тагачасным дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міхалам Дубянецкім (вось хто моцна падтрымаў-заангажаваў творцу ў зыходныя ягоныя зямныя гады!) цвёрдым почыркам выразна выведзена:

«Дарагім маім сябрам
усім-усім-усім Янушкевічам,
з пажаданнем узляцець высока-высока,
з пажаданнем шчасця».

І калі ў маёй хадзе, у жыццёвым узлёце і крылах ёсць нейкая дужасць, нястомленасць — яна і ад гэтых слоў, якія можна лічыць тастаментам-бласлаўленнем.

У імя дабрыні і годнасці (дэфіцытнай за войнамі, высылкамі, расстрэламі, катаваннямі) на нашай спакутаванай зямлі.

*2005*



Андрыс Веянс

## Ля Даўгавы

З Уладзімірам Караткевічам мы пазнаёміліся яшчэ ў маладосці ў маёй Латгаліі. Васільковае неба абдымала нас на беразе Даўгавы. І разам з намі быў Рыгор Барадулін. Пасля, калі б ні сустракаўся я з цудоўным паэтам, абавязкова згадвалі Уладзіміра, таленавітага пісьменніка, які шанаваў гісторыю і любіў сённяшні дзень. Захапляўся бурштынавым морам, што заўсёды, падобна на недасяжную мрою, прымушала хутчэй біцца сэрца, хвалявала душу, грэла як кастры купальскай ночы. Ligo! Спявалі мы прыпеў утрох, першы раз стоячы побач...

Творы Валодзі на латышскую мову перакладала Мірдза Абала. У нашых з ёй гутарках мы заўсёды ўспамінаем сяброў з Беларусі. І асабліва цёплыя словы яна кожным разам знаходзіць пра Валодзю Караткевіча, які некалі прыняў яе ў Мінску як самую дарагую госцю. Яны сустракаліся таксама і ў Рызе, дасылалі адно аднаму лісты.

Няўмольна мінаюць гады, а Валодзя Караткевіч жыве не толькі ў сваіх кнігах і нашых згадках, ён жыве ў нашых сэрцах. І няхай пра гэта хаця б крыху скажуць тыя радкі, што нарадзіліся ў маі 2005 года, калі я думаў пра вялікага чалавека і цудоўнага пісьменніка блізкай нам усім Беларусі.



**Ля Даўгавы**

*Уладзіміру Караткевічу*

Нас паяднале Даўгава і песня.
Спрадвеку разам балты й крывічы.
Сваёй душы вячыстае прадвесне
З нас кожны змог нясхібна зберагчы.

Як птушкі пералётныя, на крылах,
Мы мрою санцавітую ўзнялі.
І ў Ерсікі, і ў Полацка на схілах
Змаганцаў нашых зоркі расцвілі.

Гарачы жар гісторыі не стыне,
Ён не дае вярнуцца халадам.
Кунежна скрусе грэцца ва ўспаміне,
Зірнуўшы ўслед здарожаным гадам.

Нас у калысках вогнішча люляла
Ноч Янава, купальская, каб мы
Свой край знайшлі,
Як Райніс і Купала.
Без роднай мовы чалавек нямы.

Хай Беларусь — княгіня маладая —
Абнашчыць вочы ранішнім святлом.
На момант сціснe Даўгаву ільдамі.
Ды разняволіць воды крыгалом.

Народам часу змоўкласць узарана,
Каб песня вольна чулася ў жыцці.
Ля Даўгавы нам жыць наканавана
І небу васільковаму цвісці...

*Пераклад з латышскай мовы Рыгора Барадуліна*

## Раман Іванычук

# Мой рэквіем



Я спазніўся. «Выберыся нейк да мяне. Хочаш зімою — здабудзем лыжы і будзем разводзіць вогнішчы. А хочаш — і бліжэй да вясны. Паедзем на мой беларускі Дняпро, будзем лавіць рыбу і спаць на сене». Я адказаў: «Трохі пазней, Валодзя, паспеем, яшчэ ж не паміраем».

І не паспеў. З магілы глядзіць на мяне валун з такім знаёмым подпісам Уладзіміра, і валун той важкі і неапрацаваны, нечым падобны на самога Караткевіча і не падобны да іншых помнікаў, як і ён не быў падобны ні на кога.

Чаму чалавечае небыццё павінна конча прыгнятаць жывых? Чаму мы так бяздумна паўтараем словы Джона Дона «Ад смерці кожнага чалавека меншаю і я»? А можа, ад смерцяў, заканамерных і непазбежных, чалавецтва не бяднее, а ўзбагачаецца? Што дала свету смерць Бальзака, Талстога, Франка — страту ці набытак? Набытак, бо са смерцю геніяў зніклі іх слабасці, а застаўся толькі найпатрэбны людзям прадукт іхняга мыслення. Ці ж зменшыўся я, даведаўшыся пра смерць слаўнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, майго добрага сябра? Ды не — наадварот: я вырас і ўзмужнеў, забіраючы ў яго тое найкаштоўнае, што здолеў ён пакінуць усім нам...

Так я выплёскваў свой боль, стоячы ў самоце на Маскоўскіх могілках у Мінску перад магілаю сябра. Суцяшаў сябе марным філасофстваваннем, якое не магло заглушыць ува мне адчуванне непапраўнай віны перад ім — за свае кароткія лісты, на якія Валодзя адказваў то барокавымі, то гумарыстычнымі, шчыра-балючымі пасланнямі ў духу лепшага эпісталярыя мінулага стагоддзя; за тое, што ні разу не прыехаў да яго ў госці, хоць ён запрашаў амаль у кожным лісце; за тое, што заўсёды згадваў ён пра сваё гасцяванне ў мяне ў Львове, як пра «адзін з найлепшых і светлых дзён», і, напэўна, хацеў, каб і я нацешыўся яго гасціннасцю; за тое, што палюбіў ён, быццам сваё роднае дзіця, маю Наталлю, любоўна назваўшы яе «фулюганкаю», а я ні разу не спытаў яго пра асабістае жыццё; за тое, што не раз ён прасіў мяне напісаць нешта і пра гісторыю Беларусі, і я толькі цяпер выконваю яго запавет; і за тое, што па-рыцарску ён абараняў мяне перад пагромшчыкамі, а я так мала цікавіўся яго пісьменніцкімі клопатамі, якіх у яго было не менш...

Божа!.. Як лёгка прыйсці да высновы пра найкаштоўны прадукт пісьменніцкай працы, забыўшыся, колькі дабра мы засушваем у сабе, шукаючы ў людзях толькі патрэбныя нам каштоўнасці і забываючыся пра іх зямное, звычайнае, чалавечае. Давайце ж, сябры, прыносіць сваім бліжнім будзённую ўцеху!

Дзеля свайго апраўдання перад светлаю памяццю сябра ўсё ж такі знаходжу важкі аргумент: я шчыра любіў і паважаў Уладзіміра Караткевіча, якога нельга было аддзяліць ад ягонай творчасці. Да першай і адзінай сустрэчы, не бачыўшы яго ў вочы і ведаючы толькі па творах і лістах, я лічыўся з Караткевічам як з настаўнікам, хоць былі мы равеснікамі, не пераставаў вучыцца ў яго майстэрству і пасля асабістага знаёмства; я чытаў і перачытваў «Каласы пад сярпом тваім», «Чазенію», «Дзікае паляванне караля Стаха», з тых твораў паўставаў перада мной добры і мудры чалавек, які бясконца любіць сваю Беларусь, яе гісторыю і глыбока шануе маю Украіну, разумеючы і наш боль і нацыянальны гонар. Для мяне, гістарычнага раманіста, Караткевіч заўсёды быў узорам майстра, які ўмела валодаў і чэсна распараджаўся гістарычным

матэрыялам, не раўнуючы як добры гаспадар набытай у поце чала маёмасцю; пад уплывам Караткевічавага рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» я напісаў ці не самы ўдалы свой твор «Манускрыпт з вуліцы Рускай», пакарыстаўшыся мастацкімі рэцэптамі беларускага пабраціма.

Перачытваю лісты Караткевіча. «Даўным даўно мы не пісалі адзін аднаму. Можа, яно і лепей: не адбіраць у іншага час непатрэбнымі словавывяржэннямі (усё адно лістом не скажаш таго, што можна выказаць у бяседзе). Але часам усё ж трэба, хаця рады ў гады. нагадаць, што існуе на свеце друг».

Я любіў яго лісты. Можа, таму і не квапіўся да яго на размову, што чакаў тых шырокіх сакаўных пасланняў, падобных хіба што да лістоў Васіля Стэфаніка... Таму я заклікаю беларускіх выдаўцоў: знайдзіце паперу і выдайце асобным томам ліставанне Уладзіміра Караткевіча — няхай нашым нашчадкам засведчана будзе, што ў стэхнізаванай, стэлефанізаванай, змеркантыленай другой палове XX стагоддзя былі яшчэ пісьменнікі (прыгадаю з гэтай нагоды і ўкраінца Грыгора Цюцюнніка), якія ўмелі асэнсоўваць найбудзённыя будні ў бясплатных, бескарысных лістах да сяброў.

Гартаю лісты Караткевіча — і ўсё нешта новае знаходжу ў іх. То падрабязна аналізуе ён прысланы яму новы твор, то дзеліцца сваімі задумамі, то цешыцца новым пісьменніцкім імем, то абураецца... Не дзеля самапахвальбы, а для характарыстыкі Караткевіча, пісьменніка чэснага і прынцыповага, сапраўднага рыцара дружбы, не магу не згадаць яго знішчальнага паслання аднаму маскоўскаму крытыку-чарнасоценцу, у якім Валодзя, адным з першых, стаў на абарону майго рамана «Мальвы»...

Іду з могілак да Валодзі на кватэру. Заходжу ў кабінет. Мяне суправаджае такая падобная да брата Наталля Сямёнаўна Караткевіч, чытаю на яе абліччы дабрыню Валодзі.

«Вось яго ложак, вы спалі б на ім, калі б прыехалі своечасова... А на гэтай паліцы яго ўласныя кнігі».

Багата, дужа багата кніг. За сваё кароткае жыццё Караткевіч паспеў напісаць твораў на цэлых дзесяць тамоў — пра боль, подзвігі, культуру, душу беларускага народа. Ці кожная нацыя мае такога пісьменніка? І таму незразумела, чаму з дзесяці магчымых тамоў выдаюць толькі восем. Чаму? Няўжо тыя некалькі тон паперы не акупяцца скарбамі яго слова? Хто не разумее ці не хоча гэтага зразумець?

«А гэтыя дзіцячыя цацкі — чые?» — «Валодзіны. Ён вельмі любіў дзяцей, а сваіх не меў».

Няпраўда гэта, меў. Я ведаю, як ён любіў дзяцей. Мая дачка таксама была яго дзіцём. «Не ўдасца мне пабываць на вяселлі зусім дарослай фулюганкі,— пісаў Валодзя.— А ты пацалуй жонку і няхай яна цябе

пацалуе. У падзяку, што ўзнялі вы добрае дзіця, паставілі на свае ногі і пусцілі самастойна ў гэты цудоўна багаты і шматфарбны свет».

На акне кабінета даспяваюць лімоны. Сапраўдныя лімоны ў Беларусі? «Ён іх садзіў, прышчэпліваў. Гэтыя, што пажаўцелі ўжо, зацвілі яшчэ пры яго жыцці». Наталля Сямёнаўна дорыць мне чаранок з Валодзінага лімона. Можа, прыжывецца і выспее ў мяне на акне пругкі плод...

Знаходжу на стэлажах падараваныя Караткевічу свае кніжкі. Перачытваю аўтографы: «Шаноўнаму Уладзіміру Караткевічу на знаёмства», «Дарагому другу Валодзю...», «Старому чараўніку...», «Непапраўнаму рамантыку...». І ўрэшце — на апошняй маёй кніжцы: «Гордасці беларускай літаратуры і маёй гордасці — таксама». Нібы адчуваў, што гэтыя словы пара яму сказаць, бо ён іх поўнасцю заслужыў.

...Няхай не прыгнятае і не збядняе нас чалавечае небыццё. Няхай узбагачае. Але балець — павінна.

*1988* *Пераклад з украінскай мовы Вячаслава Рагойшы*

## Гелена Крыжанава-Брындзава

# Наш дарагі сябра

Мы пазнаёміліся ў 1972 годзе ў Гаграх, цудоўным курорце на Каўказе. Выпадкова. Неяк мы з жонкай чэшскага пісьменніка Іржы Кржэнкі гайдаліся на бялёсых марскіх хвалях і размаўлялі даволі гучна, каб можна было перакрычаць шум мора. Тут да нас падплыла жанчына ў акулярах і светлай купальнай шапачцы.

— Прабачце,— кажа,— на якой вы мове гаворыце? Ведаю, што на славянскай, бо разумею кожнае слова, але не здагадваюся, на якой канкрэтна.

— Я гавару па-славацку, а пані — па-чэшску,— адказваю.

— Ах, дык гэта славацкая і чэшская мовы! — усклікнула жанчына і адразу паклікала высокага светлавалосага чалавека, які шпацыраваў па пляжы: — Валодзя, Валодзя, гэта сябры з Чэхаславакіі.

Мы выйшлі з мора, пазнаёміліся, паклікалі і астатніх — Іржы Кржэнку, пісьменніцу Веру Адлаву з мужам. І з таго часу былі мы з Караткевічамі проста неразлучнымі.

На пляж, на базар па садавіну мы хадзілі разам, разам ездзілі ў Сухумі і на возера Рыца, разам весела праводзілі вечары. Валодзя ведаў вельмі многа анекдотаў і расказваў іх так, што мы не раз аж душыліся

ад смеху. Ён частаваў нас смажанай рыбай, якую хадзіў лавіць кожны ранак разам з мясцовымі рыбакамі, а мы яго «Залатым фазанам», на яго думку, найлепшым півам на свеце.

Аднойчы я яго спытала:

— Вы ўжо былі ў нас, у Чэхаславакіі?

— Не, не быў,— адказаў ён і ўздыхнуў.

— А вы хацелі б прыехаць да нас?

— Вядома, хацеў бы,— адказвае,— але ўсё не так проста. Ехаць у складзе афіцыйнай дэлегацыі я не хачу. Ведаеце, як яно бывае з дэлегацыямі. Завядуць вас да аднаго важнага дзядзькі, потым да другога... Сядзіш там з гальштукам на шыі, слухаеш. Нудота, памерці можна! А я б хацеў пахадзіць сярод людзей, паглядзець, як жывуць, як п'юць піва, а можа, і як б'юць адзін аднаго па носе. Але ж для гэтага патрэбна запрашэнне, а ў мяне няма такіх сяброў, якія б нас маглі запрасіць прыватна.

Змерала я яго позіркам.

— Паслухайце, Уладзімір Караткевіч, вас яшчэ ніхто не скідваў з вунь той скалы ў мора? Мне вельмі хочацца гэта зрабіць.

— Але чаму, Гелена? — здзівіўся ён.

— Вы кажаце, што ў вас няма сяброў, а хто мы? Калі хочаце, прышлём вам запрашэнне.

— І вы б гэта сапраўды зрабілі? — ён акругляе вочы.

— А чаму ж не? Зараз мы запросім вас, а потым вы нас. Мы прагнем пазнаёміцца з вашай Белай Руссю.

У наступным годзе Валодзя прыехаў у Чэхаславакію з жонкай Валянцінай. Напачатку ў Прагу, дзе якраз выдалі ягоную кнігу, потым — у Браціславу.

Мы ведалі, што Прага зачаруе нашых сяброў, таму імкнуліся ў нашай сціплай Браціславе зрабіць як мага больш разнастайную праграму.

Мы хадзілі па музеях і галерэях, узышлі на Дэвін — старажытную крэпасць ля месца, дзе Марава ўпадае ў Дунай, на славуты карпацкі град «Чырвоны камень», наведалі Дом славацкіх пісьменнікаў, а потым — сучасную піваварню ў Гурбанове, дзе вырабляюць «Залатога фазана». Усе горы ў Славакіі — цудоўныя, але мы накіраваліся ў найбольш вядомыя — Высокія Татры. Мы ехалі маляўнічым узбярэжжам ракі Ваг. Валодзю натхняла прыгажосць Карпат і Жоўца. Час ад часу ён прасіў: «Затрымайцеся, дайце крыху падзівіцца».

Мы затрымаліся раз, другі, трэці, чацвёрты, на пяты я сказала, што ў Славакіі гэткая ж прыгажосць на кожным кроку. І калі будзем спыняцца ў кожным маляўнічым месцы, то Татры не ўбачым і заўтра раніцай, а ў нас у плане яшчэ і Дэманоўскія пячоры.

Ён паслухаўся і больш не прасіў затрымацца, а толькі ўздыхаў: «Маці родная, якая прыгажосць!» У Дэманоўскіх пячорах, якімі Славакія

ганарыцца як адзінымі ў свеце, красамоўны Валодзя страціў мову. Ён толькі глядзеў, круціў галавой і ўздыхаў. Валя таксама ўвесь час падазрона маўчала.

— Дык як? Падабаецца табе? — спытала я яе, калі мы выйшлі да канатнай дарогі.

— Прыгажосць незвычайная,— кажа,— толькі страшнавата трохі.

— Страшнавата? — здзівілася я.

Аказваецца, яна ніколі не ездзіла канатнай дарогай.

Мы хадзілі па Татрах, узыходзілі на абодва Смокаўцы, на Ломніцу, Шрбске плесо... Мужчыны канатнай дарогай заехалі на Грэбянак, а мы, жанчыны, засталіся ўнізе, бо Валя адмовілася вісець на арэлях высока над безданню. Татры гэтак натхнілі нашых сяброў, што я крыху здзівілася. Я ведала, што на Белай Русі няма гор, толькі пакатыя ўзгоркі, але ж Караткевічы бачылі Каўказ...

— Каўказ — гэта нешта іншае,— тлумачыў Валодзя.— Ён прыгнятае чалавека сваёй магутнасцю. Татры намнога бліжэй чалавечай натуры.

Мы заехалі ў Левачу, якую Валодзя назваў самым прыгожым горадам Славакіі. Ён доўга не мог адарваць вачэй ад славутых гатычных алтароў, ад алтара майстра Паўла. Яго зацікавілі старадаўнія палацы і камяніцы на вузкіх брукаваных вуліцах.

Толькі праз год, у Мінску, я зразумела, чаму ён быў так зачараваны. Сталіцу Беларусі, гэты старажытны горад, вайна цалкам знішчыла, ад яго засталося не больш трох маленькіх завулкаў, а таксама пашкоджаны кафедральны сабор. Помнікі былой славы Мінска былі беззваротна загублены. Гэты факт для аўтара некалькіх гістарычных раманаў быў вельмі балючы.

Вандроўкі па Славакіі зрабілі на нас незабыўнае ўражанне: мы глядзелі на сваю радзіму вачыма нашых сяброў. Караткевіч пазнаваў кожнае дрэва, кожную расліну, пытаўся, як яны называюцца па-славацку і ставіў нас часам у няёмкае становішча, бо мы не заўсёды маглі яму адказаць. Мне здавалася, што я ведаю дастаткова многа раслін, асабліва лекавых, але Валодзя, здавалася, ведаў усе, і пры гэтым не толькі беларускія назвы раслін, але і рускія і лацінскія.

Быць субяседнікам Валодзі было вельмі цяжка. Яго веданне прыроды, гісторыі, літаратуры, мастацтва і розных галін навукі было настолькі рознабаковым і дакладным, што часам мы адчувалі сябе з ім як школьнікі. Мне здаецца, свае недахопы ведаў аб прыродзе я крыху паправіла праз год, калі мы збіралі грыбы на радзіме Якуба Коласа, у Мікалаеўшчыне. Гаспадары бралі баравікі, падбярозавікі, лісічкі, а я тым часам, на іх вялікае здзіўленне, збірала сіняўкі, дубовікі і радоўкі.

Мяне ўсе ўпарта пераконвалі, што гэта паганкі, што іх, маўляў, трэба выкінуць, але мне паспрыяў вялікі аўтарытэт Валодзі.

— Гелена мае рацыю, гэта добрыя грыбы, іх можна есці,— сказаў ён і дадаў: — Я іх калісьці ў Сібіры каштаваў!

У час першага прыезду ў Славакію Валодзя часта ўздыхаў: чым вас здзівіць, сябры, чым вас у нас здзівіць?

Мы прыехалі на Белую Русь і знайшлі многае, што нас здзівіла. Прыгожы, сучасны горад Мінск, поўны сонца і зяляніны, утульны, гасцінны дом нашых сяброў — шчырых і сардэчных людзей, цудоўныя лясы і шматлікія азёры з чыстай празрыстай вадой. На возера Нарач (а яно такое вялікае, што другі бераг бачны ледзь-ледзь) мы прыляцелі «кукурузнікам», маленькім самалётам. Ён ляцеў так нізка, што чайкі заглядвалі да нас у вокны.

У час другога прыезду Караткевічаў мы, па жаданні Валі, паехалі ў Велеград, былы цэнтр Вялікай Маравы, потым хадзілі па Нізкіх Татрах, наведалі Добшынскую лядовую пячору, а Валодзя папрасіў паехаць зноў у Левачу. Яму было цікава, ці гэты горад і другі раз зробіць на яго такое ж уражанне. І прыгожы гатычны горад зачараваў нашага сябра яшчэ больш, чым у час першай сустрэчы.

Мы яшчэ некалькі разоў сустракаліся з Караткевічам — у Браціславе, у Мінску, у Гаграх. І верылі, што так будзе і далей. На жаль, сталася іначай. З Мінска прыйшоў ліст, у якім Валодзя паведаміў нам, што Валі, нашай дарагой Валі, ужо няма, а яшчэ праз паўгода мы атрымалі сумную вестку, што няма і Валодзі.

*1987* *Пераклад са славацкай мовы Віктара Ляшава*

## Віктар Ліўземніекс

# Незабыўная дарога ў Ясмуйжа

Сярэдзіна 60-х гадоў. Літаратурнае жыццё ў Латвіі бурліла як ніколі. Тое ж самае адчувалася і ў суседніх нацыянальных рэспубліках. Наладжваліся асабістыя сяброўскія кантакты, якія пасля далі плён у творчасці.



1965 год. Стагоддзе народнага паэта Яніса Райніса. Я тады працаваў у Музеі літаратуры. Намеснік дырэктара паэт Еранім Стулпан паведаміў, што адбудзецца паездка ў родны маёнтак Райніса — Ясмуйжа, мяне як супрацоўніка музея і маладога, толькі што бліснуўшага паэта, таксама ўключылі ў склад паездкі і мерапрыемстваў. І тут жа ён прапанаваў сустрэцца з двума беларускімі паэтамі, якія ўжо прыехалі на Дні паэзіі ў Латвію.

Цудоўна! Я ўжо быў знаёмы з Рыгорам Барадуліным, і... мне прадстаўляецца Уладзімір Караткевіч. Стройны, усмешлівы. Нават пры раз-

мове ўвесь час усміхаецца. Ідзём куды-небудзь пасядзець, павячэраць, падыхаць паветрам. За столікам заўважыў, што Уладзімір не п'е, хаця заказаў, каб афіцыянтка прынесла сухое віно. Прыгубіць шкляначку і паставіць на стол. Але весялун, гаваркі, жартаўнік нават пры сур'ёзным слове. Яму з нашым паэтам Еранімам Ступанам было што ўспомніць і развесяліцца — абодва вучыліся на Вышэйшых курсах літаратурнага інстытута імя Горкага ў Маскве і там пасябравалі. Моцна. Нездарма Уладзімір стаў хросным бацькам у дачкі Ераніма Ілзе. І гэта таксама была добрая нагода для Уладзіміра час ад часу з'яўляцца ў Рызе, наведваць знаёмых, адначасова робячы свае выдавецкія справы.

...11 верасня 1965 года кіруемся ў далёкі шлях, ад Рыгі кіламетраў дзвесце, у Латгалію, дзе ў родным маёнтку Ясмуйжа шырока святкуецца народнае мерапрыемства — 100-годдзе вялікага латышскага паэта Яніса Райніса.

У мікрааўтобусе пацэліў сесці побач з Уладзімірам, каб пагаварыць. У нас тры гадзіны шляху. І разгарэліся! А пачалі з таго, што бачылася праз аўтобуснае акенца: Даўгава ўвесь час праглядалася! Як гід стараюся што-нішто бегла расказаць, а Уладзімір паглыбляецца ў гістарычныя ўспаміны. Пра лёсы старажытных балтаў. Я кажу, што латгальцы дайшлі да Даўгавы, што ў перакладзе азначае шмат вады. Адступалі ад ракі Акі і Прыднепры. І яшчэ дадаю, што ўся сучасная тэрыторыя Беларусі — зямля балтаў.

На мой едкі нападак Уладзімір толькі ўсміхаецца: ці згодны, ці не?.. Не ведаю. Яшчэ стараюся, як чалавек з вышэйшай адукацыяй у Рызе, сказаць яму, што беларус з Полацка, Скарына, вялікі вучоны Еўропы, у сярэднявеччы пераклаў Біблію на славянскія мовы, а тое замоўчваецца ў падручніках па гісторыі. Такі Ламаносаў з'явіўся толькі праз 200 гадоў, як бацька рускай навукі! Але і гэтыя мае вострыя выказванні не ўцягваюць яго ў спрэчку. І добра. Зразумеў я ўсё-такі, люблю рускую культуру, перажываю за яе і натхняюся ад яе.

Але Уладзімір раптам ажывіўся, калі даведаўся, што мае продкі — з Вілякі, непадалёк ад Абрэне, усходняй Латгаліі, на мяжы з Пскоўскай вобласцю, былой Віцебскай. І тут я паспеў яму сёе-тое расказаць пра паўстанне 1863 года ў тых мясцінах супраць рускага самадзяржаўя. Варшава, зразумела, Варшавай, Літва амаль ля мяжы Латгаліі, але эпіцэнтрам паўстання ў Латгаліі аказалася Віляка. Там збіраліся дружыны, знаходзіліся зброевыя майстэрні, царква штодзённа заклікала да паўстання. Там выходзіла газета «Земля и воля» (па-руску). Друкаваў артыкулы мой продак, рэвалюцыйны паэт Пітэр Мічлінік. Тое патаемнае друкарскае прыстасаванне знайшоў днямі і перадаў мясцоваму музею.

А Уладзімір расказаў мне, што згодна царскаму загаду былі кінуты войскі на Віляку, як самы небяспечны ачаг гэтага паўстання. Як потым

была забаронена каталіцкая споведзь, кнігі на лацінцы. Школы — толькі на рускай мове... і г. д. Неправаслаўныя сяляне не маглі набыць зямлю. І гэта вытваралася ў Латгаліі, на радзіме Яна Райніса. Ад Уладзіміра даведаўся я тады, што ён піша пра той час і тыя падзеі раман.

...У маёнтку Ясмуйжа сабраліся не толькі мясцовыя жыхары, але і прыхільнікі таленту паэта з розных раёнаў. Дзеля гэтага ўрачыстага выпадку была наладжана багатая і характэрная для Латгаліі выстава керамікі тутэйшых народных майстроў. На свяце паэзіі Еранім Стулпан прадставіў абодвух паэтаў з Беларусі. Я прачытаў пераклады Рыгора Барадуліна, а Стулпан — вершы Уладзіміра Караткевіча. Пасля ўрачыстай імпрэзы адправіліся ў адкрытае поле, каб пасадзіць гай Я. Райніса. Разам з нашым народным мастаком тэатра Эдуардам Смільчысам пасадзілі агульны саджанец і беларускія паэты. Гэтае дрэва вырасла і лістотаю сваёй па сённяшні дзень расказвае пра сувязь двух брацкіх культур, што звязаны шматвяковай бязлітаснай гісторыяй.

Гэтыя асабістыя кантакты ў будучым сталіся досыць плённымі. У 1967 годзе ў маім перакладзе выйшаў невялікі зборнік вершаў Р. Барадуліна. А Еранім Стулпан садзейнічаў, каб была выдадзена анталогія беларускай паэзіі. Аб чым паклапаціўся і Яніс Судрабкалнс, сябра беларускай культуры. Кніга пад назвай «Хлеб з соллю» выйшла ў 1974 годзе з прадмовай Е. Стулпана.

Уладзімір пры кожнай магчымасці наведваў свайго сябра Еранiма. І ў 1979 годзе выйшла выбранае П. Броўкі «Добразычлівасць» (пераклад на латышскую Е. Стулпана, укладальнік У. Караткевіч). Гэта была іх апошняя сумесная праца. Праз два гады Стулпана раптоўна не стала, ён не дажыў да свайго пяцідзесяцігоддзя.

Пайшоў з жыцця і Уладзімір Караткевіч. Але яго літаратурная сувязь з Латвіяй не перапынілася. У перакладзе Талрыда Руліс у 1985 годзе выйшла гістарычная аповесць У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». У той жа час у нас з'явіліся напаўміфалагічныя раманы на тэму далёкай гісторыі Латвіі. Абодва нашы папулярныя пісьменнікі і Зыгмонтэ, і Скуіньш, думаю, з зайздрасцю прачыталі яркага Караткевіча. У гады незалежнай Латвіі актыўна дзейнічае культурнае таварыства беларусаў «Світанак», пры стварэнні якога стаяў нястомны мастак Вячаслаў Целеш. Сувязі даследавала прафесар Ілга Апінэ. Сярод сямі школ нацыянальных меншасцей дзейнічае і беларуская. Пастаянную сувязь з Латвіяй падтрымлівае беларускі паэт Сяргей Панізьнік.

Традыцыі мастацкага слова і шчырага сяброўства Уладзіміра Караткевіча, выдатнага сучаснага пісьменніка Беларусі, працягваюцца.

*29 красавіка 2005 г.* *Пераклад з рускай мовы Галіны Шаблінскай*

## Адам Мальдзіс

# Замежныя вандроўкі

У сямідзесятыя гады значна пашыраюцца творчыя гарызонты Караткевіча. Ён даволі многа ездзіць у іншыя рэспублікі — у Арменію, Грузію, Латвію, Эстонію. Некалькі разоў выбіраецца — адзін і з Валянцінай Браніславаўнай — у Польшчу і Чэхаславакію.

Першая зарубежная паездка Уладзіміра Караткевіча адбылася ў 1971 годзе. Яго запрасіў у Кракаў дацэнт Ягелонскага універсітэта, чэхіст па спецыяльнасці Здзіслаў Нядзеля. Ураджэнец Беларусі, ён дужа хацеў паглядзець сваю радзіму, і ў 1969 годзе я запрасіў яго ў Мінск, тады ж пазнаёміў з Караткевічам. Нядзеля хацеў адказаць рэваншам і ўзаемна запрасіць мяне ў госці.

Але я сказаў:

— Мяне збіраюцца і так паслаць у Польшчу ў навуковую камандзіроўку. То лепей няхай пан Здзіслаў запросіць Валодзю. За граніцай ён яшчэ ніколі не бываў: у афіцыйныя дэлегацыі яго не ўключаюць па «крамольнасці». А ў Польшчы пабываць хоча, бо цікавіцца яе гісторыяй, у многім для нас агульнай.

— Толькі адначасова з табой, Адасевіч,— папрасіў Валодзя.— Што я там адзін буду рабіць?

Так і рашылі: Нядзеля выслаў запрашэнне не мне, а Караткевічу. Аднак час ішоў і ішоў. Мая трохмесячная камандзіроўка ўсё адкладвалася (па той жа «крамольнасці»). Нарэшце восенню 1971 года яна стала рэальнасцю. Мы дамовіліся, што Валодзя прыедзе ў Кракаў, калі я ўжо акліматызуюся там пасля Варшавы, што мы абавязкова сустрэнем яго на пероне. 25 лістапада Нядзеля загадзя выбраўся са мною на вакзал і, спасылаючыся на тое, што цягнікі ў Польшчы звычайна спазняюцца, прапанаваў зайсці на «маленькую чорную». На перон мы выйшлі цюцелька ў цюцельку па раскладзе і — здранцвелі: цягнік, чаго ў Польшчы звычайна не бывае, прыбыў з апераджэннем, стаяў пусты. Мы кінуліся туды, дзе свяціліся літары «Выйсце до мяста», і каля агароджы знайшлі Валодзю, разгубленага і пакрыўджанага. Як ён дацягнуў туды чамаданы — аднаму Пану Богу вядома.

— Яшчэ пяць мінут — і аддаў бы прызначаныя для вас запасы першаму лепшаму таксісту,— напаў на нас Караткевіч ледзь не са слязьмі на вачах.

Час быў позні. Дачакаўшыся таксі, мы раз'ехаліся: Валодзя — да Нядзелі, на вуліцу Дэшчовую, а я — у свой гатэль «Краковія». Дамовіліся толькі, што назаўтра сустрэнемся «Пад Сукеніцамі», у цэнтры горада, гадзін так у чатырнаццаць, калі я ўжо крыху папрацую ў бібліятэцы.

А назаўтра быў Караткевічаў дзень нараджэння. «Пад Сукеніцы» прыйшоў ён урачысты, у белай кашулі. Пад гукі гейнала з Мар'яцкай вежы ўсклаў кветкі да помніка «нашаму супольнаму» Адаму Міцкевічу. Пакарміў галубоў купленым зернем. Паабедалі мы адны, бо Здзіслаў мусіў пайсці ва універсітэт. Да запланаванай «імяніннай» вячэры было яшчэ далёка, і Валодзя папрасіў мяне:

— Не ідзі ўжо ты да сваіх манускрыптаў. Пабудзь сёння са мною. Звадзі мяне на які гістарычны фільм.

І мы пайшлі ў нейкі трэцеразрадны кінатэатр. Дэманстраваўся італьянскі гістарычны фільм пра жахі роду Медычы. Асобныя сцэны былі проста жорсткія: дачка і маці засякаюць бацьку-распусніка, адно забойства адбываецца за другім. І на вуліцу выйшлі мы змрачнаватыя. Дзень таксама выдаўся пахмурны, дажджлівы. І таму, ведаючы з газет, што ў гэты дзень будзе факельнае шэсце студэнтаў-гарнякоў і які яго маршрут, я рашыў крыху ажывіць, расшавяліць імянінніка:

— Ведаеш, Валодзя, дзіўны народ гэтыя палякі. Неяк даведаліся, што сёння твой дзень нараджэння, і рашылі ўстроіць у яго гонар факельцуг...

— Ну і даеш ты... За старыя жартачкі ўзяўся?!

— Вось пабачыш, ці жартую, калі мы дойдзем да таго скрыжавання.

Дайшлі — і Валодзя спыніўся, здранцвелы: насустрач нам рухалася мора агню.

— Бож-жачка мой! — схапіўся ён за галаву.— І што: усіх іх — запрашаць? На дзве пляшкі «Белавежскай»?!

Тут я не вытрываў, рассмяяўся. Разрагатаўся і ён. Гуморы яўна паправіліся. І мы зайшлі ў прыватную краму на вуліцы Кроводэрскай («якая назва, дзед, напэўна ж, тут калісьці здзіралі скуры з кароў»), купілі шампіньёнаў і бульбы. Чакаючы гаспадара кватэры, Караткевіч спёк бульбу з шалупіннем у духоўцы, засмажыў паводле свайго рэцэпта («каб лыжка стаяла!») грыбы, накрыў стол.

Нядзеля вярнуўся з работы не адзін, а з прафесарам Бялградскага універсітэта Стоянам Субоціным (на жаль, таксама ўжо нябожчыкам).

— Не хапае толькі таварыша Панядзельнікава! — сустрэў іх Валодзя.

Прафесар Субоцін цікава расказваў пра югаслаўскі рух Супраціўлення, пра сваю літаратуру. І тут Караткевіч нечакана пачаў чытаць на памяць вершы чарнагорскага паэта Радуле Стыенскага, якія спадабаліся яму яшчэ ў дзяцінстве. Югаслаўскі літаратуразнавец прызнаўся, што чуе гэтае імя... упершыню. Праўда, прафесара крыху апраўдвала тое, што Стыенскі да вайны жыў у СССР, з-за чаго яго неадназначна ўспрымалі на радзіме.

Нядзелю ж Караткевіч здзівіў тонкім веданнем польскай паэзіі. Яны заспрачаліся з-за нейкага радка Галчыньскага, і, калі звярнуліся да зборніка, аказалася, што рацыю меў беларус.

Увогуле ж Валодзя быў крыху сумнаваты: упершыню яго дзень нараджэння адзначаўся не дома, не ў Беларусі, без маці, якую ён вельмі любіў, святкаваўся без асаблівага «размаху», шумнай кампаніі. І мы, як умелі і маглі, стараліся, каб у Кракаве ён адчуваў сябе нібы дома. У наступныя дні я абводзіў яго па старых універсітэцкіх дворыках, якія памяталі Скарыну і Цётку. Здзіслаў узяў білеты ў тэатр імя Славацкага. Ішла нейкая французская п’еса на маральныя тэмы (па словах Валодзі — амаральныя!). Мы спрабавалі тлумачыць Караткевічу сэнс, але ён агрызнуўся, што ўсё цудоўна разумее і так.

Звычайна Нядзеля з раніцы ішоў да сваіх студэнтаў. Я — да сваіх рукапісаў (у бібліятэцы Чартарыскіх якраз знайшоўся «Аршанскі зборнік» з беларускай песенна-інтымнай лірыкай XVII стагоддзя, што дужа ўзрадавала Валодзю, аршанца родам). А Караткевіч адзін хадзіў па старых гарадскіх вулачках — па музеях, мастацкіх выстаўках, касцёлах, прыглядаўся да мясцовага жыцця. Адкрыўшы для сябе кафэ «Кухцік», дзе падавалі з нечым добрае піва, чытаў там касірцы свае беларускія вершы. І ў адказ пачуў нешта накшталт:

— О, гэта гучыць амаль як Міцкевіч.

— Лепей, чым Міцкевіч! — жартам паправіў яе Валодзя.— Дарэчы, род яго вядзе свой пачатак ад беларускага Міцькі.

Роўна ў дзве гадзіны, пад гукі гейнала з Мар’яцкай вежы, сустракаліся мы ля «Сукеніц» і ішлі абедаць. Кожны дзень выбіралі іншую кухню: горскую («гуральскую»), венгерскую, французскую. Па патрабаванні Караткевіча плацілі строга па чарзе. Ён жа заўсёды сачыў, каб на стале былі вострыя прыправы. Асабліва Валодзю спадабалася «магі» — падліва з сушаных грыбоў. І ў кожнай рэстарацыі ён гучна патрабаваў:

— І ешчэ попрошэн о пшыправэн з гжыбув!

У час гэтых сустрэч каля «Сукеніц» адбыліся два анекдатычныя выпадкі, якія потым Караткевіч называў «розыгрышамі веку». Аднойчы падыходжу. Гляджу: стаіць Валодзя каля кіёска з рознымі кур’ёзнымі сувенірамі, выбірае, што б гэта, вярнуўшыся, паднесці сябрам. А тут да мяне падбягае цыганка — маладая, прыгожая, інтэлігентная — і абяцае вываражыць шчасце. Я кажу ёй, што ў тое шчасце не дужа веру і што няхай яна лепш вываражыць яго вунь таму чалавеку ў футравай шапцы: імя яго — Валодзя, і з’яўляецца ён беларускім пісьменнікам. Цыганцы толькі таго было і трэба. Падбегла яна да Караткевіча і зычна (чуў, хоць стаяў зводдаль) пачала (зразумела, па-польску):

— Пане Валодзя! Я пану вываражу шчасце, скажу, колькі пан кніжак выдасць у наступным годзе!

У Валодзі, як ён потым прызнаўся, валасы сталі дыбарам. Але паслухмяна палез у кішэню і стаў «залаціць» цыганцы ручку дробнай манетай. Варажбітка тут жа выказала незадавальненне: «залаціць» трэба «паперкай». І для заахвочвання дадала:

— Пан будзе жыць восемдзесят восем год!

— А нашто мне так многа? — здзівіўся Валодзя. І, даўшы нейкую «паперку», пачаў ніякавата адступаць.

І тут я выйшаў яму насустрач:

— Ты што гэта, Валодзя, сёння нейкі такі збянтэжаны?!

— Т-ты скажы лепей, адкуль кракаўскія цыганкі могуць ведаць маё імя?

Я паглядзеў на вежу Мар'яцкага касцёла, на помнік Міцкевічу, на пахмурнае неба і паволі вымавіў:

— Слава, Валодзечка, слава. Ужо і да Кракава дайшла!

Хадзіў ён несамавіты дні з тры — аж нарэшце, за абедам, я яму ва ўсім прызнаўся. Нечакана для мяне ён усцешыўся:

— Гэта ж гатовы міф! — І дамогся таго, каб заплаціць за абед па-за чаргой («па злоту за тых восемдзесят восем год»).— Больш, аднак, вы мяне, чэрці, ужо не купіце!

А ў другі раз было так. У амаль пустой зале бібліятэкі Чартарыскіх я пачуў, што нейкая жанчына гаворыць з абслугай па-польску, але з яўным рускім акцэнтам. Аказалася яна савецкай фальклорысткай. Як больш абазнанага з Кракавам спытала мяне, дзе тут лепей абедаць. І я адказаў, што мы, ёсць тут такі беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч, кожны дзень абедаем для разнастайнасці ў іншым месцы.

— Які Караткевіч? — спытала яна.— Той, што вучыўся ў Кіеве і напісаў «Чазенію»?

— Той самы.

— Ой, тады пазнаёмце нас асабіста! Зрабіце ласку!

Па дарозе да «Сукеніц» мы распрацавалі план розыгрышу. Падышлі — бачым: стаіць Валодзя ля помніка Міцкевічу, снег з каўняра абтрасае, на гадзіннік паглядае.

І вось падыходзіць да яго жанчына, апранутая ў дарагое футра, і па-руску строга пытае:

— Таварыш Караткевіч?

— Так.

— Уладзімір Сямёнавіч?

— Та-ак.



— Вось што, Уладзімір Сямёнавіч, вам прапануецца на працягу дваццаці чатырох гадзін пакінуць межы гэтай краіны. Аб прычынах лепей не пытайце, таму што вы іх добра ведаеце самі.

— Ну... Ну што такое я вам зрабіў? Пару разоў у «Кухцік» зайшоў, дык хіба за гэта высылаюць...

Жанчына рассмяялася.

І тут Валодзя зразумеў, што яго зноў разыгралі.

— Завошта?! — спытаў ён у мяне меладраматычна, калі ўсё высветлілася.

— А каб не гаварыў, што цябе ўжо больш ніхто не «купіць», не зазнаваўся. Ды і за ўчарашняга «сапраўднага паляка», Валодзечка, за тое, што ты мяне таксама падвёў пад манастырскі мур...

А напярэдадні здарылася вось што. Польскія сябры арганізавалі ў наш гонар прыём у кафэ «Літаратурнае» на Плянтах. Прыйшоў з універсітэта прафесар Лужны, нейкі барадаты паэт. Пагаманілі крыху, выпілі па маленькаму кілішачку такайскага віна.

— Паседзімо дзе яшчэ! — рашуча запрапанаваў мне Валодзя, калі пачалі разыходзіцца.

— Дужа няма часу.

— Знойдзеш той час! — калі Караткевіч упарціўся, спрачацца з ім не мела сэнсу.— Пойдзем у «Кухцік»!

— Тады — лепш у «Міхаліковую яму». Аформлена яшчэ мастакамі «Маладой Польшчы». Выспяньскі там бываў. Цыганскі хор спявае...

У «Міхаліковай яме» было чамусьці пуставата. За суседнім столікам сядзеў сівы мужчына з арліным носам. Пацягваючы моцную каву і пітны мёд, Валодзя заўважыў:

— Відаць, так выглядаў Юльян Тувім, калі быў жывы.

Наш сусед пачуў, што пра яго гаворым. І калі мы выйшлі, спачатку стаяў у гардэробнай чарзе перад намі, а потым — за намі. Як вынікала з наступнай размовы, ён зразумеў, што паміж сабой мы гаворым не па-руску, а вось ці на ўкраінскай, ці на беларускай мове — да яго не дайшло... На вуліцы ён дагнаў нас і адразу пачаў браць быка за рогі:

— Але ж і памыі вы, панове, пілі ў гэтай «яме»!

— Чаму — «люра»? — здзівіўся Валодзя.— Нішто сабе пітны мёд. Стары. Трайны.

— Калі хто прыязджае ў Польшчу з Украіны або з Беларусі, то павінен піць не мёд... Вы... ведаеце генерала Залатарова?

— Здаецца, быў такі. А што?

— Я — той слаўны лейтэнант Сокал, які пад яго началам змагаўся на ўкраінскай і беларускай землях за вашу і нашу вольнасць! І калі хто прыязджае з Украіны ці з Беларусі, то запрашаю на сапраўдны польскі пачастунак! Не на такія памыі.

Валодзя штурхнуў мяне ў бок: нарэшце натрапілі на «сапраўднага паляка»! Але мне нешта ныла ў сэрцы, і я пачаў рашуча аднеквацца.

— Няма часу. Спяшаемся!

— Я ведаю, што калі хто прыязджае з Украіны або з Беларусі, то заўсёды не мае ні часу, ні грошай. Я запрашаю, я стаўлю! Ад чыстага польскага сэрца.

— Але ж...

— Ніякага «але», Адасевіч, нельга крыўдзіць чалавека! — заўпарціўся Караткевіч.

І мы пайшлі ў вялікае «гумно» пад назвай «Гавэлка», дзе наш новы знаёмы выкупіў тры ўступныя білеты па дзесяць злотых (на нашыя гэта было тады па пяцьдзесят капеек) і, сеўшы за столік, гучна паклікаў афіцыянта:

— Гэта нашы савецкія госці! Мусіце іх абслужыць на вышэйшым узроўні! — і прашаптаў яму нешта на вуха.

Неўзабаве на стале з'явілася цэлае мора. І нейкая мізэрная закусь: агурок, капуста.

— Але ж пан і многа грошай патраціў,— бянтэжыўся Валодзя.— Адомас, пашукай у сваім партфелі які сувенір,— шапнуў мне.

— Які пан! Дай пысу! Вып'ем на «брудзя»! — гарлапаніў «лейтэнант Сокал». На пласцінку з беларускімі песнямі, дзе мы паставілі свае аўтографы, нават не звярнуў увагі. Знішчаў заказанае з шалёным імпэтам. Прыставаў да жанчын за суседнім столікам. Нарэшце неяк абвяў. Я папрасіў у афіцыянта рахунак, і той прынёс — нешта на чатырыста восемдзесят злотых.

— У мяне толькі дзесяць,— прамармытаў «Тувім».— Але затое ёсць ашчадная кніжка, я зараз збегаю, здыму тысяч з пяць — і тады па-сапраўднаму пагуляем!

У дзесяць гадзін вечара ён пойдзе ў ашчадную касу! Смеху варта... Я ціхенька разлічыўся з афіцыянтам, і мы падаліся да дзвярэй. А «лейтэнант Сокал» тым часам прыстройваўся за суседні столік, адкуль яго гналі...

Ноччу, гадзіны ў чатыры, Караткевіч, расказваў потым сам, раптоўна, нібы ад штуршка, абудзіўся і доўга не мог заснуць: вечна гэтых беларусаў нехта крыўдзіць: то шведы, то французы, то немцы, а цяпер яшчэ і палякі...

Назаўтра пан Нядзеля ўспрыняў нашы нягоды з гумарам:

— Не толькі ж у вас водзяцца «дзеці лейтэнанта Шмідта»... Будзь, Валодзю, асцярожны, у выпадку чаго не купляй Вавельскі замак ці які помнік,— і расказаў нам гісторыю, як аднаму амерыканцу ў Варшаве «прадалі» калону Зыгмунта.— Стаіць мільянер, любуецца. Падлабуньваюцца двое: «Падабаецца?» — «О йес!» — «Купіць хочаце?» — «О йес!» Умомант абставілі ў нейкай кватэры бюро, плакаты расклеілі, машыністка ляпае. Прывялі туды амерыканца, заплаціў наяўнымі. «Назаўтра пачнём пакаваць»,— абяцалі. Назаўтра прыходзіць, глядзіць: стаіць калона цэлая! Тады кінуўся ў міліцыю: «Ашукалі!» «Хто вам мог прадаць нацыянальную рэліквію?» — здзівіліся там. Пайшлі шукаць бюро, знайшлі нарэшце. А там — звычайная кватэра ўжо: дзеці плачуць, сабака бегае. «Якое, пане, бюро? — здзіўляюцца.— Мусіць, прыснілася».

— Ото малайцы,— па-свойму разважыў Караткевіч, забыўшы пра ўчарашнюю крыўду.— Устаўлю ўсю гісторыю ў «Расказы з каталажкі».

Уяўляеце сабе: прыязджае амерыканец у дарэвалюцыйны Магілёў ці Вільню. І яму прадаюць, скажам, помнік Мураўёва-вешальніка або Кацькі. Што тут пачнецца...

Каб ужо закончыць з забаўнымі здарэннямі ў Кракаве, згадаю яшчэ адно. Пайшлі мы аднойчы абедаць у кавярню, што знаходзіцца у падзямеллі былой ратушнай вежы. Спускаешся туды па сходах, ля якіх вісяць старадаўнія прылады для катаванняў. У такім жа макабрычным стылі вытрымана і сама зала. Але змрочны настрой рассейваецца, калі бачыш маладых афіцыянтак у старапольскіх строях. Тая, што нас абслугоўвала, дужа нагадвала Вольгу Іпатаву. І Валодзя, жадаючы сказаць ёй у кампліменце, што яна як дзве кроплі вады падобная на вядомую беларускую паэтэсу, урачыста прамовіў:

— Пані ест копнента бялоруска поэтка Ольга Іпатова!

Афіцыянтка пачырванела і збянтэжана адышла.

— А чаго яна так? — спытаў у мяне няўцямна Валодзя.

— Як чаго? Ты сказаў ёй, што яна копнутая ў адно месца, ну, ненармальная, чокнутая.

— А чаму ты мяне не папярэдзіў, што так нельга казаць.

— А адкуль я, Валодзечка, мог ведаць, што ты прыдумаеш такі кампліment.

Калі афіцыянтка прынесла нам заказ, Караткевіч доўга прасіў у яе прабачэння, цалаваў ручкі, а тая ў адказ усміхалася:

— Кліент заўсёды мае рацыю.

Пакідалі мы кафэ ў мірным настроі. Валодзя з гумарам здзекаваўся сам з сябе:

— Тэн копненты Короткевіч! — і потым: — Уяўляеш сабе: вяртаемся мы дамоў — а там ужо ўсе пра гэта ведаюць. І Іпатава таксама.

Толькі мы выйшлі на вуліцу, як з вежы Мар'яцкага касцёла раздаліся гукі гейнала. Трубач трубіў кожную гадзіну ў памяць аб колішнім татарскім нашэсці. Воін, які аглядаў тады са старожы навакольныя палі, пабачыў ворага і ўзяў трубу, каб папярэдзіць гараджан. Але толькі ён выдаў некалькі гукаў, як варожая страла ўпілася яму ў горла... Таму і цяпер мелодыя нечакана абрываецца на высокай ноце.

— Ведаеш, дзед, добра было б правесці ноч на вежы з гейналістамі.— Валодзя нечакана спыніўся.

— Дзеля чаго?

— Нічога ты не разумееш! Каб пабачыць старыя муры і дрэва, адчуць іх пах. Каб зверху пачуць гукі начнога горада. Адчуць стагоддзі.

Аднак Нядзеля аднёсся да Валодзевай ідэі без асаблівага энтузіязму:

— Ніколі не чуў, каб туды кагосьці пускалі. Нават не ведаю, ад каго гэта залежыць. Ва ўсякім выпадку, не ад духавенства. Мусіць, ад гарадскіх улад.

— Тады пойдзем за дапамогай да Уладзімежа Мацёнга ў «Жыцe Літэрацке». Калісьці бываў ён у Беларусі. Раскрытыкавалі яго нашы за адзін рэпартаж — часам слушна, а часам і не... Можа, забыў старую крыўду?!

Уладзімеж Мацёнг, вядомы польскі публіцыст, прыняў нас з падкрэсленай ветлівасцю, але ад нечаканай просьбы і ён развёў рукамі. Доўга званіў. Нарэшце высветліў: дазвол залежыць ад гарадской пажарнай каманды. Падышлі мы туды — і нам неакрэслена паабяцалі, што вывучаць справу. Бо мы першыя, хто звярнуўся да іх з такім незвычайным жаданнем.

Праз тры дні па нас спецыяльна прыйшоў пажарнік, здаецца, нават не радавы, і павёў нас па стромкіх драўляных сходах на старадаўнюю Мар'яцкую вежу, пазнаёміў нас з двума гейналістамі, якія, дзяжурачы, штогадзінна трубілі на змену. Валодзю ўразіла, што ў каморцы для адпачынку нават стаяў тэлевізар. Гейналісты аказаліся людзьмі маладымі, гаваркімі, асабліва Янак Колтун, сын Яна, прадстаўніка той жа прафесіі. Пабачыўшы Валодзевы запасы, яны адразу згадзіліся, каб мы ў іх пераначавалі. Але я адмовіўся: трэба было вяртацца ў бібліятэку. Караткевіч жа застаўся. Потым пайшла легенда, што ў тую ноч гейналісты не трубілі — упершыню за шэсцьсот год. Ці так яно было — не ведаю, бо ад Мар'яцкай вежы да гасцініцы «Краковія» — добры кавалак дарогі... Потым легенду падхапілі польскія газеты. Яцак Москва пісаў у штотыднёвіку «Палітыка», што Караткевіч быў першым паэтам, які пераначаваў на вежы (ёсць толькі сумненні наконт Галчыньскага). А пасля смерці пісьменніка Анатоль Верабей знайшоў яго верш «Вакол хейнала», прысвечаны «Яну Колтуну II, самаму маладому трубачу-«хейналісту» Вежы Мар'яцкай». Пачынаецца ён радкамі:

Думаеце — герольды
Ў барве й каронах?
Рык фанфаронаў — ад суднага дня глухіх?..
А тут проста трубы.
Чэшскай фірмы «Лігатона»,
А на калках вісяць кажухі.
Бэлькам — шэсцьсот
(Тут што праўда, то праўда)...
Сведкі польскай, і нашай, і... іншай зары,
Але тут... Тут спявае ціхутка радыё.
І ў каморцы «тэлік» маленькі гарыць.



На вежы паэта сустрэлі тыя ж пахі баршчу, цёплага хлеба, цыбулі, што і ў час начлегу на яго родным Дняпры. І яму добра глядзець зверху на помнік, што, «як вулей, над згасаючым Кракавам мёдам гарыць».

У архіве Караткевіча знайшоўся таксама верш «На вуліцы Дэшчовай», напісаны ў Кракаве 16 снежня 1971 года, відаць, на развітанне і прысвечаны Здзіславу Нядзелю. У апошніх яго радках нечакана з'яўляецца «пакаяльнасць»:

О божа, даруй маёй Беларусі!
І Польшчы!
І ўсім на свеце...
Даруй.

Чым выкліканы гэты заключны трагічны акорд, сказаць не магу. На некалькі дзён раней я ад'ехаў у Вроцлаў. Нягледзячы на ўлеву, Караткевіч і Нядзеля праводзілі мяне на вакзале. З Вроцлава шляхі мае вялі ў Познань і зноў у Варшаву. А ў Варшаве сустрэў Валянціну Браніславаўну, якой далі навуковую камандзіроўку ў Польшчу для выяўлення матэрыялаў па гісторыі беларускай архітэктуры. Расказвала, што Валодзя вярнуўся задаволены і што яго апярэдзілі міфы пра кракаўскую цыганку і Мар'яцкую вежу. З дапамогай польскіх даследчыкаў Брыкоўскага і Хшаноўскага, і княгіні Радзівіл (дарэчы, удзельніцы польскага Супраціўлення) Валянціна Браніславаўна знайшла тады многа цікавых звестак. І, па словах Валодзі, пасля яе вяртання, годна прадстаўляла Беларусь. Калі ў адной арыстакратычнай кампаніі пачалі гаварыць пра «ўсходнія крэсы», што гэта цёмны і забіты край, які нават не мае ўласнай гісторыі, яна нібыта пагадзілася:

— Ну так, проша паньства. За маленькім толькі выключэннем.

— Цікава, за якім жа?

— За тым, што мы далі Польшчы чатырох выдатных людзей.

— Напэўна, найперш скажаце: Фелікс Дзяржынскі...

— Дзякуй, што прыгадалі пятага.

— А тыя чацвёра?

— Так, «дробязь»: Касцюшка, Міцкевіч, Манюшка і Пілсудскі.

Пасля гэтага ў прысутнасці Валянціны Браніславаўны гаворак пра «крэсы» больш не заводзілі.

— Вось так трэба абараняць наш гонар, панове гора-патрыёты! — заканчваў Караткевіч свой расказ пра знаходжанне жонкі ў Варшаве. І тут жа напяваў уласную песеньку пра гэта знаходжанне, з якой засталіся ў памяці толькі некалькі слоў:

...удивил:
Пан Брыковский, пан Хшановский
И графиня Радзивилл.

У 1973 годзе Караткевічы выбраліся ў Чэхаславакію па запрашэнні чэшскай перакладчыцы Веры Адлавай і славацкай пісьменніцы Гелены Крыжанавай-Брындзавай, з якімі яны выпадкова пазнаёміліся, а потым пасябравалі на курорце ў Гаграх. З дарогі, з Прагі і з Браціславы, Валодзя прыслаў мне лісты, у якіх апісваў помнікі архітэктуры і асаблівасці побыту. Вярнуўшыся, захоплена расказваў пра паездку ў Высокія Татры, наведанне Дэманоўскіх пячор і горада Левача з яго палацамі і касцёламі, упрыгожанымі гатычнай разьбой.

— Славацкая мова, стары, вельмі падобная на беларускую. І я амаль усё разумеў без перакладу, нават спрабаваў гаварыць.

У наступным годзе Гелена Крыжанава-Брындзава, пісьменніца, хрэстаматыйная на радзіме, разам з мужам Іржы і зяцем Ота гасцявалі ў Мінску, у Караткевічаў. Паколькі да мяне якраз з Польшчы прыехаў аўтар манаграфіі пра Сыракомлю Фелікс Фарнальчык з жонкай, мы аб'ядналіся і, наняўшы «рафік» ды атрымаўшы неабходны дазвол (у той час гэта было нялёгка), павезлі іх у Нясвіж, Мір і Навагрудак з дзвюма начоўкамі па дарозе. У Нясвіжы Валодзя выпрасіў у ксяндза Каласоўскага, каб той паказаў нам падзямеллі фарнага касцёла, дзе пахаваны (муміфікаваны) Радзівілы, расказваў ледзь не пра кожнага з іх жахлівыя і пацешныя гісторыі. У Міры абвёў нас вакол сцен замка і смуціўся, што ў Беларусі помнікі архітэктуры не так дагледжаны, як у Славакіі ці Польшчы. У Навагрудку паказваў руіны замка, курган Міцкевіча, яго музей. Над Свіцяззю ўрачыста абвясціў, што гэта самае чыстае і самае паэтычна-легендарнае возера ў свеце.

Праз тыдзень Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч павёз нас усіх, а таксама Барадуліных, Івана Бурсава і яшчэ некалькіх пісьменнікаў, на радзіму Якуба Коласа, у Акінчыцы, Альбуць, Ласток, Смольню, Мікалаеўшчыну, дзе заначавалі. Назаўтра хадзілі ў лес па грыбы. Па дарозе Валодзя паказваў гасцям розныя расліны, прыводзіў іх беларускія і лацінскія назвы, пытаў, як яно будзе па-славацку і па-польску, і цешыўся, калі знаходзіў нейкую сугучнасць. Тады ж выказаў думку, што ўсе мы, літаратары, недаацэньваем ролю народнага самародка дзядзькі Антося ў станаўленні творчай індывідуальнасці Якуба Коласа («ён жа адкрываў яму, мяркуючы па «Новай зямлі», вочы на хараство»).

У тым жа 1974 годзе Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч і я вазілі польскага сябра Беларусі, паэта і перакладчыка Мацея Юзафа Канановіча і грамадскага дзеяча Зыгмунта Пшэтакевіча (Валодзя «перакладаў» яго прозвішча: пан Рэшатовіч) з іх жонкамі Крыстынай і Галенай у тыя ж Навагрудак, Мір і Нясвіж. Па дарозе Брыль паказваў нам мясціны, блізкія яму з дзяцінства.

— Калі б я пабыў у кожнай хаце, дзе мне рады, хаця б з паўгадзіны,— з натуральнай годнасцю сказаў ён,— то гэта заняло б пару месяцаў.

— І ў мяне ў Падняпроўі набралася б не меней,— парыраваў з пэўнай зайздрасцю Валодзя.

У навагрудскім фарным касцёле, дзе хрысцілі Міцкевіча, ён уважліва прыслухоўваўся да таго, што ксёндз Новак расказваў пра барэльефную «табліцу» ў гонар беларускіх братоў Рудамінаў, якія ўдзельнічалі ў вайне з туркамі пад Хоцінам, амаль усе там загінулі.

— Гэта ж гатовы сюжэт! — усклікнуў.

На развітальным абедзе ў гонар польскіх гасцей у мінскім рэстаране «Юбілейны» Мацей Юзаф Кананович прапанаваў стоячы «споўніць»

здароўе «начальніка і грамадзяніна Касцюшкі». Адказваючы яму, Караткевіч выдаў цудоўны тост за Польшчу, за лепшыя старонкі супольнай гісторыі («у ёй было, панове, усё: і веліч, і ганьба») і тут жа з усёй непасрэднасцю запрасіўся дамоў.

— Гэта сапраўдны Галчыньскі! — правёў Канановіч паралель паміж Караткевічам і вядомым польскім паэтам, маючы на ўвазе і іх талент, і спосаб быцця.

*1987—1988*

## Здзіслаў Нядзеля

# Сентыментальныя падарожжы ў Мінск

Старыя запісныя кніжкі з каляндарыкамі дапамагаюць памяці ўзнавіць мінулае. Лаканічны запіс у стане ажывіць далёкія падзеі. Асабліва такое магчыма, калі ў сэрцы і думках пасяліліся дарагія постаці. Іх смерць, аднак, не насмельвае, каб распавядаць маляўнічыя аповесці,— наадварот, яна патрабуе дакладнасці і праўды, бо адсутныя ўжо нічога не могуць падправіць, яны безабаронныя. Дадатковым момантам для збянтэжанасці з'яўляецца ўсведамленне таго, што ласкавы лёс дазволіў мне мець справу з гістарычнай асобай, знакамітым пісьменнікам, які быў маім сябрам. Вядома, з якой ахвотай афішуем знаёмства з чалавекам, які мае вагу ў грамадстве, бо ў бляску яго велічы можа апынуцца і наша сціплая персона. Таму трэба яшчэ зазіраць у старыя лісты, альбомы з фотакарткамі і ў кнігі з аўтарскімі аўтографамі, каб не скаціцца да голай белетрыстыкі.

З Уладзімірам Караткевічам і яго жонкай я пазнаёміўся на вячэрняй сябрыне ў гасціннай кватэры Адама Мальдзіса 11 ліпеня 1969 года. У Мінск я прыехаў тады па патрэбе сэрца, бо край дзяцінства дыктуе свае правы, яго нельга ні засланіць выдатнай архітэктурай іншага горада, ні замяніць зорным пейзажам гор, бо перад вачыма ўзнікае настальгічная зеляніна лясоў і палёў прыдзвінскага краявіду. Зразумела, няшмат я памятаю з той гаваркой сустрэчы, тэмпературу якой павышала чарка. За сталом, дзе прысутнічала каля дзесяці чалавек, вельмі цяжка было бліжэй пазнаёміцца з Караткевічамі. Акрамя таго, пасля больш чым дваццаці гадоў адсутнасці ў гэтым краі трэба было прызвычаіцца да забытай мовы... Дарагой памяткай таго вечара стаў том вершаў «Мая Іліяда» з прысвячэннем паэта.

Сапраўднае знаёмства і сяброўства адбыліся на два гады пазней. Ведаючы, што Уладзіміру Караткевічу хочацца прыехаць у Польшчу, я запрасіў яго да сябе. Караткевіч з'явіўся ў Кракаве 25 лістапада 1971 года, напярэдадні 41-га дня свайго нараджэння. Так атрымалася, што гасцямі ў мяне тады былі таксама Стаян Субоцін, прафесар універсітэта ў Белградзе, і Адам Мальдзіс, які вёў пошукі ў кракаўскіх бібліятэках і быў з намі ў сталым кантакце. Такім чынам, дзень нараджэння беларускага паэта мы адзначалі ў складзе чатырох асоб на маёй кватэры па вуліцы Марыі Ярэма. Валодзя здзівіў усіх нас веданнем сербскай і харвацкай літаратур. Сыпаў як з рукава анекдотамі і быў душою кампаніі — вельмі сціплай па колькасці як на яго звычкі. Скардзіўся потым на недахоп кантактаў. Сапраўды, неяк не ўдалося яго забяспечыць цікавай кампаніяй. Помню, што я пазнаёміў яго з нашым вядучым русістам, прафесарам Рышардам Лужным, што мы ў Літаратурным кафэ размаўлялі з Юліянам Корнгаўсерам, след чаго можна знайсці ў яго авангардысцкай аповесці «Некалькі імгненняў» (Кракаў. 1975). Зразумела, мы наведвалі музеі, касцёлы, рэстараны, але ў асноўным мой госць самастойна знаёміўся з горадам, мяне ж абавязкі клікалі ва універсітэт. Валодзю захапляў каларыт Кракава. Яму імпанавалі архітэктура і мастацтва барока, мастацтва ж готыкі, якой я так захапляўся, адштурхоўвала яго чужасцю. Як прыгадваюць запісы, 28 лістапада мы разам былі ў Старым тэатры на п'есе «маладога раззлаванага» Джона Осбарна «Каханне і гнеў».

Аднак найбольш часу мы праводзілі ў размовах. На працягу трох тыдняў паспелі абмеркаваць шмат тэм. Я перш за ўсё слухаў. Валодзя, у якога сэрца было як на далоні, шчыра і маляўніча расказваў пра сваё дзяцінства ў Оршы, ваенную беспрытульнасць, вучобу ў Кіеве, падарожжа на Далёкі Усход, пра сваю дзівосную маці Надзею Васільеўну, з якой я потым пазнаёміўся асабіста, жонку Валю, пра асноўныя справы для кожнага чалавека. Калі гаворка заходзіла пра літаратуру, і я, як яе гісторык, спрабаваў вылучыць нейкія літаратурныя напрамкі і пісьменніцкія прыёмы, ён выказваў незадавальненне, бо для яго гэта былі абстрактныя словы. Ён лічыў, што ў аўтара або ёсць талент і што сказаць чытачу, або няма гэтых каштоўнасцей. А рэшта — гэта пустая гаворка. 17 снежня я правёў Валодзю на вакзал. Візіт у Польшчу ён завяршыў у Варшаве пад апекай свайго сардэчнага сябра з часоў вучобы ў Кіеве прафесара Фларыяна Няўважнага.

Са шматлікіх падарункаў, якія тады Валодзя прывёз мне з Мінска, трэба вылучыць два тамы рамана «Каласы пад сярпом тваім», якія павінны дачакацца перакладу на польскую мову. Менавіта дзякуючы гэтаму раману пра паўстанне 1863 года Караткевіча часам называюць беларускім Сянкевічам.

Неўзабаве я бліжэй пазнаёміўся з Валянцінай Караткевіч, выдатным «амбасадарам» творчасці свайго мужа. Яна вельмі спадабалася ўсім маім сябрам. Валянціна прыязджала ў Польшчу па камандзіроўцы Акадэміі навук Беларусі. Спачатку была ў Варшаве, люты 1972 года правяла ў Кракаве (тут службова апекаваўся ёю вядомы гісторык мастацтва Тадэвуш Хшаноўскі), а ў сакавіку працавала ў Вроцлаве.

Сустрэчы і лісты ўмацавалі маё сяброўства з Караткевічамі. Па іх сардэчнаму настойванні і запрашэнні я прыехаў у Мінск 16 верасня 1973 года. Тут на працягу васьмі дзён я жыў вельмі інтэнсіўна, пазнаёміўся з горадам, паглядзеў музеі, быў у тэатры, які памятае яшчэ часы Першай сусветнай вайны, зразумела, наведаў Мальдзісаў, пазнаёміўся са шматлікімі цікавымі людзьмі, а дзякуючы сяброўству Валодзі і Адама мне ўдалося, спадзяюся, таксама пасябраваць з Рыгорам Барадуліным, які мне спадабаўся раней, чым я пачаў захапляцца яго вершамі.

У выніку сустрэч паміж Мінскам і Кракавам пачалі курсіраваць лісты і пасылкі. На паліцах у мяне пачала павялічвацца колькасць кніг Валодзі, Адама, Рыгора, Валі, Вячаслава Рагойшы... Толькі ў мінімальнай ступені я мог аддзячыць ім за падарункі рэцэнзіямі і інфармацыйнымі нататкамі ў польскай прэсе.

Асабліва прыемна прыгадаць наступную сустрэчу з Караткевічамі: я запрасіў іх на два тыдні, і яны былі ў Кракаве з 1 да 14 кастрычніка 1977 года. Смешным быў пачатак іх прабывання: Валя прыехала ў футры, а ў нас тут бабіна лета, залатая і цёплая польская восень, усе ходзяць нават без плашчоў. Я тады добра пажыў, бо аказалася, што Валя разбіраецца не толькі ў мастацтве, але і ў кухні. Мы ўсе ўтраіх аб'ядаліся смажанымі шампіньёнамі, запечанымі куранятамі і салатамі з памідораў. Валя выдатна варыла каву ў прывезенай турцы, якая сёння нагадвае тыя добрыя часы.

Адразу ж, 2 кастрычніка, я пайшоў з Караткевічамі ў тэатр на «Мазепу» Юльюша Славацкага. Добра сыграны і з добрай сцэнаграфіяй спектакль вельмі спадабаўся маім гасцям. Потым мы выбраліся на амерыканскі фільм жахаў «Землятрус» — гэты жанр кіно быў тады вельмі модны, а стэрэагук і стэрэаскапічнае выяўленне вельмі ўразілі. Валя зацягнула нас у археалагічны музей, дзе найдаўжэй мы прыглядаліся да Светавіда (язычніцкага бога Свету), які быў знойдзены 100 гадоў назад у Збручы. Былі, зразумела, розныя сяброўскія сустрэчы, нейкія знаёмыя Караткевічаў запрасілі маіх гасцей у Закапанэ, але горы былі няветлымі, бо дзень выдаўся шэры. У сваю чаргу я прапанаваў паглядзець абстрактныя кампазіцыі Марыі Ярэма, патронкі маёй вуліцы.

Нягледзячы на ўсё ажыўленне, я тады заўважыў, што ў Валодзі не ўсё добра са здароўем. У кепскім яго стане я ўпэўніўся ў час нашай апошняй сустрэчы ў 1980 годзе, калі выкарыстаў дамову аб супрацоўніцтве Ягелонскага універсітэта з Беларускім дзяржаўным універсітэтам, каб

пабачыць сяброў. Я быў тады ў Мінску з 18 да 22 красавіка. У бібліятэцы я пазнаёміўся з выдатным беларускім штотыднёвікам «Наша ніва», але час у асноўным праходзіў у асяроддзі Караткевічаў, Мальдзісаў і Барадуліных. Ацаніў раскошу караткевічаўскага стала (таксама добра яго ўспамінае мой універсітэцкі калега, славіст-арыенталіст Станіслаў Стахоўскі, якога я рэкамендаваў маім сябрам). Але я павёз з Мінска таксама шмат мастацкіх і інтэлектуальных уражанняў: больш падрабязна азнаёміўся з самымі старымі кварталамі горада, з даўнейшай каталіцкай катэдрай; прыемна мне было зноў паглядзець мастацкі музей, экспазіцыю, прысвечаную апошняй вайне,— самай жорсткай на беларускіх землях. Вялікае ўражанне пакінула паездка ў Хатынь. Гукі званоў, што нагадвалі пра пакутніцкую смерць жыхароў гэтай вёскі, кранալі да глыбіні.

Самым прыцягальным відовішчам у той час у Мінску быў фільм «Дзікае паляванне караля Стаха» па матывах аповесці Уладзіміра Караткевіча. Дзякуючы пратэкцыі аўтара мне і Стахоўскаму пашанцавала паглядзець гэтую неардынарную, прыгожую кінастужку.

Час праляцеў хутка, я вярнуўся ў Кракаў. Пачатую тады дыскусію наконт малых літаратур мы працягнулі ў лістах... Неўзабаве Адам паведаміў мне, што Валодзя знаходзіцца ў бальніцы. Потым Валянціна перанесла аперацыю. А праз невялікі прамежак часу я атрымаў самыя горшыя весткі... Засталіся толькі ўспаміны і кнігі, у якія столькі чалавечай цеплыні і любові да роднай зямлі ўклаў Уладзімір Караткевіч.

*Пераклад з польскай мовы Ганны Цішук*

## Сяргей Панізьнік

# Гуклівы і чуйны

*Уладзімір Караткевіч у дыфузіі нацыянальных культур*



Мінае сорак гадоў, як трапіла мне на слых імя Уладзіміра Караткевіча. Напачатку — у пераліку паэтаў, якія асвяжалі прасторы вершавання. Але потым усё тое, што выказваў гэты адметны літаратар, для мяне ўзбуйнялася: ад галінкі — да кроны, ад парастка — да камля. Урэшце Дрэва Уладзіміра Караткевіча аказалася акружанае прышчэпамі: гэта ён прывіваў у сваё мастакоўскае Слова атожылкі нацыянальных культур.

Сведчаннямі такой духоўнай дыфузіі Караткевіча са Львовам, Рыгай, Прагай, далёкім в’етнамскім горадам Гюэ я і хачу падзяліцца.

## «...На белым кані»

Слухай, сэрца маладое,
Караткевіча сурму!

У 1965 годзе львоўскае беларускае зямляцтва яшчэ ўбіралася ў сілу. Я вучыўся на факультэце журналістыкі Вышэйшай ваенна-палітычнай вучэльні СА і ВМФ. Правёў падпіску сярод курсантаў-землякоў на газетныя і часопісныя выданні з Мінска. Знаходзіў студэнтаў з медыцынскага, паліграфічнага, політэхнічнага інстытутаў, каб у тэатры імя М. Занькавецкай разам быць на спектаклях віцебскіх артыстаў («Несцерка», «Кароль Лір»), каб самім ладзіць літаратурна-музычныя вечарыны. Сябры зямляцтва вучыліся быць беларусамі. Дапамагалі ў гэтым няпростым навучанні львоўскія літаратары Аксана Сенатовіч, Уладзімір Лучук, Раман Лубкіўскі, Раман Кудлык... Парасткі сваёй нацыянальнай свядомасці хацелі паказаць праз допісы ў «Чырвоную змену», праз канцэрт па заяўках на мінскае радыё... Нават асмеліліся павіншаваць Максіма Танка з абраннем яго Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР (атрымалі ад Яўгена Іванавіча паштоўку і верш «Жадаю вам...»).

Першы пераклад верша Уладзіміра Караткевіча («Трызненне мужыцкага Брэйгеля») быў надрукаваны ў часопісе «Жовтень» (1962, № 12). А вераснёўскі нумар «Жовтня» за 1964 год быў прысвечаны «Беларусі — сінявокай сястры Украіны».

У раздзеле «Жыццё і слова» прачыталі артыкул Уладзіміра Караткевіча «На паэтычным аглядзе» — своеасаблівы аналіз беларускай паэзіі за апошнія два гады. Перакладчык не пазначаны, бо гадаванец Кіева падрыхтаваў матэрыял адмыслова для «Жовтеня» па-ўкраінску. А вершы, цытаваныя ў аглядзе, пераклаў Уладзімір Лучук.

Гэта ён, Лучук, некалькімі гадамі пазней назваў нашае зямляцтва «Беларускім брацтвам». Пад апекаю львавян яно мацнела, гуртавалася і гартавалася. 12 сакавіка 1966 года на сустрэчы студэнтаў з пяці ВНУ Львова мы гаварылі пра паэтаў і паэзію нашай Бацькаўшчыны. А 7 траўня на вуліцы Саладовай правялі вечарыну пад назвай «Тут крокі іх, тут сэрцы засталіся». Згадвалі не толькі Багушэвіча, Багдановіча, Цётку з украінскай «прапіскай». У перакладах прагучалі вершы В. Зуёнка, А. Сербантовіча, У. Караткевіча, В. Вярбы, Я. Сіпакова...



24 кастрычніка 1966 года мы вырашылі звярнуцца ва універсітэт імя І. Франка, каб адзначыць 75-годдзе з дня нараджэння М. Багдановіча. Напісалі Янку Брылю ў Саюз пісьменнікаў Беларусі з просьбаю прыслаць «падмогу». 9 снежня свята адбылося з удзелам Міколы Хведаровіча, Сцяпана Александровіча і Анатоля Вярцінскага. Была падрыхтавана намі выстава ў гонар студэнткі універсітэта Алаізы Пашкевіч — Цёткі. Мінчане наведалі універсітэт, дзе вучылася сяброўка зямляцтва, яшчэ адна паэтка — Валянціна Коўтун.

Акрыленае ўдалым мерапрыемствам, наша зямляцтва пачало рыхтавацца да шостага тэматычнага вечара перакладу «Панарама беларускай паэзіі XX стагоддзя». Секцыя перакладчыкаў пры львоўскім аддзяленні СПУ, Абласны дом дружбы народаў, Бібліятэка замежнай літаратуры правялі яго 26 студзеня 1967 года. Яшчэ на беразе Варажскага мора, у Юрмале, пры сустрэчы з Рыгорам Барадуліным і Уладзімірам Караткевічам летам 1966 года была папярэдняя дамоўленасць з імі наведаць горад Львоў. Ад імя зямляцтва быў пасланы ліст Івану Мележу з просьбай камандзіраваць іх у Львоў. Па нявысветленых дагэтуль прычынах пашанотных гасцей мы так і не дачакаліся. Іх імёны прагучалі ў маім дакладзе, у выступленнях перакладчыкаў. Бо і Рыгор і Уладзімір былі прадстаўлены ўкупе з іншымі беларускімі аўтарамі ў «Анталогіі дружбы» студзеньскага нумара часопіса «Жовтень». Уладзімір Лучук для гэтага нумара перастварыў верш Караткевіча «Прарок Геронім Босх».

Выкладчык універсітэта Уладзімір Маторны мне потым прызнаўся, што партыйныя функцыянеры паасцерагліся дазволіць нам адзначыць і 450-годдзе беларускага кнігадрукавання. «Выпіналіся», відаць, з рамак інтэрнацыянальнай дружбы і Скарына, і Барадулін з Караткевічам.

Вяртаюся да Лучука. Два Уладзіміры сваю сутворчасць пачалі недзе на пачатку 60-х гадоў. Калі зрабіць кароткія агледзіны, то вынікае, што Караткевіч друкуе паасобныя пераклады вершаў Лучука ў 1965, 1966, 1975-м гадах... Ва ўкладзенай А. Вераб'ём кнізе перакладаў Караткевіча «Галасы маіх сяброў» (1993) ёсць 17 перакладаў вершаў У. Лучука і 9 перакладаў вершаў яго жонкі Аксаны Сенатовіч.

А ў зборніку У. Лучука «Вагомість» (1967) я знайшоў у раздзеле «Братнія галасы» водгаласы ад Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча («Безгаловая Венера»). У зборнік «Братні луни» (з аўтографам ад 31 студзеня 1975 года) быў уведзены пераклад верша «Дзень першы». Львоўскае выдавецтва «Каменяр» у 1987 годзе выдала кнігу перакладаў У. Лучука «Друзі». Сярод 21 госця з Беларусі Караткевіч прадстаўлены вершам «Жанчыне з бэзам». Львавяне, трапяткія да творчасці М. Багдановіча, апантана прапагандавалі паэзію і прозу Караткевіча. Варта назваць анталогію «Мы сэрцам адзіныя»: сярод 135 паэтаў Савецкага Саюза 13 беларускіх — разам з Караткевічам. У тым жа 1978 годзе часопіс «Жовтень» (№ 1—3) надрукаваў «Дзікае паляванне караля Стаха» ў перакладзе К. Скрыпчэнкі.



А мне прыгадваецца, як вечарам 24 лютага 1967 года на кватэры Лучука, павіншаваўшы Рыгора з днём нараджэння, з Уладзімірам і Аксанай збіралі бандэроль для Мінска. Яшчэ летам 1966-га ў Юрмале я стаў сувязным Барадуліна і Караткевіча ў львоўскім накірунку. А так, як у студзені 1967-га не дачакаліся мінскіх гасцей, вырашылі ім рыхтаваць, з папярэдняй згоды патэнцыйных перакладчыкаў, арыгіналы верша-

творчасці львавян. Бандэроль была перададзена мінчанам. Яны споўнілі дадзенае Львову слова!

Львавянам было цесна ў сваім родным горадзе. Лучук духоўную дыфузію праводзіў і ў Кіеве («Калинові мости», 1969). Быў прысутны Караткевіч і ў часопісах «Дніпро», «Сузір'е» дзякуючы не толькі Лучуку, але і маладзейшаму на сем гадоў Раману Лубкіўскаму. Назаву ў першую чаргу яго кнігу «Слов'янське небо» («Каменяр», 1972). З больш чым сотні сусветных імёнаў дваццаць «галасоў сяброў», гэта значыць — беларусаў, разам з «Беларускай песняй» У. Караткевіча выяўлялі тут «задушэўнасць беларускай паэзіі».

А ў 1983 годзе кіеўскае «Дніпро» тыражом 6700 асобнікаў выдала кнігу перакладаў Рамана Лубкіўскага «Слов'янська ліра». Там прысутнічала 11 літаратур планеты Зямля. Беларусь прамаўляла пятнаццаццю паэтамі. Двума вершамі «баяніў» з украінцамі У. Караткевіч.

І ўсё ж Львоў-Альбоў заўсёды бег навыперадкі першапрастольнага Кіева, дзе назвалі Караткевіча «Каралём духоўнасці». Перачытваю рэцэнзію «Запашні плоди зелен-саду» («Жовтень». 1972., № 12) на выдадзеную ў Кіеве анталогію «Беларуская савецкая паэзія». Цытую накрэсленае львоўскім вучоным Іванам Дэнысюком: «...І самыя пяшчотныя словы — метафары і параўнанні — ёй, Айчыне: "Ты мая лясная казка... Ты — мая святая песня..."» Уразілі яго караткевічаўскія вершы: «Поклічам сурмы гучаць з медзі каваныя радкі і рытмы Уладзіміра Караткевіча...»

Сам наш Баян толькі раз наведаў горад, дзе яго па-сапраўднаму паважалі і любілі. «...Прыехаў да Львова... Хто? Караткевіч. Сам Караткевіч на белым кані»,— згадваў Раман Лубкіўскі ў вершы «Караткевіч на белым кані» (пераклад Васіля Зуёнка). І дзякуючы таму ж Раману Маркіянавічу Уладзімір Сямёнавіч шчасліва вярнуўся ў Мінск — на белых аркушах паперы цудоўнага літаратурна-мастацкага выдання «Шевченкова дорога в Білорусь» (Львоў, «Світ». 2004). У зборніку, дбайна ўкладзеным Р. Лубкіўскім, змешчана эсэ нашага ўніклівага шаўчэнказнаўцы «І будуць людзі на зямлі».

Унікальным выданнем Лубкіўскага распачалася серыя «Шаўчэнка і свет». Верыцца, што і кніга з «Мастацкай літаратуры», прымеркаваная да 75-годдзя з дня нараджэння У. Караткевіча, стане шырока адкрытым акном да народаў-суседзяў. А тое, што Караткевіча і за фіранкай нашай сціплай прэзентатыўнасці прымаюць за свайго, сведчыць і такі выгук Рамана Лубкіўскага на апытанне львоўскай гадоўлі паэта Д. Паўлычкі: «Найбліжэйшыя мне па духу — Максім Багдановіч ды Уладзімір Караткевіч» (гл.: «Духоўнае адраджэнне беларусаў рэзануе ў нашых душах». «Літературна Україна», 2003, 24 крас.).

## «Гэты горад любіў Караткевіч...»

Дзеля чаго ж ы в ё м?
Дзеля чаго г л я д з і м?
Ходзім Тваім жніўём:
Пад каласы — ўпусці!

Пакуль што ў Рызе, якую аўтар эсэ «Казкі Янтарнай краіны» называў «...другім маім сэрцам», няма мемарыяльнай дошкі з прыдуманым самім Уладзімірам надпісам: «Гэты горад любіў Караткевіч...» Спадзяваўся пісьменнік на такое жартаўлівае ўшанаванне ў 1962 годзе. А ў 1966 годзе была спроба, каб і Юрмалу ў Каўтурах палюбіў Караткевіч, калі нагадаў яму, што і праз прыбярэжную сядзібу маіх бацькоў Беларусь мае выхад да мора.

У ліпені я, курсант львоўскай вучэльні, быў на журналістскай стажыроўцы ў газеце БВА «Во славу Родины». У другой палове месяца атрымаў рэдакцыйнае заданне наведаць вайсковую часць за Віцебскам. Перад камандзіроўкай, на выхадныя, «Чайкай» прыбыў у Рыгу. За Слокай, у пасёлку Каўтуры, амаль пры беразе мора жылі мае бацькі, сястра. Яшчэ ў Мінску дазнаўся, дзе можна знайсці Караткевіча з Барадуліным: у Мелужах, у Ераніма Стулпана, іх вялікага сабрыса. Расшукаў іх, прывёз на вуліцу Дзэлмэс, 7. Пачостка была вясёлая, песенная, дзякуючы рэпертуару Караткевіча. У бацькоў і сястры Ніны былі свае госці: з Ташкента, з Масквы і Ленінграда. Слухалі старадаўнія мелодыі. Мы ўсе ўпершыню адчулі: якое багацце мае наша фальклорная спадчына. От бы, падумаў я, купіць добры магнітафон і зберагаць па плёнцы галасістую аўтэнтыку. Мама помніла і лёгка спявала свае прыдзвінскія песні, прыбабунькамі цешыла.

А тады ў Юрмале я праз мінчан займеў першыя знаёмствы з латышскімі творцамі, быў насмелены імі на стасункі з сябрамі нашай літаратуры ў Рызе. А Мірдза Абала ў сваю чаргу заахвоціла мяне на даследчую работу, каб споўніць доўг перад Райнісам.

Пазней мне даводзілася чуць і натхнёнага латышскага выканаўцу родных дайнаў — Андрыса Веянса. У адной з песень, якую ён пачуў ад свайго бацькі-латгала, яскрава выявілася векавое крывіцка-балцкае спарадненне: яна гучала па-беларуску. Толькі некалькі слоў — з моўнай стыхіі старавераў.

Дадумваюся, чаму Уладзіміра Караткевіча зацікавіў латышскі пісьменнік Валдзіс Руя — былы актор. Гэта ён выконваў адну з роляў у «Паўлінцы» Янкі Купалы, пастаўленай у 1949 годзе Акадэмічным мастацкім тэатрам імя Яніса Райніса. Я выпрасіў у Караткевіча для свайго архіва звонкі рукапіс — пераклад верша В. Руі «Цыган у трамваі».

А самым блізкім сябрам Уладзіміра быў Еранім Стулпан. Для Ілзытэ, дачкі Ераніма і Валды, Караткевіч быў krusttēvs — хросны бацька. А калі

да вясёлага дуэта далучаўся і Рыгор Барадулін, то Рыгу хістала ад магутнага хору «плытагонаў»: «Кур ту тэцы, кур ту тэцы, гайліты ман?» («Куды ты тэпаеш, куды ты тэпаеш, пеўнік мой?»)

...У снежні 1976 года ў Дубултах загадзя пачалі адзначаць 45-годдзе Ераніма (Уладзімір быў у Доме творчасці да 21 студзеня 1977 года). Аб мемарыяльнай шыльдзе ў гонар Караткевіча за апошнія 14 гадоў так ніхто і не парупіўся, таму было прапанавана скласці эпітафію на будучыню:

Как жили! Всё — глотком одним!
Как море бороздили!
Šeit[1]: Караткевіч Jeronīm,
un Stulpans Уладзімір.

На гэтым дубулцкія прыгоды не закончыліся. Мне Караткевіч часта дапамагаў знаходзіць добрых людзей. Захацелася, каб і мае знаёмцы адкрывалі для сябе Караткевіча — узбагаціцца, падабрэць, адчуць праз яго, што такое душа беларуса. У Рызе жыла дачка мастака Міхася Калініна, былога актыўнага дзеяча беларускага нацыянальнага руху ў даваеннай Латвіі. Вось і прывёў дзяўчыну, у якой ад багатай бацькавай духоўнай палітры засталося ўменне маляваць. Тая сустрэча ў Дубултах 7 снежня 1976 года пакінула дзве памяткі: шарж на Уладзіміра ад Святланы і шарж на мяне ад Уладзіміра. Так «адпомсціў» ён мне за неспадзяваную экскурсію ў Дом творчасці. Але не так ужо нахабна і часта адрывалі яго ад сур'ёзнай работы. Важнымі і выніковымі былі сустрэчы Уладзіміра ў Дубултах з перакладчыкамі Талрыдам Рулісам, Мірдзай Абалай, Віктарам Ліўземніексам, Янісам Плоткіексам, з суайчыннікамі — мастакамі Вячкам Целешам і Валерам Дзевіскібам.

Узаемапераклады Стулпана і Караткевіча пачаліся яшчэ ў 1959—1960-х гадах. Згадаем анталогіі, якія выйшлі з удзелам Ераніма: у 1960-м — «Беларуская сасна», у 1974-м — «Хлеб-соль». У 1979 годзе ў супрацы з Караткевічам Стулпан уклаў зборнік Петруся Броўкі «Лагоднасць» у сваім перакладзе. І як не згадаць такі шчымлівы факт: калі сябры вучыліся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах, Караткевіч задумаў свой першы раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі». Надрукаваны ён быў пад назвай «Нельга забыць» у 1982 годзе і прысвечаны памяці Ераніма Стулпана.

А цяпер пра «мілага і роднага друга Мірдзу», «свет Эдуардаўну». У 1967 годзе Мірдза Абала, супрацоўніца Акадэміі навук, упершыню наведала Беларусь, якая потым стала для яе своеасаблівай Мекай. Прысутнічала на святкаванні 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. І прытулілася назаўжды да нашае мовы, высокага слова нашчадкаў Скарыны.

[1] Šeit — тут *(латышск.)*

Мо таму, што ведала стаўленне Райніса да беларусаў, а мо таму, што сустрэла Караткевіча? У 1974 годзе з'явіўся ў друку яе першы пераклад апавядання Уладзіміра Караткевіча. А ў 1976 годзе выдавецтва «Ліесма» («Полымя») тыражом у 15 тысяч асобнікаў выпусціла ў свет кнігу «Чазенія», куды ўвайшлі апрача аповесці — паэмы ў прозе і апавяданні: «Сіняя-сіняя...», «Блакіт і золата дня», «Кніганошы», а таксама «Казкі Янтарнай краіны». У ёмістым пасляслоўі «всехний друг Мирдза» (усе найменні Мірдзы Абалы — з лістоў да яе Уладзіміра Сямёнавіча) зазначыла: «Проза У. Караткевіча мастацкая і паэтычная. Асабліва характэрныя ў гэтым сэнсе апавяданне «Сіняя-сіняя...» і сардэчна напісанае, прысвечанае Латвіі эсэ «Казкі Янтарнай краіны». Пісьменнік часта гасцяваў у Латвіі, палюбіў латышскую зямлю і яе народ і аб сваіх уражаннях піша перамяжаючы літаратурна-казачнае з рэальным, але паэтычным адлюстраваннем. Гэта своеасаблівы гімн звычайнаму, паўсядзённаму жыццю, звычайным людзям, якіх аўтар сустрэў на сваім шляху...»

У Талрыда Руліса знаёмства з нашай мовай пачалося ў 1965 годзе, калі праходзіў у Гародні салдацкую службу. І толькі праз 20 гадоў актыўнай перакладчыцкай працы над беларускімі тэкстамі дайшла ў Талрыда Руліса чарга да «Дзікага палявання караля Стаха». Выйшла кніга тыражом у 45 тысяч асобнікаў! А ў шуфлядзе знанага перакладчыка да сёння ляжаць рукапісы перастворaных ім раманаў Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Не выдадзены не толькі таму, што рэлігійным пачуццям лютэраніна маглі б быць не даспадобы некаторыя матывы з «Хрыстоса...». Самога перакладчыка некалі «аддзячыла» Беларусь толькі... Ганаровай граматай. А ці можа быць паперына ветразем на хвалях Дзвіны-Даўгавы?

Пацікавіўся я, а што ляжыць «мёртвым ґрузам» у мінскіх шуфлядах? У Васіля Сёмухі, майстра конгеніяльных перакладаў (ацэнка Кнута Скуеніекса) даўно вывешана на сайце кніга А. Чака з паралельнымі тэкстамі: у арыгінале і па-беларуску. У Андрэя Гуцава — рукапіс рамана Г. Яноўскіса «У неўзваротнасць». У шуфлядзе таксама «Эпітафіі» І. Зіеданіса, тэксты У. Бэрзыньша, М. Чаклайса, К. Скуеніекса... Чакае лепшых часоў рукапіс латышска-беларускага і беларуска-латышскага слоўнікаў, падрыхтаваны нашай мілай Мірдзай Абалай. Застаецца дзяржаўным плытагонам-кормшчыкам наладзіць выгаднае ўзаемавыданне.



Але вернемся ў Дубулты 1981-га лета. Серада, 22 ліпеня. Ад 17 да 23 гадзін разам з М. Абалай, А. Лойкам мы «перашкаджалі» Караткевічу працаваць. Чарговая сустрэча была прызначана на нядзелю. Мастак Вячка Целеш, рыжанін з Гарадзеншчыны, яшчэ ў 1980 годзе стварыў для Уладзіміра экслібрыс. Наш даўні агульны сябар запрасіў невялікую, але пажондную кампанію да сябе на кватэру (вул. Арлова, 7—90). Былі і ў яго майстэрні, на паддашку дома № 40, кватэра 20м па вуліцы Леніна

зараз Брывібас (Свабоды). Арыгінальнае апісанне гэтага ўжо зніклага гарышча вы знойдзеце ў эсэ Уладзіміра Арлова «Не гуляйце каля статуі Свабоды» («Наша Ніва». 1993, № 10).

У гэтым руме-матэлі-карчме заезнай на відным месцы ляжала паўпудовая гасцявая кніга. «Альбом» Арцёма Вярыгі-Дарэўскага ў параўнанні з Вячкавай махінай паказаўся б сціплым нататнікам. Мірдза Абала, Алег Лойка з жонкай, мастак Валеры Дзевіскіба, Валянціна Браніславаўна і сам Уладзімір пакінулі там свае аўтографы. Караткевіч у дабавак да соцен знакаў прысутнасці зафіксаваўся малюнкамі і такім жартоўным катрэнам:

З майстэрні мілай пана Вячкі
Паўзлі мы ледзь не на карачках.
І дух наш ледзь трымаўся ў целе,
Калі дамоў пусціў нас Целеш.

Добра, што перад гэтым грамада паспела наведаць Латвійскі этнаграфічны музей пад адкрытым небам (вул. Леніна, 440). Здымкі ля студні, брамы, сядзібаў можна пазначыць такой датай: нядзеля, 26 ліпеня 1981 года.

4 жніўня Дубулты «апусцелі». А я застаўся разам з М. Абалай збіраць тэксты для анталогіі латышскай паэзіі. Двухтомнік пад рэдакцыя Р. Барадуліна выйшаў у Мінску ў 1984 годзе. У прадмове М. Чаклайса ёсць і такія радкі: «Зыходзячы са сваёй паэзіі, я слухаю Уладзіміра Караткевіча ў «Беларускай песні»:

...Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.

Але ж і ў мяне такія пачуцці, і яны абвастраюцца кожны раз, як я думаю пра сваю радзіму!»

Дыфузію пачуццяў з адной літаратуры ў другую па сёння вядзе Караткевіч. І невядома, дзе заканчваецца яго Б а ц ь к а ў ш ч ы н а, а дзе пачынаецца Tēvzeme Чаклайса...

## «Бачым мы навек непазбыўныя нашы сілуэты...»

Той ноччу ажно на досвітку
мы пісалі сведоцтвы
часа́м, што прыйдуць...
*Марыя Біблава. «Дзеля будучыні».*
*Пераклад з чэшскай мовы У. Караткевіча*

У жніўні 1967 года я пачаў вайсковую службу ў Беларускай ваеннай акрузе. Ва Уруччы давялося чакаць свайго кутка ў афіцэрскім інтэрнаце. Прытулялі нанач Валя і Рыгор Барадуліны, Вячаслаў Рагойша, Іван

Лучыц-Федарэц... Аднаго разу «князь Уладзімір», ад'язджаючы ў чарговую пілігрымку па Беларусі, даў мне ключы ад сваёй кватэры на вуліцы Чарнышэўскага, 7. Памятаю: стаў пасярэдзіне яго святліцы і знямеў. Бачыў паэтычны ба́йзар, дзе пісьменніцкія рыштынкі-прычындалы — па ўсёй жыллёвай прасторы. А тут — звонкая, урачыстая цішыня. Харом! На стале стос бялюткай паперы і патрэбнае начынне — як у музейнай экспазіцыі. З аркуша праз далікатна-выяўны, а не гулліва-разбэрсаны почырк, пранікалі ў мае вочы знакі-ноты яго паэтычнай азбукі. Быў бы замест мяне чараўнік, ён з рукапісу Уладзіміра мог бы знавіць сімфонію гукаў яго творчага натхнення.

Пасаромеўся я пераначаваць у свяцёлцы, пакінуў чысцец.

У 1967 годзе Караткевіч атрымаў кватэру № 26 на вул. Веры Харужай, 48. У абдымкі гасціннасці Уладзіміра трапіў і я. Ён не запярэчыў прыняць паўтара тузіна запрошаных мною гасцей на дзень нараджэння 10 траўня 1968 года. Адам Мальдзіс у кнізе «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» (1990) узгадвае той інтэрнацыянальны вэрхал і ў двухпакаёўцы, і на шырокім двары. Дзякуючы колу сяброў Караткевіча палова Еўропы (а былі наведнікі з Чэхіі, Польшчы, Латвіі, Украіны) тут гаманіла па-беларуску. На здымку дворным толькі некалькі асобаў відаць: Жэня Янішчыц, Уладзімір Караткевіч, Валя Коўтун, Юрась (?), Вацлаў Жыдліцкі з дачкой Рыгора Ілонкай, Міхась Стральцоў, Мікола Прашковіч, Ала Сакалоўская... Вось так я апынуўся ў эпіцэнтры караткевічаўскага тайфуну.

У той дзень Уладзімір, як піша Мальдзіс, «запяваў і хораша вёў «Ой, косю, мой косю...», «Ой, расцвіла ружа», «Ад панядзелка да панядзелка», старыя рэлігійныя гімны». Улічваючы юрмальскі спеўны досвед, я асмеліўся папрасіць «светлага князя» пакінуць свае спевы на магнітафоннай стужцы. Прыйшлося пачакаць.

У лістападзе 1968 года на дзень нараджэння гаспадара кватэры па вуліцы Харужай сабраліся сусед Мальдзіс, Барадулін з мамай Акулінай, Мікола Грынчык з жонкай Любоўю Аляксееўнай, артыст Алесь Лабанок... Называю тых, чые галасы засталіся запісанымі на магнітафонную стужку. Уладзімір прачытаў вершы з цыкла «Таўрыда»: «Песня Мехмеда», «Чуфут-Кале», «Маўзалей Джаніке-Ханум», «Фантан слёз», «...О, якое цёплае, цёплае, цёплае мора...». А потым разбудрыўся паэт, разнасцежыўся і мы пачулі свавольную «малую паэму» — «П'янка ў дэкарацыях». Пазней гэты твор назавецца больш сціпла «Гулянка...». Калі Уладзімір закончыў народную песню «Ой, косю, мой косю...», расказаў нам, як да яго прысвоілася яна. Падлеткам бачыў: праязджаў міма цыганскі табар, на апошнім возе спявалі песню. Ён бег упобачкі воза, аж пакуль песня не скончылася. І — запомніў на ўсё жыццё.

У той дзень народзінаў Уладзімір агучыў і свой аўтарскі твор — раманс «До завтра», як водгалас даўняга кахання.

Запала ў памяць і такая дата. 19 студзеня 1968 года кватэра Караткевіча зноў была поўная гасцей. Толькі што паявіўся ў продажы зборнік Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана», які на грамадскіх асновах адрэдагаваў Уладзімір. Мы былі ўдзячныя і яму і, найбольш, аўтару кнігі. Ларыса Антонаўна ў сваёй здравіцы Караткевічу і ўсім творцам гаварыла, што самае лепшае зараз — працаваць: пісаць моцна, паэзіяй уздзейнічаць на людзей. Але ж і песня з душы Караткевіча таксама мела магутны рэзананс. Ох, як ажывала яна, як жывіла яна на «крутых дарожках», калі самому, а не косю, прыходзілася сыру зямлю біці, у снезе па вушкі стаяць.

У верасні 1969 года мяне, карэспандэнта дывізійнай газеты, адпраўлялі з Уручча ў Цэнтральную групу войск, пад Прагу. Развітваючыся, Уладзімір сказаў: «Ты ж толькі там не страляй. Чэхі — нашы браты». Мы ў той дзень памірыліся. Ні тады, ні пазней мне не даводзілася бачыць Караткевіча ў азлобе. Уладзімір быў як аголены нерв, і кожны шурпаты зык мог яго пакрыўдзіць. Дзякаваць Богу, крыгалом між намі сышоў. І я ад'язджаў у Чэхаславаччыну з даручэннямі Уладзіміра, паклонамі Празе, Жыдліцкаму, Забэйду...

А перад камандзіроўкай насычаўся сустрэчамі з дарагімі людзьмі. У чэрвені 1968 года, на Тройцу-Сёмуху ва Уручча прыехалі Караткевіч, Барадулін з жонкай. Там, дзе зараз хмарачосіцца мікрараён, расклалі цяпельца. Нават у чыстым на той час азярцы выкупаліся, хто хацеў. Фотаздымак узгадвае: на двух кітах плыла Валя Барадуліна над уручанскімі жытнімі палеткамі. Надта ж рагоча Уладзімір. Гэта Рыгор асцерагаў яго, каб правільна рукі ў вязьмо сплёў, каб палец не вытыркаў...

### «Больш, чым уласна-гісторыяй, займаецца яе сэнсам»

Столькі ўрокаў
і столькі жалю
і запозненых горкіх слоў.

У загаловак падраздзела вынес цытату Вацлава Жыдліцкага з яго двухтомнага выдання «Слоўнік пісьменнікаў народаў СССР», з абзаца, у якім вучоны і перакладчык дае характарыстыку творчасці Караткевіча. Яшчэ ў Львове я гартаў першае выданне «Слоўніка...» (1966), дзе сярод 143 нашых пісьменнікаў Караткевіч выйшаў, дзякуючы Жыдліцкаму, на такую шырокую арэну. А вось першая кніга Уладзіміра, дзякуючы зноў жа Вацлаву Жыдліцкаму, выйшла ў Празе ў 1972 годзе. Гэта «Kráловска помста» («Дзікае паляванне караля Стаха»). Потым будуць выдрукаваны: у 1976-м — «Нельга забыць», у 1979-м — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». З выдавецкай прадмовай і пасляслоўем В. Жыдліцкі спрычыніўся і да выхаду кнігі Караткевіча ў славацкай Кошыцэ («Чазенія, мая любоў». 1978).

Вацлаў Жыдліцкі сваім першым караткевічаўскім перакладам прабіў выдавецкую насцярогу да не вельмі знанай навейшай беларускай літаратуры. 40 тысяч асобнікаў «Краловскай помсты» хутка разышліся. Пра «беларускую бібліятэку» Вацлава Жыдліцкага варта напісаць вялікую аналітычную кнігу. Ведаю, як радаваўся Уладзімір свайму пражскаму першынцу, цераз мяне прасіў Жыдіцкага, каб той запрасіў аўтара ў Прагу. Але 20 снежня 1972 года сябра Вацлава, як я яго называў, «улажыў» інфаркт. Ачуняўшы, ён запрасіў мяне ў госці. Вясною 1973-га я наведаў Прагу. Мне карцела дазнацца, што ж лучыць гэтых двух розных па характары, але аднолькава высокаадукаваных эрудытаў. Вашак (так называў Караткевіч Жыдліцкага) тады сказаў: «Мяне вабяць творы гэтага паэта і празаіка. Ён жа, папраўдзе, стваральнік цэлага жанру — беларускага гістарычнага рамана. Прынаджваюць яго кнігі. Вось прачытаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Хачу перакласці. Зацікавіўся таму, што гэтая трагікамедыя — дасціпная пародыя на Біблію, а яшчэ і таму, што езуіцтва, апісанае ў рамане, такімі ж самымі метадамі дзейнічала ў свой час і на нашых землях».

У лісце ад 25 чэрвеня 1973 года сябар Вацлаў мне пісаў: «У нядзелю 1.7. прыязджае Ул. Караткевіч — затрымаецца праездам у Браціславу на 2 дні, а потым з тыдзень каля паловы ліпеня будзе зноў у Празе. Можа, і Вы пад'ехалі б?»

Раніцою 1 ліпеня кветак на галоўным вакзале не знайшоў, таму купіў кош трускалак. Знаходжу як і заўсёды далікатна апранутага Жыдліцкага. Для гасцей я — інкогніта. Разам чакаем Валянціну Браніславаўну і Валодзю. Той паказаўся на пероне ў сарочцы навыпуск і нахабных джынсах. У рухах і размове вёў сябе так, быццам трапіў на звычайны вакзал. Гэта каб не паказаць свайго ўзрушэння ад доўгачаканай сустрэчы з невядомай Прагай. Уладзімір перадаў мне паперы з Літаратурнага музея Янкі Купалы. (У архівах Прагі многа слядоў прысутнасці Яна Дамінікавіча на гэтай зямлі, многа звестак пра кола яго сяброў. Прасілі папрацаваць для музея.)

Вацлаў Жыдліцкі добра падрыхтаваўся да прыезду гасцей. А Уладзімір у падарунак атрымаў не толькі «Краловску помсту». Перад гэтым Вацлаў Жыдліцкі выдаў «Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры» (1972), у часопісе «Светова літэратура» (1973, № 5) змясціў пераклад апавядання Караткевіча «Залаты бог» з прадмовай і партрэтам Уладзіміра. Чакалі сюрпрызы і на Славаччыне.

Ну а з галоўнага вакзала мы паехалі з кошыкам трускалак на кватэру сябра Вацлава. Ён жыў у Рыбнічках (Прага-10), дзе я стаўся сведкам «экзекуцыі», праўда, не служак інквізіцыі. Ох, гэтая еўрапейская пачостка! Гаспадар падтрымліваўся звыклага этыкету. І першае выпрабаванне

гучала так: «Што будзем піць?» — І сябар Вацлаў паказвае на шыхт інтэрнацыянальных пляшак, бутэлек, вінарак. Як бы без усякай зацікаўленасці паказалі на прысадзістую балгарскую «пліску». Далей — новыя іспыты. Не бачыў я Уладзіміра больш разгубленым, як пасля чарговага пытання: «Колькі наліць?»

Мо перад трэцім тостам ён не стрываў, далікатна, але рашуча выбраў з рукі Вашака бутэльку і сам стаў паціху напаўняць келіхі. Раз ён яшчэ на пероне пастанавіў паводзіць сябе прывольна, то і за сталом не выпадала заціскацца.

А як было не наведаць у Празе Міхася Іванавіча Забэйду-Суміцкага, даўняга знаёмца Уладзіміра і сутворца Вацлава Жыдліцкага. Яны, аказваецца, разам прымалі ўдзел у браціслаўскім «Вечары сучаснай беларускай літаратуры» (красавік, 1966).

Раён Вінаграды, вуліца Польска, 12. Там жыў Забэйда. Ён мне дазваляў знаёміцца з яго багатым архівам, перапісваць дарагія для яго дакументы. Ганарыўся дзядзька Міхал і кнігамі з аўтографамі Караткевіча. Вось адзін з іх, на кнізе «Мая Іліяда»: «Дарагому нашаму Арфею, дзядзьку Міхалу Забэйду-Суміцкаму на знак таго, што ніякія «Сыны Пітакоса» (як у адной з балад гэтай кнігі) не здолеюць, нават узяўшы нашы ліры, заспяваць як мы. Ул. Караткевіч. 10.11.69. Мінск». У адказ з Прагі ў Мінск пайшоў падарунак, пра які можна даведацца з публікацыі Сяргея Грахоўскага. 26.6.1970 года Забэйда яму пісаў: «Ці ўжо выздаравеў Караткевіч? Паслаў яму сваю плытку «Беларускія песні і рамансы». Пры аказіі запытайцеся, калі ласка, ці атрымаў».

А 1 ліпеня 1973 года ў кнігоўню Забэйды далучылася і «Краловска помста», адразу ад двух прысутных сааўтараў. Пасядзелі ў сціплым пакойчыку знакамітага спевака. Паўглядаліся на чароўны Рыгровы сад. Сфатаграфаваліся на памяць.

25 ліпеня ў Міловіцэ да запатрабавання прыйшла цыдулка з санаторыя Лугачовіцэ, дзе лячыўся (і дзе часта выступаў з канцэртамі) Забэйда: «Шкада, што не сустрэўся другі раз з Караткевічам. Яго кнігу чытаў з захапленнем. Пераклад Жыдліцкага вельмі ўдалы...» І яшчэ адно прызнанне беларускага Салаўя, адрасаванае беларускаму Вальтэру Скоту. У лісце да інтэлігентнейшага віцебскага цесляра Міколы Плавінскага ад 7 снежня 1973 года Забэйда пісаў: «Чытаю і павучаюся. Караткевічава «Дзікае паляванне караля Стаха» пераладжылі вельмі ўдала і на чэшскую мову. Прачытаў з захапленнем два разы».

Пасля ад'езду Уладзіміра з жонкай з Прагі і мая сям'я пачала зборы ў вяртальную дарогу ў тое ж самае Уручча пад Мінскам. Балюча было развітвацца з Прагай — «мацічкай мнест», Прагай — сагай продкаў, у якой ключ вякоў, дарог, людзей. Запісваючы гэтыя радкі, перачытаў эсэ

пра Скарыну Уладзіміра Караткевіча ад 5 ліпеня 1973 года. Гэта быў пражскі экспромт — «Вера ў сілу дабрыні, або сын Беларусі, сын Прагі». «Ёсць на свеце гарады, якія з самага пачатку радасна і балюча раняць тваё сэрца. Або, калі выславіцца іначай, зараджаюць тваю душу вечнаю тугою па сабе... Прага — адзін з такіх гарадоў...»

Караткевіч хадзіў Прагаю разам са Скарынам, бо «...ў старых каменіцах Прагі засталася частка і ягонай душы, душы вучонага, асветніка, гуманіста, паэта, барацьбіта з несправядлівасцю, варварствам і цемрай». Вялікая была ноша Скарыны. І вялікую частку з яго паклажы ўзваліў на свае плечы Уладзімір Караткевіч.

### Кругі застыглага рэха

> І людзі, адыходзячы ў маўчанне,
> адзначылі застыглым рэхам круг,
> дзе толькі што спявалі свае песні.

Кар'ера вайсковага журналіста нечакана закончылася для мяне ў 1975 годзе і толькі вясною 1979-га, дзякуючы Генадзю Бураўкіну, я стаў тэлежурналістам. У Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Дзяржтэлерадыё БССР мае творчыя дарогі часта перасякаліся з Караткевічам. Першы верш-прысвячэнне Уладзіміру быў надрукаваны ў «Палявой пошце». У гэтым жа зборнічку ён упадабаў верш «...Зацугляю здзіклага каня», і пры сустрэчы, замест прывітання, мне цытаваў адтуль такі радок: «Хамутоў не зналі коні продкаў!» Так падтрымліваў маё сціплае вершаванне.

Да 50-гадовага юбілею Уладзіміра я падаў заяўку, каб запісаць творчы партрэт пісьменніка. Вядучым перадачы згадзіўся быць паважаны Янка Брыль. Але Валянціна Браніславаўна доўга не дапускала ў адведкі нашу здымачную групу. Затое працавалі мы ў Доме літаратара 28 лістапада на юбілейнай вечарыне. У эфір справаздача выйшла 19 снежня. І толькі 24 сакавіка 1981 года мы змаглі запісаць на кватэры Уладзіміра яго маналогі для перадачы «Вякоў сумежжа». Сінхрон здымалі на кінастужку. Гаспадар пачуваў сябе добра. Расказаў, што закончыў аповесць «Зброя». На стале загадзя пакінуў яблык. Каб праілюстраваць нейкі эпізод, узяў крэмневы нож, падораны археолагам М. Чарняўскім. І з такім імпэтам распалавініў яблык, што пырскі соку аж да аб'ектыва паляцелі. Сядзеў у белай кашулі (пры гальштуку яго бачыў толькі на юбілейнай вечарыне). Задзірыста гаварыў, шчыра смяяўся.



Адразу пасля эфіру на адрас Дзяржтэлерадыё прыйшоў ліст з Наваполацку ад сяброў клуба творчай моладзі «Маладзік» з просьбай паўтарыць упадабаную перадачу. 2 снежня 1981 года «тт. У. Арлову,

Л. Неўдаху, Ю. Касцюку і інш.» было адмоўлена ў іх просьбе «па тэхнічных прычынах». У архіве засталіся і копія ліста ў Наваполацк, і сцэнарый перадачы «Вякоў сумежжа». Чытаю: «У кадры — бібліятэка ў рабочым кабінеце пісьменніка. За кадрам чуецца голас акцёра, які чытае верш У. Караткевіча «О каханне маё бясконцае...».

І апошнія радкі сцэнарыя:

Кроў сплывае. Няма спакою.
І калі ўпаду нежывы,
Красаванне кветак жывое
Застанецца на месцы дрыгвы.

### На зямлі Бацъ Нга

Красаванне жывога слова Караткевіча, перастворанае на мовах свету, адчуў я і ў неверагодна далёкай краіне. Вясной 1988-га я, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва», трапіў у В'етнам. Дэлегацыю кнігавыдавецкіх работнікаў узначальваў Ігар Лапцёнак, на ранг ніжэй — Валерый Грышановіч. У горадзе Гюэ, цэнтры параднёнай з Беларуссю правінцыі, былы савецкі аспірант Нгуен дзін Нго сказаў, што сваёй дачушцы даў імя Бацъ Нга, што ў перакладзе азначае Белая Русь. Надта многа паралеляў адшукаў ён у гісторыі двух народаў.

З Гюэ я прывёз акрамя сувеніраў ад Бацъ Нга і танюсенькую кніжачку Караткевіча на в'етнамскай мове «Былі ў мяне мядзведзі». Яе выдрукавала ў 1985 годзе на цьмянай рысавай паперы тыражом у 30 100 асобнікаў выдавецтва «Тхуан Хоа», з якім мы пачалі творчае супрацоўніцтва. Перакладчыкам з рускай мовы быў Нгуен Тханг Лонг. У тым жа 1985 годзе ў Ханоі выйшла кніга Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». Калі б ён сам пабыў у Гюэ, то напэўна здзівіўся б і гмаху касцёла сярод спецыфічнага для гэтай краіны гарадскога ландшафту, і аповеду Ленг Чонг Шама аб тым, што кожная дынастыя на працягу васьмі тысяч гадоў, замацаваўшыся ва ўладзе, знішчала духоўную памяць папярэдняй. І толькі старажытны Гюэ можна лічыць выключэннем. Успомніў бы Уладзімір з гэтай нагоды і Нясвіж, і Мір, і парэшткі мінуласці ў роднай Оршы. А сваё прозвішча на вокладцы кніжкі ён павінен быў бы прачытаць аж у чатыры прадыханні: Ko-rot-ke-vich.

У траўні 1989 года нашы в'етнамскія сутворцы — дырэктар выдавецтва «Тхуан Хоа» Выонг Хонг, яго намеснік, паэт Ле Чонг Шам наведалі Мінск. Мы ім паказалі Хатынь, Курган Славы. В'етнамскія госці ўсклалі кветкі на магілу Караткевіча і пакінулі на надгробку тую самую кніжачку, выдадзеную на рысавай паперы. 22 траўня Ле Чонг Шам напісаў у Мінску верш «Каля магілы» з прысвячэннем: «Караткевічу — беларускаму

народнаму паэту». Ён сам зрабіў падрадкоўнік і перадаў мне разам з арыгіналам. У перастварэнні з мовы Баць Нга верш загучаў так:

Караткевіч!
На гэтай нязрушнай зямлі
Надгробак для вас узвялі:
Тут рысавыя каласочкі.
Абняць вас і кветкі змаглі.

А мне вы паспелі зрабіць
Такое, што змог палюбіць
Крутыя аблокі над Мінскам,
Журботную выраю ніць.

З В'етнама паклікалі вы
І нас да сваёй муравы.
Узносіцца з ветрам журботным
Ваш дух да святой сінявы.

З народнай, прыроднай красы —
Два рысавыя каласы.
Усходы ад вашых зярнятаў
Відаць з-пад в'етнамскай расы.

На надгробку ляжалі пшанічныя каласы. Але Ка-рат-ке-віч стаўся для в'етнамца сваім, родным, і паэт не змог не аздобіць апошні прытулак другога паэта нацыянальным хлебаносным сімвалам.

## «Не бойся... любіць»

Прызыўнага жыцця нястомны звон
не абарваўся,
гул па нетрах коціцца...

Аўтограф Ле Чонг Шама захоўваю разам з аўтографамі Самога Караткевіча. Не назаляў просьбамі, не падсоўваў на подпіс кнігі. Пазнакі яго пяра засталіся па паштоўках, часопісе «Маладосць» з «Чорным замкам Альшанскім»... 10 траўня 1968 года тэкст віншавання склаў Уладзімір: «Змагайся за хвіліны і секунды дзеля свайго таленту. Хай доўжыцца тваё... паэтычнае жыццё...» Разам з ім падпісалася некалькі застольнікаў. А ўнізе цыдулкі — прыпіска Уладзіміра: «Тое самае кажа і дэлегат ад Кітая. Вось ягоны аўтограф...» Тры прыдуманыя Уладзімірам іерогліфы засталіся на той паштоўцы.

Рукою Уладзіміра запоўнена і яшчэ пісулька, якая пачынаецца словамі: «Не бойся, Сярожа, любіць. Мы гэта ведаем...» Подпіс такі: «Караткевічы і Рагойшы. 19 жніўня 1971 г. Менск». Самы кароткі аўтограф Уладзіміра я маю на кнізе «Вока тайфуна: «Сярожу Панізніку — я. 7.V.75».

А што я зрабіў добрага Уладзіміру Караткевічу ў аддзяку за спагаду, падтрымку, паразуменне, дабрадзейнае натхненне? Ці апраўдаюся перад ім некалькімі сваімі фотаздымкамі, паўтузінамі вершаў-прысвячэнняў? Усцешуся заўвагай М. Дубянецкага з публікацыі ўспамінаў за 1984 год пад загалоўкам «Трэба рызыкаваць...» («Полымя». 2002, № 1). У раздзеле «Валодзевы сарачыны» М. Дубянецкі пісаў: «Ён (Адам Мальдзіс.— *С. П.*) выступаў пасля таго, як Сяргей Панізнік уключыў Валодзеў голас, запісаны ім некалі на магнітафонную плёнку,— Караткевіч выканаў тады некалькі песень, чытаў вершы, жартаваў. Гэта стварыла на ўсіх нас вялікае ўражанне. Вось Адам і ўнёс прапанову, каб у адзін з тамоў пакласці адну-дзве пласцінкі».

На жаль, не «паклалі» ў васьмітомнік Збору твораў кружэлку. За прамінулы 21 год ад тых сарачынаў аніхто не зацікавіўся магнітафоннай стужкай з жывым голасам класіка, генія (а мо хто і апосталам назваў Караткевіча пасля смерці). А я ўключаў запіс на тэле- і радыёперадачах. Чулі голас Караткевіча ў школах, музеях. У Віцебску на юбілейных урачыстасцях у тэатры імя Якуба Коласа пранік на верхатуру — у апаратную і аддаў касету, папрасіўшы, каб замест майго выступлення каля мікрафона гучаў верш юбіляра. У 2000-м голас з касеты перапісалі ў віцебскай бібліятэцы імя Караткевіча.

На дзень нараджэння Уладзіміра 26 лістапада 1999 года на маім радзімым прыберагу — у мястэчку Лявонпаль Міёрскага раёна пры сельскай бібліятэцы быў адкрыты створаны мною музей Радзімазнаўства. За прамінулыя гады часта там паказваў асаблівыя экспанаты з майго караткевічаўскага архіва і... прыгубляўся да жалейкі, якую калісьці перадаў мне на памяць Уладзімір — гуклівы і зоўны Творца.

І яшчэ адно вяртанне доўгу. У 1988 годзе Вацлаў Жыдліцкі перадаў мне ў Празе на захаванне да лепшых часоў кнігу з надпісам: «Музею Валодзі Караткевіча, каб людзі ведалі, што аўтара цанілі за мяжой даўно, да той заслужанай ацэнкі на яго Радзіме...» Не будзем наракаць, быццам бы няма пракокаў у нашай Айчыне: дальназоркія суседзі заўсёды прыдуць на памогу. І вочы адкрыюцца.

Над словам —
караткевічаўскім кратарам —
бясконцай магмай льецца Беларусь.

*2005*

Муза Сняжко, Фларыян Няўважны

# «Подых юні ўходзячай маёй...»

Згадваючы вядомую фразу французскага пісьменніка Антуана дэ Сэнт-Экзюпеоы: «Самая вялікая раскоша — раскоша зносін паміж людзьмі», разумееш: самы шчаслівы з нас той, каму ў юнацтве выпала Сяброўства. Не проста кампанейска-прыяцельскія адносіны маладосці, а тая ступень шчырасці і даверу, што бывае толькі ў юнацкія гады, калі сваё «я» ты выяўляеш у другой, роднай табе душы, і ўсе вашы сустрэчы — свята. Таму што ў іх — радасць пазнання. Свету і сябе. А яшчэ тая шчодрая падтрымка, на якую здольны Сябар. І якая патрэбна табе ў момант самай адчайнай безвыходнасці...

Знаёмства з аднакурснікамі і сябрамі Уладзіміра Караткевіча, галоўным бібліятэкарам Нацыянальнай парламенцкай бібліятэкі Украіны Музай Яўгенаўнай Сняжко (Залеўскай) і доктарам, габілітаваным прафесарам Варшаўскага універсітэта Фларыянам Няўважным яшчэ раз пераканала мяне ў гэтай думцы. Гутаркі з імі, якія я рыхтавала для Беларускага радыё ў юбілейныя гады пісьменніка (1990, 1995), вяртаюць у сцены іх alma mater, адкуль і пачынаўся шлях адданага сяброўства, якім, дарэчы, даражыў кожны.

Пакаленне «шасцідзесятнікаў», што пазней сталася духоўным ідэалам для іншых, таксама прайшло выпрабаванне і загартоўку сваім часам... Мне раней здавалася, што ў юнацтве мы пакідаем самае лепшае, што дае нам лёс... Не пакідаем. Забіраем з сабою. Яно жыве з намі нябачна для нас саміх. І дае магчымасць раптам уздыхнуць з палёгкаю, зноў паверыць у сябе, як у 16... І згадаць радок паэта «Подых юні ўходзячай маёй...».

*Галіна Шаблінская*



*— Муза Яўгенаўна, што найперш звязвае беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча з вашай зямлёй — Украінай?*

— Перш за ўсё, безумоўна, яго студэнцкія гады. У Валодзі ў Кіеве жыла цётка, да якой ён прыязджаў яшчэ школьнікам. Пасля заканчэння універсітэта — два гады працы ў Лесавічах Тарашчанскага раёна Кіеўскай вобласці. Спроба паступіць у аспірантуру. І, бясспрэчна, яго сябры. Ад'язджаючы назаўсёды ў Беларусь, Караткевіч захаваў усіх сяброў, якія ў яго былі: і на Украіне, і ў Польшчы, і ў Чэхаславакіі — паўсюль.

У студэнцтве ён сябраваў не толькі з аднакурснікамі, але і з выкладчыкамі. Гэта надзвычай рэдкая з'ява. На нашым курсе я магу назваць

трох такіх студэнтаў: Валодзя Караткевіч, Фларыян Няўважны, Юрый Ленарчык. Вельмі глыбокія адносіны звязвалі Валодзю з прафесарам Аляксандрам Андрыянавічам Назарэўскім і старшым выкладчыкам Лідзіяй Арсеньеўнай Панамарэнка. Гэта сяброўства працягвалася і пасля заканчэння нашай вучобы.

Агульнай цікавасцю Валодзі з Лідзіяй Арсеньеўнай была літаратура народаў СССР і беларуская літаратура (яна цудоўна чытала нам гэтыя курсы). З прафесарам Назарэўскім Караткевіча звязвала старажытнасць, старажытная літаратура. Аляксандр Андрыянавіч — вельмі яркая асоба, са старой плеяды універсітэцкіх выкладчыкаў. Такіх у нас было не вельмі шмат, але, дзякуючы ім, мы атрымалі грунтоўныя веды і прайшлі ўрокі жыццёвай мудрасці. Назарэўскі быў пастаянным рэцэнзентам Валодзі па курсавых работах, якія пісаліся па старажытнай рускай літаратуры. Пасля вучобы Валодзя перапісваўся з Аляксандрам Андрыянавічам. І гэта быў прыклад вельмі цёплага, даверлівага ліставання. Валодзя расказваў выкладчыку пра свае навуковыя і літаратурныя планы: «І ўсё ж нельга сказаць, каб я быў ва ўсім шчаслівы. Пісаць кнігі — мала для мяне. Я хачу пісаць і пра кнігі». (20.09.57 г.) Ён марыў пра аспірантуру, і прафесар Назарэўскі яго падтрымліваў.

— *Не ўсе чытачы твораў Караткевіча ведаюць, што лёс пісьменніка мог бы скласціся зусім інакш, калі б у маладосці ён аддаў перавагу навуцы. Тым больш, такая спроба была. Давайце спынімся на гэтым факце яго біяграфіі.*

— Аспірантура для Валодзі была шляхам у вялікую навуку. Але там не знайшлося яму месца ні ў 1954 годзе, ні ў 1957-м. Цяпер мы кажам, што гэта, магчыма, да лепшага. Бо ў яго асобе маем вялікага і таленавітага пісьменніка. А тады, пасля заканчэння універсітэта ў 1954 годзе, Караткевіч мусіў ехаць па накіраванні ў вёску Лесавічы. У 1957 годзе ён спрабаваў паступіць у аспірантуру. Яму трэба было здаць экзамены і напісаць рэферат. Караткевіч піша тры рэфераты, якія трапляюць на рэцэнзаванне да прафесара Назарэўскага і атрымліваюць высокую адзнаку. Але Валодзю не суджана было паступіць у аспірантуру. З гэтай нагоды ён пісаў Аляксандру Андрыянавічу, што выбачаецца за клопаты і неапраўданыя спадзяванні. Хаця ў тым няма яго асабістай віны...

Рэч у тым, што ў аспірантуры тады было адно месца і занадта шмат прэтэндэнтаў. На жаль, не ўсё вырашалі веды, і Караткевіч, цудоўна здаўшы экзамены, не быў прыняты. Ён замацаваўся за кафедрай і ўсё роўна пачаў пісаць дысертацыю. Але праз нейкі час у лісце да Назарэўскага адзначаў, што навуковыя справы рухаюцца марудна. На той час ён пераехаў у Оршу, працаваў у школе, пісаў мастацкія творы. І адначасова — дысертацыя. Аляксандр Андрыянавіч, дарэчы, заўважыў: «Ці не шмат Вы ўзялі — і літаратуразнаўчую работу, і творчую. Гэта вельмі

цяжка сумясціць. І тое, і іншае патрабуе шмат часу». І хаця Караткевіч яму пярэчыў, што не, але з яго ліставання з Назарэўскім відавочна, што, урэшце, у Караткевічу перамог пісьменнік.

*— Муза Яўгенаўна, вернемся ў ваша студэнцтва. Першая сустрэча з Уладзімірам Сямёнавічам якою помніцца сёння?*

— Мне зараз цяжка згадаць канкрэтны эпізод, калі я звярнула ўвагу на Караткевіча. Паспрабую аднавіць тыя абставіны, у якіх апынуліся мы, тагачасныя аднакурснікі філфака Кіеўскага універсітэта. 1 верасня 1949 года пачалася наша вучоба, і было нас усіх амаль 60 чалавек. Частка з іх здавала ўступныя экзамены, там яны і перазнаёміліся. Я была ў групе медалістаў, якіх залічылі на курс без экзаменаў, і прыйшла на заняткі, нікога не ведаючы.

Нам чыталі агульныя лекцыі для ўсяго філалагічнага факультэта: славян, рамана-германцаў і іншых. Аўдыторыя — 300 чалавек, так што сярод такой масы не надта распазнаеш, хто ёсць хто. Калі пачаліся лекцыі лакальныя, тады мы крыху зблізіліся. З Валодзем я сустракалася ў нямецкай і літаратурнай групах. Не магу сказаць, што ён нечым вылучаўся сярод нас. Усе мы былі аднолькава шэранькія, за выключэннем літаральна некалькіх чалавек, больш-менш заможных. Хадзілі ў адным адзенні, елі на перапынку піражкі па 4 капейкі. Ну а паколькі паступілі пры досыць высокім конкурсе — звыш 20 чалавек на месца,— лічылася, што ўсе мы разумныя. Практычныя заняткі ў нас яшчэ не праводзіліся, і асобы таксама вызначыцца пакуль не маглі.

*— Якая была атмасфера на курсе? Грамадска-навуковы, так бы мовіць, настрой студэнтаў, выкладчыкаў? І як пачуваў сябе ў гэтым асяродку Караткевіч?*

— На жаль, стыль навучання тых часоў — а гэта, не забывайце, 1949-ы, 50-я гады — вызначалі грамадскія дысцыпліны: гісторыя партыі, дыялектычны і гістарычны матэрыялізм і іншыя, безліч семінараў. Яны не фарміравалі кругагляд студэнта. Тым больш ніякай навуковай жылкі развіць у нас не маглі. У нашым навучанні шмат было фармальнага. Я прывяду такі прыклад: мы вывучалі гісторыю СССР па праграме вышэйшай навучальнай установы, а здавалі экзамен... па школьнаму падручніку! Аказваецца, гэты прадмет не лічыўся нашай асноўнай дысцыплінай. Хаця для філолага — гісторыя з'яўляецца фонам, на якім развівалася і развіваецца літаратура.



Маштаб школьнага падручніка Караткевіча не задавальняў. Ён яго перарос яшчэ ў школе. Гэта я адразу зразумела, бо Валодзю было нецікава нават на самых цікавых лекцыях. А выкладчык — вельмі паважаны інтэлігентны чалавек, удзельнік вайны, які цудоўна ведаў свой прадмет. І ён, канечне, жадаў цішыні ў аўдыторыі і ўвагі студэнтаў. Але расказваць 300 чалавекам адразу — не так проста. Хочацца ж бачыць

і вочы слухачоў, і тое, як яны канспектуюць. Аднойчы, седзячы на такой лекцыі, Валодзя з кімсьці размаўляў, хіхікаў. А Караткевіч не ўмеў рабіць гэта ціха. Ён сваім голасам хі-хі-каў! А больш праўдзіва — каменціраваў лектара. Не кожны студэнт мог сабе дазволіць падобнае. І Валодзя дакаменціраваўся да таго, што яго паднялі і адправілі з аўдыторыі пагуляць. Добра, што выкладчык аказаўся няпомслівы і нязлосны. Ён спытаўся: «Хто вы? А, Караткевіч! Зваць Уладзімір? А па бацьку? Дык вось, Уладзімір Сямёнавіч, калі ласка, пакіньце аўдыторыю». Трэба сказаць, Уладзімір Сямёнавіч не стаў пярэчыць. Ён лагодна ўсміхнуўся, узяў свой партфель і пайшоў за дзверы. З таго часу гэты выкладчык інакш, як Уладзімір Сямёнавіч, Караткевіча і не называў. Дарэчы, вельмі цікава было б узяць Валодзеву заліковую кніжку і паглядзець, што ў яго там па гісторыі? Думаю, што пяцёрка. Выкладчык — разумны чалавек, і Валодзя як студэнт яму падабаўся. Яны тады асобна шмат размаўлялі. Валодзя да гэтага выпадку пасля не вяртаўся. Але на лекцыі па гісторыі хадзіў заўсёды. Выкладчык больш не рабіў яму заўваг, але называў не інакш, як Уладзімір Сямёнавіч! І гэта мела такі рэзананс у нашай аўдыторыі, дзе мы амаль усе былі яшчэ дзяўчынкі-хлопчыкі...

Але Валодзя не збягаў, скажам, у кіно падчас лекцый. Такога ён сабе не дазваляў. Ён мог не хадзіць на лекцыі тых выкладчыкаў, якіх ён не любіў (а было каго не любіць), альбо лічыў, што гэты прадмет не варты яго ўвагі. Напрыклад, філасофія ў перабольшанай колькасці. Сёння мы, вядома, разумеем, што такое дыялектычны ці гістарычны матэрыялізм... або тая ж палітэканомія сацыялізму... І нават не таму, што зараз усё крытыкуецца. Проста мы самі пражылі жыццё...

Валодзя, па натуры ўнікліва даследчык гісторыі жыцця, адчуваў многія рэчы глыбей, чым мы. І ўжо тады ён разумеў усю бязглуздасць надуманых навук. Караткевічу было складана, на такіх лекцыях ён нудзіўся і казаў: «Я лепш пайду ў чытальню». А за наведваннем заняткаў у нас сачылі вельмі строга, за пропускі давалі розныя спагнанні. Але наша стараста Ніна Наумава (яна, дарэчы, прайшла вайну) да Валодзі ставілася па-мацярынску. І калі на яго адсутнасць выкладчыкі не звярталі ўвагу, яна пропуск не адзначала. Аднак, я паўтаруся, Валодзя не злоўжываў сваёй адсутнасцю на лекцыях. Затое ён мог, седзячы ў аўдыторыі, намаляваць чыйсьці партрэт, напісаць верш. Скажам, у нас з ім нейкая спрэчная перамова на першай палове лекцыі — на другой гадзіне я атрымліваю ад Караткевіча свой партрэт-шарж з даравальным надпісам...

Мы на занятках шмат канспектавалі. Не хапала падручнікаў — даводзілася пастаянна хадзіць у чытальныя залы. Я ўпэўнена, што часткі канспектаў у Валодзі проста не было. Таму што ў яго ўсё трымалася ў галаве. Праўда, я тады гэтага яшчэ не ведала, не разумела, як, дарэчы, і многія іншыя аднакурснікі. Але выкладчыкі нашы, безумоўна, прыкмецілі

Валодзю з першага курса. У нас працавалі педагогі старой загартоўкі, сапраўднай прафесарскай школы: браты Маславы — Васіль і Сяргей, Аляксандр Назарэўскі. Па сваіх дысцыплінах яны задавалі нам курсавыя работы. Я магу з пэўнасцю сказаць, што 90 працэнтаў нашых студэнтаў курсавую работу проста перапісвалі з розных крыніц. І рабілася гэта фармальна. Назарэўскаму трэба — мы яму здадзім. Назарэўскі быў вельмі далікатны чалавек. Ён не мог камусьці з нас сказаць: «Мне здаецца, шаноўны, вы яшчэ не дараслі да таго ўзроўню ведаў, якія выкладзены вамі ў курсавой рабоце». І большасць гэтым карысталася. Па-сапраўднаму творча пісалі адзінкі. І сярод іх — Валодзя. Ён абавязкова павінен быў схадзіць у бібліятэку, паглядзець усю літаратуру, пачытаць, падумаць, пагадзіцца ці не з прапанаванай пазіцыяй. І яшчэ абавязкова дадаць сваё.

На такіх студэнтаў выкладчыкі, канечне, рэагавалі. Яны імкнуліся лішнюю гадзіну з імі паразмаўляць, бо самі мелі патрэбу ў інтэлектуальных субяседніках. Гэтыя людзі былі далёкія ад палітыкі, затое па прыродзе сваёй і складу розуму — сапраўдныя інтэлігенты. Сустрэчы і гутаркі з імі — найвялікшае задавальненне. Але размовы яны вялі не з кожным, хаця пазнавалі ўсіх студэнтаў нашага факультэта. Ля корпуса універсітэта сустракаеш — ён абавязкова павітаецца і прыўзніме капялюш. Перад студэнтамі іншага факультэта ён гэтага не робіць — значыць, нас усё-такі памятае. Аднак не больш таго.

Мы самі да выкладчыкаў не падыходзілі, не асмельваліся. Нам проста не хапала ведаў для размовы з імі. А Валодзю яны ўспрымалі як цікавага субяседніка. Ён таксама цаніў іх прафесійныя і чалавечыя якасці. У той час Валодзя быў яшчэ юны, празрысты, даволі часта галодненькі, але перапоўнены ўласнымі думкамі і меркаваннямі. Такіх студэнтаў старыя выкладчыкі песцілі, яны імі займаліся. І калі была б не толькі іх воля, але і ўлада, яны, канечне, рэальна дапамаглі б лепшым студэнтам у навуковай кар'еры. На жаль, такой улады яны не мелі. Таму што сістэма адукацыі тады была зусім іншая. На першым месцы стаялі грамадскія дысцыпліны, партыйнае кіраўніцтва, а потым ужо навука...

— *Існуе такая думка, што студэнту мала добра вучыцца, яму часам хочацца проста ўдачлівасці. Муза Яўгенаўна, у гэтым звязку як згадваецца вам сёння аднакурснік Валодзя Караткевіч?*

— Вяртаючыся ў думках у тое вельмі далёкае мінулае, цяпер пачынаеш разумець, а, напэўна, гэта было вось так... Мы займаліся ў асноўным у другую змену, зрэдку — у трэцюю, недзе з 14 да 20 гадзін. З раніцы звычайна сядзелі ў чытальнях, рыхтаваліся. Я не помню, каб Валодзя там бываў вельмі часта. Думаю, ён браў кнігі ў бібліятэцы і чытаў у сябе ў інтэрнаце. Валодзя умеў вучыцца спакойна, некрыкліва. І пры гэтым быў сярод першых. Наш аднакурснік Фларыян Няўважны (блізкі сябра Караткевіча, паляк), наколькі я помню, працаваў бясконца.

Ён заўсёды быў з кнігай, заўсёды чытаў. А Караткевіч?.. Не ведаю... Ён быў з партфелем...

*— Што за славуты партфель, раскажыце, калі ласка?! Я ўжо столькі чула пра партфель студэнта Караткевіча!..*

— Валодзя заўсёды хадзіў з партфелем, разумееце? Знешне ён выглядаў самым юным на курсе. Але пры сваім такім дзіцячым тварыку і markup рознакаляровых вачах Караткевіч быў высокага росту. Калі ён апранаў плашч — цела ўжо набывала нейкую вагу, нават самавітасць. І вось Валодзя ідзе. Штаны запраўлены ў боты. Плашч. У руках партфель, памойму, шараватага колеру... Калі я зараз гляджу «Дзікае паляванне караля Стаха» — у туманах, шызай смузе, мне здаецца, гэты колер суправаджаў і самога Караткевіча ў нашым студэнцтве. І пры такіх строях у яго была няцяжкая, мерная паходка. Валодзя ішоў заўсёды спакойна. Здавалася, ён заняты толькі сваімі думкамі. Але варта наблізіцца да яго, ён адразу ажыўляецца, вітае цябе ўсмешкай, абавязкова цісне руку, пачынаюцца размовы. Такім чамусьці запомнілі Валодзю ўсе нашы аднакурснікі. І калі згадваюць пра Караткевіча, кажуць: о-о-о! партфель, боты, плашч, бобачка (кашуля)... Дарэчы, ніхто не кажа, ці хадзіў Валодзя ў паліто.

*— Ніхто не памятае?*

— Не. А ўсе памятаюць плашч і партфель. Хаця ёсць фотаздымак, на якім стаіць Караткевіч у паліто з каракулевым каўнерам.

І зноў вернемся да вучобы. Калі наш Няўважны мог умудрыцца, нават седзячы ў кампаніі, прачытаць кнігу, то Караткевіч...

*— На гэта не хварэў?*

— Не. І Валодзя шмат чытаў, і Фларыян. Але Фларыяна ўсе бачылі, калі ён чытае.

*— А Караткевіча не?*

— А Караткевіча не бачылі. Я не магу растлумачыць гэты феномен. Валодзя ведаў не менш, чым Фларыян. Няўважны мог ісці па вуліцы з кнігай. Часам ён запрашаў мяне разам паабедаць, у яго меліся талоны на харчаванне ў дыетычнай сталовай. А я заўсёды брала што-небудзь з сабою. Займаемся мы ў чытальні, ён кажа: «Пайшлі сёння са мною абедаць, ёсць талоны». Адарваліся ад кніжак, пайшлі. Пакуль афіцыянтка прыносіць талеркі, я сяджу чакаю, а Фларыян... чытае кнігу. Караткевіч у такой сітуацыі...

*— Не дазваляў сабе гэтага?*

— Не, пры ўсёй сваёй захопленасці чытаннем. Што яшчэ важна? Валодзя быў добразычлівым далікатным субяседнікам.

*— Ён не падкрэсліваў сваю інтэлектуальную перавагу ў гутарках з аднакурснікамі?*

— Ніколі. Бывала, доўга ходзіш з ім, шмат размаўляеш. І раптам ён адчувае, што табе прадмет гаворкі незнаёмы. Тады Валодзя пачынае

расказваць. Прычым не павучальна, а такім тонам, быццам ён упэўнены, што табе па гэтым пытанні вядома ўсё, і ён проста дзеліцца сваімі думкамі. Валодзя шмат расказваў мне па гісторыі Беларусі. Прызнаюся шчыра, я яе абсалютна не ведала. Бо нам так выкладалі курс гісторыі СССР ва універсітэце. Мы больш вывучалі Расію, курс гісторыі Украіны нам увогуле не чыталі (і гэта, заўважце, у сталічнай ВНУ рэспублікі!). Безумоўна, хто хацеў ведаць, вучыў усё самастойна, што Караткевіч паспяхова і рабіў. Але сваімі ведамі не выхваляўся. Нават, спасылаючыся на нейкага аўтара, ён пытаўся: ты, канечне, яго помніш? А сам працягваў расказваць і тлумачыць далей. Я вам скажу, не кожнаму чалавеку дадзена такое тонкае пачуццё павагі да субяседніка, які ведае менш, чым ты.

*— Муза Яўгенаўна, ва ўсе часы студэнцкая аўдыторыя была і застаецца вельмі рознай. У ёй, як правіла, вызначаюцца пэўныя сімпатыі, а здараецца і недавер у стаўленні адно да аднаго. А яшчэ, як кажуць, за пяць гадоў вучобы ўсё можа цалкам памяняцца. Як складваліся гэтыя ўнутрыкурсавыя адносіны сярод вашых студэнтаў? Да каго быў бліжэй Караткевіч?*

— Вядома, што ў тыя гады курс афіцыйна не мог падзяляцца на нейкія групы. Грамадская думка дазваляла адзіны прынцып савецкага студэнцтва: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Але ж вы разумееце, не могуць шэсцьдзесят чалавек быць маналітам. Кожны прыйшоў ва універсітэт са сваім жыццём. Сярод нас былі і ўдзельнікі вайны, і проста «зялёныя школьнікі». Адны па-сапраўднаму апантаныя навукай, а іншыя апынуліся тут, бо трэба было пасля школы паступіць у нейкую ВНУ. Курс наш у асноўным жаночы (філалогія і ў тыя часы не была выключэннем), хлопцаў займалася ўсяго восем чалавек. І недзе к трэцяму курсу неафіцыйна ў нас ўтварылася некалькі груповак, непрыкметна для ўсіх.

Напрыклад, пяць дзяўчынак (я ў тым ліку) спявалі ў тэатралізаваным ансамблі народнай песні, які быў створаны ў 1949 годзе на нашым курсе ўдзельніцай вайны Святланай Святлічнай. З цягам часу гэты калектыў набыў статус універсітэцкага, у ім спявалі студэнты розных факультэтаў — 30—35 чалавек. Ён карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод студэнтаў. І нас, пяць аднакурсніц з ансамбля, чамусьці называлі «Саюз старых дзевак». Хаця мы ўсе сябравалі з хлопцамі, але... гэтая назва так і засталася за намі да канца вучобы.



Выдзелілася на курсе і група аднадумцаў: Валодзя Караткевіч, Фларыян Няўважны, Валодзя Хелямендзік, Валянцін Ліннік, Коля Карнаух, Юра Юрчанка і яшчэ да іх далучалася Наташа Чэпур. На курсе лічылася, што яны ўсе дужа разумныя, адукаваныя. Мала таго што пастаянна хадзілі ў чытальную залу, дык яшчэ і чыталі «што не патрэбна». Канечне, сённяшнім студэнтам шмат даступна. А ў наш час асобныя кнігі класіфікаваліся як «ідэалагічна няправільная літаратура», і знайсці іх было

няпроста. Таму, калі адзін даставаў — чыталі ўсе. А потым абмяркоўвалі глыбока, па-філасофску, дакопваючыся да сутнасці. Гэта, сапраўды, была моцная інтэлектуальная група нашага курса. Яны на ўсе пытанні мелі свой незалежны погляд.

Некаторыя з іх самі спрабавалі пісаць: Валодзя Караткевіч, Валянцін Ліннік, Валодзя Хеляндзік і іншыя. Аднак ніхто, акрамя Караткевіча, не друкаваўся. Зрэшты, Валянціна з Валодзем ядналі роднасныя творчыя душы, абодва пісалі і вершы, і прозу. Яны падоўгу абмяркоўвалі літаратурныя праблемы на перапынках, у курыльні. Валодзя, калі яго на якой-небудзь імпрэзе прасілі пачытаць,— рабіў гэта з задавальненнем. Валянцін адмаўляўся. Караткевіч, мне думаецца, не чакаў нейкага нашага прысуду, яму проста патрэбны быў слухач. Ён не мог сваё напісанае кудысьці схаваць, не паказаць нам. Валодзя Хеляндзік піша і зараз. Чалавек высокай маралі і прынцыповасці, з вельмі складаным лёсам. Калі выйшаў Поўны збор твораў Караткевіча, я прынесла кнігі Хеляндзіку. Ён прачытаў цалкам, прааналізаваў і сказаў мне: «Якая глыбіня!» А пасля ўсё бедаваў, чаму гэтай глыбіні ён не распазнаў у Караткевічу яшчэ ва універсітэце...

Я, магчыма, яшчэ раз паўтаруся, але, на самай справе, мы, аднакурснікі, шмат чаго ў Валодзі не прыкмецілі, не разгледзелі, не зразумелі. Усё ўспрымалася чамусьці несур'ёзна, жартам. Ці маглі мы тады дадумацца, што вучымся разам з будучым пісьменнікам Уладзімірам Караткевічам?.. Канечне, не... Хто рыхтаваў сябе ў педагогіку, хто ў навуку. Але ідэалагічная атмасфера курса, факультэта, як лакмусавая паперка, праяўляла адносіны людзей, вызначала іх ўчынкі.

— *І, мусіць, не так проста было вам, студэнтам 50-х, разабрацца на той час у каштоўнасцях сапраўдных і надуманых? І гэта таксама ўплывала на вашы ўзаемаадносіны? Як паводзіў сябе Караткевіч?*

— Я вяртаюся на першы курс. Усе мы былі камсамольцы — а як інакш? І з самага пачатку вучобы пачалі вылучацца актыўныя, пасіўныя... Не магу сказаць, што Караткевіч быў актыўным камсамольцам. Але актыўным каментатарам на сходах — так. Ён пастаянна пакепліваў з іх уяўнай сур'ёзнасці. Аднак, калі яго прасілі зрабіць нешта канкрэтнае, ён не адмаўляўся. Капаць грады? — Калі ласка. Цэглу цягаць? — Калі ласка. Мы самі разбіралі разбураную ў час вайны частку будынка універсітэта. Часам ездзілі і на нядзельнікі. У нас не прынята было казаць: «Я хворая, у мяне даведка». Мы працавалі ўсе разам і не падзяляліся на сваіх і чужых.

Помню, ездзілі ў Пушчу, гэта ля Кіева, саўгас «Вінаградар». Дабіраліся на трамваі, цесна стоячы, бо нас шмат. І праз усю дарогу — жарты, анекдоты, прымаўкі. Голас Караткевіча чуваць гучней за іншых. Прыходзілася і траншэі капаць, і вінаград збіраць, а пасля з апетытам есці.

Валодзя быў добры работнік, і еў ён таксама добра. Але, што цікава, пісаць артыкулы пра тое, як прайшоў камсамольскі суботнік...

— *Караткевіч не мог?*

— Не мог і ніколі гэтага не рабіў. Валодзя ўжо на першых курсах разумеў больш, чым мы. Ён нутром адчуваў, што грамадства ідзе не туды, шмат робіцца не так. Я помню, як на пятым курсе пачалося масавае ўступленне ў партыю. З шасцідзесяці чалавек больш за дзесяць сталі членамі КПСС. Вы ж разумееце, якое значэнне на той час мела партыйнасць для выпускнікоў ВНУ. І ў нас праходзілі вельмі бурныя сходы. Рэкамендацыі абмяркоўваліся на поўным сур'ёзе, асобнымі студэнтамі — надзвычай прынцыпова. Паміж аднакурснікамі ўзнікалі нават канфлікты. Афіцыйна найперш улічвалася, які з цябе грамадскі дзеяч, а пасля ацэньваліся твае якасці як будучага спецыяліста. У вызначэнні прыстойнасці тых асоб, каго вылучалі ў кандыдаты партыі, таксама меліся вялікія разыходжанні. Таму дэбаты нашы часта зацягваліся да глыбокай ночы. Мы перавыбралі, зрэшты, камсамольскага групорга, якога толькі што абралі,— тым самым парушылі статут, бо нават не папярэдзілі камітэт камсамола універсітэта.

Я што гэтым прыкладам хачу падкрэсліць? Супрацьдзеянне той палітычнай сістэме ў нас к 5-му курсу, канечне, сфарміравалася. Але не ва ўсіх, а ў такіх, як Караткевіч. Ужо тады вызначылася ў Валодзі прынцыповая лінія паводзін: я яго не паважаю, я з ім не кантактую, я з ім не размаўляю. Не ў сэнсе — пайду і адвярнуся, проста — ён мне нецікавы. І з таго часу такая лінія паводзін у Валодзі засталася. Я маю на ўвазе не пісьменніцкі асяродак у вас на Беларусі ці іншых яго знаёмых, а аднакурснікаў. Я не магу сказаць, каб ён кагосьці да такой ступені неўзлюбіў, што не хацеў з ім нават убачыцца. Ён увогуле, на маю думку, быў чалавекам вельмі назіральным і праніклівым, але не настолькі гарачым, каб адразу выказаць першае ўражанне пра новага знаёмага. Ацэнка чалавечых якасцей фарміравалася ў яго паступова, на падставе фактаў. І, мусіць, Валодзя ў людзях мала памыляўся. З яго студэнцкіх сяброў на паверку ў далейшым жыцці ўсе засталіся добрымі людзьмі. Сярод іх не аказалася здраднікаў.



— *Муза Яўгенаўна, што ўсё ж было галоўным для Караткевіча падчас вучобы ва універсітэце? Што ратавала яго ў фальшывым ідэалагічным асяроддзі, якое ён адчуваў, як вы самі казалі, больш абвострана, чым іншыя?*

— У Валодзі ў студэнцтве не было роўнай гладкай дарогі. Але нельга назваць яго студэнцкае жыццё і канфліктным. Думаю, што ў тыя часы Валодзю ратавала навука. Ён паглыбляўся ў старажытнасць, фальклор. Нам нядрэнна выкладалі гэты прадмет. Але спецыяльна для сябе ніхто, акрамя Караткевіча, яго не вывучаў. Для Валодзі гэта было жыццё

народаў, асобных постацей. Пазней, рыхтуючыся да паступлення ў аспірантуру, ён пісаў тры рэфераты, і два з іх, трэба адзначыць, звязаны з фальклорам: «Казкі пра паноў у рускім фальклоры», «Анчар» А. С. Пушкіна і «“Дрэва смерці” ў беларускім фальклоры». Ён тады сам збіраў фальклор, вывучаў, аналізаваў, перажываў разам з героямі фальклорных твораў. Ужо на той час ён пачаў супастаўляць фальклор рускі, украінскі, беларускі. Часта на нашых імпрэзах пераказваў асобныя рэчы. Аднак успрымалася гэта зноў жа як... дзівацтва, ці што.

*— Несур’ёзна?*

— Ім сур’ёзна, намі — не. Мы казалі: «Яму, мусіць, рабіць няма чаго». Разумееце, гэта стыль такі быў. Калі мы паступілі ва універсітэт, думка пра навуку як далейшы наш лёс займала нямногіх. Наўрад ці і Караткевіч марыў пра навуку як пра кар’еру. Тое прыйшло пазней. Але ім заўсёды кіравала цяга да ведаў глыбокіх і дасканалых. Помню, латынь ва ўсіх нас выклікала цяжкасці, старажытныя мовы — асаблівыя пакуты. Але каб Валодзя што-небудзь пераздаваў з такіх прадметаў, як літаратура, мовы? Ніколі нічога падобнага не здаралася. Ці яшчэ прыклад. Нам па літаратурах спісы твораў давалі такія, што прачытаць іх нават фізічна мы не паспявалі. Таму напярэдадні экзамена, скажам, па замежнай літаратуры, мы збіраліся і пераказвалі адно аднаму асобныя рэчы — хто што паспеў прачытаць. Валодзя ў такіх курсавых «кансультацыях» ніколі не ўдзельнічаў. Яму не шкада было падзяліцца з намі сваімі ведамі, але і патрэбы слухаць іншых не ўзнікала. Ён да гэтай праблемы ставіўся зусім інакш: варта чытаць усё самому, каб ведаць, а не проста здаць экзамен.

Аднак зноў жа існавалі розныя тонкасці. Не кожнаму выкладчыку падабалася самастойнасць студэнтаў, іх уласны погляд па многіх пытаннях. Дарэчы, у нас пастаянна працавалі навуковыя гурткі. Многія пачыналі іх наведваць і хутка кідалі. Караткевіч там прыжываўся. Ён займаўся ў прафесара А. Назарэўскага, які вельмі высока ацаніў яго як студэнта. На курсе, між іншым, хапала выдатнікаў. Для некаторых павышаная стыпендыя была асноўным сродкам існавання. Але пры гэтым большасць сваё выдатна проста «вызубрывалі». І толькі такія, як Валодзя, імкнуліся атрымаць максімум ведаў, хаця Караткевіч і не ўваходзіў у кола пастаянных выдатнікаў курса, таму што ў яго быў свой падыход да універсітэцкай праграмы навучання студэнтаў.

Я хачу яшчэ сказаць, што сярод нашых аднакурснікаў, хто збіраўся пасля вучобы ісці ў навуку, вылучаліся дзве катэгорыі. Першыя бачылі ў гэтым кар’еру, пэўны сацыяльны статус і г. д. А для другіх — навука дзеля навукі: набыццё новых ведаў, пашырэнне кругагляду, магчымасць яшчэ больш чытаць і даследаваць. У свой час аспірантура для Валодзі, канечне, вырашыла б шмат праблем. Але гэтым займаўся партком,

нават не кафедра. Ён засядаў вясною, яшчэ да абароны нашых дыпломаў, дзяржаўныя экзамены мы не здавалі. І ўжо тады было зразумела: такія, як Валодзя, як Фларыян, калі яны пойдуць у навуку, будуць сур'ёзна ёю займацца, гэта, сапраўды, іх стыхія. На жаль, усё вышэйсказанае нікога не цікавіла. Караткевіча немагчыма было рэкамендаваць у аспірантуру, таму што не член парткома, не член камітэта камсамола, і тата з мамай не займаюць адпаведных пасад... Нават тыя ж Маслаў і Назарэўскі не здолелі яму дапамагчы. Ад нашых прафесараў тут нічога не залежала...

*— Муза Яўгенаўна, на вашу думку, цікавасць Уладзіміра Сямёнавіча да гісторыі на той час у чым праяўлялася?*

— Я сказала б так: гісторыя для яго — жыццё, у якім некалі людзі таксама думалі, кахалі, змагаліся, верылі ў пэўныя ідэалы. Але час мінуў, і рукамі да гэтага цяпер не дакранешся — трэба вывучаць, аналізаваць. Разам з тым варта помніць, што і тваё асабістае жыццё з цягам часу ператворыцца ў гісторыю. Валодзя адчуваў сябе сведкам і дзеючай асобай гісторыі адначасова.

Мусіць, гэтым можна патлумачыць і яго даволі рызыкоўную паездку ў Маскву, на пахаванне Сталіна. То была не пустая цікавасць чалавека: усе едуць, паеду і я. Ён па-свойму ўспрыняў смерць Сталіна, і я, напрыклад, не здзівілася, калі даведалася, што Караткевіч паехаў. Забаронена, нельга, а ён паехаў. Але, праўду кажучы, ацаніла я гэты ўчынак значна пазней. Хаця і добра ведала Валодзю, аднак разуменне таго, што ён асоба неардынарная, прыйшло не адразу. І, калі на яго вяку дзеецца гісторыя, ён павінен бачыць, чуць, сам удзельнічаць. Пасля той паездкі ў Маскву яго выклікалі ў партком. На шчасце, усё закончылася добра. А маглі выключыць з універсітэта... Тады на курсе ўсе дзівіліся: «Чаго цябе туды панесла? Сядзеў бы спакойна на месцы». А ў ім усё бурліла. У ім ужываліся гістарычная інтуіцыя і навуковая скрупулёзнасць. Ён вывучаў усё дэталёва, падрабязна, аднак ніколі не казаў, напрыклад, што павінен вывучыць XVII стагоддзе, бо хоча напісаць раман. Гэта было яго жыццё. Ён не мог не вывучаць...

*— Вы неяк казалі, што на вашым курсе вучыліся два палякі, адзін албанец...*



— ...і адзін беларус.

*— І адзін беларус. Што сведчыла пра беларускасць Караткевіча? Ваш факультэт рускай філалогіі, універсітэт Кіеўскі, час пасляваенны. Здавалася б, нішто не садзейнічала выяўленню нацыянальнага. Але чаму менавіта вобраз беларуса застаўся ў памяці аднакурснікаў?*

— Гэта вельмі цікавае пытанне і для мяне самой. Калі мы паступілі, ні пра якую нацыянальнасць не было і гаворкі, не надавалі таму ніякага значэння. Палякаў і албанца заўважылі адразу як іншаземцаў. Пра

астатніх увогуле не казалі, хто ёсць хто. Але тое, што Караткевіч — беларус, было вядома ўсяму курсу. Чаму? Ён жа спецыяльна нічога не рабіў дзеля гэтага. Мы экзамены па ўкраінскай мове і літаратуры адказвалі па-ўкраінску, астатнія прадметы і вывучалі і здавалі на рускай мове, побытавая гаворка — таксама руская. Аднак Валодзя штодзень карыстаўся беларускімі словамі, зваротамі, прымаўкамі. Гэтае неназойлівае ўжыванне роднай мовы і падкрэслівала яго нацыянальную прыналежнасць. А калі мы збіраліся на нашы вечары адпачынку, святочныя застоллі — тут ужо Караткевіча з яго беларускімі песнямі, вершамі, расповедамі можна было слухаць бясконца. Дарэчы, у тыя часы мы ўпершыню пачулі яго знакаміты верш «Заяц варыць піва». І тады ж Валодзя падарыў мне свой рукапіс (я перадала яго ў народны музей У. Караткевіча СШ № 3 г. Оршы). Відаць, нацыянальны пачатак быў такім моцным у Валодзі, што ўсе мы адчувалі яго беларускасць.

Неяк у адной з прац я прачытала, што Караткевіч ніколі нічога не пісаў па-руску. Гэта не так, у мяне ёсць верш, прысвечаны мне, на рускай мове. А вось на ўкраінскай я, сапраўды, нічога ў яго не сустракала. Хаця ён добра ведаў і ўкраінскую мову, і ўкраінскую літаратуру, спяваў шмат украінскіх песень. Ён, між іншым, ніколі не звяртаў увагі, на якой мове чалавек размаўляе. І мне ён таксама не казаў: «Муза, ты — украінка. Чаму ты размаўляеш па-руску?» Такога не было. Але пры гэтым Валодзя здолеў «паднесці» сябе як беларуса вельмі тонка і тактоўна. Усе гады нашай вучобы ў ім жыло асаблівае адчуванне свайго народа і сваёй мовы. І калі зараз спытацца ў нашых аднакурснікаў, што яны могуць згадаць пра Караткевіча, спачатку адкажуць: хлопец з Беларусі быў... потым усё астатняе. Вось што вельмі цікава. А як гэта атрымалася?.. Бо ніхто ж не скажа, напрыклад, пра мяне: а, Залеўская — украінка. Не. Хутчэй адзначаць: імя ў яе рэдкае — Муза, можа, яшчэ ўспомняць, што спявала ў ансамблі. Але пра тое, што я — украінка, ніхто не абмовіцца. Затое ўсе гавораць, што ў нас на курсе было два палякі, адзін албанец і адзін беларус.

— *Што вы можаце сказаць пра асаблівасці характару вашага аднакурсніка Валодзі Караткевіча? Ён прыкметна змяніўся як асоба к канцу універсітэцкай вучобы? Ці адбіваліся тыя перамены на яго ўчынках?*

— Ведаеце, усё, што я вам зараз кажу, — гэта, канечне, сённяшняе маё светаадчуванне. Тады над многім мы проста не задумваліся, не акцэнтавалі сваёй увагі. Я толькі на пятым курсе навучылася ацэньваць людзей, распазнаваць у іх адносінах справядлівае і несправядлівае. Валодзя ж гэтую праўду-няпраўду адчуў адразу. Ён стараўся быць аб'ектыўным. Бывала, ва ўзаемаадносінах з ім узнікалі складанасці. Яго было цяжка пераканаць. Ён мог сказаць гучна, рэзка...

— *Уголас, пры народзе?*

— Так. У гэтым праяўляліся яго характар і погляды на тое, што адбывалася. Але ён ніколі не зводзіў рахункаў са сваімі «праціўнікамі» ці апанентамі. І пры ўсёй сваёй, скажам, нелюбові да каго-небудзь (аднак і нельга ж усіх любіць!) ён ніколі нікому не рабіў паскудства, не займаўся плёткамі. Ён прыйшоў да нас на курс хлопчыкам — мы яго так і ўспрымалі, — а яго душа сталела вельмі хутка.

Між іншым, ён шмат пісаў і маляваў у студэнцтве. Але не ўсім дасталіся яго вершы, пісьмы ці малюнкі. Тут ён таксама інтуітыўна выбіраў адрасата. Гэта вельмі цікавы працэс. Я сёння добра разумею, што Валодзя сталеў унутрана, сталеў розумам. І, магчыма, на курсе ён не знаходзіў вартага яму асяродка. Цяпер думаеш, вось каб тады побач з ім аказалася больш інтэлектуалаў — ён бы, канечне, расцвіў і раней, і мацней... А так... Пашанцавала, безумоўна, на Няўважнага, Лінніка, Хеляменадзіка. Яшчэ, дарэчы, Коля Карнаух. Іх з Валодзем называлі Пат і Паташон. Абодва вельмі розныя, часам ідуць з інтэрната: Коля чорны, лоб нізкі, па натуры замкнёны, усміхаецца рэдка, а Валодзя ўсміхаецца пастаянна — галодны ці пад'еўшы, але ўсміхаецца...

Караткевіч быў горды чалавек. І вельмі важна было для яго захаваць пачуццё ўласнай годнасці, унутраную раўнавагу і ўпэўненасць. У сітуацыі з аспірантурай, я думаю, яго ўсё-такі абражала, што туды лезуць усялякія невукі, а ён вымушаны ехаць па размеркаванні ў вясковую школу. Яму было крыўдна за сябе. Але чым больш ён займаўся самаедствам, тым больш працаваў. Пра тое ж сведчыць і яго пазнейшае прымацаванне да кафедры, і пачатак дысертацыі.

А пакуль Валодзя паехаў у Лесавічы. І, я вам скажу, ён не разглядаў сваю настаўніцкую працу як прыступку ўніз ці як што-небудзь непатрэбнае. Валодзя да любой з'явы жыцця ставіўся з вялікай дапытлівасцю. І, як чалавек, які думае і разважае, ён у той вёсцы знаходзіў...

— *...безліч вартага і займальнага?!*

— Неймаверна! Ён апісваў сваіх гаспадароў і вучняў у пісьмах, яшчэ і малюнкі досыць выразныя рабіў. Па натуры Караткевіч — вялікі жыццялюб, яго ўсё вельмі цікавіла... Канечне, творчай душы патрабавалася прызнанне. Яно прыйшло не адразу... Валодзя часта не пагаджаўся з тым, што адбывалася, але ніколі не вымольваў сабе літасці. Толькі заслужаная адзнака, нават калі яна і жорсткая, і рэзкая. А трэба сказаць, у нашы студэнцкія гады менавіта прынцып «па заслугах» вельмі часта парушаўся. І Валодзя быў непрымірымы ў такіх выпадках. Гэта асабліва стала відавочна к канцу вучобы, калі маральна мы пасталелі. Валодзю, як нікому, прыходзілася складана. Але ён ніколі не скардзіўся. Ні на што. Ён абураўся, ён пратэставаў, але ён не рабіў з сябе пакутніка.

*— Мне здаецца, час студэнцтва абвастрае ўспрыняцце многіх рэчаў, тым больш — атмасфера іншага горада. Муза Яўгенаўна, вы можаце сказаць, чым быў для Караткевіча Кіеў тых часоў? Як адчуваў ён ваш родны горад, як уваходзіў у яго?*

— Па-першае, для Валодзі горад не быў новым, бо ён ведаў Кіеў раней. Жыў тут трохі ў час вайны ў сваёй цёткі. Па-другое, вайна ператварыла Кіеў у руіны, на Крашчаціку захаваўся адзін дом. І на нашых вачах усё адбудоўвалася. Мы самі ўдзельнічалі ў гэтых работах. Пачаў нарэшце хадзіць транспарт — трамваі, тралейбусы. Але ваенныя гады па-ранейшаму нагадвалі пра сябе: знаходзілі міны, снарады, ныла сэрца па загінуўшых. Усе недаядалі, не хапала грошай. Стыпендыю атрымлівалі маленькую. І ўсё ж такое эмацыянальнае ўзрушэнне не перашкаджала Валодзю глядзець у глыб гісторыі. З першага курса ён зацікавіўся кіеўскай старажытнасцю. Я думаю, на гэта станоўча паўплываў яшчэ і цудоўна прачытаны нам курс па старажытнарускай літаратуры. Пасля, у адным са сваіх лістоў нашаму выкладчыку Назарэўскаму, Валодзя пісаў, што сапраўдны мастак, які адчуў хараство старадаўнасці, ніколі не зможа з ёю расстацца. А калі не здолее яго заўважыць і ацаніць — не зможа быць сапраўдным мастаком.

Любімым месцам Валодзі была Кіева-Пячэрская лаўра. Гэта для яго святая святых: найстаражытная кропка горада і абсалютная дасканаласць архітэктуры. У час нашага студэнцтва яе не пераўтварылі яшчэ ў музей-запаведнік, яна дзейнічала як мужчынскі манастыр. Пячоры дагледаліся манахамі. І хадзілі яны са свечкамі і расказвалі, вядома, не так, як праз дзесяць гадоў рабілі гэта савецкія экскурсаводы (за рэдкім выключэннем). Экскурсійная служба ў Кіеве ўвогуле арганізавалася даволі позна. А ўжо экскурсіі гістарычныя, літаратурныя, напрыклад, пра Булгакава ці Урубеля, з такімі аб'ектамі, як Кірылаўская царква і іншыя, пакуль і не прадбачыліся. Усё даводзілася вывучаць самастойна. Валодзя пешшу абышоў (і не раз!) самыя славутыя мясціны.

Кіеў тады ўспрымаўся намі хутчэй як сталіца рэспублікі, а не як маці рускіх гарадоў. Больш таго, яго адносілі да перыферыі. Затое Кіеў захапляў сваім ландшафтам: узгоркамі, паркамі. Дзівосны Дняпро з востравам пасярэдзіне, куды звычайна перапраўляліся на баржы. Там былі пляжы, дзе студэнты ў летнюю сесію рыхтаваліся да экзаменаў. У Валодзі вельмі шмат здымкаў на фоне прыроды і зусім мала з архітэктурным пейзажам. Ён вельмі часта бываў на Уладзімірскай горцы, любіў хадзіць у парк насупраць універсітэта і не раз там фатаграфаваўся. Але не побач з фігурай Тараса Шаўчэнкі, а сам па сабе, ля дрэваў. Пазней, безумоўна, у Валодзі сфармаваліся пэўныя адносіны да Кіева, звязаныя з канкрэтнымі людзьмі, з вучобай, з выданнем сваіх твораў на Украіне, з нейкімі асабістымі ўспамінамі. Тут у яго было і засталося шмат сяброў.

*— Цікава, а Кіеў, як гістарычны цэнтр, як пачатак Старажытнай Русі — гэта займала тады Караткевіча, згадвалася неяк у яго размовах?*

— Менавіта Кіеў як цэнтр Русі, думаю, на першых курсах — яшчэ не, хутчэй, Старажытная Русь сама па сабе. Бо тады на лекцыях, семінарах у нас не паўставала пытанне: што першаснае? Кіеў ці Масква? І гэта цэнтр Русі ці Украіны? Мы вывучалі «Слова пра паход Ігаравы» па рускай літаратуры і па ўкраінскай. А пра нацыянальную прыналежнасць гэтага помніка прыгожага пісьменства размова не ішла. Мы жылі ў Савецкім Саюзе. Многія нават думалі, што гадоў праз дзесяць—пятнаццаць мы аб'яднаемся з палякамі, чэхамі, балгарамі і г. д. і ўтворыцца вялікая квітнеючая дзяржава. Нас тады вельмі захапляла і мацавала перамога ў Другой сусветнай вайне. І сагравала гэтую надзею наіўная вера маладосці ў дабро і справядлівасць на ўсім зямным шары, а не толькі ў адной асобнай краіне.

Я ад Валодзі ніколі не чула такіх разважанняў, што Кіеў — пачатак усяму. У яго, хутчэй, было гістарычнае ўспрыняцце Кіева. Мы ж тады не хадзілі самі ва Уладзімірскі сабор ці яшчэ куды. Такі быў час — наскрозь атэістычны. Хаця курс атэізму не ўваходзіў у нашу універсітэцкую праграму, ён з'явіўся пазней, але мы былі народжаны атэістамі — неадукаванымі і ваяўнічымі. І, напрыклад, ва Уладзімірскі сабор ісці — позіркі скоса: а чаму? Можа, веруючы? А калі веруючы — ужо не чалавек. Таму Валодзя пра ўсе свае паходы не вельмі расказваў. Аднак я ведаю, што Кіева-Пячэрскую лаўру ён прайшоў удоўж і ўпоперак. Бываў ён у Сафійскім і Уладзімірскім саборах, ведаў гісторыю кожнага будынка. Акром пісьменніка і мастака ў ім жыў яшчэ і гісторык — глыбокі, эрудзіраваны.

А мы любілі Уладзімірскую горку і яшчэ адну горку, таксама над Дняпром, ля філармоніі, — гэта традыцыйныя месцы прагулянак нашага курса. Мы блукалі па ніжнім парку абавязкова ў лістапад, а на пачатку навучальнага года 2 ці 3 верасня хадзілі на схіл Дняпра і на выставу кветак. Усе пяць гадоў нашай вучобы ў гэтыя дні стаяла надзіва цёплае сонечнае надвор'е. Я, напрыклад, не помню, каб мы раптам сабраліся і пайшлі курсам ва Уладзімірскі сабор ці ў Сафію. Валодзя гэта рабіў адзін. Толькі я ніколі не заўважала ў яго настрояў пракіеўскіх, не. Мне здаецца, ён гэта ўспрымаў, як гістарычныя факты: і Старажытную Русь, і Кіеў, і хрышчэнне Русі, і ўсё астатняе... Разуменне старадаўнасці прыносіла яму асалоду. Ён, мусіць, часта адчуваў сябе ў тых далёкіх часах...

*— Лірызм ці лірычнасць Караткевіча — чым вам сёння прыпамінаецца? Скажам, як адчуванне жыцця, як распазнаванне характараў, як тлумачэнне асобных учынкаў, а магчыма, патрэбнасць яго душы ў адносінах з іншымі? Свой камертон у гэтым свеце...*

— Лірызм?.. Можна гаварыць пра лірызм увогуле альбо пра той, які ўласцівы некаму канкрэтна. Караткевіч быў лірыкам, напрыклад, у адносінах да прыроды. Ён мог гаварыць пра лісце, як яно ляціць, шамаціць — ты паглядзі толькі! — бясконца. Ён «чытаў» любую пару года, разумееце! У адносінах да людзей?.. Не заўсёды і не да кожнага. Яго лірыка — пэўны стан душы ў пэўны перыяд. Але нельга сказаць, што на лекцыях сядзеў лірык. Не. Валодзя бываў розны і ўсякі. Аднак душа яго вылучалася мяккасцю. Лірызм яго больш праяўляўся да аднакурсніц. Я, між іншым, ні разу не чула, каб Валодзя каму-небудзь з нашых дзяўчат за пяць гадоў вучобы нахаміў. Ён пры выпадку маляваў, пісаў вершы. Я не сцвярджаю, што гэта — анёл з крылцамі, не. Характар упартага чалавека часта тырчаў з-пад яго шавялюры, бобачкі, нават з партфеля... Але засталося адчуванне цёплых і добразычлівых адносін да нас. Калі збіраліся студэнцкія кампаніі, ён не чытаў нешта патрыятычнае. З Валодзевай душы струменіліся яго пяшчотныя лірычныя вершы, яго вельмі меладычныя апавяданні.

Асабіста мне падабалася, як і што ён чытаў па-беларуску. Так гаварыць мог не кожны. Напрыклад, у Няўважнага — стыль больш рэзкі, абрывісты. У Валодзі лірычнасць адбівалася нават у тоне. Вядома і іншае: ён мог сказаць так, што трэсліся сцены. Але па сваёй прыродзе Валодзя быў усё ж лірыкам. І яго беларускае «гэта» я помню да сённяшняга дня. А з цягам часу, безумоўна, лірызм Караткевіча выявіўся ў творчасці. У яго цудоўная прырода, чыстае і высокае каханне, высакародства ў душах герояў...

Мне згадваецца, як Валодзя прыходзіў да мяне на дні нараджэння. Гэта вясна, красавік. А жылі мы ў сваёй хаце, пад вокнамі — сад. І я толькі пасля, пабываўшы ў Оршы, зразумела, што яму ўсё гэта нагадвала бацькоўскі дом. Яго душа, якая фармавалася на прыродзе, адпачывала ў нас, цешылася блізкім ёй асяродкам. Аднойчы ў такі дзень увесь сад бялеў — зацвілі яблыні. Было надзвычай прыгожа. І назаўтра я атрымала ад Валодзі верш, вельмі чулліва і лірычны. Нейкі час я займалася музыкай. І мы з ім прыходзілі ў парк, ён садзіўся на лаўку і чакаў мяне. А я ішла ў дом насупраць на заняткі. Ён чамусьці сядзеў менавіта ў парку, а не ў двары, сярод дрэваў, травы і кветак. Магчыма, гэта таксама было патрэбай яго лірычнай душы. Пасля маіх заняткаў, зноў жа праз парк, мы вярталіся разам ва універсітэт. Акрам таго, мне здаецца, усе студэнцкія гады Валодзю не хапала сям'і, мамы. Ён жыў спачатку ў цёткі, потым у інтэрнаце, а яму хацелася цёплага хатняга асяродка. Калі ён прыходзіў да нас, то адчуваў сябе лёгка і проста. А тут яшчэ — сад. Таму душа яго і спявала. Яму падабаліся мае бацькі. Цяпер, калі гэта прыгадваеш, чытаеш творы Караткевіча — разумееш: такая яго прырода. Ён лірык, без усялякіх сумненняў.

*— Тым не менш, Муза Яўгенаўна, гэта быў сапраўдны мужчынскі характар, і на ваша ўспрыманне яго як аднакурсніцы, і па-нашаму ўражанню як чытачоў яго твораў. Чым можна патлумачыць мужнасць Караткевіча? З чаго яна складалася і як утрымала яго ў жыцці?*

— Я лічу, мужчынскі характар і мужнасць Караткевіча найперш праяўляліся праз яго бескампраміснасць. Гэта чалавек, які яшчэ ў 1949 годзе зялёненькім юнаком меў на ўсё свой погляд. Валодзя быў гатовы нават да пакарання за свае прынцыпы. І з гадамі гэта не прайшло, а толькі ўмацавалася. Калі б ён быў іншым — раней пачалі б друкаваць і часцей. Не інкрымінавалі б у 1963 годзе «фармалістычныя выкрутасы», «абстрактны гуманізм» і пацыфізм і не рассыпалі б набор рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі».

Па-мойму, мужнасць Валодзі — гэта не фізічны аспект жыцця чалавека, а маральны. Яго шлях, і жыццёвы, і творчы, не быў лёгкім. Але ён заўсёды захоўваў годнасць, працягваў працаваць і спадзявацца. Ён не мог здрадзіць сабе і трымаўся сваёй цвёрдай прынцыповай лініі. Напрыклад, можна сесці ў самалёт, высока ўзняцца, а потым скокнуць. І дзеля гэтага таксама патрэбна мужнасць. Валодзю мужнасць патрэбна была, каб выжыць. Таму што ў жыцці магло здарыцца інакш, не так мог скласціся яго лёс, як склаўся...

*— Пасляуніверсітэцкія сустрэчы вашага курса як часта надараліся? Ці прыязджаў на іх Караткевіч? І ці мянялася з гадамі думка аднакурснікаў пра яго асобу?*

— Я павінна вас засмуціць. На курсе ніхто нічога не гаварыў спецыяльна пра Караткевіча. Пасля вучобы мы ўсе, як грамадзяне сваёй краіны, раз'ехаліся па размеркаванні. Потым паступова сталі вяртацца ў Кіеў. Валодзя, адпрацаваўшы два гады ў Лесавічах, паехаў дадому, у Беларусь. Я год працавала ў Кіеўскай вобласці, выйшла замуж і потым жыла ў Запаляр'і і Архангельску. На нейкі час наша «курсавое жыццё» замерла. Ва ўсіх з'явіліся свае новыя клопаты і праблемы. Але пазней мы зноў сабраліся і перыядычна сустракаемся па сённяшні дзень.

Валодзя не заўсёды трапляў на нашы сустрэчы. Часцей на іх збіраліся кіяўляне і тыя, хто жыў бліжэй, на Украіне. Калі расказвалі, што Валодзя друкуецца, — тое абсалютна спакойна ўспрымалася большасцю. І толькі нямногія праяўлялі, я б сказала, «раўнівы» інтарэс: дзе друкуецца? Што друкуе? А цікавасць астатніх — на агульным узроўні: дзе Юрчанка? А Лінік? А Караткевіч? У Мінску? Жанаты? Кватэра ёсць? — такая жыццёвая інфармацыя. І толькі пазней, калі Валодзя стаў прызнаным пісьменнікам, канечне, сталі пытацца. Але зноў жа павінна зазначыць, што пачытаць...

*— Ніхто не прасіў?*

— Прасілі, але не ўсе. Караткевіч выдаваўся ў нас на ўкраінскай мове. Курс па-ўкраінску не чытаў. Мы па спецыялізацыі — русісты, і

таму прасілі ў мяне выданні на рускай мове. І гэта ўжо, сапраўды, была цікавасць да пісьменніка Караткевіча, а не проста да аднакурсніка Валодзі Караткевіча. Дзівіліся, радаваліся, па-добраму зайздросцілі.

*— Можа, вы згадаеце што-небудзь з асабістых сустрэч? У сяброў звычайна свае адносіны, і час, як правіла, паглыбляе іх. Выяўляе сутнаснае і змятае павярхоўнае...*

— Я падтрымлівала роўныя адносіны са сваімі аднакурснікамі, але сябравала не з усімі. Проста камусьці сімпатызавала больш, камусьці менш. Таму сустрэчы нашы пасля вучобы таксама былі розныя і неаднолькава цікавыя, што абсалютна натуральна. Добрыя сяброўскія адносіны з Валодзем у мяне і маёй сям'і захоўваліся да апошніх яго дзён. Разладаў не было. Мы, здаралася, падоўгу не пісалі, не бачыліся з-за нейкіх абставін, але пасля наганялі. У яго, трэба сказаць, сяброў заўсёды было шмат. У студэнцтве ён сімпатызаваў розным дзяўчатам і балюча перажываў промахі і няўдачы. Але яго генеральная лінія — вучоба — яму ўдавалася і надта паспяхова.

Калі згадваць храналагічна, першы раз пасля універсітэта мы сустрэліся ў канцы лістапада 1955 года ў цягніку Кіеў—Сталіна (цяпер Данецк). Сустрэча выпадковая, але маральна яна мяне вельмі падтрымала. Мне было цяжка працаваць у вёсцы: прыгнятаў быт, раздражнялі дрэнныя веды вучняў. Я аказалася ў калектыве лішняй: настаўніца, на месца якой мяне размеркавалі, перадумала ісці на пенсію. Завуч школы, чалавек вельмі абмежаваны, спрабаваў мяне «загрызці». І я старалася на выхадныя дні ездзіць да бацькоў у Кіеў. Аднойчы, вяртаючыся ў Карапышы, ноччу ў тамбуры цягніка я нечакана для сябе ўбачыла Валодзю. Ён таксама быў у Кіеве па аспіранцкіх справах, а цяпер ехаў зноў у свае Лесавічы. Помню першыя словы Валодзі: «Як ты? Дзе ты жывеш? А што тата з мамай?» Потым, канечне, мы сталі дзяліцца ўражаннямі пра сваю новую працу. Але то не была прафесійная размова: методыка выкладання, навучальныя планы і г. д. Проста сустрэліся два аднакурснікі, два блізкія чалавекі і кожны хацеў зразумець другога: як ён сябе адчувае ў новым асяродку, ці ўсё ў яго атрымліваецца і што ён збіраецца рабіць далей.

Праўду кажучы, я ў вёсцы вельмі нудзілася, хаця старалася спакойна рэагаваць на ўсё. Караткевіч да сваёй сітуацыі ставіўся інакш. Ён настаўнік, але трапіў у побыт, якога раней не ведаў. І ўсё яго цікавіла: як баба самагон варыць, куды дзед на конях паехаў, а тады былі такія снежныя зімы, што ездзілі на санях! І ў Валодзі адразу ж з'явіліся каларытныя фігуры з ліку яго новых знаёмых: гаспадароў, суседзяў, вучняў (вучні ў нас ва ўсіх былі каларытныя). Ён здолеў новае для яго жыццё ператварыць у баечкі, расповеды, малюнкі. І я не помню, каб ён з нейкай нервовасцю ці злосцю казаў, што вось яго ў вёску «сапхнулі». Не. Пачуццё ўласнай годнасці і гумару і тут выратоўвала яго. Хаця,

безумоўна, у яго меліся свае праблемы. Ён марыў пра аспірантуру, але... Гэтая наша сустрэча засталася самай яркай. Магчыма, таму, што яна адбылася на новым шляху ў абсалютнай адзіноце... Новыя сябры яшчэ не з'явіліся, усе ранейшыя студэнцкія раз'ехаліся, і мы не паспелі нават паслаць адно аднаму лісты. А тут нечакана — Валодзя... Быццам у пустыні стрэла роднага чалавека...

Згадваецца яшчэ адна непрадбачаная сустрэча, у рэстаране «Метро» ў Кіеве. Я не любіцелька, адразу скажу, туды хадзіць, але неяк нас з мужам запрасіў яго сябар. Мы сядзім, вячэраем, я спакойна пазіраю вакол. І раптам не веру сваім вачам: Валодзя? Крыху воддаль ад нас ссунуты два сталы, за якімі выключна мужчынская кампанія і ў цэнтры — Караткевіч! Я кажу пра тое мужу, а сама вельмі дзіўлюся, бо, калі гэта на самай справе Валодзя, то чаму ён нас не папярэдзіў, што прыедзе ў Кіеў? Мы ж даўно не бачыліся. З гэтай думкай я падымаюся і выглядваю з-за калоны: а раптам памылілася? Не. Караткевіч. Тут ён уздымае вочы і таксама пазнае мяне — абдымкі, пацалункі. Ён падыходзіць да нашага століка павітацца, дамаўляемся на сустрэчу ў нас дома, і Валодзя вяртаецца ў сваю кампанію. А праз некалькі хвілін афіцыянт прыносіць бутэльку шампанскага, каробку цукерак, аўтограф на сурвэтцы: профіль Караткевіча з адтапыранай губой і подпіс. У гэтым раскошным жэсце — увесь Валодзя! Апошнія грошы будуць — ён іх усё роўна аддасць у падобнай сітуацыі. І гэта не паказуха. Галоўнае — зразумець, што ў Валодзі не было нічога паказнога. Ён ніколі не працаваў на публіку...

Былі яшчэ розныя сустрэчы. Адна з іх адбылася ў 70-х гадах у Мінску, на вуліцы К. Маркса, на кватэры Валодзі. Валодзя з Валяй тады вярнуліся з Крыма, а Фларыян Няўважны мне патэлефанаваў, што прыедзе з Варшавы ў Мінск па сваіх справах. Я прапанавала: «У такім выпадку мы з мужам возьмем адпачынак, і ўсе збіраемся ў Караткевіча». Канечне, гэта была зусім іншая сустрэча. Валодзю на той час ужо друкавалі, яго прызнавалі. Ён ажаніўся, жыў у новай кватэры. Гэта быў другі Караткевіч. Валя нам спадабалася, мы адразу прынялі яе ў сяброўскае кола як Валодзеву жонку і як сябра. Яна пра яго турбавалася, яна пра яго клапацілася. І на той нашай сустрэчы я зразумела, што ў Караткевіча пачаўся новы этап жыцця.

— *Вы гэта адчулі?*

— І я гэта адчула, і Фларыян таксама. Мы парадаваліся за Валодзю...

Яшчэ памятаю, як Валя з Валодзем прыязджалі да нас разам у Кіеў. Там праходзіў кангрэс ЮНЕСКА па славянскіх культурах, і Валя выступала з дакладам. З папярэдняга званка я ведала пра іх прыезд, можна было скарыстаць момант і сабраць увесь курс. Але Валодзя дрэнна сябе адчуваў, і я не стала гэтага рабіць. Ён мне сказаў, што запланаваў толькі два візіты: да нас і Мішы Гальдштэйна.

Пакуль Валя працавала на кангрэсе, Валодзя гуляў па горадзе: на Уладзімірскай горцы, ля універсітэта, у парку — карацей, па нашых студэнцкіх мясцінах. А потым яны з Валяй прыехалі да нас, і мы цудоўна правялі той дзень. Валодзя шмат размаўляў з маімі дзецьмі. І, дарэчы, вельмі здзівіўся, нават разгневаўся, што маю нявестку лічылі ўкраінкай: «Як? Мама ж твая беларуска! Значыць, і ты — беларуска!» А мне потым сказаў: «І ўнучка твая — таксама беларуска. Што ж гэта вы...» Валодзя ў той прыезд да нас пачуваўся зусім інакш, чым раней: супакоены, надзіва ўраўнаважаны, нават крыху абстрагаваны ад усёй мітусні. Ён расказваў пра жыццё на Беларусі, пра свае праблемы, палітычна-ідэалагічныя складанасці. Перыядычна абураўся асобнымі фактамі, але быў настроены лагодна.

*— Муза Яўгенаўна, можа, крыху больш падрабязна раскажаце пра вашу апошнюю сустрэчу з Уладзімірам Сямёнавічам? Таму што першае і апошняе ў жыцці — яно як кропкі, як вехі, як знакі, калі хочаце, у лёсе чалавека...*

— Так, у гэтым ёсць праўда... Апошні раз мы бачыліся з Валодзем на сустрэчы нашага курса летам 1984 года. Рыхталіся мы да яе доўга, сабралі аргкамітэт. У студзені адправілі ўсім запрашэнні, пісьмы, анкеты. Я ведала, што Валодзя цяжкахворы. Ён пахаваў жонку. Яго апякала сям'я сястры. І ўсё ж ён першым адгукнуўся на наша запрашэнне, абяцаў пры магчымасці абавязкова прыехаць. У яго была просьба: заказаць яму асобны нумар у гасцініцы. Ён лічыў, што едзе на сустрэчу з усім курсам, а значыць, у госці ні да кога персанальна не пойдзе. Мусіць, каб нікога не пакрыўдзіць. Але думаю, што гэтая яго чалавечая аб'ектыўнасць узмацнялася яшчэ і фізічным адчуваннем. Пры ўнутранай эмацыянальнасці і вастрыні ўспрыняцця падзей Валодзя цяпер хутка стамляўся. Яму больш за іншых патрэбны быў адпачынак. Ён не хацеў нікога абцяжарваць сваім станам здароўя, а проста пабыць пасля сустрэч сам-насам...

Раскажу, як мы сустракалі яго ў аэрапорце «Жуляны»: я, Юра Юрчанка, Наташа Шышкалава, якая ўжо прыехала з Бухарэста. Самалёт прыляцеў, усе пасажыры выйшлі, а Караткевіча няма. Чакалі-чакалі, і я вырашыла абысці будынак аэрапорта вакол. Раптам з супрацьлеглага ад выхаду боку з'яўляецца Караткевіч.



— Валодзя, што такое? Адкуль ты ідзеш?

— З міліцыі.

— ???

— Але ж трэба такое прыдумаць,— абураецца ён.

Аказалася, што ў самалёце сцюардэса, знаёмячы пасажыраў з гісторыяй Украіны, сказала, што пасля ўз'яднання з Расіяй у 1653 годзе на Украіне пачалі развівацца ганчарныя рамёствы. І тут Караткевіч гучна, на ўвесь салон, прамовіў сваю «крамольную» фразу: «Ну канечне, у

XI стагоддзі ў Кіеве гаршкоў не ляпілі». А сцюардэса яму ў адказ: «Як гэта вы сябе паводзіце? Я выклічу міліцыю!» Калі самалёт прызямліўся, каля трапа Уладзіміра Сямёнавіча, сапраўды, сустрэла міліцыя і прапанавала прайсці ў аддзяленне. Дзякуй Богу, знайшліся разумныя людзі, паслухалі, разабраліся ў такім «крымінале», пажартавалі і адпусцілі яго з мірам.

У згаданым выпадку ўзбунтавалася супраць гістарычнай няпраўды яго натура гісторыка і кіяўляніна. Я тады ў яго спытала: «Навошта табе гэта? Чаму ты не стрымаўся?» А ён мне адказаў: «Разумееш, сцюардэса абвяшчае на ўвесь самалёт! Але ж не кожны з пасажыраў ведае гісторыю Кіева і Кіеўскай Русі. А па яе словах атрымліваецца, што Кіеў пачаў развівацца толькі ў XVII стагоддзі. Хаця Кіеў — самы старажытны горад». Такая непрымірымасць Валодзі да скажэння любых фактаў спадарожнічала яму ўсё жыццё і прыносіла шмат клопатаў.

Але вернемся да апошняй сустрэчы. Месцам збору курса мы выбралі парк насупраць універсітэта. Наш пастаянны фатограф Юра Юрчанка прыйшоў з фотаапаратам і трыножнікам. Працей адчувалі сябе тыя, хто прыйшлі першымі. Яны чакалі астатніх, каму трэба было пазнаваць усіх прысутных. А трыццаць гадоў, я вам скажу, зрабілі сваю справу. Многія вельмі змяніліся знешне і па гэтай прычыне нават не хацелі сустракацца. Тых, хто перыядычна бачыліся, такое пытанне ўвогуле не хвалявала. Нам здавалася, што мы — усё тыя ж.

*— Як у студэнцкія гады?*

— Так, уяўляеце?! Па духу і бадзёрасці мы, сапраўды, засталіся ранейшымі. Валодзя спыніўся крыху ўбаку. І знешнія атрыбуты яго абсалютна не цікавілі. Але затое з кожным ён павітаўся персанальна, перагаварыў з усімі. На жаль, на ім ужо адчувалася пячатка хваробы. Калі б раней — ад яго шугала б полымя энергіі. А тут ён быў такі спакойны і ... быццам саромеўся, саромеўся таго, што ён сярод нас — пісьменнік. І пісьменнік прызнаны.

*— І што яму рабіць? Як сябе паводзіць з аднакурснікамі?*

— Так-так. Мяне гэта вельмі ўразіла ў Валодзі: ён не хацеў вылучацца сярод іншых абсалютна нічым. Ён — як усе. Такая якасць чалавека, безумоўна, вельмі каштоўная... Валодзя паспеў у мяне распытаць пра кожнага і ў агульных рысах ведаў пра жыццё аднакурснікаў. Потым, калі ў нас пачаліся размовы, Валодзя маўчаў, як рыба, але вельмі сур'ёзна пра ўсё думаў. У мяне склалася ўражанне, што ў яго ўнутры нейкае нябачнае прыстасаванне ці блакнот, дзе ён робіць свае занатоўкі. Я ўпэўнена, што пра кожнага з нас ён мог даць падрабязны каментарый.

Сядзім мы ўжо на кафедры рускай мовы ва універсітэце, прыйшлі сюды з парку, слухаем споведзь кожнага. Даходзіць чарга да Караткевіча. І ў Валодзі, як кажуць, адымае мову... Ён амаль нічога не сказаў. Толькі падараваў усім свае праспекты з аўтографам. А менавіта ад яго

аднакурснікі чакалі самага цікавага расповеду. Толькі яму чамусьці было няёмка казаць пра сябе — такое ўражанне, дарэчы, склалася ў многіх з нас... Назаўтра мы сустракаемся ў парку на схілах Дняпра. Цярусіць дожджык. Некаторым з нас цяжка далёка ісці. І Валодзі, аказваецца, таксама, толькі пра гэта ніхто не ведае. Ну хто б з нас мог паверыць, што калі-небудзь Караткевічу будзе цяжка ісці?.. Тут дождж узмацняецца, мы едзем да Валі Бараноўскай. Размовы, жарты, успаміны не сціхаюць ні на хвіліну. Да мяне падыходзіць Валодзя і кажа: «Я цябе вельмі прашу дапамагчы. Давайце заўтра сустрэнемся ў мяне ў гасцініцы больш цесным колам». У адказ я прапаную сустрэцца ў мяне дома. Валодзя не згаджаецца.

Так мы сабраліся на наступны дзень у яго ў гасцінічным нумары: Юра Юрчанка, Фларыян Няўважны, Наташа Шышкалава, Міша Гальдштэйн, я з мужам. Прыйшоў і Валодзеў перакладчык Карпо Скрыпчанка. Як добра нам было ўсім разам, ніякага цяжару мінулых гадоў. Валодзя жартаваў, расказваў анекдоты, гарэзіў па-хлапечы. Бярэ кавалачак сурвэткі, скручвае і ... шпурляе ў расчыненае акно. Я кажу: «Валодзя, што ты робіш? Гэта ж інтурысцкая гасцініца!» Ён смяецца, зноў бярэ і зноў кідае. Тут я ўжо сур'ёзна: «Валодзя, спыніся!» А ён мне ў адказ: «Ты паглядзі ўніз, там сетка падвешана!» Значыць, ён паспеў абследаваць і ўсё ведаў. Гэтая дзіцячая непасрэднасць жыла ў яго душы пастаянна і праяўлялася ў самых нечаканых момантах.

Валодзя застаўся задаволены нашай сустрэчай. Ён сказаў: «Я так хацеў прыехаць, і я рады, што курс не распаўся. Усе аказаліся добрымі людзьмі». Ён не стаў вылучаць, што нехта зрабіў кар'еру, дасягнуў чагосьці. Не, ён проста адзначыў: «Кожны стаў чалавекам».

У той жа дзень, 1 ліпеня 1984 года, мы праводзілі яго ў аэрапорт. Валодзя фізічна стаміўся, мне нават здавалася, што гэта і не ён. А яшчэ засталося адчуванне Валодзевай маркоты, адлучанасці. Перад самым ад'ездам мы стаялі ля гасцініцы, чакалі машыну, і Валодзя вельмі цёпла згадаў майго бацьку. Потым сказаў: «Наступны свой твор я прысвячу табе. І напішу — Музе Геніеўне. Думаю, што твой бацька не пакрыўдзіўся б».

— *Гэта былі апошнія яго словы вам на развітанне?*

— Асабіста мне. Так ён аддзячыў за арганізацыю сустрэчы курса. Ведаю, што бліжэйшых творчых планаў у яго не было. Але калі б быў жывы, то абавязкова штосьці напісаў бы і прысвячэнне было б сапраўды такім... Пасля ўжо ў аэрапорце — традыцыйнае развітанне, дзе шмат людзей, усё сумбурна і крыху сумна. Мы пажадалі яму шчасліва даляцець да Мінска.

— *І не гаварыць больш сцюардэсе пра гаркі...*

— Нешта прыблізнае я сказала яму, каб памаўчаў у самалёце і даў мне вестачку, калі дабярэцца да месца.

Вечарам Валодзя пазваніў з дому. І гэта ўжо былі, сапраўды, яго апошнія словы нам — словы падзякі і спадзявання на хуткую сустрэчу ў Мінску ў жніўні...

*— Давайце паспрабуем перайсці да літаратуры. І, мажліва, так: успрыняцце Караткевіча-чалавека, з якім звязвала вас жыццё, і ўспрыняцце Караткевіча-пісьменніка — праз яго творы вамі, вашымі вачамі?*

— Гэта пытанне цікавае, але складанае. Складанае тым, што калі яго задаюць, то чакаюць навуковага адказу з пункту гледжання эпохі, часу, значнасці асобы пісьменніка і г. д. Я не гісторык літаратуры, не літаратурны крытык. Мне Караткевіч дарагі як аднакурснік, як сябар. Мог жа лёс распарадзіцца інакш, і мы б увогуле не сустрэліся. Але жыццё нас моцна звязала, і я рада гэтаму.

Я ведала Валодзю ў розныя перыяды яго станаўлення, у тым ліку і як пісьменніка. Толькі не ўспрымалася гэта тады як нейкія вехі. Спачатку — студэнцтва, спроба сябе ў творчасці, і такіх, як ён, было шмат, і мы на іх сур'ёзна не рэагавалі. Потым я ўбачыла ў ім чалавека, які шукае сябе і бясконца пераадольвае перашкоды. Часам нават здавалася, што гэтыя перашкоды ён сам сабе стварае. Але не. Ён проста не мог саграшыць супраць ісціны, супраць прынцыпаў, якія вызначыў для сябе. Калі стала зразумела, што ён будзе пісаць,— усялякія яго непрыемнасці таксама сталі зразумелымі. У сапраўднага пісьменніка не толькі свой адметны мастацкі стыль, але і свае незалежныя погляды на жыццё. Пасля першых публікацый Валодзі стала відавочна: ён не настаўнік, не літаратуразнаўца, ён — пісьменнік, вялікі і сур'ёзны.

*— Вы расказалі хутчэй пра псіхалогію ўспрыняцця росту творцы, сталенне творчай душы. А ў чым вам бачыцца адметнасць аўтарскага стылю пісьменніка Караткевіча?*

— Першы зборнік вершаў «Матчына душа» Валодзя мне падараваў (даслаў па пошце). Тады не толькі я, але і яго калегі-пісьменнікі не ведалі яго як празаіка. І ў далейшым, па словах Алеся Адамовіча, спрачаліся, хто пераможа ў Караткевічу: паэт ці празаік? Ніхто не ўгадаў. Я думала, што ўсё-такі ён — паэт. А потым з'явіліся яго аповесці, раманы, сцэнарыі, публіцыстыка, і ён для мяне паступова раскрыўся. Як ні дзіўна, але ў кожным новым творы я спазнавала самога Валодзю. Быццам у радках ён пакідаў штосьці сваё. Героі, сітуацыі, нават нейкія асобныя дэталі нагадвалі мне наша рэальнае жыццё (хаця я звычайна не чытаю так мастацкую літаратуру). Асабліва мяне ўзрушыла «Чазенія». У ёй прачытваўся стан надлому, які тады перажываў Валодзя. Адчувалася, што не ўсё так проста і гладка ў яго лёсе. Між іншым, Валодзя не любіў гаварыць пра сваю творчасць, колькі я ні спрабавала распытваць яго: ні пра тэмы, ні пра задумы, ні пра рукапісы. Ён з дзіўнай лёгкасцю пазбягаў падобных размоў. Гэта таксама стыль асобы, стыль пісьменніка.

Прачытаўшы штосьці з яго твораў, мы з мужам разважалі, гаварылі пра герояў, але ўвесь час помнілі, што напісана гэта Караткевічам. У яго цудоўны стыль, яго не зблытаеш ні з кім іншым. Мне вельмі блізкія жаночыя вобразы ў творах Валодзі. Падабаецца, як тонка і псіхалагічна апісвае ён стан прыроды. Мне лёгка чытаць яго кнігі і разам з тым вельмі складана. Бо ўвесь час адчуваеш: гэта ж Ка-рат-ке-віч пісаў! Такое ўражанне, быццам ён у цябе недзе ўнутры сядзіць, і ты міжволі суперажываеш з ім, бачыш яго. Калі я, напрыклад, чытаю Васіля Быкава ці Алеся Адамовіча, то зусім не думаю, хто аўтар і як гэта ўвязваецца з іх жыццём. А чытаючы Караткевіча, увесь час лаўлю сябе на тым, што шукаю паралелі. Дарэчы, калі выйшаў Поўны збор твораў Валодзі ў Беларусі, я прывезла кнігі ў Кіеў і давала чытаць нашым аднакурснікам. Адным спадабаліся больш «Каласы пад сярпом тваім», другім — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», трэцім — паэзія. Але ўсе прызналі ў Караткевічу пісьменніка, вялікага майстра слова.

Мова Караткевіча сакавітая, каларытная, кожнае слова адточана. Я не ведаю яго творчага працэсу, толькі мне чамусьці здаецца, што ўсё пісалася само па сабе, калі было вынашана. І таму магу ўявіць, чаго каштавала яму бачыць рэдактарскую ці цэнзурную праўку сваіх тэкстаў. Я чытала Караткевіча па-беларуску, па-руску, па-ўкраінску. Безумоўна, найвялікшая асалода — кнігі Караткевіча на мове арыгінала. І яшчэ мяне заўсёды здзіўляла яго дакладнасць і акуратнасць у дэталях. Помню сваё ўражанне ад аповесці «Чазенія», якая мне вельмі спадабалася, асабліва я дзівілася апісанню прыроды. А пры сустрэчы спытала ў Валодзі, адкуль у яго такія літаральна прафесійныя веды? Ён мне адказаў, што ўсё гэта вывучыў, калі быў на Далёкім Усходзе, сваімі нагамі абхадзіў, на свае вочы пабачыў, рукамі памацаў. Дарэчы, водгукаў на аповесць прыйшло шмат самых розных, але спецыялісты не зрабілі яму заўваг.

*— Муза Яўгенаўна, і, можа, яшчэ раз вернемся ў ваша студэнцтва, дзякуючы першай аповесці Караткевіча «У снягах драмае вясна», якая выйшла асобнай кніжкай у нас у 1989 годзе, і беларускі чытач пазнаёміўся з ёю толькі пасля смерці аўтара. Як успрынялі гэты твор вашы аднакурснікі? Як прачыталі яго вы самі — зноў жа па асацыяцыі з рэальным жыццём і біяграфіяй?*

— Каб зразумець, чаму і як стваралася гэта аповесць, хачу працытаваць самога Караткевіча. У адным з лістоў, адрасаваных нашаму выкладчыку А. Назарэўскаму, у верасні 1957 года ён піша: «Наступная задума — раман пра універсітэт». А праз месяц — зноў гэтая тэма ў перапісцы з тым жа аўтарам: «Шмат гора перанёс я і мае сябры ў Кіеве ў тыя праклятыя гады... І ўсё ж яны назаўсёды застаюцца нам дарагімі». Канечне, гэта быў крык душы, перапоўненай перажытымі ўражаннямі,

эмоцыямі, падзеямі. Валодзя выспеў духоўна для напісання такога твора, але, напісаўшы яго, не надрукаваў. Адносіны да мінулых часоў не змяніліся, хутчэй аўтара не задавальняў мастацкі ўзровень аповесці. Калі б ён напісаў яе пазней — гэты твор мог бы аказацца іншым і па форме, і па аб'ёме, і па стылі. Раман пра курс напісаў яшчэ адзін наш аднакурснік, сябар Валодзі — Валянцін Ліннік, але ён не быў надрукаваны. Магчыма, яны абменьваліся сваімі творчымі планамі. Не ведаю. Трэба шукаць у іх перапісцы. Абодвух, на вялікі жаль, ужо няма... Калі аповесць «У снягах драмае вясна» выйшла, усім было цікава: а як жа мы там выглядаем?

*— Рэакцыя аднакурснікаў — усяго толькі спазнаванне сябе?*

— Безумоўна, не толькі. Хаця гэтая цікавасць напачатку была большая, чым да Караткевіча як пісьменніка. У гэтай аповесці ён яшчэ не сталы майстра, а студэнт, у якога пачуццям і думкам — цесна. Але ніхто не заўважыў, што ў сваіх адзнаках Валодзя памыліўся ці нейкія падзеі пераказаў няправільна. Адзін з нашых аднакурснікаў сказаў: «Цікава, але, мусіць, толькі для нас». Хаця я з ім нязгодная. Праз дробязі студэнцкага жыцця ў кнізе адлюстравана грамадска-палітычная сітуацыя 50-х гадоў. І гэта, напэўна, цікава не толькі нашаму пакаленню. А нам, вядома, хацелася пазнаць на старонках кнігі калі не сябе, то суседа па парце, сябра, сяброўку... Мне асабіста было вельмі цікава чытаць. Эпоха: як успрымаў яе Валодзя? Але я таксама па-свойму на яе рэагавала, я ў ёй жыла. Людзі, якія знаходзіліся побач: з усімі ў мяне склаліся пэўныя адносіны. А што ў кожным бачыў Валодзя?..

У аповесці ёсць лірычная лінія. Я не ведаю прататыпаў, магу толькі здагадвацца. Безумоўна, вобраз галоўнай гераіні і ўсё вакол яго — плён перажыванняў, аналізу і абагульнення самога аўтара. І наш сад, і веснавая пара, і не наша кватэра, і не наша імянінніца, і знаёмы і незнаёмы асяродак. Але адназначна, як цяпер кажуць, усё апісанае ацаніць нельга.

І яшчэ адзін цікавы момант адносна гэтага твора. Калі паспрабаваць правесці дыспут па ім (дыспуты былі модныя ў наш час, толькі назве не адпавядалі) з удзелам нашых аднакурснікаў, выкладчыкаў, то трэба пакінуць адно пустое крэсла і для Караткевіча. Чаму? Валодзя заўсёды прытрымліваўся сваіх перакананняў. І, дыскуціруючы па нейкіх спрэчных для нас фактах ці падзеях, мы павінны памятаць, што вось тут сядзеў бы Караткевіч і ўсё роўна абараняў сваю пазіцыю. А паколькі ён чалавек глыбокіх ведаў і ў яго няма павярхоўнасці ні ў чым, трэба думаць, чаму ён напісаў менавіта так. Зразумела, што аповесць ранняя, але да яе варта ставіцца з усёй сур'ёзнасцю.

*— І пытанне апошняе, Муза Яўгенаўна. Прайшло больш чым дзесяць гадоў, як не стала Уладзіміра Сямёнавіча. Што для вас гэта стра-*

*та: сябра, чалавека, пісьменніка? Страта, якая на адлегласці, магчыма, яшчэ часцей нагадвае пра сябе... З чым на сёння вы засталіся?*

— Без сябра, але з вельмі цёплымі ўспамінамі пра яго. Пасля Валодзевай смерці я пасябравала з яго сястрой Наталляй Сямёнаўнай і яе мужам Іванам Мікалаевічам, сем'ямі іх дзяцей — тымі, хто аблегчыў апошнія цяжкія гады яго жыцця. У іх прыемна бываць і згадваць мінулыя дні. Можна пасядзець за Валодзевым пісьмовым сталом, узяць у рукі кнігі, якія ён чытаў, і тыя, што напісаў. Як пісьменнік — ён па-ранейшаму жывы і будзе жыць. Але гэта — для ўсіх чытачоў, хто яго ведаў і не ведаў...

А тым летам у жніўні я збіралася з сям'ёй прыехаць у Мінск. Валодзя вельмі хацеў па-сапраўднаму пазнаёміць нас з Беларуссю, казаў, куды павязе, што пакажа... І тут раптам вестка пра яго смерць. Як гром з яснага неба. Я на працы была, мне сын ператэлефанаваў. Госпадзі! Як жа так? Што рабіць? Як да Мінска дабрацца? Білетаў ні на самалёт, ні на цягнік няма. Званю Мішу Гальдштэйну — сябру Валодзі. Ён — яшчэ нейкаму агульнаму з Валодзем сябру. Дзякуй ім, дапамаглі...

Як стаяла ў сукенцы і чырвоным жакеце (не для такой жалобнай падзеі), так і села ў цягнік. У душы — правал, пачуццё страшэннай бездані, у якой знік чалавек. Чалавек, які мог бы яшчэ столькі зрабіць. І толькі ён... Вянок ад нашых аднакурснікаў... Словы развітання... Столькі добрага пра сябе Валодзя пры жыцці не чуў. А шкада. Магчыма, шмат што было б інакш. Але яго ўжо няма...

* * *

— *Прафесар Фларыян, сяброўствам з Уладзімірам Караткевічам вы даражылі ўсё жыццё. Шляхі вашы шчасліва сышліся ў далёкім юнацтве. Як вы думаеце, што зрадніла тады паляка і беларуса, якія сустрэліся на ўкраінскай зямлі?*

— Найперш — супадзенне поглядаў на літаратуру, на жыццё з тых самых студэнцкіх гадоў, што нас пазнаёмілі, і да апошніх месяцаў жыцця Валодзі. У 1949 годзе я прыехаў у Кіеў авалодваць філалогіяй і ўбачыў яго на першых лекцыях у чырвоным корпусе універсітэта. Помню, як ён усклікнуў: «Паляк! Давайце яго сюды! Я хачу з ім пагутарыць!» А я ўвайшоў у аўдыторыю са страхам, перапалоханы — я зусім не ведаў рускай мовы, крыху гаварыў па-ангельску (я ж толькі прыехаў вучыцца ў Саюз). І вось гэты высокі юнак, сімпатычны, з рознакаляровымі вачамі, усмешка ад вуха да вуха, добразычлівым голасам кліча мяне да сябе. І гэта мяне адразу падкупіла сваёй непасрэднасцю. І засталося на

ўсё жыццё. У нас быў толькі год розніцы ва ўзросце. І ён часта называў мяне Янам. Валодзя цікавіўся Польшчай у сувязі з гісторыяй Беларусі (я даведаўся пра гэта потым). І, я думаю, наша з ім сяброўства ў нейкай ступені стымулявала яго цікавасць да паўстання 1863 года, што пасля дало плён у знакамітым рамане «Каласы пад сярпом тваім» і аповесці «Зброя».

Але мы тады не думалі, што я Караткевіча буду сустракаць у выглядзе помнікаў, барэльефаў, мемарыяльных дошак. Гэта неймаверна было ўявіць і мне, і самому Валодзю:

Мне наплевать на бронзы многопудье.
Мне наплевать на мраморную слизь...

Можна тут сказаць словамі У. Маякоўскага, якога, дарэчы, Валодзя не любіў, а я любіў. І мы спрачаліся з-за гэтага...

— *Відаць, маладосці ўласціва не задумвацца пра памятныя знакі, якія, магчыма, застануцца пасля твайго жыцця. А як згадваецца праз гады час вашай вучобы з Караткевічам у сценах Кіеўскай alma mater? Якімі цяпер падаюцца тыя настроі, спрэчкі, уражанні?*

— Я помню цеплыню і сяброўства. Пачуццё сяброўства і злучанасці было вельмі моцным. І яно засталося. Мы з Валодзем — розныя, але адначасова нас як магнітам прыцягвала адзін да аднаго. А яшчэ — цудоўны зялёны каштанавы старажытны Кіеў. І мы — маладыя, перапоўненыя прагай ведаў. Не толькі па тых прадметах, што нам выкладалі на факультэце, а ўвогуле мы хацелі даведацца пра свет усё, што магчыма. Былі подлыя, цяжкія часы. Караткевіч заставаўся для мяне адзіным чалавекам сярод маіх новых знаёмых, хто так ненавідзеў сталінізм, таталітарызм, усялякі прыгнёт, ураўнілаўку, ён супраціўляўся сярэднестатыстычнаму. Я як паляк, які ўнаследаваў таксама пэўныя традыцыі бунту, пратэставаў па-свойму. Але не так адкрыта і не з такой цвёрдай упэўненасцю, што ўсё дрэнна, усё не так і гэта трэба перамагчы. Гаварыць уголас пра тое, што адбывалася, было нельга. І я па сваёй наіўнасці не разумеў гэтага. Валодзя падкідваў мне кнігі, за якія маглі пасадзіць. Ён казаў: «Толькі ты не паказвай нікому». «Дзесяць дзён, якія скаланулі свет» Д. Рыда, «Масква 1937» Л. Фейхтвангера я атрымаў з рук Валодзі. Ад яго ж я даведаўся тады і пра завяшчанне Леніна наконт Сталіна. Караткевіч усё гэта ведаў. А я адкуль мог ведаць?

Валодзя, між іншым, ніколі не станавіўся ў позу настаўніка, хаця спрачаўся вельмі часта па розных пытаннях. Ён цудоўна ведаў класічную паэзію, я лепш ведаў мадэрнісцкую. І тут нашы цікавасці перакрыжоўваліся. Валодзя ўмеў быць прынцыповым і адначасова сябраваць. Гэта ў ім уражвала ўсіх. Ён, безумоўна, быў незвычайны чалавек, адзін з выбітных студэнтаў. Цікавіўся тэатрам, цудоўна ведаў жывапіс. Я помню,

як ён наладзіў нам лекцыю-паказ пра рускага мастака В. Сурыкава. Як гэта было глыбока, захапляльна! Мы з ім разам ігралі ў студэнцкім тэатры ў адной п'есе — «Лазні» У. Маякоўскага. Я, паляк, які толькі вывучыў рускую мову, і ён, беларус, але нас аб'яднала любоў да гратэскнага, сатырычнага, гумарыстычнага. Я вельмі цаню гумар, Валодзя таксама. Я помню, як ён зачытваўся М. Твенам, як любіў Я. Гашэка, М. Гогаля. Але, з іншага боку, ён любіў такіх пісьменнікаў, як А. Талстой, Г. Сенкевіч, К. Паўстоўскі, А. Грын. Значыць, яго душа ўбірала розныя плыні. Дзякуючы Валодзю я пазнаёміўся з паэтам А. Талстым, які не ўваходзіў ва універсітэцкія лекцыі. Валодзю часта прываблівала тое, што было па-за межамі афіцыйнай праграмы.

Мы мелі доступ у акадэмічную бібліятэку ў Кіеве, хадзілі туды разам з Валодзем і сядзелі да поўначы (бібліятэка працавала дапазна), чыталі розныя рэчы, якія непасрэдна нам не былі патрэбны, але чытаць якія было страшэнна цікава. Вось гэтае зацікаўленне чымсьці нестандартным, невядомым таксама перадалося мне ад Валодзі. Я абавязаны яму і першым знаёмствам з беларускай літаратурай, пра якую я паняцця не меў. І пра ўкраінскую таксама, а цяпер я імі займаюся прафесійна. Я помню, як Валодзя даў мне кніжкі Янкі Маўра на беларускай мове. Гэта было першае, што я чытаў па-беларуску. А пасля ўжо стаў знаёміцца з творамі іншых беларускіх пісьменнікаў: спачатку на рускай мове, потым і на беларускай. Так што, разумееце, пачуццё непадобнасці і адначасова нейкі невытлумачальны магнетызм, які прыцягваў нашы душы. Гэта і засталося на ўсё жыццё.

*— Гады вашай вучобы ва універсітэце прыйшліся на эпоху сталінізму ў былым Саюзе. І тая цяжкая атмасфера не магла не ўплываць на маладыя душы. Што вас стрымлівала, што адцягвала вашу ўвагу ад негатыўных эмоцый? Што, урэшце, дазваляла вам не прызнаваць той спосаб жыцця, які навязваўся?*

— Разумееце, у нас быў своеасаблівы імунітэт. Імунітэт у сэнсе жадання даведацца больш. Мы неяк арганічна імкнуліся не ўспрымаць таго бюракратызму: абавязковае наведванне лекцый, вядзенне ўсіх канспектаў і г. д. Мы гэта рабілі, таму што інакш нельга было, але шукалі аддушыну ў іншым. Некаторыя знаходзілі яе ў выпіўках, каханні. Мы з Валодзем знаходзілі гэта ў інтэлектуальных прыгодах. Чыталі. Спрачаліся. Магчыма, гэта ўсё былі пошукі ў цемры і, скажам, у іншы час можна было б па-іншаму штудзіраваць. Але і гэта нам таксама спатрэбілася. Мы самастойна, у агульных спрэчках, дапамагаючы адзін аднаму і прапануючы рознага тыпу чытанне, неяк міжвольна вызваляліся ад страшэннага прыгнёту і уніфікацыі. Мы, відаць, падсвядома адчувалі, што трэба пераадолець самае страшнае — уніфікацыю. А дарам пераадолення валодаў Валодзя. Ён, сапраўды, быў чалавекам анархічнага складу, у добрым

сэнсе гэтага слова. Я, магчыма, не столькі анархічны, колькі больш арганізаваны і дапытлівы. Таму мая дапытлівасць і Валодзеў анархізм заводзілі нас, па-першае, у навуковыя гурткі, да сур'ёзных старых вучоных, якія, дзякуючы свайму вопыту і мудрасці, разумелі, што такія юнцы, як мы, штосьці шукаюць. І яны нам асцярожна сёе-тое падказвалі.

А потым яшчэ таленавітасць. Валодзя быў таленавітым чалавекам. Гэта адразу выяўлялася. Ён умеў пісаць экспромты, бывала, што і досыць з'едлівыя. Ён жа быў чалавекам едкім і вельмі добрым. Ён быў безабаронны. І яго безабароннасць часам вылівалася ў рэзкасць — гэта мы цудоўна разумелі. Ён мог, напрыклад, напісаць пра мяне: «Ян Неуважны — рыцарь бумажный». Я гэта запомніў. Але зла на яго ніхто не трымаў. Таму што... ну ён такі быў. Ужо тады прыкмячалася нязмушанасць імправізацый, дакладнасць вызначэнняў, афарыстычнасць розных выказванняў. Ён умеў абмалёўваць, умеў прыкмеціць, адрозніваў колер, гук. У ім адчувалася артыстычная натура. У студэнцтве мы ўсе штосьці пісалі. Я таксама, на шчасце ці на жаль, пісаў вершы, якіх цяпер не памятаю (сябры некаторыя захавалі). Але я цікавіўся літаратурай і лічыў, што нічога новага не напішу ў параўнанні з тым, што мне яшчэ варта прачытаць, і я гэтую справу кінуў. А Валодзя лічыў, што ён напіша новае, і напісаў. Я адчуў па-сапраўднаму яго творы пасля заканчэння універсітэта, калі быў надрукаваны першы верш «Машэка», потым — знакаміты, любімы мною «Заяц варыць піва» — я пераклаў яго на польскую мову. Калі Валодзя стаў складаць свой першы зборнік паэзіі «Матчына душа» — вось тады я знаёміўся з ім як з літаратарам. Не толькі як з чалавекам, сябрам Валодзем, своеасаблівым, розным, «натруженным и праздным, очень разнообразным», кажучы словамі Яўгена Еўтушэнкі, якога потым Валодзя не вельмі любіў і я таксама. Але тут дарэчы будзе скарыстаць гэту цытату.

Так што Валодзя быў чалавекам непрадказальным, але добрыя рысы ў ім пераважалі. Хаця ты ніколі не ведаў, што атрымаецца. Ён меў характар не толькі дзіцячы, але і жаночы: «Donna est mobile». Жанчына зменлівая. Ён таксама быў чалавекам зменлівым, але не капрызлівым. У яго былі канстанты, цвёрдыя прынцыпы, якіх ён прытрымліваўся. На першае месца ён ставіў сяброўства, шчырасць, праўду, прынцыповасць, ідэал гордага, свабоднага, свядомага чалавека — свядомага беларуса, свядомага паляка, свядомага рускага — свядомага нацыянальна, традыцыйна. Ён цудоўна разумеў, што нельга чалавека выключыць з часу, з гісторыі. А часы былі такія, што нас імкнуліся пакінуць без традыцый. Усё вышэйзгаданае стварала і абаянне Валодзі, і цяжкасці ў адносінах з ім. Таму што ты мусіў да яго падцягвацца. Хаця гэта падцягванне насіла хутчэй жартаўлівы характар, але тым не менш у паводзінах Валодзі адчуваліся і своеасаблівая пазіцыя, і своеасаблівая ідэалогія. Жыццёвая ідэалогія — можна так вызначыць.

*— Вы сказалі, што найбольш інтэлектуальную частку вашага курса падтрымлівалі старыя выкладчыкі. А ўвогуле выкладчыцкая школа ва універсітэце як уплывала на вас ў тыя часы? Скажам, натуральнае жаданне маладых — знайсці пацвярджэнне ўласных думак у старэйшых — яно спраўджвалася? Ці існавала паміж вамі разуменне?*

— Па-першае, у нас былі своеасаблівыя выкладчыкі. Напрыклад, тыя, хто выкладалі грамадскія навукі, яны належалі да сярэдняга пакалення і сваю справу рабілі на ўзроўні і з пэўным запалам. Але гэта было нецікава. Старых выкладчыкаў трымалі ў пэўных межах. Яны па-рознаму чыталі нам лекцыі, але ўсе студэнты іх вельмі шанавалі. Гэта прафесары Назарэўскі, Бялецкі, Булахоўскі, Брунскі, браты Маславы — іх мы слухалі з задавальненнем. Яны валодалі глыбокімі ведамі, а яшчэ прыцягвала іх своеасаблівая энергія, якую яны вымушаны былі прыхоўваць і стрымліваць. Безумоўна, яны добра разумелі, якія зараз часы, што можна гаварыць і як.

Мы з Валодзем удзельнічалі ў розных навуковых мерапрыемствах, цікавіліся навукай. Гэтыя выкладчыкі нас заўважылі. Падтрымалі. Вельмі асцярожна, беражліва, далікатна, тактоўна. Вось гэтая тактоўнасць, у параўнанні з прафесурай сярэдняга пакалення, іх вылучала, а нас, магчыма, прыцягвала. Валодзя, у рэшце рэшт, быў чалавекам вельмі далікатным, нягледзячы на нейкія яго выбрыкі. Ён быў чалавекам вельмі ранімым. Вось гэты такт, веды, сур'ёзнасць і пэўная, кажучы па-польску pobłażliwość у адносінах да нас, маладых, з боку нашай прафесуры нас прываблівала. І таксама дапамагала нам неяк рухацца па-за праграмай, не зважаючы на уніфікацыю і тую «ступу», у якой нас імкнулісяператаўкчы, каб атрымаліся ўзорныя савецкія выкладчыкі. Я — хаця і не савецкі грамадзянін, але ж таксама паддаваўся гэтаму.

Дарэчы, тут можна шмат пра што гаварыць. Мы з Валодзем разам наведвалі і ваенную кафедру. Склад яе быў своеасаблівы. Начальнік кафедры — польскі генерал, а сярод нашых выкладчыкаў — і нашчадак графскай сям'і Мусіна-Пушкіна, і палкоўнік Дзеркс, былы савецкі разведчык, які працаваў у Польшчы, і г. д. То была незвычайная група людзей, з якімі мы пасля пасябравалі ўжо неафіцыйна. Ну а так... у прынцыпе філолагі — якія з іх ваенныя? Але гэта таксама эпізод, які сведчыць пра нашы з Валодзем анархічныя настроі: два бунтары, можа, не такія і страшныя, аднак жа — непакорлівыя, якія супраціўляліся машыне студэнцкай уніфікацыі.

Я думаю, нас выратоўвала маладосць, нас выратоўвала неразуменне цяжкасці часу. Валодзя, магчыма, лепш за мяне валодаў сітуацыяй — у яго дзядзька быў рэпрэсіраваны, пра якога ён мне часта згадваў і хваляваўся з-за яго. Ён мне расказваў шмат чаго пра вайну — я перажыў яе ў акупацыі (працаваў на нямецкім заводзе). Валодзя ведаў пра ўсё больш,

чым я. А час нашай вучобы — паміж 1949 і 1954-м гадамі — быў надзвычай складаны. Можна нават сказаць, смуродны нейкі час. Але наша маладосць, бунтарскі настрой, наша прага да ведаў, атмасфера Кіева, магчыма, традыцыі бунтарства Шаўчэнкі, універсітэт імя Шаўчэнкі, чырвоныя сцены гэтага універсітэта, юныя нашы сябры ды і большасць цудоўных выкладчыкаў — гэта выратоўвала. У нас так шчасліва склалася, што мы дасюль сябруем. Тыя, хто застаўся жывы, сябруем, помнім і любім адзін аднаго.

*— А ці не было вам сумна з аднакурснікамі? Бо патрэбу ў такой асаблівай інтэлектуальнай напоўненасці мелі, відаць, не ўсе? І так здараецца ў любой студэнцкай аўдыторыі, калі на фоне іншых вылучаецца група інтэлектуалаў...*

— Нельга сказаць, што ў нас быў нецікавы курс. Але, відаць, выхаванне, падрыхтоўка былі больш уніфіцыраваны. Валодзя меў вопыт некалькі іншы, я як паляк — таксама. Сярод нашых аднакурснікаў не было соннага настрою, казёншчыны. Натуральна, што адных мы больш любілі, іншых менш. І на курсе стварылася некалькі кампаній па агульных схільнасцях. Але я павінен падкрэсліць, што асноўным настроем быў энтузіязм, штосьці такое няўлоўнае прысутнічала. Магчыма, гэта асаблівасць маладосці, якую часам штучна падтрымліваў камсамол, грамадскія мерапрыемствы. Былі ў нас людзі, якія вучыліся, каб толькі перайсці з курса на курс і атрымаць казённую ноту — адзнаку для стыпендыі. Аднак такіх было мала. Што нас больш за ўсё дапякала і надакучвала — гэта казёншчына афіцыйная: абавязковае наведванне лекцый цікавых і нецікавых, патрэбных і непатрэбных, падрабязнае канспектаванне і г. д. Мы бунтавалі супраць гэтага. Потым Валодзя ж выбіраў, і я таксама імкнуўся выбіраць, але ў меншай ступені, чым ён. Хаця я мог, бо папярэдне здаў экзамены па латыні, заходняй літаратуры, ангельскай мове. У мяне заставалася больш часу для вучобы. Валодзя прынцыпова не прызнаваў усялякіх марксісцкіх дысцыплін, браў у мяне канспекты і перапісваў або па іх у асноўным вучыўся. Я дапамагаў яму па латыні — у мяне была добрая падрыхтоўка па лацінскай мове. А за кошт зэканомленага часу мы чыталі. І імкнуліся пазбягаць усякіх афіцыйных лекцый і мерапрыемстваў.



Былі паездкі на святы: радасныя, жартаўлівыя. Наконт жартаў і арганізацыі — гэта ўжо Валодзя і кампанія: Юра Юрчанка, Сева Маркаў, Муза Залеўская, Наташа Шышкалава і іншыя. Так што, разумееце, розныя былі людзі, але мы ратаваліся тым, што цягнуліся адзін да аднаго, і тут не толькі юнацкае захапленне, каханне — гэта таксама нармальна, але ў нас было нейкае падсвядомае, падскурнае пачуццё блізкасці ці роднасці. Нам усё ж пашчасціла, што мы не папаліся і нас не арыштавалі. А маглі. Таму што гаварылі ўсё, што ўздумаецца... У нас усё ж было

штосьці непаўторнае. Мы вучыліся адразу пасля вайны. І, сапраўды, перажывалі сталінскую эпоху, потым 1953 год — год смерці Сталіна, а ў 1954-м мы ўжо адчулі адлігу. Гэта таксама мела сваё значэнне. Так што на гэты перыяд жыцця глядзіш цяпер, можа, і сентыментальна, з пазіцыі чалавека, які марыць пра страчаную Аркадзію. Але, я думаю, гэта не была Аркадзія. А быў час цяжкай працы, адказнасці, экзаменаў, «высиживания» ведаў, здаралася і ноччу, час складанай барацьбы за студэнцкае існаванне. А што мы гэта прыхарошвалі жартам або віном, або цікавымі імпрэзамі — гэта ўжо прывілея юнацтва.

*— Зноў жа юнацтву ўласціва сустракацца, сімпатызаваць адзін аднаму, захапляцца, а потым жыццё можа павярнуцца так, што ад былой сяброўскай прыхільнасці не застаецца і следу. Як вы думаеце, чаму ваша студэнцкае сяброўства з Уладзімірам Сямёнавічам не згубілася з гадамі, захавала ранейшую даверлівасць і адкрытасць?*

— Агульнасць поглядаў на жыццё, тыя жыццёвыя ідэалы, якія склаліся ў нас, дзякуючы кіеўскім выкладчыкам, наш круг чытання, зацікаўленне гісторыяй і сучаснасцю — усё гэта з'явілася асновай нашых блізкіх адносін з Валодзем і пасля заканчэння універсітэта. Мы з ім мелі цікавасць да гістарычнай раманістыкі — рускай, украінскай, польскай. Асобна можна было б казаць і пра Паустоўскага: я ведаю, як Валодзя яго любіў, і я таксама. А яшчэ мы з ім аднолькава разумелі важнасць гумару ў жыцці, смеху. Чым Валодзя, дарэчы, авалодаў бліскуча. А таксама — памяць пра тое, што нас вельмі шмат звязвала ў студэнцтве. Навошта гэта губляць, калі можна працягнуць? Працягнулі ўжо на іншым узроўні.

Валодзя стаў прафесійным пісьменнікам, я — прафесійным выкладчыкам ВНУ, выкладаю літаратуру. Прычым, дзякуючы Валодзю, я цікавіўся не толькі рускай літаратурай, але і іншымі нацыянальнымі літаратурамі. Асаблівая цікавасць у мяне была да беларускай літаратуры. Яе распальвалі ўва мне, акром Валодзі, Янка Брыль (мой сябар) і Рыгор Барадулін — мы лічымся таксама блізкімі адзін аднаму людзьмі. Так што, разумееце, агульнасць ужо не столькі працы, таму што кожны з нас робіць сваю справу, але падыходу, адзнакі.

І, канечне, чалавечыя якасці. Мы потым ужо бывалі адзін у аднаго дома. Я прыязджаў у Мінск, стажыраваўся тут у БДУ, а Валодзя разам з жонкай Валянцінай наведвалі нас у Польшчы. Я ведаю родных Валодзі, а яго сваякі знаёмыя з маімі. На вялікі жаль, Валодзя занадта рана адышоў. Але ён застаўся для мяне ў ліку самых блізкіх маіх сяброў. Так пабудаваны, відаць, гэты свет, што цяпер даводзіцца на сумнай ноце згадваць Караткевіча і пісаць пра яго не як пра жывога чалавека, а як пра надзвычай індывідуальнага, своеасаблівага пісьменніка, які ўпрыгожвае родную літаратуру і прымушае задумвацца над тым, а што ж ён

унёс у суквецце еўрапейскіх літаратур? А тое, што гэта так — бясспрэчная ісціна.

— *Творчасць Караткевіча, як вы кажаце — «у суквецці еўрапейскіх літаратур», чым адметная? Што яму як пісьменніку ўласціва найперш?*

— Я думаю, беларускасць. Гэта самае што ні ёсць арыгінальнае, непаўторнае. Магчыма, гэта стэрэатып, я не ўпэўнены, але адметны створаны ім вобраз беларуса: гордага, добрага, падатлівага і ўпартага, з фантазіяй — такі, як яго Вылівака, напрыклад. Мне вельмі падабаецца гэты герой. Я пераклаў «Ладдзю Роспачы» на польскую мову, як пратэст супраць усялякага прыгнёту: «Contra spem spero». (Без надзеі спадзяюся.)

Потым спалучэнне, кажучы ўмоўна, рамантычнага і рэальнага. Каласальная фантазія, шырыня ахопу і ўспрыняцця свету праз прызму дабрыні — тое, што ўвайшло ў шматлікія творы, і паэтычныя, і празаічныя. Я менш ведаю яго п'есы, хаця, канечне, чытаў. Вось гэтая рэалізацыя простай і разам з тым складанай думкі: чаму б не быць добрым, калі гэта дае столькі карысці для чытачоў, для ўсіх. Калі можаш зрабіць дабро для чалавека — зрабі яго. Гэтая думка Валодзі, якую ён своеасабліва раскрыў у сваіх творах, — таксама, я думаю, важная рыса, якая дазваляе гаварыць пра арыгінальнасць, пра яго ўнёсак у літаратуру. І яшчэ беларускія рэаліі. Усё пералічанае і стварае тую непаўторную тканку, якая дазваляе сказаць: вось гэта мог напісаць толькі Караткевіч.

— *Сёння мы гаворым пра тое, што ў беларускай літаратуры ёсць герой Караткевіча. Хто ён?*

— Гэта ў першую чаргу сам Караткевіч, канечне. У розных абліччах, у розных героях. Натуральна, прататыпы ён браў адусюль. І сярод родных, і сярод сяброў, і сярод знаёмых. Можна, безумоўна, казаць пра пэўны стымул, які адштурхоўваў яго ад прататыпа, але ж гэта мастацкая літаратура. Ён ствараў тыпы, ствараў свой вобраз гордага, разумнага, сардэчнага, безабароннага і мужнага адначасова чалавека. Свядомага беларуса. Вось што важна. У рэшце рэшт, калі Валодзя ўсведамляў сябе беларусам і з гонарам пра гэта гаварыў — не так ужо і лёгка было тое рабіць. Для мяне гэта было цікава і, можа, нават не дзіўна. Я гэта разумеў. Я ж ніколі не саромеўся таго, што я паляк. Таму што для мяне гэта было зразумела. Але я толькі пасля даведаўся, што такіх беларусаў, як ён, было мала. А трэба, каб было болей.

Так што яго герой — беларус. Я не ведаю, ці існуе вызначэнне тыповага беларуса, ці ёсць якая мадэль? Відаць, так. І калі гаварыць пра героя Валодзі, то ён трапляе ў дзесятку, у яблычак. Таму правамерна гаварыць пра своеасаблівы тып беларускага героя ў літаратуры, героя Караткевіча, што непаўторна злучае рамантызм і паглыбленне ў роднае, беларускае. Штосьці такое, цяжка вытлумачальнае, я магу адказаць на гэтае ваша пытанне. Калі б было лёгка — нецікава было б Валодзем займацца.

Кнігі Уладзіміра Караткевіча на мовах народаў свету











У рабочым кабінеце.
Пачатак 80-х гг.
















Партрэт Уладзіміра Караткевіча.
Мастак Раіса Сіплевіч



Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

Як бачыце, расту ў цане я —
Хоць лапікі кладзі на латы.
Як, падкажы мне,
Дульцынея,
Цябе ў чарговы твор
усватаць!














Ілюстрацыя да рамана
«Хрыстос прызямліўся ў Гародні».
Мастак Генадзь Грак



Ілюстрацыя да аповесці
«Сівая легенда».
Мастак Іван Лісіца














Мастак Таццяна Кубліцкая




Ілюстрацыі да рамана «Каласы пад сярпом тваім». Мастак Арлен Кашкурэвіч















Ілюстрацыя да аповесці
«Ладдзя Роспачы».
Мастак Арлен Кашкурэвіч

# «Кастусь Каліноўскі» ў пастаноўцы Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.



Караліна —
артыстка Галіна Дзягілева



Кастусь Каліноўскі — народны артыст
Беларусі Уладзімір Куляшоў





**Мураўёў — народны артыст СССР Фёдар Шмакаў**





**Уладзімір Караткевіч
на кінастудыі «Беларусьфільм».
1979 г.**





**На здымках фільма
«Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка»**






Ірына — народная артыстка Беларусі Ірына Шыкунова





Рабочы кабінет пісьменніка



Кампазіцыя «У векавечнай бацькаўшчыне клёны...», створаная навучэнцамі Мінскага каледжа электронікі



**Сябры і сваякі Уладзіміра Караткевіча на вечарыне, прысвечанай адкрыццю Інтэрнет-сайта «Быў. Ёсць. Буду». 26 лістапада 2003 г.**



**У час вечарыны «Уладзімір Караткевіч і Украіна». Вячаслаў Рагойша і Анатоль Верабей сярод супрацоўнікаў Мінскага каледжа электронікі. 26 лістапада 2004 г.**



**Удзельнікі Дзён літаратуры, прысвечаных Уладзіміру Караткевічу. Орша, 1995 г.**



**Сябры і сваякі пісьменніка каля яго помніка. Віцебск, 1994 г.**



**Орша**

ВІДПОВІДЬ НА ОДНЕ ПИТАННЯ – ЦІНОЮ ОДНОГО ЖИТТЯ…

Білоруська доля, білоруська душа, білоруська література неповторні вже тим, що становлять унікальний феномен спорідненості, нерозлучності, а може – цілісності, якої бракує іншим європейським народам, де між національною історією та національною культурою часто-густо пролягає якась межа. Або підноситься скляна, ледь помітна стіна. А може, за сучасною термінологією – існує „кольороподіл”?

У білорусів пізнання своєї національної сутності (ідентичності), як на мене, триває так давно, що важко відділити романтичний міф од гіркого реалізму буденщини, праглибинний клекіт почуттів од акварельної чистоти ліризму чи тонко завуальованого іронічного або пекучого сарказму…

Чому так? Звідки?

Пошукаймо відповідей у Володимира Караткевича, – одного з **найбілоруськіших** поетів Білорусі XX століття…

Ось вірш „Дзе мой край?” – твір панорамного розгортання поетичних формул, твір, де погляд поета „угвинчується” у минувшину а відтак виходить на широкий простір, а відтак „пружинить” больовим ствердженням: „Так, ніколи, ніколи, ніколи не кинем тебе!”

Перекладаючи цей твір українською, я пережив таке відчуття, ніби бачив як пером поета водив Кастусь Калиновський; присвічував йому залізним світильником Павлюк Багрим; а нашіптував рядки передсмертним хрипотом Максим Богданович…

Загалом же, коли знов і знову перечитую поезію Караткевича, відчуваю, як пульсує думка, як тріпоче оголений нерв крупного, потужного, об’ємного і живописного слова, коли поет перекидає міст між минулим і сучасним, між Білоруссю і світом…

Чим полонить мене, українця, цей, без сумніву, геніальний талант, ця відкрита вдача, ця беззахисна совісність? Чи лише могутнім лірико-епічним способом відповіді на поставлені самим собою питання? Чи досконалою обізнаністю із многостраждальною історією Білорусі? Чи неймовірною працездатистю? Чи творчою одержимістю?

Спробуймо звузити „фокус” бачення на тріаді: Караткевич – Гілевич – Барадулін, і зрозуміємо що іпостась Караткевича – об’єднувальна серед таких різних, але таких близьких творчих натур.

Спробуймо зосередити увагу на паралелях: Бриль-Биков – Караткевич, і ми переконаємося, як білоруська проза, білоруська епіка проявляється у часі і в просторі – від ліричної мініатюри – до історичних положень чи „окопної” альтернативи… Але у Караткевича, не применшуючи величі його сучасників, є все. Але є і щось, інтегральне, узагальнене універсальне… Щоб наблизитися до Караткевича потрібно багато чого зрозуміти. Напевно, насамперед відшукати першовитоки його вболівань, страждань і внутрішньої непокори щодо несправедливості. Дещо може прояснити його листування, публіцистика. Дещо – сценарії та краєзнавчі дослідження. Приміром, коли я перечитував його „Білорусь під крилами бусла” чи мікроесей „Біловезька пуща”, я відкривав для

уком ми блукали
ва, робив, творив
олодимир покинув
ового погону…
ановито переклав

Моя присвята – я всього-навсього є ліричним коментарем до життєвого епізоду. А саме життя Володимира Караткевича – велике і багатостраждальне – є намаганням відповісти на питання питань: «Де мій край?» «Хто ми, білоруси?» «Коли, нарешті, здійсниться торжество справедливості щодо споконвічного, священного, безсмертного – «Живе Беларусь?»

Він упритул підійшов до відповіді, але залишив нам можливість прочитати її у своєму Слові.

Роман Лубківський

Київ
5.X.2005

**Фрагменты артыкула
Рамана Лубкіўскага
да 75-годдзя Уладзіміра Караткевіча**

А потым, калі паглядзець яшчэ, як функцыяніруе ва ўсім гэтым элемент еўрапейскіх культур, мастацтва. Валодзя ж цудоўна ведаў архітэктуру, гісторыю, батаніку, розныя навуковыя дысцыпліны. Кангламерат, можна сказаць, усяго гэтага ён даводзіў да арганічнай еднасці. І так з'яўляўся унікальны твор. Вазьміце яго эсэ «Зямля пад белымі крыламі» альбо «Памяць зямлі беларускай». Я ўжо не кажу пра мастацкія рэчы. Бо Валодзя ўсё гэта, быццам якар, закідвае толькі ў роднае. Прычым ён ведае прадмет ці падзеі не толькі з пункту гледжання гісторыі, гуманітарных навук, але і шырокіх рэалій. Таму верыш у тое, што ён піша. Хаця часам сустракаюцца і моцныя перахлёсты, але гэта мастацкі вымысел, ён апраўданы. Напрыклад, Выліваха, які робіць пагром у пекле сваім незнішчальным аптымізмам. Вось такім утрапёным жыццялюбам, нягледзячы на ўсё, быў сам Валодзя. І калі гаварыць пра героя Караткевіча,— гэта сам Караткевіч, распісаны ў розных абліччах. Гэта розныя постаці аднаго і таго ж вельмі неардынарнага найбагацейшага характару.

*— Шматлікім беларусам Караткевіч сваёй паэтычна-празаічнай спадчынай адкрыў вочы на беларускасць. Як вы думаеце, паэт Караткевіч і празаік Караткевіч — гэта адзін і той жа чалавек?*

— Я думаю, што ўсё ж ёсць адзін — паэт Караткевіч. Хаця я аддаю перавагу яго прозе. Чаму? Я вельмі прадузяты чытач паэзіі і люблю паэзію з усялякімі, як раней казалі, фармалістычнымі выкрунтасамі, пра якія, дарэчы, пісалі і ў звязку з творчасцю Валодзі Караткевіча ў свой час. Але, на маю думку, ён і ў паэзіі, і ў прозе — паэт. Гэта першае. Па-другое, у паэзіі ён і рэаліст, і празаік таксама. Хаця, магчыма, гэта тычыцца ў асноўным зборніка ну не «Вячэрнія ветразі», тут нават назва гаворыць пра рамантычны характар, а апошняга зборніка «Быў. Ёсць. Буду.». Там перапляценне прозы і паэзіі асабліва адчувальнае. Для Валодзі не існавала такога размежавання. Гэта была творчасць. Гэта быў артыстызм. Гэта было адкрыццё новых земляў для сябе. Ён жа ў першую чаргу для сябе адкрываў, а потым — для іншых. Ён павінен быў гэта выказаць, таму што быў перапоўнены багацейшымі задумкамі. Ён, як вулкан, павінен быў выкінуць гэта з сябе, каб паказаць чытачу. І прычым паказаць як сапраўдны беларус менавіта беларускасць.

*— У вас ёсць любімы твор Караткевіча?*

— «Ладдзю Роспачы» я ўжо называў. А яшчэ я вельмі люблю яго раманы «Каласы пад сярпом тваім» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Я Валодзю люблю ўсяго. Хаця ёсць рэчы, якія мяне захапляюць больш, іншыя — менш. Я, дарэчы, як яго сябар і заўзяты папулярызатар творчасці не магу не згадаць пра папулярнасць яго «Чазеніі» не толькі ў Беларусі, а і ў былым Савецкім Саюзе. Гэта тыпова рамантычны твор. Але ў ім — увесь Караткевіч. Своеасаблівы.

Як паляку мне было дужа цікава чытаць раман пра Кастуся Каліноўскага. Я з задавальненнем пазнаёміўся і з «Чорным замкам Альшанскім», ведаючы, як Валодзя любіў чытаць дэтэктывы, у тым ліку і польскія. Аднак гэты раман напісаны па ўзорах сярэдневяковых раманаў, гатычных раманаў Ганны Радкліф. Я так яго ацэньваю. Валодзя мог бы яшчэ рабіць розныя эксперыменты. І ў дадзеным рамане таксама – своеасаблівы эксперымент: выкарыстаны дэтэктыўны сюжэт з мэтаю раскруціць гістарычныя калізіі. А ўвогуле, мне цяжка адказаць на гэта ваша пытанне. Я люблю чытаць Валодзю і думаю, што кожны твор адлюстроўвае яго самога. І гэта добра. Ён мала крывіў душою ў творчасці. Быў самім сабою. І толькі сабою.

— *Беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч — у польскай літаратуры сёння? Яго ведаюць, чытаюць, друкуюць?*

— Думаю, што мала яшчэ ён прысутнічае. Хаця ўсе творы, якія друкаваліся, успрымаліся з цікавасцю. Палякі — сапсаваныя чытачы, яны з вялікай цяжкасцю падыходзяць да пісьменніка. Гэта польскі парадокс: мы горш за ўсё ведаем літаратуру нашых суседзяў. Я шмат перакладаў Валодзевых твораў. Зарана яшчэ, напрыклад, ставіць пытанне: проза ці паэзія Караткевіча і польская літаратура. Але ён прысутнічае. Ён адрозніваецца ад іншых вашых пісьменнікаў, якіх ведаюць больш: Максіма Танка, Васіля Быкава, Янку Брыля — іх часцей друкавалі ў Польшчы. Тым не менш, я думаю, час Караткевіча яшчэ прыйдзе.

— *Што вас у ім найбольш здзіўляла?*

— Дзіцячы погляд на жыццё.

— *Што вас у ім захапляла?*

— Пачуццё дабрыні і вельмі добрыя адносіны да сяброў, жанчын, дзяцей і жывёлы.

— *Скажыце, калі ласка, а ці надараліся хвіліны расчаравання?*

— Не. Я, праўду кажучы, сварыўся, калі, бывала, Валодзя загульваў — вось гэта... Але то не расчараванне, а злосць. І мы адзін аднаму выказваліся адкрыта, і потым праходзілі над гэтым, як у нас кажуць: «Do porzadku dziennego». Як быццам бы ўвогуле не было гэтага.

— *Што вы ў ім цанілі найперш?*

— Сталасць, вернасць і otwartość — адкрытасць, шчырасць.

— *На яго заўсёды можна было цалкам паспадзявацца?*

— Заўсёды.

— *Вы адчуваеце яго адсутнасць у сённяшнім вашым жыцці?*

— Адчуваю. І мне не хапае менавіта своеасаблівага камертона для маіх роздумаў. Пачуццё страты мяне не пакідае. У цяперашні час, таксама па-свойму цяжкі, але надзвычай цікавы, Валодзя мог бы зрабіць вельмі шмат. Я маю на ўвазе, калі б Караткевіч быў жывы, ён мог бы пісаць зараз дзівосныя рэчы, якія глыбока адлюстроўвалі б той пераломны перыяд, што мы перажываем. Цяжкі, але, як казаў Цютчаў:

«Счастливый тот, кто посетил сей мир в его минуты роковые». Я не ўпэўнены, што шчаслівы, але цікавы, сапраўды. Цяпер Караткевіч як бы ператвараецца ў нейкую мармуровую ці медную разнавіднасць, а гэтага мне не хацелася б. Лепш было б, каб ён гучаў, пранікаў сваімі тэкстамі і не толькі тымі, што ёсць, а і новымі, якія мог бы напісаць яшчэ, калі б Бог даў даўжэйшы шлях...

— *Што ёсць для вас сама сустрэча з ім у вашым лёсе, як цяпер гэта ацэньваецца?*

— Гэта частка майго жыцця. І, думаю, вельмі важная частка, якой я магу ганарыцца і лічыць шчасцем, што мы з Валодзем некалі сустрэліся. Я гэтага не заслужыў, так атрымалася, лёс так скіраваў, што нашы дарогі перакрыжаваліся, а потым сышліся разам. Шкадую, што мы мала перапісваліся. Мы часта бачыліся. Ён больш ліставаўся з маёй жонкай. Лісты захаваліся, я перадаў іх сястры Валодзі. Сустрэча з ім для мяне — гэта кавалак майго жыццёвага шчасця, калі казаць увогуле пра шчасце.

— *Згадайце, як вы ўпершыню трапілі к нам у Беларусь, у Караткевічаву Оршу...*

— Нелегальна (Караткевіч заўсёды неяк на мяжы нелегальнага дзейнічаў). Быў я тады аспірантам А. І. Бялецкага, які вельмі любіў і цаніў Валодзю, прычым узаемна. А Валодзя на той час працаваў па накіраванні настаўнікам у Лесавічах на Украіне. Аднойчы па дарозе да бацькоў ён заехаў да мяне ў Кіеў і прапанаваў паехаць з ім у Оршу. Ну як тут не паехаць?!. Я сказаў у інтэрнаце, што еду да сябра на вяселле і каб некалькі дзён мяне не чакалі.

І мы паехалі: зімой, у агульным вагоне ў Оршу, да яго мамы, таты, пляменніцы Лялі. Я помню снег, шмат снегу — па пояс, па грудзі. І Валодзева Орша, якая ўвайшла і ў гісторыю польскай літаратуры таксама. Раніцай мы ўставалі, бралі лыжы і хадзілі на той бераг Дняпра — такімі тунелямі прабіраліся... Елі грачаную кашу, якую Надзея Васільеўна гатавала ў гаршку ў печы, чыталі, спрачаліся. Я прывёз з сабою кнігі і розную работу. Валодзя чытаў мне «У снягах драмае вясна» (ён працаваў тады над гэтай аповесцю). Мы хадзілі да Валодзевых сяброў у госці, шмат размаўлялі, пелі песні. І вось такое тыпова зімовае надвор'е, пейзаж не наш, не польскі, больш беларускі. І ўражанне свята, заземленага ў беларускіх традыцыях, фалькпорных нават матывах. І ў мяне было адчуванне, што я знаходжуся ў сябе дома, сярод сваіх родных...

— *Гэта пачуццё засталося? Вы любіце прыязджаць у Беларусь?*

— Я ў Беларусі адчуваю сябе як сярод сваіх. Тут у мяне шмат блізкіх людзей. Вы ўмееце быць сябрамі. Гэта вялікі дар, талент. Так што, наведваючы Мінск, я трапляю ў атмасферу сяброўскай цеплыні і разумення. Таму я люблю прыязджаць у Беларусь.

*Гутарку вяла і пераклала з рускай мовы Галіна Шаблінская.*

*1990, 1995*

## Уладзімір Тамашунас

# Усмешлівасць і незалежнасць

Перад вачамі — фотакартка выпускнікоў Вышэйшых літаратурных курсаў 1960 года.

Паміж Уладзімірам Жукавым з Іванава і ўсмешлівай чэчэнкай Раісай Ахматавай бачу Уладзіміра Караткевіча з яго крыху гарэзлівым позіркам, у цёмным касцюме, белай сарочцы, з гальштукам у палоску. Такім, акуратна апранутым, амаль заўсёды ў белай сарочцы, з гальштукам, запомніўся мне ён на працягу двухгадовага навучання на курсах. Былы настаўнік літаратуры з роднага для нас абодвух горада Оршы. Паэт і празаік. Сціплы, просты, жыццярадасны і вясёлы чалавек.

Пазнаёміліся мы адразу ж, з самага пачатку нашых заняткаў на курсах у верасні 1958 года. Хутка пасябравалі, маючы аднолькавыя погляды адносна многіх жыццёвых пазіцый. Да таго ж былі амаль равеснікамі і землякамі. (Праўда, у адрозненне ад Уладзіміра Караткевіча, я не беларус, але нарадзіўся ў беларускай Оршы ў сям'і ваеннаслужачага-літоўца.)

Час вучобы Валодзі Караткевіча на курсах супаў з тым перыядам нашай гісторыі, што атрымаў назву «адліга». Адліга пасля сталінскай зімы. Адліга ў жыцці краіны ўвогуле. І ў літаратуры — таксама. Натуральна, што пытанні, звязаныя з гэтым, займалі галоўнае месца ў нашых размовах і спрэчках. Валодзя з асаблівым абурэннем і раздражненнем гаварыў пра гібель мільёнаў людзей, пра разбурэнне вёскі падчас культу Сталіна. Пры гэтым часта цытаваў, падладжваючыся пад сталінскі голас: «Гэтая штука мацней за «Фаўста» Гётэ. Каханне перамагае смерць». Гаворкі такія ў нас здараліся, як кажуць, «з вока на вока». Але не толькі. Сустракаліся мы часта з іншымі слухачамі курсаў — латышом Еранімам Стулпанам, армянінам Арташэсам Пагасянам, Раісай Ахматавай. Падчас такіх сустрэч усе звярнулі ўвагу на выключны Караткевічаў дар расказчыка, хаця, вядома, усе ведалі таксама яго паэтычны талент. Мне асабліва запомніўся адзін ягоны расказ. Магчыма, таму, што Валодзя любіў яго паўтараць не адзін раз. Сутнасць у наступным. Пісьменнік Антон Бялевіч заняў неяк кіраўнічую пасаду на радыё. Аднак па сваёй натуры не быў ні адміністратарам, ні тым болей бюракратам, па цяперашніх мерках. І вось аднойчы ў памяшканні радыёкамітэта наладзіў сяброўскую сустрэчу з застоллем. Толькі мікрафоны забыўся адключыць. І радыёслухачы, звыклыя да сумных, павучальных перадач папярэдняй «эпохі», вядома, тут жа зацікавіліся незвычайнай «бяседай». І настолькі яна аказалася далёкай ад цэнзурных патрабаванняў, што ўсе міжволі

ўстрапянуліся. А калі ўдзельнікі імправізаванай сустрэчы ўвогуле пачалі непрыстойна выказвацца, перадачу спынілі. І вядучы аўтар быў пазбаўлены адміністрацыйнай пасады.

Вось такі вясёлы расказ. І іх было нямала. Вочы Караткевіча вылучалі зычлівасць – быў просты і даступны. Запомніўся мне і яго аповед пра стасункі з вучнямі той аршанскай школы, дзе ён быў настаўнікам. «Як толькі вучоба ў школе закончылася і адбыўся выпускны вечар, я рашуча пачаў гаварыць усім, што цяпер мы проста сябры і павінны звяртацца адно да аднаго толькі на “ты”».

Быў Уладзімір Караткевіч чалавекам інтэлігентным у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Умеў слухаць людзей з вялікім тактам. І сам умеў сказаць цікава і адметна. Але галоўнае – гэта тое, што за сваё не такое ўжо і доўгае жыццё напісаў ён даволі многа цікавых кніг. Спачатку была паэзія. Потым – проза. Прычым асабліва цікавай і захапляльнай сталася менавіта яго гістарычная проза. Мне асабіста найбольш запомнілася дзіўна напоўненая рознымі жахамі і нечаканымі паваротамі гісторыя таямнічага замка Альшанскага.

У маі 1960 года адбылася яшчэ адна наша сустрэча з Караткевічам. Гэта калі мы разам ездзілі на экскурсію ў Ленінград. Прайшла яна весела і цікава. І немалая доля «віны» ў тым выпадае на Караткевіча, які, сказаў бы я, па-хлапечы ўсіх «заводзіў». Асабліва запомніліся два эпізоды. Першы – у гасцях у ленінградскага паэта Вячаслава Кузняцова. Уладзімір раптам прапанаваў спаборніцтва: хто з'есць больш хрэну. Проста так, без хлеба, без нічога. Другі – на Неўскім праспекце. Тут прапанаваў ён ужо іншае спаборніцтва. Скачкі праз лужыны. А іх у Ленінградзе, асабліва ў той перыяд, было дастаткова. І мы скакалі. Не памятаю ўжо, хто наскакаў болей усіх і выйграў, але ўсе былі вясёлыя і задаволеныя.

Пасля выпускнога вечара ў Доме акцёра ў чэрвені 1960 года мы надоўга рассталіся. Караткевіч выехаў у Мінск, я застаўся ў Маскве. І так неяк адбылося, што шляхі нашы пастаянна разыходзіліся. Калі ён надоўга спыняўся ў Маскве, мяне тут не было. А калі я трапляў у Мінск – не было Караткевіча. Пасля такіх няўдач засталіся толькі два ягоныя лісты, з якіх мне хацелася б прывесці дзе-што, люструючае яго адметны стыль.

11 лютага 1965 года У. Караткевіч, да прыкладу, напісаў: «Валодзя, салям! Што за няшчасны лёс такі, га? Як ні прыедзеш – абавязкова мяне ў Мінску няма. Цьфу! Шляешся вось так, а сябры міма праходзяць. Ладна, нічога. Я цяпер сяджу ў Каралішчавічах – Доме творчасці пад Мінскам. Але ў пачатку сакавіка збіраюся наведацца на пару дзён у Маскву. Тады пазваню і сустрэнемся і віна (сухога!!!) вып'ем. З прывітаннем – Уладзімір».

У чэрвені таго ж года пісаў ён і такое: «Дарагі Валодзя! Вось дзе нам не шэнціць, то ўжо і не шэнціць! Перашкодзілі мне абставіны. Ажно нязручна, тым болей што заўсёды страшна хочацца сустрэцца. Але чорт! — заўсёды, як прыедзеш у Мінск, мяне, як назло, няма ў горадзе... Ладна, браток, ужо ж пры сустрэчы мы ўсё гэта паправім...

Зараз я ў Рагачове. Твой Уладзімір».

Але мы ўсё-ткі сустрэліся. І неаднойчы. Нават многа разоў. Гэта было восенню 1967 года — у верасні і кастрычніку. Краіна рыхтавалася адзначыць 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У сувязі з гэтым у Цэнтральным доме літаратараў праходзілі сустрэчы з пісьменнікамі і паэтамі з усіх рэспублік. 2 верасня адбыўся вечар з літаратарамі Беларусі, на якім выступіў і У. Караткевіч. Мы былі рады абняць адзін аднаго, пагаварыць хаця б крыху пасля доўгага перапынку. А 5 верасня, у дзень ад'езду беларускай дэлегацыі з Масквы, Валодзя ў першай палове дня прыехаў да мяне дамоў. Тут у нас было болей часу, каб абмяняцца расказамі пра жыццё, работу, справы краіны. (Згадалі ў гэтай сувязі Мікіту Хрушчова, якому мы вельмі сімпатызавалі за развянчанне Сталіна, але пра якога ўжо амаль тры гады не гаварылі ні ў газетах, ні ў часопісах, ні па радыё і тэлебачанні.) А ўвечары таго ж дня я прыехаў у гасцініцу «Расія», дзе спыніліся беларускія госці, каб праводзіць Валодзю. На развітанне выпілі рускай гарэлкі, селі ў аўтобус для дэлегацыі і — на Беларускі вакзал.

Праз месяц У. Караткевіч прыехаў у Маскву па літаратурных справах, пасля завяршэння якіх 11 лістапада мы вырашылі сустрэцца «на вышэйшым узроўні» — разам з нашым агульным сябрам Іванам Бурсавым адправіліся ў папулярнейшы маскоўскі рэстаран «Арагві», дзе адпачылі і пагаварылі. Я і раней заўважаў, што Валодзя быў гурманам і ў адносінах да ежы, і ў адносінах да добрых напояў. А на гэтай сустрэчы — асабліва. Мы атрымлівалі насалоду ад французскага каньяку «Камю» і грузінскага, дзесяцігадовай вытрымкі таксама. Паелі капусты па-гурыйску, салянкі па-грузінску і, вядома, кураняты «табака». Пагаварылі пра многае, і вельмі сардэчна. Сустрэчу тую ў рэстаране закончылі чорнаю кавай і паехалі да Бурсава, дзе і працягвалі дыскусію ў хатняй абстаноўцы.



А на наступны дзень мы зноў сустрэліся ў Івана Бурсава і пасля абеду праводзілі Валодзю на цягнік у Мінск.

Гэта была мая апошняя сустрэча з ім. Не чакаў, што жыццё яго так хутка абарвецца. Да гэтага часу зберагаю ў памяці адкрыты твар, мілую ўсмешку майго сябра, вялікага паэта і празаіка Уладзіміра Караткевіча. Упэўнены, што так будзе заўсёды.

*Пераклад з рускай мовы Валянціны Коўтун*

*2005*

# Якаў Хелемскі

## Запомнім і гэта

Адзін выдатны верш можа часам сказаць пра аўтара болей, чым разгорнуты цыкл, у якім сапраўднай удачы няцяжка і згубіцца.

Вось яшчэ адзін з урокаў Твардоўскага.

Гадоў трыццаць таму, калі Уладзімір Караткевіч толькі пачынаў і калі яшчэ не настаў чарод яго захапляльнай прозы, беларускі чытач толькі што ўведаў першыя публікацыі паэта. Вершы, якія дазвалялі шмат што прадбачыць у адносінах да іх маладога аўтара.

Пераклаў на рускую мову колькі ягоных вершаў і я. Прапанаваў «Новому миру». У аддзеле паэзіі падборку адобрылі. Твардоўскі таксама аднёсся да невядомага дасюль аўтара зычліва. І падпісаў вершы ў набор. Асабліва прыйшлася яму даспадобы мініяцюра «Заяц варыць піва». Давайце разам згадаем гэтыя радкі:

Туман с болот ползет лениво
Над нивой блеклой и пустой.
«Смотрите, заяц варит пиво»,–
Так люди шутят меж собой.

А мне и впрямь, пожалуй, видно,
Как он хлопочет у огня,
Трегубый, серый, безобидный,
Над варевом из ячменя.

Береста искрами стреляет,
А он приладил котелок,
Присел и щепкою мешает,
Отведав, сплевывает вбок.

Уж он-то пиво сварит густо,
Его закуска – бурачок,
Травинка, заячья капуста,
Прогорклых веточек пучок.

Увидишь — спугивать не надо
Ушастого с его семьей.
Должна же быть у зайца радость
Перед суровою зимой.

Калі прыйшла вёрстка цыкла, Твардоўскі сказаў:

– А што, калі мы пакінем аднаго «Зайца»? Астатняе таксама няблага гучыць, але гэты жарт вельмі ж адмысловы.

Аляксандр Трыфанавіч яшчэ раз прачытаў падборку:

– На выставах адметнаму палатну часта асобную сцяну выдзяляюць. І правільна робяць. Давайце зробім гэтак жа. Караткевіч толькі выйграе ад гэтага. Чытач таксама.

У нумары застаўся толькі адзін верш. Сам па сабе выдатны, прыцягваў увагу яшчэ і таму, што, пастаўлены асобна, быў *выдзелены.*

Іншыя вершы без замінкі з'явіліся ў «Знамени» і «Дружбе народов». Дасюль ганаруся, што рускі чытач упершыню пазнаёміўся з Караткевічам праз маё пераўстварэнне.

Дарэчы, калі я расказаў Уладзіміру, зусім маладому тады, пра рашэнне Аляксандра Трыфанавіча, ён задумаўся і адказаў:

— У часопісе Твардоўскага ганарова з'явіцца і з адным вершам. Ды яшчэ пры жаданні рэдактара звярнуць увагу чытачоў на аўтара.— І дадаў: — Мы ўвогуле мнагавата друкуем. І перакладаць, пэўна, таксама не ўсё патрэбна. Адбор — вялікая справа.

Вось ужо і Караткевіча няма... І цяпер выяўляеш з усёй відочнасцю — адносна маскоўскіх перакладных выданняў Караткевіч значна адстаў ад многіх сваіх калег. Не марнаваў на гэта душэўныя высілкі. Не ўмеў і не жадаў *прабіваць* свае кнігі ў сталіцы, асабліва тыя, што выклікалі ў выдаўцоў-перастрахоўшчыкаў сумненні. Усё аддаваў галоўнаму — сваёй працы.

Засталося адчуванне агульнай віны перад ім.

А які ж талент існаваў сярод нас!

*1988* *Пераклад з рускай мовы Валянціны Коўтун*

## Дзмітро Чараднічэнка

# Сустрэчы ў Млынаградзе

Дваццаць другога верасня 1982 года сустрэў я на лецішчы Матузявічуса, яго жонку, а таксама Карчаўскаса і жонку Пяткевіча. Уручыў ім кветкі і пасяліў у гатэлі. Пані Матузявічэне і кажа:

— Цудоўная ваша зямля, што родзіць такія кветкі.

— Дзякую, але, на жаль, не магу па ёй павадзіць, іншыя будуць вамі апекавацца, бо сам маю са зроднікамі ляцець у Піцунду ў Дом творчасці.

— Блаславі, Божа, вашу дарогу. Творчых вам поспехаў.

Увечары мы ўжо былі ў Піцундзе, і першымі нас сустрэлі славутыя браты Чыладзе — Атар і Тамаз. Пазналіся здалёку. Сам Бог іх паслаў — пра такое можна было толькі марыць...

На наступны дзень — свята сустрэч. Браты Чыладзе, Сяргей Плачында, Анатолій Непадкупны, Гіві Алхазішвілі, Іван Бурсаў з Рытаю, а

таксама знакаміты аўтар «Дзікага палявання караля Стаха» Уладзімір Караткевіч, з якім я ўжо быў знаёмы: у сямідзесятых ён прыязджаў у Кіеў на фестываль «Калінавыя масты» (паводле назвы анталогіі маладой беларускай паэзіі, якую з'ініцыіраваў і рэдагаваў Пятро Засенка, упарадкаваў Грыгорый Кочур), што праводзіла выдавецтва «Молодь». Тады мы — Уладзімір Караткевіч, Уладзімір Забаштанскі, Мікола Сом і яшчэ некалькі паэтаў — ішлі на выступленне ў педагагічны інстытут. На каштанах яшчэ толькі з'яўляліся зялёныя кажанчыкі-лісткі, і Караткевіч паказваў, дзе ён жыў (над велатрэкам), калі вучыўся ва універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі, а таксама свой улюбёны ліловы каштан (на цяперашняй вуліцы імя Багдана Хмяльніцкага).

Адным словам, у першы ж дзень у Піцундзе надарыўся цэлы букет прыемных сустрэч. Хоць была ўжо восень (23 верасня!), але ў тамтэйшых мясцінах было цёпла і хораша, як у нас у ліпені — жніўні. Хораша, як на курорце. Ды гэта ж, уласна, і быў курорт. Людзі, якія цэлы год творча працуюць (а не служаць недзе, як мы), сюды прыязджаюць адпачыць. А мы, урваўшы сабе вольную ад афіцыйнай работы хвілінку, думаем папрацаваць творча. Толькі дзе там! Маеш курорт. А для творчасці патрэбна выбіраць іншую мясціну — у больш умераных ці нават халаднейшых шыротах. Аднак тут, перада мною,— мора, пясок, адчайна спякотнае сонца... Ляжаць, загараючы, я не звык. За стол у такое надвор'е таксама не загоніш... І вось увагу маю прыцягнуў незвычайны калхідскі чарот. Пры мне быў добры сцізорык-складанчык, што адразу ж нагадаў мне пра адно маё дзіцячае захапленне. Выразаў адну, другую чарацінку, зрабіў сабе млынок. Паставіў — круціцца. Ану-тка большы... І большы круціцца. Нарабіў іх усялякіх — чатыры-, шасці-, васьмі-, дванаццацікрылых, малых і большых, агромністых. На чаротавыя ветракі да таго ж паначэпліваў маленькія папяровыя млынкі. Пачалі сыходзіцца дзеці — просяць, каб ветрачок змайстраваў: таму зрабі, таму зладзь, таму падрэгулюй. (Праўда, гэтыя дзеці з часам сумленна пільнавалі, каб ніхто нічога не пашкодзіў.) Паміж ветракамі панастаўляў я і розных карчакаватых і каменных дзіваў.

— Гэта ў цябе ўжо сапраўдны млынаград,— сказаў Сяргей Плачында.

Падышоў Барыс Мажаеў:

— На якіх умовах мелеш, стары? Ці танна?

— З наваселлем, Дзмітра! — азваўся і Атар Чыладзе.— Вітаю твой калхідскі Млынаград.

Змецілі гэтыя дзівосы і з суседніх Дамоў творчасці — журналістаў, кіношнікаў, прынамсі. І стала нам неспакойна: каля нас атабарыліся і тыя, і гэтыя.

Давялося ўрэшце зрабіць вятрак-трашчотку — у Млынаградзе наступілі цішыня і благадаць. Круцяцца-вертухаюцца ветрачкі. Шурхацяць адно...

Штоbecause, ідучы да мора, спыняўся каля Млынаграда і Караткевіч. Мы ўжо ведалі і ягоную прозу, і цудоўную паэзію, чыталі ўсё ў арыгінале. І постаць яго ўяўлялася нам і светлаю, і выдатнаю.

Было, падыдзе, пастаіць, паўзіраецца, палюбуецца, памроіць, скажа колькі дасціпных слоў і ідзе ў ваду.

А то сеў неяк аднойчы зводдаль, заглядзеўся на ветракі, карчавінне і камяні. Заслухаўся іх «музыкаю».

А я ўсё, прызнацца, марыў сфатаграфаваць знакамітага беларускага пісьменніка. Падыходжу тым часам бліжэй, а ён усё пазірае задзіўлена на той Млынаград і кажа:

— Забі мяне, такога не зраблю.

Мяне, прызнацца, зачапіла такое высокае ягонае прызнанне. Усё думаю — як жа сфатаграфаваць?! Аднак страшуся: ці ж можна такога пісьменніка — ды ў звычайных трусах?! У думках, праўда, прыцэльваюся — можа, адно толькі галаву, ці па грудзі, ці здалёк, на фоне ветракоў?..

Так і не насмеліўся! Хаця ў маіх вачах навекі захаваўся той незвычайны кадр: сядзіць на пяску жывы класік адно ў трусах і ўзіраецца ў мой Млынаград.

Сфатаграфаваў яго толькі перад ад'ездам з Піцунды, можа, праз тыдзень,— то з Бурсавым, то яшчэ з некім, то з беларускаю грамадою. Цяпер жа, калі чытаю яго ў арыгінале, чую яго голас. Голас пісьменніка. Бачу яго — простага, мудрага, жывога і вельмі блізкага. Незабыўнага Уладзіміра Караткевіча.

І веру яму: «Мы былі, мы ёсць і будзем».

*2005* *Пераклад з украінскай мовы Валянціны Коўтун*

## Валянціна Шчадрына

# Як у Маскве выйшлі «Каласы пад сярпом тваім»



Няхай будзе благаслаўлёнай Крымская зямля і асабліва яе залаты куток Кактэбель, дзе восенню 1971 года пазнаёмілася з Уладзімірам Караткевічам.

Да таго часу я ўжо тры гады працавала ў Саюзе пісьменнікаў СССР кансультантам па беларускай літаратуры, чытала шмат твораў Караткевіча, многа пра яго чула самых неверагодных гісторый. І наогул у Маскве Уладзіміра Сямёнавіча добра ведалі — ён вучыўся там на Вышэйшых

літаратурных курсах і на Вышэйшых сцэнарных курсах. Здавалася, лёсу было б заўгодна, каб мы пазнаёміліся ў Маскве. Аднак знаёмства адбылося якраз у Кактэбелі...

Мяне цікавіў Караткевіч як асоба, як незвычайны пісьменнік са сваім поглядам на гісторыю беларускага народа, яго культуру і мову. Мяне цікавіў паэт, які апантана абараняў правы свайго народа на ўласную гісторыю, культуру і мову. Я ўжо ведала, што Караткевіч за ўсё гэта «ўганараваны» небяспечным тытулам — нацыяналіст... Усім вядома, што ён не адпавядаў партыйным стандартам савецкага пісьменніка і з гэтай немалаважнай прычыны цяжка ўваходзіў у родную літаратуру. І зусім невыпадкова тое, што нацыянальным геніем яго назвалі толькі пасля смерці. А што пры жыцці? Пры жыцці яго цкавалі амаль за кожны верш, за кожны нарыс, ужо не кажучы пра яго цудоўную прозу...

Дык вось, Кактэбель, восень... Я іду ў кіёск па газеты. Каля праломіны ў плоце, праз якую найхутчэй можна было выйсці на бераг мора, сустракаю дзвюх жанчын і мажнага мужчыну, які размаўляў па-польску. Мне саступілі дарогу (я яшчэ падумала: «Якія ветлівыя палякі»), раптам адна з жанчын павіталася са мной. Я прыгледзелася: гэта была Лідзія Арабей. Мы разам вучыліся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, да таго ж адну з кніг пісьменніцы я пераклала для выдавецтва «Советский писатель». Мы даўно не бачыліся, і, вядома, такая нечаканая сустрэча была прыемнай. Раптам Лідзія Арабей кажа: «Вы не знаёмыя з Караткевічам?» І знаёміць мяне з мужчынам, які так пасьпяхова выдаваў сябе за паляка, і з яго жонкай Валянцінай Браніславаўнай. У мяне адняло мову: вось дзе наканавана было збыцца маёй мары! І ўсё выйшла так проста, неяк так па-будзённаму, што мне зрабілася нават крыўдна. Шырока адкрытымі вачыма я глядзела на Караткевіча і не верыла, што гэта Караткевіч, а ён тым часам ужо нешта казаў па-беларуску, і я адказвала таксама па-беларуску, чым неверагодна яго здзівіла: «Адкуль Вы ведаеце беларускую мову?» Пачуўшы, што я з Палесся, з Нараўляншчыны, вельмі ўзрадаваўся, быццам сустрэў роднага чалавека. Размова пацякла далей, і тут Лідзія Арабей, дай Бог ёй здароўя, вазьмі і скажы: «Валя пераклала маю кнігу і зрабіла гэта няпрэнна. А чаму б і табе, Валодзя, не папрасіць яе перакласці свае “Каласы...”?» Караткевіч адказаў: «А што — і сапраўды паляшучка павінна ведаць мову маіх «Каласоў...». Чаму б і не папрасіць?»

Мы дамовіліся сустрэцца вечарам.

Той вечар, здавалася, быў бясконцы. І бясконцай была пад добрае кактэбельскае віно гаворка пра літаратуру, пра жыццё. А пасля Валянціна Браніславаўна папрасіла мужа праспяваць яго любімую песню.

Як сёння памятаю: ласкавы подых мора і Караткевіч на балконе. Калі пачула моцны, прыгожы голас і словы: «Ой косю, мой косю,

чаму ж ты не весел, чаму ж ты не весел, галованьку звесіў...» — то расплакалася. Гэта быў нейкі цуд, а я наогул люблю спевы, усё жыццё з задавальненнем спявала на розных бяседах, але тут, пасля шматгадовага маскоўскага жыцця, мяне зачаравала невядомая беларуская песня і сам гэты незвычайны голас. І ў сваім захапленні я была не адзінокая. Ніхто з насельнікаў Дома творчасці, што ўжо да гэтага часу паснулі, але прачнуліся ад песні Караткевіча, не выказаў свайго абурэння. Пэўна ж, усе слухалі гэты магутны голас, які пераймала горнае рэха.

Пасля былі іншыя вечары, іншыя песні, але той вечар застаўся ў памяці назаўсёды. Калі мы развіталіся, Уладзімір Сямёнавіч з упэўненасцю прамовіў: «Значыць, так, прыеду ў Мінск і адразу ж напішу ў «Советский писатель», каб пераклад майго рамана даручылі вам».

6 кастрычніка 1971 года ён паведаміў мне:

«Паважаная Валянціна Міканораўна! Усё дамоўлена. Напісаў пра ўсё С. Л. Кір'янаву і вельмі прашу Вас узяцца за нялёгкую працу — перакласці маю салому на каласы «великого, могучего, правдивого и свободного». Раблю гэта з палёгкай, даверам і надзеяй.

Абдымаю Вас я, жонка і, хоць мы яе й не бачылі, спадзяюся, Лідзія Арабей.

*Ул. Караткевіч».*

І пачалося змаганне за кнігу. Я ж не ведала, што раман «Каласы пад сярпом тваім» ляжыць у выдавецтве з 1969 года, што на яго ўжо арганізаваны тры адмоўныя рэцэнзіі (3 жніўня 1969 года — Д. Осіна; 5 мая таго ж года — М. Гарбачова і 22 студзеня 1973 года — П. Заянчкоўскага). Рэдактарам была прызначана А. Часнакова. Калі Д. Осін яшчэ больш-менш па-чалавечаму абышоўся з аўтарам (звярнуўшы ўвагу на апісальнасць і нешматлікія стылістычныя хібы, раіў яму скараціць раман на 10 друкаваных аркушаў, бо ўсё ж бачыў у ім будучую Кнігу), то М. Гарбачоў проста заявіў, што ў рамане не адлюстраваны прыгнечаны народ, шматтысячныя масы не раскрыты ў штодзённым жыцці і ў змаганні за свае правы. Адзін-два бунты супраць паноў не вырашаюць праблему... Аўтар захапіўся апісаннем жыцця буйна- і сярэднепамеснага шляхецтва, ён стварае ідылічныя малюнкі баляў і прыёмаў, піша пра шыкоўныя асабнякі і карцінныя галерэі, паэтызуе сцэны палявання. Усё гэта зніжае напал і складанасць змагання народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Алесь Загорскі і малады Кастусь Каліноўскі разам са сваімі сябрамі, студэнтамі гутараць і спрачаюцца пераважна *пра беларускую культуру і родную мову, пра адукацыю і інтэлігенцыю»* (курсіў мой.— *В. Ш.*). І далей М. Гарбачоў пісаў: «...па гэтых прычынах, мяркую, не варта выдаваць раман на рускай мове. Раман «Каласы пад сярпом тваім», нягледзячы на вялікі аб'ём, не дасць усесаюзнаму чытачу

глыбокага, дакладнага, гістарычна-канкрэтнага ўяўлення аб жыцці і змаганні беларускага народа ў 50—60 гг. мінулага стагоддзя».

Аднак заяўка У. Караткевіча на пераклад рамана ўсё ж была прынята, і рукапіс яго аддалі мне.

Пачалася праца.

17 красавіка 1972 года ад Караткевіча я атрымала такі ліст: «...дазволь цябе павіншаваць. Пераклад проста цудоўны. Гэта й прымусіла мяне па цэлым дню сядзець над кожнай старонкай і... нічога не мяняць. Калі й рабіў якуюсь праўку, то заўсёды з пытальнікам — гэта значыць, тлумачыў сваё сумненне на тваю карысць. Табе б трэба самой пісаць. Гэта на самай справе добра і, галоўнае,— рэдкая асаблівасць — з павагай адносіцца да самога сябе і ў той жа час — да аўтара. Так і трэба. Усе заўвагі ў дадатку. Заўвагі падрабязныя, бо я паставіўся да тваёй цудоўнай працы не абы-як, як гэта робіцца звычайна. Аднак жа заўвагі мае маюць неабавязковы характар...»

Мне было прыемна чытаць працытаваныя радкі, бо перакладу рамана я аддавала ўсю сябе, увесь свой час. Я шчыра радавалася кожнаму лісту Караткевіча і кожнай новай перакладзенай старонцы «Каласоў...». Аднак не ўсё складвалася добра. Творчыя цяжкасці спатыкалі мяне на кожным кроку. Справа ў тым, што Караткевіч пісаў пра Падняпроўе, я ж нарадзілася на Палессі, і мне не заўсёды быў зразумелы той ці іншы выраз пісьменніка. Асабліва гэта тычылася назваў адзення, рэчаў хатняга ўжытку і, вядома ж, мовы герояў. Караткевіч цярплівы быў у сваіх цікавых і заўсёды арыгінальных тлумачэннях. Якая гэта была асалода — працаваць з такім дасведчаным аўтарам! З беларускай мовы я пераклала больш за 25 кніг, але, прызнаюся, такой творчай радасці, якую зведала ад прозы Караткевіча, не мела ад іншых твораў.

Уладзімір Сямёнавіч быў вельмі акуратны ў сваіх адказах, тлумачыў не толькі значэнне таго ці іншага слова, але і рабіў малюнкі, графічныя накіды розных, невядомых мне прадметаў. Асабліва гэта тычылася старога посуду і зброі. Як каштоўную рэліквію захоўваю старонкі, спісаныя яго выразным почыркам, яго прапановы і абавязковыя варыянты перакладу таго ці іншага слова і канчатковае — маё слова, узятае з тэксту перакладу з характэрнай прыпіскай: «А можа, так і лепей, хай застаецца».



У той час мы вельмі часта вырашалі пытанні па тэлефоне, званілі ў любую гадзіну сутак. Працавалі, як шчаслівыя вар'яты, і не адчувалі, што нас чакае бяда. 22 студзеня 1973 года, калі пераклад быў зроблены, нашы «добразычліўцы» з выдавецтва «Советский писатель» заказваюць новую рэцэнзію прафесару П. Заянчкоўскаму, якую той піша на адзінаццаці старонках. Прысуд прафесара безапеляцыйны: раман трэба цалкам перапісаць, бо ён не адпавядае гістарычным фактам.

Дык вось, выдавецтва не пашкадавала грошай, каб раман аб'ёмам у 40 друкаваных аркушаў адрэцэнзаваць тройчы. Відавочна, што некім

была пастаўлена задача: ні ў якім выпадку не друкаваць раман на рускай мове, не дапусціць яго да рускага чытача. А тут яшчэ пасыпаліся абсалютна недарэчныя заўвагі рэдактара рукапісу А. Часнаковай.

Дарэмна было спадзявацца на Караткевіча як на дыпламатычнага абаронцу свайго твора. У адным з лістоў ён мне пісаў (ліст, на вялікі жаль, без даты): «Калі кожнае палажэнне кнігі, дзеля якой я працаваў у архівах 12 гадоў, трэба даказваць людзям, якія ў архівах і дня не пабывалі,— то гэта ўжо занадта. Падыміце і старыя мае доказы, я не баюся, што яны выказаныя рэзка, пакажыце і яму (Лесючэўскаму, дырэктару выдавецтва «Советский писатель».— *В. Ш.*) і Часнаковай. Можа, будзе горш. Але няхай. Я паважаю рэдактараў, але, не менш, паважаю і сябе. І я ведаю, што напісаў добрую кнігу, якую ў добрым перакладзе з задавальненнем прачытае і рускі чытач» (падкрэслена Караткевічам.— *В. Ш.*).

За дапамогай звярнулася да Івана Мележа, які заўсёды высока ацэньваў творчасць Уладзіміра Сямёнавіча. Мележ прасіў пазваніць нашаму знакамітаму гісторыку Мікалаю Улашчыку, які жыў у Маскве. Я з удзячнасцю выкарыстала гэтую параду. Угаварыўшы чыноўнікаў выдавецтва аддаць рукапіс на рэцэнзію ў Інстытут славяназнаўства і балканістыкі (не паведаміўшы, вядома, што там працуе прафесар М. Улашчык), мы неўзабаве, гэта значыць — 31 кастрычніка 1973 года — атрымалі цудоўны справядлівы водзыў М. Улашчыка. Рыпучая выдавецкая брама мусіла адчыніцца. Але не надта шырока. Нас чакалі новыя цяжкасці. «Пільнасць» пані Часнаковай не мела межаў, і ў літаральным сэнсе рэдактарка чаплялася за кожнае слова. Па маёй просьбе Уладзімір Сямёнавіч прыехаў у Маскву. Ён настаяў на тым, каб памянялі рэдактара.

Як бы там ні было, але ў 1974 годзе раман «Каласы пад сярпом тваім» выйшаў у «Советском писателе», а пасля неаднаразова быў перавыдадзены ў Беларусі.

Уладзімір Караткевіч быў адданым сябрам і гэтакім жа адданым аўтарам. Усе творы, якія з'явіліся да нашага знаёмства ці пасля яго і не былі яшчэ перакладзены на рускую мову, выйшлі з цягам часу ў маім перакладзе. А гэта — аповесці «Сівая легенда», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Цыганскі кароль», раман «Чорны замак Альшанскі», а таксама шэраг апавяданняў, нарысаў, казак. Наша сумесная работа перарасла ў моцнае сяброўства, і доўжылася яно да апошняга для Уладзіміра Сямёнавіча, да сумнай для ўсіх нас даты — 25 ліпеня 1984 года.

*1995*





## Уладзімір Басалыга

# Гаварыў душою

Валодзя Караткевіч для мяне — святое імя. I не толькі за яго талент, думкі, глыбокія веды нашай гісторыі, вобразы, якія ён апеў у сваіх творах, але ён для мяне святы яшчэ і таму, што фактычна натхніў на самы лепшы твор майго жыцця, які доўжыўся гадоў 15—20. Гэта серыя «Помнікі дойлідства Беларусі».

А пачалося ўсё значна раней. У тыя часы, калі Валодзя выдаваў сваю кнігу вершаў «Мая Іліяда». Тады маладым хлопцам — мне і брату Міхасю — пашчасціла (можа быць, і лёсавае нейкае вызначэнне) у тым, што выдавецтва «Мастацкая літаратура» даручыла нам афармляць новае выданне. Мы толькі пачыналі сваю працу ў гэтай галіне, аздобілі зборнік паэзіі Сяргея Грахоўскага «Памяць». Ён быў заўважаны дзякуючы дэкаратыўнаму падыходу ў мастацкім афармленні. I пасля гэтага мы атрымалі заказ выдавецтва на «Маю Іліяду» У. Караткевіча.

На той час мы — мастакі-пачаткоўцы — з аўтарам не былі асабіста знаёмыя. А ён — чалавек даволі шырокага творчага дыяпазону і ўжо вельмі адметны сярод літаратараў. Калі мы атрымалі рукапіс, каб прачытаць і пачаць працу, мала сказаць, што былі здзіўлены. Я асабіста сутыкнуўся з нячутым і нябачаным. Тое, што пісалася паэтамі да яго, мне здавалася, я ўсё разумею. З такім разуменнем я чытаў Якуба Коласа, Янку Купалу, Максіма Багдановіча. Але вершы Караткевіча для мяне аказаліся на нейкай вышэйшай ступені. I не адносна Купалы і Коласа, а адносна тых думак, якія ён хацеў выказаць. Гэтыя думкі для мяне былі новыя. I форма выказвання — таксама новая. I, безумоўна, я перачытаў рукапіс уздоўж і ўпоперак. Мы пачалі працаваць, шукаць у графіцы адметнасць Караткевіча-паэта. Яго паэзія абсалютна адрознівалася. Там былі і свая рыфма, і свой рытм, і свая думка. I мне здавалася, што я

напаткаў надзвычай цікавага аўтара. Я вельмі стараўся зрабіць нешта новае. У выніку наша работа таксама выпадала з кантэксту, у якім развівалася тагачасная графіка.

Калі мы прынеслі сваё афармленне ў рэдакцыю, то рэдактар спужаўся — настолькі гэта было нетрадыцыйна. Не хачу сказаць, што па-новаму, але па-іншаму. І нас адправілі да Валодзі Караткевіча. Мы ўзялі свае малюнкі, рукапіс, сазваніліся па тэлефоне (ён яшчэ жыў у раёне Старажоўскага рынку) і ў прызначаны час прыйшлі.

А гэта былі 60-я гады, у яго збіраліся сябры-аднадумцы. Вялася глыбокая і цікавая гамонка пра лёс нашай літаратуры, гісторыі, культуры. Валодзя быў у цэнтры гэтых размоў, на кожную праблему ў яго знаходзіліся свае адметныя словы і веды, якім бы пазайздросціў любы слухач. Я не помню цяпер, хто ў яго быў, калі мы прыйшлі: здаецца, Р. Барадулін, А. Вялюгін, хтосьці яшчэ.

Потым госці разышліся, засталося пару чалавек, і Валодзя разгарнуў нашы малюнкі. Я ўбачыў на яго твары ноткі непаразумення: «Чаму менавіта так?» Але ён усё ж даў згоду на такое афармленне. Потым, калі сяброўства наша акрэпла, Валодзя прызнаўся, што, сапраўды, яму не вельмі спадабаліся нашы малюнкі, але, слухаючы, з якой цеплынёю, душою мы гаварылі пра яго вершы, ён вырашыў так: «Вы пачынаеце, і калі вам на ўзлёце вашага пачатку падрэзаць крылы, то невядома, што з гэтага можа быць. Дай падтрымаю».

Ён падтрымаў нас, узгадніў малюнкі, кніга выйшла ў прыгожай супервокладцы: чалавек стаіць з раскінутымі рукамі, а за ім — увесь сусвет. Але кніга цікавая была перш-наперш вершамі, якімі захапілася і моладзь, і равеснікі аўтара. Чыталі ўзахлёб. Кніжку адразу раскупілі, яна не ляжала ў кнігарнях.

Чым яшчэ быў адметны той час? Пачалі выходзіць кніжкі паэтаў, як мы іх называлі, вальнадумцаў: людзей, каторыя прайшлі сталінскі ГУЛАГ. І старэйшыя мастакі, больш амбіцыёзныя, не хацелі брацца за тую літаратуру, яе давалі нам, маладым. Дарэчы, другі паэт, які зрабіў на мяне вялікае ўздзеянне сваёй любоўю да Радзімы,— гэта Л. Геніюш. Мне пашчасціла афармляць яе кніжку «Невадам з Нёмана», якую рэдагаваў на грамадскіх пачатках Караткевіч. Так памаленьку, відаць, нечым і я яго зацікавіў, а ён мяне зацікавіў вельмі.

Аднойчы я быў у Валодзі ў гасцях, ён папрасіў мяне зрабіць яму экслібрыс. А патлумачыў гэта тым, што ў яго шмат розных матэрыялаў пра паўстанне 1863 года (ён жа пісаў «Каласы...») і ў тым ліку пра Мураўёва-вешальніка. Ён хацеў, каб я зрабіў экслібрыс з выявай Каліноўскага, казаў: «Я кожную кнігу ці артыкул пра Мураўёва прыпячатаю гэтым экслібрысам, каб ён там перавярнуўся ў сваёй дамавіне разоў 40 туды й назад». Для мяне гэта таксама было і цікава, і смешна кры-

ху. Бо Валодзя так выразна сказаў. Хаця адчуваўся тут і трагічны сэнс далёкіх гістарычных падзей. Я зрабіў яму заказаны экслібрыс. Потым яшчэ некалькі разоў да яго заходзіў. І ў размовах са мною ён выказаў адну вельмі важную для мяне думку. Рэч у тым, што я зрабіў тры працы да выстаўкі «Мы будуем камунізм»: «Мірскі замак», «Касцёл у Ішкалдзі» і «Царква ў Маламажэйкаве». На той час і Мірскі замак быў разбураны, і касцёл у Ішкалдзі, і царква ў Малым Мажэйкаве таксама былі зачынены. Калі я прынёс гэтыя творы, то перад адкрыццём выстаўкі паўстала пытанне, што ж гэта за камунізм такі мы будуем? Тым не менш творы на выстаўку прайшлі і іх заўважылі.

Валодзя, пабачыўшы гэтыя працы, сказаў: «Табе трэба зрабіць магутную серыю на гэту тэму». Спачатку гэта прагучала як бы сціплаю парадай, а потым мы селі ў яго кабінеце, дзе ён пісаў свае кнігі і дзе знаходзілася безліч цікавейшай літаратуры і сувеніраў з усіх канцоў свету, і тады ён правёў са мной вельмі глыбокую размову, сэнс якой гучаў так: «Каб ты толькі мог узляцець над нашай краінай і зірнуць на тое, што робіцца пад крыламі птушкі, на каторай ты ўзлятаеш, ты б убачыў столькі прыгажосці, столькі помнікаў! Дзе пабураныя, дзе яшчэ жывыя, дзе гаротна зажураныя, каб іх падтрымалі...» І ён так яскрава, вобразна расказваў, у такой мастацкай форме, што гаворка запала мне ў душу. І яшчэ ён сказаў, што знайсці патрэбныя навуковыя матэрыялы можа дапамагчы яго жонка Валянціна Браніславаўна, якая працавала ў Акадэміі навук.

І я пайшоў ад яго акрылены. Быццам да мяне ўжо прыраслі тыя крылы, якія ён мне размалёўваў, расказваючы, як на іх можна падняцца над Беларуссю. А потым у яго выйшла кніжка «Зямля пад белымі крыламі», і гэты вобраз таксама прайшоў праз мяне. Я пачаў збіраць матэрыялы. З выхадам «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» інфармацыі значна пабольшала, я працягваў працаваць. Атрымалася серыя, якая налічвала каля трыццаці прац. Яна забрала ў мяне лепшыя творчыя гады, у нейкім плане і зрок, але гэта важны этап майго жыцця. І за яго — дзякуй Караткевічу.

Валодзя прыходзіў на выставы мастакоў, ён быў вельмі цікавы апавядальнік. Ведаў харошыя і рэдкія песні, сам спяваў. Але я хачу падкрэсліць: мяне вельмі кранал і яго гутаркі пра мову. Такія сакавітыя, каларытныя, што я нават уяўляў, што магу гэта намаляваць. Яшчэ ён увесь час гаварыў: «Слухайце, хлопцы, дзе б вы ні былі, што б вы ні рабілі, якую б вы пачаркуху ні пісалі, пішыце на мове. Нават нейкую пісулю, якая вам трэба, пішыце на мове. Тым больш пісьмы. І працы свае падпісвай, Валодзя, на мове». Я, праўда, і падпісваў працы на мове. Да гэтага часу я ўсё зразумеў, нягледзячы на тое, што закончыў школу расейскую. Але напамінак Караткевіча настолькі цвёрды,

аргументаваны, што не запомніць яго нельга было: «Ты разумееш, што не паставіў «ў», як ты мог?» і г. д.

Я і сам не мог здагадацца да сустрэчы з Караткевічам, што мову можна намаляваць! Але ён вельмі цікава пра гэта гаварыў, што значаць асобныя беларускія словы, якія іх карані, наколькі глыбока ідуць у мінуўшчыну і г. д. Ён прыводзіў назвы нашых месяцаў: «Вось ты паглядзі, як яны прыгожа гучаць: лістапад, снежань, студзень...» І гэта ж сапраўды! Ну я разумею, што для кагосьці лепей гучыць і *апрель,* і *май,* і *июнь.* Але Валодзя мог на кожным слове так засяродзіць увагу, што па сутнасці натхніў мяне на вялікую серыю «Мова наша родная». На жаль, я так яе да сённяшняга дня і не скончыў. Не хапае фізічных сіл, не хапае часу. Я зрабіў каля сямі аркушаў: браў літару і ад яе вобраза маляваў. І мне сёння прыемна ад думкі, што за гэтым маім творам, за гэтай серыяй — таксама постаць Уладзіміра Караткевіча.

У 1980-я гады мяне пакаралі, знялі з работы «за неправильное понимание путей развития (дословно) белорусского искусства». Якія там «пути» былі ў тыя гады, чаму я няправільна іх разумеў — гэта асобная размова. Але якраз пасля святкаваўся 50-гадовы юбілей Караткевіча. Яго віншавалі ўсе творчыя саюзы. Ён пазваніў у Саюз мастакоў і сказаў: «Я хачу, каб мяне віншаваў Басалыга». І я, пакараны, з вялікім партыйным ушчуваннем, прыйшоў яго віншаваць. Прынёс лепшы свой твор «Мірскі замак». Народу было шмат, усе гаварылі шчыра, як Валодзя казаў у такіх выпадках, «душою гаварылі». І я, выйшаўшы на сцэну, таксама хваляваўся і лепятаў штосьці, але галоўнае — я ад шчырага сэрца падарыў яму свой лепшы аўтарскі твор.

Валодзя ўмеў па-чалавечы падтрымаць, разважыць і рассудзіць нейкую тваю праблему, каб яна вырашылася. А яшчэ ён валодаў неверагодным пачуццём гумару, вельмі вострым і заўсёды да месца. Мяне здзіўляў і захапляў яго жыццёвы аптымізм. Я хачу згадаць адзін выпадак, які мне яскрава помніцца дасюль і цудоўна характарызуе Валодзю як чалавека.

Звоніць ён мне аднойчы на працу (я працаваў тады галоўным мастаком Мастацкага фонду БССР):

— Слухай, Уладзік, чым ты там займаешся?



— Перакладваю паперкі з аднаго боку ў другі.

— Кінь ты гэтыя паперкі. Усё роўна яны нікому не трэба і табе не трэба. Ведаеш што, Валянціна зрабіла такі смачны абед, мне сорамна аднаму есці. Прыедзь, паабедаем.

— Валодзя, толькі пры адной умове, што чаркі не будзе.

— Я табе даю слова, што не будзе.

Я прыехаў. Падняўся на пяты паверх, пазваніў. Дзверы адчыніліся. Валодзя стаіць у позе афіцыянта, цераз левую руку — ручнік, і па-расейску: «Кушать подано!» Я ўвайшоў у кватэру, памылі рукі, заходзім на

кухню. Стол засланы белым абрусам, дзве ружовыя талеркі з халадніком са смятанай, салата са свежай капусты, шклянкі для вады (ці нарзан, ці баржомі), відэльцы, нажы, сурвэткі — сервіроўка першакласная! Рэстаран! Селі.

Ён гаворыць:

— Ну няўжо ты, гледзячы на гэты халаднік, будзеш пачынаць абедаць без чаркі?

— Валодзя, мы ж дамовіліся.

— Я табе даў слова. Я піць не буду. Але я хацеў бы цябе пачаставаць. Заплюшчы на хвіліну вочы.

— А будзе што-небудзь смешнае?

— Убачыш.

Я закрыў вочы, нешта скрыпнула зверху, падобнае на дзверцу шафы. А потым — р-раз! — на стале штосьці стукнула, як бутэльку паставілі.

— Адкрывай вочы!

Я расплюшчыў вочы... Перада мной стаяла бутэлька з гарэлкай, але... усярэдзіне на ўсю бутэльку красавалася груша і канцом сваім выходзіла ў рыльца. А сама бутэлька, можа, толькі на трэцюю частку была запоўнена гарэлкай.

Я спрабую запярэчыць:

— Ты ж казаў, што не будзе бутэлькі.

— Валодзя, паглядзі. Ці піў ты хоць раз у жыцці з такой пляшкі?

— Не піў.

— Вось і вып'еш.

Сам ён, праўда, не піў. Наліў мне чарку, я выпіў за яго здароўе. Пачалі абедаць, і я пытаюся:

— Як туды трапіла гэта груша?

— Чакай. Я табе раскажу, але спачатку паабедаем!

І колькі я ні прыставаў да Валодзі з пытаннямі, ён пачаў расказваць пасля, як мы ўжо выпілі па кубачку кавы. Гісторыя гучала прыкладна так: «Ты ж ведаеш, што ўсе абібокі здаюць пляшкі. А я не. У нашым садзе ў Оршы, як толькі завяжацца на грушы плод, я бяру галінку — раз у бутэльку і прывяжу! Бутэлек 15 навешаю, глядзіш, у пяці і вырасце груша. А потым наліваю гарэлку, пэўны час яна настойваецца. Ад першай грушы настойка жоўта-зялёнага колеру, як з лімонам. Так можна разы тры наліваць, пасля — не варта, ніякага смаку. Але ты ўяўляеш сабе, калі ідзеш у госці, не трэба ніякага падарунка купляць — бярэш пляшку, прыходзіш, ставіш на стол. Перастаюць казаць пра юбіляра, гамонка ідзе вакол грушы ў пляшцы. Ды і да мяне, калі прыходзяць госці,— лепшага занятку не прыдумаеш. Вось і ты распытваеш, як такое дзіва атрымалася...» Гэты выпадак з грушаю ў пляшцы запоўніўся мне надоўга як прыклад нястрымнага чалавечага гумару.

Дарэчы, у мяне засталося некалькі гумарыстычных малюнкаў У. Караткевіча. Першы раз ён іх зрабіў, калі мы прыносілі ілюстрацыі да «Маёй Іліяды». Ён узяў ліст мелаванай паперы, аўтаручку і пачаў маляваць. Прычым маляваў хутка і з разуменнем, што ён малюе: не тое што рука ў яго трымціць, не. І для мяне гэта таксама было дзіва. Так што і дар мастака ў яго быў. Не толькі пісьменніка, а яшчэ і дар гісторыка, і дар грамадзяніна, і дар чалавека вельмі багатай душы...

Валодзя не баяўся і начальства. Не баяўся пайсці ў абарону ўсіх тых будынкаў, вуліц, якія зносіліся, на абарону Нямігі. Пайсці на самы верх і там у самым катэгарычным плане выказацца ў абарону нашай Бацькаўшчыны. Гэта была яго адметная якасць.

Незадоўга да смерці (ён, мусіць, адчуваў, што канец блізіцца) Валодзя паклікаў мяне і Аляксея Марачкіна да сябе. Я прынёс яго кнігі, каб ён мне падпісаў, але ў яго былі падрыхтаваны са свайго боку гэтыя ж кніжкі, і ён іх падпісаў нам абодвум. Ён адчуваў сябе не лепшым чынам, і мы доўга не заседжваліся. Праз паўтара месяца яго не стала.

Я вельмі часта ўспамінаю Валодзю. Не тое каб ён мне сніўся, не. У думках успамінаецца вельмі часта, у асяродку аднадумцаў: пісьменнікаў, мастакоў, гісторыкаў. Вельмі часта на юбілейных датах, іншых святах Караткевіч прыгадваецца як прысутны сярод нас. Па ім вымяраюцца нашы сумненні: «А што б сказаў ён па гэтым пытанні? А ці падтрымаў бы наступнае пачынанне?..»

Вось лёс чалавека, які за такі кароткі тэрмін зрабіў для Радзімы шмат. І слова «шмат» нават не ўмяшчае ўсяго таго, што ён адолеў...

*2005*

## Артур Вольскі

# «Чортаў скарб»



### Сустрэча з казкай Уладзіміра Караткевіча

Аднаго разу завітаў да мяне мастацкі кіраўнік Гомельскага абласнога тэатра лялек, рэжысёр і артыст Уладзімір Матрос. Як звычайна ў такіх выпадках, ён пачаў скардзіцца на адсутнасць нацыянальнага рэпертуару, на лянотнасць беларускіх драматургаў. А напрыканцы гутаркі нечакана спытаўся:

— Як вы ставіцеся да творчасці Уладзіміра Караткевіча?

Я адразу наважыўся гаварыць пра незвычайную караткевічаўскую драматургію.

Але Матрос перапыніў мяне:

— Я маю на ўвазе казкі.

Казкі?.. Так, я чытаў іх. Але мяне больш захаплялі вершы, гістарычныя хронікі-драмы, раманы і апавяданні слыннага аўтара і майго добрага знаёмага. Некалі, у гады навучання ў Маскве, Валодзя колькі разоў спыняўся і начаваў у маім інтэрнацкім пакойчыку.

— Можа б, вы ўзяліся зрабіць што-небудзь для нашага тэатра? — і, не чакаючы адказу, мой суразмоўца дадаў: — Паглядзіце ў першую чаргу «Чортаў скарб»...

Я толькі паціснуў плячыма. А дома ўзяўся гартаць томікі выбранага Уладзіміра Караткевіча. Вось і казкі. Іх не дужа многа...

Я, прызнацца, аматар казак. Асабліва народных. Мне міжволі ўзгадаліся казкі ў апрацоўцы такіх майстроў слова, як Якуб Колас, Алесь Якімовіч... Яны ў маёй хатняй бібліятэчцы таксама ёсць. Але казкі Уладзіміра Караткевіча — гэта нешта іншае, нешта асобнае. У іх народныя мудрасць і дасціпнасць знаходзяць дабратворнае спалучэнне са своеасаблівасцямі мовы і непаўторнасцю стылю пісьменніка, з ягоным геніем.

Казка «Чортаў скарб» сапраўды падалася мне найбольш адпаведнай прапанове У. Матроса. І, не адкладаючы справу надоўга, я патэлефанаваў у Гомель.

Праца аказалася даволі складанай. Па-першае, казку, напісаную ў прозе, я паспрабаваў пераказаць вершам. Па-другое, умовы сцэнічнага мастацтва вымусілі мяне ў пэўнай меры ўскладніць сюжэт, увесці дадатковыя эпізоды, персанажы. Але не буду спыняцца на гэтым падрабязна. Не пра тое гаворка. Галоўнае — тое, што я знайшоў у творы Уладзіміра Караткевіча, адкрыла мне самыя шырокія магчымасці.

Неўзабаве ў Гомельскім абласным тэатры лялек адбылася прэм'ера. Я ездзіў на першы спектакль. І артысты, і публіка, і сам рэжысёр-пастаноўшчык Уладзімір Матрос былі задаволеныя. А ў праграмцы да спектакля, акрамя прозвішча аўтара п'есы і назвы, значылася: «Памяці Уладзіміра Караткевіча». Гэтае прысвячэнне захавалася і ў зборніку лепшых беларускіх драматургічных твораў, выдадзеным выдавецтвам «Юнацтва» пад агульнай назвай «Цудоўная дудка».

«Чортаў скарб»... Не было б генія Уладзіміра Караткевіча, не было б ягонага Боскага дару, не з'явілася б казка, а за ёю — і п'еса.

*2000*

Генадзь Гарбук

# «Мы самі лепей ведаем...»

Не памятаю, які гэта быў год, недзе канец 60-х. Чуў, што здымаецца кінастужка «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» па рагману Уладзіміра Караткевіча. І вось сам твор — у руках. Пачынаю чытаць, і ўжо — не адарвацца. Нейкая магія зацягвае ў вір прыгажосці. Прыгажосці мовы, сюжэта, вобразаў, думак і ідэі. Прачытаў на адным духу. Тады, па маладосці, свае справы займалі больш за ўсё, тэатральныя — асабліва. Пайшлі чуткі, што Караткевіч напісаў п'есу пра паўстанне 1863 года на Беларусі, дзе галоўны герой — Кастусь Каліноўскі. Нарэшце у нас, у тэатры імя Я. Купалы, з'явілася аб'ява: «Такога-та чысла, у 14.15, адбудзецца чытка п'есы. Чытаць будзе аўтар». Я ўжо па Віцебскім тэатры імя Я. Коласа ведаў, навучылі Г. Б. Шчарбакоў і старэйшыя артысты-карыфеі, што аўтару чытаць свой твор нельга, ён не зможа прадаць яго належным чынам, не ўмеюць яны гэта рабіць. На чытку сабралася амаль уся трупа. Вось і аўтар: прыгожы, стройны, нават зухаваты малады чалавек. Хваляваўся ён ці не — не скажу, але трымаўся ўпэўнена. І, на здзіўленне, добра чытаў п'есу. Прайшло гадоў 40, а я дасюль чую яго прыемны голас, такое тонкае разуменне моманту. Ён скончыў. І тут пачалося незразумелае: нашы вядучыя майстры пачалі не абмяркоўваць твор, не разбіраць прафесійна яго вартасці і заганы, а... знішчаць, проста — закопваць. Хаця, канечне, і на мой тагачасны погляд маладога артыста, былі сур'ёзныя недахопы (шматслоўе, дзе-ніздзе зацягнутыя сцэны, Каліноўскаму як бы жыццёвасці не хапала, крыві і г. д.), але галоўнае — было ж?! І якія тыпы, асабліва Мураўёў, ды і не толькі ён. Народныя вобразы паўстанцаў выпісаны добра. Але гэтага не заўважалі. Уладзімір сядзеў моўчкі, толькі сказаў спачатку, што згодны з заўвагамі і гатовы на дапрацоўку п'есы. Але яго словы не спынілі таго злоснага нападу. Ён доўга цярпеў, потым сабраў сілы, устаў і сказаў: «Нагі маёй больш не будзе ў гэтым тэатры». Канечне, не адразу, шмат часу прайшло, пакуль я зразумеў, што тое абмеркаванне падрыхтавана па ўказцы зверху, ад улады. І тады, і на працягу ўсяго жыцця Караткевіч быў няўгодны. А за што? Магчыма, ужо хадзіла па свеце яго казка: «Калі Бог ствараў зямлю і жыццё на ёй, то для Беларусі ён не пашкадаваў ні прыгожых лясоў і палеткаў, ні цудоўных рэк і азёр, ні выдатнага клімату, ні разумных руплівых жыхароў. І сталі жыць людзі, як у раі, і радаваліся свайму шчасцю. І тады Бог сказаў, што каб усё на зямлі было па справядлівасці, я дам вам самае дурное начальства...» А можа, за тое, што ва ўсіх творах Караткевіча адчуваецца, што яго сэрца разрываецца ад болю за лёс свайго народа...

Потым адбылося і наша знаёмства. Не магу назваць год, бо здаецца, што былі знаёмы ўсё жыццё. Гэта адчуванне сталася дзякуючы асаблівасцям характару Валодзі. Дзіўна, калі ўжо добра сышліся, ён мне нагадваў мядзведзіка, такога вялікага, лагоднага, спакойнага, разважлівага і ў той жа час — разумнага, дасціпнага і вельмі жартаўлівага. Жарт ён вельмі любіў і ўмеў жартаваць. Рабіў гэта тонка і змястоўна. Вельмі любіў спяваць пры добрай бяседзе і прыемных яму людзях. Адзін успамін для мяне асабліва дарагі. Неяк я трапіў да яго ў дом. Звычайная двухпакаёвая кватэра ў раёне бульвара Шаўчэнкі. Чыста, утульна. Не відаць асаблівай раскошы, але не так ужо і бедна. Вось толькі чысціня – ну проста ідэальная. Гэта ад яго маці, якую ён богатварыў. Магчыма, як знак асаблівага даверу альбо яшчэ чаму — ён завёў мяне ў свой кабінет. Я аслупянеў: гэта быў кавалачак ці капліцы, дзе толькі маліцца можна, ці музея: адчувалася, што гэта для яго — святое. На асобным стале, засланым белым абрусам, стаяла ў прыгожай драўлянай разной рамцы літаграфія Кастуся Каліноўскага. Памер яе даволі вялікі, прыкладна 60—80 см вышынёю і 40—50 шырынёю. З бакоў, у падстаўках — дзве вялікія каляровыя свечкі, прыгожыя кветкі. Я адчуў, што тут лепей памаўчаць, бо пакой нібыта напоўнены жывым дыханнем.

Тады ж мне давялося зрабіць і яшчэ адно адкрыццё. Я заўважыў у другім пакоі на паліцы стос патэфонных пласцінак. Стаў іх перабіраць — на іх напісана па-польску. Валодзя сказаў, што гэта — польскія ваенныя маршы ў выкананні Ансамбля песні і танца польскай арміі. Я стаў слухаць. Магутны мужчынскі хор, духавы аркестр. Нават «Прощание славянки» ёсць. Але адзін марш асабліва ўразіў. «Чырвоныя макі Монтэ-Касіна» назваў яго Валодзя і расказаў гісторыю, якая мяне ашаламіла. Армія пад камандаваннем польскага генерала Андэрса ўваходзіла ў склад англійскіх войск, якія вызвалялі ад нямецкіх фашыстаў Італію. Іх наступленне спыніла нямецкая лінія абароны, галоўным апорным пунктам якой быў 1400-гадовы манастыр Монтэ-Касіна. Яго штурмавалі амерыканцы — не ўзялі, штурмавалі англічане — таксама няўдала, штурмавалі новазеландскія, індыйскія часці — з тым жа вынікам. Даручылі арміі Андэрса, якую складалі палякі, беларусы, украінцы. Тыдзень цягнулася бітва. З арміі генерала Андэрса загінула больш як 900 афіцэраў, каля 10 000 салдат, але гэта цвярдыня, якую абаранялі адборныя эсэсаўскія парашутныя войскі, пала. У гонар герояў і быў напісаны марш «Чырвоныя макі Монтэ-Касіна».

Амаль праз 40 гадоў мне давялося агучваць дакументальны фільм «Салдаты, у якіх не было Перамогі» рэжысёра У. Бокуна. З гэтай стужкі я даведаўся, што генерал Андэрс завяшчаў пасля смерці пахаваць яго на могілках горада Монтэ-Касіна разам са сваімі салдатамі. І як жа мне стала прыкра і балюча, калі цяпер, пішучы гэтыя ўспаміны, я ўключыў

канал «Discovery», дзе нібы па волі нейкай звышсілы ішоў сюжэт пра бітву за Монтэ-Касіна, і раптам прагучаў тэкст: «Было загадана польскай арміі генерала Андэрса штурмаваць манастыр. Але яны занялі яго толькі, калі немцы, баючыся акружэння, пакінулі свае пазіцыі». ?!! Відаць, у палітыцы няма мяжы падману і нізасці, бо гэта было сказана, каб апраўдаць няўдачы амерыканцаў і англічан. А што там нейкія палякі, беларусы, украінцы, лёс якіх і пасля вайны быў жахлівы. Бо гэта была гісторыя салдат — беларусаў, палякаў, украінцаў,— якія змагаліся супраць фашыстаў, але ў СССР яны на той час лічыліся здраднікамі.

Гаварыць, якое ўражанне на мяне зрабіў раман Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», не стану. Не змагу словамі перадаць тое захапленне. Пры сустрэчы, помню, пачаў яму казаць штосьці, ды ён перапыніў: «Мы самі лепей за ўсіх ведаем, што зрабілі добра, а што дрэнна, ці то ў літаратуры, ці то на сцэне, праўда ж?»

І яшчэ была адна важная сустрэча, ужо творчая. Мяне запрасілі на кінапробы: Міхаіл Пташук распачынаў працу над фільмам «Чорны замак Альшанскі». Мяне ён пробаваў на роль Лапатухі. Здаецца, усё атрымалася добра, зацвердзілі. Падабралі, не без цяжкасцей, касцюм, грым. Шмат разоў з Пташуком сустракаліся, абгаворвалі, рэпеціравалі. Наогул рыхтаваліся да здымак як мае быць, бо гэта ж — наш паважаны і любімы аўтар. І вось перад самым ад'ездам у экспедыцыю на Львоўшчыну, дзе захаваліся і старыя крэпасці, і замкі і дзе праходзілі амаль усе здымкі, Міхаіл Пташук мне кажа: «Слухай, Лапатуха ад усіх сваіх бед, свайго невыноснага гора страціў не толькі часцінку ці то розуму, ці то свядомасці, але і мову, здольнасць гаварыць». Я аслупянеў: «А як жа маналогі Лапатухі, у якіх — яго жыццё і г. д. А што скажа, нарэшце, Караткевіч? Гэта ж такое ўмяшанне ў аўтарскі тэкст?!» А Міша кажа: «Раман — адно, а кіно — другое... І наша задача зрабіць так, каб пераканаць Караткевіча, што так для фільма лепей». Здымкі пацвердзілі правільнасць Пташуковага рашэння. Калі паказалі гатовы фільм Караткевічу ў санаторыі «Аксакаўшчына», дзе ён знаходзіўся на лячэнні, Уладзімір Сямёнавіч сказаў: «За маўчанне Лапатухі дзякуй. Пераканалі».



Апошні раз бачыў яго ў скверыку каля тэатра імя Я. Купалы. Ён сядзеў на скамейцы каля фантана. Маўклівы, задуменны. Здароўкаючыся, я жартам стаў сціскаць яго далонь усё мацней і мацней, каб зрабіць балюча, вывесці яго з такой хандры. А ён кажа: «У мяне штосьці ногі слабеюць, а рукі яшчэ моцныя». Ды як здавіць маю далонь, нібы абцугамі, я аж войкнуў!

Праз два-тры тыдні яго не стала. Не стала аднаго з найталенавітых, найсумленных, працавітых і адданых сыноў Беларусі.

*2005*

# Пятро Драчоў

## Засталася настальгічная тэма

*Пятро Мікалаевіч абяцаў сам падрыхтаваць для гэтай кнігі ўспаміны пра свайго сябра і духоўнага паплечніка, казаў, што абавязкова адбярэ патрэбныя малюнкі і фотаздымкі. Але здарылася так, як яно, мусіць, вызначана лёсам. Сёлетнім травенем яго душа выправілася ў вечнае жыццё, на сустрэчу ў нябёсы з тым, з кім некалі разам пачалі незабыўны развітальны шлях па беларускай Прыпяці...*

*...Да 65-гадовага юбілею пісьменніка Уладзіміра Караткевіча мастак Пятро Драчоў зрабіў цудоўную выставу «Быў. Ёсць. Буду.», якая экспанавалася ў Оршы і Мінску. У мяне застаўся фондавы запіс гутаркі з Пятром Мікалаевічам, якую я рыхтавала для Беларускага радыё ў дзень адкрыцця экспазіцыі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Мне думаецца, у ёй прачытваецца галоўнае — сяброўская павага, агульная адданасць творчасці, шчымлівая любоў да мілай сэрцу Беларусі...*

*Наша размова з мастаком пачалася з пытання пра задуму выстаўкі і яе мастацкую ідэю.*

— Выстава павінна стварыць уражанне прысутнасці самога пісьменніка. Я вельмі даўно быў знаёмы з Уладзімірам Сямёнавічам, мы ездзілі разам не ў адно падарожжа па славутых мясцінах: Нясвіж, Мір, Наваградак, Свіцязь. І надарылася наша апошняе падарожжа, што стварыла на ўсё жыццё і жаль, і бясконцую тугу па гэтым выключным чалавеку. І гэтай выставай мне хацелася паказаць тую шчымлівую любоў да сваёй зямлі, якая была ў Караткевіча. Адчуванне бяды, што насоўвалася на зямлю бясконца: і Чарнобылем, і рознымі сацыяльна-палітычнымі нягодамі:

Каб плыў судоў уратавальных дым,
А родны край знікаў навекі ў хвалях,
Я б лепей згінуў з ім, з яго апошнім жалем,
Як жыў і мучыўся бязмерна — з ім.

У згаданых радках Караткевіча ёсць той падтэкст, праз які мне хацелася перадаць дзве тэмы: прыгажосці нашай Бацькаўшчыны і разам з тым — яе трагічнага лёсу. Караткевіч пастаянна ў сваёй творчасці паказвае нам, што гэта наша зямля, яна не горшая за іншыя і не лепшая, але яна наша родная. І яе трэба любіць і шанаваць. І таму мне хацелася, каб у гледача ўзнікала адчуванне светласці і адначасна ўнутранай пагрозы. Каб зразумець глыбокую душу самога Караткевіча.

*— Я адразу звяртаю ўвагу на два колеры: сіні і зялёны, якія абрамляюць усю экспазіцыю. Паядналася зямное і нябеснае, але ў ім галоўнае — працяг*

*жыцця, у якім разам з беларусамі будзе слова Караткевіча з яго пранізлівай любоўю да Беларусі.*

— Вы правільна заўважылі. Была такая аўтарская задума. Не прама сказаць гледачу, а так стварыць кампазіцыю, каб у яго недзе ў падсвядомасці ўзнікала адчуванне, што не ўсё скончана. Жыццё працягваецца. Ёсць гэтая зямля, яна ўвесь час жыве, дыхае, і яна будзе. І словы Караткевіча: «Быў. Ёсць. Буду.» — гэта не пра ўласнае «я». Іх трэба разумець шырэй: мая зямля разам са мною была, ёсць і будзе бясконца. І, нягледзячы на некаторыя акорды цёмнага, шэрага,— у той жа час гэта зямля збіраецца нараджаць новае жыццё. Вось блакіт неба, вы бачыце, прысутнічае па ўсёй выставе, на дваццаці чатырох планшэтах, якія, дарэчы, аб'яднаны агульным краявідам. Бо творчасць Караткевіча, акрамя яго ўласнага таленту, майстэрства слова, вобраза,— гэта частка нашай гісторыі і духоўнасці. На выставе шмат факсімільных здымкаў. Мы свядома адмовіліся ад друкаваных анатацый для гледача. Уяўленне пра пісьменніка ўзнікае, калі бачыш яго творы. Тут можна прачытаць яго рукапісную аўтабіяграфію і паглядзець цудоўнейшыя малюнкі.

Вось гэта — той самы плыт, на якім мы праехалі недзе з сотню кіламетраў па Прыпяці. Валодзя быў у захапленні. Прырода так падарыла, што навокал грымелі навальніцы, а над намі за два тыдні ніводнага дожджычку не пралілося. Увесь час сонца свяціла. І на вадзе — лёгкі ветрык, камары не кусаюцца. А на беразе нас бы заела машкара. І мы плылі, як быццам бы нас Бог аберагаў ад усіх гэтых нязручнасцей. Шкада толькі, што так здарылася... не дазволіла здароўе Уладзіміра Сямёнавіча...

*— Ваш сённяшні ўспамін пра яго як пісьменніка, чалавека, сябра? Адчуванне страты праз гады...*

— Калі мы з ім пазнаёміліся і рабілі яго кніжкі — «Зямлю пад белымі крыламі», «Чорны замак Альшанскі»,— мне здавалася, што я здорава яго ведаю. Ведаю яго творчасць. Тым больш мастак калі чытае,— ён жа вычытвае ўсё ў другім кантэксце. Але праходзіць час, адмятаюцца пабытавыя нейкія моманты, жыццёвыя дробязі, і пачынаеш па-сапраўднаму адчуваць глыбіню і вышыню творчасці Караткевіча. Падтэкст яго твораў, яго разуменне любові да Бацькаўшчыны — яно не ў тым падручнікава-кан'юнктурным выразе, што трэба любіць Радзіму. А яно выплывае з жыццёвай існасці чалавечай. І кожны дзень я параўноўваю свае дзеянні з думкамі Валодзі: як бы ён на гэта паглядзеў, як бы ён да гэтага аднёсся. Я не маю на ўвазе дзеянні ўвогуле, а менавіта — творчасць. Існаванне мастака ў нас на Беларусі. Не яго жыццёвыя праблемы ці фінансавыя — не. А менавіта як ты, як мастак і чалавек, бачыш гэты свет. І ўвесь час Караткевіч як бы падказвае, куды ісці, як ісці. І, мне здаецца, так будзе ўсё жыццё. Я думаю, і тыя, хто будзе сутыкацца з яго твор-

часцю (не толькі мастакі, але і проста чытачы), яны ўжо не пазбавяцца ад гэтага адчування. Іншая кніжка, прачытаная пасля Караткевіча, не закрые яго кніжку. А будзе ўвесь час нагадваць пра сябе, таму што ёсць у яго творах тое прыцягненне, якое не забываецца. Ён чалавеку нагадаў некалі: збірай сваё жыццё са сваёй Радзімы. Што ты сёння робіш для Радзімы, што ты сваёй творчасцю зрабіў, каб яна была — наша зямля. І гэта застанецца... Можа, я дужа высока гавару...

— *Пятро Мікалаевіч, а як вы пазнаёміліся з Караткевічам? Калі сышліся два таленты: мастака і пісьменніка? Адразу надарылася нейкая падзея, якая паспрыяла вашаму сяброўству ці гэта прыйшло паступова?*

— Я вам скажу, што мы ў свой час, як тыя ж «шасцідзесятнікі» маскоўскія, цікавіліся ўсім, што адбывалася ў Беларусі. Як у Маскве — і Вазнясенскі, і Акуджава, і іншыя, так у Мінску — творчасць Быкава, Караткевіча. Мы студэнтамі тады былі, чыталі ўсё з рук у рукі. І я помню, «Каласы пад сярпом тваім» зрабілі настолькі магутны ўплыў на ўсіх, і на нас — мастакоў, таксама. Мы збіраліся разам, абмяркоўвалі. А аднойчы мне патэлефанавалі з «Мастацкай літаратуры» і прапанавалі аформіць «Зямлю пад белымі крыламі». Я, калі пачаў чытаць, моцна ўразіўся, па сутнасці, гэта была энцыклапедыя Беларусі. І мне сказалі, што трэба зрабіць вокладку і пару ілюстрацый ці дакументальныя матэрыялы скарыстаць. Мяне настолькі захапіла гэта кніжка! Мы зрабілі як бы першую такую агульную энцыклапедыю пра Беларусь. Нездарма яна потым выйшла на шматлікіх мовах. І была як візітная картка Беларусі. Нават дыпламаты, калі пра Беларусь расказвалі, дык бралі яе. Чаму? Там здорава пра ўсё напісана. І з гумарам. Як мастак скажу вам, там можна было ілюстраваць кожны радок. Таму што гэта энцыклапедыя беларускага жыцця: побыту, гісторыі, мастацтва, паэзіі, літаратуры — яна ахоплівала ўсё. І хоць нам палову ілюстрацый скасавалі, але ўсё роўна кніжка атрымалася. Мы не глядзелі, колькі часу трэба над ёй сядзець, якімі спосабамі дабываць гэтыя здымкі, перафатаграфоўваць адусюль, знаходзіць вытокі-крыніцы. І кніжка атрымалася унікальная.

У свой час для музея ў Наваградку я рабіў літаграфічны ліст «Дзяды» і звярнуўся да А. Мальдзіса як знаўцы гэтых абрадаў за кансультацыяй. І ён мяне скіраваў да У. Караткевіча. Між іншым, гэта была наша самая першая сустрэча. І Уладзімір Сямёнавіч садзіцца, бярэ ліст паперы і пачынае мне апісваць, як у хаце вясковай святкавалі Дзяды: якая страва была, дзе хто сядзеў і г. д. А потым расшыфраваў мне «Дзяды» А. Міцкевіча, тыя радкі пра сам абрад, як яго святкавалі ліцвіны-беларусы. Па сутнасці, гэта абрады нашых старажытных беларусаў. І ён ведаў іх выключна.

Потым Уладзімір Сямёнавіч прапанаваў мне ў «Маладосці» праілюстраваць «Чорны замак Альшанскі». Спачатку раман друкаваўся часткамі

ў гэтым часопісе, і я зрабіў першыя чорна-белыя ілюстрацыі. А калі ўжо выдавецтва паспела для выдання кніжкі «Чорны замак Альшанскі» — ён мне сам прапанаваў зрабіць кнігу (на выставе вісіць адна з ілюстрацый да яе і таксама вокладка). Усяго 1000 экземпляраў было па-сапраўднаму зроблена, з разваротамі раскладнымі. І Уладзімір Сямёнавіч падпісаў мне вельмі шыкоўна. Я ўсім хваліўся і хвалюся яго падарункам-аўтографам на цэлую старонку. І рыхтавалі мы яшчэ іншыя кніжкі. Але была ў нас адна велізарная задума: зрабіць кнігу пра Беларусь кшталту «Зямлі пад белымі крыламі», толькі больш грунтоўна: з паэзіяй, з ілюстрацыямі твораў славутых мастакоў, са слайдамі помнікаў, з малюнкамі. І гэта задума пачала была ўвасабляцца ў нашым апошнім падарожжы па Прыпяці. Мы толькі распачалі. Уладзімір Сямёнавіч дзённікі цікавыя вёў. А так надарылася, што прыйшлося мне зрабіць пасля толькі адну яго кніжку, апошнюю, «Быў. Ёсць. Буду.». Гэтыя творы павінны былі як частка ўвайсці ў вялікую кнігу, фаліянт, які мы задумвалі. А атрымалася «Быў. Ёсць. Буду.». І ў ёй здымкі, між іншым, яшчэ аднаго члена нашага экіпажа (на жаль, яго няма ўжо) Валянціна Ждановіча, выдатнейшага фатографа, майстра — гэта быў сапраўдны мастак. На выставе яго здымкі найбольш эмацыянальна сведчаць пра тое наша падарожжа.

— *Падарожжа, задума якога была такая высокая і такая цікавая: зрабіць сапраўдны фаліянт пра нашу Беларусь, аказалася, на жаль, развітальным для пісьменніка Караткевіча. Як пачуваўся ў тыя дні Уладзімір Сямёнавіч? Як увогуле вам побач з ім было: лёгка, складана, проста? Як адчувалі вы сябе ў гэтым падарожжы ўсе трое?*

— Разумееце, супольная работа і адносіны ў нас былі проста выключныя. Я лічу, што ён радней, чым любая радня, па-першае. А падругое, было вельмі важна, што Караткевіч — мой самы лепшы сябар (як я лічыў) так добразычліва да мяне ставіцца. І гэтая атмасфера ў нас не змянілася і ў падарожжы. Калі б хто збоку паглядзеў ці паслухаў — гэта не проста добразычлівая, а поўная рамантызму і гумару паездка. Мы ж адразу прызначылі Уладзіміра Сямёнавіча адміралам, а мы з Валянцінам былі матросамі. І ён намі павінен быў кіраваць. Вось бачыце, тут такая рагулька, гэта на ёй мы цягалі плыт, каб не сутыкацца з баржамі, ракетамі, каметамі — уяўляеце сабе, якія хвалі былі! І магло б і нам шкоду нейкую нанесці. Мы ішлі, і зрэдку атрымлівалася так, што на вадапоі стаялі каровы — такі вялізазны статак, што нам не прайсці, тады я крычаў: «Вы што, не бачыце? Едзе адмірал-пісьменнік!» Канечне, каровы не расступаліся, але я іх рукамі расштурхоўваў, і мы праходзілі так эфектоўна. Гумару хапала. Мы ж кожны вечар не дапазна плылі, а так кіламетраў трынаццаць у дзень рабілі па цячэнні, прыпыняліся ля прыгожай мясціны, раскладвалі касцёр, юшку варылі і сядзелі, назіралі, як буслы вучаць маладое пакаленне лётаць, гаварылі пра космас, пра

НЛА, пра гісторыю — бясконца. І мы, можа, не столькі самі стараліся гаварыць, колькі больш слухаць. Таму што заўсёды было штосьці нечаканае ў размовах Уладзіміра Сямёнавіча. Здавалася б, столькі чалавека ведаеш, а кожны раз раптам адкрываецца зусім іншы свет, іншае бачанне. Нават пра самыя звычайныя рэчы ён пачынаў так гаварыць, што ўражвала. А якія ў яго гаворкі атрымліваліся з тымі ж бакеншчыкамі, матросамі, што нам сустракаліся. Ён мог іх неяк зачапіць, і яны так цікава расказвалі. Уладзімір Сямёнавіч паспяваў усё запісваць. За тыя дні — колькі мы праплылі — у яго столькі было запісаў зроблена! Ён жа ведаў і скарапіс старажытны, помню, як прысылаў мне жартам паштоўкі і там закамуфліравана так, што сядзіш і разблытваеш (у Сярэднявеччы на Беларусі быў пашыраны тайнапіс такі: скарапіс як бы кірылічны, але вельмі складаныя штукі). І тут мы нават не чакалі, што ён усё заўважае. Потым, калі пасля паездкі ўжо з цяжкасцю расшыфроўвалі і Валянцін, і даследчыкі запісы Уладзіміра Сямёнавіча, то аказалася, што ім усё было занатавана. Прытым ён лавіў своеасаблівыя словы, палескія гаворкі, якія захаваліся ў асобных старажытных мясцінах.

— *Пятро Мікалаевіч, а матросы слухаліся адмірала?*

— Канечне. Ён нас хваліў, між іншым. Здзіўляўся нават: «Дзе гэта вы так хутка ўсяму навучыліся?» А ў нас праз пятнаццаць хвілін і плыт стаяў, і ўсё падрыхтавана было да начлегу, і касцёр гарэў, і юшка варылася. І ўсё з гумарам, са смехам...

— *Недарэчнасці здараліся? Адмірал бываў незадаволены вамі?*

— Не, ва ўзаемаадносінах недарэчнасцей не было. Адзінае, што два матросы часам выбіралі розныя маршруты. Я мог прапанаваць плысці па левым беразе, а Валянцін — па правым. І ў нас пачыналася спрэчка, кожны даводзіў сваё меркаванне. Тады адмірал перапыняў усе гэтыя гаворкі і казаў: «А давайце лепш па гэтаму боку паплывём». І мы пагаджаліся.

— *Падпарадкоўваліся?*

— Падпарадкоўваліся і плылі ўжо ціха-мірна. А ўвогуле мы спраўна службу неслі. Адзін на адной карме, другі — на другой. Праз два-тры дні мы ўжо падладзіліся да характару ракі, раскладу баржаў, ракет і вельмі дакладна стараліся весці курс нашага карабля па Прыпяці.

— *І надвор'е вам спрыяла, і адмірал вам падказваў, як сябе весці. Але так здарылася, што гэта падарожжа аказалася апошнім для Уладзіміра Сямёнавіча...*

— Мы ведалі, што яму блага. Але вельмі спадзяваліся, што, можа, гэтая паездка адарве яго ад будзённасці жыцця ў горадзе. Стаяў ліпень. Працаваць у горадзе была задуха. А там — чыстае свежае паветра, ніякага алкаголю, самае крэпкае — кава і гарбата. У асноўным — толькі гарбата. Але мы не ведалі, што ў яго такая цяжкая хвароба страўніка.

Хаця стараліся рыхтаваць усё дыетычнае, ніякіх вострых страў. І спадзяваліся, што яму гэта дапаможа. Ніякай работы ён не рабіў, яго задача была глядзець: дзе, што, як. І на шосты дзень падарожжа ён адчуваў сябе ўжо нармальна. Жартаваў нават: «Хлопцы, яшчэ дзень-два, і я буду сапраўдны адмірал. І буду вам дапамагаць грэсці...» А потым ва ўпадзенні ракі Смердзь яму раптам стала блага. А мы ж не ў населеным пункце, а сярод чаратоў. Але там кожную раніцу ракета праходзіла, мы яе спынілі. І Валянцін разам з Валодзем даплылі на ёй да Турава. На гэта паўгадзіны пайшло. А адтуль на машыне яны паехалі ў Мінск. Я застаўся з плытом на некалькі дзён... Канечне, мы не думалі, што так трагічна ўсё павернецца... Вось бачыце малюнак: на ім і брытанскі дзівасіл, і мята. Мы ж увесь час гарбату рабілі з тых траў, якія там раслі. І гэта яму дапамагала...

— *Ці засталіся якія вашы малюнкі з таго падарожжа?*

— Гэта стала ўжо тэмай-настальгіяй. Мне не трэба нават ехаць на прыроду і глядзець нешта — яно ўсё ў памяці. Як гэты агульны краявід Беларусі, што на выставе. І яно аўтаматычна: пачынаеш маляваць, асабліва акварэль, якая патрабуе вольнасці, экспромтнасці, але, як я ні малюю, увесь час міжволі ўзнікае настальгічны матыў. І цэлы шэраг акварэлей, калі саставіць іх (як на гэтай выставе краявід), яны ствараюць настрой-прадчуванне. Прадчуванне бяды, прадчуванне чагосьці, што навісла над усім. Пагэтаму для мяне рабіць выставу было і арганічна, але ў той жа час праблема: выдаць з душы груз жальбы. І я адчуваю, што гэта ўжо да скону. Такі настрой... Таму што... я спрабаваў — вясёлы не атрымаецца краявід, разумееце. Вось такі аптымістычна-радасны, ён, можа, і атрымаецца радасны, але ўсё роўна з настальгіяй. Можа, гэта супадае з трагічным лёсам Уладзіміра Сямёнавіча? Што ён мала пражыў і рана, непапраўна рана адышоў ад нас. Ім не закончаны былі і «Каласы пад сярпом тваім», працяг якіх усе чакалі. І шмат-шмат іншых задум засталіся няздзейсненымі...

— *Калі паспрабаваць абагульніць нашу размову, як вы думаеце, у чым было тое судакрананне вас як мастака і яго, як літаратара? Чаму раптам такая еднасць, такая роднаснасць душаў найперш?*



— Нацыянальнае адраджэнне пасляваеннай Беларусі прыпала ўсё-такі на 60-я гады. І мы тады кожны пыталіся (не па чыімсьці загаду, а па загаду ўласнай душы): хто мы, што мы і куды мы? Як у Гагена сказана. Так і мы задавалі сабе гэтае пытанне і па кропельцы, па крупінцы збіралі кожны сам для сябе звесткі: раптам твор Караткевіча, раптам нейкае іншае бачанне вайны Васілём Быкавым ці дакументальная кніга «Я з вогненнай вёскі...», якую напісалі разам Я. Брыль, І. Калеснік і А. Адамовіч, і яна ўразіла таксама новай праўдай пра вайну, новыя вершы маладых паэтаў Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна... Я тады вельмі

многа афармляў зборнікаў паэзіі і быў у цэнтры пісьменніцкага жыцця. І да асабістага знаёмства з Уладзімірам Сямёнавічам, я, магчыма, быў духоўна, унутрана падрыхтаваны. Гэта паступова збіралася. А аднадумства таму і стала пасля магчымым, што мы натуральна неяк сышліся, знайшлі адзін аднаго як творчыя людзі. І аб'ядноўвала нас найперш жаданне ведаць гісторыю свайго народа, сваёй зямлі і любоў да яе... Таму нам цікава было працаваць разам... І праца атрымлівалася...

*1995* *Гутарку вяла Галіна Шаблінская.*

## Галіна Дзягілева

# «Дзе мой край?..»

Калі ў 1968 годзе я разам са сваёй аднакурсніцай Галінай Бальчэўскай пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута прыехалі працаваць у Віцебск, у славуты тэатр імя Я. Коласа — адчуванне было святочнае. І так шчасліва супала, што менавіта на пачатку сваёй прафесійнай дарогі, у Коласаўскім тэатры, я пазнаёмілася з Уладзімірам Караткевічам. Па шчырасці кажучы, я не адчувала тады маштабу яго асобы (усведамленне гэтага прыйшло пасля). Я была звычайнай рускамоўнай дзяўчынкай, выхаванай на традыцыях тагачаснай школы і ВНУ. Хаця, безумоўна, ведала, што ёсць такі беларускі пісьменнік. І помню, як пры першых сустрэчах мяне ўразіў яго твар, на якім так яскрава адбіваліся пражытыя гады. Па ўсім было бачна, што Уладзімір Сямёнавіч не шкадаваў сябе дзеля абранай справы. Ён неашчадна траціў эмоцыі, пачуцці, набытыя веды — усё, чым шчодра надзяліла яго прырода.

А потым былі чыткі п'ес з удзелам самога аўтара: і «Званы Віцебска», і «Кастусь Каліноўскі», і «Маці ўрагану». Ён пакідаў уражанне вельмі шчырага і жыццярадаснага чалавека. Быццам у яго жыцці увогуле няма ніякіх праблем. Нават калі ён прыязджаў да нас у Сімферопаль (з п'есай «Маці ўрагану») і пачуваўся хворым, ён усё роўна быў вясёлы, радасны ад сустрэчы з намі: з рэжысёрам, артыстамі.



І, канечне, мне, маладой актрысе, вельмі запомнілася праца над «Кастусём Каліноўскім», я іграла ў гэтым спектаклі Караліну. Уся трупа, дарэчы, працавала вельмі натхнёна. Быў 1977 год, я перанесла досыць цяжкую аперацыю і нават яшчэ не выйшла на працу, а мне тэлефануе наш рэжысёр Валерый Мазынскі і запрашае на ролю Караліны. Ён тады рэпеціраваў з Галінай Доляй і папрасіў прыйсці, каб падключыцца тэрмінова ў рэпетыцыі. Для мяне гэта была вельмі адказная роля. Мне

важна было адчуць, што гэта невыпадкова і мною рухаюць вельмі глыбінныя памкненні. І я не проста выканаўца ролі, а — сааўтар твора. Гэта ўжо асаблівасці майго характару, маёй уедлівасці. І чаму я, напрыклад, вельмі любіла рэпетыцыі — я праз іх штосьці спазнавала. Асабліва там былі масавыя сцэны вельмі яркія. Якраз яны перадавалі дух часу. І я з задавальненнем назірала за працай іншых артыстаў, сваіх партнёраў. Мне падабаўся сам працэс, спасціжэнне. Вельмі цікава працаваў у гэтым спектаклі Уладзімір Куляшоў (шкада, што ён так рана пайшоў з жыцця). А яшчэ — Галіна Маркіна, Барыс Левін. Выключна працаваў наш народны артыст СССР Фёдар Іванавіч Шмакаў. Ён іграў Мураўёва-вешальніка. У яго атрымліваўся вобраз неадназначны, не проста тыповага тырана, а ў чымсьці нават абаяльнага героя. І ў нас з ім была сцэна на бале.

Але самым галоўным адкрыццём для мяне ў гэтым спектаклі было разуменне пароля: «Каго любіш?» — «Люблю Беларусь». Я так глыбока гэта прыняла: вось, аказваецца, як можна любіць Беларусь — як кахаць чалавека. І вельмі моцна гэта перакананне нёс Кастусь Каліноўскі ў выкананні Уладзіміра Куляшова. Бясспрэчна, ён быў акцёрам незвычайнай фактуры і вельмі змястоўным па сваім унутраным свеце, з багатай душой. І калі ён выконваў гераічныя характарныя ролі, у яго гэта атрымлівалася вельмі пераканаўча, ён ствараў вобразы глыбокія, яскравыя.

І мне згадваецца адзін цікавы выпадак. У нас з Кастусём была такая лірычная сцэна: кароткая сустрэча. І спатканне закаханых і ў той жа час — не спатканне, а як бы сустрэча паўстанцаў. І такая мізансцэна: памост падымаўся ўверх, а мы ішлі па ім у розныя бакі крыж-накрыж, размаўляючы, падымаліся вышэй і вышэй, набліжаліся адно да аднаго і зноў разыходзіліся кожны сваім шляхам. І мяне настолькі натхніла гэта сцэна, так цікава гэта было вырашана, што я (хаця вельмі баюся вышыні) не заўважыла, як дайшла да канца памоста, і толькі раптам адчула, што мая нага павісае ў паветры, бо далей няма апоры. І галоўнае, што я не адчула ніякага страху, а абсалютна спакойна паставіла нагу назад... Калі мастацтва сапраўднае — чалавек перамагае свае слабасці.

Пасля, калі ў 90-я гады лёсам мне было наканавана стварыць Беларускі тэатр аднаго акцёра «Зьніч», рэпертуар якога складаюць творы беларускіх аўтараў, вельмі натуральна ўвайшоў да нас і Караткевіч. І першым монаспектаклем па творчасці пісьменніка мы падрыхтавалі «Дабравесце ад Уладзіміра», аўтарам сцэнарыя і выканаўцам быў артыст Валерый Шушкевіч, рэжысёрам Уладзімір Матросаў, музыка кампазітара Алега Залётнева. Атрымалася вельмі цікавая работа, аб'ёмная, якая знаёміць па сутнасці з рознымі творамі Караткевіча, стварае атмасферу беларускага духу. Спектакль гэты ішоў доўгі час у нашым тэатры. А цяпер у нас ідзе спектакль у выкананні артыста Уладзіміра Шэлестава «Нобіль — барвяны ўладар» паводле «Сівой легенды». Вельмі цікавы спектакль таксама і дарагі для нас.

Канечне, спадчына Караткевіча настолькі багатая і захапляючая, што творчая душа заўсёды знойдзе ў ёй нейкі штуршок для ўласнай творчасці. Я помню, яшчэ ў Коласаўскім тэатры мне даводзілася чытаць на гарадскіх святах «Беларускую песню». Гэта такі магутны паэтычны твор. Кожнае слова ў ім як бы пранізвае наскрозь духоўнай сілай, любоўю, святлом незвычайным. Мне думаецца нават, калі трэба сябе неяк узняць, падмацаваць свой дух — варта чытаць «Беларускую песню», як, дарэчы, і многія іншыя творы У. Караткевіча.

Вельмі шкада, што ён так рана адышоў ад нас, такім маладым... А колькі б ён мог яшчэ зрабіць для нас цудоўных падарункаў, калі б працягваў жыць і працаваць. Але дзякуй за тое, што ён паспеў нам пакінуць. Тут столькі сапраўднага для беларускай душы...

*2005*

## Анатоль Забалоцкі

# Ажываюць светласць і надзея

Вярнуўся з Енісея — ашаламіла тэлеграма: памёр Уладзімір Караткевіч. Кляну сябе: празбіраўся ўбачыцца жывым. Вось яго апошні ліст без купюр:

«24 красавіка 74 г.

Дарагі Таляціна, дарагі мой Мухаед III!

Пішу табе ўсяго некалькі слоў: ты ж ведаеш, мы з гадамі ўсё менш схільныя пісаць адзін аднаму, хаця думаем адзін пра другога, магчыма, больш, чым раней.

Але цяпер проста немагчыма не чыркануць пару слоў.

Глядзеў нядаўна «Каліну красную». Ну і малайцы, ну і сукіны ж вы сыны з Васілём Макаравічам! Нягледзечы на тое, што я чалавек зусім іншага тыпу, я, магчыма, як ніхто іншы разумею, што вось менавіта гэта і ёсць тое, што патрэбна: прастата — і ой якая непрастата, і любоў, і злосць, і, што самае галоўнае, гэта моцна натыкне людзей на вельмі важнае і многіх, магчыма, прымусіць азірнуцца. І пачырванець ад сораму, што самае галоўнае — у дзярме і ганебным пагарджанні.

Цяжка вам, мусіць, хапіла. Відаць, кавалкамі выкідвалі, гэта дзе-нідзе прыкметна. Але і таго, што засталося, хопіць спаўна.

Васіль сказаў там фразу, якая для мяне прагучала, як надзеленая другім, больш глыбокім сэнсам.

«Мужыкоў у Расіі шмат». Калі гэта прамоўлена, то гучыць не толькі як хамская пагарда падонка, але і як вялікая надзея.

Сапраўды, пакуль мужыкоў у Расіі (ды і не толькі ў Расіі, а ў Беларусі і паўсюль) шмат — не ўсё яшчэ згублена і ўсё зусім яшчэ не так дрэнна. Такіх, як ён (хаця з ім, напэўна, і цяжка працаваць), такіх, як ты, дарагі сябра.

Вось так. Ходзяць чуткі, што вам дазволілі здымаць «Волю». Калі гэта так, калі я не здохну і калі ніхто не будзе супраць — я з задавальненнем прыехаў бы да вас на пару дзён і нават мог бы, калі ўзнікне ў гэтым такая патрэба, сыграць якую-небудзь бязмоўную ролю з асяроддзя атамана з надрыўнымі і слёзнымі спевамі над карцом віна якога-небудзь «горемычного ежа» або «Коси». Ты ведаеш, я гэта ўмею. Рэч, праўда, не ў гэтым, а ў тым, што люблю бачыць цябе на працы, а ты, чорт лазаты, не прыязджаеш у Мінск, а калі і прыязджаеш, то швэндаешся д'ябал яго ведае дзе, а да мяне ні чорта не заходзіш. Я быў нядаўна ў Маскве (выходзяць па-руску «Каласы пад сярпом тваім»), нават выпіўшы ганяў да цябе на таксі, ды хіба цябе застанеш?

У мяне справы не вельмі. Зарэзалі новы сцэнарый «Расказы з каталажкі». Але затое выходзіць кніга. І яшчэ Віцебскі тэатр узяў да тысячагоддзя п'есу «Званы Віцебска», і рэпетыцыі ідуць поўным ходам.

Калі знойдзеш час — чыркні мне пару слоў пра сябе.

Абдымаю.

Твой Уладзімір.

Мой новы адрас (я абмяняў вялікую кватэру каля Купалаўскага тэатра, так што спыняйся ў мяне): Мінск, 220030, вул. К. Маркса, 36, кв. 24, мне».

Дзесяць гадоў я працаваў на «Беларусьфільме», шмат далёкіх куткоў Беларусі пабачыў дзякуючы Караткевічу. З ім зрабілі два фільмы, а колькі задумвалі — і не пералічыць. Караткевіч быў з таго ліку адораных асоб, якія пры жыцці не паспяваюць рэалізаваць свае творчыя магчымасці. Ён вышэй за тыя працы, што засталіся пасля яго...

Ён меў рэдкую памятлівасць, у паездках здзіўляў ведамі ў любой сферы людскога быцця. Усялякую травіну мог назваць па-латыні і па-народнаму, пра карысць яе і мясціны вырастання расказаць. Які ж ён быў патрыёт сваёй зямлі і мовы! Як весела было з ім бяседнічаць, колькі ў тых сустрэчах было жартаў, расказаных выпадкаў — ніхто ж не запісваў. Вось хаця б тыя, што аселі ў памяці. Неяк мы дапазна заседзеліся ў маім жыллі з балконам. Валодзя ў любым стане збіраўся дахаты: «Мама непакоіцца». Доўга мы чакалі з ім транспарт. Раптам пад'ехаў «Ікарус» здвоены, з «гармонікам» — у два салоны. Валодзя стаяў, апусціўшы галаву, а ўбачыў аўтобус, прамовіў з уздыхам: «Ой, адзінокая гармонь прыехала, слава Богу»,— і скокнуў усярэдзіну. Караткевіч ніколі не чапаў накрухмаленыя сурвэткі, якія звычайна грудкамі стаяць у рэстаранах, асабліва карцінна — у «Белавежскай пушчы». На пытанне «Чаму?» адказваў: «Не

начальства ж іх мые, а бабулі за капейкі. Абыдземся». І за шмат гадоў ні разу не адступіў ад свайго правіла.

Колькі ж каламбураў, былей, ім паведаных, не трапіла ў яго творы, хіба аднойчы толькі павесяліўшы сатрапезнікаў! Памяць затрымала вось гэту просценькую пародыю:

Ледоход, ледоход,
Побежал к реке народ,
И плывут по речке льдинки —
Четвертинки, половинки.
Битые и целые,
Пустые и полные.
А на самой большой (льдинке)
Литр стоит посерединке.

Надзелены прыродным артыстызмам, ён дайграваў словы жэстамі сваіх доўгіх рук і грымасамі. «Гэта ж сцэнарый кароткаметражнага фільма»,— казалі яму, ён пытаўся: «Хто ведае, што ёсць сцэнарый? Вось я прынёс на студыю «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Рэдактары актыўна прапануюць мне прафесіянала-кінадраматурга дапрацаваць маю задумку. Як ён павінен мяне дапрацоўваць? — пытаюся я ў студыйных. Доўга мяне навучалі — словаблудзілі. Тады я паставіў рэдактарам умову: калі ваш «доработчик» вызначыць, з якога боку карова наелася, а з якога напілася,— сельскай справай кіраваць прыдатны і няхай піша свой сцэнарый, а майму — пыліцца».

Яршысты, нязручны чалавек, Караткевіч ганіцелей меў дастаткова, быў прамадушны, ні ў чым не дыпламатнічаў. У былым архіерэйскім падворку адкрылі Дом мастацтваў. Валодзя адным з першых ахрысціў яго «Мутнае вока». Распарадчык не пускаў яго ў залу, а назва ў тыя гады так і замацавалася за гэтым будынкам.

Прыехаўшы неяк у Мінск, заходжу да Валодзі адразу з вакзала. Ён сядзіць дома адзін, змрочны.

— Ты з чаго бядуеш? — пытаюся.

— Ну, браток, глядзі, як тут не бедаваць!

На стале ляжаць два квіткі з УААПа: адзін — на 10 інвалютных рублёў за кнігу, выдадзеную ў Чэхаславакіі, другі — на 11 рублёў за «Чазенію», з Іспаніі.

— Ну, Таляціна, хіба так можна? Што яны сабе думаюць? Лепш бы ўжо зусім не плацілі.

Не ведаў я ў жыцці чалавека, які б любіў свой народ больш шчыра, чым Уладзімір Караткевіч. З яго вуснаў слова «Бацькаўшчына» гучала неяк асабліва напеўна. Мурашкі па спіне, бывала, забегаюць, калі пачне ён пра мінулае Белай Русі гаварыць. Ад яго пачуў я ўпершыню і беларускую прымаўку: «Бяда толькі рака красіць», якую ставіў ён эпіграфам да гісторыі беларускага народа.

Шукшын, прачытаўшы сцэнарый Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», лаяў усіх і мяне, што па такім матэрыяле фільм замарачылі. А пасля лістоў Караткевіча чакаў не пустога знаёмства. Але жыццёвая мітусня перашкодзіла сустрэчы Уладзіміра з Васілём. «Цэлы дзень круцішся ў справах, а вечарам азірнешся,— абураўся Макарыч,— быццам бы нічога не здарылася, можна было б і не бегаць. Пішу ў асноўным у камандзіроўках. Нідзе няма столькі мітусні, як у Маскве. Столькі людзей, з якімі трэба сустракацца і размаўляць — не атрымліваецца...»

А ў маёй памяці Уладзімір Сямёнавіч застаўся непаўторна-самабытнай асобай, якая асвяціла маё мастацкае і грамадзянскае станаўленне. Яго вясёла-ваяўнічая праўдзівасць, шматграннасць ведаў і поўная адсутнасць «хитрованства» (любімае слоўца В. Астаф'ева), якое так укаранілася ў асяродку людзей мастацтва, саграваюць душу пры кожнай згадцы яго імя.

Вандроўная прафесія не дазволіла мне цалкам захаваць свой архіў, згубіліся, на жаль, і многія лісты Караткевіча. Чытаю надрукаванае пісьмо Валодзі Ераніму Стулпану — яго тэмперамент і стыль ні з чыімі не зблытаеш: «Слухай, чорт! Калі будзеш і далей невядома па якой прычыне злавацца і не адкажаш мне нават на гэта, трэцяе пісьмо, я таксама крыху разззлуюся. Пішы, чуеш? А калі злуеш, прама і адкрыта скажы пра гэта. Я пастараюся заслужыць выбачэння». У гэтым пасажы — жывы Караткевіч, якога чуеш дасюль.

А калі гаварыць пра каляндарнасць нашых адносін з У. Караткевічам, то гэта 1966—1981 гады. Я з'явіўся ў Мінску мокрай восенню 1960 года. У аддзеле кадраў кінастудыі «Беларусьфільм», паглядзеўшы маё накіраванне, начальнік аддзела па прозвішчу Бяскроўны двойчы паўтарыў: «Для здымак мастацкіх фільмаў» і, узняўшы галаву, няласкава перапытаў: «Дзе ж ты іх тут, мастацкія, сабраўся здымаць? Корш-Сабліну няма дзе разгарнуцца... Чакай дырэктара, ён напіша рэзалюцыю...» На другі дзень патрапіў я да дырэктара Кукушкіна, які прачытаў маё накіраванне, паглядзеў праз тоўстае шкло акуляраў і зычліва кіўнуў: «Добра. Нам патрэбны белабрысыя. Ідзі афармляйся ў штат».



А праз тыдзень-другі для праверкі на прафпрыгоднасць мне даручылі здымаць сюжэт пра святкаванне 43-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі для навін. На праглядзе І. Вейняровіч (ён узначальваў дакументальнае кіно) знайшоў, што зняты сцяг развяваўся не ў той бок, і прапанаваў пазбавіць мяне права на аўтарскую здымку і перавесці ў асістэнты аператара. Так яно і здарылася б, але ў зале чакаў свайго матэрыялу аператар ЦСДФ В. Цытрон. Ён прызнаў маё здыманне цікавым і заступіўся за мяне. Выпадак ўратаваў, інакш быць мне гадамі на пабягушках. А хутка Божай воляю ў гэтай жа зале сустрэўся я з Валодзем Караткевічам. Ён артыстычна дапамагаў дыктару запісваць тэкст. Мы выйшлі з касцёла-студыі (адміністрацыя і павільёны «Беларусьфільма»

на той час месціліся ў Чырвоным касцёле на плошчы побач з Домам урада), і ён прапанаваў прайсціся да яго дома. Ён жыў тады ў аднапакаёвай кватэры разам з мамай Надзеяй Васільеўнай, якая і прывеціла нас. Азіраючыся на мінулае, хачу сказаць, падобныя адносіны сына з маці я сустракаў хіба што ў Андрэя Валконскага з яго мамай Кірай Георгіеўнай. Нешматслоўнасць. Прыгожы голас, павучанне — крайне рэдка. Відаць, падмацаваныя выхаваннем, такія адносіны перадаюцца ў спадчыну.

Хутка Уладзімір ад'язджаў заканчваць Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Некалькі разоў з'яўляўся ў Мінску акрылены, дзяліўся рознымі навінамі, якія схоплівала яго ўчэпістая натура.

Ён першы адкрыў мне імя майго земляка Віктара Астаф'ева, таксама слухача курсаў (прывёз ненадрукаванае яшчэ апавяданне «Конь с розовой гривой»). Зачароўваючы, пераказваў японскі фільм без слоў «Голый остров», хваліў валагодскага паэта, які пад гармонік спяваў свае вершы ў інтэрнаце Літінстытута. Пра Мікалая Рубцова тады ніхто і не чуў...

Час, аддадзены «Беларусьфільму», падараваў мне сустрэчы з многімі майстрамі слова. Сярод іх Янка Брыль, Андрэй Макаёнак, Іван Мележ, Пятро Глебка, Аркадзь Куляшоў, Васіль Быкаў. Але значна больш, чым з іншымі, і досыць цесна склаліся мае жыццёва-творчыя адносіны з Уладзімірам Караткевічам. З ім мы, назіраючы, абмяркоўвалі ўвесь працэс выцяснення літаратараў з кінавытворчасці. Пры гэтым кінарэдактура спасылалася на быццам бы асаблівую спецыфіку «кінадраматургіі». Штодзённай працай кінастудыі кіравала збітая «кагорта-ядро» рэдактараў, кінарэжысёраў і эканамістаў (дырэктараў, якія распараджаліся рэальнымі грашыма і рабочай сілай). Нават калі на нейкі час кіраўніцтва рэспублікі прызначала галоўным рэдактарам І. Шамякіна, А. Макаёнка або М. Лужаніна — усё роўна, воля «кагорты» выконвалася непарушна. Існавала шматступенчатая цэнзура. Ідэалагічны страх у Беларусі быў мацнейшы, чым у Маскве...

Пасля шматгадзінных знаходжанняў у кабінетах студыі Караткевіч заракаўся назаўсёды пакончыць з кіно. Пакепліваў з мяне: «Мастацтва ў кіно: з фанеры танкаў наробяць і выбуховых пакетаў паболей. Не, не маскалі намі кіруюць, а бабруйскія гандляры». У яго дакладна атрымлівалася капіраваць голас А. Кучара, які з трыбуны заўсёды выступаў на беларускай мове,— рабілася весела, а мы ўжо ехалі тралейбусам у аэрапорт: там пустынна і нядорага. У дарозе ён працягваў: «Ну які ты маскаль, корні твайго прозвішча на беларускай зямлі. У нашых мясцінах усе ведаюць прытчу: «Зарабіў, як Забалоцкі на мыле». Далей Валодзя падрабязна пераказваў прытчу пра няўдалага купца, што перавозіў таннае мыла ў прадзіраўленай баржы, якая ўрэшце патанула.

«"Мы ленивы и нелюбопытны",— цытаваў ён Пушкіна.— Вось ты столькі год у Беларусі. Чаму не чытаеш на маёй мове? Што вы за людзі,

рускія? Хто папала кпіць над вамі безадказна! Але ж і мы такія ж!.. Сіманаў і Фадзееў у класіках ходзяць, а над Шолахавым свет здзекуецца, і ніхто з такой арміі пісьменнікаў за яго не заступіцца... У Рагачове зайшоў у бібліятэку: К. Чукоўскага «От двух до пяти» — дзевяць выданняў. Навошта? — Яна шкодная дзецям...» І дзіўна, Валодзевы словы не гучалі крыўдна, а прамоўленыя думкі вельмі сугучныя з тваімі, але ён іх выказаў услых і не па-крытыканску, а з роднасным табе разуменнем.

Неяк прыехаўшы ў аэрапорт, мы пачулі абвестку пра хуткі вылет самалёта ў Вільнюс і наяўнасць білетаў. Валодзя ўстрапянуўся: «Ляцім!» Білет каштаваў тады 4—6 рублёў, і мы маглі сабе дазволіць падобны жарт. У Вільнюсе Валодзя пазваніў Бронюсу Марцінкявічусу. Прыехалі і іншыя браты-прыбалты. Вершы, аповеды — бяседа цягнулася лагодна. Суразмоўцы падвысілі голас, калі перайшлі на дзяльбу межаў. Літоўцы патрабавалі ў Караткевіча возера Нерис (Нарач), латыш забіраў землі ля Даўгаўпілса, мастак жадаў захапіць Браслаўшчыну... Раніцай Караткевіч будзіў нас жартам: «Хотел дойти до Даугавпилса, но вместо этого напился. А я ім учора ўсё аддаваў — не бяруць?!. Спяць...»

Караткевіч звычайна артыстычна рэжысіраваў свае імправізацыі. Аднойчы без усялякай нагоды абвяшчае мне: «Ты — рымлянін». Бачыць, я ўзрадаваўся. Дадае: «Эпохі заняпаду». Я хмурнею, ён рагоча. І пайшло далей... Калі Валодзя ў гуморы — жыццё багацейшае за любую выдумку. У тыя гады радыё «Свабода» ён ахрысціў «Картавае радыё».

Яшчэ некалькі згадак. Здымаем дакументальны нарыс «Сведкі вечнасці». Караткевіч, як у сваім агародзе, арыентаваўся на зямлі Беларусі без праваднікоў: знаходзіў дуб Міцкевіча ў ваколіцах Навагрудка ці таполю Напалеона на Нёмане. Мы, удзельнікі здымак, заначавалі ў Рагачове ў Валодзевага дзядзькі І. В. Грынкевіча. Ён гасцінна частаваў нас свежай рыбай, якую толькі злавіў у Дняпры. Ад рыбы ў паветра ў сталовай сыходзіў мазутны пах. «Гэта ж нельга есці»,— абураліся кіношнікі. Ігар Васільевіч выбачаўся, прапаноўваў гасцям гародніну. Уладзімір Сямёнавіч моўчкі і дэманстратыўна еў рыбу, а калі дзядзька выйшаў, гнеўным шэптам адчытаў: «Ну хіба ён вінаваты, што Дняпро запаскуджаны нафтай?! Не падсыпайце яму солі на раны. Пашкадуйце сівую галаву. Радыску бярыце, шчаўе... Лепш бы знялі пра гэтую бяду сюжэт. Але ж духу ні ў кога не хопіць! А тут не вякайце!..»

Крым. На мысе Панізоўка пабудаваны комплекс дэкарацый для фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». З нагоды выхаднога купілі ў складчыну вялікую бутлю-аплятанку мясцовага віна. А Панізоўка вядомая пастаяннымі вятрамі. Таму схаваліся ў шчыліне ля мора, на камянях, накрылі стол, пасярэдзіне паставілі бутлю. Прагучалі першыя тосты. Раптам у бутлю амаль бязгучна трапляе каменьчык, і на вачах ва ўсіх віно паціхеньку праз абрус знікае. Цішыня. Ніхто нічога не разу-

мее. Цуд нейкі. І тут зверху чуем гучны голас: «Мяне не клічаце!» На адхоне — скульптар Барыс Маркаў пачынае спяваць элегію Маснэ. Застолле гатова ўчыніць самасуд. Караткевіч выбег міратворцам: «Заўтра яшчэ вялікую бутлю возьмем. Маркаў каменем патрапіў у віно дзеля Марыны. Падтрымайце рыцарства! Слухайце, як ён нядрэнна спявае...» Скандалу не атрымалася. Ці пайшоў гэты факт на карысць адоранаму Барысу?..

...У самыя безнадзейныя перыяды маёй працы на «Беларусьфільме» Уладзімір Сямёнавіч ратаваў мяне ад бязвер'я і адчаю. Яму — падзяка за спавядальныя роздумы і ўчынкі. Калі я згадваю яго, ува мне ажываюць светласць і надзея, ім пасеяныя...

*2004—2005*

## Алег Залётнеў

# Яго творы — музычныя...

У сярэдзіне 60-х гадоў (цяпер ужо мінулага стагоддзя) я скончыў трэці курс Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі і тым летам адпачываў «дзікуном» на возеры Нарач. Якраз тады на гэтай натурнай пляцоўцы вяліся здымкі мастацкай стужкі «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» («Жыціе і ўзнясенне Юрася Братчыка»). У ёй былі заняты вядомыя артысты савецкага кіно: Д. Баніоніс, А. Смірноў, Л. Дураў, Л. Румянцава і іншыя. Нас, групу неарганізаваных турыстаў-«палатачнікаў», запрасілі ўдзельнічаць у эпізодах і масоўцы. Канечне, для юнака зняцца ў поўнамаштабным фільме здавалася не проста выпадковай удачай. Гэта была падзея! Як вядома, стужка на той час на экраны не выйшла, трапіла пад ідэалагічную забарону. Толькі праз гады я даведаўся, хто быў аўтарам гэтага кінасцэнарыя, а таксама аднайменнага рамана...

І так склаўся мой творчы лёс, што ні з кім з беларускіх пісьменнікаў у мяне не было так шмат кампазітарскіх сутыкненняў, як з Уладзімірам Караткевічам. Дакладней, з яго творчасцю, бо мая асабістая сустрэча з Майстрам надарылася толькі адзін раз.

У 1981 годзе на Беларускім радыё пачалася праца над новым спектаклем паводле апавядання Караткевіча «Паром на бурнай рацэ», якое надрукаваў часопіс «Полымя». Мне прапанавалі напісаць музыку. Задума вельмі прываблівала: стылістыка XIX стагоддзя, час паўстання пад кіраўніцтвам Каліноўскага, рамантычнасць і жорсткасць, цікавыя характары галоўных герояў. Я пагадзіўся. Менавіта гэта работа сталася

этапнай у маёй творчай біяграфіі, з яе пачалося для мяне музычнае прачытанне твораў Караткевіча.

У розны час я ствараў музыку да тэлефільма «Паром», радыёспектакля ў трох частках «Каласы пад сярпом тваім» паводле аднайменнага рамана-эпапеі, монаспектакля «Дабравесце ад Уладзіміра», дзе ў сцэнарыі выкарыстаны розныя творы пісьменніка, лялечных спектакляў «Ладдзя Роспачы» і «Забыты скарб», якія пастаўлены на сцэне Віцебскага тэатра «Лялька», ёсць у мяне харавая паэма «Дзе мой край», нават пачаў пісаць тэлебалет «Ладдзя».

Слова ў Караткевіча — вельмі звонкае. Для мяне як кампазітара яно гучыць само па сабе. І тое, што для мяне гучыць,— я выкарыстоўваю. Я нічога не раблю спецыяльна, каб высвятліць, так пісаць ці не так. Усё ўвасабляецца па адчуванні гармоніі гуку і слова. А слова Караткевіча заварожвае, прыцягвае да сябе, абуджае думку. У яго так зроблена, што прайсці нельга, абавязкова спынішся і зазірнеш. А там — бяздонне. І музычныя тэмы ў спадчыне Караткевіча можна адшукваць бясконца. А працаваць над яго творамі надзвычай цікава, гэта ні з чым не параўнаная асалода. Усё прасякнута «зямлёю пад белымі крыламі»...

І зноў я вяртаюся да маёй першай працы па творы Караткевіча. Для мяне гэта была цікавая і незвычайная рэч. У спектакль увайшло шмат музыкі, яна выконвалася і ансамблем, і электроннымі інструментамі, якія толькі пачыналі ўжывацца, былі і спевы — раманс на верш Караткевіча: глыбокая лірыка, але, як зараз памятаю, верш не строгі па сваім радку. І мне, каб давесці яго да жанру раманса, прыйшлося нешта змяніць у самім тэксце.

Калі спектакль быў зроблены, на яго праслухоўванне запрасілі Караткевіча. Позні вечар, апусцелыя калідоры радыёкамітэта. Я, рэжысёр Аляксандр Вавілаў і аўтар радыёп'есы Уладзімір Мехаў чакаем прыходу Уладзіміра Сямёнавіча для абмеркавання спектакля, у якім, дарэчы, былі заняты цудоўныя купалаўскія акцёры: народны артыст СССР В. Тарасаў, народныя артысты Беларусі Л. Давідовіч і Г. Гарбук, заслужаны артыст Беларусі У. Рагаўцоў, салістка тэатра музкамедыі В. Пятліцкая. Нарэшце ў дзвярах з'яўляецца паважная постаць пісьменніка, ён усміхаецца, вітаецца з намі, садзіцца ў прапанаванае крэсла. Уключылі стужку, загучала музыка, потым — маналог героя... І ледзьве не з першай хвіліны Уладзімір Сямёнавіч пачаў штосьці актыўна пісаць на паперы. Мы напружыліся: не падабаецца? Дапусцілі нейкія пралікі?.. Стужка спынілася, павісла паўза. І тут першыя словы Караткевіча: «Мне спектакль спадабаўся».

Што ж тады ён так засяроджана пісаў? Аказваецца, чарціў геаграфічную схему таго самага гістарычнага парома, які з'яўляўся асноўным месцам падзей далёкага часу. І ўсе прэтэнзіі аўтара зводзіліся да таго,

што паром ніяк не мог быць ніжэй (ці вышэй, ужо не помню) адносна горада Быхава. Мехаў даказваў, што месцазнаходжанне парома дакладна вызначана ў тэксце (шкада, няма з сабой часопіса!) і нават у вялікіх пісьменнікаў бываюць такія памылкі друку, калі на пачатку рамана параненая левая рука нагадвае герою пра сябе ў канцы, але ўжо як правая. Усё скончылася тым, што мы выйшлі пакурыць на лесвічную пляцоўку. Мяне, канечне, цікавіла думка Уладзіміра Сямёнавіча пра музыку. А як спытаць — не ведаю. Калі ён так прыдзірліва паставіўся да месцазнаходжання парома, якая ж будзе рэакцыя на тое, што я дазволіў сабе «ўлезці» ў верш-раманс. На маю радасць, яму спадабаліся і раманс, і музыка да спектакля. Ён не быў супраць майго «рэдагавання». Нават сказаў, што раманс можа гучаць і як самастойны твор, па-за спектаклем. Ён падзякаваў нам за працу і благаславіў спектакль на эфірнае жыццё.

І яшчэ ў тую першую і апошнюю сустрэчу з пісьменнікам я пачуў ад яго, можна сказаць, экспрэс-урок роднай мовы. «А вы ведаеце, Алег, чым адрозніваецца падрадковы пераклад ад літаратурнага? Калі перакласці вядомую фразу «не хочу учиться, а хочу жениться», то ў першым выпадку яна будзе гучаць «не хачу вучыцца, а хачу жаніцца», а ў другім — «кніжкі ў сумцы, паненка ў думцы».

Караткевіч ставіць планку. Колькі я ні працаваў, я разумею, што трэба рабіць яшчэ лепш, дацягвацца да яго. Творы пісьменніка настолькі сучасныя, наколькі і гістарычныя. І мяне, напрыклад, не цікавіць, што ў іх — аўтарская фантазія, а што — непасрэдна сама гісторыя. Я давяраю аўтару. Бо ён — вялікі мастак, які вельмі моцна паўплываў на мяне як кампазітара.

*2005*

## Марыя Захарэвіч

# «Будзе ў маім сэрцы...»



Мае першыя гады працы ў Акадэмічным тэатры імя Я. Купалы згадваюцца як самыя шчаслівыя. І таму, што мы працавалі побач з выдатнымі акцёрамі — зоркамі беларускай сцэны, і таму, што атрымлівалі па 2—3 ролі ў сезон. Тэатр быў тады на ўзлёце. Кожная прэм'ера — падзея, свята. Да нас прыходзілі дзяржаўныя дзеячы, кінарэжысёры і, безумоўна, шматлікія беларускія пісьменнікі. Глядзеў нашы спектаклі і Уладзімір Караткевіч. Ён быў строгі суддзя, і мы заўсёды вельмі хваляваліся. Неяк

У. Караткевіч у час дзеі падняўся і, узрушаны, выйшаў з залы: беларуская мова з вуснаў аднаго з акцёраў гучала так, што ён не вытрымаў гэтага выпрабавання. А калі яму хто-небудзь падабаўся, то пасля спектакля Уладзімір Сямёнавіч абавязкова выказваў словы ўдзячнасці і нават дарыў свае кнігі. Аднойчы такі дарагі падарунак атрымала ад яго і я.

На жаль, у жыцці мы сустракаліся з Уладзімірам Сямёнавічам не вельмі часта, але ўсведамленне таго, што ёсць такі чалавек, які цікавіцца табой, тваім лёсам, давала крылы. І калі 1966 год стаў для мяне трагічным, я ў поўнай меры адчула яго дапамогу, яго дабрыню і шчырасць. Справа ў тым, што мой тата сур'ёзна хварэў. Ён ляжаў у Мядзельскай бальніцы, я паехала адведаць яго і сама аказалася на бальнічным ложку (трапіла пад аўтобус). Давялося лячыцца больш за два месяцы.

Кожны дзень я атрымлівала 5—7 пісьмаў ад многіх людзей. Прыходзілі вельмі дарагія для мяне лісты і ад Уладзіміра Караткевіча. Яны расчульвалі да слёз. Ну як інакш можна было ўспрыняць такія словы: «Машачка — Марыська, дарагая! Вось табе на! Як жа так здарылася, любенькая? Што там такое? Як адбылося? Дайшла да мяне гэтая звестка, то я, дальбог, як ашалеў. Сяджу і не разумею, аб чым думаю і што, уласна кажучы, цяпер рабіць...» А пасля, каб спыніць мае слёзы, пісаў: «Еш усё, нават кашу. Каб не даводзілася дзядзі-лекару казаць: «Ну-ну-ну, котка. Не дамо котцы. Марыся разумная. Марыся сама з'есць. Марыся нікому не дасць» і г. д.

У хуткім часе не стала майго таты. Уладзімір Сямёнавіч прыехаў з Мінска да нас у вёску, у нашу хату, да нас з мамай, каб падтрымаць і дапамагчы. Я ніколі ў жыцці гэтага не забуду. Пасля мы былі адораныя яго ўвагай і ў Мінску. Даволі часта ён бываў дарагім госцем у нашай кватэры. І для маёй мамы, і мяне, і майго сына Андрэя Валодзя заставаўся дарагім, блізкім чалавекам. Я мела права зваць яго Валодзем. Тады я не разумела яшчэ значнасці гэтых сустрэч. Не задумвалася пра іх сэнс. Безумоўна, ганарылася сяброўствам з такім выдатным пісьменнікам.

Уладзімір Сямёнавіч, вядома ж, многа працаваў, але заўсёды знаходзіў час для іншых. Ён умеў жыць для іншых. Яго шчодрая душа гарнулася да тых, хто меў патрэбу ў дапамозе. Помню, мы сустрэліся з ім на пошце. Ён адсылаў адразу пяць ці шэсць пасылак у розныя куткі Беларусі. Аднаму — кнігі, другому — каву ці гарбату, іншым — штосьці яшчэ. А на маё здзіўленне колькасцю пасылак ён адказаў: «Хочаш мець сяброў — будзь сам сябрам». Яму было радасна рабіць людзям прыемнае.

Ужо ў сталыя гады, калі ён хварэў, часта сядзеў на лавачцы ў скверы каля тэатра Я. Купалы, чытаў ці проста задумліва пазіраў. Яго пазнавалі, многія спыняліся, каб павітацца, пажадаць здароўя. Дарэчы, Уладзімір Сямёнавіч вельмі не любіў, калі яго распытвалі пра здароўе. Я сама ў

гэтым перакапалася. Ён аж падхапіўся з месца і сказаў катэгарычна: «Не трэба пра гэта. Усё добра». І пасля ўжо спакойна: «Дзякуй, дзякуй, прабач». Я сказала, што ў мяне ёсць вельмі добры збор траў з рубяжэвіцкай аптэкі: «Можна, я прынясу табе?»

І вось я ў кватэры Уладзіміра Караткевіча. Разглядваю ўсё, распытваю. «Як шмат кніг»,— кажу, а ён: «Ну што ты, гэта ўжо не шмат, я іх перыядычна пераглядваю і пакідаю толькі тыя, да якіх буду вяртацца». Валодзя быў у выдатным настроі, такі светлы, гасцінны. Сказаў, што чытаў цудоўны верш Рыгора Барадуліна, прысвечаны мне. А пасля: «Бярозавік будзеш піць?» І я, дурніца, каб не турбаваць яго — адмовілася. Шкадую.

Пасля Валодзя піў тыя травы з Рубяжэвіч і пры сустрэчы сказаў мне: «Ну і горкае ж тваё лякарства, ліха на яго». А я ўзрадавалася, што ўсё-такі п'е, дзякуй Богу. Каб толькі дапамагло! Каб толькі паправіўся!

Калі не стае дарагога для цябе чалавека, тады ў поўнай меры адчуваеш, як многа ён для цябе значыў, як быў неабходны. Дакараю сябе за тое, што лішні раз не пазваніла (усё баялася турбаваць), што не задала шмат-шмат пытанняў. Каюся. Каюся за свой тэатр, на сцэне якога не ішлі выдатныя драматычныя творы У. Караткевіча (а жыў ён побач з тэатрам).

Са шчырай удзячнасцю, з нізкім паклонам перад вялікім, геніяльным пісьменнікам і цудоўным, светлым Чалавекам. Быў, ёсць і будзе ў маім сэрцы...

*2005*

## Сяргей Картэс

# Натхняла яго фантазія

У мяне склалася ўражанне, што яны крыху розныя: Уладзімір Караткевіч — пісьменнік і Валодзя Караткевіч — чалавек. Але кожны раз было прыемна і радасна яго сустракаць. Я працаваў з яго творамі і ў тэатры, і ў кіно — і ён заўсёды знаходзіў шмат цікавага нам расказаць, з вялікім гумарам і выдумкай. А фантазіяй ён валодаў неўтаймоўнай. Адчуванне яго таленту, канечне, праяўлялася найперш пры чытанні. Што я прыкмячаў у яго творах? Па-першае, ён — паэт, прычым у большай ступені, чым празаік (хаця, у асноўным, пісаў прозу). Па-другое, фантазію, якая ў ім жыла сама па сабе, ён умеў шчодра развіваць у сваёй творчасці. І часам мне як чытачу здавалася, што ў многія рэчы, каторыя былі ім прыдуманы, ён сам ахвотна верыў.

Ён заўсёды цікавіў мяне як пісьменнік. Для той эпохі, калі Валодзя жыў і працаваў, ён быў незвычайным літаратарам. І я думаю, што нават цяпер ён яшчэ не раскрыты да канца. У яго творчасці ўдала спалучаюцца дэтэктыўны пачатак і пошукі таямніц беларускай гісторыі, паэтычныя адносіны аўтара да дзеючых асоб, да прыроды, да таго часу, які ён апісвае. І фантазія, велізарная фантазія. Пры гэтым — зайздросная адукаванасць, каласальныя веды па гісторыі Беларусі, яе пакручастага лёсу. Вельмі важна, што ён раскрываў таямніцы беларускай гісторыі. Прычым часам цяжка нават вызначыць, ці там рэальная таямніца, ці прыдуманая і раскрытая ім самім. Але ва ўсім гэтым — багатая творчая асоба не гісторыка, а менавіта пісьменніка.

Я згадваю зараз пра яго і бачу перад сабою твар Валодзі: вельмі выразны і рухавы. Калі ён размаўляў — было вельмі цікава за ім назіраць. Нетыповая, я б сказаў, гісторыя нашага знаёмства. Неяк да мяне дайшлі чуткі, што Валодзя мяне дрэнна ўспрымае. Як высветлілася потым, Караткевіч зблытаў мяне з іншым кампазітарам (са старэйшага пакалення), які на адным з кампазітарскіх з'ездаў крыху прайшоўся на тэму «беларускіх лапцяў» і г. д. А паколькі яго прозвішча пачыналася на літару «К», Валодзя чамусьці падумаў, што гэта я. Наш агульны сябар патлумачыў яму, што Картэс так сказаць не мог, і вырашыў нас «памірыць». Мы абняліся ў знак згоды і з таго часу пасябравалі.

Кожны час у гісторыі вызначаецца яркай падзеяй. У нас гэта быў перыяд «шасцідзесятнікаў»: агульны творчы ўздым, жаданне зрабіць штосьці новае, сцвердзіць сябе і г. д. На жаль, гэты запал патушылі, і вельмі ўмела. Хаця многім здавалася, што, напэўна, мы ўжо выраслі з усяго гэтага. Але на самой справе «не выраслі», а проста гэта было прыдушана. І, безумоўна, не маглі быць 60-я гады ў Беларусі (і ў маёй памяці яны засталіся) без У. Караткевіча, Р. Барадуліна, артыстаў-купалаўцаў, чые імёны цяпер — гонар нацыянальнага тэатра, цэлай плеяды кінарэжысёраў: В. Чацверыкова, В. Турава, М. Пташука, І. Дабралюбава, тэатральных рэжысёраў: Б. Луцэнкі, В. Раеўскага, В. Мазынскага, А. Андросіка, Б. Эрына. Іх прысутнасць вызначала тагачасную атмасферу творчага Мінска.

Я добра помню першы спектакль «Званы Віцебска», да якога я пісаў музыку. Мяне вельмі ўразіла сама п'еса, цікавая пастаноўка В. Мазынскага, незвычайныя дэкарацыі А. Салаўёва, цудоўна іграў выдатны акцёр У. Куляшоў. І я з вялікім жаданнем і натхненнем працаваў над гэтым спектаклем. Многія рэчы мяне проста ашаламлялі, бо я так дасканала не быў знаёмы з гісторыяй Беларусі. І, канечне, здзіўляў талент Караткевіча-драматурга, яго творчая фантазія. Мяне, напрыклад, вельмі ўразіла сцэна, калі паўстанне было задушана, у знак пакарання былі павернутыя розгамі званы. І я дасюль не ведаю, ці гэта гістарычная праўда, ці фантазія Караткевіча, што вельмі на яго падобна. Я, дарэчы, пасля доўга

шукаў п'есы У. Караткевіча і не мог знайсці, а мне вельмі хацелася мець у сябе дома «Званы Віцебска».

А потым была праца над кінастужкай «Чорны замак Альшанскі» (спектакль «Кастусь Каліноўскі» я чамусьці памятаю менш, хаця таксама пісаў да яго музыку). І зноў гэты пераход ад дня сённяшняга ў гістарычнае мінулае, перапляценне чалавечых лёсаў, дэтэктыўная інтрыга і глыбокі філасофскі сэнс рамана. І мне, прызнаюся, было вельмі цікава шукаць музычнае вырашэнне гэтага твора.

Увогуле, я павінен сказаць, што вельмі люблю гісторыю. Не толькі беларускую, а гісторыю розных краін. Агульнае развіццё чалавецтва вызначае лёсы асобных народаў. Не бывае сённяшні дзень без учарашняга. І гэта найперш радніла мяне з Караткевічам. Мяне вельмі цікавіла яго паглыбленне ў гісторыю, у старажытнасць. І яшчэ мяне як кампазітара натхняла яго пісьменніцкая фантазія.

Найбольш мне запалі ў душу тыя творы Караткевіча, над якімі я працаваў як кампазітар. Таму што гэтая праца дае магчымасць паглыбляцца ў твор і знаходзіць для сябе тое, што не заўважыш, калі проста чытаеш кнігу. Таму што ты становішся ў пэўнай ступені сааўтарам, імкнешся перадаць галоўную думку пісьменніка музычнымі сродкамі.

Дарэчы, мы зараз разам з маім пастаянным лібрэтыстам У. Халіпам працуем над лібрэта аднаго твора Караткевіча. Пакуль не буду казаць якога, каб не сурочыць. І працуем з вялікім імпэтам. Безумоўна, для оперы там штосьці давядзецца мяняць, але мы хочам абавязкова захаваць дух фантазіі Караткевіча, паводле якой, можа здарыцца ўсё, што заўгодна.

Я ўдзячны рэжысёрам В. Мазынскаму і светлай памяці М. Пташуку, што яны запрасілі мяне ў свой час да агульнай працы над цудоўнымі творамі У. Караткевіча.

*2005*

## Арлен Кашкурэвіч



# Я ўбачыў іншую Беларусь...

Цяпер, калі на адлегласці гадоў спрабуеш зазірнуць у час нашай творчай маладосці, калі хрушчоўская адліга досыць хутка змянілася на брэжнеўскі застой, я згадваю, што мы тады не надта абцяжарвалі сябе развагамі пра складанасці жыцця. Мы вырашылі, што, нягледзячы на тое, будуць друкаваць ці не, пройдзе праца на выстаўку ці не, галоўнае

для нас — рэалізаваць свае ідэі. І мы рабілі справу. У нас нават было адчуванне свабоды, мы імкнуліся не звяртаць увагі на ідэалагічны ўціск. А ў размовах з Валодзем Караткевічам на падобныя тэмы, я помню, як ён казаў: «Зробленае не прападзе. Я застануся ў літаратуры і ў гісторыі назаўсёды». Ён тады адчуваў гэта і працаваў, можна сказаць, на гісторыю. Час пацвердзіў прароцтва ягоных слоў...

Наша знаёмства з Караткевічам пачалося са знакамітых «Каласоў...». Валодзя патэлефанаваў мне з Дома творчасці «Каралішчавічы», ці змог бы я зрабіць ілюстрацыі да яго кнігі «Каласы пад сярпом тваім». А ён ужо бачыў аформленыя мною паэмы Я. Купалы: «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва» — і яму спадабаліся гравюры, асабліва вершнік: чорны сілуэт князя на кані. Я пагадзіўся. І яны з Р. Барадуліным прынеслі мне на вуліцу Чкалава (я жыў там у маленькім старым доме) дзве пульхныя папкі рукапісу — машынапісны варыянт рамана, але мяне не засталі, пакінулі тэкст жонцы. І я потым паціхеньку пачаў чытаць. Што мяне адразу ўразіла — я ўбачыў іншую Беларусь. Мы, аказваецца, не толькі ў лапцях хадзілі, а ў нас былі і адукаваныя арыстакратычныя роды, і дзівосныя замкі, і княскія паляванні. А як прыгожа гучала беларуская мова, на якую мы па маладосці гадоў не звярталі ніякай увагі. Я пасля Валодзю гаварыў, што, дзякуючы яму, прачнулася мая нацыянальная свядомасць, цікавасць да сваіх каранёў і я як мастак пачаў працаваць над беларускай тэмай.

А «Каласы...» мне ў чымсьці нагадалі «Вайну і мір» Л. Талстога. Валодзя і сам, дарэчы, не адмаўляў, што яны напісаны пад уплывам гэтага класічнага твора. І ён сам быў перакананы, што напісаў выдатны раман. А я ўсё не мог узяцца за работу, не атрымлівалася дачытаць да канца. І ён, зрэшты, папракаў мяне, што такога твора ўвогуле не будзе больш у свеце, а я, маўляў, маруджу з чытаннем. Цяпер вядома, што былі праблемы з выданнем гэтага рамана Караткевіча, адпаведна ўзніклі цяжкасці і з афармленнем. Ужо нават калі вырашылі выдаваць, ад ілюстрацый спачатку адмовіліся. Я рэдактару прапаную: «Ну давайце я зраблю бясплатна». А мне адказваюць: «Але ж усё роўна трэба грошы, каб надрукаваць іх у кнізе». Урэшце атрымалася, што аформілі супервокладку, пераплёты і два франтыспісы. Хаця ілюстрацый я зрабіў значна больш, але яны не пайшлі ў выдавецтва. Праўда, я пастараўся, каб малымі сродкамі ўсё ж перадаць мастацкі вобраз гэтай кнігі. Цікава, што на палях рукапісу, які мне Валодзя даваў для чытання, ёсць заўвагі рэцэнзента аўтару і побач — Валодзевы адказы яму. І гэта такой смачнай мовай, са злосцю, недзе ён не пагаджаўся, пераконваў апанента. Дарэчы, гэтыя лісты ў мяне захаваліся. Як і цікавыя малюнкі Караткевіча, якія ён рабіў разам са мной у майстэрні,— такія хуткія накіды, але вельмі характарныя, экспрэсіўныя. Гэта партрэты паэта Г. Бураўкіна, мой, аўтапартрэт. Вельмі таленавіта зроблена.

Валодзя ўвогуле быў таленавіты чалавек у розных сферах. Ён, напрыклад, вельмі добра спяваў. І ў яго была звычка нечакана прыйсці да мяне ў майстэрню (на прасп. Скарыны) са сваімі сябрамі, не папярэдзіўшы. Аднойчы яны зайшлі, па-мойму, з Н. Пашкевічам (Валодзя гаварыў, што ён знайшоў невядомыя пісьмы С. Полацкага), мы сядзелі, размаўлялі. І я паставіў арганную п'есу Баха «Фуга рэ мінор». Яна такая ўрачыстая. Валодзя пачаў спяваць нейкія псалмы. І так прыгожа, такім моцным голасам, што мы з Пашкевічам ледзь на калені не сталі, нам здалося, што мы ў храме, на службе.

Згадваецца яшчэ, як на сваё саракагоддзе я запрасіў сяброў на банкет у рэстаран «Журавінка». Валодзя вёў маю юбілейную вечарыну як тамада. У яго здорава атрымлівалася, шмат тостаў цікавых гучала. А пасля мы падняліся з банкетнай залы наверх, аркестр зайграў рускую польку. І раптам Валодзя схапіў адну дамачку і на сярэдзіну залы выскачыў. І так пачаў адплясваць — усе здзівіліся. Ну ён жа такі вялікі, мажны мужчына, а тут з такой лёгкасцю ён «вытылінгіваў» ножкамі! Мне здалося, ён быў тады падобны на свайго героя — пана Дубатоўка з «Дзікага палявання караля Стаха». Так ён адплясваў...

Валодзя цудоўна ведаў гісторыю мастацтва. Ён з дакладнасцю апісваў касцюмы, у якія апранаў сваіх герояў, старажытныя стравы беларускай кухні. Напрыклад, хто яшчэ мог ведаць такі кулінарны рэцэпт, як ласіныя губы, вымачаныя ў воцаце?

Па жыцці яму былі ўласцівы кантрасты ў стылі і паводзінах. Часам ён мог апрануцца вельмі проста: звычайныя штаны, кашуля, а іншым разам — надзвычай элегантна. Памятаю, адзін з маіх студэнтаў рабіў дыплом па рамане Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». І студэнты папрасілі, каб я наладзіў сустрэчу з аўтарам. Ён прыйшоў да нас у класічным касцюме, стыльнай кашулі, замест гальштука — штосьці накшталт бабачкі... Ці, дапусцім, мы сядзім з ім у рэстаране, смачна паабедалі, выпілі дарагога каньяку, а напрыканцы, калі ўжо трэба ісці, Валодзя мог прапанаваць: «Слухай, давай яшчэ селядца закажам».

Ён любіў рабіць шырокія княскія жэсты. Помню, як прынялі «Каласы...», я здаў ілюстрацыі, вокладку, і мы з ім пайшлі ў кафэ. Па дарозе ён запрашаў усіх знаёмых, каго мы сустрэлі,— яму хацелася ўсіх пачаставаць. І я тады прасіў яго пазычыць мне трохі грошай, каб купіць каньяк дамоў, бо па тых часах ён не заўсёды быў у продажы — Валодзя мне тут жа купіў бутэльку без усякай пазыкі. Дарэчы, ён любіў паўтараць: «Сапраўдны мужчына павінен пахнуць крыху каньяком і цыгарамі».

Я шмат ілюстраваў яго твораў. Акрамя «Каласоў...», з якіх мы пачыналі, гэта яшчэ і розныя апавяданні, і «Чазенія», і «Дзікае паляванне караля Стаха». Было ранняе выданне гэтага твора са штрыхавымі

малюнкамі, Валодзю падабалася. Асабліва тэма «Крык»: такое страшнае аблічча, якое крычыць. Ён казаў: «Вось тут увесь жах маёй аповесці».

Калі я працаваў над «Чазеніяй», Валодзя даў мне блакнот са сваімі замалёўкамі, якія ён рабіў на Далёкім Усходзе ў запаведніку «Кедравая Падзь». Там ёсць абрысы хаткі, у якой жыла яго гераіня, і нават нейкія расліны ён маляваў і, дарэчы, расказваў мне, як павінна ўсё быць. Але я толькі асобнае штосьці скарыстаў. А ўвогуле для мяне было надзвычай важна перадаць унутранае жыццё галоўных герояў, без падрабязнасцей вонкавых. Я тады вельмі захапляўся творчасцю італьянскага мастака Рэната Гутуза, і яго стыль адбіўся на маіх ілюстрацыях да «Чазеніі» Караткевіча. Валодзю нечакана тыя дэталі, што ў мяне з'яўляліся, падабаліся. Ну, скажам, як Гражына ляжыць — выгін яе спіны, ці барацьба Будрыса з леапардам: лютасць гэтага драпежніка. Калі Валодзя на яго пазіраў, ён як бы імітаваў рык леапарда «Рр-р!». І я адчуваў, што мне ўдалося схапіць галоўнае...

Хаця ўвогуле працаваць з Караткевічам было няпроста. І трэба сказаць, не ўсё, што я рабіў, яму падабалася. Усё-такі ён быў выхаваны на мастацтве іншых часоў: эпохі Адраджэння, барока, літаратуры XIX стагоддзя, імпрэсіянізм любіў. Ну а сучасныя формы ён неяк унутрана, душэўна не вельмі ўспрымаў. Праўда, ён не спрачаўся, не ганьбіў, не гаварыў, што гэта дрэнна, так не трэба маляваць, але ставіўся досыць стрымана. А ў мяне тады была задача знайсці свой стыль, новыя сучасныя прыёмы, больш экспрэсіі, умоўнасці. Вось наконт умоўнасці Валодзя быў не надта згодны. І многія мае творы, я адчуваў, ён не зусім прымаў. Хаця яму вельмі падабалася гравюра «Більярд». Ён нават пісаў пра яе. Цікава, што гравюра — матэрыял дастаткова ўмоўны. І сама гэта праца таксама дужа ўмоўная. У ёй шмат чорнай, плоскай плямы, але Валодзю чамусьці падабалася. Ён аднойчы прывёў нейкага сябра да мяне ў майстэрню і папрасіў: «Пакажы нам “Більярд”». Я выставіў гэты ліст, яны доўга глядзелі, і Валодзя нешта ўсё гаварыў свайму прыяцелю.

А афармленнем сваіх твораў, трэба сказаць, ён часта быў незадаволены. Хаця мне часам бачылася ў гэтым лёгкае какецтва. Я не раз казаў яму: «Валодзя, ты так добра ведаеш, як апрануты твае героі, якая ў іх зброя і г. д. Але нашто мне так дакладна ўсё паўтараць? Я буду маляваць страсці, якія кіпяць у тваіх творах». З гэтым ён згаджаўся, хаця мог даць мне заўвагу, што Алесь Загорскі трохі не такі. Калі я аднойчы паспрабаваў крыху перарабіць аблічча, ён раззлаваўся: «Нашто ты гэта зрабіў? Няхай бы так і было...»

Я даўно марыў зрабіць добрае выданне «Дзікага палявання караля Стаха», і толькі вось цяпер атрымалася: мне прапанавала выдавецтва «Мастацкая літаратура» аформіць кнігу У. Караткевіча. Я настаяў, каб гэта было падарункавае выданне, палепшанае. Сюды ж увайшла і «Ладдзя

Роспачы», часопісны варыянт ілюстрацый якой я рабіў некалі для «Нёмана». І Валодзя тады таксама не пагадзіўся з абліччам галоўнага героя: «А ён не такі». Так яно, мусіць, і было. Бо малявалася вельмі хутка — спяшаліся патрапіць у нумар. І вось цяпер ёсць кніжны варыянт. Я думаю, такога Выліваху Валодзя хацеў бачыць. Між іншым, на ілюстрацыях у «Нёмане» ён мне напісаў: «Не правда ли, очень хорошее времяпрепровождение?!» А там быў намаляваны Выліваха, на каленях у яго — прыгожая жанчына, а хтосьці з сяброў-рагачоўцаў п'е з бочкі віно ці піва. Валодзя ўвогуле цікава падпісваў свае кнігі. Гэта былі своеасаблівыя мініяцюркі.

Я таксама рабіў часопісны варыянт «Хрыстоса...», мне спадабаўся гэты раман, атрымаліся дынамічныя, экспрэсіўныя малюнкі. А яшчэ ў нас выспявала задума, на жаль, не спраўдзілася, зрабіць унікальную кнігу, дзе гравюры былі б надрукаваны з аўтарскіх дошак. Валодзя першапачаткова прапанаваў для гэтага адзін свой пераклад, здаецца, Р. Бёрнса «Верасковы мёд», а я кажу яму: «Давай лепш арыгінальнае штосьці, беларускае, толькі кароткае па форме». І Валодзя напісаў «Паэму пра явар і каліну» пра князя Давіда. Наша прапанова па выданні была ўхвалена дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», цудоўным чалавекам М. Дубянецкім. Але потым пайшлі прыдзіркі па тэксце, цэнзуру не задаволіў радок «Наперад, на Берлін», карацей кажучы, кніжка не выйшла. Тады для Валодзі ўвогуле быў складаны час, яго творы друкаваліся з цяжкасцю. Чапляліся да ўсяго, даходзіла да смешнага. Я помню, як адзін рэдактар сказаў наконт «Дзікага палявання...»: «Ну незразумела неяк, вось гэтая Надзея Яноўская жыве на балоце, а хто ёй прадукты прыносіць?». Канечне, самому аўтару пераносіць падобныя кпіны было нялёгка...

А працавалася з ім хаця і няпроста, але вельмі цікава. Я ўжо казаў вышэй, што Валодзя паспрыяў майму ўсведамленню сябе беларусам. Пад яго ўплывам я зрабіў падарункавае выданне паэмы Янкі Купалы «Курган»: такая мініяцюрная кніжачка. Валодзя дапамог мне наконт касцюмаў, зброі, нават жэстаў. Ён паказваў княскі характар у руху. І на малюнку жэсты князя — гэта жэсты Караткевіча. Таму што гэта былі ілюстрацыі-імправізацыі. Я не рабіў падрыхтоўчых малюнкаў, а браў паперу і адразу маляваў, калі не выходзіла — браў новы ліст. Я тады захапляўся непасрэдным эмацыянальным малюнкам. І калі праца была зроблена, Валодзя сказаў: «Ты раскрыў такія кірункі ў Купалы, пра якія ён і не гаварыў, а, магчыма, толькі думаў...» Яму вельмі спадабаўся мой «Гусляр». Пасля гэтай Купалавай паэмы Валодзя напісаў верш «Апошняя песня Дантэ», прысвечаны мне, асноўны матыў якога — пакуты, засценкі...



Ну а потым я ўзяў кнігу М. Гусоўскага «Песня пра зубра», мы таксама з Валодзем шмат абмяркоўвалі, і «Фаўста» Гётэ я рабіў пад яго ўплывам,

менавіта тэму «Вальпургіевай ночы». Ён чытаў у свой час цікавую старажытную кнігу аднаго нямецкага пісьменніка «Молот ведьм» і адтуль даваў мне некаторыя парады пра вядзьмарак, камеру катаванняў. Потым я рабіў яшчэ другі варыянт па творчасці Янкі Купалы — выставачны. Адным словам, быў такі перыяд у маім жыцці, калі я прысвяціў сваю творчасць менавіта беларускай тэме, і ўплыў Караткевіча тут відавочны.

А недзе на пачатку 1970-х гадоў я працаваў над цыклам твораў з умоўнай назвай «Партызаны». На той час рэха вайны востра адчувалася, зараз не так. Я быў членам выстаўкома, нам прыносілі эскізы работ на ваенную тэму, і я пераканаўся, наколькі нецікава, ілюстрацыйна падаюцца ваенныя падзеі. У мяне ўзнікла жаданне сказаць пра вайну па-іншаму. І я пачаў сваю серыю «Партызаны» (лістоў 4—5). Я не маляваў гераічных баёў, мне хацелася паказаць псіхалагічны стан людзей у час вайны. Так нарадзіліся тэмы: партызанскія маці, смага, партызанскае вяселле. І я ніяк не мог прыдумаць, як назваць творы. А Валодзя часта прыходзіў у маю майстэрню, ён бачыў, як усё стваралася, і параіў мне прыўнесці ў тэму ваеннага вяселля народныя элементы, нават падказаў, якія кнігі пра беларускія вясельныя абрады прачытаць. Я схадзіў у бібліятэку Акадэміі навук і знайшоў шмат цікавага матэрыялу, які выкарыстаў у гэтай працы. І яшчэ адна дэталь, якую падказаў мне Валодзя: два ружжы, якія з'ядноўвае стары перад маладымі, такім чынам ён іх вянчае... І гэта быў знак ваеннага часу, партызанскага вяселля. Валодзя згадаў, што ён недзе чытаў старадаўняе беларускае пажаданне маладым: «Вянчаю вас на шчасце, на гора, на тое, на тое...» І я назваў гэту сваю работу «На шчасце, на гора...».

Аднойчы, памятаю, Валодзя дужа раззлаваўся з-за таго, што я намаляваў. У яго была невялічкая паэма пра скрыпача. не тое каб легендарнага, але незвычайнага, які сваёй ігрой вельмі ўздзейнічаў на слухачоў. Ён падрыхтаваў гэты твор для дзіцячага часопіса «Бярозка». А ў часопіс трэба ілюстрацыі здаваць хутка. Я прачытаў і з ходу зрабіў малюнак: вялікі скрыпач, накшталт купалаўскага гусляра, толькі са скрыпкай, таксама худы, доўгі і вакол шмат народу. Адразу прыехалі з рэдакцыі, забралі малюнак, ім вельмі спадабалася: «Ой, у нас яшчэ ніхто так не рабіў». А як толькі выйшаў гатовы нумар часопіса, звоніць мне Валодзя: «Што ты нарабіў! Ты няўважліва чытаеш мой рукапіс. Ты намаляваў купалаўскага гусляра. А тут павінен быць зусім іншы музыкант, малады і г. д.». Я не памятаю цяпер, як гэта я недагледзеў? Вядома, у тэксце не была канкрэтна абмалявана постаць музыкі, але н неяк па заведзенай пласцінцы сыграў тую ж песню. Зрабіў як «Курган» купалаўскі. І гэта быў адзіны выпадак, калі Валодзя вельмі на мяне раззлаваўся, ледзь не лаяўся па тэлефоне. Але ён пра гэта хутка забыўся, і нашы адносіны не сапсаваліся.

Вялікі ўплыў Валодзя аказаў на майго малодшага сына Хведара. Ён — таксама мастак і часта хадзіў да Караткевіча пагутарыць, параіцца адносна сваіх творчых задум. Хведар зрабіў некалькі ілюстрацый на тэму твораў Караткевіча, адну падараваў яму, і, я помню, яна вісела ў кабінеце Валодзі.

Згадваецца яшчэ адзін цікавы эпізод з нашага сяброўства. Я ўсё хацеў узяцца за ілюстрацыі да Бібліі, хаця яе самой у мяне не было. А ў Валодзі была, ён казаў, што гэта падарунак мітрапаліта Антонія. І аднойчы ён вырашыў нас пазнаёміць. Стэлефанаваўся з мітрапалітам і дамовіўся на сустрэчу. А ў яго тады ногі балелі — абварыў кіпенем — і ён не мог насіць чаравікі. Да свайго элегантнага касцюма Валодзя надзеў пантофлі, мы выклікалі таксі і паехалі. Мітрапаліт Антоній нас сустрэў, гэта быў прыгожы высокі мужчына, вельмі цікавы субяседнік, ён, дарэчы, масквіч. Я спачатку няёмка сябе адчуваў, бо ніколі не сустракаўся з такім іерархам. Потым пазнаёміліся бліжэй, Валодзя мне кажа: «Ну вось, а ты баяўся». «А что, вы меня боялись разве?» — здзівіўся мітрапаліт. Селі мы за стол: сыр ракфор, чырвоная ікра, царкоўнае віно. Няспешная такая гутарка. Валодзя ўсё пытаўся ў мітрапаліта, як ён успрыняў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Той адказаў, што ўсё-такі гэта кніга ерэтычная. А вось «Каласы под сярпом тваім» яму вельмі спадабаліся. Ён паказаў нам унікальны збор сваіх старажытных ікон і на развітанне падараваў мне маленькую Біблію. Валодзя не ўпусціў выпадку: «Дай слова, што цяпер зробіш ілюстрацыі, паколькі Біблію ты ўжо маеш».

Перад самым нашым выхадам нечакана пайшоў дождж, і мітрапаліт прапанаваў нам узяць яго парасон, але мы адмовіліся і пайшлі па дажджы без парасона. Помню, ідзём, а Валодзевы пантофлі злазяць, ён іх папраўляе. І смешна нам ад гэтага, і разам з тым яму ж нязручна. А ён кажа мне: «Давай удваіх пахрысцімся ў мітрапаліта Антонія». Мы ж нехрышчоныя жылі, і царква была пад забаронай, і хадзілі мы да мітрапаліта тайна, ніхто не ведаў. Праўда, не пахрысціліся мы тады, а сустрэча помніцца дасюль.

Увогуле шмат было і смешнага, і журботнага. У апошнія гады Валодзя пакутаваў ад хваробы. Я неяк зайшоў да яго, ён, як заўсёды, кавы зварыў, частаваў. Сабе наліў дужа вялікі кубак і піў, піў. А яму ўжо кава непажадана была. І, памятаю, на кніжнай паліцы ў яго ляжалі таблеткі. Ён раскладваў іх раніцай па кучках, калі і якія піць, і потым забываўся, так яны і ляжалі...

Апошні раз мы бачыліся, калі выйшла Валодзева кніга «Чорны замак Альшанскі», цікава афармленая мастаком П. Драчовым. Валодзю вельмі падабалася, як гэта зроблена. Ён пазваніў мне, расказаў пра кніжку: «Прыязджай, я табе падпішу...» Я прыехаў, ён нейкі сумны быў.

Ён увогуле апошнім часам быў сумны... У яго сядзеў паэт Алег Лойка. Валодзя падпісаў нам кніжкі. Пагаварылі крыху, папілі гарбаты, і мы з Лойкам пайшлі...

У ліпені мы з жонкай адпачывалі ў Нясвіжы. Там якраз працавалі археолагі разам з Ігарам Чарняўскім. На возеры мы сустрэлі Уладзю Арлова з сынам. Так што кампанія складвалася прыемная — і пагаварыць, і паслухаць можна. А я ў Нясвіжы ўвогуле бываў часта, добра ведаў Радзівілаўскі замак: і скляпенні бачыў, і падземныя пераходы, і на гарышчы лазіў. І заўсёды нясвіжскі настрой у мяне неяк асацыіраваўся з Валодзем Караткевічам. Я ўспамінаў, як ён мне шмат расказваў пра стан помнікаў беларускай даўніны і, дарэчы, пра дубовыя канструкцыі палацавых будынкаў: «Яны такія моцныя, што нож усадзі — зломіцца...»

...25 ліпеня мы вярнуліся з прагулкі і ў канцы цёмнага калідора корпуса бачым постаць Ігара Чарняўскага, здалёк — быццам нясвіжскі прывід. Ён падышоў да нас і сказаў: «Памёр Валодзя Караткевіч».

Ад яго слоў апякло маланкай. Я падумаў, што згубіў свайго самага лепшага сябра... Валодзя так увайшоў у наша творчае жыццё, як жа мы будзем жыць без яго?..

*2005*

## Уладзімір Куляшоў

# Чалавек са святлом

Мы не былі блізкімі сябрамі. Я ўсяго толькі сыграў дзве ролі ў спектаклях паводле ягоных п'ес. І гэта, канечне ж, падзея больш для мяне, чым для пісьменніка. Паміж намі існавалі, увогуле кажучы, звычайныя ўзаемаадносіны драматурга і акцёра, пазначаныя шчырай прыязнасцю.

Упершыню Уладзімір Караткевіч пераступіў парог тэатра імя Якуба Коласа ў канцы 1968 года. Стала вядома, што ў знакамітага паэта і празаіка ёсць ці то п'еса, ці то кінасцэнарый пра Кастуся Каліноўскага. Садружнасць з пісьменнікам такога рангу абяцала ўзбагаціць рэпертуар нацыянальнага тэатра вартым спектаклем. Бо яшчэ і раней выношвалася задума звярнуцца да інсцэнізацыі аднаго з твораў У. Караткевіча на гістарычную тэму. Праўда, намеры гэтыя ніяк не падмацоўваліся канкрэтнымі крокамі. І вось з'явілася надзея. Мастацкае кіраўніцтва звязалася з Уладзімірам Сямёнавічам, і ён ахвотна прыехаў у тэатр і прачытаў калектыву сваю п'есу.

На вялікі жаль, я не прысутнічаў на той чытцы — быў на кіназдымках. З п'есай пазнаёміўся пазней. Але застаў сваіх калег у стане глыбокай узрушанасці і ад драматургіі «Кастуся Каліноўскага», і ад асобы аўтара.

Калі б гэтая яркая, самабытная, рамантычная п'еса неадкладна была ўключана ў рэпертуар,— які багаты творчы плён мог чакаць нас у далейшай садружнасці! Здарылася інакш. Трагедыя пра народнае паўстанне на Беларусі і ў Літве і яго легендарнага кіраўніка Кастуся Каліноўскага была ўвасоблена на коласаўскай сцэне толькі праз дзесяць гадоў. А ў той час, нягледзячы на выключную прыхільнасць калектыву, не знайшлося рэжысёра-пастаноўшчыка, якога п'еса запаліла б. Тэма народнай прагі да волі была «не ў модзе». А спасылаліся на перагрузку п'есы дзейнымі асобамі, яе «кінематаграфічнасць», нібыта непрыдатную для тэатральнай сцэны. Вядомы рэжысёр у прысутнасці аўтара жартаваў так: «Ролі тых, што засталіся на полі бою, магу размеркаваць хоць зараз». Маўляў, а каму ж даручыць галоўныя ролі? Уладзімір Сямёнавіч цаніў гумар, сам любіў жартаваць, таму разам з усімі шчыра пасмяяўся. А праз некалькі гадоў ён напіша ў тэатр ліст з сур'ёзным напамінкам пра сваю п'есу, гэтак горача прынятую калісьці калектывам. Нагадае, не баючыся ўжыць сакавітыя народныя слоўкі, пра бессаромна слабыя творы, якія плывуць і плывуць на сцэну.

Будзе гэта пазней. А тым часам набліжалася 1000-годдзе Віцебска, і Уладзімір Караткевіч выканаў дадзенае тэатру і гораду абяцанне — напісаў новую п'есу да гэтай знамянальнай даты. Аднак «Званы Віцебска» не мелі нічога агульнага з патокам спекуляцыйных «дацкіх» твораў, што паланілі тэатры. Адвечная тэма народнага лёсу вырашалася глабальна і важка праз тугі вузел рэлігійных супярэчнасцей на Беларусі XVII стагоддзя, на багатым і дакладным гістарычным фоне.

Сам аўтар на першую чытку п'есы не прыехаў. «Прадаць» яе калектыву (ёсць такі прафесійны тэрмін) узяў на сябе смеласць малады рэжысёр-дыпломнік Валерый Мазынскі.

Гляджу на прысутных калег і разумею: запрошаны ў асноўным тыя, каго мяркуецца заняць у спектаклі. Матэрыял незвычайны, складаны, і малады рэжысёр з усяе сілы імкнецца прабіць глухую сцяну недаверу, неразумення. Я і сам спачатку іранічны, але дысцыплінаваны — слухаю. А наогул я не ўспрымаю п'есы на слых, як бы хто ні чытаў. Ды тут пасля першай дзеі нешта мяне ўстрывожыла, усхвалявала, забілася ў душы. У час перапынку ўсе астатнія абмяркоўвалі прачытанае разам, а мне хацелася пабыць аднаму. Маўкліва курыў убаку. Другі акт слухаў уважліва, засяроджана. Слова Караткевіча ўзбуджала і ласкала, прызыўна клікала і крывавіла, вярэдзіла душу і лячыла. Мне, рускаму чалавеку, які адчувае сябе сваім і родным сярод беларусаў, раптам адкрываліся праз

Караткевічава Слова новыя, глыбінныя рысы народа, яго неардынарнай гісторыі, побыту.

Гэтае радаснае адчуванне не пакідала і ў буднях рэпетыцый.

Я быў нямала здзіўлены, прачытаўшы загад аб размеркаванні роляў у «Званах Віцебска»: маё прозвішча стаяла насупраць персанажаў-антыподаў — уніяцкага арцыбіскупа Іасафата Кунцэвіча і завадатара паўстання 1623 года ў Віцебску Сцяпана Пасіёры. У гэтым, як потым зразумеў, быў сэнс. Бо і адзін, і другі мелі сваю пазіцыю, а мне, акцёру, трэба было спасцігаць праўду кожнага. У рэшце рэшт за мною замацавалася роля Кунцэвіча. Услед за Караткевічам я не мазаў свайго героя адзіна чорнай фарбай, як вядзецца цяпер, не выстаўляў яго банальным злодзеем. Яго лёс, хутчэй за ўсё,— гэта трагедыя асобы, якую не зразумеў яго народ, якая са свайго боку імкнулася даць народу раўнавагу духоўную, спакой душам, прымяняючы гвалт і разбой.

П'еса была пастаўлена і мела вялікі поспех. На жаль, мушу агаварыцца: не сярод віцяблян, да сэрцаў якіх была ў першую чаргу звернута, а чамусьці ў Маскве на гастролях.

Гэты ўспамін, як ні дзіўна, вымусіў мяне акінуць позіркам пройдзены шлях. На коласаўскай сцэне за дваццаць шэсць з паловай гадоў сыграна каля сотні роляў. Розных. Гераічных, сацыяльных, характарна-камедыйных. Аднымі задаволены, іншымі не зусім. І ўсё ж найбольш вызначаюць маю чалавечую сутнасць, найбольш значныя для мяне — гэтыя дзве: Іасафат Кунцэвіч і Кастусь Каліноўскі. Спадзяюся, зрэшты, што і не толькі для мяне, а для ўсіх уважлівых маіх гледачоў.

Калі я ўпершыню ўбачыў Уладзіміра Караткевіча і пазнаёміўся з ім, быў надзвычай здзіўлены, што ён такі рэальны і даступны ў бытавых зносінах. У маім жа ўяўленні ён здаваўся таямніча-загадкавым і недасягальным. Зрэшты, маё абагаўленне пісьменніка і надалей узводзіла нейкі шлагбаум у дачыненні да яго. Але з першых ягоных слоў гэтая сцяна імгненна рассыпалася. І ўсё ж я часам раўнаваў яго. Ну як гэта ён можа станавіцца на кароткую нагу з людзьмі яўна ардынарнымі, не вартымі яго ўвагі? Ён, відаць, разумеў маё недаўменна-балючае пытанне і цёпла-хітраватай усмешкай, лёгкім прышчурам вачэй як бы казаў: «Ды нічога страшнага, усё гэта не так ужо і сур'ёзна, як табе здаецца».



Мне думаецца, што вясёлая іронія, уласцівая яму ад прыроды, была для яго натуральнай абаронай ад тлуму, мітусні. А ўнутры віраваў вулкан магутнага таленту, ад якога яму не было куды падзецца. І ён утаймоўваў яго, калі заставаўся адзін. І вылівалася ўсё гэта ў адметнейшыя творы, падобных на якія ніхто не напісаў і не напіша.

Ёсць у «Кастусю Каліноўскім» такая сцэна. Свентаянскія муры, акружаныя вайскоўцамі Мураўёва-вешальніка. Скрозь цемру прабіваецца

агеньчык: чалавек ідзе са свечкай. Капітан, заўважыўшы агеньчык, пытае: «Гэй, хто са святлом?» Твар чалавека асвятляецца, і Кастусь адказвае: «Я са святлом».

Чалавек са святлом — гэта і ён таксама, незабыўны Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Вялікі беларус, вялікі славянін, вялікі сын Сусвету.

*1990*

## Валерый Мазынскі

# «Я табе напісаў “Барыса Гадунова”...»

Упершыню я пачуў пра Уладзіміра Караткевіча ў самым пачатку сямідзесятага года, калі вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Першыя заняткі па сцэнічнай мове, абавязковыя і для будучых рэжысёраў, скіравалі нашу ўвагу і на беларускае прыгожае пісьменства. Хоць, па сутнасці, наш тэатральны факультэт ніколі не быў беларускамоўным, усё ж некаторыя выкладчыкі патрабавалі... Вось з гэтага і пачалося маё знаёмства з творчасцю У. Караткевіча. Яго прозу і вершы чыталі на ўроках, потым на заліках. Як цяпер усведамляеш, дык мала што тады мы адчувалі, разумелі з яго балючых радкоў. Нам трэба было яшчэ многа разоў сутыкнуцца з рэальным жыццём, каб усё тое, што ў яго словах здавалася толькі прыгожым, стала для нас балюча асабістым.

Памятаю, неяк Ілья Львовіч Курган, наш выкладчык па сцэнічнай мове, паведаміў, што на заняткі павінен прыйсці Уладзімір Караткевіч. З’явіліся яны ўтрох: Віктар Тарасаў, Ілья Курган і Уладзімір Караткевіч. Усе былі па-святочнаму ўрачыстыя. Тарасаў пачаў чытаць Караткевіча. Што рабіў сам аўтар, я не памятаю: здаецца, нічога не чытаў. Неўзабаве мы развіталіся, але цікавасць да гэтага чалавека ў мяне ўзрасла, а магчыма, з гэтай сустрэчы яна толькі і пачалася. Памятаю, я ўзахлёб праглынуў яго «Чазенію». Некаторыя заўважалі, маўляў, гэта не з лепшага, але мне на душу лягло настолькі, што я, мусіць, з месяц не мог прыйсці ў сябе. Цяпер я разумею, гэта быў Караткевіч — вандроўнік далёкіх шляхоў, з шырокім чалавечым даляглядам, малады і прагны да любові. Дарэчы, гэтая прага, мабыць, і ёсць тое галоўнае і запаветнае, што бярэ цябе ў палон. Трапіў у палон і я — у 1974 годзе, калі ўжо быў у Віцебску і шукаў сабе матэрыял для дыпломнай работы.

...Неяк Геральд Асвяцінскі, наш дырэктар, прапанаваў мне п’есу і кажа: «Пачытайце, можа, за гэта возьмецеся?» Я не ведаў яшчэ, што ў

кіраўніцтва горада і тэатра была дамоўленасць аб стварэнні спектакля да 1000-годдзя Віцебска. (Сёння ў гэта верыцца з цяжкасцю, але факт застаецца фактам. Дарэчы, п'еса «Званы Віцебска» адразу была ўзята ў работу, а не ляжала ў партфелі тэатра, як сцвярджае адзін з абаронцаў беларускіх драматургаў.) І вось я трымаю таўшчэзную кнігу. Столькі аркушаў у п'есах было толькі ў Караткевіча — «дасведчаныя» ў тэатры людзі заўсёды пішуць старонак 60, не больш, а тут — 124! Рэжысёраў гэта страшэнна палохае. Тое самае здарылася і са мною, хоць рэжысёрам я тады яшчэ і не быў. Гэта быў мой пачатак. Мая першая сапраўдная сустрэча з таленавітым чалавекам, успамін пра якога і сёння кранае душу. Ён шмат у чым зрабіў мяне рэжысёрам.

Прачытаў я «Званы Віцебска»... Па-першае, твор мне спадабаўся ўвесь, ды толькі ад п'есы там было мала. Гэта быў... нейкі «п'есны раман». Божа! Чаго толькі там не было! Усё — і нават кінематограф! Пазней ён скажа: «Я табе напісаў «Барыса Гадунова», дык ты стаў і не прыдумвай, а не хочаш, дык ідзі...»

Гэта будзе потым, а пакуль я іду да дырэктара ў складаным настроі, з раздвоенымі пачуццямі. З аднаго боку, страшэнна падабаецца, хочацца пачаць што-небудзь з ёю рабіць, а як і што, жахліва падумаць! Адно, што я выціснуў з сябе,— буду працаваць!

Кажуць, тэатр можа ўсё. Гэта праўда. Але не ўсякі рэжысёр гэта «ўсё» адолее. Я не адчуваю ў сабе такой моцы, бо калі п'еса не кладзецца на маю «індывідуальнасць», рашыць яе мне вельмі цяжка. Тут быў іншы выпадак. Твор хваляваў, вабіў, спакушаў — і я пачаў прыдумваць. Потым усё, што было дадумана, вылецела, спектакль ішоў нармальна і без прыдумак, а пакуль у мяне з'явіліся Папа Рымскі і кароль Сігізмунд. Ні больш, ні менш. Яны і прывялі мяне да дзвярэй кватэры Караткевіча. Папярэдне пазваніў яму і дамовіўся аб спатканні — першым спатканні з «самім».

Упусціў у хату, прапанаваў распрануцца, пачаў мяне карміць. Я адмаўляўся, казаў, што сыты, аднак, пачуўшы дужа «ласкавае» слова, хуценька сеў да стала, стаў чакаць. Ён папытаў, якую каву я больш люблю — «па-турэцку ці па-грэчаску». Божа літасцівы! Я і па-мінску не п'ю, бо ў мяне ад яе пякота, але пра гэта гаварыць не стаў, чакаючы, што будзе далей. Мяне здзівіла, што ён зусім не пытаўся пра п'есу, пра тое, што я збіраюся з ёю рабіць. Чым больш доўжылася сустрэча, тым больш адчуваў я напружанасць атмасферы, напоўненай водарам кавы ці то па-турэцку, ці то па-грэчаску.

Нарэшце ён сказаў: «Паслухай, даражэнькі, што ты там выдумваеш. Я табе напісаў...»

Вось той ліст:

«Паважаны Валерый Яўгенавіч!

Адразу па атрыманні Вашага варыянта (у якім з сім-тым згодзен, у чым і Вы перакандаецеся) напісаў быў Вам ліст, але раздумаў яго адпраўляць. Калі захочаце — дам прачытаць па прыездзе.

Аддаў у перадрук трэці варыянт, зроблены ў Ялце і ўхвалены ўсімі кіраўнікамі семінара. Калі не памыляюся, недзе ў канцы месяца павінна быць нарада па тэатру... на якой Вы будзеце мець магчымасць выслухаць і пазітыўныя і негатыўныя водгукі пра маю працу.

Для мяне той варыянт, які мне даслалі,— непрымальны. Папы, каралі, цытаты з «Беларусі ў эпоху феадалізму». Можаце мне верыць, што яны падабраны кампаніяй Л. Абэцэдарскага тэндэнцыйна. А я ніколі не плёўся ў хвасце ні ў яго, ні ў каго іншага. Не раю і Вам, калі хочаце быць самастойным і значным рэжысёрам.

Значыць, дамовімся так. Або прымаецца мой варыянт, або я — з надзвычайным жалем — вымушаны буду адмовіцца ад супрацоўніцтва. У такім выпадку я (а і Вы таксама, за мяне) папрашу прабачэння ў гаркома, гарвыканкома і ва ўсіх тых людзей, якія так добра гаварылі са мной і якім я даў слова, што зраблю да гадавіны горада ўсё магчымае. Значыць, у маё апраўданне застанецца толькі эсэ аб горадзе ў адпаведным нумары «Маладосці». Так і перадайце.

А на будучае я — дзеля сябе — улічу, што мне (пра другіх не кажу) супрацьпаказаны кінастудыі і тэатры. Таму што я выхаваны на павазе да аўтарскага права, да слова, да мазка, да думкі творцы, хай бы то быў пісьменнік, мастак або рэжысёр. Я ніколі не дазволіў бы сабе ўмяшацца ў Ваша рэжысёрскае бачанне рэчы. Я мог бы толькі недзе ў сяброўскай бяседзе з Вамі, мастаком або актарам спытацца: «А як Вы думаеце, а можа, лепей было б ТАК?» І не болей. Такія адносіны, па-мойму, і павінны быць між людзьмі ў мастацтве і проста між людзьмі.

Я хачу, каб была пастаўлена МАЯ рэч. Без лабавога націску, без дурных вонкавых эфектаў. Думаю, што на гэтым полі ёсць дзе праявіць сябе і мне і Вам. Інакш не варта гарадзіць гарод.

І яшчэ адна, апошняя, мая парада. На мой погляд, і Чайкоўскаму і Тасканіні хопіць на гэтай зямлі славы, калі кожны з іх праявіць на сваёй ніве, у сваёй галіне агульнай сатворчасці самастойнасць і талент. І падмяняць друг друга яны не павінны.

З павагай да Вас *Уладзімір Караткевіч*».

У другі раз мне давялося паспытаць яшчэ большай крыўды. Мала таго, што і кароль і Папа Рымскі набывалі акрэсленыя тэкставыя характарыстыкі і цікава (як мне здавалася) пабудаваныя мізансцэны,— ім знайшлася ў тэатры гатовая вопратка. Але мяне не пакідаў грозны аўтар і яго рашучая постаць. Я паспрабаваў зрабіць яшчэ адзін заход.

Унутрана падрыхтаваўся да сур'ёзнай размовы і прыехаў у Мінск. Націскаю на кнопку званка... Адказалі не адразу. Уладзімір Сямёнавіч падышоў да дзвярэй і запытаў: «Хто?», а праз паўзу: «Папа і кароль засталіся?» «Засталіся»,— выціснуў я. Чую цяжкія крокі — і цішыня... Потым зноў крокі і зноў яго голас: «Валерый! Выкінь гэта! Я не хачу сварыцца з Ватыканам!» Я прамаўчаў, і зноў — крокі, і цяпер я зразумеў, што больш ён да дзвярэй не падыдзе.

Мяне апанаваў мярзотны настрой: і крыўда, і адчуванне сваёй непаўнацэннасці. І зусім мне не патрэбныя былі тыя кароль і Папа, хоць я і не ведаў, як вырашыць апошнюю сцэну, якая ўсё-ткі павісае. (Я дагэтуль упэўнены, што там трэба было нешта рабіць.) Хацеў яшчэ раз пазваніць, але ўспомніў яго «рост», і мне захацелася тут жа апынуцца ў Віцебску, каб ні хвіліны больш не затрымлівацца ў гэтым Мінску, дзе мяне так не зразумелі...

Пасля былі і рэпетыцыі, і здача спектакля. Юбілей горада, да якога рыхтавалася пастаноўка, прыспешваў нас, не даваў расслабляцца, хоць іншым разам вельмі хочацца зірнуць на створанае спакойна, без мітусні. Менавіта на апошнія прагоны я запрасіў Уладзіміра Сямёнавіча. Ён пасяліўся ў гасцініцы «Віцебск» і сказаў, што крыху адпачне, а потым, калі ўжо вельмі трэба будзе, падыдзе ў тэатр. На рэпетыцыю ён так і не прыйшоў, даўшы гэтым зразумець, што цяпер гэта не яго справа, а наша.

З'явіўся Караткевіч толькі на здачу спектакля. Дарэчы, быў даволі спакойны, не адчувалася таго «мандражу», які можна заўважыць у іншых драматургаў напярэдадні прэм'еры. А гэта ж быў яго дэбют на сцэне, мой — таксама! Толькі потым я зразумеў, што ён прыехаў не толькі п'есу сваю глядзець. Ён прыехаў у тысячагадовы Віцебск, і гэта было для яго галоўным. Яго бачылі і на беразе Дзвіны, і ля муроў разбуранай царквы XII стагоддзя, і ля касцёла Святой Варвары. Ён проста хадзіў па горадзе. Павольна, няспешна, затрымліваючыся там, дзе затрымлівалася яго душа. Усе нашы абеды, вячэры з ім былі насычаны Караткевічам, яго памяццю і ў той жа час выдумкай. Іншым разам здавалася, што ўсе яго расказы — неверагодныя фантазіі. Неяк сядзім у рэстаране, і ён, круцячы ў руках лыжку, кажа: «Да рэвалюцыі на ўсіх лыжках і відэльцах гэтага станцыйнага рэстарана было выгравіравана: «Украдзена на станцыі Віцебск»...

Другую п'есу, «Кастусь Каліноўскі», якая на самай справе доўга ляжала ў партфелях, мы прынялі пасля некалькіх захадаў: прасілі сёе-тое перарабіць, бо «кінематаграфічныя» адносіны аўтара да тэатра гэтага патрабавалі. Зноў пачулі аўтарскае «не!» і ў дадатак: «Рабіце што хочаце! Я табе давяраю!»

Караткевіч не перапісваў і не дапісваў свае п'есы. Наконт «Барыса Гадунова» ён сапраўды не жартаваў, у ім «сядзеў» драматург, але драма-

тург гэты, здавалася, драмаў. Вельмі шкада, што ён не дапрацоўваў свае творы. Думаю, што гэта магло б абудзіць у ім вялікую любоў да тэатра.

Апошняя наша сустрэча адбылася ў Сімферопалі, куды Караткевіч прыехаў да нас чытаць «Маці ўрагану». Тэатр быў на летніх гастролях. Спёка! Усе мы марылі штодзень бываць на моры, але заміналі рэпетыцыі, спектаклі,— адным словам, праца.

Прыляцелі Уладзімір Сямёнавіч з жонкай Валянцінай. Уладкаваўшы іх у гасцініцу, мы хацелі пасядзець, пагаварыць, ды і п'есу карцела глянуць. Гэта заўсёды так бывае: неадольнае жаданне прачытаць хоць бы старонку, і ў той жа час — страх. А што, калі не...

Ён быў, як заўсёды апошнім часам, стомлены і, што самае дзіўнае, не зацікаўлены прадметам далёкай вандроўкі. Ні слова аб п'есе. Размовы ўвогуле. П'есу на ноч я ўсё ж выпрасіў, бо не ўмею слухаць чытку на аўдыторыі, не магу поўнасцю ўключыцца. Ён, праўда, адмаўляўся, кажучы, што сам будзе чытаць на трупе, дык і не трэба псаваць уражання. Але п'есу даў. Я часта ўспамінаю той няшчасны вечар і, як заўсёды, доўгую п'есу Караткевіча. Недзе каля дзвюх гадзін ночы я зразумеў, што п'есы не ўспрымаю: мучу сябе, угаворваю, перачытваю па некалькі разоў старонкі. Сапсаваў сабе ноч, а назаўтра ж трэба нешта казаць самому Уладзіміру Сямёнавічу, шукаючы адпаведныя словы.

Раніцай сабраліся ўсе акцёры, дырэктар Асвяцінскі, мастак Салаўёў. Валодзя Ганчароў, убачыўшы мяне, адразу канстатаваў: «Што, не спадабалася?» Я ведаю, што ў мяне, як у бяздарнага акцёра, усё відаць па твары... Усё ж з надзеяй іду ў фае, спадзеючыся, што здолею інакш успрыняць п'есу, пачуўшы яе яшчэ раз. Учора быў цяжкі дзень: рэпетыцыі, спектакль, сустрэчы...

Чытае — слухаем. Сачу, як успрымаюць п'есу калегі. Недзе ў сярэдзіне першай дзеі пачалі варушыцца акцёры, паглядаюць на мяне. Імкнуся быць зацікаўленым. Не атрымліваецца! Караткевіч прыпыняецца і пытае: «Што, не цікава?» «Не, не, чытайце!» — чуюцца галасы. Яшчэ засталася нейкая надзея ці аўтарытэт аўтара стрымлівае? Але гэта ненадоўга. Чуюцца цяжкія ўздыханні... Правал?! Якое гэта цяжкае адчуванне! Аднак думка свідруе: «Чалавек чорт ведае адкуль ехаў, кінуўшы справы, лепш бы ўжо гэта дома адбылося». Добра яшчэ, што ён Валянціне не дазволіў прысутнічаць. Можа, прадчуваў? Праз нейкі час нават пачаў патроху ўшчуваць няўважлівых слухачоў. У такія хвіліны вельмі шкада аўтара. Артысты ж як дзеці. Супакояцца на хвіліну, а потым зноў працягваецца дыялог уздыханняў і пераглядак.

Закончыўшы чытанне, склаўшы старонкі сваёй п'есы, Караткевіч узняў галаву і ўсім сваім выглядам задаў пытанне: «Як?» Адказы ў такіх выпадках бываюць настолькі прымітыўныя і недарэчныя, што

раздражняюць неверагодна. Бачу, што аўтар нервуецца, пачынае злаваць. І тут жа ўсё спыняе! Ну, не падабаецца, дык не падабаецца!

Караткевіч ёсць Караткевіч, ён не хоча фальшывых кампліментаў. Адчуў, што кантакту не атрымалася, і сам усё спыніў. Цяжка ўзняць галаву, паглядзець у вочы, быццам сам я ва ўсім вінаваты. Чаму, чаму ніхто не ўспрымае матэрыял? Усе ж так чакалі! «Званы...» і «Кастусь...» атрымаліся! Ізноў з удзячнасцю ўспамінаю Караткевіча. Ён падыходзіць да мяне і кажа: «Ну што, Валерый, паедзем у Ялту, я вас рыбай пачастую!» «Якая Ялта, якая рыба, ды і дзе ён возьме яе?..»

Аднак выпраўляемся. Настрой пакрысе паляпшаецца — увагу прыцягваюць навакольныя краявіды і сам Караткевіч. Ізноў жарты, анекдоты, цікавыя гісторыі, былі і байкі, якіх у яго было многа. Пад'язджаючы да Ялты, Уладзімір Сямёнавіч засвяціўся ўвесь, узрадаваўся, хоць надвор'е нас сустрэла зусім не ялцінскае: вецер наляцеў і нават ці не на дождж збіралася. Найперш ён павёў нас на кірмаш. Ялцінскі кірмаш! Колькі ён напярэдадні расказваў пра яго, ды неяк не верылася. А тут і сапраўды! Адразу захацелася ці то піць, ці то есці, а можа, і ўсё разам?! Ён ішоў наперадзе, у гэты час яго трэба было бачыць, каб адчуць асаблівае натхненне, незвычайны настрой. Як ледакол сярод натоўпу, імкнуўся наперад, выглядаючы нешта ці некага. Адно мы ведалі — шукае рыбу! Праўда, ніякай рыбы не было. Было ўсё! А рыбы не было! Я недаўменна паціснуў плячыма і глянуў яму ў вочы. «Пачакайце мяне тут, а то нас многа!» — адказаў ён на маё маўклівае пытанне і знік.

Пахадзіўшы з паўгадзіны, сабраліся — яго няма. Раптам бачым, шпарка ідзе, заціскаючы пад пахай скрутак. Падышоў, сунуў яго нам і, як запраўскі дэтэктыў, паведаміў, што яму трэба назад, у яго — справы. Усё! Ён завёўся! Яшчэ ў мора, можа, паедзе. Я неяк ад яго чуў, што ён хадзіў тут з рыбакамі ў рыбу.

Страшэнна хацелася есці. Распальвалі апетыт пачастункі на прылаўках, а тут яшчэ ў дадатак — рыбны пах са скрутка. Мы ўзмаліліся, маўляў, хопіць і гэтага, трэба ісці падсілкавацца. Ён спачатку здзівіўся, і тут жа на яго твары з'явіўся здзеклівы выраз. Мы былі для яго «чорнай масай, якая толькі і хацела жэрці». «Я павінен схадзіць да аднаго чалавека. У яго з сабой больш няма. Ідзіце ў рэстаран, які вунь там, на набярэжнай, я зараз»,— адказаў ён на нашы ўгаворы і зноў знік. Усё гэта адбылося так хутка, што мы нават не сталі абмяркоўваць яго ўчынак, а пасунуліся ў напрамку набярэжнай. Вялікай чаргі ў рэстаране не было, мы хутка ўжо сядзелі і адпачывалі. Ногі ўсё ж набіць паспелі.

Чакалі яго досыць доўга. Выходзілі, глядзелі. Абед пакуль не заказвалі. Урэшце цярпенне скончылася, мы заказалі стравы на ўсіх, толькі яму прасілі пакуль не несці. І тут я ўбачыў (каторы раз выскачыўшы на вуліцу), як ідзе наш Уладзімір Сямёнавіч. «Вышагвае» сярод ялцінскага

карагоду з мехам на плячы. Ну, дальбог, мех — як з бульбай. Я ледзь стрымаўся, каб не рассмяяцца. Убег у рэстарацыю і паведаміў навіну. Выйшлі ўсе. Здзіўленню нашаму не было канца, ды толькі дзівіцца трэба было пацiху, што яшчэ больш гэтае здзіўленне «распаляла»... Рыбы мы атрымалі ўсе, і самай рознай: вялікай і малой, шырокай і вузкай, кароткай і доўгай... Ён стаяў такі па-дзіцячы шчаслівы, як быццам зрабіў нешта вельмі важнае і вельмі патрэбнае. Так, патрэбнае. І ў першую чаргу яму самому. Ён быў шчаслівы, калі радаваў іншых, няхай хоць чым-небудзь маленькім. Я зноў успомніў пра п'есу — не па сабе зрабілася.

Пасля мы хадзілі па Ялце, ён расказваў шмат цікавага. Пілі піва. Яму гэта было забаронена, але ўсё-такі ён яго піў... Потым мы ехалі дамоў, хоць які гэта быў дом... Седзячы з ім побач у тралейбусе, стаміўшыся ўшчэнт, я захацеў сапраўды дамоў, у Віцебск. Ці, яшчэ лепш, да бацькі ў Вялікі Стахаў. Я зноў думаў пра «Маці ўрагану».

Думаў і пасля. Думаю і цяпер...

*1987*

## Таццяна Мархель

# «Пусціце зоры ў мой пакой...»

Пра Караткевіча я пачула ў Віцебскім тэатры імя Я. Коласа, дзе тады працавала. З ім сябравалі нашы акцёры Галіна Бальчэўская і Алесь Лабанок. Яны расказвалі мне пра яго цудоўныя творы, і я адразу ўзялася чытаць кнігі пісьменніка. Прызнаюся шчыра, мне адкрыўся зусім новы свет. І ў тым, што маёй акцёрскай тэмай у далейшым стала народная гераіня нацыянальнага такога плана,— вельмі вялікі ўплыў спадчыны і асобы Уладзіміра Сямёнавіча. Я адчула сябе на сваім месцы: лёгка, спакойна, упэўнена. Заўсёды працавалася на пад'ёме.

Памятаю, узялі яго першую п'есу «Званы Віцебска», у якой адлюстраваны падзеі Віцебскага паўстання 1623 года. Рэжысёр Валерый Мазынскі, у ролі біскупа Іасафата Кунцэвіча — народны артыст Беларусі Уладзімір Куляшоў, Сцяпан Пасіёра — заслужаны артыст Беларусі Алесь Лабанок. Я іграла ў спектаклі «народ». Помню і цяпер, як хадзіла па сцэне ў сялянскім адзенні разам з іншымі акцёрамі, агульная атмасфера гарадской плошчы, паўстанне... Адчуванне змагарнага духу, народнага супрацьстаяння ўціску, жорсткасці. Дарэчы, мы ездзілі з гэтым спектаклем у Маскву, яго добра прынялі.

А потым у 1979 годзе — другая сустрэча ў нашым тэатры з Караткевічам-драматургам — яго трагедыя «Кастусь Каліноўскі»:

Вялікі мой народ, зямля мая.
Гняздо пакут, змагання і свабоды...

І я зноў іграла «народ», але гэта нельга назваць звычайнай масоўкай. У спектаклі было столькі напружанага дзеяння, так захапляў сюжэт, сама ідэя барацьбы за волю, што калі Уладзімір Куляшоў стаяў на пастаменце, ішла музыка і ён гаварыў перадсмяротны маналог Кастуся, я заўсёды слухала яго з заміраннем. Быццам я сама перажываю тое, што і Каліноўскі. І яшчэ адзін яго зварот да сваёй каханай настолькі працінаў мяне, што я не магла пра гэта забыцца. І часта чытала яго на сустрэчах з гледачамі (хоць гэта і мужчынскі маналог):

Пусціце зоры ў мой пакой шырокі!
Пусці ў пакой сузор'і, чалавек!
Нічога не палохайся, пад сонцам
Ёсць толькі ты і светлыя сузор'і.
Нічога, акрамя цябе і іх.
Каханне, зорка чыстая ў глыбінях...

Трэцяя п'еса Караткевіча — «Маці ўрагану» — пра Крычаўскае паўстанне ў нашым тэатры не ставілася, хаця і была такая спроба. А потым я прапанавала паглядзець гэты тэкст Юрыю Марухіну, прывезла яму з Віцебска, ён прачытаў і зняў мастацкі фільм «Маці ўрагану» ў 1990 годзе на кінастудыі «Беларусьфільм». Я іграла ў ім шынкарку Магду. Хаця, дарэчы, былі ў мяне пробы і на ролю галоўнай гераіні, але ў фільме яе сыграла маскоўская актрыса Палякова. А Магда — гэтая роля больш характарная, яна бліжэй да майго амплуа. Я была, вядома, маладзейшая, спрытнейшая, на конях, у мяне такая таратайка была!.. Здымаліся ў Смалявічах, на натурпляцоўцы. А Марухін жа — сам цудоўны апекатар. Ён так удала схопліваў патрэбны кадр, каб перадаць каларыт твора Караткевіча, дзе самае важнае — адчуванне нацыянальнай асновы, уласнай годнасці. Так, як Уладзімір Сямёнавіч мог пісаць пра гэта і любіць сваю зямлю,— мала каму дадзена...

Згадваецца яшчэ 50-годдзе пісьменніка ў Доме літаратара... Зала перапоўненая, і ён сам — сціплы, сарамлівы, нават разгублены. І, як заўсёды, казаў: «Хлопцы, харошыя мае, дзяўчаты, хлопцы...» А мы прывезлі яму з Віцебска віншаванне — паказвалі ўрыўкі са спектакляў і ў падарунак — сякеру. На сцэне спецыяльна прыбілі дошку, каб сякера не ўвайшла ў падлогу. І напрыканцы, калі народны артыст Беларусі Яўген Шыпіла прачытаў берасцяную грамату, адрасаваную юбіляру, усе сказалі: «Так ёсць!» — і сякеру ўваткнулі ў дошку-падлогу! Потым, за сталом, я спрабавала запець любімую песню пісьменніка «Ой, косю, мой косю...». Бо калі мы ехалі на юбілей, ішла гаворка, што я, магчыма, праспяваю. Я, канечне, чула яе раней, ведала. А тут Уладзімір Сямёнавіч кажа: «Не, вось трошкі не так». І запеў сам. Ну ўсё. Больш я ніколі не псавала гэту песню. Але вярталася да яе на здымках фільма «Маці ўрагану». Была такая задума рэжысёра, каб гэтая песня прагучала. Я некалькі разоў слухала запіс у выкананні Караткевіча (яго самога, на жаль, ужо не было), а я пазнаёмілася з сястрой Наталляй Сямёнаўнай, і яна давала

мне стужку. Я спрабавала вывучыць, магла нават злавіць інтанацыю, але штосьці ў мяне не йшло. Так, як рабіў гэта сам Караткевіч, у мяне не атрымлівалася. Таму гэту песню для фільма мы і не запісалі.

Безумоўна, вялікі дар нашай Беларусі, што тут нарадзіўся такі сын і столькі пакінуў нам. Ад сустрэч з ім засталося адчуванне адкрытасці і абсалютнай светласці. Хаця былі ў яго і цяжкія хвіліны, і балючыя, але мы заўсёды адчувалі святло яго душы. Мне здавалася, ён быў адкрыты для ўсяго свету: як да неба, лесу, зямлі, так і да людзей. Можа, таму і цяжка яму было, што не ўмеў нідзе затуліцца, душу сваю прыкрыць. А яна была такая сонечная...

Канечне, яго адсутнасць сёння вельмі адчуваецца ў нашым жыцці. Бо такія людзі, як Уладзімір Караткевіч, вядуць за сабой іншых. І ты ідзеш за імі і сам адчуваеш сябе мацнейшым. А пасля страты — неяк закрываешся, успамінаеш пра сустрэчы, працу над яго творамі і разумееш, які вялікі ўплыў гэта рабіла на тваё жыццё. Усё здавалася іншым. Так, як ён некалі казаў:

Нічога не палохайся. Пад сонцам
Ёсць толькі ты і светлыя сузор'і...

Цяжка так жыць, каб толькі думаць, што ёсць зоры, ты — на свеце...
Але ж яно — і сапраўды так. Астатняе — мітусня...

*2005*

## Міхаіл Пташук

# Чалавек вялікага смутку

*— Міхаіл Мікалаевіч, зразумела, вам даводзілася сутыкацца з Уладзімірам Караткевічам дзесяткі разоў, а якою была тая галоўная сустрэча, калі вы сказалі яму, што хочаце зняць фільм па ягоным рамане «Чорны замак Альшанскі»?*

— Я не толькі сказаў яму пра гэта, я і папрасіў яго напісаць кінасцэнарый. Ён пагадзіўся, запрасіў мяне да сябе на кватэру. Помню, калі я прыйшоў, Уладзімір Сямёнавіч раскладваў рукапісы і яшчэ шмат што па папках. Ён ужо тады хварэў, сказаў, што сам хоча ў сваёй творчай гаспадарцы навесці парадак. Атрымаўся вельмі сумны жарт. На стале ляжала карта Вялікага княства Літоўскага XIV стагоддзя. «Ты адкуль, Міша, родам? — запытаўся ён у мяне і, пачуўшы мой адказ, ажывіўся: —

З Федзюкоў?! З-пад Баранавічаў?! Зараз мы знойдзем твае Федзюкі на гэтай карце». Федзюкі мы не знайшлі, але там значылася вёска Дарава (Дараў), што ў некалькіх кіламетрах ад Федзюкоў, побач была і вёска Літва. «Праз гэтую заходнюю частку нашага краю праходзіў вялікі шлях Нясвіж — Дараў — Навагрудак,— сказаў Караткевіч.— Па ім праязджалі ўсе слынныя нашыя князі...»

Вось з гэтага і пачалася наша доўгая размова... Фільм заказала Цэнтральнае тэлебачанне ў Маскве. Было запланавана дзве серыі. Караткевіч жа сказаў, што «Чорны замак Альшанскі» яму бачыцца ў чатырох серыях, і вельмі настойваў на гэтым. Ён і напісаў чатыры серыі фільма, але, як вядома, усё-ткі давялося ставіць дзве серыі, тэлебачанне ўперлася... Караткевіч вельмі хацеў, каб фільм быў на беларускай мове, і надта прасіў мяне, каб не прыдумлялася ніякіх жахаў, было як мага больш гісторыі.

*— А дзе ж вы здымалі фільм? Які замак быў абраны для здымак?*

— На Беларусі, на жаль, мы не знайшлі такога месца, такога замка. І тут падказаў Караткевіч. Ён у свой час заканчваў Кіеўскі універсітэт, таму добра ведаў, што шмат замкаў засталося на Валыні, таксама пад Львовам, дзе мы і знайшлі тое, што шукалі. Большая частка фільма здымалася там, на Украіне.

*— Ну, а калі фільм быў адняты, як яго ўспрыняў Уладзімір Сямёнавіч?*

— У цэлым ухвальна, але вельмі шкадаваў, што некаторыя сцэны давялося вырэзваць, ад чаго месцамі фільм, на яго думку, глядзеўся не цэласным, а парваным. Вельмі натхнёна адчуваў сябе на прэм'еры фільма, якая адбывалася ў мінскім кінатэатры «Кіеў» (гэта ўжо быў апошні год жыцця Уладзіміра Сямёнавіча), сказаў, што ў гэтым ёсць нейкі знак, маладосць жа яго прайшла ў Кіеве... Тады, у 80-я гады, Караткевіча надзвычай любілі простыя, радавыя людзі, моладзь, і ўсю гэтую любоў яму выказала зала, як толькі ён падняўся на сцэну перад пачаткам фільма. Усе ўсталі, і доўга-доўга гучалі аглушальныя воплескі — любові, павагі і захаплення... А потым, пасля прэм'еры, я падвозіў яго дадому. У нейкі момант ён папрасіў спыніцца, і тую нашу надзвычай шчырую размову я запомніў на ўсё жыццё. У Караткевіча былі кепскія прадчуванні, яго ўсё часцей падводзіла здароўе, зразумела, што свой балючы адбітак на ім адклала страта жонкі Валі... Увогуле ж гаварылі пра Беларусь, ён настойліва пераконваў мяне, што трэба займацца толькі сваімі, роднымі вытокамі, што, толькі працуючы са сваім нацыянальным матэрыялам, творца на Беларусі можа зрабіць штосьці значнае. Гаварыў ён і пра сябе, пра тое, што вельмі часта людзі яму казалі адно, а рабілі зусім іншае, асабліва ў высокіх інстанцыях, што яго часта падманвалі... Быў ужо позні вечар, наўкол ішлі машыны, а мы гаварылі і гаварылі...

*— І якім жа застаўся ў вашай памяці Уладзімір Караткевіч? Калі б раптам вы задумалі здымаць фільм пра яго, які вобраз стварылі б?*

— Думаю, што вельмі самотны... Так, нібыта іранічны, здольны на востры трапны жарт, але за гэтым усім хаваўся чалавек вялікага смутку, вялікай тугі. Ён нейкім чынам выпадаў са свайго часу, быў выключна чужым і незразумелым для той эпохі, той сістэмы. Поўны душэўнага рамантызму, народжанага ў 1960-я гады, вельмі хутка эмігрыраваў сам у сябе, таму што пасля кароткай хрушчоўскай адлігі пачыналася драма часу... А ён апераджаў той час, адрываючыся ўсё вышэй і вышэй, і... застаўся параненай птушкай, якая павінна была ляцець на доўгую дыстанцыю і на вельмі вялікай вышыні. Вышыня засталася. Яна, адназначна, у слове — класік, любімы і непаўторны!

*2000* *Гутарыла Раіса Баравікова.*

## Валерый Рубінчык

# Геній — ён і ёсць геній

...Да гэтага часу дзіўлюся і да канца не разумею, як тады (цяпер ужо чвэрць стагоддзя таму) «Дзікае паляванне караля Стаха» выпала мне. Тут ёсць пэўны сакрэт, таямніца. Ставіць яго хацелі ўсе рэжысёры «Беларусьфільма». Вядома ж, тыя, хто прачытаў аповесць Уладзіміра Караткевіча на беларускай мове. Рускага перакладу яшчэ не было. У час працы над сцэнарыем я карыстаўся ўласным перакладам. Рускае выданне выйшла пазней, аформленае кадрамі з нашага фільма.

Калі я ўпершыню прачытаў «Дзікае паляванне караля Стаха» ў часопісе, быў проста ашаломлены. Аповесць бударажыла ўяўленне і быццам прасілася на экран. Помню, выдаваць яе і ўвогуле даваць ёй ход неяк не спяшаліся. Не тое каб яе забаранялі, не, але сяму-таму яна, відаць, здавалася занадта экстравагантнай ці, можа, надзвычай нязвыклай. Цудоўная рэцэнзія-эсэ пра наш фільм у тагачасным «Искусстве кино» так і называлася «Экспериментируя в области жанровых структур...». А пасля мне расказалі, што першапачаткова артыкул меў назву «Первый день двадцатого века» і яе чамусьці тэрмінова замянілі перад самым выхадам часопіса.

У тыя гады да сумнага часта ўжывалася слоўца «нельга». І пра тое пісаць нельга, і гэта ставіць — не дужа ўхвальна. А ўжо пра здані і прывіды — дакладна нельга. І, магчыма, не пабачылі б мы гэты фільм увогуле,

калі б не працаваў у Маскве, у Дзяржкіно СССР, «наш беларускі» Барыс Уладзіміравіч Паўлёнак, які быў некалі ў Мінску галоўным рэдактарам газеты «Знамя юности», пасля — старшынёю Дзяржкіно БССР. Здаецца, ён прачытаў «Дзікае паляванне...» раней за іншых. І, думаю, што менавіта Барыс Уладзіміравіч даў нам з Масквы «зялёную вуліцу».

Як вядома, кіно — «мастацтва мільёнаў». Але спрэчкі не сціхаюць дасюль: фільм — забаўка для публікі ці пасланне да чалавецтва? Таму, відаць, прафесія кінарэжысёра настолькі пакутлівая. Акрамя іншага, яна патрабуе мужнасці. Фільм — гэта ўчынак. Тое, што застанецца пасля цябе. Як і кніга. Незадоўга да вышэйзгаданых падзей мне пашчасціла зняць стужку «Вянок санетаў» (пра апошнія дні вайны). Нейкім цудам яе ўпадабалі і начальства, і крытыкі, і... даруйце за нясціпласць, я прачнуўся знакамітым. Мы атрымалі Гран-пры на Усесаюзным фестывалі, прэмію Ленінскага камсамола Беларусі, фільм без мяне ўдзельнічаў у конкурсе на фестывалі ў Лакарна і спецыяльнай праграме фестываля ў Канах, а са мной — у Венгрыі і Балгарыі.

...Карацей кажучы, крыху падакараўшы за наследаванне Феліні і строга папярэдзіўшы, каб падобнае не паўтаралася, Дзяржкіно дало згоду на «Дзікае паляванне караля Стаха» ў маёй пастаноўцы. На той час сама аповесць Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча была неверагодна папулярная ў Беларусі. Парадокс заключаўся ў тым, што менавіта гэта, як ні дзіўна, ускладняла працу над сцэнарнай адаптацыяй. У кожнага мелася сваё бачанне літаратурнай першакрыніцы — у чытачоў, чыноўнікаў, мастакоў, гісторыкаў, пісьменнікаў... Да таго ж — вечная праблема вісела над намі, як дамоклаў меч: мы будзем здымаць пацяшальнае кіно кшталту электроннай гульні «Хто каго дагоніць?» альбо, даруйце за высокі стыль, «Пасланне да чалавецтва»? Тым больш я заўсёды быў упэўнены, што сапраўдны фільм практычна нельга пераказаць, і падазрона ставіўся да экранных твораў, якія лёгка паддаюцца пераказу. Кіно — візуальнае мастацтва, у пэўным сэнсе — мастацтва фатаграфіі ў руху...

Узгадайце, пачынаеш чытаць аповесць Караткевіча — нельга адарвацца. «Глытаеш», як кажуць, за ноч. Але, заўважце, дастаткова крывавыя падзеі, апісаныя ў кнізе, не выклікаюць у нас агіды, не здаюцца натуралістычнымі. Перакананы, што ў самім творы, унутры, адмыслова схаваны якісьці еўрапейскі інтэлектуальны халадок, духоўная цярплівасць, таямніца індывідуума ў спалучэнні з сумным, нават меланхалічным роздумам пра свет і чалавецтва, які ўласцівы хіба што п'есам Чэхава ці, магчыма, раманам Хемінгуэя. Аднак усё гэта аўтар па-мастацку закрыў жалезнымі дзвярыма дэтэктыва. Мы паспрабавалі патрапіць за гэтыя дзверы, перанеслі дзеянне ў новую эпоху (у фінале — першы дзень XX стагоддзя), наўмысна адкідваючы некаторыя адкрыта дэтэктыўныя лініі. У аснове твора былі схаваны філасофская прытча і сацыяльная

драма, грамадзянскія матывы якіх перагукваліся з вечнымі тэмамі і праблемамі айчыннай рэальнасці. У падобных выпадках гістарычныя алюзіі непазбежны. І ў гэтым, галоўным, мы аказаліся аднадумцамі з аўтарам аповесці. Больш таго, менавіта гэта і радніла нас з Уладзімірам Сямёнавічам. У гэтым, калі хочаце, заключаўся наш кодэкс гонару.

Добра памятаю дзень, калі на студыі мы паказвалі Караткевічу ўвесь зняты матэрыял, па-мойму, яшчэ нават не зманціраваны. Хваляваўся я неймаверна, мае калегі — таксама. Прагляд цягнуўся некалькі гадзін. Выйшлі мы з залы бледныя, сур'ёзныя. Пастаялі ў калідоры. Я злёгку хаваўся за аператара Таццяну Логвінаву, мастака Сашу Чартовіча і гукааператара Віктара Морса. Памаўчалі. (Патрабавалася паўза.) Нечакана Уладзімір Сямёнавіч дастаў з кішэні 25 рублёў і сказаў: «Ну што, хлопцы, хто пойдзе па каньяк? Я, праўда, зараз не п'ю, але вы проста абавязаны выпіць». Мы ветліва аднекваліся, што ўрэшце «мы і самі можам», але ён настаяў на сваім.

Прынеслі каньяк. Мы зайшлі ў пакой здымачнай групы, зачыніліся і пагаварылі па душах. Уладзімір Сямёнавіч не выпіў ні кроплі, толькі дзяліўся сваімі ўражаннямі і адчуваннямі. Па шчырасці, размаўляў ён з намі ласкава, як з дзецьмі, дакладней — са старшакласнікамі. Аддаў належнае нашым каласальным намаганням, звышстараннасці і захопленасці матэрыялам. Як сапраўдны мастак і мысліцель ён добра разумеў і адчуваў душой складаную дыялектыку пераўтварэння літаратурнага твора ў экранны эквівалент. Бязмерна шануючы чужую працу, аналізуючы знятыя кадры, ён, не хаваючы выдатнага настрою, цярпліва падбіраў словы, нечым захапляўся, над чымсьці далікатна іранізаваў, згадваючы ўвогуле гісторыю кінематографа ў спасціжэнні сусветнай літаратуры.

Дык вось, заяўляю сумленна, з усёй адказнасцю — насуперак чуткам, не канфліктаваў з намі Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Хаця камусьці, напэўна, вельмі хацелася, каб наша супрацоўніцтва раздзіралі спрэчкі і супярэчнасці. Відаць, не толькі я адзін дзівіўся, чаму менавіта мне аддалі «Дзікае паляванне караля Стаха» на кінематаграфічнае «раздзіранне»... У мяне захаваўся экземпляр рэжысёрскага сцэнарыя з кароткімі нататкамі на палях, зробленымі рукой Уладзіміра Сямёнавіча. Цяпер я з любоўю і глыбокай пашанай перагортваю яго — о! — гэтыя клічнікі і пытальнікі, выведзеныя сіняй шарыкавай ручкай! Напрыклад, насупраць раскадраванага апісання пра тое, як мясцовыя арыстакраты разыходзяцца пасля балю з нагоды дня нараджэння Надзеі Яноўскай, рукою Уладзіміра Сямёнавіча пазначана: «Так яны і пойдуць табе пешшу! Ха!» (Мне хацелася, каб людзі ў цёмных вопратках ішлі з парасонамі праз смугу восеньскіх дрэў...) Яго заўвагі і творчыя просьбы былі надзвычай далікатныя і нават чуллівыя, ён, як ніхто, разумеў зыбкасць і суб'ектыўнасць мастацкага ўчынку. Згадзіцеся, у кожным сапраўдным

творцу, мастаку ў душы схавана дзіця, наіўнае і сарамлівае. Такім быў і Караткевіч. Так ён працаваў, так захапляўся, так насіў свой берэт і плашч...

Потым, калі ўжо фільм выйшаў і на нас нечакана-негадана літаральна абрынуліся ўзнагароды Міжнародных фестываляў (Гран-пры ў Бруселі, Гран-пры ў Італіі, спецыяльны прыз журы ў Манрэалі, прэміі ў Парыжы, дыпломы ў Трыесці, Лондане, Белградзе! — на жаль, я даведваўся пра гэта выпадкова, са свежых газет), дык вось, нас з Караткевічам і кампазітарам Яўгенам Аляксандравічам Глебавым запрасілі ў ВІЗРУ на сустрэчу са слухачамі. Нам дарылі кветкі, задавалі пытанні — усё як належыць, а пасля завялі ў сауну. Як я не здагадаўся тады ўзяць з сабою фотаапарат!.. Сядзелі мы ўтрох у сауне: Караткевіч, Глебаў і я, пілі халоднае піва, нават гарэлачку і закусвалі. Пра што могуць гаварыць у сауне тры мужыкі? Вядома ж, не пра мастацтва! А зусім пра іншае. Я звяртаўся да іх, называючы імя і імя па бацьку (язык не паварочваўся сказаць Караткевічу «Валодзя» або «Валодзька»). Потым мы вярнуліся дадому і на нейкі час нават забыліся пра нашу сустрэчу і цудоўную сяброўскую бяседу. Здавалася, усё яшчэ наперадзе. І «Дзікае паляванне...» — гэта толькі пралог да нашага жыцця, прадмова. Маўляў, цяпер усё і пачнецца: кнігі, сімфоніі, фільмы — і гэтак да бясконцасці. Сазваніліся няхутка. Справы, жыццё, будні. Прызнаюся, тады, у сауне, я нават крыху саромеўся і Глебава, і Караткевіча — яны вялікія людзі, а я хто? Здаецца, менавіта ў той дзень Караткевіч напісаў на мяне эпіграму, якую і прачытаў нам у сауне:

Рубінчык — гэта галава,
Дазвольце мне сказаць аб гэтым,—
Ён захаваў у «Магіле льва»
І сатварыў «Вянок санетаў»!

«Асаблівасцю гэтага чатырохрадкоўя з'яўляецца тое, што яно лёгка і хутка перакладаецца на рускую мову»,— урачыста абвясціў Караткевіч і тут жа прачытаў яго па-руску. Варта адзначыць, што ў гэтай кароткай эпіграме сэнсавыя акцэнты былі расстаўлены вельмі тонка і дакладна: і што я «схараніў», і што я «сатварыў»...



Канечне, я тады і не здагадваўся, што наш фільм стане ў маім жыцці не самым галоўным, асноватворным, увойдзе ў розныя энцыклапедыі. Да гэтага часу, калі называюць маё прозвішча, адразу кажуць: «О, гэта ж «Дзікае паляванне караля Стаха!» Аднойчы на тэатральным фестывалі я паглядзеў цудоўны спектакль і за кулісамі зачаравана сказаў незнаёмаму рэжысёру: «Госпадзі, адкуль жа вы ўзяліся?» «А адкуль узялося "Дзікае паляванне караля Стаха"?» — нечакана пачуў я ў адказ.

...Аднойчы іду восеньскім днём праз сквер ля тэатра Янкі Купалы. Бачу, на лаўцы сядзіць у адзіноце Караткевіч, у плашчы, берэтцы,

курыць (ну дакладна, як на сённяшнім праекце помніка Булгакаву — тая ж поза і настрой). Угледзеў мяне, шчыра ўзрадаваўся: «Хочаце выпіць? У мяне якраз жонка паехала. Пойдзем да мяне». Я чамусьці зніякавеў, прыродная сарамлівасць і тут перамагла. Спаслаўшыся на моцную занятасць і выбачаючыся, я паспяшаў да тралейбуснага прыпынку. Сярэдзіна працоўнага дня, мінорныя думкі не давалі спакою, да таго ж я быў упэўнены, што мы яшчэ тысячу разоў сустрэнемся з Караткевічам.

Не. Больш не сустрэліся.

Ён быў самабытным, арыгінальным чалавекам, ні на кога не падобным ні знешне, ні па сутнасці. Як гэта ні дзіўна, у мяне склалася ўражанне, што свой знешні выгляд ён спрабаваў абмаляваць у псіхафізіцы і знешнасці персанажа «Дзікага палявання...» — упраўляючага маёнткам Ігнася Бермана-Гацэвіча, таемна закаханага ў гаспадыню. Калі я шукаў выканаўцу гэтай ролі, мне падалося, што артыст Альберт Філозаў вельмі аддалена нагадвае аўтара. Мне і зараз так здаецца.

На мой погляд, значэнне Караткевіча шырэй і вышэй яго пісьменніцкага прадвызначэння, рэальнага лёсу, працы і таму падобнай дзейнасці. У тыя, «нашы», часы ён быў, так бы мовіць, сімвалам чалавечай, творчай і ўвогуле мастацкай свабоды, увасабляў сабой натуральную, арганічную цягу беларускай культуры да еўрапейскіх, сусветных мастацкіх плыняў і тэндэнцый. Як гэта ні пафасна гучыць, але праўда ў тым, што сваёй мастацкай дзейнасцю, сваімі здзяйсненнямі ён дарыў надзею тым, хто прысвяціў ці збіраўся прысвяціць сябе мастацтву. У гэтым сэнсе яго ўплыў велізарны — і асабліва на моладзь! Караткевіч, напэўна, і не здагадваўся, што сам з'яўляўся прыкладам таго, як, здавалася б, неверагодна дзёрзкія мастацкія мары паддаваліся ажыццяўленню і ў тыя застойныя часы.

...Сэнс яго стваральных намаганняў, яго звышзадача, яго творчы маршрут, які, на вялікі жаль, занадта рана абарваўся,— такога маштабу, што я залічыў бы Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча да культавых дзеячаў мастацтва. На пэўным этапе нашай гісторыі ён быў уладаром дум, гэта праўда. Людзі, якія жылі ў Беларусі, звярталіся да яго кніг не дзеля таго, каб заняць час ці пазабавіцца, а з мэтаю знайсці адказы на філасофскія праблемы быцця.



Магчыма, самае важнае ў тым, што вобраз Беларусі, створаны Караткевічам, прынцыпова адрозніваецца ад таго, што існаваў да яго ў мастацтве і літаратуры. Замест апісанай пакаленнямі беларускіх пісьменнікаў Беларусі лапцюжнай, убогай, непрыгляднай Караткевіч упершыню паказаў вобраз Беларусі як еўрапейскай цывілізаванай дзяржавы. Архітэктура, жыхары, іх культура, традыцыі — усё выглядала ў яго творах інакш. Ён расказаў пра краіну, дзе існуюць не толькі вясковыя казкі, але і вялікая культурная спадчына, што ашчадна захоўваецца пакаленнямі,

дзе прысутнічае пошук спрадвечных ісцін, тых высокіх матэрый, пра якія любяць разважаць героі Караткевіча. Ён прапанаваў новы воблік беларуса — чалавека інтэлектуальнага, высокіх думак, шырокіх поглядаў, сусветнай культуры і адукаванасці, і таму — сапраўднага інтэрнацыяналіста. Усё гэта, магчыма, у нейкай ступені нам і ўдалося перадаць у фільме «Дзікае паляванне караля Стаха». Аднойчы, пасля прагляду нашай карціны, да мяне падышоў эстонскі кінарэжысёр Гунар Піесіс. «Я цяпер зразумеў, што такое Беларусь»,— сказаў ён захоплена. Раней у яго ўяўленні Беларусь была ўсё адно што суседняя вёска з худою кабылкай. А, аказваецца, гэта еўрапейская краіна.

...Дарэчы, не варта надта засмучацца, што Караткевіча на сённяшні дзень, магчыма, і не дужа добра ведаюць у іншых краінах. Ад гэтага мастацкая вартасць яго твораў, іх глыбокі нацыянальны, а значыць, і ўсеагульны сэнс, нікольні не змяншацца. На жаль, такая доля многіх выдатных аўтараў, мастакоў, майстроў. Ды і ўвогуле папулярнасць у мастацтве — гэта вельмі сур'ёзная праблема, якая існавала яшчэ ў часы Льва Талстога, а калі разабрацца — і значна раней. І ў даўнія часы публіка больш ахвотна чытала кніжкі легкадумныя і легкаважныя. У кінематографе гэта праблема заўсёды была асабліва балючай. З сапраўдным мастацтвам традыцыйна суседнічае масавая культура, якая і забірае асноўную ўвагу публікі. А калі ў творы закранаюцца кан'юнктурныя матывы, гэта непазбежна звяртае на сябе ўвагу абываценя. Але ў Караткевіча кан'юнктурныя тэмы, дзякуй Богу, адсутнічаюць. У яго аповесцях, раманах, апавяданнях — тое, з чаго пачынаецца сапраўднае мастацтва: непрыдуманы боль і глыбокі сэнс, па-майстэрску прыхаваныя сюжэтнай інтрыгай, якую, дарэчы, некаторыя чытачы і прымаюць за стрыжнявую сутнасць твора, хаця іх мастацкі кантэкст, прастора думкі бязмежныя. Прыгоды, іронія, рамантыка... Караткевіч жа не быў рамантыкам у чыстым выглядзе. Ён і ў жыцці мог падацца каму-небудзь легкадумным, хаця на самой справе быў сур'ёзным, глыбокім чалавекам і сур'ёзным, глыбокім пісьменнікам. І зноў згадаем А. П. Чэхава: «Толькі тое цудоўна, што сур'ёзна!..»

Я ўжо казаў, што пры стварэнні кінасцэнарыя «Дзікага палявання...» многія дэтэктыўныя хады не знайшлі там сабе месца. Помню першы варыянт рэжысёрскага сцэнарыя, дзе фактычна была захавана толькі філасофская фабула сацыяльнай драмы. У працу пайшоў іншы варыянт, больш збалансаваны. У Караткевіча ёсць два апавяданні, якія, на мой погляд, можна аднесці да геніяльных. Гэта «Кніганошы» і «Паром на хуткай рацэ». Два шэдэўры, дзе вастрыня сэнсу прарастае і спалучаецца з энергічным відочным дзеяннем, віртуозна прамаляваным. Тут і праяўляецца пазіцыя аўтара — грамадзяніна, інтэлектуала, гуманітарыя. Рамантызм Караткевіча асаблівы, ён з таемнымі знакамі, з патайным

сэнсам, што вядзе ў рэчышча іншаказання, як мудрагелістая крыптаграма, якую варта разгадаць...

Неяк на абмеркаванні пасля прагляду нашай карціны адзін з гледачоў раптам спытаўся: «Уладзімір Сямёнавіч, у вашых творах — зашмат прыгод, пагоняў, дуэляў, нават бітваў... Вы так успрымаеце рэальнае жыццё?» Караткевіч крыху скасавурыўся на мяне (я сядзеў побач) і адказаў, што не, так рэальнае жыццё ён не ўспрымае. Настырны глядач-чытач працягваў выпытваць: «Тады чаму вы пішаце пра гэта?» Караткевіч падміргнуў мне, усміхнуўся і сказаў, звяртаючыся да залы: «А вы ведаеце, я трохі прыдурваюся...» У адказ пачуліся рогат і апладысменты. Жартоўны адказ аўтара сведчыў пра тое ж: глыбінны сэнс яго твораў схаваны пад знешняй займальнасцю. Магчыма, яшчэ і таму настолькі складаны пераклад Караткевіча на мову іншага мастацтва — бо спярша ў вочы кідаецца знешняя канва яго твораў. І цяжка разглядзець сапраўдны сэнс, заключаны ў музыцы слова, цалкам, здавалася б, сучаснай, пазбаўленай якой-небудзь стылізацыі. Побач з нашай карцінай (не палічыце за нясціпласць) хацеў бы абавязкова згадаць стужку «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» рэжысёра Уладзіміра Бычкова, дзе таксама прысутнічаюць пошукі патаемнага сэнсу, выкшталцонай арабескі, якую трэба разгадаць, элементаў іншаказання (за што ў свой час карціна і была па-варварску пакрамсана цэнзарамі).

...Чэхаў неяк сказаў, што самы цяжкі іспыт для чалавека — гэта будні. Раніца, вечар, ноч... што рабіць? як жыць далей? — і чалавек не можа заснуць. Так яно і ёсць. Напэўна, Караткевічу не хацелася быць ізгоем, так бы мовіць, белай варонай... Хаця, паўтаруся, чалавекам ён быў цалкам «асобным», самабытным, «дзіўным», ні на кога не падобным — і па знешнім выглядзе, і ў сваіх выказваннях, і на старонках сваіх кніг. Я думаю, што ў яго, як ва ўсіх нас, у той, «не такі ўжо і далёкі час», усё-такі было натуральнае імкненне, нягледзячы ні на што, не застацца на абочыне, не быць ізаляваным ад культурнага працэсу.

Некаторыя творы Караткевіча можна было б назваць гістарычнымі «містыфікацыямі», укладаючы ў гэта слова сэнс стваральны, лабараторны. Ён жа бліскуча ведаў гісторыю, быў дасведчаны ў матэрыяльнай культуры фенаменальна і мог расказаць любую праўдападобную легенду з жыцця народа. У Караткевіча, бясспрэчна, ёсць свой этычны кодэкс, які змяшчае ў сабе элемент цудоўнай наіўнасці, дабрадушнасці, нават павучання.

Ён быў сапраўдным інтэлектуалам і гуманістам. Яго пазіцыя — чалавечая, мастацкая, грамадзянская — будзе запатрабавана і ў новую эпоху. Я і зараз думаю, што яго літаратурныя тварэнні ў сукупнасці — гэта ланцужок сноў-бачанняў, сэнс якіх быццам бы па-мастацку зашыфраваны. Напрыклад, там гучыць пранізлівая чэхаўская нота чалавечай адзіноты.

Каханне, туга па сапраўдным пачуцці, пошукі сэнсу жыцця, маральных норм быцця... Мы думаем пра гэта заўсёды, на працягу ўсяго жыцця, і гэта не проста асабістыя тэмы. Яны вечныя і будуць цікавіць новыя пакаленні. Я, напрыклад, лічу, што і нечаканы міжнародны поспех нашага фільма ў большай ступені звязаны з Караткевічам, яго светаадчуваннем. Трэба было толькі адшукаць тое, што закладзена ў яго творы. Наша карціна сілкуецца жыватворнымі сокамі літаратурнай першакрыніцы і, як спадарожнік, свеціць яго адлюстраваным святлом.

Эпіграфам да фільма можна паставіць словы А. П. Чэхава: «Усё жыццё я па кроплі выціскваў з сябе раба». Гэта ўнутраная тэма фільма, яго компас. Галоўны герой, выпадкова трапіўшы ў закінуты старадаўні маёнтак, выяўляе свет, у якім страх перад заўтрашнім днём, перад уласным ценем, перад уласнай гісторыяй ператварыўся ў будні жыцця, а жах і кашмар сталіся звыклай формай існавання. Тут уладарыць варварства ў асобе так званага «дзікага палявання караля Стаха», а прасцей кажучы — палявання на людзей.

Наш фільм — філасофская прытча пра барацьбу гуманістычнага светапогляду з варварствам духу. На жаль, маральнае, духоўнае спусташэнне з'яўляецца праблемай не толькі мінулых эпох. І няхай аповесць па сваіх асаблівасцях больш нагадвае цікавы па сваёй традыцыі еўрапейскі гатычны раман, яна застаецца для нас трывожным і трывожачым акордам: «...што, аднак, атрымліваецца: не толькі ў іх можа быць страшна жыць ( у Лондане ці яшчэ якім месцы), але і ў нас, чорт пабірай...»

Цікавая дэталь — пасля выхаду фільма ў газеце «Правда» адзін вядомы кінакрытык назваў чамусьці Караткевіча «польскім пісьменнікам». Помню, Уладзімір Сямёнавіч пакрыўдзіўся, і кінакрытыку давялося прасіць прабачэння пісьмова і па тэлефоне.

...У памяці застаўся цудоўны празрысты дзень. Мінск, сярэдзіна лета, сляпы дождж. Яшчэ ўсе жывыя і ніхто нікуды не з'ехаў. Мы ідзём па праспекце, па нашым любімым «бродзе», і Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч расказвае нам, што напісаў «Дзікае паляванне...» на гарышчы вясковай хаты, калі яму было дзевятнаццаць гадоў... Не ведаю, як хто, а я яму адразу паверыў. Што тут скажаш? Геній — ён і ёсць геній.

*2005*

Віктар Скорабагатаў

# Андрэй Беларэцкі ды іншыя...

**Некаторыя фрагменты гісторыі стварэння оперы Уладзіміра Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха»**

Ідэя стварыць і ажыццявіць пастаноўку оперы «Дзікае паляванне караля Стаха» ў мяне сфармулявалася прыкладна ў 1985 годзе. Года паўтара насіў гэтую ідэю ў сабе. Аднойчы прапанаваў падумаць над сюжэтам Уладзіміру Солтану. Ён адрэагаваў жыва:

— Ведаеш, а я і сам думаю пра «Стаха». Аднак збіраўся пісаць не оперу, а штосьці для сімфанічнага аркестра. Можа, сімфанічную паэму.

— Ужо і ёсць што-небудзь?

— Ёсць. Хадзем, пакажу.

Зайшлі ў клас музычнага ліцэя пры кансерваторыі (там былі класы на шостым паверсе, якія належалі кансерваторыі). Валодзя сеў за раяль і сыграў два фрагменты ўжо напісанай музыкі. Дарэчы, яны потым увайшлі ў партытуру «Дзікага палявання...». Гэта сімфанічная карціна «Паляванне» і знакаміты цяпер «Вальс» з першай карціны оперы. Мне абодва нумары вельмі спадабаліся. Тут жа ў класе «селі ў радок» і пачалі думаць пра наступныя крокі: які голас якога героя павінен спяваць, які ланцуг падзей у спектаклі будзе і г. д. Урэшце прыйшлі да высновы, што трэба вызначацца з лібрэтыстам. Зрэшты, я ўжо меў на ўвазе звярнуцца да Святланы Міхайлаўны Клімковіч. Прыйшоў на працу да яе ў Тэатральнае таварыства. Выклаў сутнасць ідэі. Спачатку яна адмовілася, прычым досыць катэгарычна:

— Не, не буду пісаць. «Францыска Скарыну» Дзмітрыя Смольскага тэатр адмовіўся ставіць, дык болей і я пісаць для тэатра не буду.

— Святлана Міхайлаўна,— кажу,— пакіньце свае скаргі. Вы ж былі сяброўкай Караткевіча, добра ведаеце яго творчасць. Можа, чым і дзяліўся, што не ўвасобілася ў «Дзікім паляванні...».

Знайшоў яшчэ адзін аргумент:

— Уявіце, што Яноўскую будзе спяваць Наташа Кастэнка. Я як чытаю аповесць, дык увесь час думаю, што Караткевіч нібыта з яе пісаў Яноўскую.

Бачу, вочы ў Святланы Міхайлаўны загарэліся. Пытаецца:

— Якога кірунку прытрымліваецца Солтан — рамантычнага ці авангарднага? Мелодыі там будуць ці не?

— Ён прыхільнік рамантычнай, меладыйнай плыні.

— Пазнаёмце мяне з ім.

Патэлефанаваў Валодзю. Дамовіліся сустрэцца ў Саюзе кампазітараў. Яны доўга прыглядаліся адно да аднаго. Пакурылі, пра надвор'е паразважалі... З таго дня пачалі збірацца штодня, штосьці абмяркоўвалі. Вядома, першае і галоўнае пытанне — з чаго пачаць? Відавочна, трэба мець першаштуршок. Напрыклад, як растлумачыць гледачу, што, уласна кажучы, адбываецца?

Святлана Міхайлаўна прапанавала напісаць нейкі нумар, дзе сёе-тое было б патлумачана. Пазней гэта «нешта» стала баладай Дубатоўка. У ёй апавядалася пра папярэднія падзеі. З гэтага аповеду становіцца ясна, чаму пужаецца ўсіх і ўся Надзея Яноўская.

Калі ўжо былі створаны тры нумары («Паляванне», «Вальс», «Балада Дубатоўка»), мы падумалі, што трэба займець у якасці «павадыра» асобу больш спрактыкаваную ў жанры оперы. Звярнуліся да дырыжора Яраслава Антонавіча Вашчака. Валодзя прайграў урыўкі, што ўжо былі напісаны. Яраслаў Антонавіч уважліва слухаў. Было відаць, што яго музыка кранула і, дзякуй Богу, спадабалася.

— Так, шаноўныя. Я павінен яшчэ раз перачытаць Караткевіча. Прыйдзіце да мяне дні праз тры-чатыры.

Прайшлі тры дні. Стэлефанаваліся. Зноў сабраліся ў яго кватэры.

Яраслаў Антонавіч кажа:

— Тое, што я пачуў мінулым разам, вельмі стасуецца з вобразамі аповесці Караткевіча. Я згодны пачаць гэтую працу. Але лічу неабходным вызначыцца цяпер жа з рэжысёрам і мастаком.

— Што тычыцца мастака, дык што тут думаць,— кажу,— лепей за Эрнста Гейдэбрэхта ва ўсім Савецкім Саюзе наўрад ці знойдзем. А ён жа ў нас і працуе!

Эрнст — чалавек тэмпераментны, надзвычай выразна аздабляе сцэнічную прастору. У яго спектаклях яна нібы дыхае, уздзейнічае на гледачоў і сама па сабе. Калі да яго звярнуліся (ужо чацвёра!), той адказаў амаль як і Яраслаў Антонавіч:

— Спачатку трэба пачытаць Караткевіча.

Літаральна праз некалькі дзён паклікаў Валодзю Солтана, уважліва паслухаў музыку і адразу стаў апантаным прыхільнікам стварэння оперы і спектакля. Месяцы праз тры-чатыры прадставіў першыя варыянты эскізаў дэкарацый, у якіх ужо праглядала тая ідэя, якую ў спектаклі ён рэалізаваў цалкам і, я лічу, бліскуча. Паказваў эскізы і тлумачыў, чаму гэта так, а гэта так. Мы ўсе былі ўражаны яго цікавай вобразнай ідэяй. Яраслаў Антонавіч прапанаваў Гейдэбрэхту стварыць макет першай дзеі (на той момант яна была ўжо амаль цалкам напісана).

Што тычыцца рэжысёра, дык у 1987 годзе з тэатра музычнай камедыі ў наш тэатр быў пераведзены на пасаду галоўнага рэжысёра

Вячаслаў Цюпа. Яго лічылі чалавекам таленавітым, асабліва пасля нашумеўшага спектакля «Клоп» (паводле У. Маякоўскага). Святлана Міхайлаўна далучыла яго да нашай справы. Такім чынам стварылася пастаноўчая група будучага спектакля. Цяпер трэба было вызначыцца па персанажах (якія пакінуць для оперы?) і будучых выканаўцах.

Валодзя пісаў сваіх герояў так, як калісьці гэта рабілі Моцарт, Вердзі. Пісаў на канкрэтных выканаўцаў. Доўга мы не вагаліся. Успамінаецца — хвілін за пятнаццаць вызначыўся склад выканаўцаў: Яноўская — Наталля Кастэнка і Тамара Глаголева, Дубатоўк — Уладзімір Экнадыёсаў і Аляксандр Кеда, Беларэцкі — Віктар Скорабагатаў і Юрый Бастрыкаў, Свеціловіч — Іван Шупеніч, Берман — Віктар Стральчэня і Уладзімір Каўрус, Варона — Уладзімір Генералаў і Марк Гулегін, Рыгор — Яраслаў Пятроў, Шляхцічы — Віктар Смыкалаў і Міхаіл Дружына.

У чэрвені 1987 года мастацкаму савету тэатра быў прадстаўлены на разгляд шэраг ўжо напісаных фрагментаў. Савет працу ўхваліў. Міністэрства ажыццявіла заказ на стварэнне оперы.

Опера ж пісалася так. Солтан прыходзіў да Яраслава Антонавіча як студэнт да прафесара. Той вызначаў задачы, яны іх абмяркоўвалі, потым Валодзя пісаў чарговы фрагмент. Меней чым праз год опера была гатовая.

Аднойчы я і Валодзя сустрэліся ў калідоры тэатра. Валодзя, бачу, чымсьці расстроены. Пытаюся, што здарылася.

У адказ чую:

— Я ў роспачы. Яраслаў Антонавіч кажа, што рэчытатыў Беларэцкага і Дубатоўка («Пан Дубатоўк, мне гаварылі...») павінен гучаць пасля вальса. І не проста «пасля вальса», а на парэштках разбуранага вальса. Карацей, трэба руйнаваць вальс, а я не зусім сабе ўяўляю, як тое зрабіць.

Я параіў выдаліць з фактуры акампанемента першую долю, пакінуць толькі другую і трэцюю; мелодыю вальса выдаліць, кантрапункт пакінуць; на гэтым фоне напісаць рэчытатыў. Валодзя так і зрабіў.

Оперы, што пісаліся ў савецкі час, не маглі абысціся без такой дзейнай асобы, як народ. Таму, калі Солтан пісаў сцэну «На балоце», для гэтай сцэны я наспяваў яму беларускую народную песню (з Палесся) «Жыў я, быў я, браццы, ў багатыра». Валодзю яна спадабалася, ён увёў яе ў оперу — там яна ператварылася ў «Песню Рыгора»[1].

Па сутнасці, спектакль быў гатовы ўжо ў лютым 1989 года, але прэм’ера адбылася толькі ў красавіку. У лютым мы паказалі ў Клубе

[1] Маленькае ўдакладненне. Аўтарства ў оперы належыць Солтану і Клімковіч. Кожны з падобных эпізодаў — ілюстрацыя, якая паказвае стаўленне тэатра да таленавітых людзей. Бо ў нашым выпадку праца адбывалася ў тэатры і для тэатра. Опера чакалася ўсім калектывам, як чакаюць у сям’і доўгачаканае дзіця.

сяброў оперы шмат урыўкаў з «Дзікага палявання...». На жаль, не мог прысутнічаць на гэтым паседжанні Яраслаў Антонавіч Вашчак. Ён тады ўжо амаль увесь час ляжаў у анкалагічнай клініцы ў Бараўлянах. Ён ведаў, што памірае, аднак, калі на «хуткай дапамозе» прыязжаў на спеўкі ці карэктуры аркестра, паводзіў сябе як звычайна — тэмпераментна, патрабавальна і мудра, спуску не даваў ні сабе, ні нам. Часта, праўда, дарэмна, бо ўсе ж ведалі, што ён пачуваецца кепска. Дык усім і хацелася сваю працу паказаць яму ў як мага лепшым выглядзе. Вашчак вельмі хацеў правесці прэм'еру сам. Яго жонка потым казала, што праца над операй трымала яго на гэтым свеце мацней за лекі. Месяц не дажыў да прэм'еры Яраслаў Антонавіч...

Трэба было знайсці дырыжора, які б увайшоў у спектакль і паводзіў сябе ў ім не як «слон ў посудавай лаўцы». Ім стаў Аляксандр Міхайлавіч Анісімаў. Тады ён працаваў галоўным дырыжорам у пермскім тэатры. (А да Пермі, між іншым, у нашым.)

Да Анісімава звярнуліся з міністэрства культуры. Ён пагадзіўся. Да яго з'ездзілі Уладзімір Солтан і канцэртмайстар тэатра Георгій Карант. Анісімаву опера спадабалася. Ён хутка ўвайшоў у «курс справы». Прыехаў у Мінск і літаральна за два тыдні завяршыў падрыхтоўку прэм'еры оперы.

Прэм'ера мела выбухова-аглушальны поспех. Мастацкі вынік быў выдатным. Аднак такога пераможнага поспеху нават тэатралы не чакалі. У чэрвені 1990 года спектакль быў паказаны ў Вялікім тэатры ў Маскве. Планаваўся адзін паказ. Зноў поспех, і зноў вялікі. Кіраўніцтва Вялікага тэатра прапанавала нам паказаць «Дзікае паляванне караля Стаха» яшчэ раз на наступны дзень! Выпадак унікальны для практыкі Вялікага тэатра.

1990 год — рамантычны час! Мы нават давалі гэты спектакль у Траецкім прадмесці пад адкрытым небам. Да ўдзелу ў спектаклі былі запрошаны выхаванцы конна-спартыўнай школы. Сімфанічная карціна «Паляванне», «авідочаная» сапраўдным конным атрадам, вельмі ўражвала.

Спектакль вылучылі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі за 1990 год. 1 студзеня 1991 года мы даведаліся з газет, што сталі лаўрэатамі гэтай прэстыжнай прэміі. Атрымалі прэмію восем чалавек: Солтан, Вашчак (пасмяротна), Анісімаў, Гейдэбрэхт, Цюпа, Кастэнка, Скарабагатаў, Экнадыёсаў.



Думаю, што ад з'яўлення ў 1752 годзе опернага жанру ў Беларусі і па сёння не было больш шчаслівага лёсу ні ў адной з іншых беларускіх опер. «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Солтана з красавіка 1989 года не сыходзіць з афішы Нацыянальнай оперы Беларусі.

Што можна яшчэ дадаць? Напрыклад, вызначэнне жанру. Не ведаю, як у свеце, а ў Беларусі дакладна: «Дзікае паляванне караля Стаха» — першы

оперны трылер. Ва ўсякім разе гэтаму азначэнню адпавядае I дзея оперы. Я доўгі час не мог спакойна слухаць эпізоды «Палявання», хоць і ведаю там кожную ноту на памяць. Аркестравае гучанне надзвычай выразнае.

У міністэрстве культуры быў намер ажыццявіць абмен спектаклямі (дэкарацыі, касцюмы, нотны матэрыял) з якім-небудзь польскім тэатрам. «Дзікае паляванне...» паехала б у Польшчу на сезон-два. А сюды прыехаў бы на той жа тэрмін які-небудзь спектакль Станіслава Манюшкі: «Страшны двор» ці «Парыя». Чамусьці гэта не здзейснілася.

Цяпер бачна, што можна было б трошкі змяніць акцэнты ў оперы, паправіць развіццё сюжэта. Спадзяюся, калі адбудзецца новая пастаноўка, штосьці прыўнесена будзе новае. А ў нашым выканальніцкім складзе хай будзе так, як ёсць.

Мой герой — Андрэй Беларэцкі. Ён прысутнічае на сцэне ад пачатку і да канца спектакля. Маленькае выключэнне — літаральна двуххвілінны эпізод на пачатку апошняй карціны оперы. Увесь астатні час Беларэцкі на сцэне. Але складаецца ўражанне, што ён прысутнічае там, дзе яго... няма. Чаму я так думаю? Паводле Караткевіча між Яноўскай і Беларэцкім узнікае каханне. У оперы — лёгкі цень, намёк, і ўсё. Паводле Караткевіча Беларэцкі спрабуе ўратаваць Свеціловіча ад смерці. У оперы Беларэцкі нічога не робіць для гэтага. У аповесці дуэль паміж Варонам і Беларэцкім адбываецца. У оперы — не. Карацей, Беларэцкі прысутнічае, але не з'яўляецца ўдзельнікам падзей. Гэта дало мне падставу пабудаваць ролю на тым, што я (Беларэцкі) усё гэта як быццам прыдумаў. Інакш кажучы, Беларэцкі — аўтар, які пагружае сябе ў прыдуманы свет і робіць сябе сведкам гэтых падзей.

У канцы спектакля, калі Дубатоўк выхваляецца перад Беларэцкім сваімі злачынствамі і хоча яго забіць, той у сваіх думках «топіць» у багне «паляванне Дубатоўка».

Апошняя мізансцэна. Беларэцкі займае месца паміж герояў сваёй фантазіі (своеасаблівы музей васковых фігур) як роўны персанаж.

Для большай нагляднасці такой інтэрпрэтацыі ролі я хацеў яе іграць апранутым, напрыклад, у джынсы. Пагадзіліся і аўтары і пастаноўшчыкі. Не пагадзіўся адзін Цюпа, таму і сёння іграю спектакль у касцюме XIX стагоддзя.

Навошта мне гэта было патрэбна? Напрыклад, дзеля таго, каб мяне — чалавека канца XX стагоддзя — беларускі селянін Рыгор са свайго часу папытаў:

— Пан рускі ці паляк?

А я б яму з нашага часу адказаў:

— Я беларус, як усе вы.

Цікавай была б размова людзей паміж якімі сто гадоў гісторыі. Я маю на ўвазе Беларэцкага і Свеціловіча:

С в е ц і л о в і ч. Народ наш добры, працавіты, рахманы, шчыры, рамантычны...

Б е л а р э ц к і. Ды няшчасны!

С в е ц і л о в і ч. Бо ім кіруюць людзі, што здольны гандляваць зямлёй сваёй і мовай. Вы паглядзіце хоць на гэтых, што сядзяць на шыі сялян тутэйшых — паноптыкум! — мазгоў з напарстак, а зубы як у дыназаўраў!

Б е л а р э ц к і. Ну, вы занадта строгі. А Дубатоўк? А гаспадыня?..

Зала заўсёды жыва рэагавала на гэтыя эпізоды. Мабыць, таму, што тое, пра што ў іх пяецца, было актуальна, на жаль, актуальна яшчэ і сёння.

Партытура дае магчымасць выявіць і паказаць і першы і другі планы закладзеных у яе ідэй. Наш выканальніцкі склад высвятляе адно, камусьці ўбачыцца важным зусім другое. А гэткую якасць маюць толькі выдатныя, таленавітыя творы, якой і з'яўляецца опера Уладзіміра Солтана на лібрэта Святланы Клімковіч «Дзікае паляванне караля Стаха», створанай імі паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча.

Менавіта ў «Дзікім паляванні караля Стаха» выйшаў на юбілейным (у сувязі з маім 50-годдзем з дня нараджэння) спектаклі. Старажылы тэатра казалі, што за ўсё сваё жыццё не бачылі такой колькасці кветак, колькі я атрымаў пасля спектакля. На самой справе — на сцэне вырас пагорак з кветак амаль паўтара метра вышынёю. Думаю, варта сказаць дзякуй за гэта і аўтару аповесці — пісьменніку Уладзіміру Караткевічу...

*2005*

## Дзмітрый Смольскі

# Месяц з аўтарам «Сівой легенды»



У пачатку 60-х гадоў я часта ездзіў у Дом творчасці ў Каралішчавічы і быў знаёмы з многімі пісьменнікамі. Ведаў і Уладзіміра Караткевіча, чытаў яго творы, але больш блізка мы сышліся, калі я пісаў оперу «Сівая легенда». Я ўжо не помню, хто параіў мне паглядзець гэту аповесць, але яна так захапіла мяне, так легла на душу, што я адразу вырашыў: абавязкова напішу оперу! І на першым этапе я нават не звярнуўся да Караткевіча, а стаў сам рабіць лібрэта. Я выбудаваў сабе драматургію, сцэнарый оперы і заняўся музыкай: арыямі, рэчытатыва-

мі і г. д. Але ж аповесць — гэта проза, а для оперы патрэбна паэзія. І я паспрабаваў сам пісаць тое, што сярод кампазітараў называецца «рыбай» — падбіраў словы, якія мне патрэбны па сэнсе. І досыць хутка я закончыў усю оперу, але фактычна без тэксту. Была толькі «рыба». Ну і што рабіць? Я вырашыў звярнуцца да самога Уладзіміра Сямёнавіча. Набраў яго нумар тэлефона і кажу, што напісаў оперу па «Сівой легендзе» і хачу, каб ён зрабіў лібрэта. Ён адразу пагадзіўся, толькі перапытаў: «А як мы дамовімся?» Я адказваю, што тут будзе даволі многа працы. І тады ён прапанаваў: «Давай так. Ты кожны дзень прыходзь да мяне з раніцы дамоў, і мы з табой будзем працаваць. І колькі спатрэбіцца — зробім».

Так пачалася наша праца над операй. Я недзе гадзін у 9 прыходзіў да Караткевіча, пілі з ім каву і браліся за справу. Што мяне адразу ўразіла — наколькі тонка ён усё адчуваў. Я агучваю яму «рыбу», ну, напрыклад «Ой, кахаю, кахаю, кахаю, кахаю», і ён проста на маіх вачах усё схопліваў і тут жа складаў вершы. Я бяру гатовы верш і спяваю на сваю музыку. Усё адразу цудоўна кладзецца. Так мы з ім працавалі. Канечне, не цэлы дзень. Мы яшчэ шмат размаўлялі на розныя тэмы. І неяк адразу перайшлі на «ты». Я помню, як ён жартам казаў жонцы, калі адчыняў мне дзверы: «Во, зноў кат прыйшоў, не дае мне выспацца».

Папраўдзе, для мяне гэта быў месяц адкрыццяў. Уладзімір Сямёнавіч столькі цікавага мне расказваў і з гісторыі Беларусі, і пра ВКЛ, і чытаў фрагменты «Каласоў...», і ўздымаў розныя філасофскія пытанні — я быў уражаны. Дзякуючы, дарэчы, яго інфармацыі з першакрыніц, я ўпершыню даведаўся праўду пра асобу Леніна, які тады лічыўся непахісным ідэалам. Па сутнасці, тыя гутаркі з Караткевічам паміж нашай працай над операй для мяне былі своеасаблівай школай грамадзянскай сталасці, я адкрыў для сябе цэлы свет. Ён падарыў мне з надпісамі ўсе свае кніжкі, якія былі выдадзены на той час. Я ставіўся да яго як да роднага чалавека, да старэйшага брата. Ён здзіўляў мяне сваёй інтэлігентнасцю, адукаванасцю, самабытнасцю. А якая ў яго была мова: смачная, натуральная, як само дыханне. Я таксама з ім размаўляў па-беларуску, але ў доўгіх размовах — пераходзіў на рускую, ён мяне не крытыкаваў. І сам мог таксама працягваць па-руску. Я тады прасіў: «Не, Валодзя, ты гавары па-беларуску. Дай мне атрымаць асалоду ад мовы. Я ж цудоўна разумею, толькі самому сказаць слоў не хапае». Той месяц нашых штодзённых гутарак застаўся са мною на ўсё жыццё. Я проста богатвару гэтага чалавека і вельмі яму ўдзячны. Увогуле сустрэць у жыцці такога чалавека — вялікае шчасце.

Ну а што тычыцца оперы, мы зрабілі яе за месяц. Калі б менш размаўлялі — маглі б, напэўна, і за тыдзень закончыць. І потым рэжысёр

С. Штэйн хутка яе паставіў. Уладзімір Сямёнавіч слухаў прэм'еру, казаў, што яму цікава. Хаця ў гэтым звязку не магу я цяпер абмінуць адзін прыкры момант. Прэм'ера адбылася ў 1978 годзе. Опера была адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР. Атрымалі яе кампазітар і выканаўца ролі Ірыны артыстка І. Шакунова, а Караткевіча як аўтара лібрэта зарубілі,— «наверсе» сказалі, што яму нельга. І ў мяне быў такі асадак цяжкі на душы, так непрыемна я сябе адчуваў. Бо гэта ж яго аповесць паслужыла штуршком, я звярнуўся да яго творчасці, ён напісаў лібрэта. І калі ўжо даваць прэмію, то — яму ў першую чаргу. Але ж, вядома, як тады ўлады ставіліся да яго...

Творчасць Караткевіча — своеасаблівая, непараўнальная. Гэта як сама Беларусь аголеная. Помню, як мяне ўразіла «Сівая легенда» сваёй рамантычнасцю і трагічнасцю адначасова. Я і музыку стараўся пісаць у гэтым жа рэчышчы, у стылі аповесці. Караткевіча чытаеш — і адразу ўзнікаюць музычныя вобразы. Гэта таленавітая проза, таленавітая паэзія — таму яна і вабіць кампазітараў. І я думаю, яшчэ многае-многае наперадзе. Будуць новыя і оперы, і рамансы, і іншыя музычныя жанры. Уладзімір Караткевіч — вельмі таленавітая асоба ў нашай літаратуры, у беларускай культуры ўвогуле.

*2005*

## Рыгор Сітніца

# Вернісаж

Канечне, гэта не болей чым сціплы эпізод з перажытага. Зрэшты, жыццё і ёсць безліч эпізодаў, большыня з якіх знікае, не пакідаючы ніякага следу. Ды сярод будзённае драбязы часам надараюцца такія эпізоды, што не толькі не дазваляюць па сябе забыцца, але й вартыя таго, каб стацца маленькаю часткаю нашае калектыўнае памяці.



Пачатак снежня 1981 года. Беларусь з прыкметным размахам адзначае 90-я ўгодкі ад нараджэння Багдановіча: шматлікія ўрачыстыя вечарыны, канцэрты, выставы. Тады нацыянальная інтэлігенцыя яшчэ была паважанай ды аўтарытэтнай, а беларускіх геніяў ушаноўвала не толькі паспалітая культурная супольнасць, але й не дужа беларуская дзяржава.

Надзвычай актыўна спрычыніліся да юбілею й беларускія мастакі. У сталічным Палацы мастацтваў быў зладжаны ўрачысты вернісаж

выставы, прысвечанай Вялікаму Максіму. Пашчасціла быць удзельнікам тае выставы й мне, студэнту VI курса тэатральна-мастацкага інстытута. Кажучы «пашчасціла», ані не перабольшваю, бо за тым часам студэнту прабіцца на прафесійную выставу ўдавалася дужа рэдка. Аднак жа ўдалося, прабіўся. І вось таўкуся разам з сябрам сярод шматлюднага натоўпу ўдзельнікаў ды гасцей таго вернісажу, сціпла святкуючы ўласную далучанасць да такой падзеі ды гэткай пачэснай грамады. Раптам чую ўсхваляваны напаўшэпт сябра: «Глядзі, глядзі, гэта ж Караткевіч!» — «Дзе?» — «Ды вунь»,— ён паказаў на невысокага, сутулаватага чалавека, які, аддзяліўшыся ад агульнае грамады, уважліва і нетаропка разглядваў творы. Мы пазналі яго. Чалавек напраўду быў Караткевіч. Імгненна страціўшы ўсялякую цікавасць да ўрачыста-афіцыйных прамоў, мы наблізіліся да Яго.

Гэта цяпер учарашні напаўпісьменны школяр, прыдумаўшы тузін радкоў з надзіва «арыгінальнымі» рыфмамі, кшталту, «памяць-замяць», «учора-заўчора», лічыць гэты набытак дастатковым, каб пачувацца за панібрата з жывым класікам; а то й, шалёна ляскаючы ў алюмініевую місу ды выдаючы вантробныя гукі, са смакам аплёўваць святыні ці глуміцца над Вялікімі Імёнамі.

...Мы наблізіліся да Яго, хвілін пятнаццаць хадзілі за ім на адлегласці 4—5 крокаў, робячы выгляд, што разглядаем творы, хоць болей глядзелі на яго. Многія віталіся з ім, ён прыязна адказваў, шчыра ўсміхаўся. Просты, звычайны, даступны.

Мы не проста любілі чытаць ягоныя кніжкі. Мы з гэтым жылі. На пэўны час творы Караткевіча зрабіліся штодзённым духоўным хлебам шмат для каго з маіх аднагодкаў, каб потым назаўсёды стацца часткаю нас саміх. Гэта быў момант вялікай шчырасці, светлага адкрыцця ды крышталёвае чысціні сярод штодзённае каламуці й задухі. Праз нашыя галовы праходзіла безліч усялякага чытва: ад прымусова-казённага да напаўпадпольна-геніяльнага. Шмат што з прачытанага пралятала праз нас гэткім шпаркім літаратурным транзітам, тое-сёе надоўга заставалася ў памяці, а штосьці пасялялася ў душы назаўсёды. Гэткім назаўсёдным стаўся Уладзімір Караткевіч, які не проста падараваў нашаму пакаленню шматлікія гадзіны прыемнага прыгожага сумоўя, а найперш паказаў, што ёсць такая (!!!) беларуская літаратура і ёсць такая (!!!) Беларусь.

А яшчэ вельмі цёплым было адчуванне ягонай блізкай прысутнасці. Мы й думкі не мелі, што да пісьменніка можна неяк наблізіцца, але досыць было радаснага разумення, што яго можна калі-небудзь убачыць на адной з менскіх вуліц.

І вось мы побач. Караткевіч павольна ідзе па выставе, прыпыняецца ля кожнага твора, уважліва разглядае, ля некаторых затрымліваецца

даўжэй. Нарэшце ён падышоў да майго сціплага творчага ўнёску. Спыніўся, нагнуўся, прачытаў прозвішча ды назву «Чым болей сходзіць дзён...». Гэтак Максімавымі словамі назваў я сваю напаўпрафесійную працу, прысвечаную каханню Багдановіча.

Караткевіч затрымаўся: хвіліна, дзве, тры. І я падышоў да яго: «Дзень добры, Уладзімір Сямёнавіч... Прабачце... Я — Рыгор Сітніца... Гэта я ...намаляваў...» Голас мой дрыжэў, ледзьве пераадольваў шалёнае хваляванне. «Здароў, хлопча»,— такімі свойскімі словамі Караткевіч імгненна вярнуў мяне на гэты свет. Зрабілася лёгка, проста, хораша. Гаманілі мы хвілін дзесяць. Ён распытваў — хто я, адкуль родам, хто мае бацькі... Пачуўшы, што я з Палесся, шчыра і ўзрушана захапляўся нашым краем.

Здавалася б, звычайная гутарка, але гэта была размова з Караткевічам! Развітваючыся, ён кіўнуў у бок майго твора, моцна пацiснуў руку ды сказаў: «Малайчына, хлопча!»

Шмат пасля ў жыцці я буду мець адзнак маёй творчасці, ды памятаю — Караткевіч даў мне найвышэйшую!

З тым і жыву.

*2005*

Юрый Цвяткоў

# Праз гісторыю – да сучаснасці

Мы пазнаёміліся з Валодзем Караткевічам у 1962 годзе ў Маскве. Два землякі вучыліся ў творчых ВНУ, я — на аператарскім факультэце інстытута кінематаграфіі, ён — на Вышэйшых сцэнарных курсах. Так, воляю лёсу, мы сустрэліся. Штосьці пацягнула нас адзін да аднаго. Ды і ў жыцці вялікай краіны адчуваўся вецер глыбокіх перамен, якія ўплывалі на агульны настрой.



Я не належаў да беларускамоўных жыхароў Мінска. Але Валодзя так ярка, змястоўна расказваў пра беларускую літаратуру, што я міжволі ўзяўся чытаць усё запар. Канечне, і паэзію самога Караткевіча. Нікольскі не перабольшваючы, скажу — для мяне адкрылася новая планета. Тое, што раней здавалася аддалена-гістарычным, цяпер сталася глыбока блізкім і асабістым. Пастулова нашы сустрэчы — у інтэрнатах, у сяброўзнаёмых, на кінапраглядах і прэм'ерах — набылі ўзаемна-зацікаўлены характар. Калі я нанава адкрыў для сябе беларускую літаратуру, то Вало-

дзя, хачу спадзявацца, не без маёй дапамогі вельмі сур'ёзна захапіўся кінематографам.

Шмат расказваў мне Валодзя таксама пра гісторыю Беларусі, не згадваючы асабліва крыніцы. І, слухаючы яго, а яшчэ ведаючы рамантычны характар субяседніка, мне здавалася, што большасць яго расповедаў — пісьменніцкія выдумкі, плён багатай фантазіі. Як жа я памыляўся!.. У 1966 годзе Караткевіч паказаў мне накід сцэнарыя дакументальнага фільма пра гістарычныя помнікі, што захаваліся ў Беларусі да нашых дзён. «Памяць камня» называўся гэты матэрыял, і я знайшоў у ім многае з таго, што раней чуў ад Валодзі і чым надзвычай захапляўся. Фільм па гэтым сцэнарыі і стаўся маім рэжысёрскім дэбютам у беларускім кінематографе. Напярэдадні запускання Валодзя паставіў умову дырэкцыі Мінскай студыі дакументальных фільмаў: ён паедзе па рэспубліцы разам са здымачнай групай. Значна пазней крылатай стане яго фраза адносна аўтарскіх правак «І коскі з месца не зрушу!», а ў той памятнай камандзіроўцы па Беларусі свой уласны сцэнарый ён выпраўляў шмат разоў, знаходзіў новыя мясціны для здымак, а яшчэ мог па ходу згадаць адпаведную легенду пэўнай сядзібы ці помніка і прапаноўваў тут жа ўсё перанесці на кінастужку. Па яго волі маршрут здымачнай групы раптам нечакана мяняў свой кірунак. Мы начавалі ў прыватных дамах, маленькіх гасцініцах, але часцей — у палатках, якія абачліва прыхапілі з сабою, добра, што лета выдалася цёплым. Змены маршруту часам давалі непрадказальны вынік. Зняты матэрыял мог быць вельмі цікавым, але грошай на жыццё катастрафічна не хапала. Проста іх перасылалі ў гарадок, куды мы павінны былі прыбыць. А мы на той час начавалі ў палатках дзе-небудзь у лесе ці на беразе возера Свіцязь. Вось ужо ў каго было сапраўднае пачуццё таварыскасці, дык гэта ў Валодзі. «Я вас сюды зацягнуў — я і здабытчык хлеба»,— казаў ён і знікаў. Потым вяртаўся: з бульбай, хлебам, малаком, а здаралася, чым і мацнейшым. Пры гэтым мы ўсе дакладна ведалі, што грошай у яго з сабой не было ніякіх. Увогуле за ўвесь перыяд здымак Валодзя спыняўся там, дзе патрабавала яго душа. Нездарма Васіль Быкаў назваў яго некалі «рыцарам духу». І гэты рыцар на самой справе схадзіў усю беларускую зямлю ўздоўж і ўпоперак уласнымі нястомнымі крокамі. Усё, што ён расказваў тады нашай групе, а праз нас — гледачу, было ўзнаўленнем Гісторыі, нашай гісторыі — дзівоснай і незвычайна цікавай. Калі б не гэты рамантычна-паэтычны дух Уладзіміра Сямёнавіча, калі б не гэта моцнае жаданне расказаць пра сваю беларускую зямлю, пра яе непаўторныя легенды і традыцыі, калі б не яго ўменне заразіць сваімі ідэямі кожнага, магчыма, я ніколі б не пайшоў у рэжысуру. Але так захацелася данесці да гледача яго, Валодзевы, думкі, яго любоў да сваёй зямлі.

Што тычыцца гістарычнага аспекта ў нашых шматлікіх размовах, нагадаю больш ранні выпадак, маскоўскі. Аднойчы нам, а дакладней, Валодзю падаравалі руку муміі. Для мяне гэты вечар так і застаўся радавым эпізодам, а Валодзя пазней перастварыў цэлую гісторыю. У 1965 годзе, ужо ў Мінску, мы сустрэліся з Валодзем у час працы над фільмам «Пушчык едзе ў Прагу», на якім я быў адным з аператараў. Медзведзяня Пушчык, як зразумела па назве стужкі,— амаль галоўны герой. Часам яго дубліравала сястрычка — медзведзяня Золачак. (Калі Пушчык падрасце і стане амаль дарослым мядзведзем, я паспею зрабіць іх агульны фотаздымак з Валодзем Караткевічам.) На здымках фільма Валодзя дужа пасябраваў з медзведзянятамі. Пазней, у эсэ «Дуб Крывашапкі» (імя аднаго з паплечнікаў Кастуся Каліноўскага), Валодзя так рамантычна апісаў эпізод сустрэчы з нашымі героямі, што мяне і па сёння чаруе яго расказ (у якім арганічна знайшлося месца і эпізоду з егіпецкай муміяй).

Усё жыццё Караткевіч займаўся духоўнай рэстаўрацыяй гісторыі свайго народа як мінулай, так і той, што пісалася тут і зараз. І ні ў якім пісьменніцкім кабінеце ён не змог бы (ды і не хацеў!) папоўніць тое, што давалі яму вандроўкі па роднай зямлі. Ён шмат набываў, але шмат і аддаваў. У яго дыктарскім тэксце да фільма ёсць такая фраза: «Памяць патрабуе абароны... Неад'емная частка нашага жыцця — тое, што створана продкамі. Дык беражыце памяць аб продках!»

Вернемся ў 1966 год, у тую нашу вандроўку з кінакамерай па краіне Беларусь. Мы здымалі цэрквы, рэшткі крэпасцей, падмуркі і асколкі сцен — усё, што займала ўзрушлівую душу Уладзіміра Караткевіча. Пасля кожнага аб'екта ён сваім дробным, сціслым, амаль каліграфічным почыркам пазначаў у блакноце будучы дыктарскі тэкст, нярэдка — у гулліва-жартаўлівай форме. З сабою ў нас мелася карта рэспублікі, на якой мы адзначалі маршрут і асноўныя месцы здымак. Валодзя рабіў на карце ўласныя паметкі. (Я ніколі і нікому не паказваў яшчэ гэтую карту. Было тут нешта глыбока асабістае.) Неяк рухаючыся ў бок Віцебска з поўдня на поўнач, мы праскочылі яго і скіраваліся да Полацка, маючы намер у Віцебск вярнуцца пазней. Дырэктарам фільма, гэта значыць — чалавекам, што распараджаўся фінансамі, быў Лёва Кузьміцкі. Ён не часта балаваў нас сваёй прысутнасцю, у асноўным знаходзіўся ў Мінску. У Віцебск ён павінен быў перавесці належныя нам грашовыя сродкі. Як жа мы здзіўляліся, абураліся і гневаліся, калі праз два дні вярнуліся ў Віцебск і не знайшлі там ніякіх тэлеграфных пераводаў. Адпаведна — грошай на гасцініцу не было, усіх даймаў голад (як ні дзіўна, акром Валодзі,— ён паставіўся да гэтага з гумарам), да вечара мы дарэмна чакалі перавод і амаль ноччу, раззлаваныя, з'ехалі з Віцебска. Тут Валодзя

ўзяў у мяне карту, закрэсліў на ёй назву «Віцебск», а зверху дапісаў сваё: «г. Кузьміцк-Галадаеў».

Падобныя «перайменаванні» на гэтай карце ён рабіў не раз. У Гродна, каб праехаць па навакольных мясцінах, мясцовыя ўлады прапанавалі нам у якасці гіда-праваднікa цудоўную дзяўчыну — супрацоўніцу музея Алесю. У блузцы, расшытай нацыянальным арнаментам, і зялёнай спадніцы, якая нагадвала каларыт старасвецкага касцюма,— яна ўся свяцілася непаўторнай прыгажосцю натуральнай беларускі з блакітнымі вачыма, папялістымі валасамі, прыязнай усмешкай. За ўвесь час, пакуль мы знаёміліся з наваколлем, Валодзя нікому з нас не даў і слова сказаць. У Гродна расставаліся са шкадаваннем, а як толькі дзверца за прыгажуняй прычынілася, Валодзя выхапіў карту, энергічна закрэсліў надпіс «Гродна» і хуценька дапісаў: «г. Алеся». У Рагачове жыў дзядзька Караткевіча — Ігар Васільевіч. У яго доме нашу групу прынялі па-царску, накармілі, спаць паклалі, і наступнай раніцай г. Рагачоў на карце быў перайменаваны ў «г. Дзядзькаў». Галоўнае, што Валодзя мог сваёй гарэзлівасцю заразіць усіх наўкол. Таму працавалася лёгка, бесканфліктна, з максімальнай самааддачай.

З таго часу, дзякуючы фільму, засталіся некалькі кадраў самога Валодзі Караткевіча. Ён выходзіць з возера Свіцязь і рухаецца да кастра, які сам толькі што па-майстэрску распаліў, нягледзячы на даволі моцны вецер. Увогуле на кінастужцы яго захавалася вельмі мала: пару выступленняў на афіцыйных урачыстасцях ды невялічкая роля ў фільме Уладзіміра Бычкова «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», экранізацыі ўласнага рамана Караткевіча. Раман, як і фільм, крытыкі называлі сацыяльнай пародыяй на падзеі сярэдневяковай Беларусі, лічылі гістарычнай легендай. Але гэта не так. Мне думаецца, сутнасць твора зусім у іншым. Караткевіч здолеў перадаць праз вобразы літаратурных герояў шмат асацыяцый з тагачасным палітбюро, і тым самым раман аказаўся надзвычай сучасным. Асаблівасць творчасці Караткевіча — праз гістарычныя падзеі і калізіі вяртаць свайго чытача да праблем сучаснасці. Фільм «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» пасля шматлікіх паправак быў паказаны не ў кінатэатрах, а выйшаў толькі на клубныя экраны, і нават пад іншаю назвай «Жыціе і ўзнясенне Юрася Братчыка». Але хутка быў зняты і з гэтых трэцеразрадных экранаў. Сцэнарый быў напісаны так, што фільм, нягледзячы ні на якія дапрацоўкі і пераробкі, цвёрда «лёг на паліцу» і пабачыў свет і гледача толькі праз 22 гады з адноўленым мантажом і назваю «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». У жыцці грамадства адбыліся вялікія змены, знікла палітбюро, і фільм, не зважаючы на ўсе яго мастацкія вартасці, згубіў палітычную актуальнасць. На той час Валодзі ўжо не было сярод нас... Што ж, вуснамі Кастуся Каліноўскага

Караткевіч сказаў: «Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця ... на вышыню нашых магіл...»

Толькі Караткевіч, яго апантанасць у творчасці, яго страсная, утрапёная любоў да роднай Беларусі ў далейшым падштурхнулі мяне да работы над цэлым шэрагам стужак пра сыноў беларускай зямлі з трагічна-гераічным лёсам: «Цішка Гартны», «Алесь Гарун», «Максім Гарэцкі», «Паўлюк Багрым». Ды і ў мастацкім кіно мяне заўсёды вабіла нацыянальнае: экранізацыя беларускіх казак у фільме «Марынка, Янка і таямніцы каралеўскага замка», зварот да п'есы Янкі Купалы «Паўлінка» — фільм «Пасля кірмашу». Дарэчы, з Паўлінай Мядзёлкай, першай сцэнічнай Паўлінкай, Валодзя быў добра знаёмы і шмат расказваў мне пра яе незвычайны і складаны лёс.

Кінематаграфічны шлях Уладзіміра Сямёнавіча ўвогуле няпросты. Яго творы экранізаваліся і пры жыцці, і пасля смерці, але з'яваю мастацтва назваць можна асобныя, хаця менавіта гэта вызначэнне — з'ява — стасуецца да ўсіх яго сцэнарыяў. Не будзем забывацца, што Валодзя, як кінадраматург, меў спецыяльную адукацыю.

Цяжка, са спрэчкамі і перамір'ямі ішла праца над фільмам «Дзікае паляванне караля Стаха» (1979 год, сцэнарый быў напісаны ў 1977-м). Валодзя не надта ўспрымаў кінаматэрыял рэжысёра Валерыя Рубінчыка. Яму ўвесь час здавалася, што фільм прыкметна «ад'язджае» ўбок ад літаратурнага сцэнарыя. Рэжысёр, выбудоўваючы нацыянальны дэтэктыў, надаў стужцы рух, вельмі хуткі, не ўласцівы Караткевічу рытм, знайшоў пластычнае вырашэнне кінавыказвання. Паглядзеўшы канчатковы варыянт фільма, мы селі з Валодзем на лавачку перад фасадам «Беларусьфільма». Я задаў пытанне, а Валодзя доўга-доўга маўчаў. Потым паспрабаваў сфармуляваць, што літаратура і кіно — зусім розныя віды мастацтва. Ён, прынамсі, працуе ў літаратуры. А Рубінчык зрабіў кіно. Не зусім такое, як было прапанавана ў літаратурнай першакрыніцы. Але гэта вельмі добры фільм, нават таленавіты. І гэтыя два творы маюць права існаваць паралельна. Як рэйкі... Валодзева ацэнка цалкам спраўдзілася. Фільм меў грандыёзны поспех сярод гледача не толькі ў былым СССР, але і ў далёкай Амерыцы (асабліва адзначаліся аператарскія знаходкі Таццяны Логінавай). А сама аповесць і пасля выхаду фільма не раз перавыдавалася і перакладалася на іншыя мовы свету.



У ліку пастаўленых фільмаў паводле Караткевіча — кінанавела «Чырвоны агат» (1974), якую ажыццявіў малады рэжысёр Аляксандр Полагаў. Цікава, што навелу здымаў аператар Юрый Марухін. Менавіта тады, пазнаёміўшыся з Уладзімірам Сямёнавічам, Марухін вельмі захапіўся яго творчасцю. Пазней ён, ужо як рэжысёр, паставіць фільм «Маці ўрагану». У 1983 годзе на тэлеэкраны выйшаў «Чорны замак Альшанскі» вядома-

га майстра беларускага кіно Міхаіла Пташука з бліскучым акцёрскім ансамблем. Гледачы дасылалі шмат лістоў на тэлебачанне з просьбай паказаць фільм яшчэ і яшчэ. Апошняя экранізацыя — аповесць «Сівая легенда». Яна зроблена ў нас на «Беларусьфільме», але для пастаноўкі быў запрошаны польскі рэжысёр Богдан Парэмба. Фільм атрымаўся яркім, але ж размытасць пісьменніцкай канцэпцыі відавочна... Акрамя мастацкіх, створана некалькі дакументальных стужак. Аднак значная частка літаратурных сцэнарыяў Караткевіча так і засталася нерэалізаванай, хаця некаторыя з іх не раз паказваліся розным саветам кінастудыі «Беларусьфільм» і быццам бы рыхтаваліся да вытворчасці...

Цяпер у Мінску я жыву побач з домам № 7 па вуліцы Чарнышэўскага, у якім некалі атрымаў сваю першую кватэру Валодзя Караткевіч. Помню, як падоўгу заседжваліся мы ў яго цеснай, але ўтульнай, з непрыкметным нацыянальным каларытам, кухні. А ў гасцінай, у самым цэнтры, стаяў некалькі падмаляваны партрэт Кастуся Каліноўскага ў поўны рост. Ужо пасля адыходу Валодзі з жыцця я адважыўся туды зайсці. Іншыя людзі, яны нават не ведалі, што ў гэтай кватэры калісьці жыў вялікі беларускі пісьменнік. Мы любілі яго, пакланяліся перад яго непаўторным, менавіта беларускім талентам, помнілі яго адкрыты, добры і разам з тым глыбока прынцыповы характар. Рамантык у жыцці, ён быў глыбокім рэалістам у творчасці. Я амаль штодня праходжу паўз гэты дом. Канечне, на ім няма ніякай памятнай дошкі, прысвечанай Уладзіміру Караткевічу. Але гэта той чалавек, які ў значнай ступені вызначыў сэнс майго жыцця, пра што я думаю часта...

*2005*

## Фелікс Янушкевіч

## «Ars longa»

Калі Бог карае — памяць, розум адбірае.
*Ракаўская прымаўка*



Прыгадваю каларытную, маляўніча манументальную постаць Уладзіміра, сына Сямёна Караткевіча,— вялікага Творцу, які быў і назаўжды застаўся для мяне, нашай еўрапейскай культуры Няскораным Рыцарам Духу. Такім імкнуўся ўвасобіць ягоны вобраз у нізцы жывапісных палотнаў, якую распачаў яшчэ пры жыцці Паэта, Пісьменніка, Грамадзяніна.

У час роздуму пра Атланта беларускай літаратуры, таго, хто ратаваў яе гонар пад Саветамі, налятае сапраўдны рой успамінаў, рэфлексій.

Літаратурная постаць Уладзіміра Караткевіча яшчэ больш адметная. Зусім не савецкага кшталту з ідэалагічнай зашоранасцю гросмаштабамі тэм і вобразамі «светлай будучыні». Творца пратэстны, па сутнасці свайго незвычайнага таленту ён з тых «Леанід», што сапраўды рэдка прылятаюць на нашу святую і грэшную зямлю.

У згадках прайдуся, нібы ў круцёлцы, ад школьных гадоў да апошняй прыжыццёвай сустрэчы з Караткевічам у шматпавярховіку на праспекце Машэрава, дзе ён рыхтаваў да выдання чарговую кнігу. Пастараюся, наколькі гэта магчыма, захаваць не эмацыйны (Караткевіч адразу зашкальваў узроўнем інтэлекту), але чыста аналітычны пагляд на лёсавызначальныя для маёй мастакоўскай пуцявіны падзеі.

З геніяльна напісаным раманам У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» спаткаўся адразу пасля выхаду ў свет у дзевятым класе Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве – навучальным асяродку таленавітай дзятвы з усіх куткоў Беларусі, які зараз знаходзіцца на вуліцы Макаёнка, толькі пад іншай назвай. Тыя дзве кнігі з выдатнымі ілюстрацыямі Арлена Кашкурэвіча мелі пераломнае ці, дакладней, эпахальнае значэнне для мастакоў нашай генерацыі. Можна гэта зразумець, калі ўлічыць, што ў танюсенькай гісторыі БССР толькі радком згадвалася Студзеньскае паўстанне на Літве і Беларусі пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, дарэчы, як і Вялікае княства Літоўскае.

Але школка (так мы яе называлі), хоць і нядаўна заснаваная (у 1961 годзе), ужо жыла сваімі законамі. Пасля восьмага класа мастакоў-навучэнцаў тады не выключалі за кепскія адзнакі па агульнаадукацыйных прадметах, іх проста не ставілі. Гэта значыць, фільтрацыя талентаў ішла на самым раннім этапе. Лепшых хлапчукоў з нашага класа адправілі назад дахаты, прыкладам, чарнявенькага, нібы галчаня, Міхася Драбышэвіча з вёскі Агароднікі, што на Случчыне. Ён незвычайна дакладна маляваў як тэхніку (бацька быў шафёрам), так і розных матылькоў, птушак, але меў стабільную двойку па рускай мове.

Выхад рамана Караткевіча супаў з нашым школьным Рубіконам – мы ведалі: ужо не выганяць. Кніжку падсунуў дзесяцікласнік, слуцак Уладзімір Голуб, сёння вядомы мастак. Без перабольшвання, твор зрабіў рэвалюцыйны пераварот у нашай свядомасці. Праўда, ужо з'явілася кніга Пятра Бітэля «Замкі і людзі», пасля выйшаў зборнік вершаў Уладзіміра Жылкі, невялічкія кніжачкі з акадэмічнай серыі, прысвечаныя Пятру Бузуку, Міколу Шчакаціхіну, Максіму Гарэцкаму. Але раман Караткевіча чытаўся навыперадкі. Юрка Паршнёў, хлопец з Зэльвы (родам расеец), канстатаваў: «Гэта шэдэўр»,– і разам з усімі пачаў запаўняць дзённік і адказваць на занятках толькі па-беларуску. Трэба зазначыць, у школцы нас ужо «дасталі» выхавацелі і гарадскія дзеці: тыя папросту за матчыну мову рабілі нам «цёмную», пачынаючы з пятага класа – ад моманту прыбыцця па

навуку ў мастацтве. Не ўспрымалі нас як носьбітаў вялікай аўтэнтычнай цывілізацыі, зрэшты, яе моўны дыяпазон сапраўды шырока прадстаўляўся дыялектамі розных закуткоў краіны. Мы самі часам адкрывалі рот, здзіўленыя, пачуўшы, напрыклад, такі выраз: «Хадэма гуляць у маў клёка», што дакладна перакладалася як: «Пайшлі, я табе кажу, пагуляем у лапту». Гэтыя словы заўжды ўсплываюць у памяці, калі сустракаю мастака-манументаліста Уладзіміра Крываблоцкага, які прыехаў з Белавежскай пушчы. Ад дзяцей не адставалі і выхавацелькі, нават правакавалі іх актыўнасць адносна «вёскі». Некаторыя вельмі нервова рэагавалі на кожнае пачутае беларускае слова абразлівым «колхозник». Мяне, ракаўчука, які прыехаў у школку з саўгаса «Ракаўскі», гэта сапраўды абурала, таму агрызаўся: я — «саўхознік», чым, натуральна, павышаў свой сацыяльны статус і ставіў у тупік выхавацельку Нэлю Якаўлеву. Дарэчы, ужо пад беларускі прэсінг яна патрапіла сама зусім нядаўна: адбылася метамарфоза ў духу вірлівага Караткевічавага стылю. Калі б Творца жыў, дык па-добраму зарагатаў, як умеў рабіць, з такой сюррэалістычнай сітуацыі.

Неяк на апошняй юбілейнай сустрэчы школьнікаў тая выхавацелька падышла да мяне і на някепскай беларускай мове засведчыла, што яна іудзейка, але з рэлігіяй продкаў яе не пазнаёмілі бацькі. У царкву заходзіла, але там штосьці не імпанавала. Дык вось хацела б хадзіць у касцёл і ахрысціцца. Здзіўлены, нічога лепшага не знайшоўся, як запытаць: «Дзе Вы жывяцё?» Адказала, што ў раёне Залатой Горкі, насупраць касцёла. Параіў хадзіць туды, паколькі набажэнствы ў ім выключна па-беларуску і там шмат неафітаў. Праз пару тыдняў тэлефануе і просіць, каб стаў хросным татам. Нічога не заставалася, як пайсці на магілку маці (ёй добра даставалася, пакуль я вучыўся ў школцы; мяне тройчы выганялі, там тады шмат пралілося матуліных слёз). Лёсаўка паказала, што павінен стаць хросным татам, хоць у гэтым не было неабходнасці. Як высветліў пасля, у старэйшым веку хросныя бацькі не патрабуюцца. Такі быў рэванш Караткевічавай праўды, схаванай у моцы матчынага слова. Пра тое думалася, калі абрад хросту выконваўся маладзенькім святаром з вельмі дрэнным беларускім вымаўленнем.

У школцы таксама адбыўся моўны рэванш. І не толькі. У нашым класе ўжо не засталося аніводнага гарадскога хлапчука. Пры абароне дыпломаў (1969) першы выпуск мастакоў роднай мовай не паслугоўваўся. Налета ўпершыню пра свой дыплом у сценах школкі распавёў па-беларуску Уладзімір Ракіцкі з Берасцейшчыны (сёння вядомы рэстаўратар, кіруе аднаўленнем размалёвак полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царквы). Да гэтага выпуску належыць і Уладзімір Савіч, выдатны сучасны графік, акадэмік. Трэці выпуск меў ужо трох беларускамоўных дыпломнікаў, са згаданым вышэй Уладзімірам Голубам. Наш выпуск быў чацвёрты. 1972 год стаў пераломным у развіцці нацыянальнага выяўленчага

мастацтва, паколькі ўсе дзеці, з іх сёння шмат прызнаных майстроў сваёй справы, акрамя мінчанак Ліны Цывінай і Святланы Гарбуновай, аўтаркі помніка Сымону Буднаму ў Нясвіжы, выказаліся на мове сваіх продкаў. Ад таго года ўсе наступныя абароны ў школцы зрабіліся беларускамоўнымі, хоць працэс навучання яшчэ доўга вёўся па-расейску.

З апошніх гадоў школкі таксама памятаецца, як аднойчы на занятку па спецыяльнасці настаўнік, мастак Мікола Назарчук прынёс і прачытаў вялікі артыкул у цэнтральнай «Правде». На газетнай паўстаронцы творчасць Караткевіча разбіралася ў аглабельным стылі. Запомніўся пасаж: «Каму сёння цікава, як жыў за гарой князь» (меўся на ўвазе Загорскі ў «Каласах пад сярпом тваім»). Мы па-дзіцячы абураліся за свайго куміра на невядомага аўтара.

Караткевічавыя «Каласы...», якіх, зразумела, немагчыма было купіць у сталіцы, я здабыў у ашмянскай кнігарні, куды занеслі дарогі блуканняў па Беларусі ў духу Караткевічавых герояў. Уласнымі нагамі ды вачыма мы мусілі пазнаваць адметнасці Бацькаўшчыны. Першы празаічны зборнік пісьменніка «Блакіт і золата дня» трапіўся на пачатку 1970-х гадоў у кніжным развале пастаўскай крамы. Я невымоўна ўсцешыўся, паколькі меў без адной усе выдадзеныя кнігі твораў. Выдатна памятаю высокія стосы «Матчынай душы» (1955), цынічна выкінутыя на прылавак Цэнтральнай кнігарні ў Менску. Першая кніжка паэзіі, такім чынам, двойчы ўцэньвалася і каштавала 10 кап. (кошт эскімо), з такімі незвычайнымі вершамі, як «Паўлюк Багрым», «Машэка» ды іншымі. Але Караткевіч ішоў угару і стаўся для моладзі культавай асобай. Раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», калі я вучыўся ў інстытуце, у краме на Валгаградскай куплялі ахапкамі.

Ужывую Караткевіча ўбачыў таксама ў школьныя гады, калі ў Ракаве праходзілі здымкі па сцэнарыі вышэйзгаданага рамана. Дзякуючы тым кадрам захавалася аўтэнтычная сітуацыя нашага старадаўняга архітэктурнага ансамбля на месцы аб'яўлення Маці Божай у XV стагоддзі, пазней цалкам разбуранага ваяўнічымі атэістамі. Караткевіч стаяў сярод кіношнікаў на цвінтары пры царкве, былой базыльянскай і, размахваючы рукамі, нібы млын-вятрак, штосьці апавядаў. Магчыма, сумную гісторыю акупацыі гэтага краю Расеяй і знішчэння народнай рэлігіі — уніяцтва.

Калі ўлічыць, што Ракаў у адпаведных інстанцыях (разам з Гальшанамі) значыўся цэнтрам «рэакцыйнага каталіцызму» — тут дзейнічала царква, але касцёл не губляў актыўнасці пад Саветамі, застаючыся адзіным дзейсным асяродкам у рэгіёне,— дык здымкі фільма пад такой назвай моцна скалыхнулі паваенную прытоенасць. Ракаўчукі далі волю сваім фантазіям у прадчуванні хуткага канца камуністычнай навалы. Тым больш што пачалося праектаванне аб'язной шашы вакол Ракава.

Перад вайной таксама навазілі камянёў, першыя Саветы наважваліся зрабіць такую дарогу, але прыйшлі немцы — і ўсё засталося па-старому, а каменні разабралі на падмуркі.

Свой інстытуцкі дыплом у 1978 годзе абараняў трыпціхам «Кастусь Каліноўскі». Так склалася сітуацыя, што эскіз пад назвай «Каліноўскіяда» ніяк не зацвярджаўся кафедрай. Цэнтральная частка (Кастусь Каліноўскі на Лукішскім пляцы ў Вільні) больш-менш прымалася. Пытанні паўставалі наконт правай часткі з выявамі нацыянальных герояў ад Усяслава Чарадзея да Аляксандра Незабытоўскага (шляхецкі перыяд нашай гісторыі) і левай, ад Ігната Грынявіцкага да герояў-партызанаў апошняй вайны (дэмакратычнага этапу развіцця краіны). Усіх каля пяцідзесяці канкрэтных гістарычных постацей. Дайшло да кур'ёзу: адзін з выкладчыкаў заявіў: «Наша гісторыя пачынаецца з семнаццатага года». Мусіў адказаць яму: «Не. Гэта ваша пачынаецца». Мяне накіравалі да загадчыка кафедры КПСС спадара А. Хацкевіча на, так бы мовіць, ідэалагічную экспертызу. А паколькі сярод нацыянальных герояў быў і пагромшчык рускай эліты Ф. Дзяржынскі, па якім той абараніў доктарскую дысертацыю, то, натуральна, прафесар не пабачыў нічога антынавуковага і тым больш крамольнага. Але час на выкананне быў незваротна страчаны. Змушаны абставінамі, я адмовіўся ад канкрэтных герояў і выйшаў на канцэпцыю «Каліноўскі і народ».

Хоць я не быў пад асабістым уплывам Караткевіча, аднак раман, бясспрэчна, зрабіў сваю справу. Працавалася над творам складана, у дадатак усе выкладчыкі адмовіліся ад кіраўніцтва дыпломам. Але ўсё ж атрымалася. Твор неаднаразова выстаўляўся ў Беларусі, ім адкрывалася першая нефармальная выстава маладых мастакоў у 1985 годзе на Машэрава, 7, якія дзесяцігоддзе свайго творчага саюза адсвяткавалі ўтварэннем Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва. Трыпціх адзначылі на Маскоўскай выставе ў Акадэміі як адзін з лепшых дыпломаў года ў СССР.

З Уладзімірам Караткевічам меў гонар пазнаёміцца на падворку нашай сядзібы ў Ракаве 2 траўня 1979 года, згодна аўтографу на адной з ягоных кніг, дзе ў выразе «...нашаму роду Янушкевічаў...» першае слова падкрэслена. Я ўжо вучыўся ў аспірантуры АН БССР, працаваў над дысертацыяй «Ракаўска-івянецкая кераміка XVI—XIX стст.». Першы раздзел будаваўся на матэрыялах позняга сярэднявечча. Тады мастацтвазнаўцы, за выключэннем некаторых археолагаў, не кранаді гэтага перыяду: на ім ляжала табу. Матэрыялу, асабліва фактычнага, для параўнаўчага аналізу бракавала, таму мусіў весці інтэнсіўную дзейнасць па зборы пад'ёмнага матэрыялу ў час будаўніцтва на сваім пляцы. Трэба сказаць, было дзе: культурны слой дасягаў трох метраў і рэчы ішлі ад XIV стагоддзя, а ад

XVI — навалам. Як жа здзівіўся, калі, зірнуўшы з глыбіні раскопу ўгару, у знадворкавыя дзверы гаража, убачыў вясёлы твар. Паколькі ракурс быў знізу, наплываючая пасма валасоў, здавалася, ляжала на носе. Караткевіча да нас прывёў ракаўчук, сусед па пляцы Волі Вячаслаў Рагойша, і пайшоў па справах. За вялікім сталом на верандзе ўсёй сям'ёй доўга і цёпла гутарылі з чалавекам-легендай, з кумірам. Ён моцна зацікавіўся маімі роспісамі слынных беларусаў на столі ў зале, калекцыямі, зборам старажытнасцей, бібліятэкай. Здавалася, збянтэжыўся, калі не хапіла і ягонай эрудыцыі расчытаць надпіс-дату на даўнім уніяцкім сямейным абразе. Затое стаў шчаслівым, выпіўшы з мясцовага збанка-забаўкі «Напіся — не абліся», што і праз дзесяцігоддзі без падказкі могуць зрабіць не больш за паўдзесятка з тысячы чалавек. Чаркі не браў прынцыпова. Магчыма, убачыў, што гэта не сямейная завядзёнка, хоць мама, здавалася, магла змусіць кожнага.

Ён ад'ехаў з Ракава апошнім аўтобусным рэйсам, уладкаваўшыся на заднім сядзенні. У задуменні, нязвыкла сканцэнтраваным, адрозніваўся ад ужо вядомага, усмешлівага, дасціпнага, з вострымі думкамі і словам чалавека. Такім заўжды заставаўся нават пры выпадковых сустрэчах на мінскіх вуліцах: шчыра цягнуў да сябе, тройчы цалуючы па даўнім шляхетным звычаі.

Падчас першай сустрэчы з Караткевічам здымкаў на памятку не рабілася, але задума маляваць з'явілася ад таго дня. Магчымасць надарылася зусім выпадкова (пры мне была добрая оптыка). Тралейбусам ехаў на вакзал, каб адтуль на Ракаў. Насупраць кафэ «Вясна» заходзіць Я. Кулік і кажа, што едзе да А. Марачкіна; будзе моладзь, Караткевіч, і запрасіў з сабой. Там я зрабіў шмат цікавых здымкаў.

Караткевіч з Валянцінай глядзеліся прыгожай парай інтэлігентаў вышэйшай пробы. В. Дубінка доўга зачытваў свае досціпы, якімі спісаў цэлы стос паперы; у працэсе агучвання Караткевіч перабіраў рукамі лісткі. Моладзь з «Майстроўні», куды ўваходзілі сын Марачкіна і будучая жонка, дачка У. Басалыгі, якія таксама прысутнічаў, давалі самадзейны канцэрцік. Пасля Сокалаў-Воюш і Дубавец чыталі мэтру ў сенцах спробы пяра. Паціху з'ехаў у Ракаў.



Добра памятаецца сустрэча з Караткевічамі на іх кватэры. П. Бітэль папрасіў забраць рукапіс паэмы «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага», які даслаў на азнаямленне Караткевічу. Папярэдне стэлефанаваўшыся з імі, з братам Язэпам накіраваўся на сустрэчу. З Валянцінай Браніславаўнай сустракаўся на саветах інстытута, дзе рабіліся аспіранцкія справаздачы, зацвярджаліся тэмы. Быў адзіным, хто рабіў гэта на мове. Загадчыца іншага сектара, яна заўжды прыхільна ставілася да майго навуковага даследавання. Валянціна засталася на кухні, а мы зайшлі ў працоў-

ны кабінет, спрэс застаўлены кнігамі. За пісьмовым сталом у штучным лямпавым святле гаспадар выглядаў увасабленнем Творчасці. Паказваючы свае заўвагі да паэмы Бітэля, як бы правяраючы іх, браў адпаведны том з энцыклапедый, якія шчыльна стаялі за ягонай спінай, і адкрываў патрэбную старонку. Гэткая простая метода! Слова «абат» адзначыў як не ўласцівае і прывёў цэлы абзац, як, калі і кім ужывалася, у якой краіне. Выходзіла, што ў Беларусі, тагачасным ВКЛ, абацтваў не існавала. Пазней я даведаўся, што Яўхімія Радзівіл была абацісай манастыра ў Нясвіжы. У гутарцы краналіся розных тэм. У гэты час выйшла кніга Разанава «Шлях-360». Я запытаў, як ён ставіцца да «Гарбуна», дзе хлапчукі насміхаюцца з калекі. Цалкам надуманы твор, які ў рэальнасці не меў нічога агульнага з менталітэтам нашага народа. У Ракаве бацькі здзёрлі б скуру з дзіцяці, разумеючы, што праклён калецтва ляжа на сям'ю, род. Караткевіч разам з Піменам Панчанкам былі пазначаны рэцэнзентамі той кнігі. Гаспадар энергічна адрэагаваў, што не з'яўляецца рэцэнзентам; Разанаў пакідаў рукапіс толькі для прагляду. Афіцыйнай рэцэнзіі не пісаў. Сказаў, што набыў гэтую кніжку, але яшчэ не чытаў. Выцягнуў з-за галавы, убачыў сваё прозвішча і здзіўлена гукнуў: «Я ж павінен быў бы тады і грошы атрымаць?!» Я зазначыў, што, можа, варта напісаць дзесьці. Але Караткевіч шпурнуў кніжку па дыяганалі пакоя ў кут пад акно і вымавіў: «А пайшлі б яны ўсе...»

Больш пытання творчасці ўжо не краналіся. Каб супакоіцца, Караткевіч падняўся з-за стала, падышоў да паліц на супрацьлеглай сцяне. Пачаў здымаць разнастайныя сувеніры, якія дасылалі разам з лістамі або абдорвалі проста на месцы сустрэч прыхільнікі ягонага таленту з розных куткоў СССР. Кожная рэч падавалася з працяглымі каментарамі. Адчувалася, Творца патрабаваў увагі чытачоў, як і слухачоў. Такім чынам ён вырываўся з мадэляванага свету ідэальнай Беларусі, далучаўся да рэальнага народа сваёй краіны. Выдатна адчуваў тую прапорцыю ва ўзаемаадносінах будзённага з незвычайным, таму і знаходзіўся ўвесь час на мяжы Вялікага Адкрыцця.

...Гэтыя радкі пішуцца ў каталіцкі Велікодны тыдзень. Здаецца, не праляцела і тых дваццаці гадоў, так абвострана вымалёўвае памяць апошні Вялікдзень у жыцці Караткевіча, праведзены ім паблізу Ракава, у Аксакаўшчыне, дзе знаходзіўся на рэабілітацыі. Ранічкай, не паведамляючы, прайшоўшыся па абуджанай вясной зямлі і галаслівым ад спеваў птушак лесе, заходзім з братам у ягоную палату. Там сядзела перакладчыца з Масквы Валянціна Шчадрына. Убачыўшы нас, Караткевіч паспешліва развітаўся з ёй, магчыма, прытомлены. Пахрыстосваліся. Акрамя традыцыйных чырвоных яек з вяндлінкай мы прынеслі яму ў падарунак вялікі, старадаўняй формы саламяны картуз работы мясцовага

майстра. Караткевіч уздзябурыў на галаву ды, глянуўшы ў люстэрка, весела зарагатаў і ўжо праз увесь час не скідаў. Я зрабіў шмат здымкаў, нібы ў прадчуванні. Размаўляючы, Караткевіч пазіраваў з ахвотай, хоць увесь час займаўся справай: то разглядаў і хацеў адрамантаваць японскі фотаапарат, які пакінула наведвальніца, то браў у рукі адну з некалькіх запісных кніжак, раскіданых навакол (на падаконніку ды на ложках), і штосьці, спяшаючыся, дробнымі літарамі занатоўваў. Здавалася, быў у выдатнай творчай форме і такім запомніўся назаўжды. Такім я адразу намаляваў яго на палатне пад назвай «Дзе мой край? Паэт». Волат, заціснуты камяніскамі, штосьці занатоўвае ў кніжачцы на валуне. Адзіная мая праца, прысвечаная Караткевічу, выстаўленая за ягоным жыццём. Зараз вісіць у майстэрні на Сурганава.

Невялічкая работа «Дзе мой край? Пісьменнік», на якой выяўлена толькі галава, рука, асадка і аркушык паперы, партрэт, хоць і маляваўся пры жыцці, але выставіўся пасля смерці Караткевіча. Нават за Ракавам, у пісьменніцкім санаторыі «Іслач» на нейкім чарговым семінары творчай моладзі. Адзін з вядучых сучасных паэтаў сказаў, што Караткевіч не падобны, але дырэктар Літфонду ўступіўся. Было мне трохі няёмка, якраз у ім імкнуўся да дакументальнасці, але ці гэта галоўнае ў прыродзе мастацтва?! Сама ж праца «асела» ў Нямеччыне. Вынік першага нефармальнага прарыву беларускага мастацтва ў Еўропу. Яшчэ быў Заходні Берлін, выстава праходзіла ў Хрысціянскім цэнтры. Наш суайчыннік Ц. перакінуў яе далей, і выстава ўжо не вярнулася на Радзіму. Рэшткі яе бачыў пад Бонам, але з той калекцыі маіх прац, якія не збіраўся прадаваць, У. Тоўсціку ўдалося вырваць толькі мой «Аўтапартрэт».

Апошняя прыжыццёвая сустрэча з Караткевічам адбылася выпадкова, на пачатку лета перад вандроўкай па Прыпяці, пра якую пачуў ад мастака П. Драчова і нават прапаноўваў сваю кандыдатуру, ведаючы пра стан, маючы аксакаўшчынскі досвед.

Караткевіч выйшаў з рэдакцыі аддзела паэзіі «Мастацкай літаратуры» з вялікім скураным партфелем, які паставіў на падлогу. Абняліся. З пакоя вызірнуў Дранько-Майсюк, каб пацікавацць, куды пойдзе Мэтр. Абмяняліся позіркамі, і той знік за дзвярыма. Абдымаў Караткевіч шчыльна, выглядала на тое, што фізічна зноў умацаваўся, дасягнуў ранейшай формы. Размова зайшла пра вандроўку на плыце. З захапленнем казаў пра нейкія гнёзды чапляў, а мне так не хацелася, каб плыў з гэтымі хлопцамі...

Вялікае палатно «Дзе мой край? Грамадзянін» ужо прысвячалася апошняму шляху Генія. Твор сімвалічны. Сваёй волатаўскай гарызанталлю постаць Караткевіча адначасова аддзяляе і злучае сабой папярэднюю літаратурную традыцыю з новай. Зверху на залацістым

фоне класіка: ад Кірылы Тураўскага да Івана Мележа. Знізу на бел-чырвона-белай труне жывыя прадстаўнікі нашай літаратуры, якія маглі і не несці, але ў жыцці стаялі побач,— П. Панчанка, Ф. Янкоўскі, Я. Сіпакоў, Я. Брыль, А. Лойка.

Твор набылі з выставы на Машэрава ў 1988 годзе. Тады ўжо рабіў аўтарскія паўторы прац, якія закупляліся як у нас, так і ў Маскве. Ведаў, зусім не проста выняць іх з музейных запаснікаў на выставы. Музеям аддаваў паўторы, але тут чамусьці пакінуў яго сабе. Зараз арыгінал знаходзіцца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, а другое палатно — у Музеі акадэміі выяўленчага мастацтва ў Ракаве, у арт-галерэі «Янушкевічы». Вісіць якраз над тым месцам, дзе ўбачыў яго жывым. Пра тое не думалася, калі рабілася экспазіцыя, атрымалася выпадкова. Значыць, так трэба. Кола замкнулася. Але тут жа побач знаходзяцца рэчы, якія нясуць на сабе дотык ягоных рук і кніжкі са зробленымі ў той далёкі травеньскі дзень аўтографамі.

*2005*

# Ад укладальніка

Ён прыйшоў у літаратуру ў сярэдзіне XX стагоддзя і зведаў на ўласным лёсе ўсе асаблівасці той гістарычнай эпохі. На пачатку XXI яго заслужана называюць знакавым беларускім мастаком, «улюбёным» пісьменнікам шматлікіх чытачоў зямлі, якая мроілася яму «пад белымі крыламі». Больш за 20 гадоў яго няма з намі. Вырасла маладое пакаленне, для якога Караткевіч ужо — толькі класік, хрэстаматыйны аўтар. Але многія са старэйшых яшчэ могуць сёння згадаць пра незабыўныя сустрэчы з Уладзімірам Сямёнавічам, пра ўплыў яго слова, яго светапогляду на развіццё літаратурнай думкі, увогуле — культурніцкага працэсу ў Беларусі.

Мэта нашага выдання — расказаць чытачу невядомае пра вядомага Уладзіміра Караткевіча. І ў гэтым дапамагаюць яго сябры, сваякі, літаратары, мастакі, кампазітары, артысты, рэжысёры. Тыя, каму сапраўды пашчасціла быць у адным часе з пісьменнікам: працаваць, спрачацца пра творчасць, разам сталець, проста — радавацца жыццю. Усе яны адчулі на сабе харызматычнасць асобы Караткевіча, якога, дарэчы, яго лепшы сябра метафарычна назваў некалі «дзіця з вачыма празарліўца». Адсюль, магчыма, той магнетызм яго творчасці, у палоне якой — не толькі звычайныя чытачы, але і многія, хто спрычыніўся да беларускага мастацтва. Таму ў нашай кнізе — шмат успамінаў-разваг пра ператварэнне спадчыны пісьменніка ў іншых відах мастацтва. Адзіны небасхіл творчасці атуляў Уладзіміра Караткевіча і яго замежных сяброў. Цеплыня і павага, з якой згадваюць яны пра Уладзіміра Сямёнавіча, яшчэ раз пераконваюць у разуменні, што праз гады «...ўсё мінае — Гонар не мінае, бо народжаны адным сумленнем...».

Існуе такі панятак, як «унутраны і вонкавы біяграфізм». Пакаленні, якія прыйшлі і прыйдуць пасля У. Караткевіча, ведаюць і будуць ведаць унутраную біяграфію твораў пісьменніка, дзякуючы чаму здолеюць разгадаць загадку яго генія, яго мастацкай і чалавечай сутнасці і раскажуць пра тое наступнікам.



На жаль, аб'ём выдання не дазволіў уключыць у гэту кнігу ўсе падрыхтаваныя матэрыялы. Выказваю шчырую падзяку ўсім, хто адгукнуўся на прапанову ўкладальніка, і спадзяюся, што магчымасці часу дазволяць іншым разам пабачыць больш поўнае выданне ўспамінаў пра выдатнага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, нашага «незраўнанага знаўцы прыгожага і людскага».

# Звесткі пра аўтараў

АСІПЕНКА Алесь (1919—1994) — пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа.

АЎРАМЧЫК Мікола — паэт, празаік, перакладчык, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы.

БАСАЛЫГА Уладзімір — мастак, старшыня Беларускага саюза мастакоў.

БЕЧЫК Варлен (1939—1985) — крытык, літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа.

БІЧЭЛЬ Данута — паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы.

БРЫЛЬ Янка — народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа, Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа.

БУРАЎКІН Генадзь — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы.

БУТЭВІЧ Анатоль — пісьменнік, перакладчык.

ВАСІЛЕВІЧ Алена — пісьменніца, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

ВАСЮЧЭНКА Пятро — літаратуразнавец, пісьменнік, кандыдат філалагічных навук.

ВЕРАБЕЙ Анатоль — літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, аўтар кнігі «Жывая повязь часоў: Нарыс творчасці Уладзіміра Караткевіча».

ВЕЯНС Андрыс (Рыга) — латышскі паэт, перакладчык, заслужаны дзеяч культуры Латвіі.

ВЯРЦІНСКІ Анатоль — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

ГАРБУК Генадзь — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

ГАТОЎЧЫЦ Ізабела — тэатразнаўца, выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.

ГЛОБУС Адам — пісьменнік, мастак, выдавец.

ДЗЯГІЛЕВА Галіна — актрыса, мастацкі кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра «Зьніч».

ДРАНЬКО-МАЙСЮК Леанід — паэт, празаік, эсэіст.

ДРАЧОЎ Пятро (1937—2005) — мастак.

ЖДАНОВІЧ Валянцін (1939—1992) — фотажурналіст.

ЖАЎНЯРОВІЧ Пятро — даследчык мовы і стылістыкі, загадчык грамадскага музея Уладзіміра Караткевіча ў Мінскім прафесійна-тэхнічным каледжы электронікі.

ЗАБАЛОЦКІ Анатоль (Масква) — кінааператар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі і Расіі.

ЗАЛЁТНЕЎ Алег — кампазітар.

ЗАХАРЭВІЧ Марыя — народная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

ЗУЁНАК Васіль — паэт, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы.

ІВАНЫЧУК Раман (Львоў) — украінскі пісьменнік, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Галаўка.

КАЗАК-ГАЛУБОВІЧ Нэлі — эканаміст.

КАЗЕКА Янка (1915—2000) — крытык, літаратуразнавец, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

КАЛЕСНІК Уладзімір (1922—1994) — літаратуразнавец, пісьменнік, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа.

КАРАМАЗАЎ Віктар — пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя К. Каліноўскага.

КАРТЭС Сяргей — кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

КАШКУРЭВІЧ Арлен — народны мастак Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

КІСЯЛЁЎ Генадзь — гісторык, літаратуразнавец, пісьменнік, археограф, кандыдат гістарычных навук, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа.

КОЎТУН Валянціна — пісьменніца, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова.

КРЫЖАНАВА-БРЫНДЗАВА Гелена (1922— ?) — славацкая дзіцячая пісьменніца, перакладчыца твораў У. Караткевіча.

КУЛЯШОЎ Уладзімір (1941—1999) — народны артыст Беларусі.

КУЧКОЎСКАЯ Надзея — пляменніца У. Караткевіча.

КУЧКОЎСКАЯ Наталля (1922—2003) — сястра У. Караткевіча.

ЛІПСКІ Уладзімір — пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя К. Каліноўскага.

ЛІЎЗЕМНІЕКС Віктар (Рыга) — латышскі паэт.

МАЗЫНСКІ Валерый — рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

МАЛЬДЗІС Адам — літаратуразнавец, пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа, аўтар кнігі «Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча».

МАРХЕЛЬ Таццяна — заслужаная артыстка Беларусі.

НІКІФАРОВІЧ Ванкарэм (Чыкага) — крытык, перакладчык.

НЯДЗЕЛЯ Здзіслаў (Кракаў) (1931—1996) — доктар габілітаваны, прафесар Ягелонскага універсітэта.

НЯЎВАЖНЫ Фларыян (Варшава) — польскі літаратуразнавец, перакладчык, доктар габілітаваны, прафесар Варшаўскага універсітэта.

ПАНІЗЬНІК Сяргей — паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка, старшыня таварыства «Беларусь — Латвія», кавалер ордэна трох Зорак Латвійскай Рэспублікі.

ПТАШУК Міхаіл (1943—2003) — кінарэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

РАГОЙША Вячаслаў — літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Франко.

РУБІНЧЫК Валерый (Масква) — кінарэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

СІМАНОВІЧ Давід — паэт, эсэіст, літаратуразнавец, лаўрэат прэміі імя У. Караткевіча. Арганізатар і кіраўнік Дзён літаратуры, прысвечаных У. Караткевічу, якія прайшлі ў Віцебску 21 раз.

СІНЬКЕВІЧ Васіль — інжынер.

СІПАКОЎ Янка — пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы.

СІТНІЦА Рыгор — мастак, паэт.

СКОРАБАГАТАЎ Віктар — спявак, педагог, музычны дзеяч, заслужаны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, мастацкі кіраўнік «Беларускай капэлы».

СМОЛЬСКІ Дзмітрый — кампазітар, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, народны артыст Беларусі, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

СНЯЖКО Муза (Кіеў) — галоўны бібліятэкар Нацыянальнай парламенцкай бібліятэкі Украіны.

СЯМЁНАВА Ала — крытык, эсэіст, празаік.

ТАМАШУНАС Уладзімір (Вільнюс) — літоўскі пісьменнік.

ХЕЛЕМСКІ Якаў (Масква) — рускі пісьменнік, перакладчык, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа.

ЦВЯТКОЎ Юрый — кінарэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

ЧАРАДНІЧЭНКА Дзмітро (Кіеў) — украінскі паэт, празаік, перакладчык, педагог, мастацтвазнавец. Лаўрэат некалькіх Літаратурных прэмій Украіны.

ЧАРНЯЎСКІ Міхась — археолаг, пісьменнік, кандыдат гістарычных навук.

ШАБЛІНСКАЯ Галіна — журналіст, сябра Беларускага саюза журналістаў.

ШЧАДРЫНА Валянціна (Масква) — перакладчыца, заслужаны работнік культуры Беларусі.

ЯГОЎДЗІК Уладзімір — пісьменнік.

ЯНУШКЕВІЧ Фелікс — мастак.

ЯНУШКЕВІЧ Язэп — літаратуразнавец, даследчык-архівіст, археограф, кандыдат філалагічных навук.

# Змест

Быў. Ёсць. Буду... 5

**«У ВЕКАВЕЧНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ КЛЁНЫ...»**

*Анатоль Верабей.* Радавод Уладзіміра Караткевіча 6
*Наталля Кучкоўская, Галіна Шаблінская.* Юдоль святла 18
*Ізабела Гатоўчыц.* Спакоранасць перад талентам 69
*Нэлі Казак-Галубовіч.* Вальс дзяцінства 77
*Надзея Кучкоўская.* Мой Дзядзька-Дзядзечка 79
*Васіль Сіњкевіч.* Урокі сумленнасці 101

**НА СКРЫЖАЛЯХ ЛЁСУ І ГІСТОРЫІ**

*Алесь Асіпенка.* Святло блізкай зоркі 106
*Мікола Аўрамчык.* Беларускі рамантык 114
*Данута Бічэль.* Як Уладзімір Караткевіч прызямліўся ў Гародні вясной 1965 года 124
*Янка Брыль.* Наш Караткевіч 128
Зноў ды зноў... 139
*Генадзь Бураўкін.* На беразе Дняпра 144
*Алена Васілевіч.* Позні званок 148
*Анатоль Вярцінскі.* Дзеля Маці-Радзімы 152
*Валянцін Ждановіч.* Белы човен 154
*Васіль Зуёнак.* Крылы над роднай зямлёй 182
*Янка Казека.* Як гэта было 194
*Уладзімір Калеснік.* Братанне з Караткевічам 198
*Віктар Карамазаў.* Свята і пір жыцця 214
*Генадзь Кісялёў.* Ён дарыў сяброўства... 218
*Валянціна Коўтун.* Пяць сустрэч з вечнасцю 245
*Уладзімір Лінскі.* Планета Караткевіча 248

*Ванкарэм Нікіфаровіч.* «Я імгненне жыву, і памру на імгненне...» ..... 252
*Вячаслаў Рагойша.* «Дыплём» Уладзіміра Караткевіча ..... 256
*Давід Сімановіч.* Ліст з маладосці ..... 259
*Янка Сіпакоў.* Між Дняпром і крыкам жураўліным ..... 270
*Ала Сямёнава.* Рыцар сонечнай стыхіі ..... 279
*Міхась Чарняўскі.* Глыток свежага паветра ..... 287

## СУВОЙ ЖЫЦЦЯ

*Варлен Бечык.* Плынь разняволеных пачуццяў ..... 298
*Анатоль Бутэвіч.* Мой Караткевіч ..... 299
*Пятро Васючэнка.* Апраметная і рай Уладзіміра Караткевіча ..... 304
*Адам Глобус.* Дзядзька Валодзя ..... 311
*Леанід Дранько-Майсюк.* Прапіска ў Караткевіча ..... 314
*Пятро Жаўняровіч.* Храм душы і зямлі ..... 316
*Уладзімір Ягоўдзік.* Вечар з Караткевічам ..... 321
*Язэп Янушкевіч.* Ніяк ..... 326

## АДЗІНЫ НЕБАСХІЛ

*Андрыс Веянс.* Ля Даўгавы ..... 329
*Раман Іванычук.* Мой рэквіем ..... 330
*Гелена Крыжанава-Брындзава.* Наш дарагі сябра ..... 333
*Віктар Ліўземніекс.* Незабыўная дарога ў Ясмуйжа ..... 336
*Адам Мальдзіс.* Замежныя вандроўкі ..... 339
*Здзіслаў Нядзеля.* Сентыментальныя падарожжы ў Мінск ..... 349
*Сяргей Панізьнік.* Гуклівы і чуйны ..... 352
*Муза Сняжко, Фларыян Няўважны.* «Подых юні ўходзячай маёй...» ..... 368
*Уладзімір Тамашунас.* Усмешлівасць і незалежнасць ..... 420
*Якаў Хелемскі.* Запомнім і гэта ..... 423
*Дзмітро Чараднічэнка.* Сустрэчы ў Млынаградзе. ..... 424
*Валянціна Шчадрына.* Як у Маскве выйшлі «Каласы пад сярпом тваім» ..... 426

## У ПАЛОНЕ МУЗЫ ПАЭТА

*Уладзімір Басалыга.* Гаварыў душою ..... 431
*Артур Вольскі.* «Чортаў скарб» ..... 436
*Генадзь Гарбук.* «Мы самі лепей ведаем...» ..... 438
*Пятро Драчоў.* Засталася настальгічная тэма... ..... 441
*Галіна Дзягілева.* «Дзе мой край?..» ..... 447
*Анатоль Забалоцкі.* Ажываюць светласць і надзея... ..... 449
*Алег Залётнеў.* Яго творы — музычныя... ..... 455
*Марыя Захарэвіч.* «Будзе ў маім сэрцы...» ..... 457
*Сяргей Картэс.* Натхняла яго фантазія ..... 459

*Арлен Кашкурэвіч.* Я ўбачыў іншую Беларусь... 461
*Уладзімір Куляшоў.* Чалавек са святлом 468
*Валерый Мазынскі.* «Я табе напісаў "Барыса Гадунова"...» 471
*Таццяна Мархель.* «Пусціце зоры ў мой пакой...» 477
*Міхаіл Пташук.* Чалавек вялікага смутку 479
*Валерый Рубінчык.* Геній — ён і ёсць геній 481
*Віктар Скорабагатаў.* Андрэй Беларэцкі ды іншыя... 489
*Дзмітрый Смольскі.* Месяц з аўтарам «Сівой легенды» 494
*Рыгор Сітніца.* Вернісаж 496
*Юрый Цвяткоў.* Праз гісторыю — да сучаснасці 498
*Фелікс Янушкевіч.* «Ars longa» 503

Ад укладальніка 512

Звесткі пра аўтараў 513

**Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!** : успаміны, інтэрв'ю, эсэ /
У47 уклад. Г. Шаблінскай.— Мн. : Маст. літ., 2005. — 518 с. : іл.
(Жыццё знакамітых людзей Беларусі.)

ISBN 985-02-0778-6.

У кнізе сабраны матэрыялы, якія ствараюць жывы вобраз выдатнага пісьменніка XX стагоддзя Уладзіміра Караткевіча. Праз успаміны сяброў, сваякоў, літаратараў, гісторыкаў, артыстаў, жывапісцаў, рэжысёраў, кампазітараў паўстае постаць Мастака ва ўсёй яе філасофскай велічы і чалавечай прыгажосці. Абаяльны, дасціпны, глыбокі эрудыт і таленавіты творца — ён застанецца ў гісторыі беларускай культуры прыкладам самаадданага служэння Бацькаўшчыне.

**УДК 821.161.3.09+929 Караткевіч**
**ББК 83.3(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

Жыццё знакамітых людзей Беларусі

**Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!**

***Успаміны, інтэрв'ю, эсэ***

**Укладальнік ШАБЛІНСКАЯ Галіна Васільеўна**

У кнізе выкарыстаны фота з сямейнага архіва пісьменніка, а таксама фота Р. Гормана, П. Драчова, В. Ждановіча, П. Жаўняровіча, У. Калесніка, У. Крука, С. Панізьніка і інш.

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *А. В. Яўмененка*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *Л. І. Астрэйка*
Стылістычныя рэдактары *Я. А. Бебель, Л. Г. Ганчарэнка, Д. Р. Лосік, А. М. Анцытовіч, Л. А. Дзядзюля*

Падпісана да друку 07.10.05. Фармат 70×100$^{1}/_{16}$ . Папера мелаваная. Гарнітура Гарамон. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 42.25. Улік.-выд. арк. 32,5. Тыраж 2000 экз. Заказ 2575.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0056778 ад 17.02.2004. 220600, Мінск, праспект Пераможцаў, 11.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа». 220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.